УДК 902(476) «637»
ББК63.4(4Беи)
А 87



Навуковыя рэдактары тома:
М. М. Чарняўскі, А. Г. Калечыц

Рэцэнзенты:
кандыдаты гістарычных навук Я. Г. Звяруга, А. К. Краўцэвіч

Аўтары:
Э. М. ЗАЙКОЎСКІ, У. Ф. ІСАЕНКА, А. Г. КАЛЕЧЫЦ, В. Ф. КАПЫЦІН,
М. М. КРЫВАЛЬЦЭВІЧ, У. П. КСЯНДЗОЎ, В. Я. КУДРАШОЎ, М. М. ЧАРНЯЎСКІ

А87 Археалогія Беларусі: У 4 т. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі / Э. М. Зайкоўскі, У. Ф. Ісаенка, А. Г. Калечыц і інш.; Пад рэд. М. М. Чарняўскага, А. Г. Калечыц. — Мн.: «Беларуская навука», 1997. — 424 с: іл.
ISBN 985-08-0088-7.

На вялікім археалагічным матэрыяле ўпершыню дадзена поўная характарыстыка развіцця культур першабытнага грамадства Беларусі ў каменным і бронзавым вяках на працягу амаль 13 тысячагоддзяў. Паказаны асаблівасці і характар першапачатковага засялення Беларусі ў ледавіковую і пасляледавіковую эпоху, разнастайныя археалагічныя культуры, складаныя этнакультурныя працэсы, звязаныя пераважна з прасочваннем сюды цэнтральнаеўрапейскага насельніцтва. Гісторыя першабытных плямёнаў у басейнах Дняпра, Прыпяці, Нёмана і Дзвіны падаецца на шырокім агульнаеўрапейскім фоне, што дазваляе прасачыць вытокі культур старажытных славян і балтаў.

Прызначаецца для навукоўцаў, выкладчыкаў і навучэнцаў, краязнаўцаў, усіх тых, хто цікавіцца мінулым нашай Бацькаўшчыны.

ББК 63.4(4Беи)

ISBN 985-08-0088-7

# УСТУП

У пачатку 70-х гадоў археолагі Інстытута гісторыі АН БССР выдалі «Очерки по археологии Белоруссии» ў двух частках. Першая з іх прысвечана гісторыі насельніцтва на тэрыторыі нашай краіны ад з'яўлення першых людзей (100—40 тыс. гадоў таму назад) да пачатку засялення Беларусі славянамі і станаўлення класавага грамадства (VI—VIII стст. н. э), другая — праблематыцы развіцця раннефеадальных адносін і ўзнікнення дзяржаўнасці на землях Беларусі (IX—XIII стст.). Гэта была першая спроба навуковага асэнсавання і абагульнення вынікаў археалагічнага даследавання тэрыторыі Беларусі на працягу 150 гадоў — ад першай чвэрці XIX да 60-х гадоў XX ст. Аўтарскі калектыў «Очерков...» усведамляў недастатковы, у многім фрагментарны ўзровень археалагічнай вывучанасці Беларусі, асабліва эпохі першабытнага грамадства. Таму для першай абагульняльнай працы была выбрана кніга ў форме нарысаў.

За мінулую чвэрць стагоддзя кадры археолагаў у Беларусі, найперш у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ), параўнальна з папярэднім перыядам выраслі і ў колькасных, і ў якасных адносінах. Назапашаны імі рэчавы матэрыял па аб'ёму і навуковай значнасці ў дзесяткі разоў пераўзыходзіць узровень канца 60-х гадоў. Дастаткова сказаць, што колькасць вядомых стаянак людзей эпохі каменнага і бронзавага вякоў павялічылася за гэты час з 500 да 1500. Калі раней раскопвалася стацыянарна каля паўтара дзесятка помнікаў, то зараз такім чынам даследавана больш за 100 паселішчаў і могільнікаў той жа эпохі. Пра значныя якасныя зрухі ў асэнсаванні здабытых крыніц, у верагоднасці навуковых рэканструкцый, іх абгрунтаванасці сведчаць публікацыі вынікаў даследаванняў: колькасць манаграфій толькі па эпосе каменя і бронзы за апошнія 25 гадоў павялічылася з 3 да 12. У творчым актыве археолагаў Беларусі — многія сотні артыкулаў у навуковых часопісах і зборніках, у 12 тамах Беларускай савецкай энцыклапедыі, у 8 тамах Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, у спецыяльнай энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (Мн., 1993) і іншых выданнях. Аўтарам «Очерков...» па ўсёй першабытнай эпосе было вядома ў Беларусі менш за 10 археалагічных культур. На сённяшні дзень установлена каля трох дзесяткаў культур, варыянтаў культур і асобных тыпаў помнікаў, якія характарызуюць развіццё першабытнага чалавека Беларусі. Адпаведныя дасягненні маюцца і ў вывучэнні помнікаў жалезнага веку (VIII ст. да н. э. — VIII ст. н. э.) і пачатковага перыяду станаўлення феадальнага ладу.

У апошнюю чвэрць стагоддзя археолагі Беларусі прыкметна ўзмацнілі творчыя кантакты са сваімі калегамі з суседніх і больш далёкіх краін,

найперш Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы. Гэтыя кантакты садзейнічалі ўзаемаазнаямленню з вынікамі даследаванняў, пашырэнню параўнальнага вывучэння пэўных перыядаў археалагічных культур, арэалаў іх распаўсюджання, агульнага і асаблівага ў асобных рэгіёнах і г. д. Археолагі Беларусі абапіраліся на працы сваіх калег, прысвечаных вырашэнню многіх агульных праблем, і на шэраг даследаванняў, праведзеных імі непасрэдна на нашай тэрыторыі.

У 70 — першай палове 90-х гадоў археолагі Беларусі паступова асвойвалі новыя метады вывучэння матэрыяльнай культуры розных эпох, запазычаныя ў дакладных і прыродазнаўчых навуках (радыевугляродны аналіз, хімічны і спектральны аналіз металу, дэндрахраналагічнае датаванне і інш.). Выкарыстоўваліся і вынікі даследаванняў у такіх спецыяльных навуках, як астэалогія, палеагеаграфія, палеабатаніка і палеазаалогія, гідраніміка і тапаніміка, антрапалогія. Гэта дазволіла істотна ўдакладніць высновы і гіпотэзы, якія вынікалі з аналізу археалагічных матэрыялаў, устанавіць іх датаванне, этнічную прыналежнасць і г. д.

Такім чынам, наспела патрэбнасць падрыхтоўкі новай абагульняючай працы па археалогіі Беларусі. У апошнія гады яна выканана ў археалагічных аддзелах Інстытута гісторыі НАНБ у чатырох тамах. Зараз увазе чытачоў прапануецца першы том «Археалогіі Беларусі», у якім асвятляюцца праблемы найбольш старажытнай эпохі ў гісторыі насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ад пачатку яе засялення 100—40 тыс. гадоў таму назад да пачатку жалезнага веку (VIII ст. да н. э.). У бліжэйшы час плануецца выданне другога і трэцяга тамоў, якія прысвечаны адпаведна жалезнаму веку (VIII ст. да н. э. — VIII ст. н. э.) і пачатковаму перыяду складвання класавага, раннефеадальнага грамадства і дзяржаў-княстваў на землях Беларусі (IX—XIII стст.). Серыя завершыцца выданнем чацвёртага тома «Археалогіі Беларусі», у якім разглядаюцца помнікі матэрыяльнай культуры нашай краіны XIV—XVIII стст.

У першым томе прадстаўлены асноўныя вынікі даследаванняў развіцця першабытнага насельніцтва на тэрыторыі нашай краіны ў эпохі палеаліту, мезаліту, неаліту і бронзавага веку, якое праяўлялася ў паслядоўнай змене археалагічных культур і іх варыянтаў. Агульная колькасць культур (разам з варыянтамі і асобнымі тыпамі помнікаў), якія асвятляюцца ў кнізе, дасягае трох дзесяткаў. Гэта дазволіла больш поўна, markdownрознабакова і дакладна, чым раней, паказаць гістарычны шлях першабытных людзей у Беларусі на працягу многіх тысячагоддзяў. Аднак па асобных культурах і рэгіёнах узровень даследаванасці вельмі розны, што і адбілася на адпаведных тэкстах. Недастаткова высветленымі застаюцца многія пытанні, звязаныя з паходжаннем і гістарычным лёсам пэўных культур, іх этнічнай прыналежнасцю. Тое ж трэба сказаць адносна праблемы першапачатковага засялення Заходняга Палесся, заключнага этапу бронзавага веку і некаторых іншых праблем.

У другім томе «Археалогіі Беларусі» абагульнены асноўныя дасягненні ў вывучэнні эпохі жалезнага веку і ранняга сярэднявечча. Адкрыццё і ўсё больш шырокае выкарыстанне жалеза зрабілі сапраўдны тэхнічны пераварот і надзвычайна паскорылі развіцце чалавецтва. У кнізе ахарактарызаваны тапаграфія, катэгорыі помнікаў матэрыяльнай культуры і гаспадаркі плямёнаў мілаградскай, паморскай, зарубінецкай культур, культуры штрыхаванай керамікі, днепрадзвінскай, кіеўскай, вельбарскай, калочынскай, банцараўскай культур, а таксама культур доўгіх і ранніх ўсходнелітоўскіх курганоў,

паказаны іх паходжанне, храналогія, сувязі з іншымі культурамі, лакальныя варыянты і гістарычны лес, зроблены больш-менш аргументаваныя спробы вызначэння этнічнай прыналежнасці кожнай культуры. Адзінства думак па апошняй праблеме няма. Адносна культур штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай, пашыраных у цэнтральнай і паўночнай частках Беларусі, большасць даследчыкаў лічаць, што яны належані балтам — продкам сучасных літоўцаў і латышоў. Помнікі кіеўскай і пражскай культур вызначаюцца як славянскія.

У трэцім томе «Археалогіі Беларусі» падведзены вынікі даследаванняў па перыяду зараджэння феадальных адносін і станаўлення дзяржаўнасці на землях Беларусі ў IX—XIII стст. На мяжы IX—X стст. у цэнтральнай і паўночнай частцы (за выключэннем паўночна-заходніх раёнаў) завяршылася славянізацыя мясцовага балцкага насельніцтва і ўтварэнне на гэтай аснове прабеларускіх племянных аб'яднанняў полацкіх крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Для крывічоў-палачан характэрна культура доўгіх курганоў у Паўночнай Беларусі, у якой прысутнічае шмат этнаграфічных элементаў усходніх балтаў. Адносна дрыгавічоў устаноўлена, што іх папярэднікамі ў раннім сярэднявеччы (VI—VIII стст.) былі славянскія плямёны пражскай, а таксама плямены банцараўскай культуры, этнічная прыналежнасць якой спрэчная (славяне ці балты). Археалагічныя даследаванні ў сукупнасці з іншымі дазволілі вызначыць змешаны этнічны склад насельніцтва ў міжрэччы Нёмана і Буга (дрыгавічы, валыняне, яцвягі). На балцкім субстраце сфарміраваліся ў Пасожжы і радзімічы. На аснове племянных аб'яднанняў полацкіх крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў адбывалася фарміраванне беларускай народнасці. Галоўным заняткам насельніцтва Беларусі ў той час было ворнае земляробства. Важнае значэнне мела тут жывёлагадоўля. Развіваліся рамяство і гандаль, што з'явілася асновай для ўзнікнення на землях Беларусі ў IX—XIII стст. каля 35 гарадоў з адносна багатай матэрыяльнай культурай.

Галоўная каштоўнасць гэтых кніг бачыцца, найперш, ва ўвядзенні ў навуковы ўжытак багатых збораў новых археалагічных крыніц, здабытых даследчыкамі на працягу апошняй чвэрці стагоддзя. Яны могуць у далейшым стаць асновай для напісання кніг па гісторыі першабытнага грамадства ў Беларусі, этнагенезу беларусаў, гісторыі Беларусі ранняга і высокага сярэднявечча.

Выданне стане пэўным падсумаваннем амаль двухсотгадовага перыяду вывучэння старажытнасцей краіны. У ім плён працы і сучасных даследчыкаў, і ўчарашніх, і першых піянераў айчыннай археалогіі. Гэта даследаванне — чарговая ступенька па шляху пазнання таямніц нашай далёкай мінуўшчыны.

*Рэдакцыйная калегія*

## 1. ГІСТОРЫЯ ВЫВУЧЭННЯ КАМЕННАГА І БРОНЗАВАГА ВЯКОЎ БЕЛАРУСІ

Ідэі Рэнесанса (Адраджэння) у XVI ст. дасягнулі Беларусі. Цікавасць да мінулага сваёй Бацькаўшчыны, культурнага здабытку яе насельніцтва прыкметна ўзрасла. Развіццё гістарычнага краязнаўства адлюстроўвалася ў зборы гістарычных дакументаў, напісанні летапісаў, хронік, мемуараў і гістарычных публікацый. Вучоныя звярнулі ўвагу на тыя старажытныя рэчы, што трапляліся ў некаторых мясцінах Беларусі, параўноўвалі іх з бачаным у іншых краінах (Каханоўскі, 1984; Алексеев, 1996).

Свядома пачалі калекцыяніраваць рэчы матэрыяльнай культуры вядомыя магнаты і заможныя людзі. Пачатак быў пакладзены Радзівіламі ў сярэдзіне XVI ст. У іх калекцыі трапілі каменныя сякеры з наваколля Нясвіжа і іншых мясцін.

Адначасова зборам старажытнасцей займаліся Сапегі, Тызенгаўзы, Храптовічы. Адна з першых археалагічных калекцый апынулася ў І. Храптовіча пры бібліятэцы ў Шчорсах. У Падзвінні іх збіралі М. Борх, Ф. Крузе, А. Плятар (Краслава), у наваколлі Гомеля — граф М. П. Румянцаў, каля Гродна — А. Глябовіч.

Помнікі старажытнасці як гістарычныя крыніцы выкарыстоўваў З. Даленга-Хадакоўскі (1784—1825), якога можна разглядаць як першага навукоўца ў галінє археалогіі на Беларусі. Геніяльная здагадка Лукрэцыя аб каменным, бронзавым і жалезным вяках у гісторыі чалавецтва трывала ўвайшла ў навуку ў сярэдзіне XIX ст. пасля абгрунтавання, якое зрабілі дацкія навукоўцы К. Томсен і Я. Ворса. У сваю чаргу эпоха каменя была пераканаўча падзелена на некалькі перыядаў французскім археолагам Г. дэ Мартыльє. Даследчыкі беларускіх старажытнасцей хутка ўзялі на ўзбранне перадавую тэорыю. Я. Тышкевіч і яго брат і паплечнік К. Тышкевіч не толькі збіралі археалагічныя калекцыі. Першы даў дэталёвае апісанне каменных сякер, кліноў, булаў, матык. Разам яны стварылі музей у Лагойску, а потым у Вільні па самай перадавой методыцы, па ўзору Капенгагенскага.

К. Тышкевіч пацвердзіў раскопкамі, што каменныя сякеры сапраўды былі прыладамі працы ў эпоху каменя, а ў наступныя часы ператварыліся ў рытуальны прадмет курганных пахаванняў. Гэтую выснову пацвердзіў А. Кіркор. У 1872 г. І. Крашэўскі выказаў празарлівую думку, што паміж адзначанымі трыма эпохамі няма выразнай храналагічнай мяжы. Нейкі час захоўваліся пераходныя стадыі ад адной культуры да другой. ЁН паспрабаваў па старажытных прыладах працы з медзі і ўпрыгожаннях з бронзы, наяўнасці «абраду няспаленага цела» вылучыць бронзавы век. Першым з даследчыкаў Беларусі І. Крашэўскі ўдзельнічаў у міжнародных археалагічных кангрэсах.

У паслярэформенны перыяд (другая палова XIX ст.) цікавасць грамадскасці да мінулага пашырылася. Шэраг памешчыкаў пачалі раскапваць курганы (сярод іх траплялася і помнікі бронзавага веку) і калекцыяніраваць, выстаўляць для агляду сабраныя старажытныя рэчы. У 1867 г. А. Д. Азерскі (Язерскі) даставіў на выстаўку ў Парыж вялікую калекцыю (1000 экспанатаў) каменных сякер з Магілеўшчыны. Да паслуг навукоўцаў былі калекцыі А. Плятара (400 экспанатаў з Падзвіння), М. П. Авенарыуса (125 экспанатаў з басейна Друці), Ф. Вільчынскага (600 экспанатаў), З. Глогера (300 экспанатаў, частка з басейна Нёмана), М. Ф. Кусцінскага (92 экспанаты з Лепельшчыны), Я. Тышкевіча (445 экспанатаў з Міншчыны). Некаторыя з іх трапілі на старонкі «Археалогіі Расіі» А. С. Уварава (1881) і шэрагу польскіх выданняў. На Віцебшчыне калекцыяніраваннем займаліся вядомыя краязнаўцы А. М. Семянтоўскі-Курыла, В. П. Федаровіч і яго сын. Да канца XIX ст. амаль уся тэрыторыя Беларусі была ахоплена пошукамі аматараў.

Наспеў час картаграфавання знаходак, якія патрабавалі папярэдняй класіфікацыі. Пры падрыхтоўцы да IX археалагічнага з'езда ў Вільні Ф. В. Пакроўскі склаў археалагічныя карты Віленскай і Гродзенскай губерняў (Покровский, 1893, 1895), а потым басейна Віліі. Пазней вядомы даследчык Е. Р. Раманаў распрацаваў археалагічную карту Магілёўскай губерні (ім былі,

відаць, выкарыстаны прыватныя карты М. Ф. Фурсава і С. Ю. Чалоўскага, С. Цэрхе). Матэрыялы, сабраныя А. М. Семянтоўскім у 1867—1890 гг. і А. П. Сапуновым, В. Шукевічам (раён Начы, Радуні, Падзвінне), фактычна дазвалялі стварыць падобную карту для Віцебскай губерні. Іх абагульніў Е. Р. Раманаў, але да публікацыі справа не дайшла. Карты асобных раёнаў былі выкананы Ф. Вярэнькам (Барысаўшчына), Р. Гарашкевічам (Піншчына), Ю. Ядкоўскім (Гродзеншчына), М. Ф. Беляшэўскім (басейн Буга). Анкету (апытальны ліст) Г. Х. Татура распаўсюджвалі з 1882 г.

Да канца XIX ст. наспела праблема: дзе і як жылі тыя, хто вырабляў шматлікія каменныя прылады, вядомыя ўжо больш чым у 3 тыс. экземпляраў, дзе і як яны выраблялiся, для якіх культур характэрныя. Зразумела, без далейшых пошукавых работ пачынаць падобную палеміку было немагчыма. Першыя паселішчы выявілі Я. Завіша (Валеўка, 1871), М. Ф. Беляшэўскі (Валатава, Раманавічы,1891), З. Глогер (Гожа, 1880), В. Е. Данілевіч (Кісцяні, Мадора, 1893). Асабліва паспяховымі былі пошукі М. Ф. Беляшэўскага ў даліне Заходняга Буга ў 1899 г. (Б е л яш е в с к и й, 1901) і Р. Якімовіча ў нізоўях Прыпяці. Старажытныя паселішчы на Нёмане і Шчары выявіў М. Федароўскі (1853—1923). Сярод іх былі помнікі эпохі бронзы і неалітычныя — «крамяневыя» стаянкі. Ён наладзіў супрацоўніцтва з вядомым польскім даследчыкам З. Глогерам, якому ў 1877—1892 гг. пераслаў да 11 тыс. знаходак. Е. Р. Раманаў выявіў стаянкі ля в. Новы Быхаў (хутар Анелін), Праскурні і помнікі недалёка ад Віцебска, Добруша і Магілёва. Аднак з-за наяўнасці на іх ababiтых крамянёвых прыяад ён аднесіў іх да палеаліту і, як высветлілася потым, памылкова (Р а м а н а ў, 1903, 1910). Пабываў даследчык і каля возера Спораўскае, дзе знайшоў вялікую стаянку Горбаў (Р о м а н о в, 1911).

Працы на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя ў канцы XIX — пачатку XX ст. звязаны з дзейнасцю Е. Р. Раманава (1903, 1910, 1912), М. Ф. Беляшэўскага (1891), А. Ланачэўскага (1885), У. Я. Данілевіча (1895), В. П. Сямёнава (1905), А. А. Спіцына (1899), А. П. Сапунова і інш. Спробы асэнсавання назапашаных матэрыялаў былі зроблены толькі ў працах Е. Р. Раманава (Р о м а н о в, 1908. С. 146) і А. А. Спіцына. Асабліва цікавая думка А. Р. Раманава пра тое, што «з'яўленне чалавека на тэрыторыі нашага Паўночна-Заходняга краю павінна быць аднесена да вельмі аддаленай эпохі...»

Дарэвалюцыйныя даследаванні былі перарваны першай сусветнай вайной, але падмурак для далейшых работ быў закладзены: набыты вопыт, вызначаны кірункі будучай работы, пачаты раскопкі паселішчаў.

Тэрыторыя Беларусі магла лічыцца перспектыўнай для даследавання «дагістарычных» помнікаў, як іх называлі навукоўцы, што пачыналі гісторыю з эпохі гарадской цывілізацыі. Доследы, што разгарнуліся ў 20-я гады, пацвердзілі гэтую выснову. Археалогія ператварылася ў арганічную частку гістарычнай навукі (В я р г е й, 1992).

Гэта адпавядала ўздыму нацыянальнай свядомасці, які наглядаўся пасля распаду былых еўрапейскіх імперый. Зразумела, што і беларускі народ, які выйшаў на гістарычную арэну, быў кроўна зацікаўлены ў вывучэнні гістарычнага мінулага, вытокаў сваёй матэрыяльнай і духоўнай культуры. Значна пашырыліся рады краязнаўцаў і археолагаў (як аматараў, так і прафесіяналаў), ствараліся новыя падручнікі па гісторыі, навуковыя арганізацыі, музеі.

Прыкметная актыўнасць археалагічных даследаванняў на Беларусі ў 20—30-я гады XX ст. звязана са стварэннем навуковых устаноў у рэспубліцы

і іх практычнай дзейнасцю па рэалізацыі прадуманых даследніцкіх праграм. У першую чаргу задачай тых гадоў стала суцэльнае абследаванне тэрыторыі рэспублікі, планамерныя раскопкі, назапашванне і сістэматызацыя крыніц.

Пасля стварэння Інстытута беларускай культуры (1922) разгарнулі работу гісторыка-археалагічная секцыя (1923) і гісторыка-археалагічная камісія (1925), якую ўзначаліў М. В. Доўнар-Запольскі. Першабытныя помнікі пачалі выяўляць і даследаваць А. М. Ляўданскі, К. М. Палікарповіч, А. Д. Каваленя, І. А. Сербаў, С. С. Шутаў і інш. Інстытут быў рэарганізаваны ў Беларускую Акадэмію навук (1929), пры гэтым катэдру археалогіі перайменавалі ў археалагічную камісію. У 1930 г. быў арганізаваны Інстытут гісторыі, а ў ім секцыя (потым сектар) археалогіі. Даследчыкі шырока выкарыстоўвалі звесткі аб старажытных помніках, якія паступалі з краязнаўчых арганізацый і музеяў, мэтанакіравана правялі да 50 экспедыцый.

Асабліва інтэнсіўныя даследаванні з 1924 г. разгарнуліся ў Пасожжы. Яны звязаны ў першую чаргу з імем К. М. Палікарповіча (1889—1963), які вёў суцэльнае абследаванне берагоў Сажа на ўсім яго працягу і нанёс на археалагічную карту звыш 250 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў. Разведкі на ўчастках далін Дняпра, Іпуці, Беседзі, Бярэзіны, Друці ажыццяўлялі А. М. Ляўданскі, А. Д. Каваленя, А. В. Кротаў, С. Х. Бабарыкін, С. С. Шутаў, В. Р. Тарасенка, І. Х. Юшчанка, І. Р. Калодкін, С. Ф. Бузанаў, К. І. Кернажыцкі, Д. М. Васілеўскі, М. М. Канвісараў, М. М. Улашчык, С. А. Дубінскі, І. А. Сербаў і інш. Ажыццяўлялі невялікія па плошчы (да 20 м ) раскопкі шэрагу паселішчаў у басейне Прыпяці і на Свіслачы В. П. Тарановіч, С. С. Шутаў, У. М. Падбярэзскі, Б. І. Федарака, І. Х. Юшчанка, М. М. Улашчык, А. Рынейскі, А. Д. Каваленя і К. М. Палікарповіч (наваколле в. Юравічы Калінкавіцкага раёна).

Важным укладам у археалагічную навуку краіны ў міжваенны час з'явілася адкрыццё на тэрыторыі Беларускага Падняпроўя палеалітычных стаянак каля в. Падлужжа (Бердыжская стаянка) Чачэрскага раёна, у в. Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці і мусцьерскага месцазнаходжання (100—40 тыс. гадоў назад) ва ўрочышчы Каменная Гара каля пасёлка Свяцілавічы. Пры пошуках падобных помнікаў упершыню ў Беларусі быў выкарыстаны метад картаграфавання і абследавання месцазнаходжанняў выкапнёвых жывёл (Палікарповіч, 1932в). Вынікам шматгадовых прац на палеалітычных стаянках Беларускага Падняпроўя і Падзясення ўжо ў пасляваенныя гады стала пасмертная праца К. М. Палікарповіча «Палеолит Верхнего Поднепровья» (1968) — першае манаграфічнае даследаванне праблемы ў беларускай археалогіі.

У даваенны перыяд былі адкрыты мезалітычныя стаянкі ва ўрочышчах Латкі, Грэнск, Стаўбун на тэрыторыі Гомельскай вобласці, Печанеж, Журавель у Магілёўскай вобласці. Раскопвалася на невялікай плошчы (12 $м^2$) толькі стаянка Журавель (Палікарповіч, 1930а). Аўтарам зроблена першая спроба абагульнення і храналагічнага падзелу матэрыялаў эпохі мезаліту на стаянцы (Палікарповіч, 1932а).

Назапашаныя матэрыялы ўтрымлівалі і неалітычныя рэшткі. Іх аналіз навёў даследчыкаў на думку аб разначасовасці неалітычных паселішчаў. К. М. Палікарповіч (1928) выдзеліў у Пасожжы групу ранніх і позніх помнікаў. Высновы грунтаваліся галоўным чынам на пад'ёмным матэрыяле. На невялікай плошчы раскопваліся толькі паселішчы ў Гомельскай вобласці каля вёсак Сябровічы (Ліпаў Брод), Бердыж (Какоўня), Залессе (Гарадок) Чачэр-

скага раёна, Рудня Шлягіна (Чачуроўка, Стрэліца), Прысна (Вузенькія) Веткаўскага раёна.

Першы буйны помнік неалітычнай і бронзавай эпохі з захаванымі касцянымі і драўлянымі вырабамі быў выяўлены ў 1934 г У. С. Дактуроўскім на тарфяніку Крывіна ў Сенненскім раёне. Раскопкі на ім пачаў К. М. Палікарповіч (1935, 1939).

Польскія даследчыкі і супрацоўнікі мясцовых музеяў разгарнулі пошукавыя работы ў Заходняй Беларусі (увайшла ў склад Рэчы Паспалітай у 1921 г.). Яны даследавалі прыбярэжныя ўчасткі некаторых вадаёмаў.

Паселішчы і асобныя знаходкі каменных прылад на Піншчыне сталі вядомымі ў выніку работ, якія правёў Р. Гарашкевіч (1924—1927). На правабярэжжы Заходняга Бугу і ля р. Лясной З. Шміт расшукаў 5 стаянак яшчэ данеалітычных часоў. Выключнае значэнне набыло адкрыццё і першапачатковае вывучэнне шахтаў (З. Шміт) па здабычы крэменю на берагах р. Рось каля пасёлка Краснасельскі Ваўкавыскага раёна. Не менш выніковай была праца археолагаў у наступным дзесяцігоддзі. Да 10 помнікаў выявілі К. Пшамыскі, Р. Якімовіч, па некалькі - І. Абухоўскі, Л. Савіцкі, І. Стаброўскі, А. Цынкалоўскі, В. Ягадзянка ў Заходнім Палессі. Першыя раскопкі на неалітычным паселішчы каля Хомска на Ясельдзе ажыццявіў настаўнік Г. Гааке ў 1936 г. У. Галубовіч апублікаваў звесткі пра неалітычную кераміку з-пад Любчы ў Панямонні (1938). Працягваў пошук Ю. Ядкоўскі. Сабраныя ім матэрыялы разам з атрыманымі падчас уласных работ выкарыстаў У. Антаневіч, каб стварыць схему развіцця мясцовай крамянёвай індустрыі (1934). У 1940 г. на р. Стыр пабываў К.М. Палікарповіч.

Пачынаючы з 1931 г. археалагічныя даследаванні ва Ўсходняй Беларусі пачалі згортвацца. Рэпрэсіі 1930—1938 гг. амаль перарвалі вывучэнне першабытнай эпохі. З былога зладжанага калектыву засталося два-тры супрацоўнікі, сярод якіх і К. М. Палікарповіч. Гады вайны і аднаўлення таксама не садзейнічалі гэтаму.

У 1950—1960-я гады ў даследаваннях першабытных помнікаў намеціўся, а потым і адбыўся пералом. Шырокія разведкі разгарнуліся на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Сістэматычныя раскопкі ажыццяўляліся ў Падняпроўі, эпізадычныя — у басейнах іншых рэк. Да іх спачатку прыступілі П. А. Прыбыткін (1959—1960) і Я. Г. Краскоўская (Галанава) на Крывіне. Рэшткі стаянак былі знойдзены ў наваколлі Мінскага вадасховішча, на Дзвіне, у вярхоўях Нёмана.

Так, А. Р. Мітрафанаў у 50-я гады знайшоў паміж іншымі 25 стаянак (Добры Бор, Апечкі) каменнага і бронзавага вякоў у басейне Шчары. На берагах Нёмана яшчэ 15 — Л. С. Клейн (1956—1957). Адзін з найбольш значных помнікаў Добры Бор (Баранавіцкі раён) раскопвала І. М. Цюрына (1960).

Вялікую абагульняючую працу па Палессю выканаў у 1950-я гады Ю. У. Кухарэнка (1962). Ён увёў у навуковы абарот даныя польскіх даследчыкаў і абвергнуў думку аб нягоднасці гэтага абшару для засялення ўшчыльную да жалезнага веку Такая сітуацыя захоўвалася і на пачатку 70-х гадоў. У. Д. Будзько (1960, 1962) працягваў раскопкі на палеалітычных помніках, якія раней вывучаў К. М. Палікарповіч (Бердыж, Юравічы, Елісеевічы, Юдзінава). Гэта адбывалася ў цесным кантакце з геолагамі Л. М. Вазнечуком, М. М. Цапенка і палеантолагамі В. В. Шчагловай, В. М. Мотузам. Больш за 30 месцазнаходжанняў каменнага і бронзавага вякоў у Панямонні выявіла экспедыцыя Г. І. Гарэцкага, у якой удзельнічаў і Л. М. Вазнячук (1963—1966). У

сваіх пошуках В. Р. Супрун (1964—1966) засяродзіўся на берагах Шчары, дзе выявіў 60 помнікаў. Панямонне даследавалі таксама Н. М. Гурына (1957—1964), Ф. Д. Гурэвіч, С. А. Тараканава.

У працэсе разведак і раскопак беларускага атрада Прыдняпроўскай археалагічнай экспедыцыі Інстытута археалогіі АН СССР, якую ўзначальваў І. І. Арцёменка, у 1956—1965 гг. да раскапанага ў 1954 г. Я. Г. Краскоўскай (Галанавай) паселішча Стрэліца ля в. Рудня Шлягіна Веткаўскага раёна дабавіліся матэрыялы 17 паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў, раскапаных на шырокіх плошчах, у тым ліку стаянак Ліпаў Брод, Залессе, Шапатовічы, Сасонка, Ходасавічы, Лучын, Вець і інш. Матэрыялы іх часткова апублікаваны (Артеменко, 1960, 1963, 1964 а—г, Артеменко, Тюрина, 1966).

У сярэдзіне 60-х — 70-я гады ў вывучэнне помнікаў каменнага і бронзавага вякоў актыўна ўключылася новая група беларускіх археолагаў — У. Ф. Ісаенка, М. М. Чарняўскі, А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыцін, У. П. Ксяндзоў.

У. Ф. Ісаенка пачынаючы ■ 1961 г. на працягу 30 гадоў вывучаў першабытныя помнікі басейна Прыпяці. Толькі ў Заходнім Палессі ім было выяўлена да 180 помнікаў, месцамі вялікімі групамі (Камень, Ласіцк Пінскага, Моталь Іванаўскага раёнаў). Археалагічная карта Ю. У. Кухарэнкі (1962), якая апісвала 82 помнікі, была дапоўнена да 500. Матэрыялы ■ раскопак каля вёсак Камень, Юравічы, а таксама буйныя калекцыі рагавых прылад ■ помнікаў Камень-2, 8 дазволілі ўпэўнена вылучыць шэраг археалагічных культур у іх мясцовых варыянтах (Очерки по археологии Белоруссии, 1970). Гэты даследчык прыклаў шмат намаганняў, каб картаграфаваць назапашаныя даныя па першабытных помніках усёй Беларусі (Исаенко, 1968; 19766), унёс пэўны ўклад у вывучэнне старажытнасцей Падняпроўя падчас разведак з І. М. Ціханенкавым (1966). Аднак большая частка з назапашаных ім калекцый пакуль застаецца неапублікаванай.

Пачынаючы ■ 1962 г. у басейнах Нёмана і Віліі на разначасовых помніках каменнага і бронзавага вякоў вядзе работы М. М. Чарняўскі. У выніку абследавана і выяўлена да 200 стаянак, на 23 ■ іх вяліся раскопкі. Значныя матэрыялы былі атрыманы ■ паселішчаў каля Кутца, Русаковіч, Кругліцы Стаўбцоўскага, Русакова Слонімскага раёнаў, якія характарызуюць розныя этапы мясцовай неалітычнай культуры. Раскопкі каля Кавальцоў Гродзенскага, Беліцы Лідскага, Нясілавіч Дзятлаўскага раёнаў істотна папоўнілі звесткі ■ часоў першага засялення чалавекам Панямоння. Матэрыялы абагульнены ў манаграфіі (1979) і вялікай колькасці навуковых і навукова-папулярных артыкулаў і брашур. Найбольш значныя раскопкі М. М. Чарняўскі правёў на помніках Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне. Ён даследаваў таксама крэмнездабыўныя шахты каля г. п. Краснасельскі і в. Карпаўцы Ваўкавыскага раёна.

Вывучэнне крэмнездабыўных шахтаў, майстэрняў і стаянак каля пасёлка Краснасельскі пазней працягвалі М. М. Чарняўскі, В. П. Чамеза, Л. Г. Панічава, А. М. Гутоўскі, а затым В. Л. Ліпніцкая, В. Я. Кудрашоў (Чарняўскі, Кудрашоў, Ліпніцкая, 1996). В. Л. Ліпніцкая абагульніла звесткі аб крэмнеапрацоўчых майстэрнях захаду і цэнтра Усходняй Еўропы (1986). В. Я. Кудрашоў вывучаў шэраг мезалітычных помнікаў на тэрыторыі Беларусі.

Абагульненне назапашаных па палеаліту Падняпроўя матэрыялаў, іх аналіз на фоне палеаэкалагічных рэканструкцый праведзены А. Г. Калечыц (1984, 1995). З'явіўся шэраг публікацый, прысвечаных адной з найбольш складаных і актуальных праблем першапачатковага засялення тэрыторыі рэспублікі. З работамі гэтай даследчыцы звязаны далейшы рост крыні-

цазнаўчай базы і новы інтэрпрэтацыйны ўзровень неалітычных матэрыялаў Падняпроўя. З 1975 по 1986 г. ёй абследавана звыш 250 помнікаў, на 18 неалітычных і 3 мезалітычных помніках праведзены раскопкі (1987).

Сярод даследчыкаў верхнедняпроўскай культуры 70—80-х гадоў варта адзначыць тых, хто ўдзельнічаў у назапашванні крыніц (Я. Г. Краскоўская, І. В. Гаўрылава, В. Ф. Капыцін, М. У. Бычкоў, В. І. Сычоў, В. П. Пічукоў, В. А. Ліцвінаў) і спалучаў назапашванне крыніц з іх інтэрпрэтацыяй (В. П. Траццякоў, У. Ф. Ісаенка, У. П. Левянок, А. С. Смірноў). Адным ■ найбольш важных дасягненняў апошніх гадоў з'яўляецца адкрыццё на мезалітычных помніках Пасожжа гаспадарча-бытавых комплексаў, у прыватнасці круглых паўзямлянкавых жытлаў з ачагамі (Калечыц, 1987). У 90-я гады даследчыца пачала вывучаць заходнепалескі варыянт нёманскай культуры і праблему першапачатковага засялення гэтай тэрыторыі.

У выніку даследаванняў па мезаліту В. Ф. Капыціна, У. П. Ксяндзова ў 70-я гады адбылося шматкратнае павелічэнне раскапаных плошчаў, назапашванне масавага матэрыялу. Галоўнай мэтай іх працы сталі пытанні храналогіі, генезісу і гістарычных лёсаў мезалітычнага насельніцтва Усходняй і Цэнтральнай Беларусі (Капыцін, 1972—1996; Ксяндзоў, 1977—1997). У. Ф. Капыцін адкрыў у даліне Дняпра, Сажа, Друці, Проні, Басі звыш 50 помнікаў каменнага веку, раскапаў каля 20 мезалітычных помнікаў. У. П. Ксяндзоў у даліне Бярэзіны і на правабярэжжы Дняпра знайшоў больш за 30 мезалітычных паселішчаў, раскапаў многія з іх. Атрыманыя калекцыі налічваюць сотні закончаных вырабаў. Акрамя таго, У. П. Ксяндзоў (1988) зрабіў абагульненне матэрыялаў па Юравічах (позні палеаліт) і даследаваў гэты помнік. Даследчыкі вылучылі некалькі мезалітычных культур, але пакуль што не прыйшлі да згоды па пытаннях іх генезісу і храналогіі. Гэта звязана ■ адносна кароткім часам дэталёвага вывучэння мезалітычнай эпохі на Беларусі і, безумоўна, складанасцю вырашэння праблемы ва ўмовах адсутнасці арганічных рэшткаў для датавання.

У канцы 70-х гадоў старажытнасці Падзвіння пачаў вывучаць Э. М. Зайкоўскі. Ім знойдзена каля 30 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў, частка з якіх (Бабінавічы, Крывіна-3 і інш.) раскапана. У выніку вылучана група помнікаў тыпу Бабінавічаў і дзісненскі варыянт нарвенскай культуры. Прыкметныя ўдакладненні і нават вызначэнні асобных культурных груп адбыліся ў 80—90-я гады. Яны звязаны з работамі М. М. Крывальцэвіча, які вывучаў матэрыялы, лакальныя асаблівасці ў Прыпяцкім Палессі (культуры бронзавага веку) (1991, 1995). Каштоўныя помнікі сярэдняга і позняга этапаў бронзавага веку на ўсходзе Палесся знайшоў М. У. Бычкоў (1984, 1985). Значна папоўнілі крыніцазнаўчую базу разведкі і раскопкі Н. В. Шаблюк на мезалітычных помніках Панямоння, І. М. Язэпенкі ў міжрэччы Дняпра і Бярэзіны, які даследуе помнікі неаліту і бронзавага веку. Да сістэматызацыі старажытнасцей гэтай пары на тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі прыступіў В. Л. Лакіза.

Спалучэнне розных метадаў даследаванняў, якое было асабліва выніковым пры раскопках помнікаў верхнепалеалітычнай эпохі, прывяло да новых удакладненняў. З'явілася магчымасць вызначыць характар крамянёвай вытворчасці ў мезаліце, вылучыць шэраг неалітычных культур, знайсці іх месца на карце Еўропы. Адначасова былі ўдакладнены арэалы культур бронзавага веку. Упершыню стала магчымым стварыць абагульняючыя работы па гісторыі і археалогіі Беларусі, якія абапіраліся на канкрэтныя факты, вывучэнне матэрыяльнай культуры яе першабытнага насельніцтва, стварыць археалагічныя карты помнікаў для ўсёй рэспублікі (И с а е н к о, 1968,19766).

На базе дасягнутага былі створаныя зборы помнікаў, працы энцыклапедычнага характеру, напісана некалькі манаграфій. Але яны далека не вычарпалі ўсяго багацця назапашанага матэрыялу. Гэта задача застаецца найбольш актуальнай для сучаснай беларускай археалогіі, як і распрацоўка шэрагу тэарэтычных пытанняў навукі, статыстычная апрацоўка калекцый, пошукі паселішчаў з непарушаным культурным пластом. Найбольш слабым месцам застаецца абгрунтаваная метадамі абсалютнага датавання храналогія старажытнасцей.

Такім чынам, гісторыя вывучэння помнікаў каменнага і бронзавага вякоў налічвае каля 150 гадоў, але толькі ў 20-я гады адбыўся пераход ад збору выпадковых рэчаў да сістэматычнага даследавання берагоў рэк, ля якіх жылі старажытныя людзі. Яшчэ праз трыццацігоддзе пачалі раскопваць помнікі, што прымаліся за эталонныя і выкарыстоўваліся для вылучэння культур і этапаў развіцця. Зараз на тэрыторыі Беларусі вядома да 670 помнікаў каменнага і 700 бронзавага вякоў. Аднак многія месцазнаходжанні так і застаюцца без вызначэння з-за невялікай колькасці знаходак. Амаль у 2200 пунктах падабраныя або трапіліся пры земляных работах каменныя свідраваныя сякеры і шліхтаваныя сякеры-кліны, а таксама матыкі (да 40 экз.), крамянёвыя сярпы (да 60 экз.), наканечнікі коп'яў (да 50 экз.).

## 2. ПАЛЕАГЕАГРАФІЧНЫ НАРЫС

Беларусь знаходзіцца ў заходняй частцы Усходне-Еўрапейскай раўніны. Большасць яе тэрыторыі займаюць нізінныя прасторы, значна меншую — платопадобныя раўніны і ўзвышшы. Рэльеф рэспублікі характарызуецца вялікай разнастайнасцю формаў і тыпаў.

Гэта абумоўлена тым, што Беларусь размешчана ў зоне акумулятыўнай дзейнасці плейстацэнавых ледавіковых покрываў, якія рухаліся з Фенаскандыі. У сувязі з гэтым на яе тэрыторыі атрымалі шырокае распаўсюджанне магутныя тоўшчы ледавіковых, водна-ледавіковых і перыгляцыяльных адкладаў, што адрозніваюцца вялікай складанасцю ўмоў і разнастайнасцю складу.

У геамарфалагічных адносінах на тэрыторыі Беларусі вылучаюцца пяць абласцей: 1) Беларускае Паазер'е; 2) Беларуская града; 3) Цэнтральна-Беларуская раўніна; 4) Усходне-Беларускае плато; 5) Палеская нізіна.

Да басейна Балтыйскага мора належаць сістэмы рэк Заходняй Дзвіны, Нёмана, Заходняга Буга, да басейна Чорнага мора — Дняпра і яго буйнейшых прытокаў — Прыпяці, Сажа і Бярэзіны.

Асноватворнымі для вырашэння праблем карэляцыі палеагеаграфічных падзей і гісторыі чалавека, які жыў на тэрыторыі Беларусі, сталі манаграфіі Г. І. Гарэцкага (1970), Л. М. Вазнечука і М. А. Вальчыка (1978), Б. М. Гурскага (1965—1986), Н. А. Махнач (1971) і інш. З дастатковай доляй верагоднасці рэканструкцыя прыроднага асяроддзя палеалітычнага насельніцтва Беларусі магчыма толькі з улікам апошніх палеабатанічных (Еловичева, 1975—1993; Величкевич, 1973, 1986; Богдель, 1984), палеантагалагічных (Каліноўскі, 1983, 1980; Назаров, 1979) і іншых метадаў даследавання.

Гісторыю засялення чалавекам тэрыторыі Беларусі і прыродныя ўмовы, у якіх ён існаваў, правамерна разглядаць з мусцьерскага часу, г. зн. з эпохі

муравінскага міжледавікоўя, з пачаткам якога па ўсёй тэрыторыі распаўсюдзіліся змешаныя бярозава-хваёвыя лясы з прымешкай елкі, якія паступова змяніліся хваёвымі лясамі з бярозай. У перыяд кліматычнага оптымуму дубовыя і дубова-вязавыя лясы змяніліся ліпавымі, распаўсюдзіліся шыракалістыя і грабавыя лясы.

Ландшафтныя структуры муравінскага міжледавікоўя Еўропы і галацэну падобныя, а кліматычныя падобныя толькі часткова. Клімат муравінскага міжледавікоўя Еўропы адзначаны большай цеплазабяспечанасцю і ўвільгатненнем, чым нават оптымум галацэну.

Пасля добра вывучанага муравінскага міжледавікоўя наступіла паазерская (вюрмская) ледавіковая эпоха. Нягледзячы на розначытанні ў стратыграфічных схемах, выразна прасочваецца выяўленая паўсюдна трохчленная яе перыядызацыя: ранне-, сярэдне- і познапаазерскія этапы, якія хstation храналагічна ўкладваюцца прыкладна ў прамежкі часу 115 (105)—65 (70—50) тыс. гадоў, 65—25 (50—24) і 24—10 тыс. гадоў ад нашых дзён

Стадыяльныя (часу пахаладанняў) падгарызонты складаюцца, як правіла, з шызавата-шэрых і бурых, часта гумусаваных суглінкаў, супескаў, пяскоў і алеўрытаў з вельмі складанымі праявамі мярзлотнага паходжання. Спорава-пылковыя дыяграмы ранневалдайскіх стадыяльных адкладаў характарызуюцца вялікай колькасцю пылку траў (палыноў, асотавых, злакавых, лебядовых і інш.), кустовых раслін, спораў імхоў, папаратнікавых

Міжстадыяльныя (часу пацяпленняў) адклады пададзены ў асноўным тарфамі, гіціямі, шызаватымі суглінкамі, супескамі, пяскамі з раслiннымі рэшткамі магутнасцю 0,3—3,6 м. Для іх характэрныя спорава-пылковыя спектры лясного тыпу.

Раннепаазерскі этап адпавядае пачатку ўтварэння ледавіковага гарызонту і складаеЦца з хвалепадобных прамежкаў пацяпленняў і пахаладанняў, якія чаргаваліся з інтэрвалам 10—15 тыс. гадоў. Увесь гэты перыяд працягвалася існаванне неандэртальцаў і створанай імі мусцьерскай культуры. Згасанне яе і з'яўленне краманьёнца адбывалася ўжо ў сярэдзіне наступнага сярэднепаазерскага этапу.

Гэты этап (65—25 тыс гадоў таму назад) быў значна больш халодным і сухім, чым раннепаазерскі. Выветрыванне, знос матэрыялаў са схілаў і эолавыя працэсы шырока распаўсюдзіліся. Палеабатанічныя даныя сведчаць пра чаргаванне тайговых ландшафтаў з арктычнымі і тундрава-стэпавымі. Кожны наступны перыяд быў больш халодны і сухі, чым папярэдні. У стадыяльныя перыяды развіваліся бязлесныя і тундрава-стэпавыя ландшафты. Ледавік падышоў ушчыльную да паўночнай мяжы Беларусі ці нават уступіў на яе тэрыторыю (В о з н я ч у к, 1973)

Гэта час пераходу ад мусцье да позняга палеаліту (40—35 тыс. гадоў таму назад).

У далінах рэк басейна Дняпра, вярхоўяў Нёмана і Віліі на працягу другой паловы сярэднепаазерскага этапу і першай паловы дзвінскай стадыі (разам з яе максімальнай, азёрскай) сфарміраваўся алювій другой надпоймавай тэрасы.

На схілах у далінах Дняпра і яго прытокаў з алювіем гэтай тэрасы спалучаны яра-лагчынныя, саліфлюкцыйныя (сцёкі пераўвільготненых грунтоў па паверхні мерзлых парод) і дэлювіяльныя (адклады, якія ўтвараюцца дажджавымі і талымі снегавымі водамі на схілах і каля іх падножжа), адклады перыгляцыяльнай (ля краю ледавіка) фармацыі, якія запаўняюць у шэрагу

месцаў пахаваныя яры. Гэтыя яры ўтварыліся ў выніку ўразання рэк перад пачаткам найбольш інтэнсіўнага фарміравання адкладаў другой тэрасы. На мысах паміж ярамі і схіламі ў далінах Сажа і Прыпяці размяшчаліся Бердыжскае і Юравіцкае познапалеалітычныя паселішчы. У цэлым неабходна адзначыць, што сярэднепаазерскі этап вызначаўся кліматам больш суровым, чым сучасны,а пацяпленні ў гэты час не мелі міжледавіковага характару. У оптымум аднаго з сярэднепаазерскіх пацяпленняў сярэдняя тэмпература ліпеня была не больш за +12 ... + 13°, г. зн. на 4—6° ніжэй за сучасную.

У цяперашні час агульнапрызнана, што максімум паазерскага зледзянення наступіў 18—17 тыс. гадоў назад, што пацверджана серыяй радыевугляродных дат. Мяжа ледавіка (В а з н я ч у к, 1971; В а з н я ч у к і інш, 1969а, 1978) у цэлым супадала з паўднёвай мяжой Паазер'я. На паўночны ўсход рэспублікі ён насоўваўся дзвюма лопасцямі — Полацкай і Суражскай, падзеленымі Невельскім, Віцебскім і Любавіцкім узвышшамі(градамі). Перад ледавіком утварыліся прыледавіковыя вадаёмы. На поўдзень ад яго тэрыторыя Беларусі знаходзілася пад магутным уплывам ледавіка і ўяўляла сабой перыгляцыяльную зону. Пераважалі бязлесныя, падобныя да арктычных ландшафты.

Познапаазерскі этап (25—10,3 тыс. гадоў таму назад) быў карацейшы, але больш дынамічны за папярэднія. Сухі, рэзка кантынентальны клімат, найбольш суровы за ўвесь антрапаген, тундрава-стэпавыя ландшафты, арктычныя пустыні на перадполлі ледавіка, экстрэмальныя тэмпературы паветра, паніжэнне ўзроўню Сусветнага акіяна на 85 м ніжэй за сучасны, рэзкае агульнапланетарнае зрушэнне прыродных зон, магутная вечная мерзлата — агульная заканамернасць максімума паазерскага зледзянення.

Паазерскае позналедавікоўе (час фінальнага палеаліту) пачалося з нязначнага пацяплення (13900—13000 гадоў таму назад), калі ледавік адступіў ад браслаўскіх канечных марэн. Адступленне яго ад гэтых краявых утварэнняў было выклікана цёплым бёлінгскім часам (12700—12300 гадоў назад), на працягу якога ад ледавіка вызвалілася паўднёвая частка Балтыйскага мора (да вострава Готланд), Латвія, паўднёвыя і цэнтральныя раёны Эстоніі, Прыільменская нізіна.

У час бёлінга на тэрыторыі рэспублікі значна павялічыліся плошчы, занятыяляснымі ландшафтамі, і скарацілася роля лесатундравых прадстаўнікоў траў і кустовых. У Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі шырока развіліся бярозава-хваёвыя лясы з падлескам з елкі, вольхі, вярбы, арэшнікавыя, у Палессі на пясчаных дзюнах і тэрасах раслі хваёвыя лясы, былі і забалочаныя ўчасткі.

У позналедавікоўе сфарміраваліся азёры цэнтральнай, заходняй і паўднёвай часткі Палесся (Олтуш, Бабровіцкае, Спораўскае, Выганаўскае, Чырвонае і інш.). У Паазер'і позналедавікоўе (Б о г д е л ь, 1984) — этап слабага развіцця азёраў, таму што прыледавіковыя вадаёмы часткова былі спушчаны, а сучасныя азёры яшчэ не аформіліся. У цяперашні час (М а т в е е в і інш., 1982) застаецца спрэчным пытанне аб узросце сучасных азёраў поўдня Беларусі. Адзначаныя аўтары лічаць усё позналедавікоўе і ранні галацэн у Палессі безазёрным этапам. На іх думку, азёры з'явіліся пазней — у канцы барэалу — пачатку атлантычнага перыяду ў выніку ўвільгатнення клімату, уздыму ўзроўню грунтавых вод, развіцця карсту і неатэктанічных зрухаў. У Цэнтральнай Беларусі працягвалася эразійнае расчляненне рэльефу і разам з тым ішла інтэнсіўная яго нівеліроўка.

Кароткачасовае пахаладанне (12300—11800 гадоў назад) дрыяс-2 выклікала спыненне краю ледавіка ў Паўночнай Эстоніі і на Ардавікскім плато. Пачалося фарміраванне краявых утварэнняў паўночна-эстонскай (неўскай) фазы. Гэта было непрацяглае, але інтэнсіўнае пахаладанне, што прывяло да аднаўлення субарктычных умоў на поўначы Беларусі. На гэтай тэрыторыі зноў з'явіліся бязлесныя прасторы і разрэджаныя бярозава-хваёвыя лясы з прымешкай кустовых і арктычных формаў.

Самы цёплы ў позналедавіковы час — перыяд алерод (11800—10800 гадоў назад) пацягнуў за сабой адступанне краю ледавіка ў межы Паўднёвай Фінляндыі. Гэта пацяпленне прывяло да шырокага распаўсюджання на тэрыторыі рэспублікі лясоў. На поўначы былі бярозава-хваёвыя, хваёвыя, хваёва-бярозавыя з падлескам з вольхі, вярбы, ядлоўца з нязначнай дамешкай шыракалістых парод (дуба, ліпы, вяза) на водападзелах. На поўдні Беларусі раслі хваёвыя бары — верасовыя, сфагнавыя, лішайнікавыя. У іх склад увaходзілі шыракалістыя пароды. На адкрытых прасторах паўночнай часткі рэспублікі былі лугі са злакаў і разнатраўя. Аналіз палеанталагічных рэштказ сведчыць пра тое, што тэмпература ліпеня была толькі на 2° ніжэй за сучасную.

На працягу дрыясу-3 зноў распаўсюдзілася холадалюбівая расліннасць. Гэта кароткі (10800—10300 гадоў назад), але рэзка халодны перыяд прыпадае на канец позналедавікоўя. Зноў павялічылася роля травяністых раслін. На тэрыторыі Беларусі распаўсюдзіліся хваёва-бярозавыя лясы паўночна-тайговага тыпу. Вялікая прастора паміж імі была занята тундра-стэпамі і халоднымі стэпамі. Не адбылося істотных змяненняў толькі ў Палессі. Аналіз раслінных і жывёльных рэштказ сведчыць пра значнае паніжэнне тэмпературы лета (да +10°) і зімы (да —25°) і змяншэнне гадавой колькасці ападказ да 300 мм.

На працягу паазерскага позналедавікоўя на тэрыторыі Беларусі надзвычайна шырокае распаўсюджанне атрымалі працэс тэрмакарсту (утварэнне глыбокіх варонак і пустэч у целе ледавіка ці ў мёрзлым грунце ў выніку раставання лёду), утварыліся тысячы азёраў, у далінах рэк Паазер'я сфарміраваліся чатыры (бёлінгская) і тры (алеродская) надпоймавыя тэрасы, а ў басейне Дняпра закончылася фарміраванне ўступа першай надпоймавай тэрасы. У той жа час адбывалася інтэнсіўнае перавейванне пяскоў і фарміраванне шматлікіх мацерыковых дзюн. З улікам выкладзенага вышэй можна канстатаваць, што пачынаючы з алероду значная частка тэрыторыі рэспублікі была прыдатная для жыцця чалавека, і датаванне шэрагу паселішчаў гэтым перыядам, відаць, толькі пытанне часу.

На мяжы плейстацэну і галацэну адбыўся пераход да мезаліту. Храналогія галацэну ўключае ў сябе падраздзяленні на ранні, сярэдні і позні з адпаведнымі храналагічнымі і стратыграфічнымі адзнакамі.

З пачаткам галацэну ў развіцці расліннага покрыва рэспублікі з-за глыбокіх кліматычных змяненняў адбылася перабудова. Пачынаючы з прэбарэалу (10300—9200 гадоў назад), лясное покрыва ніколі больш не знікала на гэтай тэрыторыі, а толькі відазмянялася пад уплывам кліматычных ваганняў і натуральнага развіцця. Адклады галацэну развітыя паўсюдна і маюць магутнасць ад некалькіх сантыметраў да 20 м. Да яго пачатку сфарміраваліся ўсе асноўныя кампаненты ландшафтаў, і паверхня Беларусі пачала набываць сучасны выгляд.

У перыяд фарміравання ўступа першай надпоймавай тэрасы (этап дэградацыі паазерскага ледавіка) адбылося спусканне вады Прыпяці праз

«перапілаваную» Мазырскую граду (В а з н я ч у к, 1971) і Прыпяць пацякла на поўдзень — поўдзень — усход.

Гэта ўразанне суправаджалася фарміраваннем скразных далін у паўночнай частцы Палесся. Першая надпоймавая тэраса ў Палессі афармілася ў канцы паазерскага часу — пачатку галацэну.

Фаза ўзмоцненага ўразання Нёмана (В а л ь ч и к, 1978), што пачалася ў канцы дрыясу, захапіла і пачатак прэбарэальнага часу. У вярхоўях рака паглыбіла рэчышча на 2—3 м, у нізоўях — амаль на 20 м (Г у д е л и с, 1976). У канцы прэбарэалу трансгрэсія Іольдзіева мора ў Балтыйскай катлавіне садзейнічала ўзмацненню бакавой міграцыі рэчышча Нёмана і фарміраванню алювію высокага поплаву. Уступ гэтага поплаву сфарміраваўся ў канцы барэалу (8,5—7,6 тыс. гадоў назад) у выніку рэгрэсіі Анцылавага возера.

У атлантычным перыядзе галацэну, у перыяд трансгрэсіі Літарынавага мора назапасіўся алювій сярэдняга поплаву даліны Нёмана, уступ якога сфарміраваўся толькі ў ніжнім цячэнні Нёмана ў апошняй трэці суббарэалу. Па меры стабілізацыі ўзроўню Балтыйскага мора на сучаснай стадыі пачалося фарміраванне алювію нізкага поплаву, якое працягваецца з субатлантычнага часу па сённяшні дзень.

Заняўшы сучаснае месца на геаграфічнай карце ў пару максімуму паазерскага зледзянення і зазнаўшы цыкл уразанняў у позналедавікоўі (14—13 тыс. гадоў назад) у момант фарміравання град браслаўскай фазы, яшчэ раз Нёман знізіў свой базіс эрозіі ў раннім галацэне.

Прэбарэал — час пераходу ад арктычных і субарктычных умоў позналедавікоўя да ўмеранага цёплага клімату. Выкапневая мікратэрыяфауна (рэшткі грызуноў) належыць жыхарам лясных і адкрытых ландшафтаў. Да ранняга галацэну адносіцца перыяд фарміравання тарфянікаў (Верхі, Здзітава) у Палессі. Па даследаваннях В. П. Зярніцкай (1986), даныя спорава-пылковага аналізу водна-балотнай расліннасці сведчаць аб прыкметнай абводненасці балотных масіваў у прэбарэале — сярэдзіне барэалу, што з'явілася вынікам павелічэння атмасферных ападкаў і слабай дрэніраванасці тэрыторыі.

Расліннае покрыва было амаль аднародным на тэрыторыі ўсёй рэспублікі. На поўначы раслі бярозава-альховыя лясы з прымешкай елкі. У Панямонні і Палессі — хваёвыя лясы з рэдкімі плямамі шыракалістых парод у Палессі, на астатняй тэрыторыі — бярозава-хваёвыя і хваёва-бярозавыя лясы. У лясных спектрах рэзка скараціліся ўчасткі кустовых і нізкарослых формаў бяроз, стала зусім мала елкі, к канцу перыяду яна амаль зусім знікла, затое з'явіўся пылок вяза, затым ліпы, потым дуба, а таксама вольхі і арэшніку. Клімат прэбарэалу быў больш суровы, чым цяпер. Сярэднія тэмпературы ліпеня на 1—1,5°, а студзеня на 2—3° ніжэй за сучасныя. Ападкаў выпадала крыху менш.

Барэал (9200—8000 гадоў назад) характарызаваўся нізкім узроўнем вады ў азёрах, іх малой праточнасцю. Мікратэрыяфауна пададзена насельнікамі лясных прастораў і каляводных відаў. Гэта час паступовага пераходу ад самага халоднага этапу галацэну да яго оптымуму. Характарызуецца павольным, але няўхільным павелічэннем колькасці ападкаў, прагрэсіруючым пацяпленнем і дасягненнем к канцу перыяду сучасных паказчыкаў вільготнасці і тэмпературнага рэжыму.

Вядучае месца належыць пылку хвоі і бярозы, а к канцу перыяду ўзрастае роля ёлкі, вольхі, вяза, ліпы, дуба, арэшніку і інш. Маюцца адзінкавыя знаходкі пылку граба. Няўхільна змяншаецца роля травяністых раслін, спо-

равых, знікаюць лебядовыя, скарачаюцца прагаліны, вельмі мала зялёных і сфагнавых імхоў і папаратнікавых. У барэале (Б о г д е л ь, 1983) з'яўляецца выразная занальная дыферэнцыяцыя расліннага покрыва рэспублікі, між тым геаграфічная занальнасць прасочвалася ўжо позналедавікоўя (Е л о в и ч е в а, 1993. С. 58). Гэта адбылося пад уплывам кліматычных і глебавых фактараў, залежала ад узроўню грунтовых водаў, геамарфалогіі тэрыторыі. Браслаўскае, Асвейскае, Гарадоцкае і іншыя марэнныя ўзвышшы поўначы рэспублікі былі пакрыты ялова-хваёвымі лясамі прымешкай вяза, ліпы, дуба.

Віцебская, Свянцянская, Ашмянская, Беларуская і Капыльская грады, г. зн. узвышшы на поўдзень ад мяжы максімальнага распаўсюджання паазерскага ледавіка, былі пакрыты шыракаліста-хваёвымі лясамі, а ўзвышшы Палесся (Загароддзе, Мазырскае, Хойніцка-Брагінская і Юравіцкая грады) — шыракаліста-хваёвымі лясамі. Роля дуба на поўдні рэспублікі была намнога вышэй, чым на поўначы. Нізіны Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі (Полацкая, Лучэская, Суражская, Нарачана-Вілейская, Верхне- і Цэнтральна-Бярэзінская) былі пакрыты хваёва-бярозавымі лясамі з невялікай прымешкай вяза, ліпы, дуба, а нізіны Панямоння і Палесся — хваёвымі барамі. К канцу барэалу ў выніку павелічэння вільготнасці шырока распаўсюдзілася вольха.

З перыядам ранняга галацэну звязаны ўяўленні аб засяленні чалавекам мезалітычнай пары ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Як відаць выкладзенага вышэй, ніякіх перашкод прыродна-кліматычнага характару гэтаму працэсу не было.

Атлантычны перыяд — кліматычны оптымум галацэну (8000—5000 гадоў назад) — пачатак сярэдняга галацэну. Калі на рубяжы барэальнага і атлантычнага перыядаў роля воднай расліннасці ў Палессі змяншаецца, то ў атлантычным перыядзе назіраецца яе новы ўздым. Для першай паловы перыяду характэрны цеплалюбівыя віды насякомых. Іх комплекс мог існаваць пры летніх тэмпературах да +20°, а пры зімовых — да —2° пры вільготнасці да 700—800 мм ападкаў у год.

Сярэднегадавыя тэмпературы былі вышэй за сучасныя на 1,5—2°. Дыферэнцыяцыя расліннага покрыва, што з'явілася ў барэале, атрымала найбольшае развіццё.

Уся тэрыторыя рэспублікі была пакрыта шыракалістымі лясамі. На марэнах Паазер'я раслі хваёва-шыракалістыя лясы перавагай у складзе апошніх вяза і ліпы. У Цэнтральнай Беларусі заўважана дыферэнцыяцыя флоры заходніх раёнаў, дзе ў сувязі шырокім забалочваннем шыракалістыя лясы чаргаваліся з хваёва-шыракаліста-хваёвымі. Прыкметную ролю адыгрываў граб. На лёсавых пародах усходніх раёнаў фарміраваліся дзярновыя і дзярнова-падзолістыя глебы. Тут пераважалі змешаныя дубровы. У Палессі і Панямонні сярод хваёвых бароў нізін пераважалі дуб, граб, вольха, на ўзвышанасцях Палесся дамінавалі два першыя віды. Клімат быў аналагічны сучаснаму поўдню Польшчы і Германії.

Увільготненасць выклікала забалочанасць цэнтральных і паўднёвых раёнаў рэспублікі. Спушчаныя і зарослыя азёры ператвараліся ў нізінныя балоты. Шырока распаўсюдзіліся зараснікі лішайнікаў, вольхі. Уздым узроўню вады ў сярэдзіне і другой палове атлантычнага перыяду прымусіў неалітычнае насельніцтва ўладкоўваць свае паселішчы на больш высокіх месцах. Помнікі ранняй і позняй пары неаліту сустракаюцца на больш нізкіх адзнаках у ідэнтычных умовах. Аж да оптымума атлантычнага перыяду тэмпературная крывая на ўсіх палеагеаграфічных схемах няўхільна ўздымалася ўверх, а затым пачынаючы з пятага тысячагоддзя пачала апускацца ўніз.

У суббарэальны час (5000—2500 гадоў таму назад) адбылося паніжэнне ўзроўню вады. Тэмпературы лета знізіліся да +16°. На ўсіх спорава-пылковых дыяграмах адзначана скарачэнне пылку шыракалістых парод і вольхі і павелічэнне пылку хвоі і бярозы.

На поўначы рэспублікі сфарміраваліся шыракаліста-хваёва-тайговыя лясы, у цэнтры і на поўдні працягвалі расці шыракалістыя лясы са значнай прымешкай хвоі на пясках Палесся. Другая палова суббарэалу характарызавалася значным паніжэннем тэмпературы, а к канцу перыяду яна стала блізкай да сучаснай. Глебы заставаліся галоўным чынам дзярновымі і дзярнова-падзолістымі. Узровень азёраў панізіўся і пачалося ўразанне рэк у поплаўны алювій. Да сярэдзіны гэтага перыяду адносяцца бясспрэчныя сляды земляробства.

Апошні субатлантычны перыяд, які пачаўся прыкладна 2500 гадоў назад, характарызуецца зніжэннем тэмпературы і павелічэннем вільготнасці, што пацягнула за сабой скарачэнне ролі шыракалістых парод, павелічэнне ролі вольхі. Гэта перыяд, калі змяненне ландшафтаў стала адбывацца пры непасрэдным удзеле чалавека і пад яго ўплывам. Адзначана павышэнне ўзроўню вадаёмаў. Паўсямесна распаўсюдзіліся хваёва-ялова-бярозавыя лясы з прымешкай шыракалістых парод. У субатлантычным перыядзе з'явіліся прыкметы існавання акультураных зямель. З'яўленне ў спорава-пылковых спектрах некаторых відаў раслін-індыкатараў прыроднага стану дазваляе меркаваць (Г у м а н, 1983), што наступіў час, калі прысутнасць чалавека і яго гаспадарчая дзейнасць сталі пэўным чынам уплываць на прыроднае асяроддзе. Так, з'яўленне пустазелля (падарожнік, гарэц), якое расце толькі на ўшчыльненых глебах, сведчыць пра наяўнасць шляхоў і моцна вытаптаных месцаў; такое пустазелле, як шчаўе, крапіва і іншыя расліны, сведчыць пра развіццё жывёлагадоўлі. Пра высечку лясоў гавораць такія факты, як скарачэнне плошчаў вяза, ліпы пры павелічэнні вольхі, бярозы і інш.

У. М. Сукачоў (1938) звязваў прысутнасць у дубовых раслін роду крапівавых выключна з выпасам жывёлы. Скарачаюцца зараснікі вадзянога і ляснога арэху. У пачатку суббарэалу з'яўляецца пылок хлебных злакаў. Гэта з'ява шырэй распаўсюджана на поўдні і захадзе рэспублікі, дзе былі лёгкія ўрадлівыя глебы, і затрымлівалася на ўсходзе.

*

Уступ да раздзела 1 дадзенага тома напісаны А. Г. Калечыц, да раздзела 2 — М. М. Чарняўскім, да раздзела 3 — М. М Крывальцэвічам. У § 1 раздзела 1 тэкст «Юравіцкая познапалеалітычная стаянка» напісаны У. П. Ксяндзовым. У. Ф. Усаенка з'яўляецца аўтарам тэкстаў § 2 раздзела 2 «Нёманская культура ў Заходнім Палессі», «Ранненеалітычны этап развіцця нёманскай культуры», «Сярэдні і позні этап культуры».

## Раздзел 1

# ПАЛЕАЛІТ І МЕЗАЛІТ

Найбольш працяглы этап станаўлення і развіцця чалавека — палеаліт — (ад грэч. «палайос» — старажытны, «літос» — камень) умоўна падзяляецца на ранні (ніжні) і позні (верхні). Па апошніх даных ён працягваўся звыш 3 млн гадоў. У ранні жылі архантрапы і палеаантрапы, змяніліся алдувайская (≈ 3 млн — 1,5 млн гадоў назад), ашэльская (≈ 1,5 млн — 150 тыс. гадоў назад) і мусцьерская (≈ 200 тыс. — 40—35(33) тыс. гадоў назад) эпохі.

З раннім палеалітам звязаны такія буйныя культурна-гістарычныя з'явы, як вылучэнне чалавека з жывёльнага свету, выраб першых прылад з каменя, костак і дрэва, здабыча агню, з'яўленне першай вопраткі і першых штучных жытлаў. Гэта час складання і існавання першай грамадскай супольнасці — першабытнаабшчыннага ладу і зараджэння першых ідэалагічных уяўленняў.

У канцы перыяду неандэртальскі чалавек асвоіў значную частку Старога Свету і дасягнуў 55° паўночнай шырыні. На тэрыторыі Беларусі ёсць адзінкавыя рэчы, наяўнасць якіх не выключав пранікнення на яе тэрыторыю мусцьерскіх паляўнічых.

Позні палеаліт — наступны крок на шляху прагрэсу. Да яго пачатку сфарміраваўся чалавек новага фізічнага тыпу — краманьёнец, які ўжо амаль нічым істотна не адрозніваўся ад сучаснага чалавека. Гэты перыяд гісторыі пачаўся 40—35 тыс. гадоў назад і скончыўся прыблізна 10 тыс. гадоў назад. Заключная яго частка пачынаючы з 14-га тысячагоддзя завецца фінальным палеалітам.

У час позняга палеаліту адбыліся вялікія змены ў апрацоўцы крэменю, значна пашырыўся асартымент прылад працы, пачалі шырока ўжывацца вырабы з костак, удасканалілася паляўнічая зброя, што не магло не адбіцца на выніках галоўнага гаспадарчага занятку — палявання.

Далейшыя прагрэсіўныя змены адбыліся і ў фарміраванні радавога ладу, аб чым яскрава сведчаць канструктыўныя асаблівасці тагачасных жытлаў. Акрамя вялікіх калектыўных з'явіліся жытлы малых памераў, што, магчыма, належалі парным сем'ям. Існаванне ва ўмовах суровага перыяду паазерскага зледзянення, засваенне прастораў Усходняй Еўропы амаль да палярнага круга, паляванне на буйных жывёл маглі стаць магчымымі толькі пры адпаведным узроўні вытворчасці і сацыяльнай арганізацыі грамадства. У Беларусі стаянкі ранняй пары познапалеалітычнай эпохі не знойдзены. Вывучаныя помнікі Бердыж і Юравічы адносяцца да сярэдняй пары — эпохі росквіту познапалеалітычных культур на Усходне-Еўрапейскай раўніне.

Заключны этап палеалітычнай эпохі — фінальны палеаліт — новы крок уперад.

Істотная перабудова ландшафтаў, якая адбылася пасля заканчэння апошняга зледзянення, змены ў фауне патрабавалі ад насельніцтва далейшага ўдасканалення паляўнічай зброі. Пачалі шырока ўжывацца розныя віды дыстанцыйнай зброі, быў вынайшаны лук. У аснове гаспадарчай дзейнасці па-ранейшаму было паляванне. Галоўнай мэтай промыслу стаў паўночны алень — жыхар тундравых і лесастэпавых прастораў. На вялікай тэрыторыі Усходняй Еўропы скламіся пастаянныя напрамкі сезонных міграцый з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, што садзейнічала падтрыманню этнічнай агульнасці на значнай тэрыторыі, узмацненню сувязяў і культурных кантактаў.

Аналіз крамянёвага інвентару сведчыць аб далейшым развіцці тэхнікі апрацоўкі каменя, несумненным падабенстве прыёмаў вытворчасці і тыпаў прылад палеалітычных продкаў. У залежнасці ад генезісу для кожнага з галоўных культурных рэгіёнаў Беларусі — заходняга (свідэрская культура) і ўсходняга (грэнская культура) — у фінальным палеаліце характэрны розныя традыцыі вырабу каменных прылад. Іншых сведчанняў для рэканструкцыі сацыяльнай арганізацыі і гаспадарчай дзейнасці тагачасных жыхароў пакуль не знойдзена.

На тэрыторыі Беларусі вядома больш 10 фінальнапалеалітычных паселішчаў, у тым ліку некалькі помнікаў лінгбійскай культуры.

На мяжы плейстацэну і галацэну (каля 10 тыс. гадоў назад) у сувязі з далейшай карэннай перабудовай ландшафтаў, калі арктычныя краявіды ўступілі месца лясам, складзены на працягу тысячагоддзяў тып паляўнічай гаспадаркі пачаў хутка эвалюцыяніраваць і паступова змяніўся. Адбыўся пераход да сярэдняга каменнага веку — мезаліту. У побыце мезалітычнага насельніцтва працягвалі развівацца і паступова завяршаліся традыцыі фінальнапалеалітычнага насельніцтва. У гэты час на тэрыторыі Беларусі вядомы помнікі грэнскай, свідэрскай (у пачатку перыяду), сожскай (у другой яго палове) культур пры наяўнасці яніславіцкіх, кундскіх, кудлаеўскіх помнікаў і шэрагу адзінкавых культурных з'яў іншага генезісу. Грэнская і свідэрская культуры працягвалі развіццё ў першай палове мезаліту, а ў далейшым іх узаемныя ўплывы прывялі да фарміравання сожскай познамезалітычнай культуры (К о п ы т и н, 1977, 1983 і інш). На базе свідэрскіх традыцый, магчыма, утварылася пакуль што не вывучаная нёманская мезалітычная культура, у сувязі з чым яна не разглядаецца ў гэтай рабоце.

На сённяшні дзень знойдзена некалькі дзесяткаў мезалітычных паселішчаў, вывучэнне якіх сведчыць аб тым, што гэта эпоха істотна адрозніваецца ад папярэдняй шэрагам вытворчых і культурных дасягненняў, што садзейнічала далейшаму прагрэсіўнаму развіццю грамадства. Асаблівасці матэрыяльнай культуры, у тым ліку характар жытлаў, новыя спецыфічныя формы палявання, усталяванне новых галін гаспадарчай дзейнасці, значнае павелічэнне насельніцтва і ўвогуле культур надаюць мезаліту спецыфічныя рысы.

Шырокае распаўсюджанне лука, новых тэхнічных прыёмаў крэмнеапрацоўкі і апрацоўкі косці, новыя дасягненні ў домабудаўніцтве паклалі пачатак у зараджэнні ў нетрах мезалітычнага грамадства перадумоў да вытворчай гаспадаркі. Узнікла адносная аседласць, апрача палявання і збіральніцтва шырока распаўсюдзілася рыбная лоўля. Важную ролю адыграла вынаходніцтва складаных састаўных прылад з выкарыстаннем так званых геаметрычных мікралітаў.

Выкладзеныя ніжэй даныя дазваляюць чытачу пабачыць узровень, якога дасягнула беларуская археалогія ў вывучэнні мезаліту за апошнія дзесяцігоддзі. Нягледзячы на пэўныя дасягненні, відавочна, што вельмі кароткі тэрмін паглыбленага вывучэння помнікаў гэтага часу і абмежаваная колькасць даследчыкаў не дазваляюць сёння канчаткова вырашыць цэлы шэраг праблем. Асабліва шмат пытанняў выклікае храналогія мезалітычных культур і іх генезіс. Так, існуе думка, што на тэрыторыі Беларускага Падняпроўя ў мезаліце існавала не сожская, а днепра-дзяснінская культура, якая мела іншыя генетычныя карані і іншы час існавання. У гэтай рабоце адлюстраваны адзін з поглядаў, а з высновамі аўтара другой канцэпцыі можна пазнаёміцца па шэрагу публікацый (Ксензов, 1988, 1994, 1997).

## 1. ПЕРШАПАЧАТКОВАЕ ЗАСЯЛЕННЕ БЕЛАРУСІ

**Праблема першага пранікнення чалавека.** Працэс засялення тэрыторыі Усходняй Еўропы чалавекам адбываўся на фоне рытмічных змен клімату, які ўвесь час меў тэндэнцыю да пахаладання. У міжледавіковыя перыяды ён рабіўся спрыяльным для вяртання ў адпаведныя шыроты тыповых для іх раслін і жывёл, і гэтыя прамежкі часу былі прыдатнымі для жыцця першабытных паляўнічых.

Прыродныя ўмовы ўсіх міжледавіковых эпох плейстацэну былі спрыяльнымі для пранікнення на зямлю Беларусі прадстаўнікоў любога звяна роду Могло. Некаторую цікавасць уяўляюць падзеі, што пачаліся ў белавежскага (па схеме беларускіх навукоўцаў) міжледавікоўя, г. зн. ніжняга плейстацэну, калі на тэрыторыю Еўропы прыйшлі першыя гамініды Але, калі б нават гіпатэтычна ўявіць, што ўжо тады яны дасягнулі зямлі Беларусі, усе рэшткі дзейнасці былі знішчаны пад магутнымі адкладамі наступных ледавікоў.

Бярэзінскі ледавік прасунуўся на поўдзень ад Навазыбкава і спыніўся на лініі Злынка — г. п. Хойнікі, рэчышча р. Славечна. Дняпроўскі пакрываў усю тэрыторыю рэспублікі і заходзіў далёка на Украіну. Сожскі ледавік даходзіў да лініі Брэст — Любань — Рагачоў — Касцюковічы. Паазерскі супадаў з мяжой Паазер'я. Такім чынам, толькі ў перыяд сожскага і паазерскага зледзяненняў крайні поўдзень і паўднёвы ўсход рэспублікі былі свабодныя ад лёду. Таму відавочна, што пошукі дамусцьерскага насельніцтва на зямлі Беларусі бесперспектыўныя. Пры вельмі нізкім узроўні сацыяльнай арганізацыі тагачаснага чалавека існаванне яго ля краю ледавіка, ва ўмовах вечнай мерзлаты, у межах перыгляцыяльнай зоны, амаль поўнага бязлесся малаверагоднае, тым больш што эвалюцыя і рассяленне на поўнач палеаантрапаў (неандэртальцаў і неандэрталоідных відаў) ва ўсёй Усходняй Еўропе адносіцца толькі да канца сярэдняга — пачатку верхняга плейстацэну (200—40—35 тыс. гадоў назад).

У сувязі з вышэйпералічанымі абставінамі гісторыю засялення Беларусі магчыма разглядаць пачынаючы з мусцьерскай эпохі, калі чалавек засвоіў прасторы да 55° паўночнай шырыні. Ці ёсць для гэтага падставы? Тыпалагічна мусцьерскім часам датуюцца тры артэфакты, знойдзеныя ў розныя гады (мал. 3):

1, 1928. К. М. Палікарповіч. Урочышча Калодзежкі каля в. Падлужжа Чачэрскага раёна. Правы бераг Сажа. Скрэбла-нож.

2. 1929 г. П. Чайкоўскі. Урочышча Каменная Гара каля пасёлка Сваціілавічы Веткаўскага раёна. Правы бераг Беседзі. Востраканечнік.

3. 1960 г. Л. Д. Побаль, Я. І Бібікаў. Урочышча Чырвоная Горка каля в. Абідавічы Быхаўскага раёна. Левы бераг Дняпра. Скрэбла. Стратыграфічныя назіранні ў месцах іх выяўлення паказалі, што геамарфалагічная сітуацыя не супярэчыць прапанаванаму археолагамі датаванню прылад эпохай мусцье. Аднак пералічаныя знаходкі не маюць выразнай геалагічнай прывязкі і спадарожнай арганікі, колькасць іх не адпавядае элементарным статыстычным патрабаванням, каб служыць пэўнымі доказамі для сур'ёзных высноў Таму можна толькі меркаваць аб з'яўленні чалавека на зямлі Беларусі ў мусцьерскі час, але нельга гэтага сцвярджаць дакладна

Пасля дакладнага вывучэння і агляду мясцовасці са спісу знаходак такога ж узросту неабходна выключыць вядомыя па літаратуры мусцьерскія «стаянкі» каля в. Клеявічы (У. Д. Будзько); Падлужжа-2 (К. М. Палікарповіч), знаходкі каля в. Турышчавічы Кармянскага раёна (У. Д. Будзько). Меркаванні пра гаспадарчую дзейнасць мусцьерскага насельніцтва беспадстаўныя, але ў выпадку пацвярджэння наяўнасці яго слядоў дастатковай колькасцю артэфактаў яна можа быць лёгка рэканструявана, бо палеагеаграфічны фон часу існавання гэтых людзей добра вядомы, таксама як і склад паляўнічапрамысловых відаў, сістэматызаваны на падставе ўсіх назапашаных папярэднікамі даных.

Праблема шляхоў пранікнення чалавека мусцьерскай эпохі на тэрыторыю Беларускага Падняпроўя цесна звязана з вырашэннем пытання аб першапачатковым засяленні Усходне-Еўрапейскай раўніны і Еўропы ў цэлым. Гэта складанае дыскусійнае пытанне будзе ўдакладняцца па меры назапашвання крыніц, але пры гэтым, відаць, ніколі не будзе вырашана адназначна. Працяглы і складаны працэс рассялення чалавека паходзіў з шэрагу цэнтраў, неаднаразова перарываўся па розных прычынах і зноў аднаўляўся. Найбольш верагодным напрамкам пранікнення ў вывучаемы рэгіён з'яўляецца Днепра-Дзяснінскі шлях. Нельга выключыць таксама бугаднястроўскі і данскі варыянты. Сінхроннымі па часе пражывання бліжэйшымі суседзямі і рознымі культурнымі традыцыямі былі жыхары Хатылёва, Чулатава-3, Бетава (Падзясенне), паселішчаў Чырвоная Глінка (Паволжа), Пяшчэрны Лог (Прыкам'е). Адначасовыя знаходкі з вярхоўяў Акі каля в. Белева, паднятыя на водмелях Волгі паміж Казанню і Куйбышавам (цяпер Самара) (Праслаў, 1982), матэрыялы Рыхты і Житомірскага месцазнаходжанняў (Житомірскае Палессе), пячоры Вылотнэ (Польшча), Кенігсаўе (Германія).

**Юравіцкая познапалеалітычная стаянка.** Найбольш ранім палеалітычным помнікам на тэрыторыі Беларусі з вядомых зараз з'яўляецца Юравіцкая стаянка. Адкрыта яна ў 1929 г. К. М. Палікарповічам у час даследавання сярэдняга цячэння р. Прыпяць (Палікарповіч, 1930в. С. 499—501). Аднак існуе і паведамленне аб тым, што помнік адкрыў у 1928 г. мясцовы краязнаўца Ю. Ю. Попель (Исаенко, 1968. С. 47).

Стаянка знаходзіцца ў цэнтры в. Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Размяшчалася яна ў нязначным паніжэнні на пакатым мысе, утвораным схілам даліны р. Прыпяць і старажытным ярам (мал. 4). Ужо ў ходзе абследавання помніка ў 1929 г. К. М. Палікарповічам былі знойдзены два вастрыі тыпу «гравет» і вялікая колькасць раздробленых костак чацвярцічных жывёл. У 1929 і 1931 гг. даследчыкам у Юравічах былі закладзены

два раскопы агульнай плошчай 59 м² (П о л и к а р п о в и ч , 1968. С. 187). У іх былі знойдзены 30 расшчэпленых крэменяў і касцявыя рэшткі 15—20 асобін мамантa, якія залягалі ў чырвона-жоўтым пяску. Адзначалася, што культурны пласт у раскопах фактычна адсутнічае, а стаянка ў свой час была размыта і перамясцілася з больш высокага ўзроўню ў цяперашняе становішча. У 1931 г. на 1 м ніжэй за асноўны гарызонт з культурнымі рэштакамі быў выяўлены яшчэ адзін, але ён не даследаваўся (П о л и к а р п о в и ч , 1968. С. 190).

Аналіз нешматлікага крамянёвага інвентару дазволіў даследчыку датаваць помнік спачатку верхнім арыньякам (каля 22 тыс. гадоў назад па палеалітычнай перыядызацыі таго часу), а некалькі пазней мадленам (15—13 тыс. гадоў назад). Прымалі ўдзел у даследаванні стаянкі такія вядомыя навукоўцы, як геолаг Г. Ф. Мірчынк і палеантолаг У. У. Громаў.

У 1959—1960 гг. Юравіцкую стаянку даследаваў У. Д. Будзько (Б у д ь к о, 1967а. С. 6—44). Былі закладзены два раскопы агульнай плошчай 122 м². Археалагічны ўзрост помніка даследчыкам быў вызначаны часам позняга гравета (каля 27—25 тыс. гадоў назад) і зроблены на аснове падабенства знойдзеных прадметаў мастацтва і ідэнтычнасці крамянёвага інвентару, высновы аб культурнай блізкасці Юравіцкай і Елісеевіцкай стаянак (на Браншчыне). На думку даследчыка, у раскопах выяўлены два гарызонты культурных рэшткаў, прычым у ніжнім знойдзены жытлы, аснова якіх была выкладзена марэннымі валунамі. У сумесным артыкуле М. М. Цапенкі, У. Д. Будзько, Л. М. Вазнечука, прысвечаным геалагічным умовам залягання палеалітычных стаянак Беларусі, указвалася, што культурны пласт Юравіцкай стаянкі пераадкладзены ў межах старажытнага пахаванага яра (Ц а п е н к о і інш., 1961. С. 72—74). Але пасля раскопак 1960 г. У. Д. Будзько прыйшоў да высновы аб заляганні культурнага пласта (у непарушаным стане).

У 1976 г. даследаванне помніка праводзіў У. П. Ксяндзоў (К с е н з о в, 1988. С. 19—29). Раскоп плошчай 87 м² быў закладзены на поўдзень ад раскопаў У. Д. Будзько і з'яўляўся іх непасрэдным працягам. Выяўленыя культурныя рэшткі (мамантавая фауна і расшчэплены крэмень) паходзілі з розных геалагічных пластоў і зафіксаваны на розных узроўнях. Так, знаходкі, расчышчаныя ў заходняй палове раскопу, залягалі ў пласце дрэнна адсартаванага ажалезненага буйназярністага пяску з уключэннем галькі на глыбіні 4,72 м у паўднёвай і 5,38 м у паўночнай частцы, што паказвае на значнае падзенне культурнага пласта стаянкі на поўнач. Косткі маманта часта знаходзіліся адна на другой, непасрэдна датыкаліся ці падзяляліся тонкімі праслойкамі пяску, прычым некаторыя былі разламаны на два-пяць фрагментаў, расцягнутых на нязначную адлегласць. На глыбіні 5,65—6,36 м ад сучаснай паверхні расчышчаны знаходкі ва ўсходняй частцы раскопу (на 1,37 м глыбей, чым у заходняй). Залягалі яны ў несартаваным пясчана-гравійным матэрыяле гарызонту размыву марэны сярод шматлікіх валуноў і ўцалелых ад размыву лінз маламагутных пярэстых аглееных пяскоў. Косткі маманта мелі дрэнную захаванасць, знаходзіліся ў беспарадку, часткова ці поўнасцю пад валунамі як у гарызантальным, так і ў вертыкальным становішчы.

Выклікаюць цікавасць знаходкі ў сярэдзіне раскопу, якія з'яўляюцца звязваючым звяном паміж вышэйапісанымі культурнымі рэшткамі. Верхнія залягалі на схіле размытых пярэстых пяскоў, ніжнія расчышчаны ў несартаваным пясчана-гравійным матэрыяле на дне яра, які ўтварыўся на тэрыторыі помніка.

У раскопе У. П. Ксяндзова знойдзена зусім мала вырабаў з крэменю — усяго 11 экземпляраў. Сыравінай для іх служыў цёмна-шэры крэйдавы крэмень. Сярод знаходак дзве прылады — двайны канцавы скрабок і праколка, а таксама два экземпляры нуклеусаў. Адзін прызматычны, мае дзве скошаныя процілеглыя ўдарныя пляцоўкі, другі па тэхніцы апрацоўкі нагадвае другаснае ядрышча. Астатнія знаходкі прадстаўлены трыма пласцінамі і чатырма адшчэпамі.

Матэрыялы раскопак 1976 г. дазваляюць сцвярджаць аб наяўнасці ў Юравічах аднаго гарызонту з культурнымі рэшткамі. З-за ўрэзвання яра на тэрыторыі стаянкі частка культурных рэшткаў была пераадкладзена ў базальны гарызонт і тоўшчу яравага алювію (знаходкі ва ўсходняй палове). Другая частка пасля пахавання яра ў працэсе плоскаснага змыву была зрушана па схілу ва ўсходнім і паўночным напрамках. Знаходжанне культурных рэшткаў у аснове тоўшчы яравых утварэнняў дазваляе датаваць помнік пачаткам апошняй стадыі вюрмскага (валдайскага) зледзянення. Для помніка ёсць радыевугляроднае датаванне — 26470±420 (ЛУ-125) (А р с л а н о в і інш., 1972. С. 162—164) З-за невялікай колькасці і невыразнасці форм крамянёвага інвентару (мал. 6) параўнаць Юравіцкую стаянку з суседнімі палеалітычнымі помнікамі не ўяўляецца магчымым. За ўсе гады даследаванняў на стаянцы знойдзены такія агульнараспаўсюджаныя прылады, як канцавыя скрабкі на пласцінах і адшчэпах, бакавыя разцы, пласціны з затупленым рэтушшу краем, што не дазваляе канкрэтна вызначыць культурную прыналежнасць помніка.

**Бердыжская стаянка.** Знойдзена ў 1926 г К. М. Палікарповічам падчас планамерных разведак па Сажы. Помнік размешчаны ва ўрочышчы Калодзежкі, якое складаецца з двух яроў — Паўднёвага і Паўночнага, размешчаных на адлегласці 0,3 км на поўдзень ад в. Падлужжа Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці (мал. 5, 7). Замацаваная ў літаратуры назва «Бердыжская стаянка», такім чынам, не адпавядае сапраўднасці Вышыня ўступу другой надпоймавай тэрасы ў раёне стаянкі 15,6 м. На захадзе яна пераходзіць у схіл водападзельнага плато, што ўзвышаецца над далінай на 25 м.

Фрагменты зуба маманта, а пасля стараннага агляду і іншыя касцявыя рэшткі і крэмені са слядамі штучнай апрацоўкі былі знойдзены на схіле крутога берагу даліны Сажа. У першым жа шурфе (10 м²) выяўлена больш за 70 фауністычных рэшткаў маманта, адзінкавыя косці каня і мядзведзя, пласціны, адшчэпы і касцявое вугалле. Яшчэ ў адным з шурфаў, закладзеных на паўднёвым баку Паўднёвага яра, былі знойдзены нуклеус і абломкі крэменю. З'явілася паведамленне аб знаходках у Беларусі першай палеалітычнай стаянкі (Д а ў г я л а, 1927б. С. 358—360).

Далейшае вывучэнне помніка праводзілася ў цесным кантакце і пад непасрэдным кіраўніцтвам вядучых археолагаў 30-х гадоў С. М. Замятніна, П. П. Яфіменкі, Г. А. Бонч-Асмалоўскага, В. І. Громава, Г. Ф. Мірчынка і інш. За 1927—1929, 1938—1939 гг. у Бердыжы шляхам паслядоўнай прырэзкі раскопаў было ўскрыта 240 м². Вядучая роля на першым этапе вывучэння помніка належала С. М. Замятніну (1930). У першай навуковай публікацыі пра Бердыж ён ахарактарызаваў матэрыялы і выказаў меркаванне аб іх познаарыньяцкім узросце. Атрыманы інвентар параўноўваўся з адначасовымі вырабамі стаянак Дона, Аўстрыі і Маравіі. Час назапашвання культурнага слою Г. Ф. Мірчынк (1930) датаваў адной з пачатковых фаз максімальнай нававалдайскай стадыі апошняга зледзянення.

За час Вялікай Айчыннай вайны большая частка калекцыі, атрыманай у Бердыжы, была страчана. Знікла таксама палявая дакументацыя. Далейшая інтэрпрэтацыя здабытых у перадваенныя гады матэрыялаў выкладзена ў артыкулах і дысертацыі У. Д. Будзько (Б у д ь к о, 1962 а, б, 1964). Сярод касцявога матэрыялу ён вылучыў контуры жытлаў, аналагічных па ўладкаванню елісеевіцкім і мезінскім (Б у д ь к о, 1964. С. 34), і ям-сховішчаў, зробленых у традыцыях помнікаў касцёнкаўска-аўдзееўскай культуры. Ён абверг выснову К. М. Палікарповіча (П о л и к а р п о в и ч, 1968. С. 29), які пры падвядзенні вынікаў раскопак даваенных гадоў у Бердыжы заключыў: «Жылога комплексу няма, яма не з'яўляецца зямлянкай, а ўяўляе сабой гіганцкі размыў, створаны яшчэ ў чацвярцічны час падаючай вадой Ён паступова павялічваўся, пакуль не дасягнуў памераў, устаноўленых раскопкамі».

Знаходка на стаянцы вострakанечніка мусцьерскага ўзору ў раскопе 1928 г. прадвызначыла шлях далейшых пошукаў, якія аднавіліся толькі ў 50-я гады. К. М. Палікарповіч зрабіў спробу адшукаць мусцьерскі культурны гарызонт на процілеглым паўночным схіле Паўднёвага яра (Падлужжа-2). У працэсе раскопак у вяршыні яра ў чырвона-бурым марэнным супеску было знойдзена каля 1 тыс. крэменяў, у масе сваёй не дыягнастычных, моцна абкачаных, але ў шэрагу выпадкаў падобных па форме да мусцьерскіх вырабаў Гэта пераканала даследчыка ў двухслойнасці помніка і дазволіла зрабіць выснову (П о л и к а р п о в и ч, 1957б. С. 43) аб тым, што «засяленне перыгляцыяльнай прасторы на поўнач ад 52-й паралелі адбылося ў сярэдзіне ледавіковага перыяду, у эпоху існавання першабытнага статку і неандэртальскага тыпу чалавека».

У. Д. Будзько, геолагі Л. М. Вазнячук, М. М. Цапенка, палеантолагі В. В. Шчаглова, М. В. Мотуз у 60-я гады працягвалі вывучэнне Бердыжа на плошчы 130 м².

Аднак асноўнае пытанне — колькі ж культурных пластоў у Бердыжы — зноў не было вырашана. Склалася думка (Б у д ь к о, В о з н я ч у к, 1969а. С. 11) пра наяўнасць двух культурных пластоў: паселішча ранняй пары позняга палеаліту, якое адносілася да помнікаў касцёнкаўска-аўдзееўскай культуры, і больш позняга — уласна Бердыжскай стаянкі. Пры гэтым абодва пласты былі размешчаны, на думку аўтараў, на паўднёвым схіле Паўднёвага яра. Верхні пласт сфарміраваўся за кошт пераадкладаў з вярхоўяў яра, а асноўны культурны слой Бердыжскай стаянкі быў пераадкладзены і маладзейшы за верхні. Відаць, гэта сцвярджэнне з'явілася вынікам вывучэння помніка шляхам шурфоўкі схілу, адклады якога маюць падзенне да 4 м па вертыкалі на кожныя 6—10 м плошчы па гарызанталі.

У 1970 г. у лабараторыі ЛДУ Х. А. Арсланавым па зубу маманта была атрымана першая дата помніка метадам $^{14}$С (ЛУ—104 23430±180). У 80-я гады ў лабараторыі Оксфардскага універсітэта В. А. Софер атрымана другая дата (OxA-716 15100 ± 250), што значна ўскладніла ўяўленні аб сапраўдным узросце помніка.

У 70-я гады А. Г. Калечыц правяла зачысткі схілаў праз усё папярочнае сячэнне яра даўжынёй звыш 25 м і дадаткова вывучыла 156 м² культурнага пласта. Гэтыя работы пацвердзілі наяўнасць ва ўрочышчы Калодзежкі толькі аднаго познапалеалітычнага пласта, які меў рэзкае падзенне ў бок тальвега яра, што немагчыма было зафіксаваць пры вывучэнні пластоў у розных шурфах. Пласт гэты быў выяўлены на абодвух схілах яра, але лепш прадстаўлены на паўднёвым. У асноўным ён, безумоўна, пераадкладзены, і

толькі невялікія, амаль не парушаныя кавалкі маглі ўцалець на старажытных схілах.

Культурны пласт Бердыжскай стаянкі дзякуючы заляганню ў тоўшчы добра прыкметнага шэра-зялёнага супеску саліфлюкцыйнага характеру лёгка вылучаецца ў разрэзе. Ён пададзены пераважна касцявым матэрыялам рознай захаванасці: ад цэлых і фрагментаваных рэшткаў да касцявога тлену і крэменем, у тым ліку вырабамі з другаснай апрацоўкай. Змяняючыся па магутнасці (як па гарызанталі, так і па вертыкалі), культурны пласт пастаянна паднімаўся ўверх і спускаўся ў глыб паўднёвага схілу яра і пры гэтым меў выразны напрамак да тальвега яра і да даліны Сажа

Гранічная магутнасць назіралася ў зоне паніжэння (тальвега старажытнага яра), што існавала да пачатку саліфлюкцыйных працэсаў, і мела шырыню ад 1,5 да 4 м Распаўсюджанне культурнага пласта, які быў уцягнуты ў саліфлюкцыйны паток далей к тальвегу, адбывалася ў выніку перапаўнення паніжанай часткі і натуральнага расцякання тоўшчы ў бок паніжэння схілу. Напрамак паніжэння, запоўненага культурнымі рэшткамі, адпавядае напрамку тальвега старажытнага яра, а яго аснова — днішчу. Плошча распаўсюджання суглінкаў і супескаў з культурнымі рэшткамі на паўднёва-ўсходнім схіле роўная прыкладна 500 $м^2$.

Асобныя знаходкі сустракаліся ўздоўж абодвух схілаў яра, але ў адрозненне ад паўднёвай мысавай часткі тут яны пададзены толькі крамяневымі вырабамі.

Суровыя кліматычныя ўмовы часу засялення стаянкі чалавекам, значная (больш за 2000 адзінак) колькасць касцявых рэшткаў, сярод якіх цэлыя чарапы, біўні, сківіцы, рэбры маманта, а таксама косткі са штучна прабітымі адтулінамі, блізкасць крамянёвай індустрыі паселішча да традыцый помнікаў віленлорфска-касцёнкаўскай культуры дазваляюць меркаваць аб наяўнасці ў Бердыжы жылых комплексаў. Аднак рэканструкцыя іх немагчыма з-за поўнага разбурэння пласта.

Палеанталагічныя знаходкі Бердыжа ў розныя гады вывучалі В. І. Громаў, В. В. Шчаглова, В. І. Зубарава, П. Ф. Каліноўскі і інш. Яны пададзены як цэлымі, так і фрагментаванымі рэшткамі ўсіх частак шкілетаў маманта, што належалі прыкладна 50 асобінам, а таксама адзінкавымі знаходкамі 14 іншых відаў млекакормячых — тыповых прадстаўнікоў перыгляцыяльнай фауны.

Сыравінай для вырабу прылад бердыжскім жыхарам служыў так званы сожскі валунны крэмень характэрнай шэрай афарбоўкі з кропкавымі ўкрапваннямі (мал. 8, 9). Ён у вялікай колькасці сустракаецца ў наваколлях стаянкі як рассыпаным на паверхні, так і ў каранным заляганні сярод крэйдавых адкладаў, што выходзяць вонкі ў бартах даліны Сажа. Асноўная маса артэфактаў пакрыта малочна-блакітнай пацінай, абкачана і мае характэрны матавы бляск. У сувязі з гэтым сляды спрацаванасці ці рэтушы па краях вырабаў часта праблематычныя. Толькі асобныя экземпляры, відаць, хутка закансерваваныя ў тоўшчы суглінку і на якіх не адбіўся нівеліруючы эфект знаходжання ў водным патоку, даюць уяўленне аб характары другаснай апрацоўкі.

Значную групу складаюць канкрэцыі і бессістэмна расколатыя крэмені (877 экз.). Даўжыня іх не перавышае 6 см па доўгай восі, але часцей складае 3—5 см Тэхніка першаснага расколвання заснавана галоўным чынам на прызматычным адна- і двухпляцовачным нуклеусе, са зняццем нарыхтовак з большай часткі перыметра (мал. 9:14, 15). Першаснае расколванне накі-

равана ў першую чаргу на атрыманне пласцін (248 экз.), у тым ліку ўкарочаных (18 экз.), што служылі асноўнай формай нарыхтоўкі. Пераважаюць пласціны даўжынёй 3—5 см. У двухпляцовачных нуклеусаў характэрнае размяшчэнне пляцовак пад значным вуглом адзін да аднаго. На паселішчы практычна няма нуклеусаў, што адпавядаюць параметрам пласцін, даўжыня якіх дасягала 10 см і больш, а шырыня — 3—4 см. Адсутнічаюць яўныя сляды зняцця мікрапласцін. Ёсць адзінкавыя нуклеусы тарцовага сколвання. Але і саміх мікрапласцін, лускавінак, як і рэшткаў дробных жывёлін, на паселішчы вельмі мала. Не выключана, што прычына гэтага заключаецца ў пераносе іх водным патокам у даліну Сажа.

Тэхніка другаснай апрацоўкі характарызуецца адсутнасцю двухбаковай плоскай рэтушы на паверхні прылад, шырокім ужываннем разцовага сколу, прыёму вентральнага ўсячэння канцоў, наяўнасцю бакавой вынятк. Характэрная крутая і паўкрутая рэтуш, якая зрэдку захоплівала ўвесь край нарыхтоўкі. Асноўную тэхніка-марфалагічную групу прылад складаюць разцы (мал. 8: 7—12). Пераважаюць аднагранныя на вугле зламанай пласціны. Двухгранныя бакавыя, нуклепадобныя, камбінаваныя — адзінкавыя. Рэтушны разец зроблены на пласціне з усечаным коса рэтушаваным канцом. Скрабкі выраблены на канцах пакарочаных пласцін, радзей адшчэпаў (мал. 9: 2—12). Лязо ў іх выпукла-пукатае, дугападобнае. Краі нарыхтовак не рэтушаваліся і, як правіла, былі паралельнымі. Сярэднія памеры 4х2,5 см. Знойдзены адзін двайны канцавы і адзін мысападобны скрабкі, апошні выраблены на канцы звужанай пласціны. Рэтуш ніколі не заходзіць на краі нарыхтовак. Найбольш важную тэхніка-марфалагічную групу складаюць наканечнікі з бакавой выемкай і нажы касцёнкаўскага тыпу (мал. 8: 1—5). Наканечнікі выраблены на дастаткова масіўных пласцінах даўжынёй да 6 см. Яны маюць аднолькавую форму, што дасягалася шляхам нанясення крутой нерэгулярнай рэтушы па адным краі (у двух выпадках вентральнай), а потым лускаватага падчэсвання канцоў нарыхтоўкі.

Бердыжскія наканечнікі з бакавой выемкай займаюць прамежкавае становішча паміж двума тыпамі (так званымі тыповымі і атыповымі) аналагічных вырабаў з культурнага слою Касцёнкаў-1. Ад першага тыпу касцёнкаўскіх наканечнікаў бердыжскія адрозніваюць адсутнасць добра выяўленага дугападобнага краю, процілеглага краю з выемкай, а таксама не вельмі рэгулярная вентральная рэтуш. Другі тып касцёнкаўскіх наканечнікаў больш мініяцюрны і пазбаўлены прыкмет другаснай апрацоўкі, акрамя вентральнай рэтушы, што вылучае чаранок і зубец, якая ёсць на наканечніках Бердыжа.

Вельмі блізкія да апублікаваных па матэрыялах Касцёнкаў-1 (Б я л я е в а, 1977) нажы касцёнкаўскага тыпу, якія ўяўляюць сабой масіўныя пласціны з усечаным канцом і ўтанчэннем паверхні плоскімі сколамі. Аднак і тут мае месца некаторая спецыфіка. У бердыжскіх нажоў звычайна падчэсаны толькі адзін канец, у той час як у касцёнкаўскіх, як правіла, абодва (мал. 9:1). Астатнія катэгорыі вырабаў малалікія. Гэта прылады з выемкай (скоблі) (мал. 8: 18, 19), грубы масіўны свердзел на канцы пласціны і пяць у рознай ступені выражаных джалаў на натуральна завостраных канцах адшчэпаў і невялікіх пласцін, якія падпраўлены рэтушшу (мал. 8:20, 21).

Невялікую групу складаюць мікрапрылады (мал. 8:13—17, 22). Мікрапласціны Бердыжа ўключаюць групу вастрый, у той час як у Касцёнках вызначальнай формай для мікрапласцін з'яўляецца прамавугольнік. У сувязі з тым што гэта тыпова для помнікаў вілендорфска-касцёнкаўскай

археалагічнай культуры, магчыма, частка бердыжскіх мікравастрый — механічныя дамешкі. Астатнія катэгорыі вырабаў зусім малалікія Гэта скоблі, грубае масіўнае скрэбла на канцы пласціны і пяць колючых прылад (праколкі, вастры) на натуральна завостраных краях адшчэпаў і невялікіх пласцін, падпраўленых рэтушшу.

У шэрагу выпадкаў у якасці прылад для сячэння (сякеры, долаты) выкарыстоўваліся спрацаваныя нуклеусы Найбольш выразныя з іх маюць злёгку прыкметны абушок, а адзін выраб — прыкметныя элементы перахопу.

Калі меркаваць па саставу знаходак, гаспадарчая дзейнасць жыхароў Бердыжа грунтавалася на вырабе паляўнічай зброі (наканечнікаў стрэл), прылад перапрацоўкі прадуктаў палявання і збіральніцтва (скрабкі, нажы, разцы, праколкі, скоблі і інш.), утылізацыі гэтых прадуктаў (косці, скуры — будаўнічы матэрыял), што дазваляла ажыццяўляць функцыі здабычы і размеркавання сродкаў да існавання.

Культурна-гаспадарчая дзейнасць насельніцтва гэтай пары можа быць рэканструявана як спецыялізаванае калектыўнае паляванне на статкавых млекакормячых, пераважна маманта, ва ўмовах адкрытых прастораў, што абумоўлівала сезонна-аседлы вобраз жыцця. З'яўленне новых тэхнічных ідэй, якія знайшлі ўвасабленне ў пашырэнні асартыменту прылад, будаўніцтве ўцепленых жытлаў, выкарыстанні костак у якасці паліва, будаўнічага матэрыялу, сыравіны для вытворчасці прылад і прадметаў мастацтва, сведчыць аб пошуку і выпрацоўцы сістэмы аптымальнай адаптацыі грамадства ва ўмовах жорсткага экалагічнага крызісу.

Крыніц для рэканструкцыі духоўнага жыцця палеалітычных жыхароў Бердыжа няма. Па аналогіі з матэрыяламі помнікаў суседніх тэрыторый (Мезін, Елісеевічы і інш.) можна меркаваць пра наіўна рэалістычныя і таталістычныя ўяўленні аб навакольным свеце. Па наяўных даных нельга зрабіць і якія-небудзь палеадэмаграфічныя высновы.

Спецыфічныя прыкметы крэмнеапрацоўкі, асабліва наяўнасць такіх культуравызначальных прылад, як наканечнікі з бакавой выемкай і нажы касцёнкаўскага тыпу, з некаторымі варыяцыямі ўласцівы цэламу колу помнікаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, так званага вілендорфска-паўлаўска-касцёнкаўскага адзінства (Григорьев, 1968) ці, як лічаць А. М. Рагачоў і М. В. Аніковіч (Рогачев, Аникович, 1984. С. 206), вілендорфска-касценкаўскай археалагічнай культуры, якая мае лакальныя варыянты. У гэтае культурнее адзінства ўваходзяць паселішчы на тэрыторыі Аўстрыі (Вілендорф), былой Чэхаславакіі (Паўлаў, Дольні-Вестаніцэ), Польшчы (Кракаў-Спадзіста), стаянка Аўдзеева каля Курска, верхні слой стаянак Касцёнкі-1, Касцёнкі-14, Касцёнкі-18 ля Варонежа. У той жа час існавалі паселішчы Хатылёва-2 на Дзясне, Сунгір пад Уладзімірам, Моладава-5 (сёмы пласт) на Днястры і інш.

Усе гэтыя паселішчы былі заснаваны ў інтэрвале 24—21 тыс. гадоў да нашых дзён. Як лічаць названыя аўтары, вілендорфска-касцёнкаўская культура ўзнікла ў Цэнтральнай Еўропе і паступова распаўсюдзілася на Чэшска-Мараўскае, Малапольскае ўзвышшы і Усходне-Еўрапейскую раўніну, што прывяло да фарміравання лакальных варыянтаў названай культуры. Бердыжскае паселішча — найбольш паўночны з гэтага кола помнік На думку аўтара артыкула, палеагеаграфічныя асаблівасці рэгіёна дазваляюць сцвярджаць, што найбольш верагодным накірункам пранікнення чалавека ў

Пасожжа, калі гэта адбылося ў канцы максімума зледзянення, з'яўляўся шлях па Дзясне, г. зн. з паўднбвага ўсходу.

## 2. ПОМНІКІ ЛІНГБІЙСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У самым канцы ледавіковай эпохі, калі адбывалася інтэнсіўнае пацяпленне, прыбалтыйская зона Сярэдняй Еўропы, як і Беларусь у цэлым, стала прыдатная для чалавечага існавання. Пры гэтым калі паўднёвы ўсход нашай краіны пачаў засяляцца паўторна, то на Панямонне і, магчыма, у Заходняе Палессе чалавек хутчэй за ўсё пранікаў упершыню ў сваёй гісторыі. Гэты працэс пашырэння айкумены прыпаў на завяршальную фазу старажытнага каменнага веку — на фінальны палеаліт, які паміж Дняпром і Нёманам пачаўся не пазней 10-га тысячагоддзя да н. э. і доўжыўся да канца 9-га тысячагоддзя да н. з., калі ў гісторыі Зямлі цалкам завяршылася ледавіковая эпоха.

У фінальным палеаліце значныя тэрыторыі Беларусі на працяглы час сталі сумежжам тундры і лесу, якое адпаведна кліматычным ваганням (пацяпленням і часовым пахаладанням) перамяшчалася ў шыротным кірунку. У гэты ж час на бяскрайніх раўнінах ад Ютландыі да Верхняга Падняпроўя распаўсюдзіліся супольнасці паляўнічых, узброеныя нябачанымі раней лукам і стрэламі з крамянёвымі лістападобнымі наканечнікамі. Асновай іх існавання стала высокаспецыялізаванае паляванне пераважна на паўночнага аленя. Адпаведна сезонным міграцыям аленяў вымушаны былі перамяшчацца і самі здабытчыкі, чым і быў абумоўлены рухавы лад іх побыту.

Старажытнейшымі фінальнапалеалітычнымі помнікамі Беларусі з'яўляюцца стаянкі дзвюх культур — грэнскай у Падняпроўі і лінгбійскай на Немане і Верхняй Прыпяці. Менавіта са з'яўленнем лінгбійскага насельніцтва і трэба звязваць першапачатковае асваенне чалавекам захаду нашага краю.

Лінгбійская культура ўпершыню вылучана Г. Кларкам у 1936 г. на падставе матэрыялаў стаянкі Лінгбі ў Даніі. У далейшым, дзякуючы працы шэрагу даследчыкаў з Германіі, Даніі, Польшчы, удакладняліся характэрныя рысы культуры, яе храналогія, эвалюцыя, межы распаўсюджання. На бліжэйшых да Беларусі тэрыторыях лінгбійскія комплексы або знаходкі тыловых наканечнікаў стрэл выяўлены на Падляшшы і ў Мазовіі ў Польшчы (S u l g o s t o w s k a, 1989 (мал. 7)), на Украінскім Палессі (З а л и з н я к, 1989а. С. 13). На поўдні Літвы Р. Рымантэне (1971. С. 20—37) у свой час вылучыла групу стаянак з масіўнымі чаранковымі наканечнікамі з аднабаковай рэтушоўкай. Пазней яна аднесла іх да культуры Лінгбі (R i m a n t i e n ė, 1984. С. 17—25). Знаходкі з падобнымі рысамі выяўляліся і сярод крамянёвых матэрыялаў з Заходняй Беларусі (S u l g o s t o w s k a, 1989. S. 132, 133) і нават на Дняпры і Сажы (З а л и з н я к, 1989а (мал. 1)). Даследаванні апошніх гадоў на захадзе Беларусі, і асабліва на Панямонні, пашырылі і ўдакладнілі звесткі пра ўсходнюю перыферыю лінгбійскай культуры.

Крамянёвы інвентар на стаянках культуры Лінгбі вылучаецца масіўнасцю і даволі абмежаванай колькасцю тыпаў прылад. Сярод апошніх найбольш характэрныя наканечнікі стрэл, скрабкі і разцы. Зыходным матэрыялам для іх атрымання пераважна з'яўляліся масіўныя і няроўна аграненыя пласцінчатыя адшчэпы і пласцінкі. Яны сколваліся з аднапляцовачных нуклеусаў, адшчэпні якіх фармаваліся больш-менш па перыметру. У рэдкіх выпадках сустракаюцца двухпляцовачныя нуклеусы.

Вызначалынымі элементамі культуры з'яўляюцца наканечнікі стрэл тыпу Лінгбі. Гэта былі экземпляры, сфармаваныя на таўставатых пласцінках з захаванымі ўдарнымі бугаркамі. У іх шырокія насады-чаранкі, выяўленыя па баках са спінкі стромкай рэтушшу. Пры гэтым і брушка дадатковая падпрацоўка сустракаецца вельмі рэдка (мал. 10: 1—5). Звычайна не рэтушавалася і пяро. У той жа час у комплексах з помнікаў культуры ў невялікай колькасці сустракаюцца наканечнікі, падобныя на арэнсбургскія і свідэрскія, — мініяцюрныя формы з вузкім насадам і рэтушшу на пяры і формы з плоскай падрэтушоўкай насада і брушка.

Лінгбійскія скрабкі пераважна кароткія канцавыя, у рэдкіх выпадках з падрэтушоўкай на бакавінах. Сустракаюцца і двухканцавыя акруглыя. Сярод разцоў пераважаюць бакавыя (рэтушныя) даволі кароткія экземпляры, аднак сустракаюцца вуглавыя, клінаватыя, а таксама вуглавыя на зламаных пласцінах.

Гэтыя матэрыялы, як лічаць даследчыкі, часам суправаджаюцца расшчэпленымі крэменямі са скошаным рэтушаваным канцом (Kozłowski J., Kozłowski S., 1977. S. 191). Звяртае ўвагу і тое, што скрабкі і разцы часам маюць насад.

Большасць даследчыкаў арэал помнікаў лінгбійскай культуры распаўсюджваюць ад Ютландыі, Паўднёвай Швецыі і нізоўяў Эльбы на захадзе да Панямоння на ўсходзе. Пры гэтым тут вылучаецца шэраг буйнейшых анклаваў сярод малазаселенай (або маладаследаванай) «лінгбійскай» тэрыторыі — усход Даніі, поўдзень Швецыі, правабярэжжа ніжняй і сярэдняй Эльбы, раёны ў вярхоўях Одры і Віслы, Сярэдняе Панямонне (Kozłowski J., Kozłowski S. (карта 13)). Наканечнікі ж тыпу Лінгбі, як адзначалася вышэй, выходзяць за межы арэала помнікаў, на ўсходзе — да Верхняга Падняпроўя, правабярэжжа Ніжняй Прыпяці (Зализняк, 1989а (мал. 1)).

Раскопкі помнікаў каменнага веку на захадзе Беларусі засведчылі, што і тут маюцца стаянкі з выразнымі рысамі лінгбійскай культуры.

Пакуль што адзіная стаянка з комплексам знаходак тыпу Лінгбі знаходзіцца каля в. Кавальцы (**Кавальцы-2**) Гродзенскага раёна. Праз 0,7 км на поўдзень ад Кавальцоў і праз 0,4—0,5 км вышэй па леваму берагу Нёмана ад вусця нёманскай прытокі Горніца на краі тэрасы вышынёй 18—20 м над узроўнем вады ў Нёмане знаходзіцца валападобнае шырокае ўзвышэнне вышынёй да 1,5 м, скіраванае з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Паміж гэтым валам і Нёманам выяўляюцца вузкія ўступы двух узроўняў поплаву і яшчэ дзвюх тэрас. На другой тэрасе размешчаны хутар. Менавіта насупраць хутара паласой каля 300 м і шырынёй у 50 м і сустракаюцца сляды паселішча з нешматлікімі расшчэпленымі крэменямі на паверхні. Крэмені больш прыкметныя на заходнім схіле валападобнага ўзвышэння, які разворваецца.

Крамянёвыя вырабы на «эразійнай тэрасе» паміж вусцем Горніцы і колішнім фальваркам Панямунь (сляды яго захоўваюцца на поўдзень ад стаянкі ў раёне садоўніцкага таварыства) упершыню былі выяўлены І. і Л. Савіцкімі ў 1934 г. У 1970—1971 гг. крамянёвыя знаходкі на мысе паміж правым берагам Горніцы і схілам левага высокага берага Нёмана збіраліся геалагічнай экспедыцыяй Інстытута геахіміі і геафізікі АН Беларусі пад кіраўніцтвам Г. І. Гарэцкага. Сляды першабытнага паселішча на валападобным узвышэнні насупраць хутара выяўлены ў 1977 г. М. М. Чарняўскім. Тут ім праводзіліся зборы пад'ёмнага матэрыялу, а ў 1982 г. выкананы невялікія раскопкі (24 $м^2$).

На самай вяршыні ўзвышэння стратыграфія была наступнай: 0,00—0,20 м — ворны пласт светла-шэрага навеянага пяску без знаходак; 0,20—0,35 м — пласт шэрага светлаватага пяску са слядамі вуглістасці, у аснове пласта пачынаюць сустракацца расшчэпленыя крэмені, 0,35—0,55 м — пласт жоўта-шэрага светлаватага пяску з дробнымі гумусаванымі плямамі і з рэдкімі знаходкамі артэфактаў; ніжэй 0,55 м залягае мацерыковы светла-шэры, жаўтаваты пылаваты пясок, у верхняй частцы якога сустракаюцца дробныя артштэйны.

Крэмень, выяўлены на помніку, пераважна светлаваты, шэры. Пры гэтым канкрэцыі, з якіх атрымліваліся артэфакты, мелі зменлівую афарбоўку — ад шэрай, цемнаватай каля скарынкі да светла-шэрай у сярэдзіне канкрэцыі. Калі меркаваць па крэйдавай скарынцы некаторых знаходак, крэмень мог у пэўнай ступені здабывацца на крэйдавых адорвенях, якіх шмат у Гродзенскім раёне. Трэба адзначыць, што пацінізацыя прыкметная толькі на адзінкавых знаходках.

Зыходным матэрыялам для вырабу прылад працы на помніку служылі пераважна масіўныя і тоўстыя пласцінчатыя адшчэпы і пласціны. Выкарыстоўваліся для гэтага і вялікія адшчэпы. Артэфакты вылучаюцца масіўнасцю. Гэта ж адносіцца і да рэтушаваных вырабаў.

Нарыхтоўкі атрымліваліся з буйных нуклеусаў (мал. 10: 15). Яны амаль выключна аднапляцовачныя, блізкія да прызматычных і вельмі масіўныя. Практычна ўсе пляцоўкі сфармаваны адным папярочным сколам і не маюць дадатковай падпраўкі. Адшчэпні, як правіла, заходзяць і на бакавіны. На тыльных баках нуклеусаў захавалася скарынка або, што некалькі радзей, негатывы вялікіх падрыхтоўчых сколаў ці плоскасці расшчаплення канкрэцыі. У адзінкавых выпадках адшчэпня фармавалася па перыметру нуклеуса.

Прыладамі працы і паляўнічай зброі, атрыманымі ў раскопе і сабранымі на паверхні помніка, у большасці з'яўляюцца наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы (мал. 10: 7—15).

Наканечнікі стрэл (2 экз.) усе буйныя пласцінчатыя. Масіўныя і шырокія іх чаранкі выдзелены стромкай рэтушшу толькі са спінкі, з брушка няма нават слядоў падпраўкі. Не апрацаваныя і пёры. Адзін асабліва вялікі экземпляр мог з'яўляцца і наканечнікам кап'я. Шырыня яго пяра 3,2 см, таўшчыня 1,1 см. Вастрыё адламана, але ўвесь выраб мог мець даўжыню да 10 см. Падобнае такое ж вялікае вастрыё знойдзена каля Кашэт (Літва) на мяжы Воранаўскага раёна (S u l g o s t o w s k a, 1989 (табл. XVII: 9)).

Пераважная большасць разцоў бакавыя (рэтушныя), сфармаваныя часцей на пласцінчатых нарыхтоўках (мал. 10: 8, 11). Каля паловы з іх двайныя. Разцовыя сколы нярэдка праходзяць праз усю даўжыню бакавін. Звяртае ўвагу асаблівая масіўнасць вырабаў. Адзінкава прадстаўлены клінаватыя формы.

Скрабкі амаль усе канцавыя і таксама пераважна на пласцінах. Яны вельмі высокія, апрацаваныя па скрабніцах буйной рэтушшу (мал. 10: 7, 10). Але сустракаюцца экземпляры і на адшчэпах, сярод якіх ёсць і дэльтападобныя (мал. 10: 13). Бакавіны вырабаў, як правіла, дадаткова не рэтушаваны. Вылучаецца тоўсты скрабок з пласцінчатага адшчэпа, які мае чаранок, выяўлены са спінкі падчэскай і буйной рэтушшу. Невялікія ўчасткі са стромкай краявой рэтушшу мае і невялікая колькасць адшчэпаў няўстойлівай формы. Важна адзначыць, што па колькасці скрабкі ўступаюць разцам. Так, у раскопе 1983 г. знойдзена пяць разцоў і толькі два скрабкі. Прыкладна такія ж суадносіны і ў пад'ёмным матэрыяле.

На розных крамянёвых нарыхтоўках фармаваліся скоблі, пераважна з вялікім радыусам. Сустракаюцца расшчэпленыя крэмені, у асноўным пласціны, з завостранай рэтушшу (мал. 10: 14). Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены скрэблы, а таксама пласцінкі і адшчэпы са скошанымі канцамі (мал. 10: 9, 12). Апошнія зноў жа масіўныя і на скосах маюць буйную рэтуш.

У зборах І. і Л. Савіцкіх на «эразійнай тэрасе» (стаянка 2), што можа адпавядаць нашаму месцазнаходжанню, маюцца два масіўныя пласцінчныя наканечнікі (S u l g o s t o w s k a, 1989 (табл. XXIV: 1, 2)). Яны, хоць і не адпавядаюць класічным лінгбійскім узорам, сустракаюцца на помніках гэтай культуры.

Рэтушаваныя крэмені сярод знаходак у Кавальцах-2 займаюць нязначную частку (менш 4%). У той жа час нуклеусаў і розных нуклепадобных абломкаў тут шмат. Гэта сведчыць, што жыхары паселішча актыўна займаліся крэмнеапрацоўкай.

На плоскім высокім мысе каля вусця Горніцы, мяркуючы па вялікай колькасці нуклеусаў і адыходаў першаснага расшчаплення крэменю, знаходзілася майстэрня-стаянка Горніца (Кавальцы-1). Частка матэрыялу з мыса выглядае адначасовай знаходкам з Кавальцоў-2. Тут знойдзены дзве масіўныя пласціны, падобныя па форме наканечнікам з левабаковай рэтушоўкай са спінкі чаранкоў. Магчыма, яны таксама адносяцца да лінгбійскага тыпу.

Для вызначэння храналогіі помніка Кавальцы-2 істотна тое, што сярэдні (13-мятровы) тэрасавы ўзровень, які непасрэдна прымыкаў да падножжа тэрасы з нашай стаянкай, зусім пазбаўлены знаходак каменнага веку. Геалагічнымі ж даследаваннямі вызначана, што ўступ такой вышыні ў раёне Гродзенскага ўзвышша аформіўся ў сярэднім дрыясе (В о з н я ч у к, В а л ь ч и к, 1978. С. 82—84). Значыць, у час існавання Кавальцоў-2 ён хутчэй за ўсё яшчэ заліваўся паводкамі і быў недаступны засяленню. З гэтага вынікае, што археалагічны комплекс 18-мятровага ўзроўню вельмі архаічны і можа датавацца не пазней 10-га тысячагоддзя да н. э. Стратыграфічныя і паліналагічныя назіранні ў Цэнтральнай Еўропе дазваляюць змясціць лінгбійскія старажытнасці ў межах 10—9-га тысячагоддзя да н. э. (K o z ł o w s k i J., K o z ł o w s k i S., 1977. S. 192). Такім чынам, Кавальцы-2 з'яўляюцца найбольш старажытным паселішчам лінгбійцаў на Беларусі. Гэта можа пацвярджаць і тое, што на іх яшчэ няма ні арэнсбургскіх, ні свідэрскіх рыс, не прасочваюцца тут і пазнейшыя паўднёвыя ўплывы ў выглядзе выразных ланцэтных вастрый.

Нешматлікія, як можна меркаваць па беднасці інвентару і надзвычай рэдка размешчаных стаянках, плямёны лінгбійскай культуры ў даволі цёплым алеродзе ціснуліся да прыбалтыйскіх раўнін з тундравай і лесатундравай расліннасцю. Пахаладанне (8800—8300 гадоў да н. э.), якое наступіла ў дрыясе, адцясніла на поўдзень мяжу лясной зоны. Тундра і лесатундра пашырыліся на Палессе, а месцамі і да Прыкарпацця, што выклікала рух у тым жа кірунку і лінгбійцаў, адаптаваных да жыцця ў халодных экасістэмах. Пра такія перамяшчэнні фінальнапалеалітычнага насельніцтва могуць сведчыць знаходкі позналінгбійскіх наканечнікаў з дамешкай экземпляраў арэнсбургскага характару на стаянках у сярэднім цячэнні Росі на Ваўкавышчыне (Краснасельскі-5), дзе прысутнічаюць і масіўныя разцы (Ч а р н я ў с к і, К у д р а ш о ў, Л і п н і ц к а я, 1996. С. 56—61 (мал. 35)), а таксама падобныя матэрыялы з Верхняй Прыпяці (И с а е н к о, 1977; S u l g o s t o w s k a, 1989 (табл. XIX)) (мал. 10: 1—6).

Некаторыя даследчыкі звязваюць паходжанне пінгбійскай культуры з прасоўваннем пэўных груп познамадленскага насельніцтва з Францыі на паўночны ўсход, што было выклікана алеродскім пацяпленнем (Kozłowski J., Kozłowski S., 1977. S. 192). Сама ж яна ў сваю чаргу, верагодна, стала прычынай для фарміравання ў прыбалтыйскай зоне Сярэдняй Еўропы, асабліва на захад ад Віслы, культуры арэнсбургскай (Schild, 1975; Kozłowski J., Kozłowski S.,1977. S. 193), якая развівалася тут у 9-м тысячагоддзі да н. э. Элементы апошняй, асабліва наканечнікі стрэл паменшаных формаў з аднабаковай рэтушшу са спінкі на чаранках, даволі шырока вядомыя на захадзе Беларусі, дзе яны, аднак, звычайна сустракаюцца разам з позналінгбійскімі і асабліва свідэрскімі матэрыяламі. Аднак пра знаходжанне на нашай тэрыторыі ўласна арэнсбургскага насельніцтва гаварыць пакуль заўчасна з-за недастатковай даследаванасці пытання.

## 3. СВІДЭРСКАЯ КУЛЬТУРА

Свідэрская культура — найбольш прыкметная і значная з'ява ў фінальным палеаліце лясной зоны краін Усходняй Еўропы, традыцыі якой стрыжнем праходзяць праз мясцовы мезаліт і праглядваюцца ў неаліце. Свідэрскія помнікі знойдзены на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны. Пад уплывам свідэрскага насельніцтва склаліся бутаўская, днепра-дзяснінская, кундская, нёманская і іншыя мезалітычныя культуры.

Першыя свідэрскія помнікі былі выяўлены на тэрыторыі Польшчы яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. Паступовае назапашванне матэрыялу паказала, што для калекцый крамянёвых прылад свідэрскіх стаянак характэрна ўстойлівае спалучэнне пэўных адзнак як у іх форме, так і ў тэхнічных прыёмах апрацоўкі. Падобнасць тыпалагічных даных інвентару прывяла польскіх археолагаў да думкі аб аб'яднанні гэтых помнікаў у адну роднасную групу. Так, Л. Казлоўскі, які даследаваў паселішча Хвалібогавіца, прапанаваў у 1919 г. для помнікаў з такім інвентаром тэрмін «хвалібогавіцкая індустрыя» (Kozłowski, 1936). С. Крукоўскі, які вывучыў крамянёвы інвентар стаянкі Свідры Вельке, вылучыў помнікі такога тыпу пад назвай «свідэрская індустрыя». Тэрмін «свідэрская культура» з'явіўся пасля апублікавання ў 1936 г. прац Г Кларка і Л. Казлоўскага. Пэўныя колькасныя і якасныя змены свідэрскіх комплексаў дазволілі польскім даследчыкам вылучыць некалькі этапаў у іх развіцці. На аснове тыпалагічнага аналізу пад'ёмнага матэрыялу стаянкі Свідры Вельке Л. Савіцкі вылучыў тры храналагічна паслядоўныя індустрыі (I—III) (Sawicki, 1935). Некалькі пазней С. Крукоўскі прапанаваў сваю перыядызацыю свідэрскіх помнікаў, што ўвайшлі ў археалагічную літаратуру пад назвай «мазаўшанскага цыкла», якая ў наступныя гады ўжывалася як сінонім «свідэрскай культуры» (Krukowski, 1939). Мазаўшанскі цыкл уключаў пяць этапаў (індустрый): свідэрскі, выглендаўскі, плудскі, гулінскі, шарноўскі. Вывучэнні В. і М Хмялеўскімі і Р. Шыльдам паселішчаў Вітаў і Цэлаване паказалі, што асноўнае развіццё свідэрскай культуры прыпадала на дрыяс III (10800—10300 гадоў таму назад) (Prahistoria. S. 258—338). Работы польскіх археолагаў засведчылі той факт, што старажытнейшыя свідэрскія пласты ўтрымліваюць чаранковыя наканечнікі стрэл, разцы і скрабкі на пакарочаных нарыхтоўках. У калекцыях больш маладых па ўзрос-

ту паселішчаў вылучаюцца выразныя серыі лазалістых наканечнікаў стрэл, скрабкі і разцы на прадаўгаватых пласцінках.

Першыя даныя пра свідэрскія помнікі на тэрыторыі Беларусі адносяцца да канца мінулага — пачатку цяперашняга стагоддзя. Выяўлены яны былі пры разведачных работах З. Глогера і Ю. Ядкоўскага ў Панямонні, Е. Р. Раманава ў Палессі. Пазней стаянкі каменнага веку са свідэрскім інвентаром шукалі і абследавалі ў заходняй частцы рэспублікі У. Антаневіч, Ф. Д. Гурэвіч, Н. М. Гурына, Г. І. Гарэцкі, М. М. Чарняўскі, на Прыпяці — Р. Гарашкевіч, К. М. Палікарповіч, У. Д. Будзько, М. І. Алексяюк, У. Ф. Ісаенка, В. Я. Кудрашоў, на Дняпры — К. П. Шут, В. Ф. Капыцін. Але за стогадовую гісторыю даследавання свідэрскіх помнікаў у Беларусі толькі два з іх раскопваліся — Янава на Дняпры (В. Ф. Капыцін) і Заазер'е на Ясельдзе (В. Я. Кудрашоў).

Стаянкі свідэрскай культуры размяшчаліся, як правіла, на ўчастках першай, другой надпоймавых тэрас або карэнных берагоў (там, дзе няма больш нізкіх геамарфалагічных узроўняў) на пясчаных узвышэннях, на схілах марэнных бугроў Стратыграфія іх не з'яўляецца дастаткова вызначальнай. Культурныя напластаванні звычайна залягаюць у пясчаных адкладах, што перашкаджала іх захаванню і з'явілася прычынай змешвання рознаўзроставых і рознакультурных матэрыялаў. На большасці помнікаў культурныя пласты ўвогуле адсутнічаюць, свідэрскія матэрыялы збіраліся на паверхні.

Вялікая колькасць помнікаў каменнага веку са свідэрскімі рысамі ў інвентары знаходзіцца ў рэгіёне Заходняга Палесся (И с а е н к о, 1976а. С. 27—33). Яны выяўлены ў межах Брэсцкай вобласці каля вёсак Горбаў і Зарэчча Бярозаўскага, Бабровічы Івацэвіцкага, Заазер'е Пінскага, Опаль, Пульма Іванаўскага раёнаў.

Раскопваўся толькі адзін помнік — Заазер'е (К у д р я ш о в, 1996. С. 36—45), размешчаны на заходнім беразе возера Гарадзішчанскае на паўночна-заходняй ускраіне в. Заазер'е Культурны пласт ускрыты на невялікай плошчы — 26 м². Стратыграфія помніка ўскладненая расчляненнем сучаснага расліннага пласта на два гарызонты, пра што сведчаць знаходкі керамікі ў ніжнім пласце, які залягае на глыбіні 0,6—0,9 м ад сучаснай паверхні. Свідэрскія культурныя рэшткі выяўлены ў светла-жоўтым неслаістым дробназярністым пяску на глыбіні 0,9—1,15 м (мал. 11). Сярод іх чаранковыя наканечнікі стрэл, спрацаваныя па краях аднабаковай (4 экз.) або супрацьлеглай рэтушшу (1 экз.), лазалістыя свідэрскія наканечнікі (2 экз.), насад якіх рэтушаваўся з брушка і па краях. Скрабкі ў калекцыі (7 экз.) канцавыя, рабочы край дугападобны, апрацаваны паўстромкай і стромкай скрабковай рэтушшу. На дзвюх прыладах рэтуш распаўсюджваецца на краі нарыхтоўкі. Разцы (11 экз.) на вугле зламанай нарыхтоўкі, бакавыя — рэтушныя, сярэдзінныя. Сякеры двух тыпаў — з пераходам і падавальнай формы. Знойдзены на стаянцы таксама сярэдзінныя праколкі, рэтушоры, пласціны і адшчэпы з рэтушшу на краі. Нуклеусы прызматычныя, адна- і двухпляцовачныя (апошнія пераважаюць), аморфныя з-за вялікай спрацаванасці. Адзін нуклеус па форме блізкі да дыскападобных.

Стаянка Бабровічы-1 размешчана на паўночна-ўсходнім беразе возера Бабровіцкае на схіле марэннага бугра на ўзроўні 4—5 м над вадой. На развеянай пясчанай паверхні сабрана калекцыя апрацаваных крэменяў (мал. 12), якія, на думку даследчыка, залягалі «ніжэй пласта гумусу ў адкладах пяску з артзандравымі праслойкамі» (И с а е н к о, 1976а. С. 29). У іх ліку знахо-

дзяцца лазалістыя і чаранковыя наканечнікі стрэл, насад якіх вылучаны або абазначаны па краях стромкай або паўстромкай рэтушшу з боку спінкі і апрацаваны плоска з брушка. Разцы прадстаўлены тыпамі на вугле зламанай нарыхтоўкі, бакавымі — рэтушнымі, сярэдзіннымі. У калекцыі маюцца сярэдзінныя праколкі, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, скоблі, рубячыя прылады авальнай формы і з перахопам, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы.

Да найбольш старажытных помнікаў Палесся Беларусі даследчыкі адносяць Горбаў-1, Опаль-1. Матэрыялы Горбава-1 і Опаля-1 не публікуюцца, таму цяжка меркаваць пра іх узрост і культурную прыналежнасць. Опаль-2 прадстаўлены калекцыяй, у якой разам з чаранковымі свідэрскімі наканечнікамі стрэл прысутнічаюць наканечнікі тыпу Лінгбі і блізкія да арэнсбургскіх канцавыя скрабкі падоўжаных і пакарочаных памераў, сякеры рознай формы, сярэдзінныя і сярэдзінна-вуглавыя разцы (Исаенко, 1976а. С. 35). Падобнае спалучэнне сведчыць пра больш позні ўзрост помніка ў параўнанні са свідэрскімі, пра пачатак фарміравання новай культуры ў каменным веку Усходняй Еўропы.

У Панямонні паселішчы са свідэрскімі рысамі ў інвентары выяўлены каля вёсак Гожа, Грандзічы, Ліхачы, Пышкі Гродзенскага, Беліца, Ганчары Лідскага, Валеўка Навагрудскага раёнаў Гродзенскай вобласці. Найбольш поўна апублікаваны інвентар паселішча каля в. Валеўка (Гурина, 1965. С. 146—148). На паўднёвы ўсход ад населенага пункта на пясчанай мелізне заходняга берага возера Свіцязь Н. М. Гурына сабрала калекцыю розначасовых крамянёвых вырабаў, сярод якіх прылады свідэрскай культуры. Перш за ўсё гэта буйныя нуклеусы з дзвюма скошанымі ўдарнымі пляцоўкамі з сустрэчным зняццем нарыхтовак, наканечнікі стрэл з падоўжаных нажападобных пласцінак, чаранкі якіх апрацаваны стромкай рэтушшу па краях і плоскай з брушка. Да свідэрскага інвентару можна аднесці буйныя канцавыя адзінарныя або двайныя скрабкі на пласцінках. Выраблены гэтыя прылады з высакаякаснага крэменю шакаладнага колеру, характэрнага для свідэрскіх помнікаў Польшчы.

У. Антаневіч, характарызуючы каменны век Заходняй Беларусі, адзначае тут наяўнасць не менш 20 познасвідэрскіх месцазнаходжанняў. Безумоўна, не ўсе яны адносяцца да свідэрскай культуры, аднак пэўную цікавасць выклікаюць апублікаваныя, хоць і адзінкавыя, матэрыялы з ваколіц вёсак Рудня, Пышкі, Зубрава, Падол (Антоневич, 1934. С. 29—33). Сярод іх чаранковыя і лазалістыя наканечнікі стрэл, зробленыя з падоўжаных нажападобных пласцін, насад якіх апрацаваны па краях стромкай рэтушшу і плоскай з брушка. Скрабкі канцавыя з дугападобным рабочым краем, разцы сярэдзінныя, бакавыя, вуглавыя. Названыя У. Антаневічам свідэрскія месцазнаходжанні датаваць не ўяўляецца магчымым, бо, на думку даследчыка, «... ва ўсіх стаянках сустракаюцца тылы прылад геаметрычных форм: з іх вядомыя вастрыі трапецападобныя, рамбічныя, чатырохкутныя разам з трохкутнымі, рэтушаванымі з абодвух бакоў» (Антоневич, 1934. С. 33).

На Верхнім Падняпроўі свідэрская культура доўгі час была прадстаўлена адным помнікам, які знаходзіўся на правым беразе Дняпра каля в.Янава Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці (мал. 13). Выяўлена паселішча К. П. Шутом у 1962 г., вывучалася В. Ф. Капыцінымі у 1972—1973 гг. (Копытин, 1992. С. 27—29). Характарызуючы сабраны крамянёвы інвентар (1,5 тыс. адзінак), даследчык адзначае наяўнасць у ім тыповых свідэрскіх нуклеусаў са скошанымі ўдарнымі пляцоўкамі і сустрэчным зняццем нарыхтовак. Наканечнікі

стрэл чаранковыя, са свідэрскай пласкай рэтушшу на брушку. Разцы ў калекцыі бакавыя — рэтушныя, сярэдзінныя, на вугле зламанай пласціны, скрабкі канцавыя, з дугападобным рабочым краем. Сярод знаходак пераважаюць скоблі, вастрыі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы. Большасць прылад (71,4%) зроблена з пласцін. Прыналежнасць помніка да свідэрскай культуры сумненняў не выклікае. В. Ф. Капыцін таксама ўключае ў свідэрскія паселішчы стаянку каля в. Баркалабава Быхаўскага раёна (К о п ы т и н, 1992. С. 31). Аднак у інвентары стаянкі няма свідэрскіх нуклеусаў; колькасна больш чым у два разы скрабкі пераважаюць над разцамі, плоская рэтуш не заўсёды захоплівае чаранкі наканечнікаў стрэл. Гэта сведчыць пра мезалітычны ўзрост помніка.

Нягледзячы на беднасць свідэрскіх матэрыялаў, на дадзеным этапе даследаванняў можна зрабіць некаторыя высновы. Перш за ўсё трэба адзначыць, што свідэрскае насельніцтва ў познім дрыясе засяліла тэрыторыю Заходняй і Паўднёва-Заходняй Беларусі. Яно спрабавала асвоіць і тэрыторыю ўсходняй часткі краіны, аднак наяўнасць тут аднаго помніка сведчыць пра няўдачу гэтай спробы, абумоўленай, верагодна, тым, што дадзеная тэрыторыя ўжо была заселена насельніцтвам грэнскай культуры. У паўночнай і цэнтральнай частках рэспублікі слядоў помнікаў не адзначана.

Свідэрцы, якія насялялі Беларускае Палессе, для вырабу прылад працы выкарыстоўвалі мясцовы крэмень шэрага колеру розных адценняў, нярэдка паласаты або плямісты (И с а е н к о, 1977. С. 55). Россыпы такога крэменю сустракаюцца на размытай паверхні марэнных бугроў у тоўшчы крэйдавых адорвеняў. У Панямонні прылады свідэрскага тыпу таксама вырабляліся з мясцовага матэрыялу, хоць трапляў сюды, відавочна, і крэмень шакаладнага колеру (Г у р и н а, 1965. С. 146), характэрны для крамянёвых радовішчаў на тэрыторыі Польшчы. Жыхары Янава таксама выкарыстоўвалі імпартны высакаякасны крэйдавы крэмень з лёгкай малочнай пацінай (К о п ы т и н, 1992. С. 29).

Для інвентару свідэрскіх помнікаў характэрныя наступныя рысы. Вядучым тыпам нуклеуса з'яўляецца двухпляцовачны аднабаковы з сустрэчным зняццем нарыхтовак, са скошанымі ўдарнымі пляцоўкамі і папярочнай падчэскай тыльнага боку (мал. 13: 19). Для свідэрскай індустрыі тыпова развітая пласцінaчная тэхніка. Нарыхтоўкай для большасці прылад часцей была пласцінка. У калекцыях са свідэрскіх помнікаў, як правіла, пераважаюць разцы, якія звычайна ў два і больш разы перавышаюць колькасць скрабкоў. У больш ранніх комплексах сярод разцоў дамінуюць сярэдзінныя, у позніх — бакавыя і на зломе нарыхтоўкі. Вядучай формай скрабкоў з'яўляецца канцавы з дугападобным або прамым рабочым краем. Свідэрскія наканечнікі стрэл зроблены з пласцін, яны двух тыпаў — лазалістыя і чаранковыя (мал. 11: 1—5; 12: 1—5; 13: 1—2). Для іх характэрная апрацоўка насадкі стромкай або паўстромкай рэтушшу па краях і пласкай з брушка. На шэрагу наканечнікаў плоская рэтуш прысутнічае на брушку вастрыя. Сякеры на свідэрскіх стаянках у асноўным двух тыпаў — з перахопам на масіўных адшчэпах і авальнай формы з грубай двухплоскаснай апрацоўкай з плітак або кавалкаў крэменю (мал. 11: 18). Характэрны кампанент свідэрскіх комплексаў — свердлы-праколкі, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, пласціны і адшчэпы з рэтушшу па краях, скоблі.

Адсутнасць сістэматычных даследаванняў паселішчаў свідэрскай культуры на тэрыторыі Беларусі, фрагментарнасць і малалікасць калекцый не

дазваляюць пэўна выказацца аб яе перыядызацыі, пра тое, дзе больш старажытныя або больш маладыя помнікі — у Палессі, Панямонні ці Верхнім Падняпроўі. Даследаванні польскіх археолагаў паказалі, што развіццё свідэрскай культуры прыходзіцца на позні дрыяс, які доўжыўся 800 гадоў. Існуе і пункт гледжання, што познасвідэрскае насельніцтва існавала яшчэ і ў раннім мезаліце (К о п ы т и н, 1992. С. 59).

Да гэтага часу сярод даследчыкаў свідэрскай культуры няма адзінай думкі пра яе генезіс. Розныя пункты гледжання па гэтай праблеме ў свой час выказвалі Л. Савіцкі, С. Крукоўскі, Г. Кларк, В. Хмялеўскі, Р. Шыльд, В. Таутэ, Ф. Борд, Р. Рымантэне, Н М. Гурына, У. Ф. Ісаенка. Аднак пытанне паходжання культуры і цяпер застаецца нявысветленым.

## 4. ГРЭНСКАЯ КУЛЬТУРА

Раўнінны характар тэрыторыі, мноства рэк, наяўнасць залежаў крамянёвай сыравіны спрыялі асваенню Верхняга Падняпроўя старажытным насельніцтвам, аказвалі ўздзеянне на геаграфію рассялення, матэрыяльную культуру і ўзаемадзеянні ў позна- і пасляледавіковы час.

Упершыню пытанне аб мезаліце Верхняга Падняпроўя сфармуляваў К. М. Палікарповіч (1932а). На думку даследчыка, развіццё культур гэтай эпохі («эпіпалеаліту») ішло эвалюцыйным шляхам праз пэўныя стадыі.

Новы этап у вывучэнні фінальнага палеаліту і мезаліту Беларусі звязаны з распрацоўкай канцэпцыі археалагічнай культуры, абгрунтаванай А. М. Рагачовым (Р о г а ч е в, 1957. С. 9—134) на матэрыялах помнікаў позняга палеаліту цэнтральных раёнаў Рускай раўніны. Пад уплывам ідэі А. М. Рагачова ў 60-я гады У Д. Будзько выдзеліў у Верхнім Падняпроўі свідэрска-грэнскую культуру, якая затым была названа грэнскай (Б у д ь к о, 1962; 1966. С 35—46; 1970. С. 31—43). Аднак стратыграфічныя і геамарфалагічныя назіранні У. Д. Будзько на стаянках Грэнск, Падлужжа і Каромка не адпавядаюць рэальным фактам (К о п ы т и н, 1981. С. 339; 1983 а. С. 354; 1983 б. С. 45; К а л е ч и ц, 1984. С. 74—79, 98—99), у сувязі з чым прапанаванае датаванне грэнскай культуры і яе археалагічнае чляненне не могуць быць прыняты. Выклікае сумненне і тыпалагічны аналіз крамянёвага інвентару Грэнскай стаянкі (К о л ь ц о в, 1977. С. 115—116). Такім чынам, гіпотэза У. Д. Будзько патрабуе дадатковага абгрунтавання новымі матэрыяламі.

У фінальным палеаліце басейн верхняга цячэння Дняпра ўваходзіў у арэал пашырэння культур з наканечнікамі стрэл Паўночнай Еўропы. Параўнальны аналіз крамянёвага інвентару паказвае, што ў позналедавіковы час тут прадстаўлены помнікі двух культурных рэгіёнаў: заходняга, занятага ў асноўным насельніцтвам свідэрскай культуры, і ўсходняга, звязанага з помнікамі грэнскай культуры. Для кожнага з іх характэрны розныя традыцыі вырабу каменных прылад працы.

Асаблівасцю грэнскай культуры з'яўляецца наяўнасць у інвентары своеасаблівых асіметрычных наканечнікаў стрэл (грэнскі тып, «укладышы алтынаўскага тыпу»), апрацаваных па адным краі крутой рэтушшу па ўсёй даўжыні вырабу і выемкай — па другім. Пры вырабе прылад перавага аддавалася адшчэпам, атрыманым з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў, з захаваннем на контрфронце ўчасткаў жаўлачнай скарынкі.

Вельмі важным момантам у вывучэнні ранніх этапаў засялення Верхняга Падняпроўя ў позна- і пасляледавіковы перыяды з'яўляецца факт устанаўлення генетычнай пераемнасці паміж насельніцтвам сярэднеднепроўскай культурнай зоны позняга палеаліту і пазнейшым мезалітычным насельніцтвам верхняга цячэння Дняпра, Дзясны і Волга-Окскага міжрэчча. Блізкае падабенства тэхніка-марфалагічных паказчыкаў гэтых груп помнікаў, датаванне і арэал іх пашырэння сведчаць аб тым, што першапачатковыя міграцыі адбываліся ў паўночным напрамку па далінах Дняпра, Дзясны, Сажа, Друці і прывялі да фарміравання культурнай вобласці, якая заняла вялізныя тэрыторыі паўночна-заходніх раёнаў Рускай раўніны. Граніцы гэтай вобласці фіксуюцца знаходкамі асіметрычных чаранковых наканечнікаў стрэл (грэнскі тып) і супадаюць з басейнамі рэк верхняга цячэння Дняпра, Волгі, Дзясны, дзе выдзеляюцца тры лакальныя культуры: грэнская, дзяснінская і іенеўская. У гэтай сувязі ўяўляецца найбольш верагодным незалежнае развіццё культур фінальнага палеаліту на Рускай раўніне, падобнае ў сваёй аснове да «мадэлі» Паўночнагерманскай нізіны.

Верхняе Падняпроўе з-за свайго геаграфічнага становішча з'яўляецца адным з цэнтраў фарміравання гэтай культурнай з'явы, якая атрымала пашырэнне ў фінальным палеаліце і мезаліце, што дазваляе ўявіць матэрыяльную культуру дадзенай супольнасці ў дынаміцы на працягу пэўнага адрэзка часу. Помнікі грэнскай культуры цікавыя ўжо тым, што спалучаюць у сабе элементы далейшых змен індустрый палеаліту, з аднаго боку, і мезаліту — з другога, а гэта можна разглядаць у якасці навацый, накіраваных у першую чаргу на ўдасканаленне паляўнічага ўзбраення.

Звяртаючыся да фактычнага матэрыялу, няцяжка заўважыць рысы надзвычайнага падабенства ў крамянёвым інвентары шэрагу помнікаў сярэднеднепроўскай познапалеалітычнай вобласці, у межах якой вылучаюцца мезінская і межырыцка-дабранічаўская культуры (Гладких, 1977. С. 137—143; Палеолит СССР, 1984. С. 198—201) і помнікаў фінальнага палеаліту Верхняга Падняпроўя (Копытин, 1977. С. 60—66). Такі шлях супастаўлення больш натуральны, тэрытарыяльна блізкі і абумоўлены перамяшчэннем познапалеалітычнага насельніцтва па дняпроўскай воднай магістралі па меры вызвалення паўночна-заходніх раёнаў Усходне-Еўрапейскай раўніны ад уплыву апошняга ледавіковага покрыва.

Фінальнапалеалітычны этап грэнскай культуры. Грэнская культура, як ужо адзначалася, выдзелена У. Д. Будзько ў 60-я гады па матэрыялах стаянак Падлужжа-3, Каромка, Латкі і Грэнская, якая і дала назву культуры.

Далейшае вывучэнне помнікаў грэнскай культуры звязана з работамі А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыціна і У. П. Ксяндзова.

У выніку даследаванняў апошніх гадоў у Верхнім Падняпроўі і на суседніх тэрыторыях сталі магчымымі новыя падыходы да вывучаемага матэрыялу.

У працэсе раскопак такіх стаянак грэнскай культуры, як Бароўка, Грэнская, Дальняе Ляда, Каромка, Лудчыцы, Магілёўская, Хвойная, Чыгірынка, сабраны надзвычай багатыя археалагічныя калекцыі з выразнымі серыямі вырабаў з паўторнай апрацоўкай і шматлікімі прадуктамі расшчаплення крэменю.

Стаянкі грэнскай культуры размешчаны на берагах рэк на разнастайных тэрасавых узроўнях. Культурныя рэшткі залягаюць на глыбіні 0,3—0,5 м у ніжніх пластах элювію або ў ілювіяльным гарызонце галацэнавых пясчаных і супясчаных дзярнова-падзолістых глеб, у сувязі з чым большасць стаянак

разбурана ўзворваннем ці ветравой эрозіяй. Выключэннем з'яўляецца стаянка Хвойная, культурны слой якой перакрыты дзюнным пяском. Паўсюдна назіраецца прымеркавальнасць помнікаў да выхадаў крэйдавых парод, якія ўтрымліваюць крамянёвую сыравіну. Канкрэцыі мясцовага крэменю, вядомага пад назвай «сожскага», маюць акруглую ці авальна-выцягнутую форму і невялікія памеры (да 10—15 см у папярочніку). Колер крэменю пераважна цёмна-шэры са светлымі ўкрапінкамі мелу, што зніжае пластычнасць сыравіны.

Па тэхніка-тыпалагічных зменах каменнай індустрыі ў развіцці грэнскай культуры выдзяляюцца два этапы: ранні — фінальнапалеалітычны і позні — раннемезалітычны. Мяжа паміж фінальным палеалітам і ранні́м мезалітам у пэўнай ступені з'яўляецца ўмоўнай. Можна толькі зазначыць, што ў канцы палеаліту існує пэўны комплекс адрозненняў у інвентары помнікаў, што абумоўлена захаваннем розных культурных традыцый, іх генетычнай падасновы. На другім этапе адрозненні нівеліруюцца і грэнская культура выступав як ужо сфарміраваная з'ява, якая характарызуецца пэўным наборам крамянёвага інвентару і спецыфічнымі прыёмамі апрацоўкі каменю. Неабходна падкрэсліць, што для грэнскай культуры абсалютна не ўласціва плоская рэтуш, а таксама прылады геаметрычных форм (трапецыі, сегменты, высокія трохкутнікі), звычайна пашыраныя ў помніках іенеўскай і дзяснінскай культур (С о р о к и н, Ф р о л о в, 1988. С. 21—28).

Адным з яркіх помнікаў ранняга этапу грэнскай культуры з'яўляецца Бароўка. Стаянка знаходзіцца на паўднева-ўсходняй ускраіне в. Бароўка Быхаўскага раёна, за 32 км на поўдзень ад Магілёва. У раёне вёскі даліна Дняпра адрозніваецца добрай распрацаванасцю, мае шырыню да 3 км з дамінуючым правым схілам. Тут добра прадстаўлена як пойма, так і другая надпоймавая тэраса з адноснай вышынёй 18 м над узроўнем ракі. Тэраса складзена з маламоцнай, да 1,5 м, тоўшчы элювіяльных пяскоў і марэннага суглінку. Паверхня тэрасы, на якой размешчаны помнік, параўнаўча роўная, месцамі раздзелена невялікімі прамывінамі і старажытнымі ярамі, што выходзяць у пойму Дняпра.

Помнік адкрыў у 1973 г. В. Ф. Капыцін (1974. С. 374), і на працягу некалькіх гадоў на разараным участку на поўнач ад яра праводзіўся збор пад'ёмнага матэрыялу. Знаходкі канцэнтруюцца ўздоўж краю тэрасы на плошчы 170x50 м. У 1987 г. на помніку ўскрыта 280 $м^2$ культурнага слоя, які залягае пад слоем дзёрну ў падзолістым і ілювіяльным гарызонтах глебы ў пяску светла-жоўтага колеру на глыбіні 0,2—0,5 м.

У межах раскопаў утрымліваецца вялікая колькасць знаходак, акруглых у плане, дыяметрам 1—1,5 м, зрэдку выразна лакалізаваных, якія ўтрымліваюць прадукты расшчаплення крэменю з канцэнтрацыяй знаходак звыш 100 адзінак на 1 $м^2$. Да іх прылягаюць квадраты з меншай насычанасцю слоя артэфактамі — звыш 50 знаходак на 1 $м^2$.

Склад знаходак у скапленнях уяўляе сабой шматлікія адшчэпы, часта з крэйдавай скарынкай, пласціны, асколкі, лускавінкі да 1 см у дыяметры, кавалкі бітага крэменю, нуклеусы і іх абломкі, тэхнічныя сколы афармлення ударных пляцовак нуклеусаў, што сведчыць аб наяўнасці на стаянцы рабочых месцаў па першаснай апрацоўцы крэменю. Пасяленне мела статус ці то пастаяннага функцыяніравання, ці то шматгадовага сезоннага пражывання. На гэта ўказвае мноства знаходак, якія амаль скрозь пакрываюць разараную паверхню, што прылягае да яра. Несумненна, іх налічваецца яшчэ некалькі

дзесяткаў тысяч, акрамя сабраных на сённяшні дзень. Падобная сітуацыя ўказвае на наяўнасць у раёне помніка своеасаблівых месцаў па здабычы і апрацоўцы крэменю.

Зборы на паверхні і раскопкі помніка далі аднародны па сыравіне, складзе і тэхніка-тыпалагічнаму прызначэнню крамянёвы матэрыял (мал. 14). Культурныя рэшткі ў Бароўцы складаюць вялікую калекцыю — 24486 артэфактаў, у тым ліку 1847 вырабаў з паўторнай апрацоўкай (8,6%), уключаючы пласціны і адшчэпы з рэтушшу, уласна прылад 821 экземпляр і 1602 экземпляры нуклеусаў (7,5%). Сыравінай для вырабу прылад служыў мясцовы крэйдавы крэмень. У карэнным заляганні выхады крэйды зафіксаваны ў русле Дняпра і ў берагавых выхадах на паверхню паміж вёскамі Стайкі і Бароўка. У тэхніцы расшчаплення крэменю пераважае паралельнае, аднабаковае зняцце нарыхтовак з адна- (44%) і двухпляцовачных нуклеусаў пры неаформленым контрфронце, што надае ім сплюшчаны выгляд. Вялікая колькасць нуклеусаў аморфных абрысаў (22%). Тэхніка паўторнай апрацоўкі характарызуецца крутой рэтушшу, значным пашырэннем выкарыстання разцовага сколу і поўнай адсутнасцю вырабаў з плоскай рэтушшу. Нарыхтоўкамі прылад часцей за ўсё служылі адшчэпы (65,6%).

Набор прылад прадстаўлены разнастайнасцю тэхніка-марфалагічных груп (мал. 14). Сярод наканечнікаў стрэл (42 экз., 5%) выдзяляюцца дзве асноўныя разнавіднасці: уласна черанковыя, часам са скошаным крутой рэтушшу пяром і асіметрычныя черанковыя (грэнскі тып), у якіх адзін край апрацаваны крутой рэтушшу па ўсёй даўжыні вырабу, а на супрацьлеглым зроблена выемка. Найбольш шматлікай катэгорыяй інвентару з'яўляюцца скрабкі (212 экз., 25,8% ад усіх вырабаў), прадстаўленыя выключна канцавымі формамі на адшчэпах (66,6%) і пласцінчатых нарыхтоўках. Пераважаюць скрабкі з дугападобнай, выпуклай рабочай часткай, аднак сустракаюцца вырабы з прамым, скошаным або ўвагнутым лязом. Вельмі выразныя двайныя скрабкі з пласцін (4 экз.). Знойдзены адзінкавыя экземпляры камбінаваных вырабаў: скрабкі-разцы, скрабкі-праколкі, скрабкі з выемкамі па краі. Разцы (136 экз., 16,5%) з адшчэпаў (70%) і пласцін прадстаўлены рэтушнымі (69%), двухграннымі (12,5%) і на вугле зламанай пласцінкі (18,4%) Вядучае месца займаюць рэтушныя разцы, рэтушаваныя грані якіх (прамыя, скошаныя, увагнутыя) і аднафасетачныя сколы ўтвараюць рабочы вугал, які вар'іруе ад прамога да вострага. Адну з найбольш яркіх катэгорый прылад складаюць праколкі (61 экз., 7,4%). Вырабы маюць выразна выдзеленае вастрыё, акруглае ў сячэнні, асіметрычнае або сіметрычнае, часам выгнутае. Вастрыі праколак адрозніваюцца даўжынёй, абрысамі і тонкасцю апрацоўкі. Па размяшчэнню рабочага канца праколкі прадстаўлены сярэдзіннымі і вуглавымі. Блізкія да праколак формай і тэхнікай вырабу дзюбападобныя вастрыі, якія характарызуюцца наяўнасцю выдзеленага крутой рэтушшу «шыпа» — досыць тоўстага завостранага выступу на дыстальным канцы нарыхтоўкі.

З іншых катэгорый прылад неабходна адзначыць разнастайнасць вастрый (167 экз., 20%), вырабы з выемкамі (173 экз., 21%), групу пласцін з усечанымі дыстальнымі канцамі (16 экз., 1,9%), аформленымі дробнай рэтушшу перпендыкулярна прадольнай восі нарыхтоўкі, адзінкавыя рубячыя прылады і шматлікасць вырабаў выпадковага карыстання — пласцін і адшчэпаў з невялікімі ўчасткамі рэтушы па краі.

Крамянёвы інвентар Бароўкі амаль ва ўсіх дэталях выяўляе надзвычайнае падабенства з матэрыяламі Мезінскай стаянкі (Шовкопляс, 1965.

С. 115—178). Індустрыі Мезіна і Бароўкі вельмі блізкія паміж сабой па своеасаблівасцях формаў і набору прылад, па прыёмах паўторнай апрацоўкі і тэхніцы расшчаплення крэменю. Абодва помнікі размешчаны ў непасрэднай блізкасці ад крыніц сыравіны і служылі месцамі першаснага расшчаплення крэменю (Борисковский, 1953. С. 251; Ефименко, 1953. С. 461—464), пра што сведчыць у калекцыі мноства адыходаў вытворчасці і паўфабрыкатаў у выглядзе пласцін і адшчэпаў. Прыцягвае ўвагу блізкая тэхніка афармлення нуклеусаў і перавагай аднапляцовачных формаў.

Аб сувязі з сярэднедняпроўскай культурнай вобласцю сведчаць і матэрыялы **Каромкі.** Стаянка названа па назве в. Каромка, якая сёння не існуе. Размешчана на правым беразе Дняпра за 5 км на поўнач ад в. Кісцяні і 1,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Залаззе Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці.

Тыпалагічны аналіз крамянёвага інвентару Каромкі (мал. 15) дазволіў выдзеліць характэрныя тэхніка-марфалагічныя групы, уласцівыя помнікам грэнскай культуры ў цэлым. Наканечнікі стрэл (64 экз., 4% ад агульнай колькасці прылад) выраблены з пласцін і адшчэпаў. Выключную цікавасць маюць асіметрычныя чаранковыя наканечнікі (7 экз.), апрацаваныя крутой рэтушшу па адным краі вырабу. Процілеглы край мае дакладна выражаную выемку даўжынёй каля 1/3 наканечніка. Пяро ўтворана сыходжаннем двух краёў: аднаго, апрацаванага прытупленай рэтушшу, і другога — нерэтушаванага і вострага. Больш шматлікая група ўласна чаранковых наканечнікаў, якія па форме і характары афармлення чаранка падзяляюцца на шэраг варыянтаў. Форма чаранка ў наканечнікаў адрозніваецца дэталямі, аднак можна выдзеліць дзве разнавіднасці: з вузкім, завостраным да асновы чаранком падтрохкутных абрысаў і з шырокім тоўстым чаранком з натуральнай асновай Крутая і паўкрутая рэтуш часцей за ўсё нанесена са спінкі, радзей з брушка, сустракаюцца экземпляры з супрацьлеглай рэтушшу. У асобных вырабаў фасеткамі плоскай рэтушы зняты ўдарны бугарок. У двух выпадках па пяры наканечнікаў нанесены разцовыя сколы Прыцягваюць увагу ўстойлівыя памеры наканечнікаў, нягледзячы на грубыя абрысы выкарыстаных нарыхтовак: даўжыня 35—45 мм, шырыня 15—25 мм.

Насельнікі стаянкі Каромка дасканала валодалі тэхнікай разцовага сколу, пра што сведчаць разцы, якія складаюць самую шматлікую групу прылад — 648 экземпляраў (41,3%). Разцовыя сколы разнастайныя: прадольныя, якія здымаюць край нарыхтоўкі, папярочныя, сколы сплюшчанага тыпу, а таксама са скошаным канцом пласціны.

Па форме і характару падрыхтоўкі рабочай часткі разцы прадстаўлены трыма асноўнымі тыпамі, але пераважаюць рэтушныя (344 экз., 53% ад колькасці ўсіх разцоў). Разцовыя сколы ў пераважнай большасці аднафасетачныя. Сустракаюцца сплюшчаныя сколы, накіраваныя ў бок брушка.

Даволі выразная серыя двайных бакавых разцоў (12 экз.) з рэтушаванай выемкай на канцы, якая абмяжоўваецца двума шырокімі сколамі, што здымаюць краі прылад. Значна менш рэжучых двайных разцоў з рэтушнымі кантамі на прывостраных канцах нарыхтовак. У калекцыі ёсць камбінаваныя формы (12 экз.), якія спалучаюць рэтушныя і вуглавыя разцы.

Вуглавыя разцы (157 экз., 24,2%), за рэдкім выключэннем, прадстаўлены тыпам на вугле зламанай пласціны. Сустракаюцца і двухканцовыя разцы, аформленыя з процілеглых канцоў нарыхтоўкі па адным краі.

Двухгранныя разцы (147 экз., 22,6%) маюць рабочы край, аформлены двума сколамі, сіметрычнымі або асіметрычнымі, да восевай лініі прылады.

Уласна класічныя формы складаюць невялікую колькасць. Выдзяляецца серыя прылад з адным разцовым сколам, зробленым з краю прылады з захаваннем крэйдавай скарынкі (7 экз.).

Скрабкі (431 экз., 27,5%) выраблены пераважна з адшчэпаў (62%). Іх памеры вар'іруюць у межах 10—40 мм даўжыні пры шырыні 12—30 мм. У калекцыі пераважаюць канцавыя скрабкі (358 экз., 83%). Сярод іх выдзяляецца група з укарочаных пласцін і адшчэпаў да 30 мм даўжынёй. Адзінкавыя скрэблападобныя формы, лязо якіх аформлена на прадольным краі адшчэпаў.

Двайныя скрабкі (26 экз., 6% ад усіх скрабкоў) некалькі адрозніваюцца паміж сабой памерамі і характарам афармлення рабочай часткі. Для акруглых скрабкоў (20 экз., 4,6% усіх скрабкоў) у якасці нарыхтовак выкарыстоўваліся часам адшчэпы з крэйдавай скарынкай на спінцы. Скрабкі ў спалучэнні з разцамі (3 экз.) не з'яўляюцца ўстойлівымі тыпамі. Цікавыя канцавыя скрабкі, камбінаваныя з выемкамі, размешчанымі на прадольных краях вырабаў. Знешняя частка скрабкоў мае дробную рэтуш па краі, якая не змяняе абрысаў нарыхтовак.

Рубячыя вырабы (16 экз., 1% ад усіх прылад) прадстаўлены невялікімі сякерамі падтрохкутных абрысаў і сякеркамі з перахватам, вырабленымі з адшчэпаў.

У групе вастрый (69 экз., 4,4%) выдзяляецца шэраг разнавіднасцей, якія звязаны агульнасцю формы і прыёмамі афармлення рабочай часткі. Найбольш тыповыя вастрыі, рэтушаваныя па адным, радзей па двух краях канца.

Праколкі (35 экз., 2,2% прылад) маюць сіметрычныя, кароткія, старанна апрацаваныя лёзы, у асобных выпадках супрацьлеглай рэтушшу. Побач з імі сустракаюцца вырабы ў выглядзе прывостранага дробнай рэтушшу вострага канца пласціны або адшчэпа.

Вырабы з выемкай (152 экз., 9,6%) уяўляюць сабой пласціны і адшчэпы, выемкі якіх аформлены крутой рэтушшу на адным з краёў нарыхтоўкі і маюць або правільны падакруглы абрыс, або слаба выражаны.

Трыма экземплярамі' прадстаўлены пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, адна з іх мае выгнуты профіль. Звяртае ўвагу шматлікая серыя пласцін — медыяльных сегментаў, якія, відавочна, выкарыстоўваліся ў якасці ўкладышаў.

Адной з форм прылад, паказальных для грэнскай культуры, з'яўляюцца пласціны з рэтушаванымі дыстальнымі канцамі (24 экз., 1,5% ад усіх прылад). У залежнасці ад вугла нахілу рэтушаванага канца да прадольнай восі прылады яны бываюць пераважна прамымі або касымі, так званымі пласцінамі са скошаным рэтушшу канцом (7 экз.). Па абрысах рабочай часткі яны прамалінейныя, выпуклыя і ўвагнутыя. Канцы апрацаваны крутой ці паўкрутой рэтушшу. Ад скрабкоў адрозніваюцца меншай таўшчынёй.

Найбольш блізкім аналагам Каромкі з'яўляюцца комплексы крамянёвага інвентару Дабранічаўкі і Межырычы, тыпалагічны аналіз якіх правёў М. І. Гладкіх (Гладких, 1977. С. 137—143).

Падабенства з Дабранічаўкай (Гладкіх, 1971. С 58—63; Шовкопляс, 1972. С. 177—178) і Каромкай выразна праяўляецца ў тэхніцы расшчаплення крэменю: аднабаковай утылізацыі нуклеусаў, перавазе двухпляцовачных форм сустрэчнага сколвання, іх крайняй выпрацоўкі, наяўнасці нарыхтовак невялікіх памераў. Сярод вырабаў з паўторнай апрацоўкай падабенства, а ў асобных выпадках тоеснасць, не абмяжоўваецца пэўнымі формамі, а ахоп-

лівае некалькі катэгорый інвентару. Сярод прылад пераважаюць разцы, пры гэтым дамінуюць рэтушныя пры наяўнасці двухгранных, вуглавых і камбінаваных. У групе скрабкоў большасць складаюць канцавыя, частка з рэтушаваным краем, укарочаных прапорцый, ёсць скрабкі з «шыпам», «стрэльчатыя», са скошаным рабочым канцом і прамалязовыя. Даволі выразныя серыі двайных і падакруглых скрабкоў.

У комплексах абодвух помнікаў прысутнічаюць блізкія па формах вастрыі, пласцінкі са скошаным рэтушшу канцом, праколкі, вырабы з выемкамі і такія адносна рэдкія формы, як «клінкі-наканечнікі» (па М. І. Гладкіх), асобныя з якіх з'яўляюцца наканечнікамі стрэл з Каромкі.

Прыведзеныя даныя сведчаць не толькі аб наяўнасці ў Каромцы тыпаў прылад, характэрных для Дабранічаўкі, але і аб блізкіх працэнтных суадносінах іх колькасці ў комплексах. Пры гэтым важна зазначыць, што некаторыя з іх, пераважаючы ў Каромцы (двайныя бакавыя разцы з рэтушаванай выемкай, акруглыя скрабкі, пласціны з рэтушаванымі канцамі, чаранковыя наканечнікі стрэл і інш.), у помніках грэнскай культуры з'яўляюцца вядучымі формамі. Такім чынам, матэрыялы Каромкі і Бароўкі маюць прынцыпова важнае значэнне для вырашэння пытання генезісу грэнскай культуры на аснове групы помнікаў сярэднедняпроўскай культурнай вобласці, а не арэнсбургскай культуры, арэал пашырэння якой аддалены на сотні кіламетраў ад Верхняга Падняпроўя.

Значэнне даследаваных помнікаў ранняга этапу грэнскай культуры (Бароўка, Каромка, Хвойная) для гісторыі засялення паўночна-заходніх раёнаў еўрапейскай часткі СНД у канцы плейстацэну цяжка пераацаніць, паколькі ўжо зараз адкрываюцца новыя магчымасці для вызначэння генетычных сувязей паміж мезалітычным насельніцтвам Верхняга Падняпроўя і жыхарамі паўночных раёнаў Украіны эпохі позняга палеаліту. Ці азначае гэта, што, адзначаючы паўднёвы шлях засялення Паўднёва-Усходняй Беларусі па Дняпры і яго прытоках, мы тым самым выключаем магчымасць пранікнення насельніцтва з іншых раёнаў? Зусім не. Аб гэтым пераканаўча сведчаць матэрыялы раскопак стаянак Янава і Баркалабава, што адносяцца да помнікаў свідэрскай культуры, якая атрымала пашырэнне на заключных этапах плейстацэну.

Помнікі фінальнага палеаліту дакументуюць факт пранікнення на тэрыторыю Верхняга Падняпроўя розных этнічных груп насельніцтва, у першую чаргу носьбітаў мезінскай, дабранічаўска-межырыцкай і свідэрскай культурных традыцый, і завяршаюць развіццё познапалеалітычных культур.

Геалагічны ўзрост фінальнага палеаліту Верхняга Падняпроўя ў сваім ніжнім аддзеле супадае з апошнімі працэсамі дэградацыі валдайскага (паазерскага) зледзянення на паўночным захадзе Усходне-Еўрапейскай раўніны, што адпавядае канцу плейстацэну. Менавіта ў гэты перыяд адбываліся значныя эмяненні клімату, расліннага і жывёльнага свету, якія абумовілі адну з самых значных міграцый у гісторыі чалавецтва на тэрыторыі, вызваленыя ад ледавіковага покрыва.

**Раннемезалітычны этап грэнскай культуры.** Помнікі грэнскай культуры сведчаць аб значна большым храналагічным адрэзку яе развіцця, чым гэта лічылася раней (Б уд ь к о, 1966), і, значыць, яе адноснай стабільнасці, мяркуючы па перавазе традыцыйных элементаў культуры над інавацыямі, як гэта было ў дзяснінскай і іенеўскай культурах. Асновай для такога меркавання служыць поўная тоеснасць у тэхніцы расшчаплення крэменю і наборы

прылад у комплексах помнікаў ранняга мезаліту, якія прадстаўлены стаянкамі Грэнская, Лудчыцы, Магілёўская, Чыгірынка. Аднак правамернасць храналагічнага члянення помнікаў грэнскай культуры на два этапы пацвярджаецца гіпсаметрычнымі адзнакамі: усе помнікі ранняга мезаліту размешчаны ніжэй за 150 м над узроўнем мора. Варта яшчэ раз падкрэсліць, што прапанаванае намі дзяленне помнікаў на дзве храналагічныя групы ў пэўнай меры ўмоўнае, паколькі пры аналізе матэрыялаў выяўляецца плаўны эвалюцыйны пераход у зменах індустрыі ад аднаго этапу да другога.

**Грэнская** стаянка, па якой названа археалагічная культура, з моманту свайго адкрыцця ў 1927 г. К М. Папікарповічам (1930а. С. 423—427), з-за спецыфічнасці і выразнасці крамянёвага інвентару, у прыватнасці наканечнікаў стрэл, трывала ўвайшла ў спецыяльную і вучэбную літаратуру, даведачныя выданні і абагульняючыя работы па палеаліце і мезаліце Усходняй Еўропы.

Помнік размешчаны на ўсходняй ваколіцы астанца першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, у Грэнскім урочышчы, за 2 км на ўсход ад в. Ворнаўка Кармянскага раёна. Абсалютная вышыня стаянкі складае 130 м, над урэзам вады — 6—7 м. У плане ўрочышча мае падтрохкутныя абрысы працягласцю 1,2 км уздоўж русла Сажа, да якога яно прымыкае сваім усходнім краем. З паўночнага боку ля падножжа астанца працякае р. Горна, а з паўднёва-заходняга — невялікі ручай Падобчы. Ад в. Ворнаўка (пасёлак Лядцы) урочышча аддзелена поймай р. Горны

Сабраныя К. М. Палікарповічам ва ўсходняй частцы астанца матэрыялы ў колькасці звыш 200 экземпляраў на паверхні развеяных пяскоў плошчай 800х200 м былі скарыстаны М. Ваяводскім (1934. С. 230—245) для абгрунтавання «свідэрскай стадыі эпіпалеаліту». На аснове ўважлівага аналізу крамянёвага інвентару даследчык датаваў стаянку свідэрскім часам, прычым не самай ранняй фазай.

У 1959—1961 гг. Грэнская стаянка даследавалася У. Д. Будзько (1966. С. 35—46). Па яго даных, у раскопе плошчай 90 м$^2$ (у іншых публікацыях плошча раскопу складала 60 м$^2$ (1970. С. 37—38) было выяўлена 8 тыс. расшчэпленых крэменяў, з іх 708 прылад. Асновай для датавання Грэнска позналедавіковым часам паслужылі, згодна з данымі У. Д. Будзько, геалагічныя ўмовы залягання двух культурных слаёў на глыбіні 0,6—1,3 м і 1,9—2 м, падзеленых праслойкай выкапнёвага гумусу. На гэтай падставе ніжні слой датаваўся не раней бёлінгу і не пазней пачатку алероду. У першай публікацыі матэрыялаў быў вядомы толькі адзін культурны слой на глыбіні 0,9—1,2 (Цапенко, Будько, Вознячук, 1961. С. 72—74).

Гэтыя супярэчлівыя звесткі аб даследаванні помніка прымусілі звярнуцца да яго паўторнага вывучэння ў 1972, 1974 гг (Копытин, 1973. С. 362; 1975. С. 390). На аснове пад'ёмнага матэрыялу з Грэнскага ўрочышча, у першую чаргу знаходак трапецый, аўтары адстойвалі ідэю аб познамезалітычным узросце стаянкі (Копытин, 1983а. С. 44—51). Аднак ні раскопкі, праведзеныя ў Грэнску ў 1980—1981 гг. (Копытин, 1981. С. 339; 1983. С. 354), ні адкрыццё серыі новых помнікаў грэнскай культуры не далі пераканаўчых матэрыялаў для канчатковага доказу прапанаванай гіпотэзы. Больш таго, узніклі пэўныя сумненні ў шэрагу яе палажэнняў, якія першапачаткова здаваліся пераканаўчымі.

Трыма раскопамі на ўсходняй і паўночна-ўсходняй частках астанца ўскрыта 380 м$^2$ культурнага слоя і вывучана стратыграфія помніка.

Знаходкі расшчэпленага крэменю залягалі непасрэдна пад слоем дзёрну на глыбіні 0,1—0,5 м. У ходзе работ высветлена, што ва ўсходняй частцы ўрочышча з глыбіні 0,9—1 м паўсюдна пашыраецца дняпроўская марэна, якая залягае на рытмічна-слаістых пясках (паўночная ўскраіна ўрочышча) ці крэйдавых адкладаннях (у паўднёвай частцы), што выключае выяўленне культурнага слоя на глыбіні 2 м.

Планіграфічны аналіз матэрыялаў у раскопах сведчыць аб даволі нізкай канцэнтрацыі крэменю, у сярэднім 15 экземпляраў на 1 м$^2$.

Калекцыя крамянёвага інвентару, атрыманая з раскопаў, за выключэннем кавалкаў, канкрэцый і дробных асколкаў да 1 см у дыяметры, налічвае 3699 экземпляраў, у тым ліку 295 (8%) вырабаў з паўторнай апрацоўкай, 228 (6%) нуклеусаў, 2497 — адшчэпаў (67,5%) і 679 пласцін (18,5%).

Адметнай рысай нуклеусаў з'яўляецца захаванасць пераважна крэйдавай скарынкі на контрфронце, іх аморфнасць і тыпалагічная невыразнасць. Пры аднабаковым зняцці нарыхтовак і наяўнасці крэйдавай скарынкі форма нуклеусаў у многім залежыць ад прапорцый зыходнай сыравіны. Вышыня нуклеусаў вагаецца ў межах 35—75 мм. Ударныя пляцоўкі слабаскошаныя да плоскасці сколвання і афармлены адным сколам, радзей ад двух да пяці. Аднапляцовачныя нуклеусы пераважаюць (59%). Двухпляцовачныя (27,2%) адрозніваюцца большай завершанасцю форм. Зняцце нарыхтовак аднабаковае, сустрэчнае, што надае нуклеусу значную выпукласць сколвання. Аграньванне асобных экземпляраў набліжаецца да кругавога. Выяўлены таксама нуклеусы невыразных аморфных формаў, зняцце нарыхтовак з якіх ажыццяўлялася ў розных плоскасцях (13,7%). Шматлікасць падобных нуклеусаў выклікана нізкай пластычнасцю сыравіны і яе неабмежаванымі запасамі ў ваколіцах стаянкі.

Пласціны, як і нуклеусы, не адрозніваюцца выразнасцю форм і правільнасцю граняў. У значнай ступені гэта тлумачыцца захаваннем крэйдавай скарынкі на асобных участках спінкі (35%). Сярод адшчэпаў самымі шматлікімі з'яўляюцца невялікія па памерах.

Уласна прылад у калекцыі налічваецца 204 экземпляры, за выключэннем 91 пласціны і адшчэпа з частковай рэтушшу краю, што складае 30,8% усіх вырабаў з паўторнай апрацоўкай (мал. 16).

На стаянцы выяўлены вядучыя формы крамянёвых вырабаў: наканечнікі стрэл (13 экз., 6,3%) з пласцін і адшчэпаў чаранковых форм, адносна кароткія і шырокія (так званага арэнсбургскага тыпу) з выдзеленым крутой рэтушшу са спінкі чаранком і падпраўленым па адным краі крутой рэтушшу (мал 16) і асіметрычныя чаранковыя грэнскага тыпу з бакавой выемкай і прытупленым краем (мал. 16: 1,12). На асобных экземплярах для афармлення прытупленага краю разам з крутой аднабаковай выкарыстоўвалі сустрэчную рэтуш (мал. 16). Па марфалогіі нарыхтовак і характары паўторнай апрацоўкі сярод іх можна выдзеліць некалькі варыянтаў пры наяўнасці пераходных форм. Цэласнасць формы грэнскіх наканечнікаў дасягнута не толькі за кошт апрацоўкі, але і ўдалага адбору зыходных нарыхтовак, якія мелі адзін патоўшчаны прадольны край, падпраўлены крутой рэтушшу, а другі — лязо — больш тонкі, рэжучы. Менавіта таму грэнскія наканечнікі заўсёды маюць трохкутнае (клінавіднае) сячэнне. Патаўшчэнне аднаго краю было або зыходным, уласцівым нарыхтоўцы, або дасягалася шляхам крутога рэтушавання. У любым выпадку пяро наканечніка афармлялася сыходжаннем двух краёў: аднаго вострага, рэжучага, другога прытупленага, што ўплывала на

баявыя якасці падобнай зброі. Дзякуючы асіметрыі і наяўнасці прытупленага рэтушшу краю узмацняўся эфект паражэння — наносілася шырокая рэзаная рана. Падобныя вырабы мелі сваё пашырэнне ў помніках мезаліту прабарэальнага і барэальнага часу (Н у ж н ы й, 1984. С. 33—34). Па гэтым паказчыку арэнсбургскія формы, рэтушаваныя толькі па пяры, дасягалі таго ж эфекту. Паказальна, што ў Грэнску ёсць формы пераходнага тыпу, калі рэтуш пяра захоплівае амаль увесь край прылады. Варта адзначыць яшчэ адну дэталь, характэрную для наканечнікаў стрэл Грэнска і грэнскай культуры ў цэлым, — іх паўторнае выкарыстанне ў якасці рэтушных разцоў. Серыя падобных вырабаў, адзначаная на некалькіх помніках, сведчыць не аб выпадковым, а заведамым тэхнічным прыёме.

Самай шматлікай групай крамянёвага інвентару Грэнскай стаянкі з'яўляюцца скрабкі (86 экз., 42%). У якасці нарыхтовак выкарыстоўваліся кароткія адшчэпы, часта з крэйдавай скарынкай на спінцы, радзей першасныя адшчэпы і пласціны ўкарочаных прапорцый. Колькасна пераважаюць канцавыя скрабкі (мал. 16), даволі шматлікія двайныя (мал. 16: 21), ёсць са скошаным лязом, «стрэльчатыя» і з «шыпам». Асобныя вырабы маюць рэтуш па краі, выяўлены скрабкі з рэтушаванай выемкай. Акруглыя скрабкі адзінкавыя (мал. 16: 18).

Пераважаючым тыпам сярод разцоў (78 экз., 38%) з'яўляюцца рэтушныя, якія маюць некалькі разнавіднасцей: з прамым, скошаным і выпуклым рэтушаваным канцом. Серыйнымі можна лічыць двайныя бакавыя разцы з рэтушаванымі выемкамі, абмежаваныя па краях сплюшчанымі сколамі. На другім месцы па колькасці знаходзяцца разцы на зломе нарыхтовак, сярод якіх пераважаюць на «вугле зламанай пласцінкі». Двухгранныя разцы побач з сіметрычнымі формамі прадстаўлены сярэдзінна-вуглавымі з двума сколамі, адзін з якіх здымае прадольны край, а другі — папярочны, пад вуглом да першага. Да камбінаваных прылад адносяцца скрабкі-разцы, разцы з выемкай або ў спалучэнні з праколкай. Акрамя таго, ёсць некалькі пласцін і адшчэпаў з разцовымі сколамі.

Сярод іншых груп прылад варта адзначыць праколкі (4 экз.) з выражанымі плечыкамі і кароткім джалам, вастрыі (13 экз.), у якіх дробнай рэтушшу падпраўлены натуральны завостраны канец. Сярод іх сустракаюцца вырабы з масіўнай рабочай часткай, якая аформлена крутой прытупленай рэтушшу па адным ці абодвух краях. Ёсць у калекцыі і пласцінкі з коса ці прамарэтушаванымі дыстальнымі канцамі, вырабы з выемкамі (6 экз.). Рубячыя прылады (4 экз.) — сякеры авальныя і сякеры з перахватам. Вельмі цікавая матычка з масіўнага адшчэпу, перахват якой аформлены буйнафасетачнай рэтушшу, а з брушка нанесены тры папярочныя сколы Завостраны трохкутны рабочы канец не дазваляў выкарыстоўваць яе ў якасці рубячай зброі.

У заключэнне варта падкрэсліць, што атрыманы матэрыял, тапаграфія пасялення і ўмовы залягання культурных рэшткаў пераканаўча сведчаць аб мезалітычным узросце помніка, бліжэйшым аналагам якому з'яўляюцца матэрыялы стаянак ранняга этапу грэнскай культуры, у першую чаргу Бароўкі Ёсць аналогіі з комплексамі Каромкі і Хвойнай, што ўказвае на нівеліраванне адрозненняў паміж помнікамі грэнскай культуры ў мезалітычны час.

Шэраг помнікаў грэнскай культуры вядомы на Дняпры і датуецца мезалітычным часам. Адным з такіх помнікаў з'яўляецца стаянка Лудчыцы, размешчаная на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Лудчыцы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Тут выяўлены рэшткі жытла, агнішча, расшчэплены і апрацаваны крэмень. Сляды жылля ў плане няправільных, акруглых абрысаў, дыяметрам каля 2,5 м выдзяляліся сярод пяску цёмнай гумусаванай масай і афарбоўкай. Заходняя частка жытла некалькі змятая дэлювіяльнымі працэсамі. Падлога заглыблена на 0,18—0,20 м. У цэнтры адзначана нязначнае скапленне дробных вугольчыкаў, попельныя плямы і знойдзены прылады працы — скрабкі, разец. Падобныя рэшткі жытлаў вядомы па мезалітычных помніках Украіны каля в. Рудня Шыбенская і хутара Чырвоны Рог Кіеўскай вобласці (Залізняк, 1984. С. 30—31, 44—47). За 2 м на захад ад жытла ўскрыты агнішча, лінзападобнае ў сячэнні, акруглае ў плане, дыяметрам 0,6 м і з таўшчынёй попельнага слоя ў цэнтры ачага 0,12 м. У непасрэднай блізкасці ад ачага з паўночна-заходняга боку знаходзілася вялікая колькасць камянёў рознай велічыні, магчыма, развал ветравога заслону. Найбольшая канцэнтрацыя расшчэпленага крэменю зафіксавана на ўсход ад жытла, у напрамку да ракі. На ўскрытай пляцоўцы (130 м²) выяўлена невялікая калекцыя крамянёвага інвентару — 494 экземпляры, у тым ліку 64 (13,2%) вырабы з паўторнай апрацоўкай.

Уласна прылады складаюць невялікія, але выразныя серыі. Сярод наканечнікаў (4 экз.) прадстаўлены грэнскі тып і чаранковы наканечнік з рэтушаваным пяром. Разцы выдзяляюцца дасканаласцю формы і прадстаўлены трыма асноўнымі тыпамі. Характэрнай асаблівасцю групы разцоў з'яўляецца выкарыстанне падоўжаных пласцін для рэтушных формаў (5 экз.), разцоў «на вугле зламанай пласціны» (7 экз.) і патоўшчаных адшчэпаў для двухгранных разцоў (6 экз.).

Па вядучых і найбольш характэрных тыпах прылад стаянка з'яўляецца своеасаблівым помнікам грэнскай культуры, але не выпадае з яе. Яе своеасаблівасць заключаецца ў шырокім выкарыстанні пласцін (61,5%) у якасці нарыхтовак. Відавочна, што помнік з'яўляецца рэшткай сезоннага паляўнічага лагера з часовым жыллём.

Прадстаўнічы матэрыял грэнскай культуры выяўлены таксама пры раскопках на ўсходняй ускраіне Магілёва, каля в. Чыгірынка Кіраўскага раёна (Копытин, 1992)

На другім этапе свайго развіцця грэнская культура працягвае заставацца самабытнай з'явай сярод сінхронных культур лясной зоны Усходняй Еўропы. Адзінства праяўляецца ў спецыфіцы зыходнай сыравіны, у абмежаваным тэрытарыяльным пашырэнні, у асаблівасцях тэхніка-тыпалагічнага прызначэння Прыведзеныя вышэй даныя дазваляюць зрабіць некаторыя агульныя заўвагі адносна характару развіцця культуры ў раннім мезаліце.

У тэхніцы расшчаплення крэменю назіраецца шэраг устойлівых прыкмет. Дамінуе паралельнае, аднабаковае (монафрантальнае) зняцце сколаў з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў пры неаформленым контрфронце. Большасць іх, мяркуючы па негатывах сколаў і складу саміх сколаў у калекцыях, варта аднесці да нуклеусаў для пласцін і адшчэпаў. Крамянёвая індустрыя грэнскай культуры вельмі багатая на дробныя адшчэпы і пласціны да 50 мм велічынёй, што тлумачыцца характарам зыходнай сыравіны і прыдае культуры адметныя рысы. У якасці нарыхтовак па меры іх развіцця перавага аддавалася адшчэпам. Паўторная апрацоўка ажыццяўлялася крутым рэтушаваннем, значным пашырэннем тэхнікі разцовага сколу і поўнай адсутнасцю вырабаў з плоскай рэтушшу.

Падсумоўваючы апісанні помнікаў грэнскай культуры, варта зазначыць, што ў кожным з іх сустракаюцца свае спецыфічныя рысы, якія, відавочна, абумоўлены як культурнымі традыцыямі асобных груп насельніцтва, так і храналагічнымі адрозненнямі. Аднак для абаснавання лакальных варыянтаў культуры патрэбна назапашанне багатага матэрыялу.

Адной з асаблівасцей грэнскай культуры патрэбна лічыць амаль поўную адсутнасць геаметрычных формаў. На ўсіх помніках, вывучаных на сённяшні дзень, вядомы толькі вастрыі падтрохкутных абрысаў з адным апрацаваным краем і часам рэтушаванай асновай. Іншыя тыпы мікралітаў прадстаўлены толькі адзінкавымі пласцінкамі з затупленым краем.

Самым выразным сведчаннем роднасці індустрыі помнікаў грэнскай культуры з'яўляюцца наканечнікі стрэл. Яны блізкія між сабою па нарыхтоўках, на якіх яны зроблены, формах, тэхніцы паўторнай апрацоўкі. Аналіз наканечнікаў стрэл, іх тыпалогія і развіцце форм у часе і прасторы дазваляюць выдзеліць тыпы, якія пераважаюць у пэўным храналагічным адрэзку. Тэрытарыяльнае пашырэнне і храналагічныя рамкі існавання даюць падставы меркаваць, што яны развіліся з наканечнікаў, прататыпы якіх вядомы ў Мезіне, Дабранічаўцы, Межырычах і іншых помніках позняга палеаліту. Асіметрычныя наканечнікі з бакавой выемкай з часу іх паяўлення ў познім палеаліце прайшлі працяглы шлях развіцця ад формаў, выробленых на пласцінках са слабавыдзеленай выемкай і процілеглым выгнутым прытупленым краем, да формаў больш развітых, з прамым крутарэтушаваным краем і чаранком, выдзеленым выемкай. Па сутнасці, яны складаюць адзінае «марфалагічнае сямейства», якое можна расчляніць на тыпы больш дасканалыя, падоўжаныя, выробленыя на пласцінах і тыпы больш позція, аформленыя на адшчэпах, якія трансфармуюцца ў наканечнікі з папярочным лязом, прычым грэнскія наканечнікі з'явіліся той асновай, на якой развіваліся іншыя формы гэтых вырабаў. Мяжа паміж указанымі групамі пралягае прыкладна на стыку ранняга і позняга мезаліту. У познім мезаліце (канец барэальнага — пачатак атлантычнага перыядаў) на базе грэнскіх наканечнікаў з'яўляюцца «ўкладышы алтынаўскага тыпу» (Кольцов, 1989. С. 76—84) у іенеўскай культуры, «асіметрычныя высокія трапецыі», таксама «асіметрычныя трохвугольнікі» ў дзяснінскай (Неприна і інш., 1986. С. 108—118). Вялікае пашырэнне папярочналязовых наканечнікаў у познім мезаліце Еўропы адзначана яшчэ Г. Кларкам (1953. С. 46). Адзначаныя класіфікацыйныя прыкметы для наканечнікаў стрэл грэнскага тыпу ў якасці храналагічнага паказчыка разам з тым патрабуюць пэўнай асцярожнасці, выкліканай рэгіянальнымі адрозненнямі. Аднак своеасаблівасць і асінхроннасць мясцовых праяў не выключав шэрагу агульных заканамернасцей у развіцці наканечніка грэнскага тыпу на працягу ўсёй мезалітычнай эпохі.

Паўсюдна на помніках грэнскай культуры сустракаюцца простыя чаранковыя формы, пяро і абрысы якіх створаны натуральным контурам нарыхтоўкі, а чаранок выдзелены крутой рэтушшу і чаранковыя наканечнікі са скошаным крутой рэтушшу пяром. Захаванне ўсіх тыповых прыкмет чаранковага наканечніка робіць відавочнай лакальнасць змен асноўнай формы, якія датычацца толькі пяра. На аснове гэтых вырабаў ствараліся камбінаваныя прылады: наканечнікі-разцы, у якіх разцовыя сколы наносіліся па пяры, не мяняючы тыповай формы наканечніка. Ва ўсіх выпадках вугал разцовай кромкі і яго шырыня поўнасцю адпавядалі рэтушным разцам.

Прыведзены вышэй фактычны матэрыял дае рэальную магчымасць прыхільнікам розных пунктаў гледжання ацаніць свае пазіцыі па пытаннях датавання і вызначэння культурнай прыналежнасці помнікаў з асіметрычнымі наканечнікамі стрэл. На погляд аўтара, нельга лічыць доказаным як удзел арэнсбургскай культуры ў якасці састаўнога элемента разам з помнікамі тыпу Лінгбі ў фарміраванні грэнскай культуры, так і наяўнасць прамой генетычнай сувязі паміж арэнсбургскай і грэнскай культурамі. Гэты факт лепш вытлумачыць як вынік значнага пашырэння чаранковых форм наканечнікаў у розных культурах на заключных этапах палеаліту, але не насельніцтва, з якім ён звязваецца. У грэнскай культуры мы бачым заключны этап адной з ліній развіцця позняга палеаліту Рускай раўніны, для якога характэрна не толькі падабенства тэхнікі расшчаплення і прыёму паўторнай апрацоўкі прылад, але і своеасаблівы комплекс крамянёвага інвентару. Разам з наканечнікамі стрэл варта зрабіць аналіз усяго набору прылад з мэтай выяўлення тыпаў прылад, найбольш характэрных для гэтай групы помнікаў. Самымі шматлікімі з'яўляюцца скрабкі на пласцінах і адшчэпах. Сярод скрабкоў пераважаюць разнастайныя варыянты канцавых форм укарочаных прапорцый, у тым ліку са скошаным рабочым лязом, двайныя, стрэльчатыя, з «шыпам». Досыць выразныя серыі акруглых скрабкоў. Адзінкавыя скрэблападобныя вырабы. Сустракаюцца камбінаваныя прылады: скрабкі-разцы, скрабкі-праколкі, скрабкі з выемкай па краі. Разцы пераважна рэтушныя, з прамой, скошанай, увагнутай ці выгнутай рэтушаванай пляцоўкай сколу. Серыйныя бакавыя разцы з выемістай пляцоўкай, абмежаванай двума сплюшчанымі разцовымі сколамі. У супастаўленні з раннім этапам культуры на асобных помніках павялічваецца колькасць разцоў на зломе нарыхтоўкі. Ва ўсіх калекцыях прысутнічаюць двухгранныя разцы, між якіх выдзяляецца ўстойлівы тып сярэдзінна-вуглавых. Адносна шматлікія прылады выпадковага выкарыстання: пласціны і адшчэпы з частковай рэтушшу краю, часам з рэтушшу утылізацыі, мноства якіх тлумачыцца прыстасоўваннем помнікаў да выхадаў крамянёвай сыравіны. Вастрыі прадстаўлены формамі, рэтушаванымі па адным краі натуральна завостранага канца і з рэтушаванымі краямі, якія сыходзяцца. Сустракаюцца дзюбападобныя вастрыі з дасканала апрацаваным выступам-шыпам, размешчаным на канцы прылады. Праколкі сіметрычныя і вуглавыя з кароткім джалам аддалена нагадваюць падобныя мезінскія вырабы. Усюды сустракаюцца вырабы з выемкай на пласцінах і адшчэпах, пласціны-ўкладышы з медыяльных сегментаў з рэтушшу па краі, пласціны з прама- і косарэтушаванымі дыстальнымі канцамі. Пераважным тыпам рубячых прылад з'яўляюцца сякеры з перахватам, ёсць таксама падтрохкутныя з завужаным абушком і падпрамавугольныя ў плане, паверхні якіх апрацаваны часткова або поўнасцю.

Гістарычныя перспектывы развіцця грэнскай культуры, дзякуючы шырокім даследаванням у Волга-Окскім міжрэччы і ў басейне Дзясны, з'яўляюцца відавочнымі. У другой палове 7-га тысячагоддзя да н. э. помнікі грэнскай культуры паяўляюцца ў заходняй частцы Волга-Окскага міжрэчча, дзе фарміруецца іенеўская культура, выдзеленая Л. У. Кальцовым (1989. С. 76—86). Пры наяўнасці агульных рыс, якія знайшлі адлюстраванне ў тэхніцы апрацоўкі каменя і характары выкарыстаных нарыхтовак, асобных тыпаў прылад, ёсць і істотныя адрозненні. У першую чаргу гэта значнае пашырэнне на помніках іенеўскай культуры геаметрычных мікралітаў (трапецыі, трохкутнікі, сегменты). Тыя ж адметныя рысы характэрны і для дзяснінскай культуры

(Н е п р и н а і інш., 1986. С. 108—124) А. М. Сарокін і А. С. Фралоў (1988. С. 21—28) прысвяцілі спецыяльнае даследаванне аналізу крамянёвага інвентару дзяснінскай і іенеўскай культур і прыйшлі да высновы, што адрозненні паміж імі нязначныя. Помнікі адносяцца да адной культурнай вобласці позняга мезаліту.

Вызначыць часавыя граніцы грэнскай культуры ў абсалютных датах цяжка і магчыма толькі прыблізна, на аснове супастаўлення з датаванымі помнікамі, блізкімі ў культурных адносінах. Улічваючы, што ўжо ў другой палове 7-га тысячагоддзя да н. э. арэал пашырэння носьбітаў грэнскай культуры быў досыць вялікім, варта дапусціць, што паяўленне іх у Верхнім Падняпроўі адбылося значна раней, відавочна, у позналедавіковы час. Спецыяльныя ўмовы для жыцця чалавека тут склаліся не раней алероду (11,8—10,8 тыс. гадоў таму назад), калі тэрыторыя паўночна-заходніх раёнаў Усходне-Еўрапейскай раўніны поўнасцю вызвалілася ад ледавіковага покрыва. Тэарэтычна, безумоўна, нельга выключыць, што пранікненне асобных груп паляўнічых магло адбывацца і раней, аднак падобных доказаў археалогія ў сваім распараджэнні не мае. Выходзіць, ніжні храналагічны рубеж грэнскай культуры ўстанаўліваецца з вельмі вялікім дапушчэннем. На аснове ўсёй сукупнасці даных грэнская культура займае прамежкавае становішча паміж познамадленскімі помнікамі сярэднедняпроўскай культурнай вобласці і помнікамі іенеўскай і дзяснінскай культур, якія сфарміраваліся на яе аснове.

Змена расліннага покрыва ў барэальны перыяд, звязаная з пашырэннем лясных ландшафтаў, прывяла і да змен у саставе фауны. Суцэльнае аблясенне тэрыторыі пасля пераяслаўскага пахаладання прывяло да перамяшчэння лясных відаў жывёл і адыходу паўночнага аленя ў больш высокія шыроты. У сувязі з гэтым частка свідэрскага і грэнскага насельніцтва пакінула межы рэгіёна, а тыя, хто застаўся, павінны былі карэнным чынам перабудаваць сваю эканоміку ў адпаведнасці з умовамі лясной зоны, што і прывяло да фарміравання ўласна мезалітычных культур. Спроба выдзялення помнікаў грэнскай культуры ў познім мезаліце Верхняга Падняпроўя, на думку аўтара, не бясспрэчная. Грэнскія наканечнікі на стаянках Рэчыца-2 і Рэкорд (К с е н з о в, 1988. С. 105—114) дакументуюць факт знаходжання тут носьбітаў грэнскай культуры. Астатні інвентар, сабраны на паверхні развеяных пяскоў, з'яўляецца іншакультурным па ўсіх тэхніка-марфалагічных паказчыках.

## 5. КУНДСКАЯ КУЛЬТУРА

Старажытнасці кундскай культуры былі вядомы яшчэ ў канцы XIX ст. Арэал іх распаўсюджання займае Усходнюю Прыбалтыку. Першы кундскі помнік на тэрыторыі Беларусі быў выяўлены Н. М. Гурынай у 1957 г. на правым беразе Дзвіны ў межах Полацкага раёна. Стаянкі кундскага насельніцтва вызначаліся спачатку толькі па знаходках касцяных і рагавых прылад працы, асабліва гарпуноў і наканечнікаў стрэл. Каменны інвентар, як правіла, быў прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі, што не дазваляла вызначаць яго характэрныя рысы. Гэтыя абставіны пакідалі па-за ўвагай даследчыкаў помнікі, якія залягалі ў пясчаных адкладах і на якіх захоўваліся арганічныя рэшткі. Прабел гэты быў пераадолены плённай працай Л. Ю. і К. Л. Янітсаў у Эстоніі, дзе імі выяўлены і даследаваны эталонныя стаянкі з касцяным і крамянёвым інвентаром. Гэта зрабіла магчымым вызначаць кундскую куль-

турную прыналежнасць і іншых помнікаў на аснове тыпалагічнага аналізу калекцый каменных вырабаў.

Яркім кундскім помнікам на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца паселішча Замошша-1, размешчанае ва ўрочышчы Бароўка на адлегласці 2,5 км на паўночны захад ад аднайменнага населенага пункта Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці. Залягае помнік на першай надпоймавай тэрасе правага берага Заходняй Дзвіны на ўзроўні 11,5 м над вадой. Адкрыты У. П. Ксяндзовым у 1983 г., ім жа даследаваўся ў 1983—1985 гг. (ускрытая пляцоўка 733 $м^2$). Культурны пласт разбураны ўзворваннем і другасным засяленнем гэтай тэрыторыі ў больш позні час

За гады даследаванняў на паселішчы сабрана калекцыя з 7506 знаходак. Сыравінай служыў крэйдавы крэмень высокай якасці, цемнага колеру, які мае карычневае адценне. Адзінкавыя знаходкі з ружовага, чорнага, блакітнаватага колеру крэменю. Нуклеусы на помніку выяўлены ў колькасці 73 экземпляраў. Большасць экземпляраў з-за значнай спрацаванасці аморфныя і сплюшчаныя. Меншая, больш захаваная частка мае прызматычную і канічную форму.

З 970 прылад (мал. 17), знойдзеных на паселішчах Замошша-1, 730 выраблена з пласцін (75,2%), 235 з адшчэпаў (24,2%), 5 з кавалкаў крэменю. Наканечнікаў стрэл выяўлена 331 экземпляр, прычым некалькі тыпаў. Першы тып утвараюць постсвідэрскія наканечнікі (8 экз.), черанок якіх адзначаны з боку спінкі выемкамі па абодвух краях крутой рэтушшу і апрацаваны плоскай з брушка. Сіметрычныя наканечнікі (7 экз.), черанок якіх адзначаны толькі выемкамі з боку спінкі ці брушка, адносяцца да другога тыпу. Трэці тып складаюць кундскія наканечнікі (6 экз.) з адзначаным сустрэчнай паўкрутой рэтушшу черанком. Вастрые прылад натуральнае, апрацаванае плоскай рэтушшу з брушка, паўкрутой аднабаковай ці сустрэчнай рэтушшу па двух краях. Черанок наканечнікаў гэтага тыпу, як правіла, востры, праколкападобны. Рысы кундскай культуры вызначаюць таксама наканечнікі з выемкай у черанку і плоскай рэтушшу на брушку пяра.

Большасць сабраных на помніку скрабкоў (153 экз., 15,7% ад усіх прылад) канцавыя — 99 экземпляраў. Рабочы край іх дугападобны, прамы, апрацаваны крутой скрабковай рэтушшу. Неабходна адзначыць, што ў якасці нарыхтоўкі часцей за ўсё ўжываліся ўсечаныя пласціны і адшчэпы. Скрабкі з авальным рабочым краем выраблялісяз адшчэпаў (33 экз.) Мікраскрабкі (19 экз.) пададзены ў асноўным канцавой формай. Іх дугападобны ці авальны рабочы край апрацаваны крутой рэтушшу. У 6 экземплярах выяўлены скрабкі, якія па стану рабочага краю ў адносінах да восі нарыхтоўкі можна аднесці да бакавых. Скрабачы (пласціны — 10 экз., адшчэпы — 14 экз., апрацаваныя па краях нерэгулярнай скрабковай рэтушшу) знойдзены ў колькасці 24 экземпляраў. Рэтуш, як правіла, наносілася з боку спінкі, радзей з брушка.

Разцы (56 экз., 5,7%) пададзены выключна тыпам на вугле зламанай пласціны. 40 прылад адналязовыя, астатнія маюць ад двух да чатырох разцовых вуглоў. Нарыхтоўкамі служылі пласціны добрай якасці з роўнымі паралельнымі краямі.

Праколкі выяўлены ў колькасці 17 экземпляраў. Джалы прылад аформлены дробнай ці крутой буйной рэтушшу па адным, двух краях з боку спінкі. Па размяшчэнні джала ў адносінах да падоўжнай восі нарыхтоўкі вылучаюцца сярэдзінныя (16 экз.) і вуглавыя праколкі.

Ланцэтападобныя вастрыі (7 экз.) выраблены з пласцін. Рабочы край апрацаваны паўкрутой рэтушшу з боку спінкі, на двух экземплярах падпраўлены дробнай проціleглай рэтушшу па другім краі. Асновы прылад абламаны, магчыма, апрацоўваліся рэтушшу па краях.

Своеасаблівыя прылады (57 экз.), выробленыя з пласцін і адшчэпаў, краі і канцы якіх апрацоўваліся крутой дробнай і буйнафасетачнай рэтушшу. Рабочы край прылад прамы, выемісты, авальны, зрэдку ў цэнтры яго ці бліжэй да канца прыкметны шып. Рэтуш і сколы наносіліся са спінкі. Форма прылад васьмёркападобная, падоўжанаавальная, складанафігурная, памеры знаходак не перавышаюць 4 см у даўжыню.

Скоблі знойдзены ў колькасці 106 экземпляраў. Выраблены з пласцін (59 экз.) і адшчэпаў (47 экз.), па краях якіх паўкрутой рэтушшу наносіліся з боку спінкі ці брушка выемкі дыяметрам 0,3—1 см. Прылады маюць адну, дзве і больш выемак.

Шматлікія і разнастайныя ўкладышавыя прылады і іх абломкі выраблены з пласцін і мікрапласцін (366 экз.). Па форме, тэхніцы вырабу вылучаюцца некалькі тыпаў укладышаў. Найбольш поўна пададзены ўкладышы з крутой дробнай рэтушшу па адным краі (54 экз.). Большасць прылад гэтага тыпу знаходзіцца ў абломках, аднак сустракаюцца і цэлыя экземпляры. Канцы прылад прамыя ці скошаныя, апрацаваны крутой рэтушшу ці без апрацоўкі.

Менш шматлікія ўкладышы, у якіх крутой рэтушшу апрацаваны два краі. Рэтуш наносілася з боку спінкі і брушка, сустракаюцца аднабаковая і проціleглая. У межах гэтых двух тыпаў укладышаў па форме вылучаюцца прамавугольныя (іх большасць) і востраканцовыя. Колькасць востраканцовых укладышаў без рэтушы па краях складае 73 экземпляры. Канцы пласцін адсечаны, зрэдку апрацаваныя рэтушшу, прамыя. З 219 сячэнняў пласцін і мікрапласцін большая частка выкарыстоўвалася ў якасці ўкладышаў. Укладышы тыпу Міхайлаўкі ў калекцыі пададзены ў колькасці 7 экземпляраў. Канцы ў іх па краях зрэзаныя з брушка і спінкі проціleглай крутой рэтушшу з мэтай згладзіць выступаючыя вуглы нарыхтовак. Трапецыя на помніку знойдзена ў адным экземпляры, асіметрычная, выраблена з сячэння пласціны. Папярочныя краі апрацаваны крутой дробнай рэтушшу.

У калекцыі знаходзяцца таксама долатападобныя прылады (15 экз.), пласціны і адшчэпы з нерэгулярнай рэтушшу па краях (112 экз.), пласцінкі са скошаным рэтушшу канцом (2 экз.), з пілаватай рэтушшу па краі (1 экз.), свердлы-пракруткі (10 экз.), рэтушоры.

Выразным помнікам культуры Кунда на тэрыторыі Паўночнай Беларусі з'яўляецца таксама паселішча каля в. Крумплева Полацкага раёна Віцебскай вобласці. Залягае яно на правым беразе Заходняй Дзвіны, на вышыні 6 м над узроўнем ракі. З-за воднай эрозіі на тэрыторыі помніка ўтварылася катлавіна глыбінёй 2 м і плошчай 800 $м^2$, дзе ў 1967 г. Н. М. Гурынай была сабрана калекцыя крамянёвых вырабаў разам з сярэдневяковым матэрыялам (Г у р и н а, 1960. С. 128, 1229 (мал. 2); 1965. С. 148 (мал. 4); 1966а. С. 31—32). Зачышчэнне краёў прамывіны і закладка шматлікіх шурфаў на яе дне дазволілі высветліць стратыграфію помніка.

Мезалітычны культурны пласт магутнасцю 0,5 м залягаў пад культурным слоем сярэдневяковага часу (магутнасць 0,3—0,4 м), афарбаваны ў цёмны колер і знаходзіўся пад ворным слоем. Сыравінай для вырабу прылад, як і на паселішчах Пулі, Замошша, з'яўляўся цёмны, часам карычневаты, празрысты, вельмі высокай якасці крэйдавы крэмень. Крамянёвы інвентар Крум-

плева характарызуецца высокаразвітой пласціначнай тэхнікай, бо пераважная колькасць прылад выраблена з ножападобных пласцін (мал. 18). Скрабкі, што пераважаюць у калекцыі, пададзены трыма тыпамі. Большасць скрабкоў канцавых, выробленых з правільных ножападобных пласцінак. Частка прылад мае акруглы рабочы край, нарыхтоўкай ім служыў пласціначны адшчэп ці адшчэп.

Трэці тып утвараюць мікраскрабкі авальнай формы. Наканечнікі стрэл чаранковыя, выраблены з пласцін, пададзены некалькімі тыпамі. Тыпова кундскімі з'яўляюцца два наканечнікі. У аднаго з іх чаранок выдзелены паўкрутой сустрэчнай рэтушшу па абодвух краях і апрацаваны плоскай з брушка на вастрыі (Гурина, 1960 (мал. 2, 8)). Другі адносіцца да тыпу наканечнікаў з бакавой выемкай. Чаранок выдзелены па адным краі выемкай, апрацаванай крутой дробнай рэтушшу са спінкі, таксама плоскай рэтушшу апрацавана з брушка вастрыё (Гурина, 1960 (мал. 2, 9)). Два астатнія наканечнікі — постсвідэрскі (чаранок апрацаваны крутой рэтушшу па абодвух краях са спінкі і плоскай з брушка (Гурина, 1960 (мал. 2, 7)) і чаранковы сіметрычны (Гурина, 1960 (мал. 2, 10)). Сярод прылад сустракаюцца таксама пласцінкі з затупленым крутой рэтушшу краем, канцы якіх абламаныя, натуральныя, скошаныя гэтай жа рэтушшу, праколкі, прылады з разцовымі сколамі і долатападобныя прылады.

Паселішчы Замошша-1 і Крумплева ўваходзяць у другую храналагічную групу кундскай культуры, што датуецца другой паловай прэбарэальнага — барэальным перыядам, г. зн. 9,8—8 тысяч гадоў назад. У параўнанні з іншымі кундскімі помнікамі гэтай храналагічнай групы (Звейніекі-2 (верхні слой), Кунда) іх інвентар мае некаторыя асаблівасці. Перш за ўсё ў культурных слаях паселішчаў не выяўлены прылады з крышталічных парод крэменю, што тлумачыцца, відаць, адсутнасцю кантактаў з насельніцтвам фінскіх і карэльскіх культур асколу і суомус'ярві і непатрэбнасці ў дадзеных пародах каменю з-за забяспечанасці крамянёвай сыравінай. У інвентары беларускіх помнікаў адсутнічаюць вырабы з косці, што з'яўляецца вынікам залягання культурных рэшткаў у пяску на невялікай глыбіні, дзе арганічныя матэрыялы не захоўваюцца.

## 6. СОЖСКАЯ КУЛЬТУРА

У апошнія гады намаганнямі многіх даследчыкаў у Верхнім Падняпроўі (А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыцін, У. П. Ксяндзоў, В. Л. Ліпніцкая і інш.) вядзецца мэтанакіраванае, сістэматычнае вывучэнне позняга мезаліту, дзякуючы чаму адкрыты новыя унікальныя помнікі, праведзены шырокія раскопкі раней вядомых. Тэта дазволіла стварыць надзейную крыніцазнаўчую базу і аб'яднаць вывучаныя помнікі ў сожскую познамезалітычную культуру, пашыраную ў басейне верхняга цячэння Дняпра і яго прытокаў. Асноўныя рысы культуры выразна выступаюць у матэрыялах помнікаў Гарадок, Васілевічы-2, Міхайлаўка на Бярэзіне, Глыбаўка, Новыя Грамыкі, Стаўбун на Беседзі, Берагавая Слабада, Новы Быхаў-2, Рдзіца на Дняпры, Прысна, Журавель на Сажы. Адной з найбольш вывучаных з'яўляецца стаянка **Горкі** на Сажы. Назва ракі і дала назву культуры.

Помнік размешчаны ва ўрочышчы Угароўка на луцэ правага берага р. Сож за 1 км на паўднёвы захад ад в. Горкі Чэрыкаўскага раёна Магілёў-

екай вобласці і займае ўчастак першай надпоймавай тэрасы, вышынёй 6—7 м над урэзам ракі. Рака падмывае тэрасу і агаляе крэйдавыя адклады, якія ўтрымліваюць вялікую колькасць крэменю шэрага адцення, што шырока выкарыстоўваўся жыхарамі паселішча для вырабу прылад працы.

Стаянка адкрыта ў 1928 г. К. М. Палікарповічам (Поликарпович, 1957. С. 60). З 1974 па 1989 г. ускрыта 1700 м² культурнага слоя, які залягае ў светла-жоўтым мелказярністым пяску на глыбіні 0,2—0,5 м. Знаходкі сустракаюцца вузкай паласой (да 30 м) уздоўж берагавога абрыву на працягу да 500 м над крэйдавымі адкладамі. Лёгкі доступ да крамянёвай сыравіны, відавочна, быў адной з прычын заснавання тут паселішча. Вузкая паласа тэрасы шырынёй да 65 м з паўночнага захаду пакрыта схілавымі адкладамі правага борта даліны вышынёй да 16 м над яе паверхняй. Схілы пакатыя і ўмерана крутыя, парэзаныя ярамі і лагчынамі, па якіх працякаюць невялікія ручайкі, што з правага боку вышэй і ніжэй стаянкі ўпадаюць у Сож. Паверхня тэрасы роўная, адкрытая, перасечаная невялікімі лагчынамі.

Культурныя рэшткі, якія захаваліся, сведчаць, што галоўнай каштоўнасцю для старажытных жыхароў з'яўляўся крэмень. Шматлікія матэрыялы раскопак (52895 экз.) дазволілі ўзнавіць некаторыя цікавыя дэталі майстэрні, якая функцыяніравала працяглы час. У комплексе знаходак сустракаюцца ўсе стадыі апрацоўкі крэменю, пачынаючы з абіўкі кавалкаў і канкрэцый (4898 экз.), расшчаплення нуклеусаў (1768 экз., 4,8%) з мэтай атрымання сколаўнарыхтовак і ператварэння іх у разнастайныя прылады працы (1300 экз., 3,5%). Сустракаецца вялікая колькасць адшчэпаў (25615 экз., 69,6%), пласцін (8140 экз., 22%), разцовыя сколы, сколы падправак ударных пляцовак нуклеусаў, розныя дробныя асколкі і лускавінкі да 1 см у папярочніку (11140 экз.). Адсутнасць на іх слядоў ударных пляцовак, невыразная акантоўка спінак, малыя памеры дазваляюць вылучыць гэтыя прадметы ў асобную групу і разам з кавалкамі і канкрэцыямі крэменю не ўлічваць у працэнтных адносінах.

У асобных месцах раскрытай плошчы канцэнтрацыя знаходак складае звыш 200 расшчэпленых крэменяў на 1 м². Характар і склад знаходак з улікам іх размеркавання ў культурным слоі дазваляюць вызначыць помнік як стаянку-майстэрню па апрацоўцы крэменю, якая мае статус сезоннага функцыяніравання. На сённяшні дзень стаянка-майстэрня Горкі з'яўляецца адным з эталонных помнікаў сожскай культуры як па мноству атрыманага матэрыялу, так і па яго тыпалагічнай выразнасці. Аднак да гэтага часу друкаваліся толькі кароткія папярэднія звесткі пра гэты помнік (Копытин, 1979. С. 27—32).

Як вядома, уяўленне аб тэхніцы расшчаплення крэменю засноўваецца на аналізе нуклеусаў і атрыманых з іх сколаў Сярод адшчэпаў адзначаецца мноства крэменяў з рэшткамі жаўлачнай скарынкі (63,7%), што можна растлумачыць характарам помніка (стаянка-майстэрня з вялікай колькасцю адыходаў вытворчасці), наяўнасцю зыходнай сыравіны ў межах пасялення (ачыстка крэменю ад жаўлачнай скарынкі ў працэсе першаснага расшчаплення) і невялікімі памерамі выкарыстанай сыравіны (канкрэцыі авальнавыцягнутай формы да 10—15 см у дыяметры). Апошняе, у прыватнасці, растлумачвае наяўнасць фрагментаў скарынкі на большасці нуклеусаў. Адшчэпы маюць трохкутнае (48%), сегментападобнае (28,2%) і трапецападобнае (23,6%) сячэнні. Колькасць прадметаў з прамым і выгнутым профілем размеркавалася пароўну — па 50%. Па форме дыстальнага канца адшчэпы

падраздзяляюцца на акруглыя (45,3%), канвергентныя (35,5% і дывергентныя (19%). Метрычныя даныя адшчэпаў наступныя: даўжыня 12—97 мм, шырыня 9—55 мм, таўшчыня 1—23 мм.

Да пласцін у адпаведнасці з крытэрыямі Ф. Борда аднесены ўсе сколы, даўжыня якіх перавышае максімальную шырыню ў два і больш разы. У трупе пласцін выдзяляюцца шматлікія фрагменты (52% ад агульнай колькасці пласцін), якія, на погляд аўтараў, з'яўляюцца вынікам выпадковых паломак. Захаваныя поўнасцю экземпляры маюць даўжыню ў межах 17—75 мм пры шырыні 5—29 мм і таўшчыні 1—12 мм. Значная частка пласцін захоўвае на спінцы часткі жаўлачнай скарынкі (36,2%), што пры субпаралельнасці краёў (49,6%), канвергентнай форме дыстальнага канца (68%) і выгнутым профілі (42%) надае ім няправільныя абрысы. Са спінкі пласціны аформлены з дапамогай двух (51,5%), радзей трох (45%) або некалькіх сколаў (3,5%), што дазваляла атрымліваць трохкутнае, трапецападобнае або сегментападобнае сячэнне адпаведна.

Асноўным прынцыпам расшчаплення была сістэма паралельнага зняцця пласцін і адшчэпаў з аднапляцовачных (53%) і двухпляцовачных (44%) нуклеусаў пры наяўнасці невялікай колькасці трохпляцовачных з сумешчанымі ўдарнымі пляцоўкамі (3%). Характэрнай асаблівасцю нуклеусаў з'яўляецца захаванне ўчасткаў жаўлачнай скарынкі на контрфронце (88,5%), што рабіла цяжкай альбо часам немагчымай іх марфалагічную класіфікацыю. Працэсу расшчаплення крэменю папярэднічала падрыхтоўка, якая ўключала выбар падыходзячай канкрэцыі і афармленне ўдарнай пляцоўкі. У асобных выпадках (2,9%) ударная пляцоўка захоўвае крэйдавую скарынку. Пры афармленні ўдарных пляцовак пераважна карысталіся адным сколам (64,7%), радзей (28,4%) ад двух да пяці сколаў. Фасетаванне пляцовак не атрымала значнага пашырэння (3,5%). Нуклеусы прадстаўляюць усе стадыі іх выкарыстання ад пачатковай (аформлена ўдарная пляцоўка і зроблена не менш трох сколаў) да апошняй, калі далейшае выкарыстанне ядрышча станавілася немагчымым.

Зняцце сколаў праводзілася пераважна ў адной плоскасці, было монафрантальным (78,8%), у той час як двухбаковае (біфрантальнае) не атрымала дастатковага пашырэння (10,6%). Кругавое зняцце нарыхтовак характэрна для нязначнай колькасці нуклеусаў (1,3%).

Поўны спіс прылад закончаных формаў без уліку прылад выпадковага выкарыстання — пласцін і адшчэпаў з нерэгулярнай рэтушшу краю (466 экз., 35,9% усіх вырабаў з другаснай апрацоўкай) уключае 830 прадметаў (2,25% ад агульнай колькасці знаходак), аб'яднаных у 10 тэхніка-марфалагічных груп (мал. 19).

Характэрным элементам сожскай культуры з'яўляюцца наканечнікі стрэл (85—10%), якія маюць выразна выдзелены з боку спінкі крутой рэтушшу чаранок з наступнай падпраўкай плоскай рэтушшу з брушка. Яны выраблены на пласцінках з натуральным завастрэннем канца. У асобных выпадках плоская рэтуш з брушка нанесена па пяры вырабу. Найбольш раннія формы падобных вырабаў знойдзены ў матэрыялах стаянкі Баркалабава на Дняпры. У невялікай колькасці прадстаўлены прылады з чаранком, аформленым процілеглай рэтушшу ці рэтушшу, нанесенай толькі з брушка.

Сярод рэдкіх знаходак варта адзначыць трапецыю і дзве пласцінкі з прытупленым краем даўжынёй да 30 мм пры шырыні 10 мм трохкутнага сячэння, злёгку выгнуты край якіх апрацаваны крутой затупленай рэтушшу.

У асобную групу вылучаюцца востраканечныя прылады, якія па фукцыянальным прызначэнні можна аднесці да вастрый (86 экз., 10%) і праколак (10 экз., 1,2%). Пераважаюць вастрыі з мелкай рэтушшу ■ натуральна завостранага канца. У некаторых вырабаў рабочая частка аформлена паўкрутой рэтушшу краёў, якія сыходзяцца, у сувязі ■ чым яны адрозніваюцца больш выразнай формай рабочага канца Праколкі прадстаўлены двума тыпамі — сярэдзінным і вуглавым ■ кароткім джальцам і выдзеленымі плечыкамі. Адна праколка выраблена ■ кварцыту

Вельмі своеасаблівая група пласцін са скошанымі канцамі, якія апрацаваны паўкрутой рэтушшу з вуглом завастрэння ў 45°.

Самай шматлікай катэгорыяй знаходак з'яўляюцца скрабкі (344 экз., 41%), выробленыя пераважна на адшчэпах, зрэдку на пласцінах. Абсалютная большасць іх (да 90% усіх скрабкоў) канцавыя ■ выгнутай, радзей скошанай рабочай часткай. ЁСЦЬ двайныя (9 экз.), «стрэльчатыя» (3 экз.), скрабкі з невялікім выступам у выглядзе «шыпа» (3 экз.). У калекцыі сустракаюцца акруглыя і падакруглыя скрабкі (8 экз.), прычым асобныя маюць высокую форму, ЁСЦЬ адзінкавыя скрэблападобныя формы і камбінаваныя вырабы: скрабкі-разцы (3 экз.), скрабкі ■ рэтушаванай кромкай краю.

Разцы (179 экз., 21,5%) прадстаўлены рэтушнымі (53%), на вугле зламанай пласціны (33,5%) і двухграннымі (13,4%). У якасці нарыхтовак выкарыстаны пласціны і грубыя масіўныя адшчэпы часта ■ крэйдавай скарынкай на спінцы. Група рэтушных разцоў дастаткова адметная па афармленні рабочай часткі. Можна выдзеліць касарэтушныя формы. Рэтуш ахоплівае або ўвесь дыстальны канец або невялікі ўчастак, што прылягае да разцовага сколу. Разцовыя сколы адрозніваюцца паміж сабой галоўным чынам шырынёй і даўжыней, што ў многім залежыць ад характару выкарыстання нарыхтоўкі. На пласцінах яны вузкія і кароткія, на адшчэпах — шырокія, часам прыплюснутыя. часта сустракаюцца дубліраваныя рабочыя кромкі. Для двухгранных характэрны дзве разнавіднасці: сіметрычныя і асіметрычныя (сярэдзінна-вуглавыя), у апошніх адзін разцовы скол здымае дыстальны канец нарыхтоўкі пад вуглом або перпендыкулярна восі зняцця, а другі нанесены па краі пад вуглом 75—90° да першага. У сіметрычных разцоў рэжучы кант супадае з воссю зняцця нарыхтоўкі.

Прадстаўнічая група вырабаў (57 экз., 7%) складаецца пераважна з адшчэпаў ■ вузкімі і шырокімі выемкамі, аформленымі дробнай рэтушшу са спінкі, радзей — ■ брушка.

Выяўлены сячэнні ножападобных пласцінак, прамых у профіль, даўжынёй 20—30 мм пры шырыні 10—15 мм са слядамі выкарыстання, ■ мелкай рэтушшу па краі і мікраразцовымі сколамі на вугле.

Рубячыя прылады (31 экз., 3,8%) розняцца формай і тэхнікай апрацоўкі. Яны, як правіла, выраблены на адшчэпах і прадстаўлены клінападобнымі, траншэпадобнымі вырабамі тыпу пік і сякеркамі з перахватам. Апрацоўка ажыццяўлялася шляхам двухбаковай абіўкі, буйнафасетачнага рэтушавання, лязо ў асобных выпадках фарміравалася папярочнымі (траншэпадобнымі) сколамі.

Комплекс крамянёвага інвентару стаянкі Горкі сведчыць аб непарыўнай сувязі ■ матэрыяламі помнікаў папярэдняга часу, у прыватнасці грэнскай і свідэрскай культур тыпу Баркалабава, якія выступаюць у якасці генетычнай падасновы сожскай познамезалітычнай культуры. Адной ■ найбольш выразных формаў прылад з'яўляюцца наканечнікі стрэл на пласцінах, аформленыя ў свідэрскай традыцыі. Састаўным элементам выступаюць тыповыя

грэнскія прыёмы расшчаплення крэменю, асобныя катэгорыі інвентару (скрабкі, разцы, вастры). Надзвычай выразныя сякеркі з перахватам, якія аналагічныя вырабам грэнскай і свідэрскай культур. Адметнай рысай сожскай культуры з'яўляецца шырокае выкарыстанне ў якасці нарыхтовак адшчэпаў (да 60%), часта з крэйдавай скарынкай, што надае асаблівую спецыфіку інвентару, змяншэнне колькасці разцоў і камбінаваных прылад пры захаванні ранейшых тыпаў, шматлікасць выпадковага выкарыстання і інш. Гэтыя характэрныя для сожскай культуры рысы ярка і наглядна праяўляюцца на шэрагу іншых помнікаў, у прыватнасці на размешчанай за 5 км ніжэй па цячэнню Сажа на блізкай па геамарфалагічнай сітуацыі стаянцы Журавель (Копытин, 1986 (мал. 1—4)).

Помнік размешчаны ва ўрочышчы Мел на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Журавель Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Перавышэнне стаянкі над меженным узроўнем ракі складае 5—6 м.

Стаянка, адкрытая К. М. Палікарповічам (Поликарпович, 1957а. С. 66—71) у 1928 г., была адной з нямногіх, што вывучаліся ў даваенны перыяд шляхам стацыянарных раскопак (каля 12 м$^2$). Нягледзячы на тое што калекцыя была згублена, а палявая дакументацыя знішчана ў гады вайны, стаянка трывала ўвайшла ў археалагічную літаратуру як эталонны помнік «мікралітычнага мезаліту» Верхняга Падняпроўя (Левенок, 1966; Исаенко, 1970; Гісторыя Беларускай ССР, 1972) або дзяснінска-сожскага мезаліту (Телегин, 1973). К. М. Палікарповіч датаваў стаянку «стадыяй кампіны» (Поликарпович, 1934; Ляўданскі, Палікарповіч, 1936).

Даследаванне стаянкі Журавель прадоўжана В. Ф. Капыціным у 1972—1973 гг. Двума раскопамі была раскрыта плошча 130 м$^2$ (Копытин, 1973, 1974, 1986. С. 131—138).

У працэсе раскопак стаянкі атрымана калекцыя крамянёвага інвентару (6247 экз.), у тым ліку 293 вырабы з паўторнай апрацоўкай (4,7% ад колькасці ўсіх знаходак), 168 экземпляраў нуклеусаў. Пры мностве нуклеусаў сярэдняй (73 экз.) і максімальнай (89 экз.) ступені зносу пераважная большасць (117 экз.) захоўвае на тыльным баку ўчасткі крэйдавай скарынкі, што тлумачыцца перавагай аднабаковага зняцця нарыхтовак. Значная частка нуклеусаў мае сляды паджыўлення ўдарных пляцовак у выглядзе доўгіх сколаў і мелкіх фасетак. Сярод нуклеусаў аднапляцовачных выяўлена 81 экземпляр, двухпляцовачных — 65 экземпляраў, шматпляцовачных, аморфных абрысаў — 22 экземпляры.

Наканечнікі стрэл (9 экз.) прадстаўлены чаранковымі формамі, у якіх чаранкі выдзелены паўкрутой рэтушшу са спінкі і плоскай рэтушшу з брушка. Ёсць экземпляры з пласцін няправільных абрысаў з невыразным кароткім чаранком. Па форме да наканечнікаў грэнскага тыпу блізкі нож, які ад падобных вырабаў адрозніваецца паўторнай апрацоўкай. Замест крутой тут адзін край і выемка аформлены плоскай падвостранай рэтушшу.

Разцоў знойдзена 37 экземпляраў. Пераважнае выкарыстанне для іх вырабу невялікіх адшчэпаў у якасці нарыхтовак (28 экз.) — характэрная асаблівасць крамянёвага інвентару стаянкі, як, дарэчы, і іншых познамезалітычных паселішчаў даследаванага раёна. Марфалагічна разцы можна падзяліць на тры групы: рэтушныя (19 экз.), на вугле зламанай нарыхтоўкі (14 экз.), двухгранныя (4 экз.). Выразная серыя двайных бакавых разцоў з рэтушаванай выемкай на канцы, акантаванай двума шырокімі сплюшчанымі сколамі (13 экз.).

Долатападобны, некалькі ўвагнуты канец апрацаваны буйнафасетачнай рэтушшу і ў спалучэнні з разцовымі сколамі дае дзве масіўныя рэжучыя кромкі.

Скрабкі колькасна пераважаюць, у калекцыі іх налічваецца 83 экземпляры. Пры вырабе скрабкоў яўная перавага ў познамезалітычных комплексах надавалася адшчэпам. На стаянцы Журавель з пласцін выраблена толькі 6 экземпляраў скрабкоў. Найбольш шматлікай групай з'яўляюцца канцавыя скрабкі (60 экз.). Адзінкавы экземпляр — скрэбла — падоўжаны адшчэп, рэтушаваны па краі. Двайныя скрабкі (3 экз.) выраблены з адшчэпаў і не маюць устойлівай формы. Камбінаваныя прылады (2 экз.) прадстаўлены скрабкамі-разцамі. Падакруглыя скрабкі (18 экз.) выраблены з акруглых адшчэпаў. Рабочы край іх аформлены рэтушшу па ўсім авале.

Рубячыя прылады (4 экз.) уключаюць траншэпадобныя сякеркі і сякеркі з перахватам, аформленыя двухбаковай абіўкай з далейшай падпраўкай краёў і ляза.

У калекцыі ёсць шматлікая група пласцін (52 экз.) і адшчэпаў (69 экз.), якія маюць дробную падвостраную нерэгулярную рэтуш па краі.

Такім чынам, для крамянёвага інвентару стаянкі Журавель характэрныя наступныя рысы: чаранковыя наканечнікі стрэл, асобныя з якіх маюць плоскую рэтуш з брушка; пераважнае выкарыстанне адшчэпаў у якасці нарыхтовак для прылад; перавага рэтушных разцоў; мноства падакруглых скрабкоў і адшчэпаў і невялікая колькасць канцавых з пласцін; наяўнасць траншэпадобных тапорыкаў і тапорыкаў з перахватам; адсутнасць геаметрычных мікралітаў.

Значыць, гэта тыповы познамезалітычны комплекс сожскай культуры, блізкі да матэрыялаў Горак тэхнікай расшчаплення крэменю і асноўнымі тыпалагічнымі характарыстыкамі інвентару. У гэтай сувязі аднясенне стаянкі Журавель да помнікаў грэнскай культуры і датаванне яго раннім мезалітам (К с е н з о в, 1988. С. 48—52) з'яўляюцца памылковымі.

Своеасаблівым помнікам сожскай культуры з'яўляецца стаянка Печанеж у Касцюковіцкім раёне Магілёўскай вобласці, размешчаная на беразе старажытнага азёрнага вадаёма, на паўночна-ўсходнім схіле ўрочышча Печанеж, якое ўяўляе сабой тарфянік у форме няправільнага круга плошчай 780 га.

Помнік быў адкрыты К. М. Палікарповічам у 1926 г. і паўторна вывучаўся ў 1930 г. (П а л і к а р п о в і ч, 1927. С. 237—238; 1932а. С. 227). У 1972 г. В. Ф. Капыцін (К о п ы т и н, 1975. С. 63—67) правёў раскопкі стаянкі на плошчы 265 $м^2$. Культурны пласт залягае пад ворыўным гарызонтам глебы ў апясчаненым лёсе на глыбіні 0,4—0,5 м і часткова разбураны дэлювіяльнымі працэсамі і разворваннем схілаў урочышча. У межах раскопаў выяўлены рэшткі двух ачагоў, размытых у напрамку сцёку вод. Разбуранасць культурнага слоя не дазваляе ўзнавіць бытавую карціну пасялення.

Калекцыя крамянёвага інвентару складаецца з 1658 экземпляраў, сярод іх прылады закончаных форм — 200 экземпляраў (12%) і 172 экземпляры пласцін і адшчэпаў з рэтушшу (46% ад усіх вырабаў з паўторнай апрацоўкай). Апрацоўка крэменю праводзілася на тэрыторыі пасялення, аб чым сведчаць нуклеусы (116 экз., 7%), адшчэпы (988 экз., 60%), пласціны (182 экз., 11%) і кавалкі крэменю (160 экз.). Зыходным матэрыялам для нуклеусаў служылі невялікія жаўлакі цёмна-шэрага крэменю. Абсалютная большасць адшчэпаў (да 93%) і пласцін (95%) маюць даўжыню да 5 см, захоўваюць на спінцы ўчасткі крэйдавай скарынкі (56,9% адшчэпаў і 39% пласцін). Сярод нуклеусаў выяўлена 50 экземпляраў аднапляцовачных і двухпляцовачных —

41 экземпляр з аднабаковым зняццем нарыхтовак і захаваннем жаўлачнай скарынкі на контрфронце. Ёсць экземпляры дыскападобнай формы з радыяльным сколваннем нарыхтовак ад перыферыі да цэнтра і шматпляцовачныя нуклеусы з бессістэмнай абіўкай (Копытин, 1996 (мал. 39—50)).

Наканечнікаў стрэл выяўлена 4 экземпляры. Толькі адзін мае выразную форму: чаранок аформлены са спінкі, а пяро падпраўлена мелкай рэтушшу па краі.

Самую шматлікую групу прылад складаюць скрабкі (91 экз., 44,5%), выробленыя ў асноўным з адшчэпаў даўжынёй 20—60 мм пры шырыні 15—55 мм. Марфалагічна скрабкі прадстаўлены канцавымі (55 экз.), падакруглымі і акруглымі (22 экз.), двайнымі (5 экз.) і камбінаванымі прыладамі (5 экз.): скрабкамі-разцамі і скрабкамі ў спалучэнні з праколкай. Ёсць скрэблападобныя формы.

Разцы (31 экз., 15,5% ад усіх прылад) пераважна выраблены з адшчэпаў розных абрысаў (81,2%). Даўжыня прылад вар'іруе ў межах 20—50 мм, шырыня 12—35 мм. Як і на іншых помніках сожскай культуры, пераважным тыпам з'яўляюцца рэтушныя разцы (15 экз.), сярод якіх серыя з 7 экземпляраў мае рэтушаваную выемку на канцы і шырокія сплюшчаныя сколы. Ёсць таксама разцы на зломе нарыхтоўкі (8 экз.) і двухгранныя асіметрычныя з рэжучым кантам на вугле нарыхтоўкі (8 экз.).

Своеасаблівыя рубячыя прылады — сякеркі і цёслы (12 экз.) прамавугольных і трохкутных абрысаў, апрацаваныя буйнафасетачнай двухбаковай рэтушшу, з прамымі і ўвагнутымі лёзамі, якія падпраўлены падвостранай мелкай рэтушшу ці аформлены траншэпадобнымі сколамі.

На стаянцы знойдзены пласціны-ўкладышы (17 экз.) з паралельнымі краямі, апрацаваныя па краі падвостранай рэтушшу, вырабы з выемкай (19 экз.), якая выдзелена крутой рэтушшу, праколкі — сярэдзінныя і вуглавыя (18 экз.) з кароткімі джальцамі, пласцінкі са скошаным канцом (2 экз.), вастрыі (3 экз.) і пласцінкі з прытупленым краем (2 экз.).

Такім чынам, пры апісанні крамянёвага інвентару стаянкі Печанеж нельга не адзначыць яго своеасаблівасць у адносінах да іншых помнікаў сожскай культуры: наяўнасць нуклеусаў з радыяльнай сістэмай зняцця, якія, магчыма, выкарыстоўваліся ў якасці клінкоў; чаранковыя наканечнікі стрэл без падпрацоўкі плоскай рэтушшу з брушка; цёслы і серыя падакруглых скрабкоў. Разам з тым для індустрыі Печанежа характэрна аднабаковае зняцце сколаў з адна- і двухпляцовачных нуклеусаў з захаваннем жаўлачнай скарынкі на контрфронце, перавага дробных адшчэпаў і пласцін, прадуктыўнае выкарыстанне адшчэпаў у якасці нарыхтовак для прылад, мноства канцавых скрабкоў, у тым ліку двайных, вырабы скрэблападобных формаў, перавага рэтушных разцоў і выразнай серыі выемістых двайных, характэрных вастрый і пласцінак з прытупленым краем, што сведчыць аб прыналежнасці помніка да сожскай культуры

Своеасаблівым помнікам сожскай культуры з'яўляецца стаянка Нераж у Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці. Яна размешчана на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, у 1,5 км на ўсход ад в. Нераж, у 1 км на поўнач ад пасёлка Ірдзіца, у 4 км на поўдзень ад г. Быхава. Каля падножжа тэрасы працякае Рдзіца, правы прыток Дняпра, берагі якой забалочаныя і параслі хмызняком. З паўночнага боку паселішча праходзіць дарога ад в. Нераж да Дняпра. З поўдня і захаду астанец першай надпоймавай тэрасы абмежаваны ўступам борта даліны Дняпра. Пляцоўка тэрасы параўнальна роўная, з невялікім нахілам да поймы, занятая пасадкай хваёвага лесу, са

шматлікімі траншэямі і бліндажамі ваеннага часу, што перашкаджае далейшаму вывучэнню помніка на больш значнай плошчы.

Стаянку выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1980—1983 гг. на плошчы 70 м$^2$ В. Ф. Капыцін. Культурныя рэшткі знаходзіліся на глыбіні 0,2—0,5 м у светлажоўтым дробназярністым пяску (К о п ы т и н, 1992 (мал. 19—22)).

У якасці сыравіны для вырабу прылад працы ўжываўся мясцовы крэмень цёмна-шэрага колеру, плямісты, ■ уключэннем частак крэйды. Першапачатковая апрацоўка крэменю адбывалася на месцы паселішча, аб чым сведчаць шматлікія прадукты расшчаплення крамянёвай сыравіны.

Нуклеусы дастаткова разнастайныя і прадстаўлены наступнымі тыпамі: аднабаковыя (монафрантальныя) аднапляцовачныя (15 экз.), двухпляцовачныя папярочна-прадольнага сколвання (4 экз.), двухбаковыя (біфрантальныя) двухпляцовачныя (5 экз.) і з сумешчанымі ўдарнымі пляцоўкамі (3 экз.). Нуклеусаў ■ жаўлачнай скарынкай на контрфронце налічваецца 37 экземпляраў (80,4%). Ударныя пляцоўкі перпендыкулярныя або слабаскошаныя да паверхні сколвання, пераважна аформлены адным сколам (67%), радзей 2—5 сколамі (24%) і адзінкавыя ■ фасеткамі (8%). Памеры нуклеусаў: вышыня 20—50 мм, шырыня 14—42 мм, таўшчыня 11—38 мм.

Вырабаў з паўторнай апрацоўкай выяўлена 143 экземпляры. Асноўнай формай нарыхтоўкі служылі адшчэпы (78,5%). Паўторная апрацоўка вялася ■ дапамогай крутой або напалову крутой рэтушы, у асобных выпадках у спалучэнні з плоскай. Адметнай была і тэхніка. На помніку знойдзены наканечнікі стрэл ■ пласцін, якія адрозніваюцца паміж сабой афармленнем чаранка. У адным вырабе чаранок вылучаны напалову крутой рэтушшу са спінкі і падпраўлены плоскай рэтушшу ■ брушка. Такой жа, але больш дробнай рэтушшу зроблена і падпраўка пяра. Чаранок другога наканечніка апрацаваны напалову крутой рэтушшу ■ брушка

Вастрыі (12 экз.) адрозніваюцца па форме і тэхніцы апрацоўкі. Сярод іх вылучаецца пласціна са скошаным рэтушшу канцом. Да яе набліжаецца выраб, у якога скошаны канец, але вастрыё вылучана шляхам нанясення рэтушы па другому краю. Адзін мае дробную рэтуш ■ брушка, а другі — са спінкі, пры гэтым рэтуш ледзь падпраўляе прыродна завостраны канец. Ёсць вырабы, у якіх рабочая частка аформлена крутой прытупленай рэтушшу па аднаму канцу. Да вастрый далучаецца праколка з доўгай шырокай пласціны, у якой канвергентны канец па краях падпраўлены дробнай рэтушшу.

Разцы (45 экз.) прадстаўлены рэтушнымі ўзорамі (24 экз.), сярод якіх вылучаюцца двайныя (7 экз.), з выемкай, абмежаванай двума разцовымі сколамі Значная частка рэтушных разцоў мае вузкае лязо, аформленае вертыкальнымі разцовымі сколамі, якія наносіліся са скошанага ўвагнутага, выпуклага або прамога канца нарыхтоўкі, апрацаванага крутой прытупленай рэтушшу. У калекцыі ёсць камбінаваныя разцы. Разцы на зломе нарыхтоўкі (10 экз.) аформлены адным, радзей двума разцовымі сколамі, вузкімі і кароткімі, нанесенымі па краі, паралельна прадольнай восі прылады. У шэрагу выпадкаў разцовыя сколы нанесены па двух краях нарыхтоўкі і ўтвараюць двайныя вуглавыя разцы, нярэдка са сплюшчанымі сколамі. Адзінкавыя двухканцовыя вуглавыя разцы, аформленыя з супрацьлеглых канцоў нарыхтоўкі. Двухгранныя разцы (11 экз.) маюць рабочы край, адасоблены двума сколамі, сіметрычнымі і асіметрычнымі да прадольнай восі нарыхтоўкі.

Скрабкі (62 экз.) складаюць значную частку вырабаў, характэрных для сожскай культуры. Яны выраблены пераважна ■ адшчэпаў. Перабольшва-

юць канцавыя скрабкі (50 экз.), якія ў залежнасці ад апрацоўкі рабочага краю падзяляюцца на некалькі відаў: дугападобныя, скошаныя, скрабкі з «шыпам». Адзінкавыя падакруглыя і стрэльчатыя скрабкі. Да скрабкоў адносіцца і скрэблападобная прылада, рабочая частка якой размешчана па прадольнаму краю адшчэпа.

Рубячыя прылады (3 экз.) прадстаўлены сякеркамі з перахватам і цяслом з адшчэпа. Перахват вылучаны дзвюма выемкамі, размешчанымі на супрацьлеглых краях нарыхтовак, рэтушаваны са спінкі. На адным з вырабаў аформлены толькі выемкі, і ён, магчыма, не скончаны. Цёслы апрацаваны са спінкі буйнафасетачнай рэтушшу па ўсяму перыметру. Адшчэпы, пласціны і абломкі прылад працы, якія цяжка вызначыць (14 экз.), у сваёй асноўнай масе рэтушаваныя толькі па асобных частках краю са спінкі або з брушка, маюць розныя памеры і абрысы.

Наогул крамянёвы інвентар стаянкі Нераж вызначаецца некаторымі асаблівасцямі, але не выходзіць за межы калекцый, тыловых для помнікаў сожскай культуры, дапаўняе існуючыя ўяўленні аб ёй.

У больш паўднёвых раёнах арэала мезалітычныя помнікі сожскай культуры даследаваліся А. Г. Калечыц і У. П. Ксяндзовым.

Мезалітычнае паселішча ў 0,4 км на захад ад в. Кліны Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці, на другой надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож знойдзена і раскапана А. Г. Калечыц у 1980—1981 гг. на плошчы 106 $м^2$ Паселішча займала плошчу больш 800 $м^2$. У раскопе сабрана звыш 12 тыс. артэфактаў. Знойдзена 4 агнішчы і рэшткі невялікай ямы дыяметрам 0,9 м, у запаўненні якой утрымліваліся кавалкі крэменю і адшчэпы (К а л е ч ы ц, 1987).

Вогнішчы адкрытага тыпу, якія складаліся з пясчана-попельнай масы, з'явіліся на глыбіні 0,2—0,3 м. У іх запаўненні знойдзены абпалены крэмень і камяні. Побач назіралася значнае нагрувашчанне артэфактаў і відавочныя адзнакі індывідуальных працоўных месцаў Асноўная маса знаходак — адыходы крамянёвай вытворчасці. Тэхніка расшчаплення характарызуецца аднабаковым зняццем нарыхтовак з адна- і шматпляцовачных нуклеусаў. Прызматычныя нуклеусы ўтрымліваюць негатывы адшчэпаў, якія зняты як з узаемапаралельных, так і з размешчаных пад вуглом амаль да $90^{\circ}$ пляцовак, і толькі зрэдку пласцін.

Каля 2% знаходак маюць сляды другаснай апрацоўкі. Сярод прылад пераважаюць скрабкі 90% з іх выраблена на адшчэпах. Сабрана шмат скобляў. Асноўныя тыпы разцоў — рэтушныя, двухгранныя, на вугле зламанай пласцінкі, нуклепадобныя. Яны выраблены на пласцінах даўжынёй 3—5 см, зрэдку на адшчэпах. Знойдзена таксама мноства пласцін з нерэгулярнай рэтушшу краю, прылад з завастрэннем. Джалы іх часцей за ўсё выдзелены рэтушшу на натуральна завостраных канцах нарыхтовак. У сувязі з шырокім выкарыстаннем у якасці ўдарных прылад дробных валуноў спецыяльна выробленых рэчаў гэтага тыпу знойдзена толькі 12. На клінападобных сякерах бачны сляды перахопу. Прылады апрацаваны буйнымі сколамі па перыметры. Тры з чатырох наканечнікаў зроблены на пласцінах, маюць вылучаны рэтушшу чаранок, вентральную падчэску чаранка і пяра (мал. 20). Значная колькасць абламаных пласцін — гэта галоўным чынам іх медыяльныя часткі. Пры гэтым трапецый і мікрапласцін з прытупленым краем знойдзена толькі 6. Сукупнасць вылучаных адзнак дазваляе датаваць помнік пачаткам існавання сожскай культуры.

У 0,2 км на паўднёвы захад ад в. Новыя Грамыкі Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці на першай надпоймавай тэрасе р. Беседзь ва ўрочышчы Аўрамаў Бугор А. Г Калечыц у 1975 г. знойдзена мезалітычнае паселішча. Помнік раскопваўся ў 1977—1981 гг. на плошчы 775 м². У раскопе сабраны 32 651 выраб з крэменю, ускрыты два жытлы, знойдзены рэшткі 24 гумусаваных плям, частка з якіх — рэшткі вогнішчаў, а частка — ямы гаспадарчага прызначэння. На раздзьмутым участку паселішча паднята яшчэ больш 8 тыс. вырабаў з крэменю (К а л е ч и ц, 1987).

Абрысы жытла № 1 вызначыліся на глыбіні 0,35 м. Круглая ў плане яма памерам 2,30x2,15 м, глыбінёй 0,5 м, запоўнена інтэнсіўна гумусаванай супессю, насычанай вуголлем (мал. 21). Вогнішча не лакалізавана. У запаўненні ўтрымліваліся адбойнік, 7 нуклеусаў, нож для скаблення, пласціны, адшчэпы. Па перыферыі ямы адзначана вялікае нагрувашчанне артэфактаў.

Жытло № 2 прадстаўлена ямай амаль правільнай круглай формы дыяметрам каля 2 м, глыбінёй 0,43 м. Вогнішча адкрытага тыпу ў цэнтры, мноства вуголля ў запаўненні, адыходы крамянёвай вытворчасці і гатовыя прылады працы знойдзены ў гэтым жытле Невялікія маламоцныя попельнікі — рэшткі вогнішчаў адкрытага тыпу, складаліся з пясчана-попельнай масы. Яны раскіданы па ўсёй плошчы раскопу і нязменна звязаны са скапленнем крамянёвых прылад навокал. Часам асартымент гатовых вырабаў вельмі аднародны, што дазваляе меркаваць аб наяўнасці тут індывідуальных працоўных месцаў.

У калекцыі пераважаюць адыходы крамянёвай вытворчасці. Вырабы з другаснай апрацоўкай складаюць 2,6% (мал. 22, 23). 80% нуклеусаў маюць негатывы ад зняцця адшчэпаў. Нуклеусы рознатыповыя, але больш за ўсё аморфных, шматпляцовачных. Адзінкавыя дыскавідныя, трохпляцовачныя, алоўкападобныя і інш. Некалькі ядрышчаў тыпова свідэрскіх. Характэрна монафрантальнае зняцце нарыхтовак і пакіданне крэйдавай скарынкі на контрфронце.

Сярод прылад з другаснай апрацоўкай пераважаюць разцы на краях невялікіх нуклеусаў, іх абломках, на адшчэпах, зрэдку пласцінах. Часцей за ўсё сустракаюцца рэтушныя, радзей двухгранныя і двухгранна-рэтушныя, адзінкавыя з непадпрацаванай пляцоўкай і мікраразцы, Характэрныя скрабкі на краях дробных акруглых адшчэпаў і ўплошчаных абломкаў крэменю, радзей — на пласцінах і іх абломках (мал. 23: 11—14).

Рубячыя прылады прадстаўлены грубаабабітымі сякерамі, дрэнна абабітымі цёсламі і адзінай вельмі грубай прыладай з перахопам. Усе рубячыя прылады, за выключэннем сякеры з перахопам, дробныя, маюць рэшткі крэйдавай скарынкі на спінцы, звычайна пляскатыя з брушка, з прамым ці авальным рабочым краем (мал. 23: 24—29).

Прылады з завастрэннем (вастрыі, праколкі, свердлы) характарызуюцца разнастайнасцю тыпаў нарыхтовак, але пераважна гэта падпрацоўка натуральна завостранага ўчастка дробнай рэтушшу (мал. 22: 12—19; 24: 1—6).

Скоблі звычайна зроблены на адшчэпах акруглай і няправільнай формы, зрэдку на пласцінах і нуклепадобных абломках. Знойдзена некалькі высокіх трапецый і пласцін буйных памераў. Сярод мікралітаў трохкутнік, тонкая мікрапласціна з рэтушаваным краем і інш. Наканечнікі стрэл выраблены ў традыцыі свідэрскай тэхнікі. Гэта вырабы на пласцінах, з падчэскай брушка, слаба ці ўвогуле не выдзеленым чаранком і чаранковыя (мал. 22:1—4, 7, 8,11).

Статус помніка праблематычны. Нізкі працэнт прылад, мноства расшчэпленага крэменю, сярод якога адшчэпы, пласціны, нуклеусы, лускавінкі і

іншыя катэгорыі вырабаў нулявога цыкла даюць падставу лічыць яго майстэрняй. Аднак наяўнасць жытлаў і няхай невялікі, але дастаткова шырокі комплекс закончаных прылад дазваляюць аднесці аб'ект да катэгорыі майстэрань-паселішчаў. Знойдзены комплекс сведчыць аб познамезалітычным узросце помніка. Ён належыць да помнікаў сожскай культуры, якія сфарміраваліся на падставе грэнскіх традыцый і некаторых элементаў свідэрскай культуры.

У 0,3 км на паўднёвы захад ад в. Глыбаўка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці на астанцы першай надпоймавай тэрасы левабярэжжа р. Беседзь, ва ўрочышчы Бабулін Бугор у 1979 г. А. Г. Калечыц знойдзена другое мезалітычнае паселішча. Раскапана на плошчы 558 м² у 1980—1982 гг. Культурны пласт значнай (0,6 м) магутнасці, інтэнсіўна гумусаваны і насычаны рэшткамі дзейнасці чалавека (25949 артэфактаў). На плошчы раскопу ўскрыта вялікая колькасць гаспадарча-бытавых аб'ектаў, у тым ліку 17 вогнішчавых плям, 14 гаспадарчых ям і 5 паўзямлянкавых жытлаў (К а л е ч и ц, 1987).

Жытло № 1 уяўляе сабой амаль круглую яму (2,0x1,8 м) з лакалізаваным у цэнтры маленькім агнішчам адкрытага тыпу, даволі моцна насычаную культурнымі рэшткамі. Сярод іх вырабы нулявога цыкла, сякера, скрабок, вастрыё, нож і інш. Абрысы ямы вызначыліся на глыбіні 0,3 м, адзнака падлогі — 0,6 м.

Жытло № 2 — круглая, правільнай формы яма дыяметрам 2 м са слядамі адкрытага вогнішча ўнутры. Яно размяшчалася ў найбольш заглыбленай заходняй частцы жытла, дзе адзнака падлогі дасягнула лічбы 1,2 м. У яме знойдзены нуклеусы і прадукты расшчаплення крэменю.

Жытло № 3 некалькі больш за папярэднія. Яго плошча каля 7 м² (2,8x2,5 м). Знутры дзве вогнішчавыя плямы. Першая з'явілася на глыбіні 0,3 м. Тут па кругу ляжала шэсць невялікіх (да 10 см) абпаленых камянёў. З дажджавымі водамі змесціва попелішча прасачылася ўніз да адзнакі 0,9 м. Ва ўсходняй частцы жытла ў інтэрвале 0,45—0,60 м ускрыта другое вогнішча. Падлога няроўная: ад 0,3 да 0,7 м. У заходняй частцы жытла за кошт земляных работ у старажытнасці ўтварыўся холм рудога пяску. Пры разборцы запаўнення знойдзены скрабок, нажы, нуклеусы, мноства адшчэпаў і крамянёвыя канкрэцыі.

Жытлы № 4 і 5 знойдзены ў выглядзе адзінай плямы няправільнай формы, якая нагадвае лічбу 8. Памеры плямы па доўгай восі 3,9 м, у найбольш шырокіх месцах адпаведна 2,6 і 2,4 м, у найбольш вузкім — 1 м. Пры далейшай расчыстцы былі выяўлены дзве паўзямлянкі з самастойнымі вогнішчамі. Адзнакі падлогі ад 0,5 да 0,6 м, яе ўздымназіраўся і ва ўсходнім напрамку. Вогнішчы, уладкаваныя ў паглыбленнях падлогі, размяшчаліся ў процілеглых канцах паўзямлянак. У зоне стыку паўзямлянак на плошчы жытла № 5 знойдзены след апорнага слупа дыяметрам 0,2 м. Уваход у жытлы і сляды іх дахаў не прасочваюцца. Не выключана магчымасць неадначасовага функцыяніравання гэтых аб'ектаў. На плошчы жытлаў № 4 і 5 знойдзена шмат артэфактаў, у тым ліку наканечнік стралы, нож, нуклеусы, пласціны з рэтушшу і без яе, адшчэпы і інш. Бліз жытлаў № 3, 4 і 5 знойдзены вялікія вогнішчавыя плямы. Вогнішчы і гаспадарчыя ямы расчышчаны таксама на ўсёй плошчы стаянкі.

Насельніцтва помніка выкарыстоўвала для вырабу прылад мясцовы крэмень. На процілеглым беразе Беседзі ім моцна насычаны крэйдавая тоўшча, марэнны супесак, валунным крэменем усеяны палі. На стаянцы знойдзены ўвесь спектр вырабаў з крэменю,якія ўласцівы гэтым помнікам, —

ад нарыхтовак сыравіны да скончаных прылад працы. Вельмі цікавая знаходка «скарб» крамянёвай сыравіны (364 экз.), які знойдзены ў яме 1,00х1,10 м. Ён быў закапаны на глыбіні 0,5 м з мэтай захаваіння тэхналагічных уласцівасцей крэменю. Адметнай рысай помніка з'яўляецца мноства добра акатаных валуноў дыяметрам да 6—8 см, частка ▪ якіх магла выкарыстоўвацца ў якасці адбойнікаў і рэтушораў. Іх знойдзена некалькі дзесяткаў, але характэрныя сляды забітасці маюць далёка не ўсе. Магчыма, гэта былі грузілы (?). 90% нуклеусаў захавалі кавалкі крэйдавай скарынкі і маюць аднабаковае зняцце нарыхтовак. Палова нуклеусаў конусападобныя аднапляцовачныя, каля 18% — двухпляцовачныя, астатнія шматпляцовачныя і аморфныя. 60% нуклеусаў служылі для зняцця адшчэпаў, 40% — для пласцін. Нягледзячы на значную перавагу адшчэпаў, прылады звычайна імкнуліся вырабляць ▪ пласцін і ў гэтым праявіўся ўплыў свідэрскай падасновы як аднаго ▪ кампанентаў (мал. 24, 25)

Сярод прылад з другаснай апрацоўкай (мал. 25: 6—14) пераважаюць скрабкі на дробных адшчэпах акруглых абрысаў. 90% разцоў з непадпрацаванай пляцоўкай сколу, 10% — рэтушных. Рэжучая кромка сфарміравана адным разцовым сколам і заўсёды скошаная. Большасць разцоў з непадпрацаванай пляцоўкай выраблена ▪ асколкаў крэменю і на вуглах зламаных пласцін. Прылады ▪ завастрэннем (праколкі, свердлы, рэжучыя вастры) выраблены на канцах пласцін шляхам завастрэння натуральнага краю процілеглай рэтушшу ці аднабаковага прывастрэння (мал. 25: 12—19).

У якасці рубячых прылад выкарыстоўваліся расшчэпленыя валуны і спрацаваныя нуклеусы. Знойдзены два цяслы, адзінкавыя скоблі, мікрапласціны з прытупленай рэтушшу спінкай. Трапецыі буйныя, высокія на сячэннях пласцін. Наканечнікі стрэл ▪ пласцін выраблены ў традыцыях свідэрскай тэхнікі, чаранок звычайна падпрацаваны плоскай рэтушшу з брушка і вылучаны шляхам двухбаковага рэтушавання ▪ боку брушка ці процілеглай рэтушшу са спінкі і з брушка. Пяро ў пяці выпадках не мае дадатковай апрацоўкі і толькі ў двух выпадках ёсць мікраразцовы скол і двухбаковая апрацоўка плоскай рэтушшу. Як і на Аўрамавым Бугры, тут зафіксаваны індывідуальныя месцы работы майстроў. Тэхніка расшчаплення крэменю, прысутнасць у інвентары адзінкавых развітых сякера- і цяслападобных формаў, наяўнасць прылад тыпу пік, некаторай колькасці мікралітаў, вырабаў з двухбаковай апрацоўкай паверхні пры поўнай адсутнасці керамікі дазволілі датаваць паселішча познім этапам сожскай мезалітычнай культуры.

Сістэматызацыя помнікаў сожскай культуры познамезалітычнага часу важная для высвятлення агульнай карціны развіцця мезалітычных культур на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя і фарміравання мясцовых культур у наступную неалітычную эпоху. Археалагічныя матэрыялы ўказваюць, што сожскай культуры папярэднічалі помнікі грэнскай і свідэрскай культур, індустрыі якіх генетычна не звязаны паміж сабой. Абедзве культуры суіснавалі, відавочна, на працягу ўсяго ранняга мезаліту і захоўвалі традыцыі, наследаваныя ад старажытнейшых этапаў свайго развіцця. Паляпшэнне клімату ў барэальным перыядзе прывяло да стабілізацыі прыроднага асяроддзя, што не магло не паўплываць на ўклад жыцця мезалітычнага насельніцтва. Асноўным прадуктам харчавання становяцца насельнікі лесу, якія, за выключэннем пералётных птушак, вядуць адносна аседлы вобраз жыцця. З-за гэтага спыняюцца сезонныя перакачоўкі за гуртамі мігрыруючых аленяў і пачынаецца паступовае асваенне тэрыторыі нашчадкамі носьбітаў грэнскай і

свідэрскай культур, у выніку чаго «адбывалася змешванне этнічна розных груп і нараджаліся агульныя рысы матэрыяльнай культуры» (Г у р и н а, 1966а. С. 5). Наяўнасць на адной тэрыторыі рознакультурных, але сінхронных помнікаў мае на мэце ўзаемадзеянне элементаў матэрыяльнай культуры, што асабліва выразна праяўляецца ў помніках позняга мезаліту, якія выступаюць непасрэднымі генетычнымі пераемнікамі стаянак ранняга мезаліту. Тэндэнцыя шырокага выкарыстання адшчэпаў у якасці нарыхтовак, колькасная перавага скрабкоў над разцамі пры памяншэнні колькасці асобных мадленскіх формаў, паўсюднае распаўсюджванне рубячых прылад і пласцін-укладышаў, павелічэнне функцый прылад выпадковага выкарыстання знаходзяць сваё канкрэтнае выражэнне ў помніках сожскай культуры, за час існавання якой сфарміраваўся гаспадарчы ўклад, што праіснаваў тут на працягу наступнай неалітычнай эпохі. Картаграфаванне помнікаў сожскай культуры сведчыць аб тым, што яна з'явілася той асновай, на якой у канцы 5-га тысячагоддзя да н. э. сфарміравалася верхнедняпроўская неалітычная культура.

## 7. ЯНІСЛАВІЦКАЯ КУЛЬТУРА

Яніславіцкія старажытнасці Цэнтральнай Еўропы былі аб'яднаны ў асобную культуру С. Казлоўскім (K o z ł o w s k i, 1965). Згодна апошнім даследаванням, яна займала значныя тэрыторыі не толькі Цэнтральнай, але і Усходняй Еўропы (З а л и з н я к, 1984а. С. 100; К с е н з о в, 1988. С. 114—122; К о п ы т и н, 1992 (мал. 1)).

Вызначальным для старажытнасцей яніславіцкай культуры з'яўляюцца пэўныя тыпы крамянёвых вырабаў — ланцэты і асабліва яніславіцкага тыпу, трохкутнікі, мікраразцы, скрабкі на адшчэпах.

Яніславіцкія вастры фармаваліся на доўгіх пласцінках, звычайна вузкіх. У верхняй частцы нарыхтоўкі да рабра спінкі рэтушавалася глыбокая скоблепадобная выемка. Затым націскам у верхнюю частку выемкі сколваўся канец пласцінкі, які такім чынам ператвараўся ў сярэдзінна-бакавы «мікраразец». На самой жа пласцінцы атрымліваўся характэрны спічасты скос, ніжнюю палову якога займала рэшткавая рэтуш ад выемкі, верхнюю — адваротны разцовы скол. Бакавіна, якая прымыкала да скосу, таксама часта падрэтушоўвалася. Аснова вастрыя апрацоўвалася па-рознаму. Найбольш закончанымі экземплярамі былі тыя, у якіх звычайна роўная аснова ахайна рэтушавалася са спінкі. Шмат яніславіцкіх, як і іншых ланцэтных наканечнікаў маюць адламаную аснову. Магчыма, гэта сапсаваныя і пашкоджаныя экземпляры. Калі ж на тыповым ланцэтападобным вастры зарэтушоўваўся на скосе і разцовы скол, атрымліваўся звычайны ланцэт са скошаным краем, якіх таксама нямала на помніках яніславіцкай культуры Беларусі.

Для яніславіцкіх стаянак Польшчы характэрны доўгія і вузкія трохкутнікі на пласцінах з рэтушаванымі вузкімі, часам скошанымі асновамі і скошаным да вастрыя прытупленым рэтушшу краем. На Беларусі такіх вырабаў менш.

Усе гэтыя ланцэтападобныя вастры былі пераважна наканечнікамі для стрэл, пра што сведчыць матэрыял з пахавання ў Польшчы (K o z ł o w s k i I., K o z ł o w s k i S., 1977. S. 237), а таксама адсутнасць на яніславіцкіх помніках якіх-небудзь крамянёвых вырабаў, прыдатных быць наканечнікамі. Аднак некаторыя з ланцэтаў маглі быць і ўкладышамі.

Некаторыя ланцэты маюць на аснове выразны рэтушаваны скос, падпаралельны вастрыю У такім выглядзе вырабы прыбліжаюцца па форме да выцягнутых ромбаў.

Характэрная рыса яніславіцкіх стаянак Беларусі — мікраразцы. Як ужо адзначалася, гэта па сутнасці «адыходы вытворчасці» ланцэтаў. Таму ўжо сама прысутнасць такіх знаходак, нават калі саміх вастрый у культурным пласце няма (наканечнікі стрэл губляліся пераважна за межамі паселішчаў) дазваляе пры наяўнасці іншых суправаджальных тыпаў адносіць помнікі да яніслаўіцкай культуры. Аднак і мікраразцы нейкім чынам выкарыстоўваліся, мабыць, як укладышы, бо некаторыя з іх дадаткова падрэтушоўваліся, чым набліжаліся да трапецый або іншых геаметрычных мікралітаў.

Практычна на ўсіх паселішчах з яніслаўіцкім матэрыялам сустракаюцца і самі трапецыі Пры дамінацыі раўнабедраных сіметрычных прапорцый сустракаюцца асіметрычныя — з простай адной бакавінай, высокія і вузкія і нават блізкія да квадратнай формы. Зразумела, што трапецыі з рэтушаванымі бакавінамі суправаджаюцца дадаткова не апрацаванымі сячэннямі пласцінак.

Характэрнымі тыпамі яніслаўіцкага інвентару лічацца адшчэпы са стромка рэтушаванымі краямі. Характар рэтушы паказвае, што гэта былі скрабковыя прылады-скрабкі (скрабачы). Для іх вырабу браліся нарыхтоўкі самых розных формаў, у тым ліку нерэгулярныя, або падчатырохкутныя.Стромкай скрабковай рэтушшу пакрываўся любы найбольш падыходзячы пад скрабніцу край адшчэпа. Значна радзей такія вырабы былі з дзвюма скрабніцамі, напрыклад тарцова-бакавыя. Сустракаюцца мысападобныя экземпляры.

З больш правільных акруглых, авальных ці дэльтаватых адшчэпаў фармаваліся звычайныя скрабкі канцавыя, у якіх, як правіла, рэтуш больш-менш апускалася і на бакавіны. Такімі распаўсюджанымі сярод розных культур былі і канцавыя скрабкі на пласцінках, часам з бакавой падрэтушоўкай.

Лічыцца, што разцы не асабліва прадстаўлены ў яніслаўіцкай культуры (Kozłowski J., Kozłowski S., 1977. S. 240—242). Аднак на Беларускім Панямонні, напрыклад у Беліцы-2, іх адносна шмат. Сярод іх прыкметную групу складаюць бакавыя разцы на пласцінках.

З іншых прылад працы сустракаюцца праколкі, скоблі на пласцінках і адшчэпах, рэжучыя вырабы пераважна пласцінчатыя, пэўная колькасць камбінаваных прылад.

Звычайнымі для позняга мезаліту з'яўляюцца і сякеры, у прыватнасці асіметрычныя траншэпадобныя, з бакавымі сколамі ляза.

Для яніслаўіцкага інвентару не характэрны прызматычныя двухпляцовачныя нуклеусы. Яны практычна ўсе аднапляцовачныя. Калі і сустракаюцца шматпляцовачныя, то аморфныя або экземпляры з дадатковай бакавой апрацоўкай. Тыповымі для беларускіх матэрыялаў з'яўляюцца нуклеусы на крамянёвых плітках або расшчэпленых канкрэцыях з адшчэпняй на вузейшай плоскасці. Шырока сустракаюцца таксама стажкаватыя формы.

Адным з найбольш значных помнікаў з рысамі яніслаўіцкай культуры на паўночным захадзе Беларусі з'яўляецца стаянка Беліца-2

Помнік размешчаны праз 0,5 км на поўдзень ад в. Беліца Лідскага раёна, займае край чатырохмятровага правабярэжнага поплаву Нёмана ад прывусцевай часткі Залатарэчкі і ўніз па рацэ на 0,3 км. Шырыня яго да 60 м. Участак са знаходкамі з усходу абмежаваны ўступам да нізкага поплаву, з захаду — пад'ёмам на васьміметровую тэрасу.

Культурны пласт стаянкі мае шэры светлаваты колер, дасягае таўшчыні 0,3—0,4 м. Ён падсцілаецца сіваватым светла-шэрым дробназярністым пяском — рачнымі адкладамі, пад якімі на глыбіні 0,8—1 м ад дзённай паверхні залягае тыповая суглінiстая марэна. Паверхня мацерыка пад культурным пластом даволі роўная, на ёй няма колькі-небудзь прыкметных паглыбленняў, што маглі застацца ад жыццядзейнасці чалавека. Засталося толькі некалькі плям звілістых абрысаў ад каранёў дрэў.

У нізе культурнага пласта сустрэты невялікія лінзы цёмна-шэрага пяску са слядамі вуглістасці. Адна такая лінза ніжняй часткай была заглыблена ў мацярык і ўтрымлівала больш за 20 невялікіх абпаленых камянёў без рэгулярнасці ў размяшчэнні. Вуглістыя лінзы хутчэй за ўсё з'яўляюцца рэшткамі адкрытых агнішчаў — вогнішчаў. Гэта пацвярджаецца і канцэнтрацыяй навокал іх разцоў, якімі апрацоўвалі нагрэтыя косткі і рогі.

Помнік выяўлены Г. І. Гарэцкім. У 1977—1982 гг. ён раскопваўся М. М. Чарняўскім (каля 600 $м^2$). Пры сярэдняй насычанасці культурных напластаванняў артэфактамі атрымана, аднак, выразная калекцыя крамянёвага інвентару. Ён амаль увесь аднакультурны і памяшчаецца ў адносна нешырокія храналагічныя рамкі.

Прылады працы выраблялiся пераважна з высакаякаснай сыравіны светла-шэрага, злёгку блакітнага колеру. Такія крэмені сустракаюцца ў наваколлі, асабліва іх шмат у ніжнім цячэнні недалёкай Дзітвы, дзе маюцца крэменяносныя радовішчы крэйды. Некаторыя экземпляры пакрыты рудаватай пацінай, што выклікана блізкасцю грунтавой вады. Сустракаюцца і крэмені бурага колеру. Такі матэрыял паходзіць з крэйдавага радовішча ў нізоўі Моўчадзі каля в. Гезгалы. Пры гэтым вынікае, што самая першапачатковая апрацоўка сыравіны вялася за мяжой паселішча. Гатовая крамянёвая прадукцыя (прылады і нуклеусы) у раскопах складалі 23—25% ад усіх артэфактаў.

З усіх амаль 600 расшчэпленых крэменяў з другаснай апрацоўкай каля 40% былі змайстраваны з пласцінак. Гэта былі пераважна рэжучыя прылады, ланцэтападобныя вастры, скрабкі, разцы, праколкі. Аднак значная частка скрабкоў, асабліва нерэгулярных формаў — скрабачоў, фармавалася на адшчэпах.

Сярод паўтара дзесятка вастрый-ланцэтаў восем уяўляюць сабой тыповыя яніславіцкія формы (мал. 26: 3—6). Яны былі сфармаваны на правільных пераважна доўгіх пласцінках і мелі акуратную рэтуш. У некаторых была рэтушавана і аснова, аднак у большасці выпадкаў яна адламана. Прыкладна такую ж па колькасці групу складаюць і пласціначныя вастрыі-ланцэты са спрэс рэтушаваным канцавым скосам. Сярод іх маюцца і пакарочаныя формы. Пэўную групу складаюць пласцінкі з натуральным скошаным канцом, апрацаваным рэтушшу. Некалькі тонкіх пласцінак маюць рэтуш на крыху скошанай аснове і бакавіне (мал. 26: 9). Гэта маглі быць тыповыя для культуры высокія трохкутнікі. Аднак адсутнасць вяршынь не дазваляе іх больш дакладна вызначыць. Цэлы ж яніславіцкі трохкутнік вядомы толькі адзін.

У калекцыі апрацаваных крэменяў маюцца і мікраразцы (мал. 26: 7, 13, 14). Масіўныя формы некаторых з іх сведчаць, што яны засталіся пры вырабе буйных вастрый яніславіцкага тыпу. Нарыхтоўкамі такіх вастрый маглі быць і некаторыя пласцінкі з рэтушаванай выемкай (мал. 26: 8).

Трапецый на помніку мала (4 экз.). Практычна ўсе яны правільныя раўнабедраныя, даволі вытраманых прапорцый (мал. 26: 1, 2). У той жа час

значна большую групу складаюць кароткія сячэнні пласцінак. Яны пераважна прамавугольныя, аднак сустракаюцца і трапецаідальныя.

Для яніславіцкай культуры ў Беліцы-2 шырока выяўлены разцы (каля 40 экз.). У пераважнай большасці яны змайстраваны з даволі правільных пласцінак і ўяўляюць пераважна вуглавыя формы на ламанцах (мал. 26: 21). Аднак менавіта сярод бакавых формаў часцей сустракаюцца двухбаковыя, а то і двухбаковыя двайныя (мал. 27: 18, 23). Вядомы таксама сярэдзіннавуглавыя і сярэдзінна-бакавыя разцы. Клінаватыя сустракаюцца ў адзінкавых выпадках (мал. 26: 22). Тры знаходкі на пласцінках прадстаўляюць камбінаваныя формы. Толькі тры экземпляры змайстраваны з адшчэпаў клінаваты, клінавата-вуглавы і двайны бакавы.

Сярод скрабковых прылад (да 200 экз.) каля 65% прыпадае на скрабачы, для вырабу якіх ужываліся амаль выключна адшчэпы (мал. 26: 12, 15, 16). Ды і канцавыя скрабкі таксама ў пераважнай большасці фармаваліся на адшчэпах, у іх рэтуш звычайна кранала і бакі (мал. 26: 10, 11). Больш за 30 вырабаў з'яўляліся скоблямі на адшчэпах (мал 26: 19). Скоблевыя выемкі на пласцінках сустракаюцца ў рэдкіх выпадках.

Рэжучымі інструментамі з'яўляліся пераважна пласцінкі з плоскай рэтушшу і падрэтушоўкай (больш 100 экз., мал. 26: 20, 24). Так жа апрацавана і вялікая група адшчэпаў. Значная колькасць пласцінак і адшчэпаў без рэтушы таксама мае сляды ўжывання.

З іншых дробных крамянёвых вырабаў вядомы пласцінкі з прытупленым краем, праколкі і пракруткі, некалькі камбінаваных прылад, невызначальныя абломкі, а таксама рэтушоры і адбойнікі.

Рубячых прылад на помніку разам з сапсаванымі і зачаткавымі формамі знойдзена каля 50, пры гэтым закончаных на выгляд — 23. Найбольш архаічнымі ўяўляюцца прылады траншэпадобнай або выцягнута-авальнай формы са скошаным лязом, сфармаваным па адной паверхні бакавымі сколамі. Больш складана апрацавана авальная сякера асіметрычнага профілю, падчэсаная са спінкі па перыметру даволі буйнымі сколамі, з брушка яна мае падпраўку на абушку і фармуючы бакавы скол на лязе. Некаторыя асіметрычныя экземпляры маюць на лязе папярочныя сколы Больш паловы сякер маюць адносна сіметрычны профіль, яны сфармаваны пераважна на выцягнутаавальных нарыхтоўках, лёзы іх папярочна падпраўленыя, пры гэтым закончанасць іх апрацоўкі самая розная. Рэдкімі знаходкамі з'яўляюцца прылады са звужаным абушком. Больш паловы рубячых прылад — розныя нарыхтоўкі, зачаткавыя вырабы, адбітыя, пераважна абушковыя часткі.

Рубячыя прылады ў цэлым маюць незакончаныя, нейкія нераспрацаваныя формы. Пры гэтым без трасалагічнага аналізу цяжка вызначыць, якія з іх выкарыстоўваліся як цёслы. Увогуле вынікае, што жыхары стаянкі не надавалі асаблівай увагі дрэваапрацоўчаму інвентару.

Нуклеусы на стаянцы Беліца-2 (каля 100 экз. разам з зачаткавымі і сапсаванымі) у большасці аднапляцовачныя. Сустракаюцца аморфныя экземпляры са зменнымі пляцоўкамі, аднак прызматычныя ўзоры свідэрскага або постсвідэрскага тыпу для помніка не характэрныя.

Чатырохметровы ўзровень высокага поплаву Нёмана, як сведчаць геамарфалагічныя даследаванні (Вознячук, Вальчик, 1978. С. 48—55), на тэрыторыі Гродзеншчыны сфарміраваўся да атлантычнага перыяду і стаў прыдатным для засялення прыкладна 8 тыс. гадоў таму назад. Тут, паміж прывусцем Бярэзіны і Беліцай, выяўлены некалькі мезалітычных помнікаў

(В о з н я ч у к, В а л ь ч и к, 1978 (мал. 15)), узрост якіх павінен адносіцца да позняга этапу сярэдняга каменнага веку. Да такіх помнікаў належыць і Беліца-2. Аднак малая колькасць трапецый і значны працэнт разцоў, мабыць, сведчаць, што тут насельніцтва з'явілася ў самым пачатку ўсталявання яніславіцкай культуры ў Панямонні.

Комплекс крамянёвых вырабаў з Беліцы-2 не з'яўляецца цалкам яніславіцкім, або, больш дакладна, характарызуе асаблівасці паўночна-ўсходняй перыферыі культуры на яе раннім этапе. У гэтым сэнсе ён даволі блізкі матэрыялам стаянкі Максімоніс-4 у Варэнскім раёне Літвы, а гэта менш як 100 км на паўночны захад ад Беліцы (Р и м а н т е н е, 1971. С. 119—123). У Максімоніс-4 таксама шмат рубячых прылад і разцоў, але апошнія ў большасці вуглавыя. На літоўскім помніку не знойдзена трапецый, што, на думку некаторых даследчыкаў, зноў жа можа тлумачыцца лакальнымі і храналагічнымі асаблівасцямі (К о л ь ц о в, 1977. С. 169).

Прыкладна каля сярэдзіны 4-га тысячагоддзя да н. э. у сувязі з падняццем узроўню вады ў Нёмане, звязаным з трансгрэсіяй Балтыйскага мора, высокі поплаў Нёмана стаў непрыдатным для чалавечага засялення. Паселішча Беліца-2 апусцела, а яе жыхары, відавочна, перабраліся на размешчаную побач тэрасу (Беліца-1). Тут на васьміметровым узроўні таксама сустракаюцца яніславіцкія матэрыялы, асабліва ланцэты і мікраліты. Але помнік на тэрасе ўтрымлівае рознакультурныя і рознachасовыя знаходкі (ад фінальнага палеаліту да бронзавага веку), да таго ж ён пакуль што мала даследаваны.

На супрацьлеглым ад Беліцы левым беразе Нёмана размешчана стаянка **Нясілавічы-1,** якая ўтрымлівае даволі аднachасовы і выразны крамянёвы комплекс. Помнік займае паўночную ўскраіну вёскі Нясілавічы паміж шашой і левым берагам нёманскага прытока Моўчадзі, дзе знаходзіцца пясчаны ўзгорак, які ўзвышаецца на 10 м над поплавам. Паўночная, найбольш насычаная знаходкамі частка паселішча знішчана пясчаным кар'ерам, значна разввеяна яно і на заходнім участку.

Стаянка ўпершыню выяўлена і даследавалася Н. М. Гурынай (Г у р и н а, 1965. С. 163—166). У 1982 г. збор пад'ёмнага матэрыялу і раскопкі на плошчы 100 м² правёў М. М. Чарняўскі (Ч а р н я ў с к і, 1984. С. 376).

У паўночна-ўсходняй частцы помніка на сценцы кар'ера прасочана наступная стратыграфія: 0—0,1 м — сучасная слаба выяўленая лясная глеба (тут маладыя хвойнік); 0,10—1,10 м — навеяны светла-шэры жаўтаваты пясок; 1,10—1,30 м — пахаваны культурны пласт селішча з сярэднявечнай ганчарнай керамікай; 1,30—2,05 м — пясок дробназярністы светла-шэры з жаўтаватым адценнем; 2,05—2,20 м — шэры адносна слаба гумусаваны пясок з нешматлікімі расшчэпленымі крэменямі; 2,20 м і ніжэй — мацерыковы пясок светла-шэрага, злёгку жаўтаватага колеру, з косымі праппластамі буйна- і дробназярністага пяску.

Раскоп быў закладзены пры агаленні, дзе пясок, які пакрываў культурны пласт, ужо ў большасці быў знесены вятрамі. Разборка пласта вялася па метровых квадратах дзесяцісантыметровымі прапласткамі. Знаходак было мала, на некаторых квадратах яны зусім адсутнічалі — мабыць, тут перыферыя помніка. Матэрыялы раскопак істотна дапаўняюцца калекцыяй паверхневых збораў, асабліва Н. М. Гурынай.

Крэмень у Нясілавічах-1 высакаякасны, светла-шэрага колеру. Пераважная большасць прылад з рэтушшу (усяго іх знойдзена каля 60 экз.) вырабля-

лася з пласцінак (каля 75%). Агульная адзнака калекцыі — дасканала выка-наныя нарыхтоўкі, асабліва пласцінкі, прысутнасць мікрарэтушы, прыкметная мікралітызацыя крамянёвага інвентару. Даволі шырока выяўлены трапецыі (да 10 экз. — 17%), пры гэтым амаль палова іх мае ўвагнутыя абедзве або радзей адну бакавіны (мал. 27: 1—5). Больш 40 кароткіх сячэнняў пласцін таксама маглі ўжывацца, калі меркаваць па слядах спрацаванасці, як укладышы. Ланцэтных вастрый больш дзесятка (мал 27: 7—12, 18), пры гэтым трэцяя іх частка мае тыповую яніславіцкую форму (мал. 27; 7—9). У большасці ланцэтаў рэтушаваны толькі канцавы скос, у некаторых апрацавана і аснова. Пра шырокае ўжыванне на помніку яніславіцкіх вастрый сведчыць і наяўнасць мікраразцоў (4 экз., мал. 27: 14—17). Не менш трох вастрый з'яўляюцца тыповымі яніславіцкімі высокімі трохкутнікамі (мал. 27: 13,19). Разцоў разам з невыразнымі формамі на адшчэпах да двух дзесяткаў (мал. 27: 21—23). Яны пераважна вуглавыя, выяўлена некалькі рэтушных і клінаватых. Выразныя скрабкі толькі тры (мал. 27: 24—26), яны канцавыя і сфармаваныя на адшчэпах або абломках пласцінак. Сярод іх адзін двайны. Крыху больш знойдзена адшчэпаў са стромкай падрэтушоўкай — скрабачоў. Каля дзесятка пласцінак маюць плоскую рэтуш і падрэтушоўку (мал 27: 20) Для рэзання магло ўжывацца і каля 50 пласцінак нерэтушаваных, але са слядамі ўжывання. З іншых прылад на помніку вядома некалькі спічастых праколак і дробнарадыусныя скоблі на абломку пласцінкі.

Н. М. Гурына датавала стаянку Нясілавічы-1 познім мезалітам (Г у р и н а, 1965. С. 166). Сёння можна вызначыць і культурную прыналежнасць помніка. Мабыць, першым вызначыў помнік як яніславіцкі і аднёс яго па наяўнасці трапецый да атлантычнага перыяду Л. У. Кальцоў (К о л ь ц о в, 1977. С. 183).

Нясілавічы-1, дзе шмат трапецый, прысутнічаюць трохкутнікі, не знойдзена выразных рубячых прылад, назіраецца прыкметная мікралітызацыя, уяўляецца больш тыповым яніславіцкім помнікам. Да таго ж ён і пазнейшы, чым Беліца-2. Відавочна, высокі ўзгорак на стрэлцы між Нёманам і Моўчаддзю быў заселены пасля затаплення поплаву. Аднак жыхары Нясілавіч-1 захавалі і пэўныя асаблівасці сваіх суседзяў з паўночнага берага Нёмана — тут таксама даволі шмат разцоў

Заходнюю познамезалітычную перыферыю нёманскага раёна прадстаўляе стаянка **Лічыцы-2.**

Помнік размешчаны на краі правабярэжнай тэрасы Росі, насупраць старыцы, узвышаецца над поплавам на 2 м. Край тэрасы тут адносна плаўна спускаецца ў поплаў. На стаянцы ўскрыта 100 м² (Ч а р н я ў с к і, К у д р а ш о ў, Л і п н і ц к а я, 1996 С. 71—75).

Акрамя стаянкі тут знаходзіліся познасярэднявечны могільнік і селішча прыкладна гэтага ж часу, чым былі і пашкоджаны самыя старажытныя напластаванні. Акрамя таго, на помніку сустракаюцца ў невялікай колькасці матэрыялы бронзавага веку.

У крамянёвай калекцыі выразную групу складаюць мікраразцы на базальных частках пласцінак, што засталіся пры вырабе ланцэтападобных вастрый яніславіцкага і іншых тыпаў (мал. 28: 8—10). Яны мініяцюрныя, даўжынёй 1—3 см, маюць рэтушаваны скос на тарцы і прылеглую да яго вузкую грань, выкананую ў тэхніцы разцовага сколу Невядома, ці выкарыстоўвалася старажытным чалавекам гэтая група знаходак. Аднак несумненна, што частка іх ператваралася ва ўкладышавыя прылады мікралітычнага

тыпу. Для гэтага кароткія мікраразцы дадаткова рэтушаваліся па разцоваму сколу, а таксама даволі часта падпраўляліся па краях і аснове. Некаторыя з іх формам набліжаюцца да трапецый і, магчыма, ужываліся па тыпу апошніх.

Даволі шмат знойдзена ланцэтападобных вастрый (8 экз., мал. 28: 6, 7, 15, 16). Ва ўсіх іх скос на канцы пласцінкі адрэтушаваны поўнасцю. Прычым прыкметны на некаторых з іх вугал паказвае, што яны фармаваліся тыповым для яніславіцкіх вастрый спосабам — з дапамогай разцовага сколвання ад бакавой адрэтушаванай выемкі. Большасць з гэтых вастрый зламаныя. Вастрыё яніславіцкага тыпу знойдзена толькі адно Аднак яно не тыповае — шырокае, нейкае авальнае

Жыхарам паселішча былі вядомы і трапецыі (4 экз., мал. 28: 1—4) 3 іх дзве сіметрычныя і маюць прыкладна роўныя шырыню і вышыню. Іншыя дзве трапецыі асіметрычныя — высокая і нізкая. Акрамя гэтага, у калекцыі маецца некалькі трапецападобных і прамавугольных сячэнняў пласцінак без рэтушы.

Разцоў знойдзена таксама 4. Бакавы разец толькі адзін. Ён сфармаваны на тоўстым адшчэпе. Астатнія разцы — вуглавыя на пласцінках і адшчэпах.

Найбольш шматлікую групу складаюць скрабкі (27). 3 іх крыху менш паловы — вырабы на пласцінках, часам даволі доўгіх (мал. 28: 13). Скрабкі на адшчэпах (скрабачы) у залежнасці ад нарыхтовак маюць падтрохкутную, акруглую, паўкруглую форму (мал. 28: 12, 17). Сустракаюцца авальныя і нават чатырохкутныя, а таксама нерэгулярных абрысаў вырабы.

Большасць скобляў (5 экз.) сфармаваныя на адшчэпах і толькі адна — на пласцінцы.

Найбольш часта на помніку сустракаюцца рэжучыя вырабы — нажы (мал. 28: 14). Большасць іх на пласцінках (40 экз.), на адшчэпах толькі 24. Некаторыя спічастыя адпаведна апрацаваныя крэмені маглі быць праколкамі. Вядомы чатыры разцы, пераважна вуглавыя Пры гэтым большасць крамянёвых прылад працы ўвогуле не выдзяляецца вялікімі памерамі, і гэта пры неабмежаваных запасах мясцовага высакаякаснага крэменю на Парссі.

Рубячымі прыладамі і іх нарыхтоўкамі можна лічыць каля 8 знаходак (мал. 28: 18, 19). Сякеры і блізкія ім формы даволі рознатыповыя, няўстойлівых формаў. Частка іх можа адносіцца да бронзавага веку.

Маюцца тры пікаватыя масіўныя крэмені з падчэскай па гранях Дробная забітасць на канцы аднаго з іх, магчыма, сведчыць, што гэта былі рэтушоры

Знойдзена 37 нуклеусаў. 3 іх толькі два двухпляцовачныя свідэрскага тыпу. Пры гэтым яны невыразныя і даволі неахайныя. Астатнія нуклеусы аднапляцовачныя (мал. 28: 20, 21): стажкаватыя, клінаватыя, чарапахападобнай формы, на бакавінах крамянёвых плітак.

Характар большасці крамянёвых вырабаў сведчыць, што яны адносяцца да познамезалітычнага часу і маюць прыкметныя яніславіцкія рысы пры захаванні некаторых свідэрскіх традыцый.

Матэрыяльная мезалітычная культура Панямоння прадстаўлена пераважна крамянёвымі вырабамі. За мінулыя тысячагоддзі ў пясчаных напластаваннях арганічныя рэшткі расклаліся, што значна абядняе існуючыя ўяўленні пра побыт старажытнага чалавека. Аднак сустракаюцца выпадкі захавання касцяных і рагавых вырабаў. Багатае на такія знаходкі месца вядома непадалёку ад Смаргоні, каля вёсак Міхневічы і Сукневічы, на левабярэжным поплаве Віліі, пры вусці прытока Драі. Тут дзейнічае вялікі кар'ер па

здабычы пясчаных і жвіравых адкладаў, з якога землясмокавыя ўстаноўкі разам з пародай прыносяць і археалагічныя матэрыялы. Найбольш іх было выяўлена летам 1971 г., калі, мабыць, кар'єрам знішчаліся рэшткі старажытнага паселішча, якія апынуліся пад вадой і былі перакрыты пазнейшымі адкладамі (Чарняўскі, Каліноўскі, 1972).

Да цяперашняга часу тут атрымана больш 50 пераважна рагавых вырабаў і фрагментаў рагоў з слядамі апрацоўкі, а таксама некалькі апрацаваных костак.

Найбольш выразную групу сярод смаргонскіх знаходак складаюць прылады з адтулінамі для рукаятак (мал. 29: 1—5). Гэта пераважна сякеры, матыкі і, магчыма, муфты, а таксама арнаментаванае «жазло шамана». Амаль усе яны выкананы з рагоў высакароднага аленя. Дзве сякеры (доўгая і кароткая) маюць авальныя адтуліны, зробленыя ў месцы адсечанага адростка. Лёзы ў іх скошаныя, з лёгкай падпраўкай супрацьлеглага боку, у выніку чаго вастрыём стала моцная знешняя абалонка рога (мал. 29: 3). Паверхні вырабаў, асабліва карацейшага, прыгладжаныя. Трэцяя сякучая (?) прылады некалькі адрозніваецца ад папярэдніх. Яна зроблена з буйнога рагавога адростка і мае круглую адтуліну ў абушковай частцы. Пры гэтым у месцы свідравання рог быў падчэсаны. Лязо вырабу вузкае, таму яно магло ўжывацца як прылада для капання або як зброя (мал. 29: 5).

Прыкметныя ў калекцыі і матыкі. Адна з іх змайстравана з доўгага кавалка ствала рога аленя (мал. 29: 1). Круглая адтуліна, падпраўленая выдзёўбваннем, знаходзіцца пры пяньку адчлянёнага адростка, на ніжнім шырэйшым канцы прылады сфармавана папярочнае адтуліне лязо. Практычна па ўсёй паверхні знаходкі былі зрэзаны бугрыстыя рубцы натуральней рагавой паверхні. Гэта ў адрозненне ад сякер характэрна для ўсіх матык, бо яны прызначаліся для землякопных работ і павінны былі быць гладкімі, каб не наліпала зямля. Другая, кароткая, матыка была зроблена з асновы рога аленя, дзе разетка ўтварае абушок (мал. 29: 2). Абодва вочныя адросткі ў ёй былі аДсечаныя каля самага ствала, а круглая запаліраваная адтуліна знаходзіцца ў абушку на ўзроўні першага адростка. Характэрна, што абушок прылады спрацаваны да такой ступені, што на яго тарцы знік участак разеткі. Гэта сведчыць, што прылада была не толькі капальная, але і ўдарная. Маецца некалькі іншых папсаваных прылад з адбітымі лёзамі. Круглыя адтуліны ў іх знаходзяцца на ўзроўні пянькоў адросткаў, а паверхні добра загладжаны. Гэта можа сведчыць, што знаходкі першапачаткова з'яўляліся матыкамі.

Знойдзена некалькі рагавых рэчаў з круглымі або авальнымі адтулінамі (мал. 29: 4). Лёзы ў іх адсутнічаюць, порыстая сарцавіна разбурылася. Яны нагадваюць муфты для асадкі лёзаў, а некаторыя маглі імі і з'яўляцца, бо сярод вырабаў ёсць доўгія матыка і сякера з выдзеленымі абушкаміасадкамі. Некаторыя рагавыя адросткі і фрагменты тоўстых трубчатых костак маюць падструганыя канцы са слядамі спрацаванасці на вастрыі. Гэта маглі быць адціскальнікі для працы з крэменем.

У смаргонскай калекцыі унікальнай з'яўляецца знаходка рагавога арнаментаванага вырабу, які ўмоўна можна назваць «жазлом шамана» (мал. 29: 6). Ён змайстраваны з тоўстага рога аленя, мае выцягнутую і некалькі выгнутую форму, яго вузкія пярэдняя і тыльная часткі плоскія, бакавіны выпуклыя. Знаходка, здаецца, пры здабычы жвіру была паламаная па верагоднай адтуліне або пазе. Першапачатковую яго форму зараз цяжка аднавіць. Тое,

што захавалася, магло быць доўгім абушком або рукаяткай кінжала. Знаходка багата арнаментавана прадрапанымі зігзагамі на шырокіх паверхнях, зонамі нарэзак і мярэжай — на вузкіх. Рэбры паверхні з мярэжай дадаткова аздоблены кароткімі нарэзкамі. На бакавой паверхні з чатырма лініямі зігзагаў маецца і ўзор з кропкавых паглыбленняў. Месцамі арнамент захаваў белае крыху вохрыстае запаўненне. Першапачаткова ён павінен быў асабліва вылучацца на чорнай заглянцаванай паверхні вырабу. Калі меркаваць па ахайнасці апрацоўкі і складанаму арнаменту, зашыфраваную інфармацыю якога пакуль разгадаць немагчыма, знаходка, верагодна, служыла для рытуальных мэт (Чернявский, 1992).

Значную частку здабытага ў Смаргонскім кар'еры рагавога матэрыялу складаюць розныя фрагменты са слядамі апрацоўкі. Па іх можна ўзнавіць прыёмы апрацоўкі. Тоўстыя рогі расчляняліся надсяканнем паверхні па перыметру да губчатай сарцавіны з наступным разломваннем. Больш тонкія рогі і адросткі маглі надпілоўвацца з двух бакоў або па перыметры і затым таксама ламаліся. Некаторыя ўчасткі паверхні маюць розныя надрэзы, насечкі, сляды счэсвання. Ад буйных рагоў, асабліва каля асновы, папярочным надсяканнем і прарэзкай крамянёвым разцом глыбокіх прадоўжных пазоў адчляняліся моцныя пласціны-нарыхтоўкі. Несумненна, што рогі перад апрацоўкай награваліся і рабіліся больш падатнымі крамянёваму інструменту.

Праз 20 км на поўнач ад Смаргоні, у Віліі, каля Жодзішак, быў знойдзены кароткі двухканцовы малаток з рога з прасвідраванай адтулінай. ЁН моцна спрацаваны і ўжываўся, як і матыка-малаток са Смаргоні, для расколвання вадзяных і лясных арэхаў.

Разгледжаная калекцыя знаходак выраблена з рагоў высакароднага аленя, прыстасаванага пераважна да змешаных хваёва-шыракалістых лясоў. На еўрапейскіх мезалітычных помніках у зонах такіх лясоў вядучай формай фауны і з'яўляўся высакародны алень (Кларк, 1953. С. 45). У гэты ж час у Паўночнай і Паўночна-Усходняй Еўропе ва ўжытку першабытнага чалавека з'яўляюцца рагавыя цёслы-матыкі з адтулінамі, а затым такія ж сякеры (Чайлд, 1952. С. 32, 244). У другую палову барэальнага перыяду шыракалістыя пароды дрэў пачынаюць міграцыю на таёжную поўнач Беларусі (Еловичева, 1993. С. 61), і ў гэты час на берагах Віліі ўжо мог сустракацца высакародны алень. Аднак толькі ў наступную атлантычную эпоху ў беларускім Павіленні дамінавалі хваёва-шыракалістыя і нават шыракалістыя лясы (Еловичева, 1993 (мал. 14)). Характэрна, што рагавыя вырабы ў Смаргонскім кар'еры траплялiся ў гарызонце паплаўных адкладаў разам з рэшткамі дуба. Пры гэтым неабходна адзначыць, што падобныя вырабы з адтулінамі з рагоў высакароднага аленя амаль не сустракаюцца на неалітычных помніках Паўночнай Беларусі. Такім чынам, можна лічыць, што большасць рагавых матык і сякер смаргонскага месцазнаходжання, як і малаток з-пад Жодзішак, датуецца познім мезалітам.

Набор рагавых вырабаў з Віліі тыповы для шмат якіх познамезалітычных помнікаў Паўночнай Еўропы ў Прыбалтыйскім рэгіёне. Бліжэйшыя ж аналагі «жазлу шамана» пакуль невядомыя, аднак падобныя арнаменты сустракаюцца сярод старажытнасцей пераважна яніславіцкай культуры, у тым ліку і на прыладах з прасвідраванымі адтулінамі (Kozłowski J., Kozłowski e., 1977 (табл 70)). З пэўнай засцярогай можна аднесці смаргонскія рагавыя вырабы таксама да яніславіцкіх старажытнасцей, бо на Віліі пакуль невядомы стаянкі з яніславіцкім крамянёвым інвентаром, а на паўночным

усходзе, на Нарачанскіх азёрах, у познім мезаліце пераважалі помнікі нарачанскага тыпу, суседняе ж Падзвінне ўваходзіла ў арэал кундскіх стаянак. Так што падобныя прылады маглі мець і міжкультурны характар.

Янiслаўiцкае насельніцтва, якое культывавала тыповыя для мезаліту леса-рачной зоны формы гаспадаркі, свае стаянкі размяшчала ў тых жа геамарфалагічныx умовах, што і носьбіты іншых тагачасных культур. Аднак выразных слядоў саміх жытлаў амаль не выяўлена. На адным паселішчы ў Польшчы знойдзена неглыбокая гумусавая авальная западзіна памерам 3х5 м, з агнішчам, выкладзеным камянямі. Падобныя агнішчы, вакол якіх было адносна шмат прылад працы, знойдзены і ў Беліцы-2. Выглядае, што жытлом для жыхароў яніслаўіцкіх стаянак былі шалашы. Мясцовае насельніцтва займалася рыбалоўствам, збіральніцтвам, пра што сведчаць знаходкі матык і малаткоў для арэхаў, паляваннем (у адной з магіл у Польшчы знойдзены косткі аленя, лася, тура, дзіка). Памерлых суродзічаў хавалі ў ямах па абраду інгумацыі ў сядзячай або ляжачай пазіцыі, забяспечвалі іх зброяй і ўпрыгожаннямі з зубоў жывёл. Антрапалагічны тып нябожчыкаў вызначаецца як лапаноідны.

З улікам аналогій з тэрыторыі Польшчы і Паўднёвай Літвы (Kozłowski, 1975. S. 146) яніслаўіцкая культура на тэрыторыі Беларусі існавала праз увесь атлантычны перыяд — ад 6-га тысячагоддзя да н. э. і да пачатку неалітызацыі. Пачатковая фаза яе магла прыпадаць на больш ранні час.

Яніслаўіцкія помнікі займалі шырокую прастору на памежжы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Іх канцэнтрацыя назіраецца на Сярэднім і Верхнім Павісленні, у Сярэднім і Верхнім Панямонні, у басейне Верхняй Прыпяці (Kozłowski, 1975. S. 251; Prahistoria, 1975. S. 378—379).

Л. Залізняк лічыць магчымым гаварыць пра цэлую яніслаўіцкую культурную вобласць, у якую ўваходзіла і познамезалітычная культура Паўднёва-Усходняга Палесся (Зализняк, 1984. С. 97—104).

На паўночным усходзе вобласці даследчыкі выдзяляюць сярод яніслаўіцкіх помнікаў групу (лакальны варыянт, культуру) максімоніс (Kozłowski, 1975. S. 147; Зализняк, 1984а (мал. 39)). У яе, акрамя некаторых помнікаў Паўднёвай Літвы, можна ўключыць і пэўныя познамезалітычныя стаянкі правабярэжжа Нёмана на Беларусі, асабліва Беліцу-2.

Паходжанне яніслаўіцкай культуры пакуль што не высветлена. Ёсць меркаванне, што ў яе фарміраванні прынялі ўдзел элементы маглемозскага тыпу з дадаткам уплываў паўднёвых і што гэты працэс мог распачацца менавіта на тэрыторыі Беларусі (Więckowska, 1973. S. 607; Kozłówski, 1975. S. 146—147). Пакуль што цяжка вызначыць і культуру, якая папярэднічала на нашай тэрыторыі яніслаўіцкай. Р. Рымантэне вылучае на землях Літвы і Заходняй Беларусі раннемезалітычную нёманскую культуру як вынік узаемадзеяння мясцовай свідэрскай традыцыі і элементаў культур з Прыбалтыкі і з паўднёвага захаду (Римантене, 1971). Для большай верагоднасці такога вылучэння ў адносінах да Гродзеншчыны патрабуюцца дадатковыя даследаванні адпаведных помнікаў.

## 8. ПОМНІКІ КУДЛАЕЎСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Кудлаеўская археалагічная культура распаўсюджана ў Палескай нізіне на Сярэдняй Дзясне, у Кіева-Чарнігаўскім Падняпроўі, у ніжнім і сярэднім

цячэнні Прыпяці, у нізоўях Сажа. Эпанімная стаянка, размешчаная на правым беразе р. Дзясны ў наваколлі в. Кудлаеўкі (Ноўгарад-Северскага раёна Чарнігаўскай вобласці), знойдзена ў 1925 г. украінскім археолагам М. Я. Рудзінскім (1926. С. 13—26). У 1972 г. польскі даследчык С. Казлоўскі ўпершыню вылучыў Кудлаеўку і падобныя да яе помнікі ў асобную групу стаянак тыпу Кудлаеўкі (Kozłowski, 1972. S. 107—120), пры гэтым ён звязаў іх паходжанне з міграцыямі насельніцтва камарніцкай культуры з тэрыторыі Польскай нізіны. Развіваючы і ўдакладняючы меркаванне свайго папярэдніка, Л. Л Залізняк вылучыў асобную культуру і назваў яе спачатку тацэнка-кудлаеўскай (1984а. С. 23—43), якая складаецца з двух тыпаў помнікаў (тыпу Тацэнкі і тыпу Кудлаеўкі), затым проста кудлаеўскай (Зализняк, 1991. С. 12).

У цяперашні час у кудлаеўскай культуры налічваецца больш за 20 стаянак і месцазнаходжанняў, якія пададзены выключна прыладамі працы і адыходамі іх вытворчасці з крэменю. На тэрыторыі Беларусі кудлаеўская культура раней не вылучалася, нягледзячы на тое, што польскія і ўкраінскія археолагі ўключаюць у яе шэраг стаянак і месцазнаходжанняў у басейне Сажа (Kozłowski, 1972. S. 108—113) і Прыпяці (Телегин, 1982. С. 160).

Істотныя рысы каменнага інвентару кудлаеўскай культуры, яго асаблівасці і колькасныя характарыстыкі падрабязна пададзены Л. Л. Залізняком (1984а С. 120; Неприна і інш. 1986 С. 74—142; 1991. С. 10—28) і Д. Я Цялегіным (1989 С. 119).

Насельніцтва кудлаеўскай культуры для вырабу прылад працы выкарыстоўвала мясцовы крэмень невысокай якасці. Прылады выраблялiся, як правіла, з адшчэпаў, атрыманых ад адна- і двухпляцовачных дробных нуклеусаў. Каля паловы і больш вырабаў з рэтушшу складаюць мікрапрылады, апрацаваныя крутой затупленай рэтушшу: пласцінкі з прытупленым краем, вастрыі з прытупленай спінкай тыпу Ставінога — Кудлаеўкі і інш. Скрабкі (да 25% ад усіх прылад) выраблялiся пераважна з кароткіх адшчэпаў, сярод іх пераважаюць канцавыя, але заўсёды прысутнічаюць паўкруглыя і акруглыя. Менш выяўлена шматлікіх разцоў і трапецый (да 40%). На стаянках басейнаў Сярэдняй Дзясны і Прыпяці сустракаюцца чаранковыя наканечнікі стрэл на пласцінах, апрацаваныя плоскай ці працілеглай рэтушшу. Пастаянным кампанентам інвентару з'яўляюцца праколкі-свердлы сярэдзіннага тыпу. Таксама ў невялікай колькасці вядомыя трохкутнікі і вастрыі камарніцкага тыпу. На трох стаянках знойдзены сякеры трапецападобнай формы.

Храналогія кудлаеўскай культуры абапіраецца толькі на тыпалагічныя назіранні і супастаўленні з суседнімі культурамі. Д. Я. Цялегін услед за С. Казлоўскім датуе яе 7—5-м тысячагоддзямі да н. э., г. зн. другой паловы мезаліту (Kozłowski, 1989. S. 119). Л. Л Залізняк дапускае магчымым з'яўленне кудлаеўскай культуры ў Палессі ў першай палове мезаліту, г. зн. у 9—8-м тысячагоддзях да н. э. Вылучаючы дзве разнавіднасці кудлаеўскіх помнікаў (уласна кудлаеўскія і з камарніцкімі рысамі), ён падзяляе іх на ранне- і познамезалітычныя этапы (Kozłowski, 1991 S. 11, 12).

Праблема паходжання кудлаеўскай культуры вырашаецца па-рознаму. С. Казлоўскі звязвае яе з камарніцкай культурай тэрыторыі Польшчы (1972. С. 87). Д. Я. Цялегін бачыць роднасць помнікаў кудлаеўскага тыпу з мясцовымі стаянкамі тыпу Пушкароў-7 (Пакроўшчына) (1982. С. 169, 170). Менш вызначаны пазіцыі Л. Л. Залізняка, які мяркуе, што карані кудлаеўскай куль-

туры трэба шукаць у межах велізарнай культурнай вобласці Федэрмесер, дакладней, яе ўсходнееўрапейскага варыянта (палеалітычныя помнікі тыпу Боршава-2 і Жураўка (1991. С. 25, 16)).

Найбольш выразнай стаянкай кудлаеўскай культуры на тэрыторыі Беларусі на левабярэжжы Прыпяці з'яўляецца стаянка **Азярное-1**.

Паселішча Азярное-1 размешчана на беразе возера Вячэра ў басейне р. Арэсы, ва ўрочышчы Дубное, на адлегласці 0,7 км на паўночны захад ад в. Азярное Любанскага раёна Мінскай вобласці (мал. 35). Урочышча Дубное ўяўляе сабой узвышанасць сярод поймавых тарфянікаў возера памерамі 150x250 м у папярочніку, вышынёй да 5 м над поплавам.

Помнік адкрыты і даследаваны ў 1985—1986 гг. М. М. Крывальцэвічам, які высветліў, што паселішча і культурныя рэшткі эпох неаліту і бронзы размешчаны пераважна ў паўднёвай, паўднёва-заходняй і заходняй частках, а мезалітычныя — у паўночна-заходняй, найбольш узвышанай частцы урочышча. Тут, на пясчаным раздуве, у 1985 г. праведзены зборы на плошчы 584 м$^2$ з пааквадратнай фіксацыяй знаходак, у выніку чаго атрымана калекцыя з 4199 расшчэпленых крэменяў (Кудряшов, Кривальцевич, 1994).

У плане прадукты першаснага расшчаплення лакалізуюцца ў выглядзе некалькіх плям дыяметрам 4—5 м, якія налічваюць да 230 крэменяў у кожнай. Вырабы з другаснай апрацоўкай размеркаваны адносна раўнамерна, не ўтвараюць выразных скапленняў.

Крэмень паходзіць, відаць, з мясцовых марэнных адкладаў. Канкрэцыі пакрыты зеленаватай скарынкай і невялікія ў памерах (не больш за 6 см у папярочніку). Крэмень у зломе не празрысты, жоўтага, бурага, шэрага колеру з адценнямі, са светла-жоўтымі і светла-шэрымі ўключэннямі ў выглядзе круглых ці авальных плям ці ўкрапванняў.

У інвентары стаянкі, што налічваў 4067 артэфактаў, адлюстраваны ўвесь цыкл апрацоўкі крэменю. апрабаванне сыравіны, падрыхтоўка нуклеуса, яго утылізацыя і пераафармленне, другасная апрацоўка і утылізацыя прылад.

Асаблівасцю тэхнікі першаснага расшчаплення стаянкі Азярное і з'яўляецца высокая доля адыходаў вытворчасці ў выглядзе асколкаў пры нізкай долі сколаў-нарыхтовак, што сведчыць, відаць, пра нізкую якасць сыравіны пры яе багацці. У працэсе вырабу нуклеусаў асабліва старанна афармлялася паверхня плоскасці сколвання шляхам выдалення падоўжных кантаў. Відавочна, гэта было неабходна для атрымання нарыхтовак прамога профілю, сплюшчаных у папярочным сячэнні. У ходзе утылізацыі нуклеуса часцей за ўсё праводзілася ачыстка краю пляцоўкі ад «махры», а пляцоўка амаль не «асвяжалася». Практычна не падпраўляліся бакавыя краі, аснова і тыльная частка нуклеуса; пляцоўка фармаваліся адным-двума шырокімі сколамі.

Аднапляцовачныя нуклеусы, як правіла, маюць няправільную форму, толькі крыху падобныя да прызмы. Нарыхтоўкі здымаліся толькі з аднаго боку, тыльная частка заўсёды захоўвае скарынку.

Двухпляцовачныя нуклеусы маюць пляцоўкі, размешчаныя на процілеглых канцах канкрэцый Сколванне нарыхтовак з іх ажыццяўлялася ў падоўжна-сустрэчным напрамку з аднаго ці двух бакоў

Шматпляцовачныя нуклеусы маюць не менш за дзве пляцоўкі і не менш за дзве плоскасці сколвання. Зняцце нарыхтовак у іх вялося ў падоўжным, папярочным і падоўжна-папярочным напрамках.

У тэхніцы другаснай апрацоўкі найбольшае прымяненне знайшла крутая рэтуш з вуглом нахілу 75—90°, што фарміруе спінкі і ўсякае краі прылад. Разцовы скол выкарыстоўваўся для вырабу разцоў, а мікраразцовы — для падпраўлення верхавінак вастрый. Паўкрутая аднабаковая рэтуш прымянялася для апрацоўкі лёзаў скрабкоў і скрэблаў («скрабачоў»), плоская свідэрская рэтуш — для афармлення чаранкоў наканечнікаў

Выкарыстоўваўся і спецыфічны прыём фрагментацыі вастрый папярочным сколам, характэрны для так званых вастрый яніславіцкага тыпу.

Вастрыі з прытупленай спінкай тыпу Ставінога (18 экз., 7,0%). Выраблены на пласцінах, дыстальныя канцы якіх завостраныя, а праксімальныя не апрацаваны. Спінка прамой ці выгнутай у плане формы абабіта крутой аднабаковай ці сустрэчнай рэтушшу. Процілеглы бакавы край захоўвае выпадковыя абрысы (мал. 30: 1—5).

Вастрыі з прытупленай спінкай сегментападобныя (ланцэтападобныя) (8 экз., 3,10%) Нарыхтоўкай для іх служылі пласцінкі, адзін бакавы край якіх не апрацоўваўся. Рэтуш спінкі круглая, аднабаковая ці сустрэчная, якая зразае дыстальны і праксімальны канцы прылад. Гэтыя вастрыі блізкія да вастрый Ставінога, але адрозніваюцца ад апошніх большай выпукласцю спінкі (мал. 30).

Вастрыі са скошаным канцом тыпу Каморніца (14 экз., 5,4%; мал. 30: 6—8) зроблены на пласцінках (7 экз.) і адшчэпах (5 экз.), асновы і адзін з бакавых краёў якіх не апрацаваны. Крутая аднабаковая рэтуш зразае пад вострым вуглом да доўгай восі частку бакавога краю і ўтварае пры гэтым вастрыё. Форма скошанага канца самая разнастайная: прамая, выпуклая, выгнутая. Зрэдку верхавінкі вастрый падпраўляліся з брушка мікраразцовымі сколамі ці збіваліся папярочнымі сколамі.

Асаблівасць вастрый тыпу Яніславіца (5 экз., 1,9%) заключаецца ў тым, што верхавінкі іх вастрый не рэтушаваліся да канца, а збіваліся папярочнымі сколамі. Два з іх маюць рэтушаваныя асновы (мал. 30: 12, 14), а ў астатніх 12—14 асновы абламаны.

Пласцінкі з прытупленай спінкай (48 экз., 18,10%; мал. 30: 17—23). Захавалася ў цэлым выглядзе толькі 14 прадметаў, у астатніх абламаны канцы. Пласцінкі з адным прытупленым краем (спінкай), прамой ці слабавыпуклай у плане формы, абабітыя крутой аднабаковай ці сустрэчнай рэтушшу, што зразае да паловы шырыні цела прылад. Папярочныя канцы не апрацоўваліся. Пласцінкі з двума прытупленымі краямі (3 экз., 1,20%; мал. 30: 23) маюць завужаныя да асновы, крута рэтушаваныя бакавыя краі.

Пласцінкі і адшчэпы з усечаным рэтушшу канцом (5 экз., 1,9%) марфалагічна блізкія да вастрый са скошаным канцом, адрозніваліся ад апошніх вялікім вуглом (45—90°) нахілу папярочнага канца да доўгай восі нарыхтоўкі. Форма апрацаванага канца прамая, слабавыпуклая ці ўвагнутая ў плане (мал. 30: 9, 10, 24—26). Бакавыя краі двух з іх падпраўлены паўкрутой процілеглай рэтушшу.

Трапецыі выраблялiся з сячэнняў пласцін і адрозніваюцца па памерах: высокія (1 экз., 0,4%) і сярэдневысокія (2 экз., 0,8%). Высокая трапецыя апрацавана крутой рэтушшу са спінкі, а сярэдневысокая — процілеглай (мал. 30: 28—30)

Наканечнікі стрэл на пласцінах у залежнасці ад спосабу апрацоўкі чаранка падзяляюцца на два тыпы (мал. 30: 31—33) Наканечнікі з плоскай рэтушшу з брушка (3 экз., 1,2%) маюць выразна акрэсленыя ў плане чаранкі,

сфарміраваныя дзвюма бакавымі выемкамі ў свідэрскіх традыцыях: спачатку чаранок абабіваўся крутой рэтушшу са спінкі, затым падчэсваўся сустрэчнай рэтушшу з брушка. Чаранкі наканечнікаў другога тыпу (1 экз., 0,4%) (мал. 30: 33) у плане не вылучаны, апрацаваны процілеглай паўкрутой рэтушшу.

Праколкі, свердлы (13 экз., 5,0%) зроблены на пласцінах (4 экз.), адшчэпах (4), сколах падпраўкі нуклеуса (4), першасных сколах (10 экз.). Джальцы сярэдзінных праколак (10 экз., 3,8%; мал. 31: 1—7) трохгранныя ў папярочным сячэнні, апрацаваныя крутой рэтушшу са спінкі. Вуглавая праколка (мал. 31: 5) з джальцам на вугле нарыхтоўкі дадаткова апрацавана крутой рэтушшу са спінкі. Своеасаблівая праколка з моцна выцягнутым джальцам на пласцінцы жоўтага колеру. Яе процілеглы канец апрацаваны як чаранок наканечніка плоскай рэтушшу з брушка (мал 31: 7).

Скрабкі канцавыя. Для іх вырабу выкарыстоўваліся самыя разнастайныя нарыхтоўкі: першасныя сколы (8 экз.), адшчэпы (9 экз.), пласціны (2 экз.), сколы падпраўкі нуклеусаў (4 экз.), нуклепадобныя сколы (2 экз.). Форма лёзаў у плане слабавыпуклая, самі лёзы скошаны управа ці ўлева адносна доўгай восі нарыхтоўкі. Дадаткова апрацоўваўся дробнай нерэгулярнай рэтушшу, як правіла, адзін з бакавых краёў (8 экз., 3,1%; мал. 31: 8—12).

Скрабкі паўкруглыя і акруглыя (8 экз., 3,1%), адрозніваюцца ад канцавых укарочанасцю прапорцый і вялікай працягласцю лёзаў, даўжыня якіх перавышае 1/2 перыметра нарыхтоўкі. Два скрабкі на нуклепадобных нарыхтоўках могуць мець высокі профіль (мал. 31: 12).

Скрэблы («скрабачы») (13 экз., 5,0%) — гэта скрабкі нерэгулярных формаў, лёзы якіх размешчаны звычайна на бакавых ці на бакавых і папярочных краях (мал. 31: 13—15). Нарыхтоўкамі для іх паслужылі адшчэпы (5 экз.), першасныя сколы (5 экз.), сколы падпраўкі нуклеусаў (3 экз.).

Разцы на зломе простыя і двайныя (12 экз., 4,70%) зроблены на першасных сколах (5), пласцінах (4), сколах афармлення нуклеусаў (2), адшчэпах (мал. 31: 16—24). Лёзы аформлены на вуглах нарыхтовак на адным (у простых) і двух канцах (у двайных) Сустрэты тры двайныя разцы з двума лёзамі на процілеглых канцах.

Разцы двухгранныя (5 экз., 1,8%) Лёзы іх апрацаваны на вуглах нарыхтовак (адшчэпаў і пярвічных сколаў) з дапамогай двух разцовых сколаў, накіраваных уздоўж і папярок доўгай восі (мал. 31: 18, 19).

Разцы коса- і папярочнарэтушныя (21 экз., 8,1%) выраблены на адшчэпах (11 экз.), пярвічных сколах (7 экз.), сколах падпраўкі нуклеусаў (3 экз.). Рабочы край утвораны на вугле нарыхтоўкі з дапамогай падоўжанага разцовага сколу і папярочнаўсечанага канца (мал. 31: 20—22, 24). Рэтуш усечанага канца паўкрутая ці крутая, якая ўтварае прамы, выгнуты ці выгнуты ў плане контур На трох разцах адзначана дадатковая апрацоўка краёў. Сярод двухлязовых адрозніваюцца разцы з двума лёзамі на адным (2 экз.) і на двух (4 экз.) канцах нарыхтоўкі.

Разцы камбінаваныя (8 экз., 3,1%) сумяшчаюць на адной нарыхтоўцы два і больш лёзы, атрыманыя рознымі прыёмамі (мал. 31). Сустрэліся такія камбінацыі разцоў, як папярочнарэтушны + двухгранны (4 экз.), разец на зломе + двухгранны (2 экз.), разец на зломе + папярочнарэтушны (2 экз.).

Пласціны, адшчэпы, асколкі з краявой рэтушшу (48 экз., 18,4%). У гэту групу ўваходзяць самыя разнастайныя па форме і размяшчэнню рэтушы вырабы, што не паддаюцца сістэматызацыі. У шмат якіх выпадках, відаць, рэтуш знікала пры іх утылізацыі.

Вырабаў з другаснай апрацоўкай налічваецца 260.

Істотнай прыкметай тэхнікі каменнага інвентару стаянкі Азярное-1, што вызначае яе культурную прыналежнасць, з'яўляюцца дамінаванне крутой рэтушы і адносна высокая ўдзельная вага мікралітаў і іх структура.

Стаянку Азярное-1 апраўдана будзе разглядаць у кантэксце помнікаў кудлаеўскай культуры. Спецыфікай яе крамянёвага інвентару, паводле заключэння Л. Л. Залізняка, з'яўляецца перавага крутой рэтушы ў тэхніцы другаснай апрацоўкі з мікралітаў у складзе прылад, перавага сярод апошніх вастрый тыпу Ставінога Кудлаеўка пры малалікасці ці адсутнасці трохкутнікаў (1991. С. 12—15). Апорнымі помнікамі кудлаеўскай культуры лічацца Кудлаеўка (Зализняк, 1984. С. 94), Тацэнкі (1984. С. 38), Кухары (Зализняк, 1977 С. 26, 28), Мартынавічы (1977. С. 40—43) і інш. Іх матэрыялы дастаткова поўна апублікаваны і параўнальныя са стаянкай Азярное-1 па колькасці артэфактаў (ад 1911 да 5683 экз.) і вырабаў з другаснай апрацоўкай (ад 129 да 198 экз.). У лік помнікаў кудлаеўскай культуры ўваходзіць значная частка інвентару стаянкі Рэчыца-2 у нізоўях Бярэзіны, аднесеная, на погляд аўтараў, памылкова У. П. Ксяндзовым да грэнскай культуры на яе познім этапе (1988. С. 105—110).

Аналізуемыя помнікі аб'ядноўвае наяўнасць такіх тыпаў прылад, як: 1) вастрыі тыпу Ставінога; 2) пласцінкі з прытупленай спінкай; 3) сегментападобныя ці ланцэтападобныя вастрыі; 4) трапецыі высокія і сярэдневысокія; 5) праколкі; 6) скрабкі канцавыя, паўкруглыя і акруглыя; 7) «скрабачы»; 8) разцы на зломе. Найбольшае падабенства са стаянкай Азярное-1 выяўляе Кудлаеўка. Інвентар апошняй бяднейшы па складу, у ім няма вастрый яніславіцкага тыпу, двухгранных, коса- і папярочнарэтушных і камбінаваных разцоў, адзінкавыя нуклеусы. Колькасныя адрозненні выяўляюцца перш за ўсё ў большасці мікралітаў, наканечнікаў стрэл, трапецый і праколак сярод прылад у Кудлаеўцы, чым у Азярным-1.

На тэрыторыі Беларусі вядомы яшчэ некалькі помнікаў кудлаеўскага тыпу ці кудлаеўскай культуры: Кажан-Гарадок і Беласарока на Прыпяці (Зализняк, 1991. С. 10, 11). Да іх можна дадаць стаянку Ліпляны-3 на Убарці, адкрытую ў 1989 г. В. С. Вяргей, М. М Крывальцэвічам і В. Я. Кудрашовым. У адрозненне ад Азярнога-1 сувязь гэтых стаянак з кудлаеўскай культурай менш відавочная.

Такім чынам, на паўднёвым усходзе Беларусі ў мезаліце не існавала кудлаеўская культура, традыцыі якой у рознай ступені праяўляюцца ў інвентары стаянак Азярное-1,. Рэчыца-2, Беласарока, Кажан-гарадок, Ліпляны-3. Да яе можа адносіцца і частка касцяных знаходак з возера Вячэра (мал. 32).

## 9. ПОМНІКІ НАРАЧАНСКАГА ТЫПУ

Нарачанскі тып помнікаў вылучаны археолагамі ў пачатку 90-х гадоў (Ксензов, 1994. С. 27—28; Чарняўскі, 1996в. С. 48—56). Іх інвентар характарызуецца своеасаблівым складам тыпаў і формаў прылад працы і значна адрозніваецца ад інвентару помнікаў суседніх мезалітычных культур — кундскай, нёманскай, каморніцкай, яніславіцкай. Разам з тым неабходна адзначыць, што асобныя элементы гэтых культур праяўляюцца ў нарачанскіх комплексах.

Помнікі нарачанскага тыпу распаўсюджваюцца ў Паўночна-Заходняй Беларусі і на тэрыторыі Літвы. Адным з іх, найбольш раннім, з'яўляецца паселішча Стругалапы, размешчанае на заходнім беразе возера Мядзел, на мысе, які выступав ў возера ў паўночным кірунку, праз 0,3 км на паўднёвы ўсход ад эпанімнай вёскі Мядзельскага раёна.

Вышыня залягання помніка над узроўнем вады 1,5—2 м. Адкрыты ён Э. М. Зайкоўскім у 1979 г., тады ж быў закладзены раскоп плошчай 144 $м^2$ (Зайковский, Ксензов, 1994. С. 3—8). У 1984—1987 гг. помнік даследаваўся У. П. Ксяндзовым. Ім ускрыта плошча 454 $м^2$. Стратыграфія паселішча наступная: дзёран — 0—0,1 м, цёмна-жоўты дробназярністы пясок (месцамі светла-жоўты), з зернямі жвіру, дробнымі каменьчыкамі ■ глыбіні 0,3 м ад дзённай паверхні, у ніжняй частцы гарызонту (глыбіня 0,4 м) выяўляецца тонкі праслой глеістага пяску — 0,22—0,45 м; светла-жоўты рознaзярністы пясок, які залягае на марэнных адкладах чырвона-бурага колеру, — 0,45—0,55 м.

Культурныя рэшткі эпохі мезаліту, што складаюцца з расшчэпленых крэменяў і прылад працы, сустракаюцца ад сучаснай паверхні да глыбіні 0,4 м. Размяшчэнне мезалітычных знаходак па вертыкалі сведчыць аб разбуранасці верхняй часткі культурнага пласта як колішнім разворваннем, так і засяленнем гэтага прыбярэжнага ўчастка ў V—VIII стст. н. э.

Калекцыя крамянёвых мезалітычных знаходак, сабраная на помніку ў 1979—1987 гг., уключае 3586 адзінак. Сыравінай для вырабу прылад служыў мелавы крэмень высокай якасці цёмна-шэрага колеру, валуны якога каля берага возера і на бліжэйшай тэрыторыі выяўлены не былі. Вялікая колькасць крэменяў (каля 30% усіх знаходак) пакрыта пацінай светла-блакітнага, зрэдку малочнага колеру. Частка знаходак пабыла ў агні. Некаторыя крэмені, відаць, ад доўгага знаходжання ў вадзе набылі карычневы колер.

Адшчэпы — самая шматлікая катэгорыя крамянёвага інвентару (2941 экз.) 81 адшчэп першасны, маюць акруглыя абрысы і крэйдавую скарынку на спінцы Трэба адзначыць, што ■ агульнай колькасці адшчэпаў 2067 экземпляраў маюць памеры менш за 1,5 см у папярочніку, астатнія — у межах 2—3 см. Гэта, на думку аўтараў, характэрна для мезалітычных калекцый з тэрыторый, бедных на сыравіну, калі першабытным чалавекам выкарыстоўваліся жаўлакі крэменю не толькі буйных, але і малых памераў, якія цяжка паддаюцца апрацоўцы.

Менш шматлікія ў калекцыі пласціны (261 экз.). З іх 40 захаваліся поўнасцю, астатнія — у выглядзе абломкаў (96 экз.), ■ наўмысна знятымі верхавінамі (47 экз.) і базальнымі часткамі з ударнымі бугаркамі (78 экз.). Даўжыня неапрацаваных пласцін дасягала 4,3—1,9 см пры шырыні 0,5—1,4 см, краі іх няроўныя, непаралельныя, на некаторых ёсць участкі скарынкі, што, відаць, не дазваляла выкарыстоўваць іх у якасці нарыхтовак.

Нуклеусаў на помніку выяўлена 48 экземпляраў, 15 з іх — абломкі, частка з ударнымі пляцоўкамі. Цэлыя нуклеусы моцна спрацаваны, памеры іх у вышыню не перавышаюць 5,5 см. 6 нуклеусаў па форме блізкія да прызматычных, 5 экземпляраў — да канічных і пірамідальных, прычым усе яны аднапляцовачныя, плоскія, аморфныя, маюць адну-дзве пляцоўкі. На 7 экземплярах захавалася на невялікіх участках крэйдавая скарынка.

Большая частка прылад (302 экз.) паселішча Стругалапы выраблена ■ пласцін (190 экз.), астатнія з адшчэпаў (107 экз.), нуклеусаў (2 экз.), кавалкаў крэменю (3 экз.). Шматлікія ў калекцыі разцы (41 экз.). Нарыхтоўкамі для іх

былі пласціны (30 экз.), адшчэпы (9), збітыя з нуклеусаў ударныя пляцоўкі (2 экз.). Пераважная большасць разцоў на вугле зламанай пласцінкі — 28 экземпляраў. Разцовыя сколы, як правіла, вузкія і кароткія, наносіліся як з боку спінкі, так і з брушка. На шэрагу прылад разцовыя вуглы падпраўляліся дадатковымі сколамі. Бакавыя разцы пададзены 6 экземплярам!' (мал. 33: 15, 16), іх разцовыя вуглы аформлены яктонкія разцовыя сколы, нанесеныя па краях уздоўж падоўжнай восі прылад і крутой рэтушы, якой апрацаваны канец ці край нарыхтовак. Прылады адна-, двух- і чатырохлязовыя, прычым двух- і чатырохлязовыя падобныя да разцоў-скобляў (мал. 33). Чатыры сярэднія (мал. 33), іх лёзы ўтвораны шырокімі кароткімі разцовымі сколамі. Астатнія тры прылады адносяцца да тыпу вуглавых (мал. 33: 11). Разцовыя вуглы падрыхтаваны на натуральных вастракутных канцах нарыхтовак нанясеннем сколу па адным краі.

Менш шматлікія ў калекцыі скрабкі (39 экз.). 22 прылады выраблены з адшчэпаў, 17 з пласцін (мал. 33: 3—9). Групай у 10 экземпляраў вылучаюцца мікраскрабкі (мал. 33). Форма іх рабочага краю не пастаянная — акруглая, прамая, увагнутая, скошаная. Памеры мікраскрабкоў не перавышаюць 2 см у даўжыню. Астатнія скрабкі маюць больш буйныя памеры, авальны, дугападобны і прамы рабочы край, выдзелены крутой і паўкрутой скрабковай рэтушшу як на канцы, так і па краях нарыхтовак. Рабочы край у большасці прылад аформлены з боку спінкі, аднак у некаторых падрыхтаваны з боку брушка. Частка прылад (пласціны і адшчэпы з нерэгулярнай рэтушшу) па краях (мал. 33: 21, 26) па апрацоўцы рабочага краю блізкія да скрабачоў.

Укладышавыя прылады пададзены некалькімі тыпамі. Сярод мікрапласцін (48 экз.) вылучаецца серыя натуральных укладышаў (21 экз.), краі і канцы якіх не апрацоўваліся. Для нарыхтовак характэрна адсутнасць праксімальных і дыстальных частак, наўмысна аддзеленых. Мікрапласцін з рэтушшу па краі знойдзена 8. На чатырох прыладах нанесена крутая прытупленая рэтуш, на астатніх — паўкрутая. Астатнія мікрапласціны — гэта abломкі. Сярод звычайных пласцін таксама вылучаюцца простыя пласціны-ўкладышы (5 экз.; мал. 33), укладышы з паўкрутой ці крутой рэтушшу па адным ці двух краях (5 экз.; мал. 33).

Асобную групу складаюць пласціню-ўкладышы (8 экз.) з затупленымі крутой рэтушшу канцамі (мал. 33: 7). На большасць прылад рэтуш наносілася з брушка, прычым на 3 экземплярах — па краі. Сячэнні пласцін у калекцыі пададзены 28 экземплярамі (мал. 33: 32). Усе яны адносяцца да тыпу кароткіх, выраблялiся з пласцін двух- ці трохгранных у сячэнні з роўнымі, паралельнымі краямі. 8 сячэнняў пласцін маюць на краях паўкрутую (7 экз.) ці крутую (1 экз.) дробную рэтуш, на адным экземпляры нанесены адзін разцовы скол.

Праколкі выяўлены на помніку ў 2 экземплярах, выраблены з пласцін, вастрыё выдзелена паўкрутой дробнай рэтушшу на канцы нарыхтоўкі (мал. 33: 27). З брушка рабочая частка адной прылады падпраўлена плоскай рэтушшу.

Свердлы-пракруткі пададзены 3 экземплярамі. Нарыхтоўкамі прыладам былі адшчэпы і пласціны. Рабочы край выдзелены на вастракутным канцы нарыхтоўкі паўкрутой процілеглай рэтушшу.

Таксама шматлікія вастрыі тыпу ланцэтападобных і Каморніцы — 6 экземпляраў (мал. 33: 1). Выраблены яны з пласцін, апрацаваны крутой рэтушшу, якая ў двух выпадках захоплівала ўвесь край (мал. 33: 1).

Аснова прылад натуральная (2 экз.), рэтушаваная (1 экз.), на адным экземпляры выдадзена па другім краі ў выглядзе чаранка Блізкія да вастрый па тэхніцы апрацоўкі пласціна і адшчэп (мал. 33: 37), аднак выгнутасць у профілі, масіўнасць нарыхтовак не дазвалялі, на думку аўтараў, выкарыстоўваць іх у гэтай якасці. Скоблі на помніку выяўлены ў колькасці 71 экземпляра. Нарыхтоўкамі ім служылі пласціны (38 экз.) (мал. 33: 20—23). Выемкі аформлены паўкрутой дробнай рэтушшу як з боку брушка, так і з боку спінкі. У пераважнай большасці выемкі размешчаны па краях нарыхтовак і толькі ў двух выпадках яны знаходзяцца на канцах. Большасць скобляў аднавыемістыя, ёсць прылады з дзвюматрыма выемкамі. Долатападобныя прылады знойдзены ў 2 экземплярах (мал. 33: 40). Выраблены яны з кароткіх адшчэпаў, рабочы край апрацаваны падчэсваннем.

Не зусім зразумелае прызначэнне адшчэпаў (7 экз.) і пласцін (5 экз.) з крутой рэтушшу па адным ці двух краях (мал. 33: 24, 25). Большасць іх зламаныя і пададзены фрагментамі. Рэтуш наносілася з боку спінкі. Можна меркаваць, што гэта прылады па апрацоўцы каменю (рэтушоры), магчыма, частка іх выкарыстоўвалася для скаблення.

Рэтушораў знойдзена 10 экземпляраў.Нарыхтоўкамі служылі адшчэпы (7 экз.) і кавалкі крэменю, што маюць па краях характэрную забітасць і заломы, якія ўзніклі пры рабоце.

У калекцыі таксама знаходзяцца пласціны (13 экз.) і адшчэпы з нерэгулярнай рэтушшу па краі, аморфныя неапрацаваныя кавалкі крэменю (27 экз.), адшчэпы ад разцовых сколаў (7 экз.).

Агульная рыса сабранага інвентару — укарочаныя памеры ўсіх знаходак. Адсутнасць геаметрычных формаў прылад працы, нязначная колькасная перавага разцоў над скрабкамі дазваляе датаваць помнік Стругалапы другой паловай барэальнага перыяду, г. зн. 7-е тысячагоддзе да н. э.

Стаянка Кусеўшчына размешчана праз 0,4 км на паўночны захад ад в. Кусеўшчына Мядзельскага раёна на нізкім паўвостраве, што выступав ў тарфянік. Тарфянік раней быў возерам, якое займала вузкую (да 0,8 км) катлавіну, выцягнутую з поўдня на поўнач на 3 км. Яшчэ нядаўна да меліярацыі тарфянік уяўляў непраходнае-багністае балота, так што возера канчаткова зарасло не так і даўно.

Паўвостраў са знаходкамі мае памеры 30x45 м, яго вышыня 0,5 м. Ён выцягнуты з усходу на захад і злучаны кароткім перашыйкам з карэнным берагам.

Знаходкі ў выглядзе расшчэпленых крэменяў сустракаюцца ў рознай ступені канцэнтрацыі на ўсім паўвостраве, а таксама ў нязначнай колькасці на вузкай прыбярэжнай стужцы карэннага берага.

Помнік выяўлены ў 70-х гадах Ч. А. Каспарэўскім у час меліярацыйных работ на тарфяніку, калі праклалі не толькі асушальныя каналы, але балотнымі плугамі ўзаралі і яго паверхню на глыбіню 20—30 см. На ўзараным ўчастку і былі выяўлены крамянёвыя знаходкі. Раскопкі тут праводзіў М. М. Чарняўскі ў 1987, 1988, 1990 гг. Усяго ўскрыта 184 м$^2$ (Чарняўскі, 1996в).

Культурны пласт слаба гумусаваны і мае шэры светлаваты колер, яго таўшчыня 0,3—0,5 м. Складаецца ён з пяску. Знаходкі ва ўсходняй частцы помніка, дзе мацярык пясчаны, часам пранікаюць на глыбіню да 0,4 м, у за-

ходняй, дзе мацярык шчыльны глініcты, — да 0,3 м. У цэнтральнай жа частцы стаянкі асобныя расшчэпленыя крэмені былі знойдзены і на глыбіні да 0,5 м. Пры паўночным краі раскопу знаходзілася слабавуглістая лінза адкрытага агнішча без камянёў у канструкцыі. Невыразныя сляды вуглістасці меліся і ў іншых месцах.

Знаходкі, за рэдкімі выключэннямі, дробныя. Крэмень, мясцовыя запасы якога нязначныя, выкарыстоўвалі ашчадна. Пра гэта сведчаць і моцна спрацаваныя нуклеусы. Матэрыял ■ другаснай апрацоўкай складае да 10% Ва ўсіх раскопах знойдзена 4043 расшчэпленыя крэмені, ■ іх 336 прылад працы, а таксама 53 нуклеусы і іх абломкі. 45% прылад змайстравана на пласцінках.

Наканечнікаў стрэл мала. Найбольш архаічна выглядае абломак лістападобнага вастрыя з паўкрутой краявой рэтушшу па абедзвюх паверхнях (мал. 34: 1). Цэлы экземпляр захаваў даволі невыразную кроплепадобную форму і апрацаваны па ўсіх паверхнях буйнаватай рэтушшу (мал. 34: 2). Захаваўся дробны абломак вастрыя падобнага ж наканечніка.

Трапецый значна больш — 19 экземпляраў. Амаль палова іх — раўнабедраныя (мал. 34: 3, 5). Практычна ва ўсіх іх рэтуш са спінкі на бакавінках, у адной — з брушка (мал. 34: 5). Маецца трапецыя, у якой ахайна апрацавана аснова, злёгку падпраўлена вяршыня, а на бакавінках пакінуты некранутыя ўчасткі (мал. 34: 10). У адной знаходкі бакавінкі прыкругленыя (мал. 34: 15). Знойдзена пяць асіметрычных трапецый (мал. 34: 4, 14). Усе яны маюць адну вертыкальную, пераважна левую, бакавінку. Адна'з іх з кароткай вяршыняй нагадвае трохкутнік, да таго ж яна рэтушавана з брушка (мал. 34: 14). Такой жа колькасцю прадстаўлены прамавугольныя мікраліты (мал. 34: 11, 12). Аднак у большасці іх рэтушаваны толькі адзін край, таму не выключана, што частка іх з'яўляецца адламанымі рэтушаванымі асновамі ланцэтаў або пласцін-укладышаў. Тры рамбічныя сячэнні пласцінак рэтушаваныя на тарцах (мал. 34: 13, 16). У калекцыі маецца і невялікая колькасць нерэтушаваных пласцінак.

Ланцэтныя вастры і іх абломкі прадстаўлены 16 экземплярамі. Яны, мабыць, усе майстраваліся з пласцінак (мал. 34: 6—8). У большасці іх асновы абламаныя. Усе яны, за выключэннем адной знаходкі, маюць цалкам зарэтушаваны канцавы скос, які амаль заўсёды фармаваўся наўмысна. Зусім нешматлікія ланцэты, у якіх рэтуш спускаецца на спінку або пакрывае яе цалкам. Два вастры маюць простую рэтушаваную аснову. Яны кароткія і па форме набліжаюцца да асіметрычных трапецый. Захаваўся абломак, магчыма, ланцэта ■ простай рэтушаванай асновай. Сярод ланцэтаў вылучаецца востраканечнік яніславіцкага тыпу (мал. 34: 21). Ён на вузкай пласцінцы, з адламанай асновай. Маецца таксама вузкая злёгку спічастая пласцінка ■ адламанай вяршыняй, стромка прытупленая па спінцы і аснове (мал. 34: 22). Гэта мог быць высокі трохкутнік.

Найбольш у Кусеўшчыне скрабучых прылад. Яны складаюць да траціны ўсіх рэтушаваных вырабаў. З іх 117 — выразныя скрабкі. Пераважная большасць скрабкоў фармавалася на адшчэпах і толькі каля 15% — на пласцінках. Гэтыя суадносіны даволі ўмоўныя, бо знаходкі, як правіла, дробныя, таму нярэдка бывае цяжка вызначыць характар першапачатковай нарыхтоўкі.

Пласцінчатыя скрабкі амаль усе ўяўляюць канцавыя формы (мал. 35: 5, 6—8, 11—14). Прыкладна на палове іх дадатковая рэтуш або падрэтушоўка

спускаецца на бакавінкі. Сустракаюцца, хоць і ў нязначнай колькасці, двайныя канцавыя (мал. 35: 1—4). Скрабкі на адшчэпах, як звычайна, больш разнастайныя. Нарыхтоўкі для іх былі авальныя або круглыя, трохкутныя, зрэдку чатырохкутныя (мал. 35: 15—17, 19). Большасць вырабаў на адшчэпах канцавых кароткія з дадатковай больш-менш выразнай рэтушшу на краях. Асноўныя скрабніцы пераважна выпуклыя, часам простыя, скошаныя або мысаватыя. Пры гэтым сустракаюцца даволі высокія экземпляры як на пласцінках, так і на адшчэпах. Маецца каля дзесятка бакавых скрабкоў на адшчэпах (мал. 34: 30). Адносна невялікую частку скрабковых вырабаў складаюць рознай формы адшчэпы са стромкай рэтушшу або падрэтушоўкай на некаторых краях (мал. 34: 32). Стромкая рэтуш часам прысутнічае і на некаторых абломках і сколах. Знойдзены дзве пласцінкі са стромкай рэтушшу на абодвух краях (мал. 34: 31). Аднак яны маглі быць праколкамі або пракруткамі.

Пяць адшчэпаў і адна пласцінка маюць рэтушаваныя вялікарадыусныя скоблевыя выемкі (мал. 34: 17, 18).

Кусеўшчына вылучаецца невялікай колькасцю разцоў (13 экз.). Яны ў большасці вуглавыя (мал. 34: 27, 28, 33, 35), на адшчэпах (5 экз.) і пласцінках (5 экз.). Маецца клінаваты экземпляр на пласцінцы цёмна-шэрага высакаякаснага крэменю (мал. 34: 34). Вядомыя таксама камбінаваны клінаватабакавы разец на адшчэпе і вуглавы на нуклепадобным абломку.

Некалькі менш, чым скрабкоў, выяўлена прылад рэжучых (каля 80 экз.). Большасць іх майстравалася з пласцінак. Яны пераважна аднаязовыя (мал. 34: 23, 24), зрэдку двухлязовыя, некаторыя экземпляры маюць прытупленую спінку. Частка рэтушаваных пласцінак, асабліва з апрацаванымі асновамі або вяршынямі, магла быць укладышамі (мал. 34. 19, 20). Як укладышы маглі ўжывацца і некаторыя іншыя пласцінкі з рэтушшу. Невялікая колькасць адшчэпаў таксама мае плоскую завостраную рэтуш (мал. 34: 29).

Рэшту крамянёвых прылад на помніку складаюць праколкі (13 экз.) (мал. 34: 25, 26) пераважна на спічастых пласцінках, а таксама на адшчэпах або сколах.

Рубячыя прылады адзінкавыя. Яны невыразныя і даволі аморфныя.

Нуклеусаў і іх абломкаў знойдзена 53 экземпляры (мал. 35: 18, 20—22). Акрамя аморфных і зачаткавых яны ў большасці аднапляцовачныя прызматычныя. Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены стажкаватыя формы. Недахоп сыравіны не даваў мясцоваму насельніцтву асаблівага выбару, таму выкарыстоўваўся кожны знойдзены ў марэне або на азёрным беразе крэмень. Так, на помніку выяўлена некалькі абкатаных крамянёвых невялікіх галек, наўмысна распалавіненых, у якіх пачалі фармаваць ударныя пляцоўкі і адшчэпні.

На стаянцы Кусеўшчына атрыманы своеасаблівы крамянёвы інвентар з высокім працэнтам пласцінaчных нарыхтовак. Па гэтай адзнацы, па наяўнасці невялікіх рэтушаваных пласцін-укладышаў, разнастайных скрабкоў на адшчэпах, па невялікіх памерах артэфактаў гэты матэрыял даволі блізкі калекцыі з раннемезалітычнай стаянкі Стругалапы. Аднак на помніку ўжо сустракаецца шмат геаметрычных мікралітаў, асабліва трапецый, вастрый-ланцэтаў са спрэс рэтушаваным скосам пры малалікасці і невыразнасці разцоў. Гэта, а таксама з'яўленне наканечнікаў стрэл, апрацаваных двухбаковай плоскай рэтушшу (зараджэнне новай не-

алітычнай тэхнікі вырабу прылад працы) дазваляе датаваць стаянку Кусеўшчына фінальнамезалітычным часам — 5-м тысячагоддзем да н. э. Такім чынам, на паўночным захадзе Беларусі ў мезаліце існавала асобная група насельніцтва, якая характарызуецца своеасаблівым крамянёвым інвентаром. Раннемезалітычны этап яе развіцця прадстаўляе стаянка Стругалапы, познамезалітычны — Кусеўшчына. Наяўнасць у калекцыях помнікаў прызматычных і канічнай формы нуклеусаў, перавага пласцін у якасці нарыхтоўкі, сярод разцоў на вугле зламаных пласцін і адшчэпаў, прысутнасць наканечніка, які апрацаваны па краях сустрэчнай паўкрутой рэтушшу, разнастайных пласцін-укладышаў сведчыць аб генетычнай сувязі з кундскім насельніцтвам На другі генетычны кампанент — каморніцкі — паказваюць вастрыі са скошаным канцом, затупленым краем ланцэтападобных форм. З улікам датавання стаянкі Стругалапы ўзаемадзеянне кундскага і каморніцкага насельніцтва праходзіла, відаць, у першай палове барэальнага перыяду, г. зн. у 8-м тысячагоддзі да н. э. Значнае падабенства крамянёвых комплексаў Кусеўшчыны і ранненеалітычных помнікаў Сосенка-3 (Вілейскі раён), Зацэнне (Лагойскі раён) дазваляе меркаваць аб удзеле нарачанскай групы насельніцтва ў генезісе мясцовага неаліту




*Мал. 1. Карта асноўных помнікаў і месцазна-*
*Месцазнаходжанні прылад мусцьерскага аблічча: 1 — Падлужжа; 2 — Сяцілавічы; 3 — Абідавічы.*
*лінгбійскай культуры: 1 — Кавальцы-2; 2 — Краснасельскі-5; 3 — Опаль; 4 — Адрыжын. Помнікі*
*Беліца-2; 7—Бурносы; 8 — Мікалаева; 9 — Валеўка (Свіцязь); 10 — Бабровічы; 11 — Опаль-1;*
*Магілёўская; 3 — Хвойная; 4 —Бароўка; 5 — Дальняе Ляда; 6 — Чыгірынка; 7 — Лудчыцы;*
*Літвінавічы; 15 — Грэнск;*




*ходжанняў палеаліту і ранняга мезаліту.*
*Помнікі позняга палеаліту: 1 — Юравіцкая стаянка; 2 — Бердыжская стаянка. Помнікі свідзрскай культуры: 1 — Янава; 2 — Ліхачы; 3 — Азёры; 4 — Пужычы; 5 — Збляны; 6 - 12 — Моталь; 13 — Заазер'е. Помнікі грэнскай культуры: 1 — Шклоў Зарэчны; 2 — 8 — Верычаў; 9 — Вішанька; 10 — Каромка; 11 — Шыхаў; 12 — Рэчыца; 13 — Рэкорд; 14-16 — Печанеж*




Мал. 2. Карта асноўных
Помнікі кундскай культуры; 1 — Замошша; 2 — Крумплева; 3 — Плусы. Помнікі сожскай культуры: 6 — Рдзіца (Нераж); 7 — Прысна; 8 — Кліны; 9 — Журавель; 10 — Горкі; 11 — Стаўбун; 3 — Чарлёнка; 4 — Беліца-2; 5 — Нясілавічы-1; 6 — Чарэшля-6; 7 — Красноўка-1Б; 4 — Беласарока; 5—Кажан-Гарадок. Помнікі



*помнікаў мезаліту Беларусі*

*1 — Берагавая Слабада; 2 — Гарадок; 3 — Васілевічы-2; 4 — Міхайлаўка; 5 — Новы Быхаў; 12 — Новыя Грамыкі; 13 — Глыбаўка. Помнікі яніславіцкай культуры: 1 — Ліхачы; 2 — Лічыцы-2; 8— Старая Лутава. Помнікі кудлаеўскай культуры: 1 — Азярное-1; 2 — Ліпляны-3; 3 — Рэчыца-2; нарачанскага тыпу: 1 — Кусеўшчына; 2 — Стругалапы*




*Мал. 3. Крамянёвыя прылады мусцьерскага тыпу: 1 — Падлужжа; 2 — Абідавічы; 3 — Свяцілавічы*



Мал. 4. Агульны выгляд палеалітычнай стаянкі Юравічы




*Мал. 6. Крамянёвыя вырабы Юравіцкай стаянкі*




*Мал. 7. План бердыжскай палеалітычнай стаянкі*




*Мал. 8. Крамянёвыя прылады працы з Бердыжскай стаянкі*




*Мал. 9. Крамянёвыя вырабы з Бердыжскай стаянкі*




*Мал. 10. Крамянёвыя вырабы лінгбійскай культуры: 1, 2, 4 — Краснасельскі-5; 3, 5, 6 — Адрыжын; 7—15 — Кавальцы-2*




*Мал. 11. Крамянёвыя прыпады свідэрскай культуры. Заазер'е*




*Мал. 12. Крамянёвыя прылады свідэрскай культуры. Бабровічы-1 (паводле І. Ф. Ісаенкі)*




*Мал. 13. Крамянёвыя вырабы свідэрскай культуры. Янава*




*Мал. 14. Крамянёвыя прылады грэнскай культуры. Барсука*




*Мал. 15. Крамянёвыя прылады грэнскай культуры. Каромка*




*Мал. 16. Крамянёвыя прылады грэнскай культуры. Грэнск*




*Мал. 17. Крамянёвыя прылады кундскай культуры. Замошша*




*Мал. 18. Крамянёвыя прылады стаянкі Крумплева (па Н. М. Гурынай)*




*Мал. 19. Крамянёвыя прылады сожскай культуры. Горкі*




*Мал. 20. Крамянёвыя прылады сожскай культуры. Кліны-2*



Мал. 21. Сожская культура. Рэшткі жытла № 1 на стаянцы Аўрамаў Бугор




*Мал. 22. Крамянёвыя прылады сожскай культуры. Аўрамаў Бугор*




*Мал. 23. Крамянёвыя прылады сожскай культуры. Аўрамаў Бугор*




*Мал. 24. Крамянёвыя прылады сожскай культуры. Бабулін Бугор*




*Мал. 25. Крамянёвыя прылады сожскай культуры. Бабулін Бугор*




*Мал. 26. Крамянёвыя прылады яніславіцкай культуры. Беліца-2*




*Мал. 27. Крамянёвыя прылады яніславіцкай культуры. Нясілавічы-1*




*Мал. 28. Крамянёвыя прылады яніславіцкай культуры. Лічыцы-2*




*Мал. 29. Рагавыя вырабы са смаргонскага кар'ера: 1,2 — матыкі; 3, 5 — сякеры; 4 — пашкоджаны выраб; 6 — жазло шамана.*




*Мал. 30. Крамянёвыя прылады кудлаеўскай культуры. Азярное-1*




*Мал. 31. Крамянёвыя прылады кудлаеўскай культуры. Азярное-1*




*Мал. 32. Касцяныя вырабы мезалітычнага часу з возера Вячэра*




*Мал. 33. Крамянёвыя прылады са стаянкі нарачанскага тыпу Стругалапы*




*Мал. 34. Крамянёвыя прылады са стаянкі нарачанскага тыпу Кусеўшчына*




*Мал. 35. Крамянёвыя вырабы са стаянкі нарачанскага тыпу Кусеўшчына*

Раздзел 2

# НЕАЛІТ

Неалітычная (новакаменная) эпоха як заключная стадыя каменнага веку ў еўрапейскай археалогіі вылучана яшчэ ў XIX ст. Мяркуецца, што канкрэтная першабытная супольнасць людзей з'яўлялася неалітычнай, калі ў ёй былі вядомыя земляробства і жывёлагадоўля, керамічныя вырабы і шліфаваныя каменныя прылады працы. Аднак ў сапраўднасці адначасовае з'яўленне гэтых чатырох прыкмет класічнага неаліту здаралася далёка не заўсёды. Так, мезалітычная культура ўзбярэжжаў Фінскай затокі ўжо ведала шліфаваныя каменныя сякеры. У той жа час некаторыя плямёны Міжземнамор'я, развіваючы земляробства і жывёлагадоўлю, не карысталіся гліняным посудам.

На тэрыторыі Беларусі новакаменны век пачаўся ў 4-м (на поўдні краю — у канцы 5-га) тысячагоддзі да н. э. і працягваўся да мяжы 3-га і 2-га (на поўначы — да пачатку 2-га) тысячагоддзяў да н. э., калі чалавек пазнаёміўся з першымі металамі і наступіў бронзавы век.

Пачатак беларускага неаліту фіксуецца знаходкамі абломкаў старажытнейшых гліняных пасудзін. У той жа час не маецца даных, што на раннім яго этапе нашы продкі пазнаёміліся з вытворнымі формамі гаспадарання — земляробствам і жывёлагадоўляй. Акрамя таго, пэўна вядома, што толькі ў познім неаліце (3-е тысячагоддзе да н. э.) на Беларусі з'явіліся першыя шліфаваныя вырабы.

Такім чынам, устаноўлена, што ранненеалітычны час на нашай тэрыторыі фактычна вызначаецца адной «неалітычнай» прыкметай-керамікай. Аднак менавіта з'яўленне керамічнага посуду азнаменавала важныя зрухі ў гаспадарцы і побыце мясцовага насельніцтва — развіццё інтэнсіўнага збіральніцтва раслінnай ежы і яе гатаванне на вогнішчы. На Беларусі пераход ад мезалітычнай эпохі да неалітычнай прыпаў на кліматычны оптымум (шэсць тысяч гадоў таму назад), надзвычай спрыяльны развіццю расліннасці. У такіх умовах не было неабходнасці нешта наўмысна вырошчваць і затрачваць пры гэтым шмат намаганняў на расчыстку лясоў і апрацоўку Глебы. Бясконцыя лясы з разнастайным відавым складам дрэў, дзе дамінавалі хвоя і шыракалістыя пароды, балоты і незлічоныя вадаёмы, давалі тагачаснаму насельніцтву дастатковую колькасць дзічыны і рыбы. Такім чынам, напачатку было цалкам нерацыянальна пераходзіць ад высокарэнтабельнай прысвойвальнай гаспадаркі да вытворнай. Навейшая гісторыя нават ведае выпадкі, калі пэўныя трупы белых перасяленцаў у Паўночную Амерыку не апрацоўвалі зямлю, а амаль поўнасцю пераключаліся на паляванне.

У познанеалітычны час на Беларусі з'яўляюцца жывёлагадоўля і земляробства, шліфаваныя крамянёвыя і каменныя сякеры. Гэта выклікана не-

калькімі прычынамі — ростам народанасельніцтва, якое ўжо не магло цалкам задаволіць свае патрэбы «дарамі прыроды», запазычаннем прагрэсіўных элементаў культуры ад суседзяў, пранікненнем груп пераважна цэнтральнаеўрапейскага жывёлагадоўча-земляробчага насельніцтва.

Навацыі ў гаспадарцы вялі да змен і ў матэрыяльнай культуры. Неабходнасць высечкі лясоў і хмызнякоў пад палі выклікала прыкметнае павелічэнне колькасці і якасці крамяневых сякер, якія пачалі нават прышліфоўвацца, што павышала іх эфектыўнасць. Праца з дрэвам запатрабавала і такіх спецыялізаваных інструментаў, як цёслы, долаты і стамескі. Гэта ў сваю чаргу вяло да ўдасканалення домабудаўніцтва, ускладнення інтэр'ера жытла. З земляробствам не ў апошнюю чаргу звязваецца распаўсюджанне нажоў на пласцінах з акуратнай краявой рэтушшу, якія, акрамя ўсяго, служылі і сярпамі. У самым канцы неаліту з'яўляюцца і серпападобныя нажы. Для вырабу вялікай колькасці сякер неабходна была высакаякасная крамянёвая сыравіна, што прывяло да ўзнікнення такой з'явы першабытнай культуры Беларусі, як крэмнездабыўнае шахцёрства. Лепшы крэмень дазваляў вырабляць больш дасканалыя зброю і традыцыйныя прылады працы — наканечнікі коп'яў, скрабкі, разцы, скоблі, праколкі, свердлы і інш. Земляробства і жывёлагадоўля вялі да назапашвання пэўных прадуктаў, якія ў неаліце складалі, верагодна, асноўнае багацце, што ў сваю чаргу ўскладняла сацыяльныя адносіны. Адно са сведчанняў гэтага — шырокае распаўсюджанне ў познім неаліце трохкутных крамянёвых наканечнікаў стрэл, якія становяцца неад'емнай зброяй падчас вайны.

Вытворная гаспадарка, асабліва земляробства, выклікалі змены ў светапоглядзе, вераваннях. Містычны свет ляснога паляўнічага, збіральніка і рыбака папаўняецца ўяўленнямі аб пладнасці зямлі, жыццёвай сіле зерня, ролі нябесных свяцілаў.

Такім чынам, мае месца не раптоўны пераход першабытнага грамадства Беларусі да «класічнага» неаліту, а яго паступовая неалітызацыя, набліжэнне да агульнаеўрапейскага ўзроўню. У той жа час у цэлым гаспадарка плямёнаў беларускіх зямель праз увесь неаліт заставалася пераважна прысвойвальнай, паляўніча-рыбацка-збіральніцкай, што рабіла трывалымі перажыткавыя мезалітычныя элементы культуры.

У неалітычны час тэрыторыю Беларусі засялялі плямёны розных археалагічных культур, якія розніліся найперш па формах і асабліва па арнаментыцы керамікі. Першы посуд меў дрэнную якасць. Гэта былі вастрадонныя гаршкі, злепленыя ручным спосабам з гліняных стужак, з дамешкамі раслінных рэшткаў, тоўчаных ракавін, шамоту. Яны вызначаліся слабым абпалам, сціплай арнаментацыяй, дзе дамінаваў пояс круглых ямак пад краем венца. Аднак ужо ў раннім неаліце ў кераміцы прыкметныя асаблівасці, характэрныя для розных культур. Напрыклад, на Паазер'і ў гліняным цесце больш дамешак тоўчаных ракавін, менш ямак на венцы, іншым спосабам, чым на астатняй нашай тэрыторыі, фармуецца гаршчок.

У познім неаліце адрозненні ў формах посуду і арнаментальных стылях паміж рознымі рэгіёнамі значна ўзрастаюць. Больш розніцы і ў характары каменнага і касцянога інвентару. Гэта было выклікана натуральным унутраным развіццём археалагічных культур, знешнімі ўплывамі і пранікненнем іншакультурнага насельніцтва. І калі ў раннім неаліце Беларусь уяўляла даволі выразнае этнакультурнае адзінства, абумоўленае найперш уваходжаннем яе ў зону культур з грабеньчата-накольчатай керамікай, то пазней выяў-

ляюцца тры вялікія рэгіёны: захад з культурамі, якія развіваліся пад цэнтральнаеўрапейскім уплывам і куды пранікалі групы самога цэнтральнаеўрапейскага насельніцтва; Паазер'е, якое адчула інвазію актыўнага насельніцтва з поўначы; Падняпроўе са сваёй кансерватыўнай мясцовай культурай, мала адчувальнай да навацый з суседніх тэрыторый.

Праз увесь неаліт захад Беларусі засялялі плямёны нёманскай культуры, Усходняе Палессе — днепра-данецкай, Падняпроўе — верхнедняпроўскай, поўнач Беларусі — нарвенскай, а таксама прышлага на адносна нядоўгі час насельніцтва культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі. На міжрэччы Дняпра і Дзвіны, асабліва ў раннім неаліце, трымаліся групы насельніцтва культуры тыпу Бабінавічаў. У познім неаліце захад Беларусі стаў аб'ектам экспансіі этнічных груп культуры шарападобных амфар, якія маглі ўтвараць невялікія анклавы на ўсход. Можна весці пошукі слядоў знаходжання, асабліва на захадзе Палесся, носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў, а на Усходнім Палессі — энеалітычнай трыпольскай, якія маглі трапляць сюды з суседняй Украіны.

## 1. ДНЕПРА-ДАНЕЦКАЯ КУЛЬТУРА

У неаліце паўднёва-ўсходнюю частку Беларусі насялялі плямёны, культура якіх была названа днепра-данецкай. Яна займала вялікую тэрыторыю, якая працягнулася ад забалочаных абшараў Усходняга Палесся да Данца на Украіне. Асноўныя рысы культуры склаліся ў мясцовых плямёнаў да пачатку 4-га тысячагоддзя да н. э. У далейшым, развіваючыся на аснове старажытных традыцый, культура прайшла тры-чатыры этапы, распалася на некалькі лакальных варыянтаў, якія могуць разглядацца нават як асобныя, роднасныя культуры. Склалася адзіная этнакультурная супольнасць, гісторыя якой расцягнулася на два тысячагоддзі і ва ўсходне-палескім рэгіёне існавала да бронзавага веку, на паўтысячагоддзе больш, чым на Украіне.

Хоць вывучэнне неалітычных помнікаў у адзначаным рэгіёне пачалося з канца XIX ст., уяўленне пра іх спецыфічную мясцовую культуру пачало складвацца толькі ў канцы 20-х — 30-я гады ў сувязі з працамі ўкраінскіх даследчыкаў А. В. Дабравольскага, М. Я. Рудзінскага і І. Ф. Лявіцкага. Асаблівае значэнне набылі працы на тарфянікавым паселішчы Мастава ў Карасценскім раёне Жытомірскай вобласці і ў Кіеўскім Падняпроўі, дзе было раскапана некалькі паселішчаў (Даниленко, 1956; Телегин, 1957),

На падставе вынікаў гэтых раскопак В. М. Даніленка выказаў думку пра іх прыналежнасць да асобнай, неалітычнай культуры, якая істотна адрозніваецца ад культуры грабеньчата-ямкавай («праўграфінскай») керамікі (Даниленко, 1956). Вывад пра існаванне асобнай культуры з характэрнай грабеньчата-накольчатай керамікай атрымаў абгрунтаванне ў працах Д. Я. Цялегіна (1957, 1968). У ходзе археалагічнага абследавання даліны Сажа К. М. Палікарповіч заўважыў, што пануючай на мясцовых стаянках з'яўляецца кераміка з зубчата-чаканным арнаментам, які наносіўся збоку, г. зн. у манеры наколаў, а аналогіі ёй знаходзіў у Данецкай вобласці (Палікарповіч, 1928. С. 131).

Вывучаючы неаліт Данеччыны, Д. Я. Цялегін даў азначэнне культуры грабеньчата-накольчатай керамікі. Падобная кераміка, як і комплекс прылад, адрознівала неалітычныя паселішчы Кіеўшчыны ад стаянак з грабеньчата-

ямкавай керамікі (Телегин, 1961. С. 26—40). Днепра-данецкая культура, асноўнай прыкметай якой з'явілася грабеньчата-накольчатая кераміка, займала тэрыторыю ад Данца і Прыазоўя па крайняй меры да Дзясны, Сажа, Прыпяці і Валыні (Телегин, 1957. С. 74). Асобныя элементы гэтай культуры прасочваліся і далей на поўнач — да Літвы і Заходняй Дзвіны.

У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. тэрыторыя, на якой жылі плямёны днепра-данецкай культуры, пачынае скарачацца, рэзкае звужэнне яе адбываецца ў другой палове адзначанага тысячагоддзя. Да заходняй часткі арэала падступаюць плямёны нёманскай культуры і культуры лейкападобных кубкаў (Jażdżewski, 1936, 1961). На поўначы Украіны распаўсюджваюцца познатрыпольскія і старажытнаямныя плямёны, якія асімілююць мясцовыя плямёны (Телегин, 1968. С. 50; Артеменко, 1963. С. 73).

Археалагічная карта Беларусі (Вып. 1. Исаенко, 1976б) змяшчае пералік усіх выяўленых да гэтага часу першабытных помнікаў, у тым ліку і днепра-данецкай культуры. Арэал яе ўключае Усходняе Палессе да прытокаў Прыпяці, Гарыні, Лахвы, Пцічы з Арэсай, а з поўначы абмяжоўваецца лінія Бабруйск — Рагачоў — Ветка, праходзіць ніжэй Беседзі.

**Ранні этап.** У нізоўях Прыпяці да цяперашняга часу невядомыя паселішчы з чыстым комплексам ранненеалітычнага часу. Таму вылучыць яго магчыма толькі прыблізна, тыпалагічна расчляняючы матэрыялы, сабраныя на помніках, дзе выразна выступаюць мезалітычныя рысы, выяўлена найбольш архаічная кераміка і ўмовы залягання культурных рэштак, тапаграфія ўказваюць на найбольшую старажытнасць.

Выкарыстанне даных, атрыманых у сумежных раёнах Украінскага Палесся і на ранненеалітычных помніках басейна Верхняй Прыпяці, крыху аблягчае вырашэнне гэтай задачы. Тым самым часткова кампенсуецца значная фрагментарнасць ранненеалітычнага матэрыялу, які ўдалося знайсці ў такіх пунктах, як Барысаўшчына, Баравікі, Загорыны-1, Нароўля-1, Зімовішча-2, Краснаселле-1, Ломыш-1, 2, Мілашэвічы-1, Масаны-1, Навасёлкі-2, Пхоў-2, Скрыгалава-1, Хільчыцы-1, 2, Шарэйкі-1, Юравічы-6, 7.

**Паселішча Навасёлкі-2.** Размешчана на адлегласці 1,5 км на ўсход ад аднайменнай вёскі ва ўрочышчы Ключыха на першай надпоймавай тэрасе левабярэжжа Прыпяці. Знойдзена ў 1961 г. Культурныя рэшткі сустракаюцца ў ніжняй частцы шэрага пясчанага слоя, магутнасцю 0,2—0,3 м. Паселішча мае працягласць каля 200 м, але асноўная маса знаходак сканцэнтравана ў яго ўсходняй частцы, якая плаўна зніжаецца да поймы. Узровень помніка над поймай 3—4 м. У цэнтральнай яго частцы, у ямцы глыбінёй 0,3 м быў знойдзены скарб з 11 падрыхтаваных крамянёвых жаўлакоў, нуклеуса, дыскападобнага адбойніка.

Ранненеалітычныя матэрыялы вылучаюцца тыпалагічна. Гэта 82 крамянёвыя прылады, каля 250 крэменяў з апрацоўкай, 110 абломкаў 4—6 пасудзін.

**Паселішча Юравічы-6,** адкрытае ў 1929 г. А. Д. Каваленем (Кавалення, 1930. С. 507; Исаенко, 1968, 1972) працягнулася на 300 м па паўднёва-ўсходнім беразе возера Ліцвін. У паўночнай частцы яно апускаецца з пясчанай узгорыстасці ва ўрочышча Ліцвінавы Горы на высокую пойму, г. зн. з вышыні 5—6 м да 2 м над узроўнем вады. Другім месцам са знаходкамі з'яўляецца берагавы ўчастак каля «завода». Далей на поўдзень, за лагчынай, на разбуранай паводкамі паверхні высокай поймы сярод артштэйнаў таксама трапляюць крэмені з апрацоўкай. Нарэшце ў паўднёвай

частцы каля сучаснага рэчышча рэчкі Закоты, дзе захаваўся невялікі астанец першай тэрасы, таксама былі сканцэнтраваны знаходкі на ўзроўні 2,5 м.

Стратыграфія помніка даецца па зачыстцы сценкі кар'ера на «дзюне» і высвятлялася пры дапамозе шурфа 5х1 м, закладзенага на астанцы. У першым пункце зверху ўніз ішлі: 1) дзірван — 0—0,2 м; 2) светла-шэры наносны пясок — 0,2—0,9 м; 3) гумусавы пласт — 0,9—0,96 м; 4) светла-шэры, зверху карычневы пясок — 0,96—1,2 м; 5) гумусавая праслойка — 1,2—1,25 м; 6) мацярык. Культурныя рэшткі раннeнеалітычнага часу залягалі ў пятым слоі на ўзроўні 3 м ад падэшвы «дзюны». Глебавы слой на астанцы (0,2 м) пераходзіў у цёмна-шэры гумусавы гарызонт (0,2—0,4 м), затым ішоў чырванаваты пясок з дробнымі артштэйнамі (0,4—0,75) і нарэшце мацярык. Культурны гарызонт праходзіў у верхняй частцы чырванаватага пяску (падглеба?), але некаторыя знаходкі былі вышэй і ніжэй, у тоўшчы гэтага пласта.

Сярод знаходак 178 крамянёвых прылад, звычайна мікралітычных. Да ранніх можна аднесці і 50 абломкаў 4—5 гліняных пасудзін. Сустракаецца і познанеалітычны матэрыял, асабліва ў цэнтральнай частцы помніка, супраць стаянкі Юравічы-3.

**Інвентар.** Найбольш значныя калекцыі прылад, у якіх ёсць раннeнеалітычныя вырабы, сабраныя пры даследаванні помнікаў Загорыны, Навасёлкі-2, Юравічы-4.

У крамянёвых матэрыялах 19 помнікаў ранняга неаліту амаль усюды сустракаюцца канцавыя скрабкі на пласцінах і адшчэпах, мікраскрабкі, чаранковыя наканечнікі стрэл, якія часта ўжываліся як нажы і свердлы, роўнастароннія трапецыі з крута адрэтушаванымі бакамі. Сярод прылад паловы помнікаў прысутнічаюць лістападобныя наканечнікі з пласцін, вуглавыя разцы, прамавугольнікі, прамавугольныя трапецыі ці паўсегменты, мікрапласцінкі з прытупленым краем, скрабкі з расшчэпленай галькі. Акрамя няправільных прызматычных, клінападобных і пірамідальных нуклеусаў знойдзены правільна аграненыя пласцінкі (20—25% ад колькасці крэменяў з апрацоўкай), колькасць якіх у параўнанні з мезалітам зменшылася ў два-тры разы.

Стратыграфічна і тыпалагічна мезалітычныя помнікі з мікралітычнай індустрыяй магчыма лічыць папярэднікамі неалітычных стаянак, тым больш што іншых помнікаў, якія б прэтэндавалі на падобнае месца ў развіцці матэрыяльнай культуры з Ніжняй Прыпяці, няма.

Мікралітычнасць інвентару помнікаў, змяншэнне памераў і колькасці тыпова свідэрападобных формаў і пашырэнне вытворчасці мікралітаў не могуць быць растлумачаны толькі недахопам крамянёвай сыравіны ва ўсходняй частцы Прыпяцкага Палесся, як, дарэчы, і на ўсім Сярэднім Падняпроўі. Перш за ўсё радовішчы крамянёвай сыравіны, хоць і небагатыя, але ёсць на дэнудацыйнай паверхні канцавых марэн ці іх астанцоў каля вёсак Грабава, Міхедавічы, Загорыны, каля Мазыра, а таксама каля Юравічаў, Вяжышча, Ражавы, Карпілаўкі, параўнальна блізка да поймы Прыпяці. Але нават на стаянках паблізу ад гэтых крыніц крэменю індустрыя мікралітычная.

Набор прылад працы насельнікаў ранненеалітычных паселішчаў мала адрозніваецца ад мезалітычнага. Сярод іх пласцінaчныя наканечнікі стрэл лістападобнай формы. Яны апрацаваны, асабліва каля вастрыя ці на аснове, плоскай рэтушшу, што заходзіць на спінку і брушка, часам пакрывае край

да нізу. Чаранковыя наканечнікі апрацоўваліся як і лістападобныя, мелі кароткія сіметрычныя чаранкі — завостраныя ці шырокія, якія ў асноўным вылзяляліся крутой рэтушшу, а зрэдку і падчэсваліся з брушка. Нарэшце асабліва характэрныя дробныя, нетыповыя формы лістападобных і рамбічных наканечнікаў з процілеглай рэтушшу на краях. Зрэдку чаранок такіх наканечнікаў мацней вылучаецца з аднаго боку, а вастрыё фарміравалася на вугле скошанага канца пласцінкі. Частка такіх прылад выкарыстоўвалася для рэзання і свідравання.

Прылады для рэзання выраблялiся з нажападобных пласцін і плоскіх пласцінaчных адшчэпаў, прычым рабочы край іх нярэдка апрацоўваўся дробнафасетачнай крутой ці завостранай рэтушшу. Частка нажоў была з коса зрэзаным канцом ці з плаўна скошанай спінкай. Значная колькасць сячэнняў пласцінак і мікралітаў дазваляе сцвярджаць, што шмат якія прылады для рэзання былі састаўныя, г. зн. мелі лязо з невялікіх крамяневых уставак, што ўкладваліся ў пазы касцяных і рагавых ручак-апраў.

Сярод геаметрычных мікралітаў зрэдку сустракаюцца архаічныя формы, вузкія сегменты, шырокія трохкутнікі, што падобныя да вастрый тыпу Цанговен ці ўкладышаў тыпу Вялішаў, а таксама вастрыі тыпу Кудлаеўкі. Асноўная ж маса падобных вырабаў пададзена сегментамі, высокімі прамавугольнікамі, трапецыямі, што ўключаюць прамавугольныя, роўнастароннія і нізкія формы, мікрапласцінкамі з прамой спінкай, прытупленай крутой (прамой, сустрэчнай) рэтушшу. Канцы такіх пласцінак зрэдку захоўвалі завастрэнні, а нярэдка зразаліся крутой рэтушшу. Мікраліты апрацоўваліся па краях таксама з яе дапамогай, але прымянялася і рэтуш, якая заходзіла на спінку.

Разцоў выяўлена мала. Яны пераважна невялікія вуглавыя і бакавыя з рэтушаваным выпуклым, прамым ці ўвагнутым скошаным канцом. Больш шырока пададзены мікраразцы.

Хоць сярод скрабкоў працягваюць сустракацца старажытныя формы — высокія канцавыя на пласцінках і масіўных адшчэпах, у асноўным яны невялікія, маюць выпуклыя ці паўавальныя рабочыя краі, высокі або нізкі профіль, двухрадковую крутую рэтуш. Сустракаюцца канцавыя скрабкі на тонкіх пласцінах, сячэннях пласцін, двайныя скрабкі, скрабкі акруглыя на невялікіх высокіх адшчэпах, мініяцюрныя скрабкі на канцы тонкіх адшчэпаў, мікраскрабкі авальных абрысаў.

Разнастайныя і скоблі, у якіх рабочы край часта ўвагнуты, а рэтуш апускаецца на бакі і нават аснову нарыхтоўкі. Сярод іх асабліва цікавыя скоблі з вузкіх высокіх пласцін, большай часткай кароткіх, апрацаваных паўкрутой рэтушшу, якая ўтварае выступы і выемкі на бакавых краях. Сустракаюцца доўгія ножападобныя скоблі. Больш буйныя прылады, якія сустракаюцца рэдка, пададзены міндалепадобнымі, трапецападобнымі і трохкутнымі формамі, якія рэдка перавышаюць 5—6 см па даўжыні. Частка іх была як устаўное лязо ў прыладах для сячэння, другая выкарыстоўвалася як разак. У прылад звычайна аднабаковая абіўка і дадатковая сустрэчная рэтушоўка ляза з боку брушка, але трапляюцца ўжо і экземпляры двухбаковаабабітыя як з прамой, так і адваротнай рэтушшу, якія ахопліваюць таксама бакавыя краі.

У параўнанні з мезалітычным часам у раннім неаліце змяншаецца колькасць пласцінaчных прылад, асабліва наканечнікаў, канцавых скрабкоў, разцоў бакавога тыпу, эсападобных скобляў, высокіх мікраскрабкоў, вастрый тыпу Кудлаеўкі і «месерхен», вастрый яніславіцкага тыпу, скрабкоў са ско-

шаным краем. Звыш паловы прылад выраблена з адшчэпаў. Дзве трэціх скрабкоў і скобляў набываюць нізкі профіль, з'яўляюцца прылады з кругавой апрацоўкай, разакі, трохкутныя і міндалепадобныя ўстаўкі для прылад для сячэння. Пласціначныя наканечнікі ператвараюцца ў дробныя лістападобныя і ромбападобныя формы, якія нярэдка выраблялiся з адшчэпаў з дапамогай мікралітычнай рэтушы.

Верагодна, у склад комплексаў можна ўключыць рагавыя наканечнікі з крамянёвымі ўстаўкамі ў пазах і іголкападобныя, якія зрэдку трапляюцца ў мясцовых тарфяніках.

Як характэрная мікралітычная тэхніка апрацоўкі, так і дзве трэціх тыпаў прылад, што вылучаюцца ў мясцовым мезаліце, утрымліваліся ў індустрыі ранненеалітычнага этапу, што сведчыць пра фарміраванне апошняга на мясцовай аснове.

Посуд ранняга неаліту вядомы на Ніжняй Прыпяці па невялікай колькасці фрагментаў.

На паўднёвы захад ад апісанага вышэй паселішча Юравічы-6, на паўднёвым беразе р. Закота выяўлены абломкі пасудзіны, якая, відаць, адносіцца да ліку найбольш ранніх. Шыракагорлая пасудзіна была выканана стужачным спосабам з цеста з раслiннай дамешкай. Сценкі яе мелі таўшчыню 1 см, захоўвалі ўнутры расчэсванні, якія праходзілі пераважна па гарызанталі. Вонкавая паверхня была загладжана, але ўсё ж такі, асабліва на ніжняй частцы, былі прыкметныя дыяганальныя расчэсванні. Дыяметр пасудзіны 40 см, вышыня 35 см, прычым канічная частка пасудзіны, якая плаўна пераходзіць у цыліндрычныя сценкі, больш высокая. Край венца гафрыраваны звонку невялікімі ўцісканнямі, ніжэй ідзе рад глыбокіх цыліндрычных наколаў, якія ўтвараюць пукатасці знутры. Прыкладна пасярэдзіне канічнай часткі пасудзіны нанесены пояс з трох радоў глыбокіх падоўжаных наколаў, ніжэй за якія ўсё дно пакрыта нахіленымі адбіткамі дробназубчатага штампа.

Такія гаршкі — асноўны тып для ранняга этапу днепра-данецкай культуры. Калі меркаваць па фрагментах донцаў і крута выгнутых сценак, выраблялiся таксама шыракагорлыя пасудзіны з нізкай канічнай часткі. У пасудзін было звычайна масіўнае, запоўненае дно. Сценкі гаршкоў другога тыпу арнаментаваліся слаба, яны даволі крута выгіналіся ў месцы пераходу да нізкай канічнай часткі, а донцы ў іх злёгку адцягваліся кнізу. Вышыня альбо была такой самай, як дыяметр, альбо намнога перавышала па велічыні. Таўшчыня сценак звычайна перавышала 1 см. Тэхналогія пасудзін не адрознівалася ад апісаных вышэй. Чарапкі часта порыстыя і крохкія, лёгка разбураюцца. Паверхня загладжвалася, але знутры нярэдка захоўваліся расчэсванні грэбенем, якія праходзілі пераважна па гарызанталі. Колер чарапкоў жаўтавата-карычневы.

Арнамент, як правіла, складаўся з рэдкіх гарызантальных радоў толькі ў верхняй частцы і на донцы пасудзіны. На паселішчы Юравічы-6, у яго дзюннай частцы выяўлена венца архаічнай пасудзіны, гафрыраваны па краі зашчыпамі, і масіўнае донца, цалкам пакрытае шырокімі ўцісканнямі. Арнамент са спалучаных у лінію моцна нахіленых насечак ці адбіткаў простага штампа — адзін з найбольш тыповых. Венца з пракрэсленым касасеткавым арнаментам выяўлены пры даследаванні помніка Баравікі. Абломак донца пасудзіны другога тыпу падабраны на паселішчы Пхоў. Уяўленне пра арнаментыку даюць некаторыя абломкі, выяўленыя на помніку Загорыны, якія ўтрымліваюць раслінную дамешку. Яны могуць быць папоўнены матэрыяламі помнікаў

Мілашэвічы, Ломыш і інш. Атрыманыя даныя, відаць, дазваляюць меркаваць толькі пра асноўныя элементы і матывы арнаментацыі.

Посуд на краі венца амаль заўсёды мае зашчыпы, ніжэй ідзе рад цыліндрычных ямак і наколаў. Арнаментыка бедная і аднастайная. Дамінуе гарызантальная занальнасць, прычым арнамент канцэнтруецца ў верхняй частцы пасудзін і на донцы. Гэтыя гарызантальныя рэдкія рады моцна нахіленых, амаль злітых, кароткіх адбіткаў дробназубчатага штампа — на шостай частцы фрагментаў. Яны зрэдку дапаўняюцца вертыкальнымі кампазіцыямі. Калі-некалі паверхня пакрываецца сеткай з коса пракрэсленых ліній, зрэджанымі наколамі (дваццатая частка) і шырокімі, злёгку паглыбленымі ўцісканнямі, радамі насечак ці наколаў, падзеленых вялікімі прамежкамі. Жалабаватыя арнаменты больш рэдкія. Для падкрэслівання меж арнаментаваных зон ужываліся часам рады глыбокіх, амаль скразных наколаў. Каля двух трэціх фрагментаў не мелі ўзораў.

У раннім неаліце ўжываўся шэраг сістэм арнаментыкі — ад простага пракрэслівання венца радам круглых ямак і зашчыпамі па краі да паясоў на сценках. Толькі зрэдку назіраецца спалучэнне двух арнаментальных матываў, расчэсванне вонкавай паверхні грэбенем, хвалістае ці прамое. Характэрна пакрыццё сценак пракрэсленым арнаментам ў выглядзе косай сеткі, вузкія паясы з косых насечак, з'яўленне разрэджаных уцісканняў.

Сярэдні этап. Ва Усходнім Палессі сярэдненеалітычны этап развіцця днепра-данецкай культуры вылучаны па матэрыялах помнікаў Слабодка (Тур'я); Пхоў-1, каля Мазыра, а таксама Вышалаў, Дарашэвічы-2, Ломыш-1, 2, Нароўля-2, Шарэйкі-2, а таксама сабраных на 17 іншых пунктах. Раскопкамі даследаваны паселішчы Слабодка-1 (188 м$^2$) і Пхоў-1 (120 м$^2$). Звычайна на помніках, сярэдняя працягласць якіх 150 м, выяўляецца 200 крэменяў з апрацоўкай, 40—50 прылад і 200 абломкаў 10—12 пасудзін.

Паселішча **Слабодка-1** выяўлена ў 1960 г. аўтарам і У. М. Вяргеенкам на левым беразе р. Тур'я, на захад ад возера Бярнатаў, праз якое працякае гэта рака (И с а е н к о, 1968). Яно аддалена на 3 км на паўднёвы захад ад вёскі ва ўрочышчы Мікольскае, размешчана на паўночнай ускраіне астанца першай надпоймавай тэрасы, які ўзнімаёцца на 2,5—3,5 м над узроўнем вады ў межань. Да астанца з поўначы і захаду падступае рэчышча ракі. ЁН рассечаны лагчынай, якая аддзяляе прыазёрную частку, і павышаецца ў заходнім і паўднёва-заходнім напрамку, дзе на паверхні тэрасы ляжаць невысокія пясчаныя ўзгорыстасці. Узворваннем на глыбіню 0,2 м месцамі разбураны культурны слой, прычым на паверхню былі выкінуты культурныя рэшткі, буйныя абломкі глінянага посуду. Усяго на паселішчы працягласцю 700 м знойдзена 9 месцаў такіх рэшткаў, якія знаходзіліся каля попельных плям і абпаленых камянёў — рэшткаў агнішчаў. Можна меркаваць, што падобнымі матэрыяламі адзначаны месцы наземных жытлаў. Яны цягнуліся ланцужком уздоўж рэчкі і размяшчаліся на адлегласці 25—40 м адно ад другога.

У цэнтральнай частцы помніка ў 1964 г. быў закладзены раскоп 124 м і траншэя з шурфамі 64 м$^2$ на адлегласці 50 м далей на захад. Месца раскопу аддалена на 20 м на поўдзень ад берагавой лініі р. Тур'я, дзе рэчышча яе пашыраецца ўтрая і дзе ў старажытнасці, відаць, было праточнае возера. Стратыграфія помніка: гумусавы пласт да глыбіні 0,4 м, паступова святлейшая кнізу падглеба 0,4—0,6 м, якая падсцілаецца мацерыком. У складзе напластаванняў, асабліва кнізу, шмат артштэйнаў. Магутнасць культурнага га-

рызонту, які залягае на глыбіні 0,15—0,3 м, невялікая, знаходкі сустракаюцца і вышэй, што тлумачыцца перагортваннем пласта пры ўзворванні.

У квадратах 9-к, 10-к выяўлена паглыбленне, насычанае попелам, якое было каля 2,6 м у дыяметры. У квадратах 10-м і 11-м культурны пласт таксама ўтрымліваў попел і вуголле. Такім чынам, разам з першай плямай выявілася авальнай формы пляцоўка 7х2,8 м, якая ў сваім паўночна-ўсходнім вугле злёгку паглыблялася ў мацярык, дзе і захоўваліся рэшткі вогнішча. Магчыма, гэта аснова наземнага жытла, але нельга сцвярджаць з упэўненасцю.

На помніку знойдзена 480 крэменяў з апрацоўкай, 88 крамянёвых прылад, 620 фрагментаў 45—50 гліняных пасудзін (мал. 39).

Паселішча **Пхоў-1** выяўлена на адлегласці 1 км на паўднёвы ўсход ад мазырскага порта (пасёлак Пхоў) на невялікім пясчаным астанцы, размешчаным каля берага Прыпяці ў тым месцы, дзе рэчышча адхіляецца на паўднёвы захад І. Р. Калодкіным у 1927 г. Пратока, якая перасыхае, абгінае астанец з паўднёвага боку, а з усіх астатніх бакоў ён абкружаны нізкай поймай, вышыня якой 2 м над узроўнем вады. Працягласць стаянкі 70 м. Каля вяршыні астанцоў на ўзроўні 5 м быў закладзены ў 1962 г. раскоп плошчай 100 $м^2$, а ў паўднёва-ўсходняй частцы паблізу выхаду культурнага гарызонту — траншэя плошчай 20 $м^2$ (И с а е н к о, 1976а. С. 78). Стратыграфія помніка: шэрыя наносныя пяскі — 0,4 м, цёмна-шэры пясчаністы слой — 0,1 м, светлы наносны пясок — 0,1 м, выкапнёвая глеба з культурнымі рэшткамі ў ніжняй частцы — 0,4, затым чырванаваты пясок з артштэйнам — 0,3 м і нарэшце светлы мацерыковы пясок. Знаходкі канцэнтраваліся ў паўднёвай частцы астанца, якая больш разбуралася пры паводцы. На помніку выяўлена 190 крэменяў з апрацоўкай, 39 крамянёвых прылад і 220 абломкаў, якія належалі 25—27 неалітычным пасудзінам. Пазней тут былі могільнік і селішча жалезнага веку, у выніку чаго неалітычны гарызонт быў у некаторых месцах разбураны.

Сярод матэрыялаў паселішча Слабодка (Тур'я) каля 480 крэменяў з прыкметамі апрацоўкі, сярод якіх 88 прылад (мал. 39), 40 нажападобных пласцінак 3—9 см, 27 сячэнняў, 20 нуклеусаў і нуклепадобных абломкаў. Прылады пададзены трыма вуглавымі разцамі, у аднаго з іх аснова закругленая скрабковай рэтушшу, трыма бакавымі разцамі, двума трохкутнымі наканечнікамі стрэл, спрацаванымі па паверхні, адціскальнікам з масіўнага адшчэпа, рэтушорам са скрабка, двайной праколкай на адшчэпе, 5 праколкамі і свердламі, скрабкамі на канцы пласцінак, 14 скрабкамі на канцы плоскіх адшчэпаў з дугападобным рабочым краем, 6 бакавымі скрабкамі, 8 скоблямі на адшчэпах і адшчэпамі з рэтушшу па краі (6 экз.). У адзінкавых выпадках сустракаюцца масіўныя скрабкі і скоблі. У комплекс уваходзяць 23 нажы, у тым ліку з рэтушаванымі лёзамі, на шырокіх адшчэпах з завастрэннем і інш. Два мініяцюрныя скрабкі, нуклепадобная прылада для сячэння, нажы для скаблення, сякерка трохкутнай формы з завостраным абушком і лінзападобным сячэннем, серпападобная аднабакова апрацаваная прылада, дзве касыя трапецыі, дзве раўнабедраныя трапецыі, трохкутнік з разцовым сколам ці ўкладыш тыпу Вялішаў, два мікраскрабкі.

Сярод 202 крэменяў з прыкметамі апрацоўкі, знойдзеных у Дарашэвічах-2, 74 прылады. У ліку апошніх шэсць трохкутных наканечнікаў, у аднаго з якіх выцягнутае джала, пласціначчныя наканечнікі (4) — лістападобны, рамбічны і чаранковыя; трохкутны наканечнік з выемкай ля асновы (мал. 40), два разцы на вугле пласцінкі, бакавы разец, мікраліты сегментападобны і трохкутны,

два рэтушоры, адбойнік, два аднабаковыя нуклеусы для сячэння, 30 нажападобных пласцінак і сячэнняў пласцін, 11 пласцінавых нажоў, пласцінка са скошаным канцом, чатыры мікраскрабкі на канцы пласцінак і 14 — на канцы адшчэпаў, шэсць бакавых і іншых скрабкоў, скрабок з чаранком на канцы пласціны, восем скобляў на адшчэпах, свердзел і праколка. Нуклеусы пераважна невялікія, няправільнай формы. Правільна аграненыя пласцінкі ў сярэднім дасягалі 3—4 см пры шырыні 1 см, адшчэпы невялікія, у многіх зняты бугорчык для ўдару, ёсць 27 дробных асколкаў і 11 разцовых сколаў (мал. 40).

На паселішчы Пхоў-1 сабрана 190 крэменяў з апрацоўкай, з іх 39 прылад. Ёсць два бакавыя разцы на вугле пласцінкі, адзін сярэдні разец, адзін нуклепадобны разец, тры свердлы, дзве праколкі, двайная праколка, пласцінавы наканечнік, два масіўныя скрабкі, сем скрабкоў на канцы тонкіх адшчэпаў, чатыры бакавыя скрабкі, два круглыя скрабкі, скоблі, адзін скрабок-праколка, чатыры нажы, выраблены з пласцін ці пласцінавых адшчэпаў. Знойдзена таксама 19 пласцін і 12 сячэнняў пласцінак.

Асноўная маса прылад выраблялася ўжо з адшчэпаў, нуклеусы страцілі правільныя абрысы, павялічылася колькасць рэтушораў, сячэнняў пласцінак, якія выкарыстоўваліся як укладышы прылад сякерападобных формаў і разакоў. З'явіліся трохкутныя наканечнікі стрэл з апрацаваным краем, нажы з шырокіх завостраных адшчэпаў, серпападобныя прылады, мікраліты з паўкрутой ці саструганай рэтушшу.

Паступова колькасць скрабкоў у комплексах узрастае ад 30 да 45%, а скобляў — падвойваецца і даходзіць да 10%, павялічваецца колькасць праколак і свердлаў. Амаль знікаюць бакавыя разакі і разцы бакавога тыпу, пласцінавыя наканечнікі, асабліва чаранковыя, скрабкі са скошаным рабочым краем, міндалепадобныя прылады для сячэння, мікралітычныя формы, акрамя трапецый і мікраскрабкоў, камбінаваныя прылады. Авальныя сякеркі змяняюць траншэпадобныя.

Позні неаліт. Заключны перыяд днепра-данецкай культуры на Ніжняй Прыпяці вывучаны значна лепш, чым сярэдні, галоўным чынам у сувязі з раскопкамі ліцвінскай групы з сямі паселішчаў. Помнікі, размешчаныя на берагах возера Ліцвін каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна, былі выяўлены ў 1959—1963 гг. Ускрыта каля 1 тыс. м$^2$. Культурныя рэшткі на паселішчы Любань на р. Таліца выявіліся на плошчы звыш 1 га пасля таго, як быў зняты пласт дзірвана.

Старажытнасці адзначанага перыяду выяўлены таксама на стаянках Вялаўск, Гнездзенка, Краснаселле, Ломыш-3, Лучажэвічы, Мазыр-1, Аравічы-2, Шарэйкі-3 — амаль на 40 помніках даліны Ніжняй Прыпяці.

Звычайна на помніку, сярэдняя працягласць якога 150 м пры магутнасці культурнага слоя 0,1—0,3 м, выяўляецца каля 200 крэменяў з апрацоўкай, пятая частка з іх — прылады тыпалагічна выразна ўстаноўленай формы і абломкі дзесятка гліняных пасудзін, у большасці сваёй вельмі раздробленых.

Групоўка знаходак вакол растрэсканых ад агню камянёў ачагоў ці попельных плям дазваляе меркаваць пра наяўнасць на паселішчы аднаго—трох невялікіх наземных жытлаў на адлегласці 20—50 м адзін ад аднаго, нярэдка выцягнутых ланцужком уздоўж берагавой лініі.

Стаянка Юравічы-3 (Ліцвін-1) адкрыта і раскопвалася ў 1962—1963 гг. (И с а е н к о, 1976а. С. 85—87). Яна размешчана на паўднёва-заходнім беразе возера Ліцвін, на ўзвышанасці высокай поймы, абкружанай заліўнымі

лугамі пры вытоку р. Закоты. Вышыня яго 2—2,5 м над межанным узроўнем вады. Ускрыты ўчастак каля 180 $м^2$ і закладзены шэраг шурфаў у заходнім напрамку. Працягласць стаянкі каля 100 м, на адлегласці 200—300 м на поўдзень і поўнач, за лагчынкамі, знойдзены іншыя, відаць, адначасова існуючыя паселішчы.

Стратыграфія на паселішчы: дзірваністае покрыва (магутнасць 0,1—0,15 м), перагнойны і падзолісты глебавыя слаі (0,15—0,45 м), больш светлая кнізу падглеба — супесак светла-карычневага колеру, які пераходзіць у рудаваты пясок з праслойкай артштэйну (0,45—0,7 м). Глеба на глыбіні 0,7 м ад паверхні падсцілаецца светла-жоўтым мацерыковым пяском. Культурны слой сярэдняй магутнасці (0,2—0,3 м) залягаў на глыбіні 0,3—0,5 м.

У паўночнай частцы раскопу было ўскрыта жытло паўзямлянкавага тыпу. Прасачыць межы жытла, пачынаючы ад дзённай паверхні паселішча, не ўяўлялася магчымым. Затое ў мацерыку, на глыбіні 0,7 м, яны былі выразна прыкметныя. Ніжняя частка жытла мела няправільную авальную форму, арыентаваную з поўначы на поўдзень. Даўжыня яе складала тут 3,6 м пры шырыні 2,7 м, а на глыбіні 1 м адпаведна 2,3 і 1,5 м (мал. 40). З паўднёва-заходняга боку яма — аснова жытла — плаўна паніжалася к сярэдзіне. Яна была запоўнена шчыльнай, быццам утрамбаванай і абпаленай зямельнай масай цёмна-шэрага колеру, насычанай праслойкамі вугалля ці праслойкамі з карычневым адценнем.

Калі ўнесці адпаведныя карэктывы, памеры жытла на ўзроўні дзённай паверхні былі не менш 5,0х3,4 м. Уваход у жыллё быў, відаць, з поўдня, дзе ўдалося выявіць некалькі абпаленых камянёў і попельна-вугольную пляму, у якой ляжалі (нож?) з рэтушаваным чаранком і некалькі фрагментаў пасудзін. Шырыня ўваходу дасягала 1,1 м. У запаўненні ямы знойдзена яшчэ некалькі абломкаў гліняных пасудзін, крамянёвых адшчэпаў і камянёў са слядамі абпальвання. Сустрэтыя знаходкі і праслойкі вугалля нібыта высцілалі яе ніжнюю частку. Жытло, відаць, мела зверху лёгкую страху і сярэдні апорны слуп.

З усходняга боку жытла, звернутага да возера, было знойдзена некалькі кучак абломкаў посуду. Калі зыходзіць з памераў жытла і колькасці знаходак, то колькасць гэтай сям'і не перавышала 10—12 чалавек. Відаць, гэтым тлумачыцца і невялікая колькасць прылад працы — 26 (мал. 41). Пры раскопках знойдзена таксама 300 крэменяў са слядамі апрацоўкі, 650 абломкаў ад 30—35 вастрадонных гліняных пасудзін.

На заходнім беразе возера на адлегласці 200 м на поўнач ад паселішча Юравічы-3, супраць «завода», у аналагічных тапаграфічных умовах размяшчалася другое паселішча — Юравічы-4 (Ліцвін-2). Культурны гарызонт залягаў на ім стратыграфічна таксама, як і на папярэднім, але бліжэй да паверхні (0,2—0,45 м). Пры ўзворванні, што праводзілася тут у сярэднім на глыбіню 0,2 м, верхняя частка другога гарызонту была месцамі пашкоджана, і частка старажытных знаходак размяшчалася наверсе. Старажытнае паселішча займала, відаць, каля 0,8 га — 260х30 м. Адкрыта ў 1962 г. (Исаенко, 1972).

Раскопкамі 1964—1966 гг. была ўскрыта плошча 496 $м^2$ у цэнтральнай частцы стаянкі і 72 $м^2$ на яе паўночнай ускраіне.

У паўднёвай частцы раскопу ў 1964 г. было выяўлена наземнае жытло падпрамавугольнай формы, злёгку (на 0,2—0,3 м) паглыбленае ў зямлю, у паўднёва-ўсходнім вугле быў ачаг, які выкладваўся з невялікіх валуноў, растрэсканых ад знаходжання ў агні (мал. 91). Пляцоўка, якую займала жытло,

выразна вылучалася шчыльнасцю і цёмным колерам глебы, насычанай у гэтым месцы вуголлем, якое ўтварыла лінзу ў паўночна-ўсходнім вугле.

Памер жытла быў, відаць, 4,6х8 м. Далей на поўдзень, на адлегласці 4 м, таксама быў знойдзены ачаг, выкладзены каменнем. Адносіны яго да жытла ўстанавіць не ўдалося. Больш на ўсход ад абодвух аб'ектаў на адлегласці 3,5—4 м бліжэй да возера былі знойдзены ў трох-чатырох месцах сканцэнтраванні абломкаў пасудзін — іх развалы. У раскопе 1965 г., які з поўдня прымыкаў да папярэдняга, быў яшчэ адзін ачаг, выкладзены каменнем. Абпаленыя камяні былі раскіданы на прасторы дыяметрам 3 м (мал. 190). Паміж двума ачагамі, але бліжэй да берага, у шасці месцах была знойдзена вялікая колькасць абломкаў гліняных пасудзін.

Усяго на помніку знойдзена 1900 абломкаў посуду, 75—80 прылад, 700 крэменяў з прыкметамі апрацоўкі, 51 прылада працы (мал. 42).

Прылады працы на апісаных вышэй помніках невялікія па памерах. Большасць з іх выраблялася з мясцовага рознакаляровага валуністага крэменю, нязначныя россыпы якога сустракаюцца на суседніх размытых участках паверхні Мазырскай і Юравіцкай узвышанасцей. Частка прылад магла быць выраблена з жаўтавата-чырванаватага крэменю Карасценскіх месцанараджэнняў на Валыні. Але ў большасці выпадкаў падобнае карычневатае адценне набывалася крэменем з-за знаходжання ў вадзе і ўздзеяння соляў жалеза. Гэтым жа тлумачыцца і артштэйнізацыя ніжніх пластоў глебы.

Што тычыцца характарыстыкі крамянёвага інвентару, то неабходна адзначыць рэзкую перавагу вырабаў з адшчэпаў. Адшчэпы і няправільна агранёныя пласціны збіваліся з нуклеусаў з пласцінак з няправільнай агранкай. Знойдзена 300 крамянёў з апрацоўкай. Ні адзін тып з комплексу, у складзе якога 26 прылад, не пададзены серыяй, за выключэннем нажападобных прылад і скрабкоў.

Сярод 26 прылад паселішча Юравічы-3 ёсць абломак лістападобнага пласцінчатага наканечніка ці свердла, апрацаванага рэтушшу па краях, наканечнік з пласцінкі з рэтушаваным чаранком, бокам і разцовым сколам на канцы. Нож з пласціны з натуральным завастрэннем, у якога рэтуш размяшчалася ўнізе па баках. Шэсць нажападобных прылад з пласцін, зрэдку рэтушаваных збоку. Акруглыя скрабкі ці скрабкі з паўавальным рабочым краем, выробленыя з адшчэпаў высокага профілю, утвараюць невялікую серыю (6 экз.). Знойдзены таксама сячэнні пласцінак — укладышы, скоблі на адшчэпах, унікальны касцяны наканечнік з біканічным вастрыём, у якога па найбольш пашыранай частцы выгравіраваны зігзаг (мал. 41: 1).

У культурным слоі паселішча не захаваліся касцявыя рэшткі, за выключэннем тых выпадкаў, калі яны траплялі ў вогнішча і мінералізаваліся, не паспеўшы згарэць у ім. Дзякуючы такой натуральнай кансервацыі, відаць, і захавалася больш за 10 пазванкоў рыбы, частка якіх магла служыць пацеркамі.

На паселішчы Юравічы-4 былі выяўлены нуклеусы і іх абломкі, адшчэпы, а таксама пласціны. Большасць нуклеусаў аморфнай формы і прызначалася для адбіцця адшчэпаў. Пласцінкі, якія былі груба агранёныя, маглі здымацца толькі з нуклеусаў няправільнай пірамідальнай формы.

Пры вырабе прылад прымянялася галоўным чынам саструганая плоская рэтуш. Да крутой рэтушы звярталіся рэдка. Часцей, чым двухбаковае рэтушаванне, прымянялася падчэсванне рабочага краю з адваротнага боку. Сярод прылад пададзены невялікімі серыямі толькі скрабкі на адшчэпах з авальным рабочым краем, скрабкі на пашыраным канцы пласцінчатых ад-

шчэпаў, якія нярэдка захоўвалі скарынку, ножападобныя пласцінкі, сячэнні пласцінак — укладышы і праколкі на натуральных, злёгку падпраўленых рэтушшу завостраных адшчэпах.

Асобныя характэрныя прылады пададзены адзінкавымі экземплярамі, іх прызначэнне ў матэрыяльнай культуры разглядаемага помніка магчыма зразумець толькі ў супастаўленні з інвентаром большай колькасці паселішчаў, размешчаных побач. Да іх ліку адносіцца лістападобны пласцінàчны наканечнік ці свердзел з пласціны, які мае плоскую рэтуш амаль па ўсім краі, абломак лістападобнага наканечніка-дроціка (?) з закругленым канцом (мал. 42: 1, 9), трохкутны наканечнік дроціка з выпуклымі бакамі, трохвугольныя наканечнікі стрэл, зрэдку з двухбаковай апрацоўкай, ромбападобны наканечнік з рэтушшу каля чаранка, лістападобны ўкладыш злёгку асіметрычнай формы з запаліроўкай па лязе, серпападобная прылада з аднабаковай плоскай рэтушшу каля вастрыя і натуральным зломам спінкі. Адшчэп з рэтушшу, якая ўтварае завастрэнне, трапецыя, крута адрэтушаваная па баках, траншэпадобная сякерка ці, хутчэй, цясла са звужаным абухом і няправільным лінзападобным сячэннем, кароткае прамавугольнае долата, скобля на адшчэпе з выемістым краем, двайная праколка, праколка з сячэння пласціны, свердзел, падобны да лістападобнага пласціначнага наканечніка, бакавыя скрабкі ці разакі.

Акрамя таго, для разглядаемых паселішчаў характерны знаходкі разцоў бакавога тыпу з рэтушшу, якія маюць скошаны канец, вуглавых разцоў, ножападобных пласцін са скошаным канцом, невялікіх сякерак-разакоў, дробных праколак, свердлаў на пласцінах ці адшчэпах, скобляў, падобных на скрабкі, але нярэдка маюць увагнутасці на рабочым краі, трапецыі з часткова саструганай спінкай, прамавугольных трапецый, поўнасцю шліфаваных каменных сякер-кліноў з лінзападобным ці авальным сячэннем, ножападобных ці серпападобных прылад з шырокіх, завостраных на канцы адшчэпаў з рэтушшу па краі і інш.

Сярод матэрыялаў Юравіч-5 (мал. 43) маюцца чатыры нуклепадобныя адбойнікі, два скрэблападобныя рэтушоры, тры трохкутныя наканечнікі стрэл з двухбаковай апрацоўкай, некалькі праколак і скобляў, пераважна бакавых. Найбольш значнымі серыямі пададзены нажы з пласцін даўжынёй 3—5,5 см з частковай апрацоўкай па лязы (11 экз.), сячэнні пласцінак больш за 20, скрабкі на шырокім канцы нізкіх адшчэпаў з выпуклым рабочым краем, даўжынёй 2—3,5 см (9 экз.), высокія скрабкі з нуклепадобных абломкаў, даўжынёй 1,7—3,5 см (8 экз.), нізкія бакавыя скрабкі з сячэнняў пласцінкі (6 экз.). Сустрэты таксама два мікраскрабкі дыяметрам 2 см, скрабок на канцы пласціны, пласцінка з завастрэннем, вузкаабушная сякерка з прышліфоўкай, даўжыня 4,5 см і лінзаватага сячэння, тры скоблі, трапецыі.

Кераміка позняга неаліту — галоўная састаўная частка калекцый, сабраных на паселішчах Юравічы-3, 4, 5 і інш. (И с а е н к о, 1967б).

На паселішчы Юравічы-3 каля палавіны пасудзін вылеплены з глінянага цеста з раслıннымі дамешкамі, астатнія ўтрымлівалі прымешкі пяску, зрэдку буйназярністага, нават жарствы, тоўчанай балотнай руды — крывавіка. Назіраецца спалучэнне двух-трох відаў прымешак. Была рэканструявана форма і сістэма арнаментацыі некалькіх вастрадонных пасудзін (мал. 44). Асабліва цікавай з'яўляецца пасудзіна, якая ў верхняй частцы, ніжэй за рад цыліндрычных наколаў, была абкружана выявамі мужчыны-«паляўнічага», якія чаргаваліся з выявамі «качкі», вельмі стылізаванай, — міфалагічны сюжэт (мал. 46).

Як правіла, форма пасудзін адрознівалася ўстойлівасцю. Яны былі вастрадонныя — іх дно мела востры вугал у восевым сячэнні. Вышыня канічнай часткі пасудзіны альбо раўнялася вышыні яе цыліндрычнай часткі, альбо перабольшвала яе. У адных пасудзін пераход ад верхняй часткі да ніжняй ажыццяўляўся плаўна, а ў другіх — крута, са зломам. Венцы ў верхняй частцы, ля самага краю, адгіналіся вонкі ці былі прамыя і толькі крыху зведзеныя ўнутр. Сценкі пасудзін звычайна дасягалі таўшчыні 0,7—1,1 см, добра, да глянцавання, загладжваліся звонку, а знутры нярэдка захоўвалі сляды расчэсвання дробназубчатым штампам, мелі сярэдняе абпальванне, былі значна ажалезненыя і набывалі жаўтавата-карычневую афарбоўку.

Суцэльнай аднароднай арнаментыкі на пасудзінах не было. Яна была занальнай, прычым вялікія зоны паверхні пасудзін заставаліся неарнаментаванымі. Пры ўпрыгожванні пасудзін карысталіся звычайна 2—3 элементамі арнаменту, адзін з якіх дамінаваў. Асабліва старанна ўпрыгожваліся верхняя частка венца, донца і сярэдзінны пояс — месца пераходу ад цыліндрычнай часткі пасудзіны да канічнай. Астатняя паверхня альбо мела бедную арнаментыку, альбо заставалася наогул без упрыгожвання.

Край венца падкрэсліваўся радамі наколаў, якія часта наносіўся звонку і зрэдку з унутранага боку ці чаргаваўся папераменна знутры і звонку. Вышэй за гэтыя наколы наносіўся альбо рад нахіленых грабеньчатых адбіткаў ці насечак, альбо рад злітых наколаў. Верхняя частка паверхні арнаментавалася галоўным чынам па гарызанталі радамі злітых наколаў, нахіленых адбіткаў дробназубчатага штампа, неглыбокімі шырокімі ўцісканнямі, рэдкімі акруглымі ўцісканнямі, касой сеткай з пракрэсленых ці прагладжаных ліній, лапчастымі ўцісканнямі, якія былі размешчаны ў шахматным парадку і цалкам запаўнялі шырокія гарызантальныя зоны (мал. 44, 45).

На цыліндрычнай частцы пасудзіны часта сустракаюцца дыяганальныя матывы ці звіслыя ўніз вяршыняй трохкутныя зоны і зрэдку — вертыкальныя матывы ці прамавугольныя зоны. Канічная частка пасудзін у большасці выпадкаў не арнаментавалася, а на донцы часта размяшчаліся гарызантальныя паясы з невялікіх уцісканняў, радоў дробназубчатых адбіткаў ці, значна радзей, зліваліся вертыкальныя рады падобных адбіткаў. Відаць, на арнаментаванні пасудзін адбіліся не толькі мінулы вытворчы вопыт невялікага вытворчага калектыву, што жыў на паселішчы, але і складанае перапляценне шлюбных сувязей, гістарычны лёс, памеры і прызначэнне пасудзін, прыродныя і сезонныя фактары, канкрэтныя бытавыя падзеі, у якіх удзельнічалі жыхары і інш. Таму няма ўпэўненасці ў тым, што на сінхронных аднакультурных паселішчах працэнтныя суадносіны розных відаў арнаменту супадалі. Зрэдку выяўленне развалу посуду, як гэта здарылася на помніках Гнездзенка, Шарэйкі-2, Пхоў-1, можа рэзка змяніць працэнтныя суадносіны

Не надаючы вялікага значэння працэнтным суадносінам арнаментаў, мы лічым, аднак, патрэбным прывесці іх. Каля 25% усіх абломкаў пасудзін, выяўленых на паселішчы Юравічы-3 (Ліцвін-1), не мелі арнаментаў. Пераважалі арнаменты са злітых наколаў (32%). Рэдка нанесеныя наколы сустракаліся на 8% абломкаў пасудзін. Былі ўзоры з шырокіх неглыбокіх уцісканняў.

Адбіткамі дробназубчатага штампа ўпрыгожваліся толькі 18% фрагментаў, а насечкамі — 4%. Колькасць абломкаў з лапчастым арнаментам дасягала 3%. Акрамя гэтага, сустракаліся яшчэ абломкі з жалабаватымі (2%) ці пракрэсленымі лініямі (2%), крыжападобнымі ўзорамі (2%), ёлачным узорам (10%), прамавугольнымі ўцісканнямі (3%).

Керамічныя матэрыялы паселішча **Юравічы-4** складаюцца з абломкаў прыкладна 75—80 пасудзін. Каля трэці фрагментаў змяшчала ў цесце раслінныя дамешкі, жарству, буйназярністы пясок, крывавік (ад 4—5 пасудзін). Зрэдку абедзве асноўныя дамешкі да цеста — раслінная і пясок — ужываліся разам.

Форма посуду ў асноўным такая ж, як і на стаянцы Юравічы-3 (мал. 45). Амаль поўнасцю рэканструяваны форма і арнамент трох пасудзін, для некалькіх — часткова (И с а е н к о, 1967б. С. 96—99).

Адна з пасудзін мела добра загладжаную, амаль глянцаватую паверхню (мал. 45: 1). Асаблівасць яе арнаментыкі — дыяганальныя паскі паралельных пракрэсленых ліній.

Другая невялікая пасудзіна, вышынёй каля 17 см, была аздоблена гарызантальнымі паясамі наколаў і адбіткаў дробназубчатага штампа.

Некалькі гаршкоў нагадваюць пасудзіну з паселішча Гнездзенка, якая паміж шырокімі паясамі наколаў мела ў верхняй частцы корпуса ўзор з ромбападобных фігур (мал. 45: 2).

Цікавасць уяўляюць і абломкі пасудзіны з крутым выгібам сценкі і хвалістымі расчосамі пад краем венца.

Верхняя частка пасудзін на стаянцы звычайна старанна ўпрыгожана, тут пераважаюць гарызантальныя матывы, выкананыя аднароднымі стужкамі. Спалучэнне розных элементаў назіраецца толькі ніжэй, пры пераходзе да канічнай часткі пасудзіны. Тут з'яўляюцца ўжо і дыяганальныя і вертыкальныя матывы. Характэрна зрэджанасць арнаментаў, распаданне іх на зоны, аправа зон, наяўнасць сеткавых кампазіцый.

Канічныя донцы некаторых пасудзін былі сплюшчаны. Тыя і іншыя арнаментаваліся наколамі ці адбіткамі дробназубчатага штампа, які размяшчаўся па канцэнтрычнай акружнасці, зрэдку чаргаваліся паміж сабой. Рады дробназубчатых адбіткаў часам атрымлівалі на донцах і радыяльны напрамак.

Паверхня пасудзін звычайна добра загладжвалася звонку. Выключэнне складаюць толькі пасудзіны з дамешкай крывавіку ў цесце. У іх вонкавая паверхня акрамя беднага накольчатага арнаменту заўсёды захавала сляды расчосаў, якія нанесены часам з вялікай стараннасцю і ўтваралі своеасаблівыя сеткавыя ці хвалістыя ўзоры.

Грабеньчатым арнаментам упрыгожана 26% фрагментаў, зрэджанымі наколамі — 8, злітымі — 9, шырокімі ўцісканнямі і зашчыпамі — 4, лапчастымі наколамі — 8, жалабаватымі, пракрэсленымі лініямі з насечкамі — па 2, злітымі ў рад насечкамі, лункавымі ямкамі, прамавугольнымі ўцісканнямі і адбіткамі шнура — па 1%. Без упрыгожванняў засталося 35% абломкаў.

Пры раскопках помніка **Юравічы-5** (Ліцвін-3) выяўлены звыш 1800 абломкаў 50—55 пасудзін (И с а е н к о, 1976а. С. 96—98), якія вырабляліся стужачным спосабам, шляхам бакавога прылеплівання стужак. Апошнія выцягваліся пераважна з цеста, у склад якога разам з раслiннай дамешкай уваходзілі пясок, часам буйназярністы, ці нават жарства, і мелі 5—7 см у шырыню. У меншай ступені і, відаць, пазней гліна збядняласся прымешваннем толькі пяску ў кожнай трэцяй пасудзіне.

Жыхары паселішча ляпілі вастрадонныя шыракагорлыя пасудзіны, вышыня якіх рэдка перавышала дыяметр тулава ў найбольш шырокім месцы, а канічная частка пачыналася прыкладна пасярэдзіне пасудзіны і ўтварала нярэдка злом пры пераходзе да цыліндрычных сценак. Таўшчыня сценак вагалася ад 0,5 да 1,3 см і толькі на донцы дасягала 2,5 см. Вугал у восевым

сячэнні канічных донцаў вымяраўся 70—120°, а ў зломе сценак 130—150°. Найбольш часта сценкі мелі таўшчыню 0,7 см, а вугал сячэння донца прыкладна раўняўся прамому. Сценкі пасудзін злёгку зводзіліся кверху, а сам край іх патаўшчаўся і часта адгінаўся вонкі (мал. 45: 3—5).

Амаль ва ўсіх пасудзін венца падкрэслівалася радам цыліндрычных ямак, якія наносіліся звонку, знутры ці вельмі рэдка папераменна з абодвух бакоў. У паловы пасудзін альбо па краі праходзілі ўцісканні ці зашчыпы альбо абрэз пакрываўся наколамі ці адбіткамі грэбеня, насечкамі. Пасудзіны ўпрыгожваліся пераважна расчлянёнымі ўзорамі, якія ўтвараліся адным, радзей двума-трыма элементамі арнаментыкі. Вялікія ўчасткі іх паверхні заставаліся звычайна без упрыгожванняў, якія канцэнтраваліся толькі ў верхняй частцы, на донцы і ў месцы перагібу сценак, г. зн. у самай шырокай частцы тулава. Узор наносіўся па знешняй, звычайна добра загладжанай паверхні, у той час як знутры часта захоўваліся расчэсванні. Каля 15 пасудзін (32%) упрыгожваліся грабеньчатым арнаментам. Адбіткі грэбеня звычайна размяшчаліся гарызантальнымі паясамі, якія аб'ядноўваліся вертыкальнымі і дыяганальнымі слупкамі. Прыкладна 12 пасудзін мелі накольчатыя арнаменты (19% абломкаў). Наколамі запаўняліся не толькі вялікія гарызантальныя паясы, але і вертыкальна размешчаныя прамавугольныя зоны і дыяганальныя слупкі. Арнаменты з пракрэсленых (2%) ці прагладжаных (1,5%) ліній, насечак (0,5%) нярэдка спалучаліся з грабеньчатымі. Цікавая дугападобная кампазіцыя з пракрэсленых ліній. У адрозненне ад папярэдніх лапчастыя віды арнаменту ўпрыгожваюць тры-чатыры пасудзіны (4,5%), у цеста якіх часта прымешваўся пясок. Ямкі альбо суцэльна запаўняюць гарызантальныя паясы, альбо ўтвараюць вертыкальныя, часта рамбічныя зоны.

Сярод неарнаментаваных фрагментаў пасудзін 23% (ад агульнай колькасці) маюць раслінную дамешку, а 12% — дамешку пяску. Частка з іх належала, безумоўна, шасці—васьмі пасудзінам наогул без упрыгожванняў. Не менш чым тры пасудзіны ўпрыгожваліся налепленым валікам з уцісканнямі ці насечкамі, якія мелі пясок у складзе цеста, два іншыя — шнуравыя арнаменты, якія спалучаліся з радам цыліндрычных ямак. На адной пасудзіне былі адбіткі вусеня, на другой — доўгія лапчастыя адбіткі,на канічным донцы трэцяй — кароткія вяровачныя адбіткі. Склад і колер цеста ў гэтых пасудзін, як і ўмовы залягання, не адрозніваліся ад папярэдніх. Не менш дзвюх пасудзін было вылеплена з цеста з дамешкай артштэйна (крывавіку). Нарэшце, сустрэты абломкі дзвюх пасудзін сярэднедняпроўскай культуры ранняй бронзы з наразным арнаментам.

Па характары керамікі паселішча Юравічы-5 можа быць аднесена да III—IV этапаў развіцця днепра-данецкай культуры. Яна набывае асаблівае значэнне для вызначэння верхняй мяжы існавання помнікаў тыпу Ліцвін. Факт сумеснага залягання са шматвалікавай керамікай і абломкамі пасудзін, упрыгожаных шнуравымі элементамі, а таксама некаторыя запазычанні дазваляюць сцвярджаць, што мясцовая неалітычная культура працягвала развівацца яшчэ ў першых стагоддзях 2-га тысячагоддзя да н. э., а яе арэал, відаць, змыкаўся ці перакрываўся з абласцямі распаўсюджання культур сярэднедняпроўскай і шматвалікавай керамікі. Помнікі існавалі да 1800—1700 гг. да н. э.

Посуд позніх этапаў культуры прадстаўлены чатырма тыпамі: пасудзіны высокія з нізкай канічнай часткай (шосты тып); нізкія вастрадонныя гаршкі з адагнутымі ці, наадварот, зведзенымі зверху сценкамі, плаўнага профілю

(сёмы тып); рабрыстыя пасудзіны, канічная частка якіх па вышыні часта пераважала і заканчвалася вострым, прытупленым ці плоскім донцам (восьмы тып); пасудзіны нізкія з ужо вылучанай шыйкай, адагнутым вонкі венцам і яйкападобным ці нават круглым донцам (дзевяты тып) (мал. 45).

Пасудзіны мелі ў сярэднім аб'ём 3—4 л, прычым дыяметр 16—20 см. Вышыня была прыкладна такая самая. Разам з падобнымі па памеры і форме стандартызаванымі пасудзінамі выкарыстоўвалі як вялікія, дыяметрам каля 40 см, так і малыя, часам падобныя да місак, дыяметрам 8—12 см і ёмістасцю ў адну-дзве шклянкі. Разам са звычайнай для сценак таўшчынёй 0,8—1,0 см трапляліся пасудзіны, таўшчыня сценак якіх была большая ці меншая. Стужкі трывала змацоўваліся паміж сабой, і сценкі часта ламаліся не па швах. У цеста дабаўлялі пясок, зрэдку буйназярністы, жарству. Расліннасць, калі і дабаўлялася, то значна ў меншай колькасці і больш здробненая. Паверхня звычайна загладжвалася, зрэдку да глянцавання. Знутры часам захоўваліся расчэсванні. Абпальванне пасудзін было сярэднім і добрым. Колер паверхні чырванавата-зеленаваты. Разам з гэтым прыкладна дзесятая частка пасудзін мела ў цесце прымешку тоўчанага арпштэйна. Іх паверхня звычайна захоўвае расчосы дробназубчатым штампам, якія, калі праходзяць па вертыкалі і гарызанталі, ствараюць своеасаблівы арнамент. Чарапкі такіх пасудзін шчыльныя, чырванавата-рудога колеру.

Венцы пасудзін амаль заўсёды прамыя, злёгку адагнутыя вонкі. Амаль палова посуду мае венцы патоўшчаныя альбо да краю, альбо кнізу, у выглядзе «каўнерыка». Абразанне пасудзіны закругляецца, сплюшчваецца ці нават скошваецца вонкі. Амаль 273 пасудзін аздаблялася па абрэзу зашчыпамі, уцісканнямі, наколамі, насечкамі, адбіткамі грэбеня. Знутры венца пасудзіны ўпрыгожваліся вельмі рэдка і бедна. Звычайна звонку, крыху ніжэй за край праходзілі адзін—тры рады ўцісканняў ці наколаў, радзей насечкі ці грабеньчатыя адбіткі. Затым наносіўся традыцыйны рад (два рады) круглых наколаў, якія зрэдку чаргаваліся з жамчужынамі. Прамежкі паміж імі сталі меншыя. Прыкладна ў паловы пасудзін захаваліся тыя ж кампазіцыі, што і на папярэднім этапе. Арнаментаваная сістэма складалася з трох гарызантальных палос: уверсе, у месцы выгібу сценак ці рабра і на донцы. Гэтыя палосы злучаліся з дапамогай косых стужак. Характэрна больш частае ўключэнне ў сістэму ўзораў палос са здвоеных і асабліва строеных аднародных радоў. Астатнія ўпрыгожваліся больш складанымі кампазіцыямі, якія ўключалі геаметрычныя зоны — трохкутнікі, прамавугольныя, рамбічныя. Часцей сустракаецца аблямоўка зон, багацей выяўленчыя сродкі. Зрэдку пры арнаментаванні ўжываюцца тры-чатыры элементы.

Для аблямоўкі зон прымяняюцца ямкі іншых памераў, насечкі, лапчастыя ўцісканні. Самі зоны запаўняюцца, як і раней, наколамі, адбіткамі зубчастага штампа. Больш шырока наносяцца ёлачныя кампазіцыі, зігзагі (ламаныя), для гэтага выкарыстоўваюцца таксама прамавугольныя ўцісканні, кароткія «вусені», падоўжныя наколы. Яны размяшчаюцца як па гарызанталі, так і па вертыкалі. Дзесятая частка пасудзін упрыгожваецца спецыфічным «лапчастым» арнаментам, які наносіўся штампам, абкручаным на канцы шнурком (перавітай вяровачкай). З «лапак» складаліся трохкутныя, рамбічныя, зігзагападобныя фігуры, гарызантальныя паясы, стужкі, якія звісаюць уніз, аблямоўка зон грабеньчатых адбіткаў. Рэдка сустракаліся пасудзіны, упрыгожаныя «вусенямі» — адбіткамі кароткага шнура.

Захоўваюцца касасеткавыя кампазіцыі з пракрэсленых ліній, узоры з гарызантальных жалабаватых ліній, з шырокіх уціскanняў. З'яўляюцца выкананыя наколамі значкі, што выпадаюць з арнаментаванай сістэмы. Больш аднароднай з'яўляецца арнаментыка, выкананая з дапамогай лапак і прамавугольных уціскaнняў, а таксама адбіткаў трубчастай костачкай, ракавінай, палачкай, «размачаленай» на канцы. На донцы нярэдка акрамя гарызантальных сустракаюцца і радыяльныя кампазіцыі.

Чацвёртая частка абломкаў упрыгожана грабеньчатымі адбіткамі, амаль столькі ж пакрыта наколамі, большасць якіх зліваецца ў радах. Удвая радзей прымянялася арнаментаванне насечкамі, пракрэсленымі лініямі, шырокімі ўціскaннямі ці зрэджанымі наколамі, сталі з'яўляцца шнуравыя арнаменты і «вусеньчыкі».

Арнаментаванне багацейшае, чым на папярэдніх этапах. Тым не менш колькасць неўпрыгожаных элементаў крыху павялічылася, відаць, як у сувязі з распаўсюджаннем простага кухоннага посуду, так і з-за вялікай расчлененасці ўзораў.

Такім чынам, для днепра-данецкай культуры характэрна наяўнасць шыракагорлых прамасценных нізкіх гліняных пасудзін з высокай канічнай доннай часткай. Сістэмы арнаментыкі іх развіваліся ад аднароднай вузкапаяснай і трохпаяснай да складанагеаметрычнай з аблямоўкай зон. Рэканструявана каля 30 арнаментаваных сістэм, шмат з іх увайшлі ў беларускую народную арнаментыку і ўтрымаліся ў мясцовай народнай творчасці больш за чатыры тысячагоддзі. Падобная ўскладненагеаметрычная арнаментацыя з даўніх часоў вылучае мясцовае насельніцтва, а потым адрознівае беларускую культуру ад іншых усходнеславянскіх.

Набор прылад працы насельнікаў ранненеалітычных паселішчаў мала адрозніваецца ад мезалітычнага. У яго складзе ёсць пласцінaчныя наканечнікі стрэл лістападобнай формы. Яны свідэрападобныя — апрацаваны, асабліва каля вастрыя і асновы, плоскай рэтушшу, якая заходзіць на спінку і брушка, дробнай краявой рэтушшу, што зрэдку праходзіць зверху і данізу. Чаранковыя наканечнікі апрацоўваліся як і лістападобныя, мелі кароткія сіметрычныя чаранкі — завостраныя ці шырокія, якія ў асноўным вылучаліся пры дапамозе крутой рэтушы, а зрэдку і падчэсваліся з брушка. Асабліва характэрныя дробныя, выражаныя формы падобных наканечнікаў. Прымянялася процілеглая рэтуш, сустракаюцца дробныя вастрыі, ланцэты, у тым ліку з разцовым сколам на джальцы, рознатыповыя мікраліты геаметрычнай формы, канцавыя скрабкі, бакавыя і вуглавыя разцы некалькіх тыпаў. Менш за палову складаюць больш познія формы нажоў, праколак, скрабкоў.

Для ранненеалітычнай індустрыі на ўсходзе Палесся характэрна захаванне як прыёмаў мікралітычнай апрацоўкі, так і прымяненне да 2/3 з 70 тыпаў прылад працы, што вылучаліся ў мясцовай культуры мезаліту. Калі ўлічыць таксама вынікі супастаўлення комплексаў, якое ажыццёўлена пры даследаваннях ва Украінскім Палессі, можна сцвярджаць услед за Д. Я. Цялегіным, што асновай для фарміравання культуры паслужылі традыцыі вытворчасці мезалітычных плямёнаў, якія ім папярэднічалі на той жа тэрыторыі.

Адсюль вынікае, што неалітычная культура заканамерна развівалася тут у мясцовых плямёнаў. Асабліва трэба падкрэсліць, што ў раннім неаліце ў плямёнаў Заходняга і Усходняга Палесся, якія дастаткова рэзка адроз-

ніваліся крамянёвым інвентаром, з'явіліся ва ўжытку гліняныя пасудзіны, падобныя па форме, тэхналогіі вырабу, арнаментацыі, але з неаднолькавымі нязначнымі дэталямі. Гэты факт можна растлумачыць толькі культурным імпульсам, што зыходзіў з аднаго і таго ж цэнтра (Валыні).

Старажытныя плямёны Палесся авалодалі сакрэтамі керамічнай вытворчасці ад буга-днястроўскай культуры, якая распаўсюдзілася, такім чынам, далека на поўнач і паўночны ўсход. Гэта пацвярджаецца падабенствам тэхналагічных прыёмаў, асноўных тыпаў пасудзін і некаторых матываў арнаментыкі, канфігурацыяй рачной сеткі, больш яркім выяўленнем ранненеалітычнай культуры ў заходняй частцы Палесся, якая бліжэй да буга-днястроўскай вобласці. У апошні час на поўначы Валыні адкрыта і вывучаецца валынская неалітычная культура, арэал якой злучае буга-днястроўскую вобласць з заходнепалескай (Г. В. Ахрыменка). Гэтага нельга сказаць ні пра адну з іншых навакольных археалагічных культур. Не могуць быць абгрунтаванымі і спробы знайсці іншы самастойны цэнтр узнікнення грабеньчатай керамікі. У той жа час аснова арнаментыкі посуду, безумоўна, мясцовая, узятая з традыцыйнага побыту старажытных плямёнаў Палесся.

Культурны імпульс, відаць, зрабіўся прыкметным не пазней другой паловы 2-га тысячагоддзя да н. э. Менавіта тады, у самчынскай фазе буга-днястроўскага неаліту заўважаецца ўздзеянне элементаў днепра-данецкай культуры (В. М. Даніленка), а таксама культуры лінейна-стужкавай керамікі. Сама магчымасць такога ўплыву паказвае, што грабеньчатая кераміка была ўжо ў той час не толькі дастаткова развіта, але і набыла пэўную самастойнасць і дынаміку. Тым не менш традыцыйны мезалітычны ўклад гаспадаркі мог захоўвацца ў часткі палескіх плямёнаў яшчэ і ў 4-м тысячагоддзі да н. э. Пра гэта сведчаць архаічныя рысы крамянёвага інвентару.

На раннім этапе керамічнай вытворчасці як па тэхналогіі, складу цеста, якасці абпальвання, так і па беднай двухпаяснай арнаментацыі на ўсходзе і захадзе Палесся немагчыма з верагоднасцю выявіць адрозненні. Пакуль можна гаварыць пра адзіную архаічную фазу развіцця грабеньчатай керамікі, агульную для насельніцтва нёманскай і днепра-данецкай культур. Аднак трэба падкрэсліць, што ранняя грабеньчатая кераміка ў Заходнім Палессі выступае больш ярка і прадстаўлена на большай колькасці помнікаў.

У развітым (сярэднім і познім) неаліце ўжо прасочваюцца выразныя прыкметы, па якіх вылучаецца кераміка днепра-данецкай культуры. Перш за ўсё гэта захаванне ці слабае вар'іраванне асноўных керамічных формаў ранняга перыяду, больш устойлівае захаванне традыцый, чым у Заходнім Палессі, у плямёнаў нёманскай культуры. Разам з гэтым тут назіраецца развіццё шырокай гамы арнаментаваных сістэм, разнастайнасць элементаў, з якіх такія сістэмы выконваліся. Гэта надавала кераміцы днепра-данецкай культуры на яе позніх, трэцім і асабліва чацвёртым, этапах развіцця асаблівую, непаўторную прыгажосць.

Помнікі сярэдняга (другога) этапу культуры змяшчаюць матэрыялы, якія тыпалагічна займаюць прамежкавае становішча, выглядаюць больш архаічнымі ў параўнанні з познанеалітычнымі. Апошнія пададзены вялікай колькасцю помнікаў тыпу Ліцвін і вывучаны значна больш падрабязна.

Помнікі Усходняга Палесся, пачынаючы з сярэдняга неаліту, адасабляюцца ва ўсходнепалескі варыянт днепра-данецкай культуры. Апошні тэрытарыяльна далучаецца да кіева-валынскай, гомельска-чарнігаўскай (другі этап) і рагачоўскай (трэці этап) груп помнікаў, што вылучае Д. Я. Ця-

легін. Ён, як гэта вынікае са зробленых вышэй апісанняў інвентару і керамікі, блізкі ім сваёй матэрыяльнай культурай. Ад кіева-валынскай групы гэты варыянт адрозніваецца тым, што грабеньчатыя віды арнаментаў (каля 30%) заўсёды пераважаюць над накольчатымі, радзей ужываюцца ўзоры з серпападобных наколаў, адсутнічае кераміка групы «А», мала ўжываецца суцэльнае арнаментаванне, паверхня пасудзін загладжваецца грэбенем толькі знутры.

У параўнанні з гомельска-чарнігаўскай групай у вылучанага варыянта не атрымалі развіццё грабеньчата-ямкавыя віды арнаментаў. Пасудзіны часцей упрыгожваліся ўзорамі з наколаў, а іх венцы пачалі патаўшчацца кнізу, сценкі больш крута выгіналіся пры пераходзе да канічнай часткі. У познанеалітычны час мясцовая кераміка адрозніваецца ад керамікі помнікаў сярэдняга Падняпроўя меншай разнастайнасцю пасудзін, сярод якіх пласкадонныя вельмі рэдкія. Гаршкі не маюць вертыкальных расчосаў і не аздабляюцца каля гарлавіны радам жамчужын з замазанай уваходнай адтулінай. Арнаменты са злітых ці разрэджаных наколаў пачынаюць ужывацца не менш часта, чым грабеньчатыя (каля 25%).

З'яўленне пасудзін з вылучанай шыйкай і больш складанай прафілёўкай сценак, распаўсюджанне занальных лапчастых арнаментаў, шматвалікавых з зашчыпамі ўзораў, шнуравых адбіткаў, узораў з прамавугольных адбіткаў, складаных зрэджаных кампазіцый, ускладнёных. элементаў дазваляе вылучыць чацвёрты этап у развіцці днепра-данецкай культуры, якая захавалася да 1800—1700 гг. да н. э. толькі на Палессі. Для яго характэрны таксама двухбакова апрацаваныя трохкутныя наканечнікі стрэл, нярэдка з пілаватым краем, невялікія серпападобныя ўкладышы, шліфоўка прылад для сячэння.

Мясцовыя помнікі трэцяга і чацвёртага этапаў адрозніваюцца ад рагачоўскіх наяўнасцю нізкіх шыракагорлых пасудзін і амаль поўнай адсутнасцю высокіх. Шмат якія пасудзіны маюць «каўнерык» ці злом сценкі пры пераходзе да высокай доннай часткі. Ямкавыя віды арнаментаў сустракаюцца значна радзей, складаюцца нярэдка з шырокіх паверхневых уціскванняў. Лапчастыя арнаменты, якія набываюць вялікую разнастайнасць, наносяцца часцей у манеры наколаў ці адціскаюцца пяцелькай, а не штампуюцца ў стылі ямкавых узораў.

Усходнепалескі варыянт днепра-данецкай культуры мае шэраг прыкмет, агульных з верхнедняпроўскай культурай, якая даследавалася І. І. Арцёменкам, І. М. Цюрынай, А. Г. Калечыц (некаторыя тыпы пасудзін, віды грабеньчатых і асабліва лапчастых арнаментаў і інш.). Апошняя адрозніваецца вастрадоннымі пасудзінамі падоўжных прапорцый без крутога выгібу сценак, рабрыны. Найбольш раннія пасудзіны суцэльна пакрыты арнаментам — буйназубчатым, штампаванымі адбіткамі, падоўжнымі ямкамі. Лапчастая арнаментацыя грубая, неахайная. Трохпояснасць не назіраецца. У познанеалітычных пасудзін венцы, за невялікім выключэннем, не маюць «каўнерыка», край пасудзін звычайна роўны, без уціскванняў і зашчыпаў. У арнаментацыі шмат ямак (каля 20%) і пракрэсленых ліній. Значна адрозніваецца і крамянёвы інвентар.

У матэрыялах помнікаў гомельскай і рагачоўскай груп, якія размешчаны ў зоне сутыкнення дзвюх (а то і трох) культур — днепра-данецкай, верхнедняпроўскай і грабеньчата-ямкавай керамікі — выяўляюцца рознакультурныя элементы. Некаторыя тыпы прылад, посуду і трэць арнаментаў запазычаны ў грабеньчата-ямкавай керамікі, асабліва ў левабярэжжы Сажа. Таму куль-

турная атрыбуцыя адзначаных помнікаў моцна ўскладняецца. Магчыма, частку іх трэба выключыць са складу не толькі днепра-данецкай культуры, але і верхнедняпроўскай.

## 2. НЁМАНСКАЯ КУЛЬТУРА

Заходнюю частку вобласці культур з грабеньчата-накольчатай керамікай у неаліце займала нёманская культура. Яе асноўны арэал прасціраўся на Беларускае Панямонне (за выключэннем Віліі) і правабярэжжа Верхняй Прыпяці. Перыферыйнымі рэгіёнамі культуры ў розныя перыяды яе развіцця былі Паўночная Валынь, Паўднёвая Літва і прылеглыя да Беларусі раёны Паўночна-Усходняй Польшчы. Знаходзячыся ў блізкім суседстве з земляробча-жывёлагадоўчымі супольнасцямі Сярэдняй Еўропы, панёманцы адчувалі моцныя і амаль пастаянныя ўплывы з-за Буга і Віслы, якія з бегам часу істотна мянялі характар іх культуры — у керамічных формах, тыпах прылад працы, характеры гаспадаркі.

Сляды знаходжання неалітычнага чалавека на захадзе Беларусі выяўляліся яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. У гады паміж дзвюма сусветнымі войнамі да знаходак крамянёвых вырабаў дабавіліся і даволі выразныя керамічныя матэрыялы, атрыманыя шляхам паверхневых збораў. Сярод іх асабліва характэрныя фрагменты ранненеалітычнага посуду з-пад Любчы на Нёмане, апісаныя У. Галубовічам (Hołubowicz, 1938). У гэты ж час рабіліся і спробы культурна-храналагічнай інтэрпрэтацыі познакаменных старажытнасцей з Панямоння і Верхняй Прыпяці, якія вызначаліся як фіна-угорскія з грабеньчатай керамікай (Antoniewicz, 1930; Cehak-Hołubowiczowa, 1936).

З 50-х гадоў XX ст. работы па вывучэнню неаліту Заходняй Беларусі аднавіліся, больш таго, яны сталі мэтанакіраванымі і інтэнсіўнымі. У Панямонні разведкі праводзілі С. А. Тараканава, Ф. Д. Гурэвіч, А. Р. Мітрафанаў, Л. Д. Побаль. У сувязі з гэтым трэба адзначыць выяўленне стаянак з багатым неалітычным матэрыялам Добры Бор на Шчары (А. Г. Мітрафанаў) і Лысая Гара ў вярхоўях Нёмана (Л. Д. Побаль). Калі інтарэсы гэтых даследчыкаў былі накіраваны на розначасовыя помнікі, а найбольш на старажытнасці жалезнага веку і сярэднявечча, то Н. М. Гурына, якая пачала працу на Панямонні з 1957 г., усю ўвагу скіравала на вывучэнне каменнага веку, ёю ж упершыню на тэрыторыі Паўночна-Заходняй Беларусі былі праведзены раскопкі (1957, 1961) стаянкі ў прывусці Гаўі ў Лідскім раёне, дзе атрымана выразная неалітычная кераміка (Гурина, 1965. С. 191—198). У пачатку 60-х гадоў І, М. Цюрына правяла раскопкі на шырокай плошчы на помніку Добры Бор (1960) і каля в. Панямонь Навагрудскага раёна. З 1962 г. вывучэнне неалітычных помнікаў Панямоння распачаў М. М. Чарняўскі.

На паўднёвым захадзе Беларусі пэўную ўвагу старажытнасцям неалітычнага часу ўдзяляў Ю. У. Кухарэнка (1962). Аднак асноўная заслуга ў вывучэнні культуры неаліту Заходняга Палесся належыць У. Ф. , Ісаенку, які распачаў тут работы з 1961 г.

**Нёманская культура на паўночным захадзе Беларусі.** У 50-х гадах XX ст. А. Гардаўскі, разглядаючы яшчэ нешматлікія на той час неалітычныя матэрыялы з Заходняй Беларусі, далучыў іх да так званай днепра-эльбскай культуры (Gardawski, 1958). Пазнейшымі даследаваннямі было

даведзена, што гэта паняцце аб'ядноўвае шэраг асобных, хоць у рознай ступені і роднасных між сабой культур, і тэрмін не прыжыўся. Але Гардаўскі першы вылучыў Беларускае Панямонне з масіву «лясных прафінскіх» культур. Н. М. Гурына, непасрэдна займалася вывучэннем старажытных помнікаў Паўночна-Заходняй Беларусі, звярнула ўвагу на адметную асаблівасць мясцовага неаліту (Г у р и н а, 1965. С. 203) і ўказала на магчымасць вылучэння асобнай нёманскай культуры (Г у р и н а , 1965. С. 7). Затым Д. Я. Цялегін аднёс некаторыя матэрыялы Панямоння да тыпу Добрага Бору, а больш раннія помнікі мясцовага неаліту, як і з паўднёвай Літвы, аб'яднаў у помнікі тыпу Дубічай (Т е л е г і н, 1968. С. 223). Абгрунтаванне выдзялення на захадзе Беларусі асобнай нёманскай неалітычнай культуры, а таксама яе чляненне на этапы зроблена М. М. Чарняўскім на падставе матэрыялаў шырокіх раскопачных работ на шэрагу помнікаў (Ч е р н я в с к и й , 1966; Ч а р н я ў с к і , 1979).

Шмат якія карані нёманскай культуры знаходзяцца ў мясцовым познім мезаліце. Гэта праяўляецца ў наяўнасці сярод ранненеалітычнага крамянёвага інвентару перажыткавых эпісвідэрскіх і яніславіцкіх формаў — пласцінчачных наканечнікаў стрэл, ланцэтных вастрый, мікралітаў і інш. Магчыма пранікненне на Панямонне з поўдня ўплываў і суседніх раннекерамічных культур, аднак гэтыя ўплывы пакуль што даследаваны недастаткова. Але прыкметная рознастылёвасць нёманскай архаічнай керамікі можа тлумачыцца не толькі запазычанасцямі, але і нявыпрацаванасцю мясцовых формаў, арнаментаў і тэхналогіі гліняных вырабаў, што натуральна пры зараджэнні новай з'явы.

У развіцці нёманскай неалітычнай культуры на паўночным захадзе Беларусі выдзяляюцца тры этапы — ранні дубічайскі, прадстаўлены помнікамі тыпу Дубічай, сярэдні лысагорскі (помнікі тыпу Лысай Гары) і позні дабраборскі (помнікі тыпу Добрага Бору).

Дубічайскі этап. Для ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай культуры характэрны даволі вялікія шырокаадкрытыя вастрадонныя гаршкі з выпуклым корпусам, злёгку звужанай верхняй часткай і дыяметрам па венцах 25—35 см. (мал. 47: А; 49). У адзінкавых выпадках на корпусе намячалася нязначная рабрыстасць. Краі венцаў звычайна злёгку адгіналіся, хоць сустракаюцца і прамыя, былі роўнай таўшчыні сценкі, іх зрэзы закругленыя, часам патончаныя або сплюшчаныя, сустракаюцца і з невялікім наплывам ўсярэдзіну. Восевыя сячэнні донцаў раўняліся прамому вуглу або былі нават вастрэйшымі. Аднак вядомы і донцы прыкругленыя з выступаючым шыпам. Звычайная таўшчыня сценак 0,8—1,0 см., але бываюць чарапкі таўсцейшыя або танейшыя.

Знойдзеныя фрагменты керамікі маюць шэра-руды або проста шэры колер. Радзей сустракаюцца жаўтаватыя або чырванаватыя адценні. Знешнія паверхні часта святлейшыя за ўнутраныя. У глінянае фармовачнае цеста дабаўляліся раслінныя валакністыя дамешкі, ад якіх на паверхні засталіся характэрныя адбіткі. Заўважаюцца і дамешкі шамоту са здробненых чарапкоў посуду. Перад абпалам гаршкі раўняліся расчэсваннем грабеньчатым (зубчатым) штампам. Такія расчэсванні асабліва выразныя з сярэдзіны посуду. Звонку ён загладжваўся значна лепш, часам мае ангоб.

З-за характару дамешак дубічайская кераміка крохкая і выглядае порыстай. На адкрытай паверхні агаленняў пад уздзеяннем тэмпературных ваганняў яна хутка знікае, таму сярод пад'ёмнага матэрыялу сустракаецца ў

нязначнай колькасці. Яе ўдзельная вага ў сярэднім 1,8—1,9. Аднак між асобнымі чарапкамі ў гэтых паказчыках сустракаецца вялікая розніца, што можа сведчыць аб нявыпрацаванасці тэхналогіі падрыхтоўкі глінянага цеста.

У час фармавання начыння венчык пад краем нярэдка абвязваўся лубяным паскам, які пасля першапачатковага падсыхання сценак перад арнаментацыяй здымаўся.

Амаль усе ранненеалітычныя гаршкі з Панямоння звонку пад краем венцаў маюць рад глыбокіх круглых ямак з закругленым, а то і вострым дном. Адпаведна ім на ўнутранай паверхні ўзнікалі выпукліны-жамчужыны. Ямкі ў большасці пранікалі на таўшчыню сценак і, калі жамчужыны адпадалі, утвараліся скразныя адтуліны. Магчыма, што ў некаторых выпадках такія адтуліны рабіліся і наўмысна.

Элементамі арнаментаў дубічайскай керамікі з'яўляюцца пераважна грабеньчатыя адбіткі, наколы і прачэрчаныя лініі. Радзей сустракаюцца розныя ўмяціны і насечкі. У адзінкавых выпадках вядомы адбіткі лінейнага штампа, семечкападобныя і іншыя нетыповыя элементы (мал. 53).

Грабеньчатыя адбіткі пераважна тонкія і крыху выгнутыя, з дробнымі кароткімі зубчыкамі. Увогуле арнаментыка не была грабеньчатай у сэнсе гэтага слова, а зубчатай, наносілася пласцінкай з зазубраным тарцом. Значна менш простых адбіткаў грэбеня і толькі часам сустракаюцца адбіткі таўсцейшага арнаменціра. Узораў жа з тоўстага веліказубага грэбеня, характэрных для культур з грабеньчата-ямкавай керамікай лясной зоны, на захадзе Беларусі няма.

Зрэдку, асабліва на ўсходзе арэала нёманскай культуры, сустракаюцца адступаючыя падтрохкутныя наколы, тыповыя для днепра-данецкай культуры (Т е л е г і н , 1968). Большасць жа наколаў рабілася рознымі востраканечнікамі або вузкімі пласцінкамі, пры гэтым арнаменцір трымаўся да арнаментуемай паверхні нахілена, таму адбіткі атрымліваліся «адступаючымі», і ўвесь узор выконваўся ў «скорапіснай» манеры. Дарэчы, з нахілам арнаменціра рабілася і большасць іншых арнаментальных элементаў. Надзвычай тыповымі для дубічайскай керамікі былі наколы кантам нахіленай круглай палачкі, у выніку чаго атрымліваліся капытападобныя адбіткі. Часам такую палачку замяняла трубчатая костачка, якая давала ўзоры ў форме паўмесяца.

Характэрна, што грабеньчатыя арнаменты наносіліся тымі ж зазубранымі пласцінкамі, якімі рабілася і выраўноўванне — расчэсванне паверхняў гаршкоў у час іх фармоўкі.

Тонкія лініі прачэрчваліся вастрыём. Шырэйшыя лініі, якія сустракаюцца значна радзей, прагладжваліся вузкай пласцінкай або палачкай. Пры гэтым такі прагладжвальны арнаменцір часам перыядычна адрываўся ад арнаментаванай паверхні, тады атрымліваліся кароткія паскі, а то нават і авальныя элементы.

Арнаментацыя ранненеалітычнага посуду даволі разрэджаная і аднастайная, пры гэтым больш 60% знойдзеных чарапкоў зусім пазбаўлены якіх-небудзь узораў. Рэдка аздабляліся і донцы. У той жа час верхнія часткі пасудзін у большасці выпадкаў мелі арнаменты. Адзначаныя вышэй элементы арнаменту ў большасці выпадкаў размяшчаюцца ў верхніх частках гаршкоў гарызантальнымі разрэджанымі паясамі, якія апярэзваюць посуд. Прачэрчаныя лініі накіраваныя наўскос або ўтвараюць касасеткавыя кампазіцыі. Коса, а часам і гарызантальна накіраваны і прагладжаныя лініі.

Часам на адным і тым жа гаршку назіраецца спалучэнне розных элементаў і матываў арнаментаў — пераважна прачэрчаных ліній з наколамі або ўмяцінамі. Умяціны наносіліся ў асноўным канцом палачкі, часам размачаленай, былі акруглыя або авальныя.

Некаторыя гаршкі былі поўнасцю пазбаўлены арнаментацыі, калі не лічыць ямачак пад краем венца.

У ранненеалітычным крамянёвым інвентары, які суправаджаў кераміку дубічайскага тыпу, яшчэ добра прыкметныя познамезалітычныя традыцыі (мал. 56: 17—28).

Сустракаюцца свідэроідныя лістападобныя наканечнікі стрэл з выразнымі чаранкамі і, як правіла, рознай ступені рэтушоўкай на пёрах. Ужываліся ланцэтападобныя вастрыі, у тым ліку і яніславіцкага тыпу, трапецыі. Вядомы і прызматычныя двухпляцовачныя нуклеусы, хоць формы іх і былі ўжо далёкія ад тыпова свідэрскіх. Часты матэрыял — канцавыя скрабкі на пласцінках, разцы. У той жа час ясна прыкметна неалітызацыя крамянёвых вырабаў. Асноўную частку нуклеусаў пачалі складаць аднапляцовачныя стажкаватыя тыпы. Нават канцавыя скрабкі, як правіла, атрымлівалі дадатковую падрэтушоўку на бакавінах, значна ўзрастае колькасць скрабкоў на адшчэпах. Больш сталі ўжывацца вуглавыя разцы, хоць іх колькасць адносна скрабкоў прыкметна зменшылася. Пачалі выраблядца і наканечнікі стрэл новых тыпаў — трохкутныя. Тыповымі для ранняга неаліту сталі крамянёвыя сякеры, сярод якіх многія маюць асіметрычныя ў бакавой плоскасці абрысы і фармуючую апрацоўку ляза бакавым сколам, у выніку чаго атрымліваліся траншэпадобныя прылады. Аднак у гэты час ужо шырока выкарыстоўваліся і авальныя сіметрычныя сякеры, апрацаваныя сколамі па ўсёй паверхні з краёў. У якасці рубячых прылад магчыма выкарыстоўваліся і некаторыя плоскія нуклеусы з адпаведна апрацаванымі вяршынямі. З іншых крамянёвых вырабаў былі шырока вядомы праколкі і пракруткі, шматлікія пласцінкі і адшчэпы з плоскай завостранай рэтушшу. Значная частка адшчэпаў мае стромкую рэтуш або падрэтушоўку.

На паўночным захадзе Беларусі ў ранненеалітычнай культуры выяўляюцца лакальныя асаблівасці. Так, на стаянках каля в. Панямонь Навагрудскага раёна шмат плоскіх нуклепадобных бакавых (рэтушных) разцоў, у тым ліку і двайных. Аднак асаблівасці найбольш прыкметныя ў кераміцы. У заходніх раёнах Панямоння (Русакова і Добры Бор на Шчары) грабеньчатыя арнаментальныя элементы значна ўступаюць па колькасці наколам і ўмяцінам. Тут жа на пазнейшай дубічайскай кераміцы ўжо з'яўляюцца адбіткі лінейнага штампа, што сведчыць пра першыя ўплывы з Павіслення. На ўсходзе тэрыторыі, асабліва на стаянках каля Сверынава і Русаковіч Стаўбцоўскага раёна, быў вядомы посуд са злёгку адагнутым краем венца, аздоблены ўмяцінамі, зробленымі канцом размачаленай палачкі, у спалучэнні з грабеньчатымі ўзорамі, што тыпова для верхнедняпроўскай і днепра-данецкай культур. Відаць, уплывамі з Падняпроўя можа тлумачыцца і адносна вялікая колькасць грабеньчатага арнаменту на кераміцы з вярхоўяў Нёмана.

Матэрыялы дубічайскага тыпу маюць бліжэйшыя аналогіі сярод старажытнасцей суседніх культур Усходняй і Паўночнай Беларусі — днепра-данецкай, нарвенскай і верхнедняпроўскай. Асабліва гэта назіраецца ў падабенстве керамікі — формах посуду, тэхналогіі яго вырабу, арнаментацыі. Некаторыя фрагменты гліняных вырабаў літаральна ідэнтычныя.

У асноўны арэал ранненёманскай культуры ўваходзілі Беларускае Панямонне і левабярэжжа Верхняй Прыпяці. Яе перыферыйнымі рэгіёнамі

былі поўнач Валынскай і Луцкай абласцей, Паўднёвая Літва да Алітускага раёна і частка Паўночна-Усходняй Польшчы (Возьна Весь). На ўсёй гэтай шырокай тэрыторыі можна выдзяляць і лакальныя варыянты культуры — валынскі, верхняпрыпяцкі і, магчыма, іншыя.

Як адзначалася вышэй, на ўсходзе і поўначы з панёманцамі суседзілі плямёны роднасных культур з грабеньчата-накольчатай керамікай. На прылеглых тэрыторыях Польшчы таксама існавала пэўным чынам культурна блізкае насельніцтва «ляснога неаліту», аднак на Сярэднім Павісленні і Пабужжы дамінавала земляробча-жывёлагадоўчая культура лейкападобных кубкаў. Такое ж назіралася і на поўдзень ад «дубічайцаў», дзе жылі носьбіты культуры лінейна-стужкавай керамікі.

Лысагорскі этап. Сярэдні этап нёманскай культуры прадстаўлены помнікамі тыпу Лысай Гары з адпаведнай (лысагорскай) керамікай. Колькасць паселішчаў узрасла, як і значна больш шматлікім стаў керамічны і крамянёвы матэрыял. Найбольш шырока знаходкі гэтага часу сустрэты на стаянках Лысая Гара каля в. Кругліца Стаўбцоўскага раёна. Шмат іх і на вярхоўях Нёмана (Русаковічы, Сверынава, Куцец).

Лысагорская кераміка прадстаўлена абломкамі тыпалагічна вытрыманых вастрадонных гаршкоў сярэдніх і буйных памераў з дыяметрамі па венцах 20—40 см (мал. 47: В; 50; 51: 1—10). Яны мелі плаўна выпуклы корпус, звужаную шыйку і даволі кароткае адагнутае венца. Найбольшы дыяметр пасудзін знаходзіцца прыкладна на 2/3 вышыні. Восевыя сячэнні дноў звыкла крыху большыя за прамыя і толькі ў рэдкіх выпадках ім раўняліся. Аднак некаторыя дны былі прыкругленыя і часам нават шыпаватыя. Гаршкі мелі рудую, шэра-рудую, шаравата-жоўтую афарбоўку з рознымі адценнямі, пры гэтым на ўнутраных паверхнях яны былі цямнейшыя, што абумоўлівалася кастровым абпалам. Але абпал быў даволі якасны, бо чарапкі ўвогуле светлыя, а на зломе амаль не бывае цямнейшага прапластка, нават у таўсцейшых фрагментаў.

Таўшчыня сценак ад 7—8 да 11—12 см. Каля дноў яны больш масіўныя. Іх паверхні добра загладжаныя. На знешніх часам прыкметная заглянцаванасць па ангобу. Аднак прасочваюцца і адбіткі раслінных валакністых рэшткаў, асабліва з сярэдзіны.

У гліняным цесце, з якога фармаваліся гаршкі стужкавым спосабам, ва ўмеранай колькасці адначасова дамешваліся раслінныя валакністыя рэшткі, жарства, шамот. Яно добра вымешанае, якаснае. Сценкі шчыльныя і моцныя. Удзельная вага лысагорскай керамікі вышэйшая, чым дубічайскай, — 1,7—2,25.

Асноўнымі арнаментальнымі элементамі на лысагорскай кераміцы (мал. 54) былі розныя наколы, умяціны, лініі, тарцовыя лапаткавыя адбіткі — лінейны штамп. Радзей сустракаліся насечкі, грабеньчатыя адбіткі, «семечкавыя» і тэкстыльныя ўзоры. Вельмі характэрныя наколы кантам нахіленай акруглай палачкі — капыткі. Часам такія наколы былі выцягнутымі або наносіліся амаль без адрыву арнаменціра ад паверхні гаршка. У выніку атрымліваліся характэрныя паскі. Умяціны звычайна рабіліся арнаменцірам з закругленым канцом, часам авальнай або аморфнай формы. Выкарыстоўвалася і «размачаленая» палачка. Сустракаюцца прачэрчаныя лініі, а часам і прагладжаныя. Тэкстыльныя адбіткі нешматлікія і невялікія па плошчы. Грабеньчатыя адбіткі і насечкі ў асноўным падобныя на дубічайскія.

Кожная пасудзіна аздаблялася адным арнаменцірам. Спалучэнні элементаў у адрозненне ад ранненеалітычнага часу сустракаюцца надзвычай рэдка — гэта звычайна наколы з прачэрчанымі лініямі.

Элементы арнаменту групуюцца, як правіла, гарызантальнымі апярэзанымі паясамі пераважна ў верхняй частцы пасудзін, але ў некаторых выпадках пакрываюць усю паверхню. Часам арнаментальныя паскі накіраваны коса або нават вертыкальна. Прачэрчаныя лініі амаль заўсёды косыя або ўтвараюць касасеткавыя кампазіцыі. Арнаменты звычайна разрэджаныя, каля 53% усіх знойдзеных чарапкоў без аздаблення.

Надзвычай характэрны для лысагорскай керамікі спосаб афармлення венцаў. Пад іх краямі звонку або з сярэдзіны на таўшчыню сценак наносіліся глыбокія наколы — трохкутным, чатырохкутным, паўкруглым, спічастым або зламаным арнаменцірам. У выніку на супрацьлеглай паверхні ўтвараліся выпукліны — сопачкі. Нярэдка такія глыбокія наколы наносіліся пачаргова на абедзвюх паверхнях. Зрэз венца, або яго ўнутраны скос, калі яны былі патончаныя, часцей за ўсё таксама аздабляўся — папярочнымі частымі насечкамі кантам нахіленай лапаткі, living рознымі ўмяцінамі, наколамі і нават грабеньчатымі адбіткамі.

Лысагорская кераміка ў сваёй аснове развілася з дубічайскай. Ужо ў ранненеалітычны час зараджаецца тып гаршка з выдзеленай шыйкай і крыху загнутым краем венца. У арнаментацыі працягваюць існаваць грабеньчатыя адбіткі, насечкі, розныя наколы і ямкавыя ўмяціны. Захавалася пераважна гарызантальная накіраванасць арнаментальных паскаў, іх канцэнтрацыя ў верхніх частках пасудзін, аздабленне зрэзаў венцаў і падкрэсліванне іх краю глыбокімі штампаванымі паглыбленнямі — у дадзеным выпадку наколамі. Ды і раслінныя дамешкі, хоць і адначасова з жарствой, сустракаюцца ў большасці лысагорскай керамікі.

Сустрэта і пэўная колькасць керамічнага матэрыялу пераходнага характару. Так, часам гаршкі з толькі расліннымі дамешкамі маюць глыбокія наколы пад венцам, у некаторых пасудзін лысагорскага тыпу пад венцам не наколы, а ямачкі і г. д.

Крамянёвы інвентар, які суправаджаў лысагорскую кераміку, больш шматлікі і разнастайны і выяўляе тыповыя неалітычныя рысы (мал. 56: В). Распаўсюджваюцца рэтушаваныя па перыметру трохкутныя наканечнікі стрэл з простай або злёгку ўвагнутай асновай. Вядомыя ножападобныя наканечнікі колючай зброі на востраканечных пласцінах, рэтушаваныя са спінкі, і асабліва на вастрыі. Шмат скрабкоў, якія фармаваліся пераважна на адшчэпах. Канцавых скрабкоў на пласцінках менш, бакавіны іх у большасці таксама зарэтушаваны. З'яўляюцца мысападобныя скрабкі. Стромкую рэтуш і падрэтушоўку маюць і многія адшчэпы, а таксама некаторыя пласцінкі. Шматліка прадстаўлены рэжучыя прылады на пласцінках, сустракаюцца і адшчэпы з плоскай рэтушшу. Нажы на пласцінках адналёзавыя і двухлёзавыя, маюцца пласцінкі з прытупленым стромкай рэтушшу скошаным канцом і завостранай рэтушшу на даўжэйшай бакавіне. Пэўную групу складаюць разцы. Тыпы іх розныя, але ўсё ж большасць складаюць вуглавыя.

Характэрны для развітага неаліту Панямоння выцягнута-авальныя або з завужанымі абушкамі сякеры, ахайна апрацаваныя па ўсёй паверхні сколамі і асабліва на лязе. Нуклеусы ў большасці аднапляцовачныя стажкаватыя.

Формы лысагорскага посуду істотна розняцца ад дубічайскіх і ад адначасовай керамікі суседніх роднасных культур — днепра-данецкай і верхне-

дняпроўскай, а таксама нарвенскай. Верагодней за ўсё тыповы лысагорскі гаршчок са звужанай шыйкай і выразным разгорнутым венцам развіўся пад уплывам культуры лейкападобных кубкаў, дзе надзвычай характэрны такія лейкаватыя пасудзіны. Адрозненне часам толькі заключаецца ў адсутнасці на вырабах з Беларусі плоскага дна. Посуд з шыйкай характэрны і для заходніх варыянтаў нарвенскай культуры (Ванкина, 1970; Rimantienė, 1979. С. 120—138), але, мусіць, і там ён узнік пад уплывам лейкападобнікаў. Лічым, што і гладкасценнасцю лысагорскі посуд абавязаны гэтаму ж уплыву. Мясцовая ж ранненеалітычная традыцыя вымагала б расчэсвання паверхняў грабеньчатым штампам, як гэта было праз увесь неаліт на суседніх тэрыторыях Падняпроўя (Калечиц, 1987) і на Ніжняй Прыпяці (Исаенко, 1976). Запазычаны ад лейкападобнікаў і лінейны штамп у арнаментацыі, а таксама звычай пакідаць на некаторых участках паверхні гаршкоў адбіткі грубага тэкстылю.

Аднак на Беларусі няма несумненных слядоў знаходжання саміх носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў. Таму выглядае, што ўплывы адбываліся апасродкавана, праз пранікненне на нашу тэрыторыю з захаду супольнасцей культуры (або культур?) польскага «ляснога неаліту» з накольчата-штампаванай керамікай, якая развівалася пры значным удзеле лейкападобнікаў (Gardawski, 1958; Kempisty, 1973).

Прыкметна, як гэтыя ўплывы з Цэнтральнай Еўропы ўзрастаюць у заходнім кірунку арэала нашай культуры. Так, на захадзе Панямоння менавіта адбіткі лінейнага штампа тарцом лапаткі дамінуюць у арнаментацыі лысагорскай керамікі і, наадварот, у вярхоўях Нёмана яны зусім нешматлікія. Тут распаўсюджанымі аздобамі на посудзе па-ранейшаму застаюцца накольчатыя і ў пэўнай ступені — з пракрэсленых ліній.

Межы нёманскай культуры на лысагорскім этапе на поўначы і ўсходзе практычна не змяніліся. У той жа час падобныя матэрыялы даволі часта сустракаюцца на паўночным усходзе Польшчы — у Мазовіі і на Падляшшы (Kempisty, 1973). Прафіляваная кераміка з глыбокімі наколамі пад краем венца і з арнаментам з лінейнага штампа выяўлена ў Цэнтральнай Польшчы (Olszewski, 1987). Аднак не маецца больш дакладных даных, як далека помнікі, падобныя на лысагорскія, распаўсюджваюцца за Віслу. Акрамя таго, уяўляецца, што там яны могуць скласці і некалькі адметную культурную групу. На ўскраінах неманскай культуры заўважаюць і іншыя ўплывы. На крайнім усходзе на кераміцы пачынаюць сустракацца лапчастыя ўзоры — адбіткі канца палачкі з абкручанай ніткай і мініяцюрныя сякеркі. Усё гэта элементы суседняй верхнедняпроўскай культуры. На крайняй поўначы і паўночным усходзе Панямоння сярод арнаментаў зрэдку прысутнічаюць вусеневыя адбіткі — уплыў з боку развітага этапу нарвенскай культуры. На Шчары зрэдку сустракаюцца нетыповыя для лысагорскіх матэрыялаў формы — гаршкі без выдзеленай шыйкі і з яйкападобным тулавам. Такая форма была характэрнай для днепра-данецкай культуры, помнікі якой ў гэты час займалі Ніжнюю Прыпяць (Исаенко, 1976).

**Дабраборскі этап.** Позні этап нёманскай культуры характарызуюць помнікі тыпу Добрага Бору з адпаведнай (дабраборскай) керамікай і крамянёвым інвентаром (Добры Бор і Падгорная Баранавіцкага, Русакова Слонімскага раёнаў).

Формы дабраборскіх гаршкоў увогуле засталіся ранейшымі, па сутнасці лысагорскімі. Толькі больш высокім стала венца і часам быў больш прыкметны перагіб на шыйцы (мал. 47: С; 51: 11; 52).

Кераміка мела пераважна шэра-руды колер, аднолькава афарбавана на абодвух баках пасудзін, злом не мае цямнейшага прапластка. Удзельная вага чарапкоў высокая — 2,075, як і належыць посуду са шчыльным фармовачным цестам без арганічных дамешак. Усё гэта сведчыць пра якасную апрацоўку і абпал посуду.

Гаршкі фармаваліся з гліны, у якую дамешваліся буйны пясок або жарства, а таксама шамот. Раслінныя дамешкі не адчуваюцца. Сценкі маюць таўшчыню 6—8 мм, ляпіліся са стужак, на днах — спіраллю. Краі венцаў часам фармаваліся з асобнай стужкі, у якую дабаўлялася ваўняная тоўстая нітка. Паверхні посуду загладжваліся пучком травы (?), ад чаго засталася тонкая і выразная або злёгку размытая падгарызантальная заштрыхоўка. Часам заштрыхоўка прыкметна толькі на адной паверхні.

Дыяметры посуду па венцах 20—35 см, дны ў асявых сячэннях прамыя або большыя за прамы вугал. Часам яны прыкругленыя або шыпаватыя.

Адметная рыса дабраборскай керамікі — шэраг глыбокіх круглых ямак пад краем венца з адпаведнымі жамчужынамі на супрацьлеглай паверхні, якія замянілі тут глыбокія наколы, характэрныя для папярэдняга часу. Ямкі пераважна наносіліся звонку, з сярэдзіны — радзей, часам пачаргова з абедзвюх паверхняў. Каля 1/3 зрэзаў венцаў мелі арнаментацыю з ямкавых наколаў, умяцін, насечак.

Найбольш распаўсюджанымі элементамі арнаменту на дабраборскай кераміцы з'яўляюцца розныя наколы, адбіткі лінейнага штампа і крыху менш «семечкавыя» адбіткі. Характэрны былі насечкі і прачэрчаныя лініі. Грабеньчатыя ўзоры, умяціны сустракаліся значна радзей. На некаторых фрагментах маюцца адбіткі грубага тэкстылю (мал. 55).

Наколы наносіліся канцом палачкі або трубачкі, былі і ямкавыя наколы, зрэдку — падтрохкутныя. Пры гэтым арнаменцір трымаўся нахіленым і элементы арнаменту атрымліваліся ў звычайнай для Панямоння адступаючай «скорапіснай» манеры. Так рабілася нават большасць адбіткаў тарцом лапаткі. Тарэц такога арнаменціра быў роўна абрэзаны або зламаны, мог быць закругленым, тонкім або даволі шырокім. «Семечкі» атрымліваліся пры адцісканні канца авальнай або лінзападобнай у папярочным сячэнні пласцінкі. «Семечкі» пераважна дробныя, часам у іх маецца перамычка або ледзь прыкметныя зубчыкі. Акрамя прачэрчаных ліній на некаторых фрагментах адзначаюцца даволі шырокія прагладжаныя паскі.

У пераважнай большасці выпадкаў адзначаныя вышэй элементы размяшчаліся разрэджанымі паясамі, пераважна сканцэнтраванымі ў верхняй частцы посуду. У той жа час прыкметная і ўскладненасць арнаментавання — паскі элементаў маглі размяшчацца коса, вертыкальна, перакрыжоўвацца, утвараць прамавугольнікі, ромбы, многавугольнікі. Прачэрчаныя лініі, як і на ранейшых тыпах керамікі, у асноўным размяшчаліся косай сеткай ад краю пасудзіны амаль да самага дна або былі накіраваны коса. Вострыя дны, калі гаршчок арнаментаваўся пераважна толькі каля шыйкі, часам таксама былі аздобленыя. Неарнаментаваных фрагментаў дабраборскай керамікі крыху больш паловы.

Крамянёвы інвентар у асноўным захаваў лысагорскія тыпы. Аднак у познім неаліце больш шырока ўжываліся серпападобныя нажы і трохкутныя з увагнутай асновай наканечнікі стрэл. Узрасла колькасць сякер. Яны сталі пераважна вузкаабушнымі, ахайна апрацаванымі сколамі па ўсёй паверхні, лёзы часам прышліфоўваліся. Скрабкі атрымліваюць часам доўгую, наблі-

жаную да струменьчатай рэтуш на скрабніцах, часам на іх адмыслова апрацоўвалася базальная частка, якая ператваралася ў выяўлены насад. Нуклеусы таксама адрозніваюцца ахайнымі аднапляцовачнымі формамі.

Матэрыялы дабраборскага тыпу займаюць асноўнае месца на помніках Заходняга Панямоння. Менавіта там найбольш характэрныя знаходкі дабраборскага этапу нёманскай культуры, дзе ён найбольш інтэнсіўна развіваўся, быў найбольш працяглы і храналагічна. На ўсходзе ж Панямоння тэты этап прадстаўлены слабей, менш выразна. На мясцовым матэрыяле верхняга Нёмана адчуваюцца пераежыткі лысагорскага этапу, маюцца змешаныя тыпы. Прыкметна, што на гэтай культурнай перыферыі дабраборскі этап развіваўся кароткі час, непаўнакроўна.

Позні этап нёманскай культуры развіваўся пасля заняпаду культуры лейкападобных кубкаў, калі на яе змену ў Цэнтральнай Еўропе прыйшла культура шарападобных амфар. Услед з'явіліся і носьбіты культуры шнуравой керамікі. Гэтыя дзве культуры аказалі істотны ўплыў на нёманскае познанеалітычнае насельніцтва. Так, хоць керамічныя арнаменты з адбіткаў лінейнага штампа паходзяць яшчэ з лысагорскага этапу, але яго прыкметнае пашырэнне і разнастайнасць у новы час відавочна адбыліся пад уздзеяннем шарападобнікаў. Гэтым жа можа тлумачыцца і далейшае існаванне тэкстыльных адбіткаў. Звычай заштрыхоўкі дабраборскай керамікі мог быць запазычаны ад пазнейшых шарападобнікаў, а таксама і ад шнуравікоў, якія часам пакрывалі свае вырабы штрыхоўкай. Носьбіты культуры шарападобных амфар нейкі час жылі на захадзе, а таксама, магчыма, і ў цэнтры Панямоння сярод мясцовага познанеалітычнага насельніцтва (Чарняўскі, 1992). Сляды ж знаходжання шнуравікоў засведчаны ў матэрыялах практычна большасці мясцовых помнікаў канца 3 — пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. Пад гэтым уплывам узніклі гібрыдныя культурныя формы, для якіх характэрны танкасценны добра абпалены посуд неалітычных вастрадонных формаў без традыцыйных ямак або наколаў пад краем венца, а часам са шнуравымі адбіткамі, якія спалучаюцца з паскам ямак.

Большасць меж нёманскай культуры на дабраборскім этапе заставаліся ранейшымі. Неабходна толькі адзначыць, што на захадзе арэалу — у басейне Віслы — яна адчувала асабліва моцны ўплыў з боку мясцовых развітых культур з вытворнымі формамі гаспадарання. Таму тут утварыліся пераходныя гібрыдныя культурныя групы, помнікі якіх патрабуюць далейшага больш дэталёвага даследавання.

Храналогія нёманскай культуры. Стратыграфічныя назіранні пры раскопках стаянак і тыпалагічны аналіз атрыманых матэрыялаў дазваляюць даволі ўпэўнена праводзіць шкалу адноснай храналогіі этапаў нёманскай культуры: дубічайскі — лысагорскі — дабраборскі. Пытанні ж абсалютнай храналогіі можна рашаць толькі з прыцягненнем даных з суседніх тэрыторый.

Ранненеалітычная кераміка са стаянкі нарвенскай культуры Зацэнне Лагойскага раёна — гэта суседні з Панямоннем басейн Бярэзіны Дняпроўскай — тыпалагічна вельмі блізкая да дубічайскіх матэрыялаў і датуецца часам 3580 ± 60 гадоў да н. э. (Долуханов і інш., 1976. С. 819). Падобныя знаходкі з Прыбалтыкі таксама адносяцца да 4-га тысячагоддзя і нават да яго першай паловы (Долуханов і інш., 1970. С. 101). Як лічыцца, у пачатку 4-га тысячагоддзя ўжо ўжывалася дубічайская кераміка і ў Літве (Римантене, 1966. С. 56). Важныя даныя атрыманы пры вывучэнні пахавання з Перкунова на Мазурах, якое даследчыкі адносяць да грабеньчата-

ямкавай культуры дакерамічнага этапу і якое паказала ўзрост каля 3700 гадоў да н. э. (G ł o s i k, 1969). Мяркуецца, што нябожчык з Перкунова пры жыцці ўжо быў знаёмы з керамікай, а гэта тэрыторыя знаходзіцца пры ўскрайку нёманскай культуры.

Такім чынам, прыведзеныя факты дазваляюць адносіць пачатак нёманскай культуры да першай паловы 4-га тысячагоддзя да н. э.

Калі браць пад увагу ўплыў на фарміраванне лысагорскага этапу нашай культуры лейкападобнікаў, важна ўлічваць час бытавання апошніх на тэрыторыі Польшчы — з сярэдзіны 4-га тысячагоддзя да н. э. (Prahistoria.., 1979. С. 175, 177). Іх магчымыя ўплывы на культуру з грабеньчатай керамікай Падляшша адносяць да пачатку 3-га тысячагоддзя да н. э. (K e m p i s t y , 1973. S. 61). Нядаўнім часам у Цэнтральнай Польшчы (Кажэчнік Конінскага ваяводства) праведзены раскопкі стаянкі з керамікай, блізкай да лысагорскай, дзе атрымана дата 2940 ± 100 гадоў да н. э. (O ł s z e w s k i, 1987. S. 52, 53). З гэтага вынікае, што афармленне «лысагорскіх» асаблівасцей за Віслай магло адбывацца на мяжы 4-га і 3-га тысячагоддзяў да н. э. На Беларускім Панямонні гэта праходзіла некалькі пазней — прыкладна ў пачатку 3-га тысячагоддзя да н. э.

Таксама складана вызначыць храналагічны рубеж паміж сярэднім і познім этапамі нёманскай культуры. Культура шарападобных амфар, уплыў якой на захадзе Беларусі выяўляецца з самага пачатку існавання дабраборскага этапу, распаўсюдзілася на Падляшшы і Панямонні ў сваёй пазнейшай фазе — каля 2200—2000 гадоў да н. э. (K e m p i s t y, 1971; S z m y t, 1996. S. 10). Прыблізна ў гэты час тут з'явіліся носьбіты культуры шнуравой керамікі, якія таксама мелі пэўны ўплыў на этнакультурныя працэсы на гэтых тэрыторыях. Такім чынам, пачатковая фаза дабраборскага этапу развівалася ў апошняй чвэрці 3-га тысячагоддзя да н. э.

Нейкія групы «ляснога неаліту» ў Польшчы змаглі праіснаваць да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. і нават нейкім чынам удзельнічалі ў фарміраванні сярэднябронзавай тшцінецкай культуры (G a r d a w s k i, 1958. S. 305—306; K e m p i s t y, 1973. S. 68). Неалітычныя «нёманскія» арнаментальныя элементы сустракаюцца і на тшцінецкіх матэрыялах Заходняй Беларусі.

Дабраборцы, калі меркаваць па таўшчыні культурных напластаванняў на стаянках і багацці крамянёвых і керамічных матэрыялаў, былі шматлікім народам і, мабыць, працяглы час дамінавалі на сваіх спрадвечных землях, нягледзячы на з'яўленне тут і актыўных іншакультурных груп. Аднак арэал нёманскай культуры на пазнейшым этапе некалькі скараціўся — яна была цалкам выцеснена шарападобнікамі з Валыні.

**Помнікі нёманскай культуры: стаянкі і майстэрні.** На сёння на паўночным захадзе Беларусі вядома больш 100 стаянак нёманскай культуры з выяўленым пластом і некалькі крэмнеапрацоўчых майстэрань.

Стаянкі найчасцей размяшчаліся на краях тэрас каля вусцяў нёманскіх прытокаў або паблізу старыц і на поймавых дзюнах, але зноў жа паблізу рыбных вадаёмаў са стаячай вадой. У зручных мясцінах яны ўтваралі скапленні па пяць і больш паселішчаў. Такое адзначана каля Сверынава і Русаковіч Стаўбцоўскага раёна на вярхоўях Нёмана, у вусцях Ушы і Сэрвачы каля Ярэміч Карэліцкага і Панямоні Навагрудскага раёнаў, паміж Добрым Борам і Падгорнай на Шчары ў Баранавіцкім раёне, на поўнач ад Слоніма на правабярэжжы той жа Шчары, на заходнім узбярэжжы возера Рыбніца ў

Гродзенскім раёне і ў некаторых іншых месцах. У сваю чаргу вылучаюцца і цэлыя рэгіёны з адносна вялікай колькасцю як скапленняў, так і асобных стаянак — вярхоўі Нёмана ад Пясочна прыкладна да Любчы, сярэднія цячэнні Шчары і Зальвянкі, гродзенскае Паазер'е. Памежныя ж зоны між рэгіёнамі, нават пры наяўнасці даволі зручных рыбных мясцін, былі ў неаліце даволі слаба асвоеныя чалавекам. Уяўляецца, што густа заселеныя рэгіёны адпавядаюць племянным тэрыторыям, між якімі існавала буферная прастора.

У вярхоўях Нёмана матэрыялы дубічайскага тыпу прадстаўлены, хоць і ў адносна невялікай ступені, на ўсіх неалітычных даследаваных помніках. Аднак пры наяўнасці шматлікіх знаходак пазнейшых этапаў нёманскай культуры цяжкавата выдзеліць на іх раннія крамянёвыя формы. У гэтых адносінах выключэнне мае стаянка **Русаковічы-1**, дзе неаліт абмежаваны практычна толькі дубічайскім этапам, а наяўныя сярэднябронзавыя дамешкі прыкметна адрозніваюцца ад астатняга матэрыялу (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 38—39).

Стаянка знаходзіцца на адлегласці 1 км на захад ад в. Русаковічы Стаўбцоўскага раёна на самым высокім з пясчаных бугроў сярод левабярэжнага нёманскага поплаву. Бугор мае памеры 80х90 м, вышыню над поплавам каля 4 м. Раней паверхня помніка разворвалася, зараз яна задзярнованая.

На стаянцы быў закладзены раскоп плошчай 214 м², у якім знаходзіўся шэры культурны пласт таўшчынёй да 0,5—0,6 м, падасланы жоўта-шэрым мацерыковым пяском. У мацерыку знаходзілася некалькі розначасовых паглыбленняў, пераважна позняга паходжання.

Пласт насычаны знаходкамі — абломкамі посуду і апрацаванымі крамянямі — адносна слаба. Пераважная большасць — розныя адшчэпы, пласцінкі і абломкі крэменю. Каля сотні артэфактаў маюць другасную апрацоўку або з'яўляюцца нуклеусамі (мал. 48: 4—18).

Ранненеалітычную кераміку складаюць пераважна невялікія абломкі посуду (67 фрагментаў). Гэта былі шэра-рудыя вастрадонныя гаршкі з крыху зведзенымі верхнімі часткамі і плаўна выступаючым корпусам (мал. 48: 1—3). Сценкі з багатымі дамешкамі валакністых арганічных рэшткаў дрэнна абпаленыя і рыхлыя, таўшчыня іх 7—8 мм. Паверхні перад абпалам раўняліся зубчатымі пласцінкамі, ад чаго засталіся выразныя расчосы. Менавіта на матэрыялах з Русаковіч-1 добра прыкметна, што швы на гліняных стужках, з якіх фармаваліся сценкі гаршкоў, злучаліся такім жа расчэсваннем, а затым дадаткова прыкрываліся тонкімі пластамі глінянай масы.

Венцы большасці ранненеалітычных гаршкоў са стаянкі простыя, толькі ў адзінкавых выпадках краі іх ледзь адагнуты. Усе яны пад краем венца маюць шэраг глыбокіх круглых ямак. Зрэзы пераважна без арнаменту, толькі фрагменты са злёгку адагнутым краем аздоблены папярочнымі насечкамі ды на адной пасудзіне кароткія грабеньчатыя адбіткі меліся на ўнутранай паверхні пад зрэзам.

Ранненеалітычная кераміка са стаянкі арнаментавалася пераважна толькі ў верхняй частцы пасудзін, некаторыя з іх былі зусім пазбаўлены аздаблення, калі не лічыць традыцыйных круглых ямак пад краем венца ды аздаблення яго зрэзу.

За рэдкімі выключэннямі гаршкі ўпрыгожваліся грабеньчатымі ўзорамі. Гэта былі пераважна частыя гарызантальныя паскі нахіленых управа, а часам размешчаных ялінкай кароткіх або сярэдніх па даўжыні адбіткаў, вертыкальных паскаў, спалучэнняў рознанахіленых паясоў.

Крэмень на помніку тыповы для вярхоўяў Нёмана, ён цёмна-шэры, мясцінамі шэры, са шклістай паверхняй.

Значную групу складаюць скрабкі. Сярод іх шырока прадстаўлены канцавыя на пласцінках, а таксама на адшчэпах розных формаў. Рэтуш часта апускаецца са скрабніцы на бакавіны. Авальная масіўная прылада магла ўжывацца як скрэбла. Скобля таксама знойдзена адна. Малалікія і разцы. Наканечнікі стрэл на помніку трохкутныя з простымі асновамі. Трапілася адно вастрыё яніславіцкага тыпу. Мікралітамі былі чатырохкутны ўкладыш і трохкутнік. У калекцыі маецца некалькі праколак і пракрутак. Больш прадстаўнічыя рэжучыя прылады, у асноўным яны сфармаваны на пласцінках. З рубячых вядомыя сякеры на расшчэпленай канкрэцыі і авальнае цясла. Асобную групу складаюць камбінаваныя вырабы.

Нуклеусы з Русаковіч-1 усе аднапляцовачныя.

Стаянка **Русаковічы-7** размешчана праз 1,5 км на ўсход ад Русаковіч на пясчаным поймавым грудзе пры левабярэжнай старыцы Нёмана. Тут ускрыта 120 $м^2$ культурнага пласта таўшчынёй да 0,5—0,6 м (Чарняўскі, 1979. С. 39—40).

Большасць дубічайскай керамікі на помніку (102 фрагменты) прадстаўлена абломкамі двух блізкіх па тыпу гаршкоў з намечаным пераломам у верхняй частцы корпуса. Пасудзіны арнаментаваныя адбіткамі простага або злёгку выгнутага грэбеня, пастаўленымі ў гарызантальных пасках нахільна або ялінкай. На двух чарапках ад трэцяга гаршка маюцца наколы. Крыху менш чым палова ўсіх фрагментаў дубічайскай керамікі не мела аздаблення.

Лысагорская кераміка (87 фрагментаў) арнаментаваная наколамі кантам палачкі, прагладжанымі лініямі, насечкамі, грэбенем. Да дабраборскага тыпу (20 фрагментаў) належаць абломкі гаршкоў з падгарызантальнай заштрыхоўкай, арнаментаваных «семечкавымі» ўзорамі і адбіткамі кароткага грэбеня.

Крамянёвыя вырабы на помніку (92 экз.) невялікія па памерах. Яны прадстаўляюць звычайныя для нёманскага неаліту формы. Найбольш рэжучых прылад, на пласцінках і адшчэпах фармаваліся скрабкі. Разцоў мала. Наканечнік стралы адзін — трохкутны з невялікай выемкай у аснове. Адно і вастрыё яніславіцкага тыпу. Сустракаюцца камбінаваныя прылады. Нуклеусы аднапляцовачныя і аморфныя.

Стаянка **Русаковічы-9** знаходзіцца на паўночны ўсход ад вёскі праз 1,5 км, ва ўрочышчы Высокі Груд на правабярэжным поплаве Нёмана. Раскопкамі тут даследавана 160 м (Чарняўскі, 1979. С. 40—42),

Даволі шмат на помніку дубічайскай керамікі (123 фрагменты). Яна па форме, тэхналогіі і арнаментах практычна ідэнтычная знаходкам з Русаковіч-1 і 7. Аднак найбольш у раскопе атрымана матэрыялу лысагорскага тыпу (381 фрагмент). Самы тыповы арнамент на ім — паясы плыткіх акруглых або авальных паглыбленняў ад пераважна размачаленай палачкі. Другую па колькасці групу складалі гаршкі з рэдкімі паясамі «капыткоў». Вядомы таксама насечкі, прачэрчаныя лініі, лапчастыя наколы, «семечкі», адбіткі тарцом лапаткі. Дабраборская кераміка (45 фрагментаў) вельмі блізкая такой жа з Русаковіч-7.

У крамянёвым інвентары шырока прадстаўлены скрабкі, з іх 20 — канцавыя на пласцінках, рэжучыя прылады (каля 120 экз.). Параўнальна шмат разцоў (31 экз.). Трохкутныя наканечнікі стрэл (7 экз.) маюць увагнутыя асновы, наканечнікі дроцікаў (3 экз.) лістападобныя з аднабаковай рэтушшу. Яніслаўцкае вастрыё адно. Закончаныя нуклеусы пераважна невялікія аднапляцовачныя.

Стаянка **Куцец-1** знаходзіцца на поймавым грудзе правабярэжжа Нёмана на поўдзень ад в. Куцец Стаўбцоўскага раёна. Ускрыта 176 $м^2$ (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 41—42).

Кераміка дубічайскага тыпу на помніку (121 фрагмент) арнаментавана пераважна грабеньчатымі адбіткамі, якія часам спалучаліся з адбіткамі канцом размачаленай палачкі або прагладжанымі і прачэрчанымі лініямі. Сустракаюцца і «капыткі». Фрагменты гаршкоў лысагорскага тыпу (217 фрагментаў) акрамя звычайных для рэгіёна элементаў арнаменту маюць адбіткі, падобныя на грубы тэкстыль. Некаторыя гаршкі маюць заштрыхоўку, што сведчыць пра ўплыў дабраборскага стылю. Грабеньчатыя ўзоры сустракаюцца і на кераміцы дабраборскага тыпу (дабраборскіх фрагментаў — 79). Акрамя іх вядомы розныя наколы, насечкі, адбіткі тарцом лапаткі. На некаторых чарапках прыкметныя перажыткі ранейшага часу — дамешкі ў гліняным цесце расліннасці.

Лысагорскі этап нёманскай культуры выдзелены па матэрыялах стаянкі **Лысая Гара.** Помнік размешчаны на паласе тэрасы паміж правым берагам Нёмана і ўзгоркам Лысая Гара, праз 1 км на паўднёвы ўсход ад в. Кругліца Стаўбцоўскага раёна. Заходняя частка стаянкі заціснута на вузкай паласе паміж узгоркам і ракой, а ўсходняя — каля берагавога агалення «Жоўты бераг» пашыраецца да 70 м. У даўжыню з усходу на захад паселішча выцягнута было ўздоўж берага на 150 м. Тут ускрыта 405 $м^2$ культурнага пласта таўшчынёй да 0,7 м (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 32—38).

У заходняй частцы раскопу знаходзілася агнішча дыяметрам каля 1 м, у запаўненні якога сустракаліся і дробныя камяні. Другія агнішчы, якія выкладаліся з камянёў, могуць адносіцца да бронзавага веку.

Ранняй дубічайскай керамікі на помніку знойдзена адносна мала (123 фрагменты). Яна тэхналагічна вытрыманая, уся даволі танкасценная, грабеньчатых адбіткаў на сценках столькі ж, як і наколаў. Значна менш насечак і розных умяцін. Элементы размяшчаюцца звычайна рэдкімі гарызантальнымі паясамі, часам толькі пад венцам. Перад нанясеннем узору прагладжваліся гарызантальныя мала прыкметныя паглыбленні, якія служылі арыенцірам для арнаментоўшчыка.

Найбольш раннім крамянёвым матэрыялам з Лысай Гары з'яўляюцца постсвідэрскія наканечнікі стрэл, вастрыі яніслаўіцкага тыпу, мікрапласцінкі з прытупленай спінкай, трапецыя, серыя канцавых скрабкоў на пласцінках. Аднак частка гэтых знаходак можа быць аднесена яшчэ да дубічайскай.

Асабліва прадстаўнічая на помніку кераміка лысагорскага тыпу (мал. 51: 1—10). Добра абпаленыя гаршкі мелі плаўна выпуклае тулава, звужаную шыйку і адагнутае ўвогуле караткаватае венца. Паверхні сценак з расліннымі і мінеральнымі дамешкамі добра загладжаныя.

Адной з самых вызначальных рыс гэтай керамікі з'яўляецца спосаб фармавання і аздаблення венцаў гаршкоў. Пад іх краямі практычна заўсёды наносіліся глыбокія, на таўшчыню сценкі, падтрохкутныя, паўкруглыя, аморфныя або іншай формы наколы. Такія наколы былі звонку або з сярэдзіны, але найчасцей пачаргова з абодвух бакоў. Пры гэтым спачатку рабіліся наколы з сярэдзіны. Пры такім спосабе арнаментацыі край венца амаль заўсёды быў крыху загнуты ўсярэдзіну, а пад ім узнікаў рад выпуклін-сопачак, якія спалучаліся ў характэрны валік. Часам такое валікападобнае патаўшчэнне наляплялася наўмысна. Самі краі венцаў былі крыху патоўшчаныя, нярэдка скошваліся ўсярэдзіну, пры гэтым яны найчасцей аздабляліся папярочнымі або

скошанымі насечкамі, часам наколамі і ўмяцінамі. У некаторых выпадках арнаментаваўся толькі ўнутраны або знешні край зрэзу.

. Арнаменты складаліся з розных наколаў, прачэрчаных і прагладжаных ліній, умяцін, грабеньчатых адбіткаў, часам наколаў. Наколы даволі разнастайныя, у тым ліку і падтрохкутныя. Розную форму мелі і ўмяціны, сярод іх былі адбіткі канцом размачаленай палачкі. Найчасцей элементы арнаменту ўтваралі апярэзаныя паясы, якія ўвогуле групаваліся разрэджана, пераважна ў верхняй частцы посуду. Тонкія прачэрчаныя лініі наносіліся нахілена — коса або ўтваралі касасеткавыя кампазіцыі. Грабеньчатыя элементы, як і насечкі, часцей групаваліся ў ялінкі. У некаторых выпадках назіраецца ўскладненне арнаментацыі — з'яўляюцца перарывістыя паскі, спалучэнні гарызантальных і косых ліній, ламаныя кампазіцыі.

Пазнейшы крамянёвы інвентар на стаянцы Лысая Гара даволі шматлікі і. разнастайны. Змайстраваны ён з характэрнага для вярхоўяў Нёмана цёмнашэрага шклопадобнага крэменю высокай якасці.

Для лысагорскага этапу сталі характэрны трохкутныя наканечнікі стрэл з простай асновай, рэтушаваныя або падрэтушаваныя па краях. Пры гэтым рэтуш кароткая, часам пакрывае бакі наканечнікаў толькі з адной плоскасці. Наканечнікі дроцікаў былі лістападобныя, рабіліся з вялікіх пласцінак шляхам рэтушоўкі са спінкі. Маглі быць такімі наканечнікамі і лістападобныя лінзаватага сячэння крэмені са сколамі на абедзвюх паверхнях. Але яны па якасці апрацоўкі непараўнальна ўступаюць ахайна апрацаваным наканечнікам культур грабеньчата-ямкавай керамікі.

Асабліва шмат скрабкоў. Значная частка іх пласціначныя канцавыя, на якіх рэтуш апускаецца і на бакавіны. Аднак большасць скрабкоў майстравалася з розных, пераважна падавальных адшчэпаў. Стромкую скрабковую рэтуш маюць і некаторыя пласцінкі, а таксама цэлая група адшчэпаў аморфнай формы.

Другую па колькасці групу складаюць рэжучыя прылады. Гэта пераважна аднalязовыя, а то і двухлязовыя нажы на пласцінках, адшчэпы з плоскай завостранай рэтушшу. Праколкі і пракруткі выраблялiся пераважна з востраканечных пласцінак. Сярод разцоў пераважаюць вуглавыя экземпляры на пласцінках, радзей на адшчэпах і розных сколах з нуклеусаў.

Пэўная колькасць адшчэпаў, пласцінак і абломкаў мела рэтушаваныя скоблевыя выемкі.

Выразную групу складаюць сякеры і сякерападобныя вырабы. Найбольш тыповыя экземпляры са звужаным абушком і закругленым лязом, ахайна апрацаваныя сколамі па ўсяму перыметру. Сустрэты і выцягнутаавальныя вырабы. Некаторыя асіметрычныя знаходкі з'яўляліся цёсламі.

Маюцца камбінаваныя прылады, у якіх спалучаны нажы, скрабкі, праколкі, скоблі.

Пераважная большасць нуклеусаў аднапляцовачныя, стажкаватыя, з адшчэпняй на пярэдняй выпуклай плоскасці, з заходам негатываў пласцінак або адшчэпаў на бакавіны. Зрэдку сустракаюцца нуклеусы клінаватыя, з адшчэпнямі па перыметру, чарапахападобныя.

У якасці адбойнікаў ужываліся ў асноўным крамянёвыя галькі, выступы на якіх моцна забітыя.

Дабраборскай керамікі на Лысай Гары знойдзена толькі 19 экземпляраў. Большасць іх належала моцна прафіляванаму гаршку з гарызантальнымі паясамі адступаючых адбіткаў вузкай лапаткі (мал. 51: 11). Адначасо-

вымі гэтай кераміцы маглі быць серпападобныя нажы і крамянёвыя сякеры з прышліфоўкай.

Уніз па Нёману раскопкамі даследаваліся стаянкі ў вусцях Ушы і Сэрвачы. На пункце Ярэмічы-3 каля в. Ярэмічы Карэліцкага раёна (ускрыта 40 м²) атрыманы матэрыялы пераважна дубічайскага этапу нёманскай культуры (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 29—32). Ранняя кераміка тут асабліва таўстасценная (8—11 мм) і мае выразны ангоб на знешніх паверхнях. Прыкладна аднолькавае месца на ёй займаюць грабеньчатыя адбіткі, насечкі, наколы, прачэрчаныя лініі. Умяцін і іншых элементаў менш. Гэта кераміка суправаджалася невялікай колькасцю трапецый, вастрый са скошаным канцом. Вядомы таксама трохкутныя наканечнікі стрэл з легка выступаючай асновай, канцавыя скрабкі і інш.

На стаянцы **Бабінка** каля в. Панямонь у вусці Сэрвачы (68 м²) таксама пераважала дубічайская кераміка, арнаментаваная ў большасці грабеньчатымі адбіткамі (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 24—29). У крамянёвым інвентары звяртае ўвагу пераважнасць мезалітычных рыс. Аднак не выключена, што мясціна была заселена яшчэ да неаліту.

У сярэднім цячэнні Шчары найбольш даследаванай з'яўляецца стаянка **Русакова-2.** Яна размешчана праз 1,5 км на поўнач ад в. Русакова Слонімскага раёна, на пясчанай дзюне плошчай 40x75 м. Тут ускрыта 1024 м² культурнага пласта, які ў цэнтры помніка дасягаў таўшчыні да 0,9 м (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 9—20).

Фрагменты дубічайскай керамікі на Русакова-2 адносна тоўстыя — у сярэднім 9 мм (1158 экз.). Пры дамінацыі раслінных дамешак у іх часам назіраецца невялікая колькасць тоўчанага вапняку. Удалося заўважыць, што пры лепцы гаршкоў край венца фармаваўся з асобнай тонкай стужкі, якая прымацоўвалася з вонкавага скосу ніжэй. Часам у стужку краю венца для ўмацавання памяшчаўся пасак з лубу. Для гэтай жа мэты прымянялі і лубяную абвязку па знешняму краю венца, ад якой месцамі засталіся адбіткі.

Больш паловы венцаў дубічайскіх гаршкоў з Русакова-2 прамыя. Некаторыя злёгку зведзеныя, астатнія пераважна лёгка адагнутыя. Зрэзы венцаў таксама розныя — пераважна закругленыя, часам патончаныя, скошаны ўсярэдзіну, сплюшчаныя, з наплывам на ўнутраным краі. Большасць зрэзаў арнаментаваныя.

Усе венцы, што тыпова для ранняй керамікі, пад краем маюць пояс з глыбокіх круглых ямак. Пры гэтым у 2/3 выпадкаў яны размешчаны звонку, у астатніх — з сярэдзіны гаршкоў (мал. 49).

Элементы арнаментаў дубічайскага посуду на помніку тыповыя для гэтага часу. Сустракаецца і адносна новы ўзор — адбіткі тарцом злёгку нахіленай лапаткі. Трэба адзначыць малалікасць грэбеня і насечак (мал. 49).

Адзначаныя элементы ўтваралі таксама звычайныя для ранняга этапу нёманскай культуры кампазіцыі. Сярод іх некалькі экзатычнымі былі гарызантальныя прачэрчаныя лініі, вертыкальна прачэрчаная сетка. Адносна шмат сустрэта камбінаваных арнаментаў.

Акрамя звычайных вострых дноў у Русакове-2 вядома некалькі акруглых з шыпам. Адно дно з сярэдзіны мела глыбокія наколы востраканечнага арнаменціра.

Асобную групу складаюць матэрыялы прамежкавага (пераходнага) характару ад дубічайскага да лысагорскага тыпу. Для такіх гаршкоў характэрна лысагорскае адагнутае венца з плаўна загнутым унутр краем; ямкі з двух ба-

коў, з'яўленне разам з раслннымі дамешкамі жарствы, малапрыкметнасць грабеньчатага расчэсвання сценак. Менавіта на гэтай кераміцы ўпершыню , з'яўляюцца адбіткі тарцом лапаткі.

З калекцыі крамяневых вырабаў да ранненеалітычнага часу адносяцца нешматлікія двайныя канцавыя скрабкі на пласцінках. Некаторыя з іх маюць дадатковую бакавую рэтуш. Ранняй можна лічыць і частку адзінкавых канцавых пласцінача скрабкоў, а таксама некаторыя тыпы разцоў (пераважна бакавых) і рэжучых вырабаў на пласцінках. Стратыграфічныя назіранні паказваюць, што ў ніжніх пластах стаянкі некалькі павялічваўся працэнт вырабаў на пласцінках, як і разцоў, адносна скрабкоў. Адначасовымі мясцовай дубічайскай кераміцы маглі быць траншэпадобныя рубячыя прылады, некаторыя кароткія прызматычныя нуклеусы постсвідэрскага тыпу.

Калі меркаваць па характару ранненеалітычнай керамікі (наяўнасці пераходных да сярэдненеалітычнага часу тыпаў) і па малалікасці найбольш архаічнага крамянёвага інвентару, знаходкі дубічайскага тыпу на Русакове-2 могуць адносіцца да канчатковай фазы першага этапу нёманскай культуры.

Пры значнай блізкасці сярэдненеалітычнага (лысагорскага) матэрыялу з Русакова-2 (1284 экз.) адначасовым комплексам з вярхоўяў Нёмана маюцца і некаторыя рэгіянальныя асаблівасці. Так, на Сярэдняй Шчары значна вырастав роля ў арнаментацыі керамікі адбіткаў канцом лапаткі. Лапаткі-арнаменціры былі, як правіла, адносна вузкія, са зламаным або роўным тарцом. Адбіткі наносіліся пераважна адступаючай лапаткай без адрыву або амаль без адрыву ад паверхні, у выніку атрымліваліся характэрныя арнаментальныя ланцужкі. Значна менш сустракаецца «капыткоў» — наколаў кантам палачкі. Сярод іншых элементаў вядомы наколы нахіленым вастрыём, кароткія насечкі, падавальныя і «семечкавыя» наколы і ўмяціны, ямкавыя наколы і ўмяціны, адбіткі грэбеня, прачэрчаныя лініі, наколы вуглом пласцінкі (мал. 50).

Выразную групу знаходак на стаянцы Русакова-2 складаюць матэрыялы позняга (дабраборскага) этапу нёманскай культуры.

Да дабраборскай керамікі (1801 экз.) належаць абломкі добра абпаленых гаршкоў з таўшчынёй сценак ў 5—10 мм (мал. 52: 1—6, 8, 9). Дамешак жарствы ў цесце сценак увогуле мала, раслінныя не прыкметныя зусім. Пры характэрнай заштрыхоўцы паверхняў усяго матэрыялу заўважана, што яна больш выразная на танкасценных чарапках. Дыяметры пасудзін-гаршкоў па венцах 21—35 см. Трэцяя частка зрэзаў венцаў арнаментавана. У большасці выпадкаў пад іх краем маецца рад круглых глыбокіх ямак, прыблізна ў пяць разоў менш такіх жа глыбокіх наколаў.

Элементы арнаменту на посудзе складаюцца з тарцовых адбіткаў лапаткі, лінзаватых і авальных адбіткаў — «семечак», ямкавых наколаў, «капыткоў», кароткіх насечак, прачэрчаных і прагладжаных ліній, грабеньчатых адбіткаў, падтрохкутных невыразных адступаючых наколаў, ямкавых умяцін, тэкстыльных адбіткаў. Прыкметна, што сярод гэтых элементаў грабеньчатыя адбіткі займалі невялікае месца.

Пры агульнай гарызантальнай накіраванасці ўвогуле разрэджаных паясоў арнаменту, які часта меўся толькі ў верхняй палове гаршка або толькі на венцы, на мясцовай дабраборскай кераміцы ў параўнанні з лысагорскай назіраецца ўскладненне арнаментацыі.

Былі сустрэты гарызантальныя ялінкі з насечак, «семечак», грабеньчатых адбіткаў, гарызантальныя і вертыкальныя зігзагі з «капыткоў», адсту-

паючых наколаў вузкай лапаткі і ямкавых наколаў, касасеткавыя лініі з наколаў, вертыкальныя арнаментальныя зоны з «капыткоў» і ямкавых наколаў, косыя сеткі, спалучэнні элементаў рознай формы і накіраванасці, сотавыя ўзоры з шасцікутнікаў, косыя лініі з кручкамі.

Удалося ўзнавіць форму і характар арнаментыкі шэрагу гаршкоў. У пасудзіны дыяметрам па венцу 16—18 см ямкі або наколы пад краем адсутнічалі, зрэз венца таксама быў не аздоблены. Паверхні гаршка пакрывалі гарызантальна выгнутыя шасцікутнікі з ліній «капыткоў», сабраныя паясамі. Дно вырабу не арнаментавалася.

Гаршчок дыяметрам па венцу 23 см, з ямкамі пад брыжам, аздабляўся перасечанымі лініямі «капыткоў», якія ўтваралі косаячэістую сетку. Унутры ячэек-ромбаў былі косыя адрэзкі такіх жа ліній.

Другі гаршчок (24—26 см) быў арнаментаваны рэдкімі паясамі нахіленых «семечак». Два наступныя гаршкі аздабляліся падобным чынам. Шостая пасудзіна — вертыкальнымі зігзагамі з «семечак». Складана ўпрыгожаны гаршчок дыяметрам па венцу 26 см. Яго паверхню пакрываюць адзінкавыя або здвоеныя паясы «семечак», між якімі размяшчаюцца здвоеныя адрэзкі паскаў такіх жа элементаў.

Крамянёвыя познанеалітычныя вырабы на помніку ў большасці мала адрозніваюцца ад матэрыялу лысагорскага тыпу. Аднак сустракаюцца і некаторыя тыпы, характэрныя пераважна для дабраборскага часу. Так, сустрэты масіўныя пласціны, стройка рэтушаваныя на тарцах і бакавінах, часам такая рэтуш маецца практычна па ўсяму перыметру. Да пазнейшага часу належалі трохкутныя з выемкай у аснове наканечнікі стрэл, нажы на вялікіх пласцінках са скошанымі прытупленымі рэтушшу канцамі, нажы з простымі лёзамі і гарбатымі спінкамі, серпападобныя нажы. Распаўсюджаны ахайна апрацаваныя сякеры са звужаным абушком, на некаторых маецца падшліфоўка ляза. Большасць нуклеусаў былі аднапляцовачныя, добра апрацаваныя, з акуратнымі негатывамі пласцінак і адшчэпаў.

Матэрыялы апошняга (дабраборскага) этапу нёманскай культуры выразна прадстаўлены і на стаянцы **Добры Бор-1**, размешчанай на дзюне «Гарадок» праз 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Добры Бор Баранавіцкага раёна (ускрыта 984 м²). Посуд са стаянкі (мал. 52: 7, 10—14) па форме і тэхналогіі надзвычай блізкі матэрыялам з Русакова-2 (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 42—46). Аднак на некаторых начыннях з Добрага Бору на пераходзе ад шыйкі да брушка з сярэдзіны маецца выразнае рабро. Шмат пасудзін увогуле без радоў круглых ямак пад краем венца.

Арнаменты на кераміцы найбольш складаліся з розных ямкавых наколаў і тарцовых адбіткаў лапаткі. Адбіткі вузкай лапаткі ўтваралі суцэльныя ланцужкі. «Семечак» значна больш, чым на кераміцы з Русакова-2, і наадварот, тут нечакана шмат сустрэлася грабеньчатых адбіткаў. Арнаментальныя кампазіцыі на кераміцы з Добрага Бору-1 тыповыя для ўсяго познанеалітычнага тыпу Панямоння. Асабліва звяртае на сябе ўвагу ромб з кручкамі, які захаваўся на адным фрагменце. Характэрны для стаянкі і знаходкі абломкаў гаршкоў дабраборскага тыпу са шнуравымі арнаментамі.

Сярод крамянёвых знаходак трэба адзначыць скрабкі з выдзеленым насадам, трохкутныя з увагнутымі асновамі наканечнікі стрэл розных тыпаў. У той жа час на помніку практычна адсутнічае такі ранненеалітычны крамянёвы інвентар, як мікраліты, ланцэтападобныя вастры, пласцінчатыя наканечнікі.

6 Зак. 1828

Пры раскопках іншых стаянак — Нясілавічы-6 каля в. Нясілавічы Дзятлаўскага раёна (60 м²) (Ч а р н я ў с к І, 1979. С. 20—23), Ціхановічаў Брод каля в. Ганчары (38 м²) (Ч а р н я ў с к І, 1979. С. 23—24) і Бор каля в. Беневічы Лідскага раёна (50 м ) (Г у р и н а, 1965. С. 191—198), Старыя Войкавічы Навагрудскага раёна (80 м²) знойдзены пераважна дубічайскія матэрыялы, на стаянцы Ніз (104 м²) (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 42) —лысагорскія і дабраборскія.

На ўсіх стаянках нёманскай культуры вялася крэмнеапрацоўка, пра што сведчыць вялікая колькасць расшчэпленых крэменяў без другаснай апрацоўкі. Асабліва гэта прыкметна на помніку Ніз, у раёне Краснасельскага ля Росі. Пры раскопках Русаковіч-9 выяўлена месца работы майстра, дзе знаходзілася больш за 100 адшчэпаў.

Маюцца на Панямонні і аб'екты, якія можна непасрэдна залічваць да крэмнеапрацоўчых майстэрань. Такі помнік выяўлены на паўночны захад ад в. Даржы Лідскага раёна на дзюне правабярэжнага поплаву Дзітвы ва ўрочышчы Боркава Гара. Тут у раскопе ў 12 м² (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 73—74) знойдзена больш як 3 тыс. крамянёвых артэфактаў. Пераважная большасць іх — адыходы крэмнеапрацоўкі (сколы выступаў з канкрэцый і рознапамерныя адшчэпы). Пласцінак мала. Амаль усе буйныя адшчэпы маюць крэйдавую скарынку. Гатовымі прыладамі з'яўляюцца два адціскальнікі, пры гэтым адзін з іх зроблены са спрацаванага скрабка, і некалькі рэтушаваных адшчэпаў. Разам з крэменем у раскопе знаходзілася венца глінянай пасудзіны з радам круглых ямак пад краем, што дазваляе адносіць майстэрню да нёманскай культуры.

Крэмень, што апрацоўваўся на Боркавай Гары, здабываўся на крэйдавым адорвені, які залягаў праз 1,5 км на паўднёвы захад на размытай марэне правабярэжжа Дзітвы.

На суседніх узбярэжжах Дзітвы сустракаюцца сляды і іншых, але меншых майстэрань. Майстэрні, сярод якіх ёсць і неалітычныя, выяўлены ў раёне в. Пескі Мастоўскага раёна, якія дзейнічалі на базе мясцовых адорвеняў крэйды (Ч а р н я ў с к і, 1979. С. 74—75). Пункты магчымай апрацоўкі крэменю адзначалі ў ваколіцах Гродна Ю. Ядкоўскі (1913) і каля в. Котра на правабярэжжы Нёмана Н. Гурына (1965).

Нёманская культура ў Заходнім Палессі. Гісторыя вывучэння неалітычных помнікаў Заходняга Палесся пачалася ў 70—80-я гады мінулага стагоддзя. Трэба асабліва адзначыць выніковае абследаванне правабярэжжа Буга, якое правёў у 1897 г. Н. Беляшэўскі (1901). Ім было выяўлена 18 старажытных паселішчаў і ўведзены ў навуковы абарот канкрэтныя матэрыялы. Пазней помнікі каменнага веку на Пабужжы і Верхняй Прыпяці выяўлялі і абследавалі З. Шміт, Д. Георгіеўскі, Р. Гарашкевіч і інш. У 30-я гады ў пошукавую дзейнасць уключыліся У. Антаневіч, У. Данілевіч, А. Вісloцкі, К. Завістовіч. Да 1935 г. колькасць помнікаў каменнага веку, вядомых у паўднёвай частцы арэала нёманскай неалітычнай культуры, была даведзена да 90 у басейнах Верхняй Прыпяці і Буга. Аднак вельмі бедныя сабраныя матэрыялы па неаліту (да гэтай эпохі можна было аднесці з упэўненасцю толькі каля паловы выяўленых стаянак) дазвалялі толькі канстатаваць распаўсюджанне грабеньчатай, зрэдку грабеньчата-ямкавай керамікі. І толькі к канцу 30-х гадоў стаў прыкметны пэўны якасны зрух у характары даследаванняў. У 1936 г. былі ўпершыню ажыццёўлены раскопкі старажытнага паселішча паблізу в. Хомск Драгічынскага раёна (на р. Ясельда). Мясцовы настаўнік Я. Гааке, які вёў раскопкі, выявіў неалітычны культурны гарызонт.

Кароткія інфармацыйныя паведамленні не дазволілі ў даваенны час стварыць якую-небудзь абагульненую карціну засялення Заходняга Палесся ў эпоху неаліту, а тым больш выявіць асноўныя рысы мясцовай неалітычнай культуры. Аб'яднанне ўсіх гэтых паведамленняў з уключэннем звестак канца 40—50-х гадоў ажыццявіў у адпаведным зводзе Ю. У. Кухарэнка (1962). У працу было ўключана толькі 80 помнікаў са, здавалася б, аднароднай грабеньчатай керамікай.

Пералом наступіў у пачатку 60-х гадоў. Амаль адначасова да вывучэння неалітычных старажытнасцей Заходняй Беларусі прыступіў Прыпяцкі (з 1961 г. — У. Ф. Ісаенка) і Нёманскі (з 1962 г. — М. М. Чарняўскі) археалагічныя атрады. Былі атрыманы першыя калекцыі матэрыялаў, якія змянілі ўяўленне пра быццам бы адзіную для ўсяго Палесся грабеньчатую кераміку. На працягу 25 гадоў у Заходнім Палессі (у беларускай і ўкраінскай частках) У. Ф. Ісаенкам праводзіліся абследаванні найбольш перспектыўных участкаў для старажытнага засялення і раёнаў гідрамеліяратыўнага будаўніцтва. Буйныя групы стаянак выяўлены ў міжрэччы Прыпяці і Буга, на берагах Свіцязьскай азёрнай групы (Шацкі, Любомльскі раёны на Украіне), Арэхаўскіх азёраў (Ратненскі раён Украіны). Аналагічныя сканцэнтраванні помнікаў знойдзены ў даліне Ясельды каля Спораўскага возера, у наваколлі возера Мотала (Іванаўскі раён), на берагах Пагосцкага возера і р. Бобрык (Пінскі раён), у нізоўях Стыры, у даліне Верхняй Прыпяці (Зарэчненскі раён Украіны). Шмат якія са 180 помнікаў першабытнай эпохі, выяўленыя ў заходнепалескім рэгіёне, абследаваліся па некалькі разоў. Праведзеныя зборы старажытнасцей дазволілі скласці калекцыі, якія налічваюць тысячы разнастайных артэфактаў. Некаторыя стаянкі былі раскапаны на шырокай плошчы, у выніку чаго атрымана мноства крамянёвых прылад працы і керамікі, пачынаючы з самай архаічнай. Культурна-храналагічнае чляненне матэрыялаў дазволіла выявіць існаванне верхняпрыпяцкага варыянта нёманскай неалітычнай культуры ў развітым і познім неаліце і папярэдняга яму этапу раннеграбеньчатай керамікі. Была створана этнакультурная карта і абгрунтавана храналагічная схема развіцця неалітычных культур Палесся (И с а е н к о, 1976).

Асноўнай вызначальнай састаўной часткай культуры была кераміка. Для нёманскай культуры тыпоаыя высокія пасудзіны з шырокім выпуклым венцам, намечанай шыйкай і высокай канічнай часткай, зрэдку шлемападобнай, з адцягнутым шышкаватым дном. Найбольшае пашырэнне пасярэдзіне пасудзіны. Значна радзей сустракаліся нізкія гаршкі, пазней — пласкадонныя. Сістэма арнаментацыі складалася з гарызантальных паясоў і была двухзанальнай — канцэнтравалася на верхняй і доннай частках. Абрэз венца ўпрыгожваўся ўцісканнямі, насечкамі, пад ім праходзіў шэраг наколаў, якія часта чаргуюцца з выпуклінамі, затым ішоў шырокі пояс з шэрагу наколаў, адбіткаў грэбеня, насечак ці сеткавая кампазіцыя. На дне — гарызантальныя або радыяльныя рады, іх спалучэнні.

Зрэдку верхні пояс арнаментацыі завяршаўся дыяганальнымі косымі стужкамі, звіслымі трохкутнікамі, а таксама прамавугольнымі зонамі, падоўжанымі нахільнымі адбіткамі, якія складалі ялінкавыя ці зігзагападобныя рады.

Інвентар складаецца з вялікай колькасці прылад для рэзання — пласцінчатых, шырокіх нажоў з завастрэннямі на вугле або на канцы, разнастайных, часта буйных скрабкоў і скобляў, праколак, макралітычных прылад для сячэння — сякер, цёслаў, цяслападобных сякер, пікападобных вырабаў.

Звыклыя для культуры трохкутныя наканечнікі стрэл, апрацаваныя па краі, познія тыпы разцоў, асабліва вуглавыя на адшчэпах. Сярод пержытачных формаў трэба адзначыць пласцінчачныя наканечнікі стрэл, высокія скошаныя трапецыі і прамавугольнікі, сячэнні пласцінак, архаічныя нуклеусы для атрымання даволі буйных пласцін. Адбойнікі на стаянках шарападобныя, нуклепадобныя, а таксама выраблены з круглых валунчыкаў.

У найбольш архаічнай грабеньчатай кераміцы яшчэ не прыкметныя лакальныя варыянты. Насупраць, яна выраблялася па адзінай тэхналогіі, стужкавым спосабам (прылеп звонку) з цеста з вялікай колькасцю раслінай дамешкі, зрэдку з дамешкай драбнатоўчанага шамоту. Пасудзіны таўстасценныя, шыракагорлыя, прысадзістыя, з высокай канічнай ніжняй часткай, масіўным донцам, слабага ці сярэдняга абпальвання. Сценкі былі бедна арнаментаваны гарызантальнымі паясамі, мелі адбіткі нахіленага драбназубчатага штампа, насечкі, невялікія неглыбокія ўціскані, касасеткавы ўзор, жалабаватыя паралельныя лініі. Пад венцам праходзіў рад рэдкіх глыбокіх наколаў, па абрэзе — уціскані, насечкі.

Хутчэй за ўсё ранні неаліт развіўся ў выніку магутнага культурнага імпульсу з вобласці буга-днястроўскай культуры, а ў канчатковым выніку з Балканскага паўвострава, калі меркаваць па тэхналогіі керамічнай вытворчасці і формах старажытных пасудзін. Дасягнуўшы Заходняга Палесся, культурная дыфузія распаўсюдзілася крыху пазней на яго ўсходнюю частку і Сярэдняе Падняпроўе, затым, відаць, далей на поўнач — у Панямонне і на паўночны ўсход — у басейны Дняпра і Сажа.

У цяперашні час вядома каля 160 помнікаў нёманскай культуры ў Заходнім Палессі, у асноўным у даліне Прыпяці на прывусцевых участках Стыры, Стахода, Гарыні, на берагах рада левабярэжных прытокаў — Ясельды, Бобрыка, Цны, паблізу мясцовых азёрных груп.

Найбольш значныя раскопкі праводзіліся У. Ф. Ісаенкам на паселішчы **Камень-2** у Пінскім раёне. У 1967—1980 гг. было ўскрыта 8500 м$^2$ пры магутнасці культурнага слоя 0,8—1,0 м. Месцамі прасочваюцца два культурныя гарызонты, расчлянёныя праслойкамі ракавін; у асноўным пласт аднародны і толькі ў ніжняй частцы сустракаецца больш ранненеалітычных знаходак. Зрэдку ў верхніх напластаваннях трапляюцца прадметы жалезнага веку. Некаторыя знаходкі ўключаны ў цела артштэйнаў.

Выяўлены рэшткі 20 наземных жылых комплексаў — па месцах канцэнтрацыі керамічных знаходак і касцей — памерамі 10—15 м у дыяметры, аддаленыя на 20—25 м адзін ад аднаго. Усяго знойдзена ў культурным слоі 9 тыс. крамянёвых прылад працы (мал. 58, 59), 70 вырабаў з рогу і косці, абломкі больш за 300 гліняных вастрадонных пасудзін, тыповых для ранняга і позняга этапаў развіцця нёманскай культуры, а таксама больш за 40 тыс. расшчэпленых крэменяў, 4 тыс. касцей дзікіх жывёлін. Па вызначэнні В. В. Шчагловай, сярод іх рэшткі дзіка, лася, высакароднага аленя, тарпана, бабра, зубра ці тура, мядзведзя.

Асаблівую цікавасць уяўляюць косці буйной рагатай жывёлы (быка), знойдзеныя ў ніжнім гарызонце і хатняй свінні, якія з'яўляюцца ў верхнім, позьнанеалітычным гарызонце (S c e g ł o w a, 1975). Сярод прылад ёсць матыкі другога буга-днястроўскага тыпу, нажы з расшчэпленых зубоў кабана, клінападобныя сякеры, падвескі-амулеты з клыка сабакі, мядзведзя.

Матэрыялы ніжняга гарызонту характарызуюць ранні этап развіцця мясцовай грабеньчатай керамікі нёманскай культуры. Знаходкі з верхняга гары-

зонту — яе развіты верхняпрыпяцкі варыянт, які ў невялікіх дэталях, элементах адрозніваецца ад нёманскага. Паселішча Камень-3 на суседняй пясчанай ўзгорыстасці (вышыня 5—7 м) характарызуе сярэдні этап культуры. Раскопкі помнікаў Бакінічы-2, Перасудавічы-1 дазваляюць вылучыць элементы, што характарызуюць гэты этап (Исаенко, 1976).

Вельмі насычаны культурнымі рэштками слой, вывучаны У. Ф. Ісаенкам на паселішчы **Камень-6** у 1981—1983 гг., 1986—1987 гг. на плошчы 1916 м². Выяўлены тры культурныя гарызонты. Матэрыялы ніжняга характарызуюць ранні этап, а сярэдняга — позні этап нёманскай культуры. Характэрныя рэшткі некалькіх наземных жытлаў з лёгкай страхой і ачагамі, што абкладваліся камянямі.

Знойдзена каля 300 прылад і вырабаў з крэменю, разнастайныя шліфавальныя і расціральныя пліткі і куранты да іх, характэрная кераміка — абломкі больш за 100 вастрадонных пасудзін.

У 1977—1978 гг. на плошчы 600 м² вывучана паселішча позняга неаліту — пачатку бронзавага веку Камень-8 каля аднайменнай вёскі Пінскага раёна. Яно было выяўлена на дне пратокі Вісліца з Пагосцкага возера ў р. Бобрык на глыбіні 1—2,2 м ад ранейшага ўзроўню вады. Дно адкрылася ў сувязі са скідам вады ў возеры. Тут у культурным слоі магутнасцю 0,5 м, пад наноснымі тарфамі, дзякуючы такім выключным умовам добра захаваліся косці, вырабы з рогу і косці. Усяго выяўлена 140 такіх вырабаў — самыя значныя ў Палескай калекцыі. У яе складзе набор рыбалоўных кручкоў чатырох тыпаў цэлых і ў абломках (21 экз.) (мал. 61: 1—6), іголкападобныя наканечнікі дроцікаў з плоскім насадам, шмат праколак, кавадлачкі з таранных касцей, рэтушоры, сякеры і долаты з рогу, рэдка сякеры з прабітай адтулінай з рогу аленя, нажы з расшчэпленых іклаў кабана, унікальны сэрцападобны амулет з лапаткі (мал. 63), падвескі з зубоў жывёлы. Выяўлена таксама 700 крамянёвых прылад працы, абломкі гліняных пасудзін нёманскай культуры.

Матэрыялы, сабраныя на іншых помніках, зрэдку пададзены тысячамі артэфактаў, удалося храналагічна падзяліць толькі з улікам вынікаў раскопак.

**Ранненеалітычны этап развіцця нёманскай культуры.** Ранні этап пададзены вялікімі паселішчамі Сеньчыцы-1, Камень-2 (ніжні гарызонт), Зарэчча-2, Востраў-2 і іншымі менш значнымі. Набор прылад працы, якімі карысталіся ў ранненеалітычны час, можна ўстанавіць у асноўным па матэрыялах помнікаў Сеньчыцы-1, Зарэчча-2, Камень-2 (Исаенко, 1976. С. 59—75).

На паселішчы **Сеньчыцы-1** (Зарэчненскі раён, Украіна) было знойдзена 7000 крэменяў, якія насілі сляды апрацоўкі. Сярод 2600 пласцінак (23%) прыкладна трэцяя частка мае правільныя грані, ёсць таксама 300 пласціначных адшчэпаў, 190 сколаў з краю нуклеусаў, на рабры якіх захавалася характэрная рэтуш, астатнія — адшчэпы і абломкі нуклеусаў.

З 510 нуклеусаў палавіна выкарыстоўвалася для атрымання адшчэпаў, чвэртка — двухпляцовачныя нуклеусы для атрымання пласцінак, з коса збітымі пляцоўкамі, клінападобныя ў сячэнні, часта апрацаваныя буйной скрабковай рэтушшу па адным краі. Астатнія — двухпляцовачныя нуклеусы з паралельнымі і перпендыкулярнымі пляцоўкамі, аднапляцовачныя ці пірамідальныя. Выяўлена таксама 30 сколаў з дыскападобных жаўлакоў і нуклеусаў.

Крыху менш за палову з сабраных 751 вырабу складалі прылады для рэзання. Ёсць сярэдзінныя (23 экз.), бакавыя (7 экз.), вуглавыя (24 экз.) разцы,

лазалістыя наканечнікі стрэл (54 экз.), чаранковыя (22 экз.). У параўнанні з папярэдняй эпохай узрастае колькасць скрабкоў (62 экз.), у асноўным на адшчэпах, і скобляў (45 экз.). Шмат пласціначных наканечнікаў стрэл позняга аблічча (13 экз.), сякер-траншэ (17 экз.) і авальных сякер (14 экз.). У вытворчасці прылад прымяняліся як пласціначная тэхніка, так і грубая абіўка.

На помніках Зарэчча-2 і Камень-2, насупраць, пераважала тэхніка атрымання адшчэпаў і грубая абіўка. Колькасць пласцін і прылад з іх тут невялікая. У інвентары як першага помніка (77 прылад), так і другога (335 прылад) на першае месца выступаюць скрабкі і скоблі на адшчэпах, затым тыпы прылад для сячэння, змяншаецца колькасць разцоў і наканечнікаў стрэл.

Хоць помнік Сеньчыцы-1, магчыма, змяшчае шмат мезалітычнага матэрыялу, ён можа быць выкарыстаны разам з паселішчам Камень-3, Востраў-3, Сушыцк-1, Бакінічы-1 для супастаўлення, асабліва калі ўлічыць, што пласціначныя вырабы на ім канцэнтруюцца ў двух месцах.

У складзе ранненеалітычнага інвентару паселішча Камень-1 шмат вуглавых і грубых разцоў, сякер авальнай формы, дыскападобных і траншэ. Ёсць шырокія лістападобныя наканечнікі дроцікаў і нажы з пласціначных адшчэпаў, трохкутныя наканечнікі стрэл з апрацоўкай нахільнай рэтушшу толькі па краі. Выкарыстоўваюцца сякеры-разакі, нажы з шырокіх пласцін з завастрэннем на вугле ці пасярэдзіне. Выраблялiся і канцавыя скрабкі на пласцінах і адшчэпах, сярэдзінныя разцы, пласціначныя наканечнікі стрэл, зрэдку трапляюцца трапецыі высокія і косыя, укладышы з пласцін тыпу Вялішаў, тыя ж тыпы скрабкоў і скобляў, разнастайных рэжучых прылад.

Аналагічныя тыпы вырабаў, хоць і ў значна меншай колькасці, выяўлены на помніках Бакінічы і Востраў-3.

У складзе комплексаў ранняга неаліту яшчэ шмат пласціначных наканечнікаў стрэл свідэрскіх тыпаў, у якіх часцей апрацаваны краі і вылучаецца чаранок, асіметрычных ромбападобных наканечнікаў з косым трохкутным пяром. Зрэдку трапляюць наканечнікі і нажы тыпу Лінгбі, яніславіцкія паўвастрыі. Рэжучыя прылады шырока пададзены пласціначнымі нажамі, нярэдка са скошаным канцом, выемкамі на лёзах. У параўнанні з мезалітам змяншаецца колькаць разцоў сярэдзіннага (клінавата-бакавога) тыпу і бакавых, канцавых скрабкоў на пласцінах, а таксама свердлаў. Перахрд да неаліту прыкметны дзякуючы распаўсюджанню прылад з адшчэпаў і прылад для сячэння, якія эвалюцыйна развіліся з нуклеусаў.

На паселішчы Камень-2 некаторая колькасць ранненеалітычных матэрыялаў выяўлена і вышэй, нават у познанеалітычным гарызонце, што тлумачыцца, відаць, старажытнымі перакопваннямі. Тым не менш і ў гэтым выпадку лёгка вызначаецца прыналежнасць да ранненеалітычнага комплексу для керамікі — па багатай расліннай дамешцы і архаічнасці, для крэменю — зыходзячы з тыпалагічных меркаванняў і па наяўнасці малочнай пацiны на рэбрах граняў. Ранненеалітычная культура пададзена 49 прыладамі, 970 іншымі крэменямі з апрацоўкай і 320 абломкамі 40—42 гліняных гаршкоў, 14 вырабамі з косці і рогу. Тут у 1967—1970 гг. знойдзена 92 косці жывёлы, што паходзяць ад 23 асобін, і 430 абломкаў. Да комплексу яшчэ можа быць дададзена 276 крамянёвых прылад, якія знаходзіліся стратыграфічна вышэй. Канцавыя скрабкі як высокага, так і нізкага профілю, скоблі з увагнутым краем і шматвыемістыя фігурныя крэмені, праколкі, грубыя разцы, нажы з пласціначных адшчэпаў. З нуклеусаў выраблялiся прылады тыпу «рабо», грубаабабітыя сякеры і цёслы з папярочнай фармоўкай ляза і падпраўкай

падоўжнымі сколамі. Апошнія маюць дыскападобную, міндалепадобную і авальную формы, зрэдку вельмі выцягнутую, і лінзападобнае сячэнне. Сякеры-траншэ характарызуюцца крутой, часта сустрэчнай абіўкай бакоў, прамым папярочным лязом, зрэдку маюць перахопы для замацавання ў рукаятцы. Сустракаюцца бакавыя разакі, пікападобныя рэтушоры, адбойнікі з нуклеусаў, скрабкі-рэтушоры, наканечнікі-нажы. Колькасць мікралітаў нязначная. У асноўным гэта сячэнне пласцінак, выцягнутыя і косыя трапецыі, пласцінкі з прытупленым краем, сіметрычныя трохкутнікі, авальныя мікраскрабкі.

Адначасова з рогу выраблялiся сякеры і цёслы авальнага сячэння, муфты для сякер, у якія ўстаўляліся каменныя лёзы, з косці — матыкі (кіркі) другога буга-дняпроўскага тыпу (з падоўжнай адтулінай абуха).

З вылучаных у культуры мезаліту прыёмаў апрацоўкі, характэрных тыпаў нуклеусаў, пласцінiачных адшчэпаў, 80 тыпаў прылад большасць знаходзіць працяг у вытворчасці ранненеалітычнай культуры. Аднак разнастайнасць прыёмаў апрацоўкі і тыпаў прылад разам з захаваннем шмат якіх традыцый прымушае меркаваць пра наяўнасць моцных знешніх культурных уплываў, што ўскладняе высвятленне генезісу.

Найбольш ранняя фаза керамічнай вытворчасці выразна выступае на паселішчы Сенчыцы, дзе знойдзена 207 абломкаў, што належаць 7—8 гліняным вастрадонным пасудзінам. Апошнія выраблялiся з цеста з вялікай колькасцю дробнай расліннай прымешкі, якая часам спалучалася з прымешкай тоўчаных ракавін. Унутраны слой сценак цёмны, яны порыстыя, таўшчыня іх 0,99—1,2 см. Пасудзіны, відаць, былі прысадзістыя, вастрадонныя, з прамымі, зтончанымі кверху венцамі і закругленым краем, зрэдку крыху адагнутым вонкі. Арнаментыка бедная: рад наколаў пад краем, злітыя ў рады насечкі, пракрэсленыя ці жалабаватыя касасеткавыя ці дыягайальныя кампазіцыі, зрэджаныя рады ледзь прыкметных наколаў.

Ідэнтычная кераміка знойдзена на помніках Зарэчча-2, Бакінічы-1, хоць і меншай колькасці, але таксама без позніх дамешак, а таксама на помніку Востраў-3 (Вешня).

Сярэдні і позні этапы культуры. Сярэдні этап неаліту на захадзе Палесся ўмоўна. вылучаны ў выніку вывучэння паселішчаў Вяз-1, Камень-4, Бакінічы-2, а таксама Дубнавічы, Камень-3, Какорыца-1, Моталь-1, Чухава-2. Відаць, частка старажытнасцей, сабраных у іншых 25 пунктах, таксама мае сярэдненеалітычны ўзрост. Толькі на помніку Бакінічы-2 была закладзена траншэя плошчай 60 м$^2$, але матэрыялы, атрыманыя тут, невялікія па аб'ёме. Будучыя даследаванні дазволяць, несумненна, больш поўна ахарактарызаваць яго і сабраць больш даных для супастаўлення.

Набор прылад працы, характэрных для сярэдняга неаліту, найбольш поўна пададзены ў матэрыялах паселішчаў Вяз-1, Камень-3 і Чухава-2. На першым помніку падабрана 1200 крэменяў з апрацоўкай, сярод якіх каля 300 пласцінак, 221 прылада (мал. 57), з якіх 99 нажоў з пласцін ці пласцінiачных адшчэпаў. Разцоў усяго 4, пласцінiачных наканечнікаў — 5, трохкутных наканечнікаў — 11, скрабкоў канцавых — 14, іншых тыпаў — 38, скобляў — 25, грубаабабітых сякер — 6, мікралітаў — 3. Цікавыя масіўныя трохкутныя вастры. У калекцыі Чухава-2 700 крэменяў, 180 пласцін, 152 прылады, сярод якіх рэжучыя формы пададзены 93 экземплярамі. Тут знойдзены 4 архаічныя разцы, 4 трохкутныя наканечнікі, 5 сякер, 8 канцавых і 17 іншых скрабкоў.

Помнік Камень-3 даў 192 прылады, з якіх 96 ножападобных вырабаў, 41 трохкутны наканечнік, 7 канцавых і 23 іншыя скрабкі, 2 мікраліты. На паселішчы Какорыца-1 падабрана 16 грубаабабітых сякер, а на стаянцы Камень-4 больш грубых і вуглавых разцоў (7 экз.).

У комплексах прылад сярэдняга этапу амаль знікаюць разцы рэгулярных тыпаў, якія замяняюцца вуглавымі грубаабабітымі. Як разцы, так і скрабкі, скоблі, праколкі часта апрацаваны па краях. Распаўсюджаны наканечнікі стрэл з краявой, зрэдку двухбаковай апрацоўкай — трохкутныя і шырокія лістападобныя, разакі і нізкія «рабо», трапецападобныя і авальныя сякеры з добра выраўнаванай паверхняй, грубыя свердлы і трохкутныя вастры. Зрэдку трапляюцца мікраліты: мікрапласцінкі з прыпыленнем, трохкутнікі, трапецыі. Звыш паловы прылад выкарыстоўваліся для рэзання. Скрабкі неканцавыя складаюць 10—15% ад колькасці ўсіх прылад. Скобляў больш, чым канцавых скрабкоў. Параўнальна шмат вастрый, праколак.

Кераміка сярэдненеалітычнага этапу прадстаўлена высокімі пасудзінамі з выпуклым тулавам, больш-менш выдзеленай шыйкай і высокай канічнай прыдонцавай часткай. Адначасова выкарыстоўваліся высокія пасудзіны з выпуклым венцам, простымі сценкамі і прыкругленым дном з шышкаватым выступам, а таксама пасудзіны нізкія з лейкападобнай гарлавінай, яйкападобным або плоскім дном. Часам на корпусе гаршкоў меўся злом. Сярэдняя ёмкасць пасудзін 5—10 л, дыяметр 20—30 см. Асобныя вырабы былі значна большыя. Таўшчыня сценак у межах 0,7—1,2 см. У гліняным цесце сценак адначасова з тонкай раслiннай дамешкай з'яўляецца пясок, часам жарства або тоўчаныя ракавіны.

Для сістэмы арнаментацыі ў цэлым характэрна разрэджанасць, больш шырокае распаўсюджанне прадаўгаватых наколаў, уцісканняў і ямак, дыяганальных матываў за кошт касасеткавых, ужыванне 2—3 элементаў. Найбольш ярка выступаюць грабеньчатыя арнаменты (3—8% усіх абломкаў) і ўзоры з рэдкіх наколаў (5—6%).

Паверхні прыкладна паловы гаршкоў добра загладжаны і толькі з сярэдзіны часам захаваліся расчосы, у рэшты прыкметная лёгкая штрыхоўка пераважна падгарызантальнага кірунку. Абпал сярэдні, колер чарапка пераважна шаравата-руды.

Помнікі позняга неаліту найбольш шматлікія. Яны складаюць большасць сярод шматлікіх груп старажытных помнікаў, якія размешчаны на берагах заходнепалескіх вадаёмаў. У выніку шматгадовых абследаванняў Заходняга Палесся выяўлена некалькі груп помнікаў каменнага веку: на Ясельдзінскіх азёрах (9 паселішчаў), у наваколлі вёсак Моталь і Тышкавічы (12 стаянак). Найбольш значная група размешчана ў Пінскім раёне на берагах р. Бобрык і возера Пагост. На паўночным яго беразе, што цягнуўся ў шыротным напрамку на 7 км, вядома 7 паселішчаў, на паўднёвым — 6, а далей на ўсход, у наваколлі в. Камень Пінскага раёна, уздоўж даліны р. Бобрык — яшчэ 13 паселішчаў і месцазнаходжанняў.

Матэрыялы, сабраныя на тэрыторыі паселішчаў, складаюцца з соцень крамянёвых прылад і абломкаў глінянага посуду, упрыгожанага грабеньчата-накольчатым і іншымі арнаментамі. Асабліва вялікія паселішчы існавалі насупраць в. Новы Двор, па паўднёвым беразе заліва на захад ад в. Вяз, пасярэдзіне паўночнага берага возера ў месцы найбольшага звужэння, на паўднёвы ўсход ад в. Камень, а таксама на поўдзень ад вёсак Бакінічы і Дубнавічы."

Позні этап вядомы на помніках Ботава-2, верхняму гарызонту Каменя-2, Востраў-1, а таксама па стаянках Вялемічы-1, Спорава-2, Моталь-4, Нобель-6, Перасудавічы, Церабень і 15 іншых пунктах. Толькі помнік Камень-2 ускрыты на вялікай плошчы, што дазволіла атрымаць багаты матэрыял (мал. 58; 59; 60; 62). На паселішчы Востраў-1 ускрыта плошча 24 $м^2$. Пры раскопках уцалелай ускраіны паселішча Церабень сабрана мала знаходак, нягледзячы на раскоп сярэдняй велічыні (130 $м^2$). Нарэшце тры траншэі, што пераразалі помнік Перасудавічы, дазволілі зрабіць цікавыя стратыграфічныя назіранні.

У сярэднім на кожным помніку развітога неаліту выяўляецца 600 крэменяў з апрацоўкай, з якіх 100—120 прылад і 120 абломкаў 6—8 пасудзін. Знаходкі звычайна раскіданы нешырокай паласой на плошчы працягласцю 120—150 м.

Крамянёвыя адшчэпы выкарыстоўваюцца для вырабу прылад, дзесятую долю складаюць правільна агранёныя пласціны.

На помніку Моталь-4 сабрана 105 прылад, палова якіх выкарыстоўвалася для рэзання. Тут знойдзены 4 лазалістыя наканечнікі стрэл і 6 трохкутных. Сякеры ў асноўным авальныя, як і на паселішчы Спорава-2. Канцавыя скрабкі (4 экз.) складаюць невялікую долю ў параўнанні з вырабленымі з адшчэпаў скрабкамі (11 экз.) і скоблямі (7 экз.). Ёсць два мікраліты.

У параўнанні з папярэднім этапам культуры зменшылася колькасць архаічных формаў разцоў, вастрый і свердлаў, сякер-траншэ і канцавых скрабкоў, больш вырабляецца трохкутных наканечнікаў стрэл, яны часцей апрацаваны плоскай рэтушшу па ўсёй паверхні, набываюць выемку каля асновы, пілаваты край. Сякеры з вузкім і вострым абухамі. Усё больш старанна загладжваюцца няроўнасці, лязо прышліфоўваецца, выпрамляецца. Нарэшце з'яўляюцца сякеры-кліны з прамавугольным сячэннем і шліфаванай паверхняй. Разам з імі зрэдку працягваюць выкарыстоўвацца і архаічныя формы траншэі пікі.

Крутое рэтушаванне замяняецца нанясеннем краявой, часта двухбаковай рэтушы пад вуглом 45°. Абіўка ў асноўным сустрэчная, якая стварае лязо ці прытупленыя бакавыя рэбры. Сярод рэжучых прылад, якіх у комплексах больш за палову, асабліва шмат (чвэртка) нажоў з шырокіх пласцінчатых адшчэпаў з завастрэннямі на вугле ці канцы, разнастайных па профілі і рабочым краі скрабкоў і скобляў (чацвёртая частка прылад). Разам з імі выкарыстоўваліся адбойнікі з авальных жаўлакоў, зубчатыя пласцінкі-ўкладышы сярпоў, зрэдку архаічныя пласцінчатыя наканечнікі стрэл, разцы ў асноўным вуглавыя, зрэдку бакавыя, а таксама праколкі розных тыпаў з адшчэпаў.

Асноўнай характарыстычнай часткай комплексу з'яўляецца кераміка паселішча Камень-2 (мал. 62). Для высвятлення сістэм арнаментыкі могуць прыцягвацца керамічныя матэрыялы, вывучаныя на паселішчах ракі Шчары, ідэнтычныя верхняпрыпяцкім.

Познанеалітычная кераміка ўключае пасудзіны высокія з выпуклым венчыкам, шыйкай і высокай канічнай часткай, зрэдку ўсечанай; пасудзіны нізкія, шыракагорлыя з закругленым дном, міскападобныя; пасудзіны высокія з выпуклым венцам, шыйкай, невялікім пашырэннем пасярэдзіне і шарападобным акруглым дном, у якіх венца адгінаецца зрэдку з утварэннем рабра; пасудзіны высокія, пласкадонныя з шыйкай і выпуклым шырокім венцам.

Сярэдняя ўмяшчальнасць пасудзін 5—6 л пры дыяметры 18—22 см. Зрэдку сустракаліся пасудзіны ўдвая большыя ці аб'ёмам каля 0,5 л. Звычайная таўшчыня сценак 0,6—1,0 см. У цеста, з якога выцягваліся стужкі

рознай шырыні, дабаўляліся пясок, жарства, нярэдка буйназярністая, часам тоўчаныя ракавіны, раслінная прымешка. Паверхня.выкарыстоўвалася часта пры дапамозе штрыхоўкі. Абломкі маюць шэры колер з карычневым, зеленаватым адценнем. Зрэдку яны цёмна-шэрыя.

Венца большасці пасудзін мае выпукласць вонкі, адгіналася шырокай паласой, край яго закругляўся. Толькі зрэдку яно сплюшчвалася, станчалася ці, насупраць, патаўшчалася кверху. Пад венцам край падкрэсліваўся радам круглых ямак ці наколаў, якія часта чаргаваліся з жамчужынамі. Па абрэзе на венцы былі ўцісканні, наколы, насечкі, адбіткі грэбеня, вузельчыка. Крыху ніжэй праходзіў рад наколаў, якія налягалі адзін на аднаго, ці 1—3 рады ўціскянняў, падоўжных трохкутных наколаў, косапастаўленых насечак, дробназубчатых адбіткаў, прамавугольных уціскянняў.

Падобныя адбіткі, а таксама касасеткавыя арнаменты наносіліся ўздоўж венцаў знутры пасудзін. Зрэдку гэту функцыю выконвалі адны выпукліны, для гэтага наколы наносіліся знутры. Характэрна пераважнасць арнаментаў з насечак (5—9%) над дробназубчатымі, роля якіх зменшылася ў параўнанні з сярэднім неалітам. Сценкі разам з касасеткавымі і пракрэсленымі арнаментамі ўпрыгожваліся насечкамі, грэбенем, наколамі. Яны кампанаваліся ў рэдкія гарызантальныя рады, якія аб'ядноўваліся косымі перамычкамі. Узоры расчляняліся звычайна радамі наколаў ці ўціскянняў. Пры гэтым двайныя ці трайныя рады назіраліся рэдка. Рады рэдкіх наколаў — найбольш распаўсюджаны тып арнаментыкі (3—7%). Насечкі і прамавугольныя ўціскaнні часта цалкам запаўняюць шырокія зоны, што апярэзваюць пасудзіну ўверсе і дзякуючы рознаму нахіяу ў радах утвараюць ёлачны ўзор ці ламаныя зігзагападобныя лініі. Падобныя арнаменты выконваліся зрэдку і пры дапамозе кароткіх адбіткаў шнура. На донцах разам з гарызантальнымі зрэджанымі кампазіцыямі сустракаюцца радыяльныя.

Вялікія ўчасткі паверхні, асабліва пасярэдзіне пасудзін, а зрэдку і ўся паверхня заставаліся без упрыгожванняў, звыш 3/4 абломкаў іх не маюць.

Паступова пры пераходзе да трэцяга этапу ў кераміцы рэзка змяншаецца колькасць фрагментаў з жалабаватымі ўзорамі, у тры разы — з адбіткамі дробназубчатага штампа (да 24%), а таксама рана ўзнікшых тут узораў з радоў злітых наколаў. Гэтыя элементы замяняюцца насечкамі (5—9%), прамавугольнымі ўціскaннямі (2—6%), падоўжнымі ўціскaннямі, зрэдку таксама злітымі ў псеўдазубчатыя ўзоры, пракрэсленымі (3%) і шнуравымі (2%) арнаментамі.

Для стварэння сістэмы арнаментыкі ўжываецца ў паловы пасудзін па 3—4 элементы. Не назіраецца арнаментаванне з трох гарызантальных зон, суцэльнае пакрыццё паверхні радамі разнастайных адбіткаў, развітая занальная кампазіцыя з ромбаў і трохкутнікаў. Спалучэнне гарызантальных і дыяганальных матываў ствараецца перакрыжаваннем адзінкавых радоў, а не стужак. Пануе зрэджаны арнамент, які апярэзвае пасудзіну па гарызанталі і сканцэнтраваны на верхняй палове пасудзіны.

## 3. ВЕРХНЕДНЯПРОЎСКАЯ КУЛЬТУРА

Доўгі час культурная прыналежнасць неалітычных помнікаў Верхняга і, у прыватнасці, Беларускага Падняпроўя была нявысветленай, і толькі пасля даследаванняў І. М. Цюрынай (1967а) яны аб'яднаны ў адзіную культурную

агульнасць, якая атрымала назву верхнедняпроўскай культуры, што прайшла ў сваім развіцці шэраг этапаў.

Па стану на 1990 г. культура пададзена матэрыяламі не менш за 300 пасяленняў, з якіх больш за 40 раскапаны.

Крыніцазнаўчую базу толькі на тэрыторыі Беларускага Падняпроўя складаюць знаходкі больш за 200 тыс. расшчэпленых крэменяў, чвэртка з якіх — закончаныя прылады і амаль такая ж колькасць — фрагменты пасудзін.

Найбольш каштоўнай крыніцай для вывучэння неалітычнага этапу стала кераміка. Асаблівасцю паселішчаў верхнедняпроўскай культуры з'яўляецца прысутнасць у складзе іх інвентару элементаў суседніх культур, што тлумачыцца кантактным становішчам арэала культуры паміж двума буйнымі этнакультурнымі масівамі: днепра-данецкім і волга-окскім. Па меры руху да яго меж роля іншакультурных элементаў узрастае. Гэта патрабуе не толькі храналагічнай, але і тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі помнікаў.

Адной з найбольш праблемных задач з'яўляецца пошук крытэрыяў для вызначэння этапаў.

**Ранні этап (сярэдзіна 5-га — першая палова 4-га тысячагоддзя да н. э.).** Сярод крытэрыяў, па якіх вызначаўся ранні этап, называліся малая плошча (400—500 м$^2$) паселішчаў, невялікая магутнасць слоя (20—25 см), наяўнасць у інвентары мезалітычных рыс, багацце раслінных дамешак у цесце вастрадонных слабаабпаленых пасудзін з прамымі венчыкамі, суцэльна ці часткова арнаментаваных зверху глыбокімі прадаўгаватымі ямкамі ці адбіткамі буйнога грабеньчатага штампа. Вывучаныя аўтарамі ў Пасожжы помнікі паказалі, што першыя дзве прыкметы вызначальнымі для вылучэння ранніх комплексаў не з'яўляюцца. Шэрагам даследаванняў устаноўлена, што нават самыя познія помнікі неалітычнай пары могуць размяшчацца на вельмі малой тэрыторыі і мець маламагутны культурны слой, у той час як на паселішчах ранняга этапу магутнасць слоя дасягала 0,6 м. «Чыстых» помнікаў гэтага перыяду знойдзена зусім мала, ды і тыя раскапаны толькі ў басейне р. Іпуць. Раней выяўленыя помнікі канцэнтраваліся ў ніжнім цячэнні Сажа, Іпуці, Беседзі і ў сярэдняй частцы Верхняга Дняпра. Яны былі вылучаны і вельмі коратка асветлены І. М. Цюрынай (1967—1973).

Як паказвае даследчыца (*Тюрина*, 1967а. С. 6), помнікаў ранняга этапу вядома не больш за 10, а з чыстым комплексам інвентару — толькі два (Залессе, Шапатовічы). Пры гэтым у Залессі ўскрыта 65 м , знойдзена 16 крамянёвых прылад (скрабкі на адшчэпах, нажы на пласцінах, абломак сякеры), пласціны, каля 50 адшчэпаў і 80 фрагментаў таўстасценных пасудзін з раслiннай дамешкай, упрыгожаных грабеньчатым штампам, што ўтварае гарызантальныя рады, ці «ёлачку», і арнаментам з неглыбокіх ямак, нанесеных шчэпкай. У Шапатовічах у шурфе знойдзена 30 фрагментаў таўстасценнай керамікі з раслiннай дамешкай у цесце. Арнамент — адбіткі грэбеня па ўсёй паверхні ці якія складаюць гарызантальныя рады. Палова фрагментаў арнаментавана глыбокімі ямкамі, нанесенымі шчэпкамі.

І. М. Цюрына разглядае таксама матэрыялы змешаных паселішчаў з інвентаром ранняга і позняга этапаў (Барок Сямёнаўскі, Шохаўка, Гарадоўка). У лік ранніх (самае ранняе паводле А. С. Смірнова) верхнедняпроўскіх неалітычных паселішчаў А. С. Смірноў (1986) уключае Дабрадзееўку на Іпуці, дзе пераважная колькасць керамікі ўпрыгожана псеўдарубчастым штампам, а грэбень адыгрывае падпарадкаваную ролю. Псеўдарубчасты штамп нагадвае адну з разнастайнасцей лапчастага, нанесенага па тыпу адступаючых

наколаў. На погляд аўтара, гэта найбольш ранні арнаментальны матыў, уласцівы развітому неаліту, але не самы ранні з неалітычных наогул.

Аналізуючы прыведзеныя даныя, А. С. Смірноў (1986) справядліва адзначае прысутнасць усіх адзначаных прыкмет і на развітым этапе неаліту. Апорнымі ранненеалітычнымі паселішчамі Беларускага Падняпроўя з'яўляюцца выяўленыя А. Г. Калечыц (1987) у 1980—1983 гг. помнікі ў басейне р. Іпуць каля в. Дубовы Лог Добрушскага раёна ва ўрочышчах Мішурова Грыва, Фядоткіна Грыва, частка матэрыялаў урочышча Цітаў Бугор, знаходкі ва ўрочышчы Стрэчава-1, паблізу в. Дзям'янкі і іншыя паселішчы (мал. 64—80).

Урочышча Мішурова Грыва ўяўляе пясчаністую ўзгоркаватасць даўжынёю каля 150 м, шырынёю да 15 м, якая мысам уваходзіць у даліну правабярэжжа Іпуці. Перавышэнне над узроўнем вады не больш за 1 м. Да нядаўняга часу залівалася вадой, у выніку часткова затарфавана.

Культурныя рэшткі залягалі ў слоі цёмна-шэрага супеску (да 0,35 м), якія ўскрыты пад дзірваном (0,05 м) і гарызонтам светла-жоўтага намыўнога пяску (да 0,2 м).

У раскопе плошчай 168 м$^2$ сабрана каля 8 тыс. вырабаў з крэменю і 480 фрагментаў пасудзін (мал. 64; 65). Знойдзены таксама сляды двух акруглых жытлаў паўзямлянкавага тыпу і спадарожных ім ачагоў і гаспадарчых ям (мал. 64). Дыяметр цэнтральных, заглыбленых у мацярык частак жытлаў з ачагамі ўнутры не перавышаў 3 м. Глыбіня ад сучаснай дзённай паверхні 0,4—0,6 м. Знешнія контуры жылых ям і сляды іх даху не прасочаны. Прыкметная толькі канцэнтрацыя знаходак навокал.

Для вырабу прылад выкарыстоўваўся крапчасты, г. зн. «сожскі», крэмень і зрэдку кварцыт. Пераважаюць адна- і шматпляцовачныя нуклеусы для зняцця адшчэпаў даўжынёю ад 5—7 да 8—10 см. Характэрна зняцце нарыхтовак па ўсім перыметры. Нягледзячы на даступнасць і блізкасць сыравіны (не больш за 10 км), крэмень выкарыстоўваўся эканомна. Нуклеусы часта дашчэнту спрацаваны і другасна выкарыстоўваліся як ударныя і скрабучыя прылады. Пласціны складаюць 14% ад агульнай колькасці знаходак. Пераважаюць дробныя і сярэдніх памераў (1—3 і 3—5 см па доўгай восі). Пра апрацоўку крэменю на паселішчы сведчыць вялікая колькасць лускавінак, сколаў ажыўлення пляцовак, рабрыстых пласцін і г. д. Другасную апрацоўку маюць 3,5% крэменяў. Сярод гатовых прылад больш за ўсё скрабкоў (94 экз.) (мал. 64: 5—8). Яны рознатыповыя (канцавыя, бакавыя, мысавыя, дзюбападобныя і інш.) і выраблены, як правіла, на краі круглых, часта першасных адшчэпаў. Сярод прылад для высякання і дзёўбання мініяцюрныя сякеркі, грубыя сякеры з нуклеусаў, прылады тыпу «пік», сякера з перахватам, цяслападобныя вырабы (мал. 65: 8—10). Пераважаюць разцы на вугле асколка крэменю, першаснага адшчэпа ці зламанай пласціны, двухгранныя і рэтушныя адзінкавыя.

Невялікую групу складаюць колючыя прылады (праколкі, свердлы, вастрыі), мікраліты (мал. 65: 12—15). Ёсць скоблі, прылады з рэтушшу невядомага прызначэння, рознатыповыя наканечнікі стрэл. Сярод іх трохкутныя з прамой асновай, частковай рэтушшу па краі, авальныя грубаабабітыя з двух бакоў па ўсёй паверхні, чаранковыя асіметрычныя з рэтушшу чаранка з двух бакоў, фрагменты двух вялікіх ромбападобных дроцікаў (мал. 65: 1—4). Знойдзена некалькі адбойнікаў, рэтушораў і нарыхтоўкі сыравіны.

Фрагменты пасудзін паходзяць ад неалітычных гаршкоў (мал. 65: 1—7) і 2—3 гаршкоў бронзавага веку (сярэднедняпроўская культура). Большасць фрагментаў (63%) неалітычных пасудзін не арнаментаваныя. Гэта галоўным

чынам фрагменты сценак. Захаванасць іх вельмі дрэнная. Вялікая колькасць у цесце раслінных дамешак, таўстасценнасць, рыхласць, дрэннае абпальванне, прымітыўнасць арнаментацыі, яе беднасць і аднастайнасць (адбіткі вялікага грэбеня (10%) і ямкавыя (7%), часцей авальныя ўціскані) у спалучэнні з дастаткова архаічным выглядам крамянёвых вырабаў дазваляюць датаваць асноўную масу раннім этапам неаліту (мал. 66).

Прыкладна на адлегласці 0,4—0,5 км на паўночны захад ва ўрочышчы Фядоткіна Грыва на доўгай (200 м), даволі вузкай (да 15 м) пясчанай узгорыстасці А. Г. Калечыц (1987) выяўлена і раскапана на плошчы 424 м² другое ранненеалітычнае паселішча.

Гэта грыва таксама ледзьве выступае над поймай (0,9 м) і можа залівацца пры высокіх паводках.

Культурныя рэшткі залягалі пад дзірваном у слоі чорнай гумусаванай глебы (магутнасць 0,7 м) і перакрываючым яе шэрым намыўным пяску. Ніякіх слядоў гаспадарча-бытавых пабудоў не знойдзена. Узворваннем парушаны культурны слой і разбурана частка знаходак (пасудзіны). Агульныя суадносіны асобных катэгорый вырабаў, тэхніка іх апрацоўкі, сыравіна аналагічныя з вышэйапісанымі. Крыху ніжэйшы (2,4%) працэнт вырабаў з другаснай апрацоўкай. Знойдзена серыя мініяцюрных сякерак (мал. 66: 15—18), укладышаў. Наканечнікі стрэл (8 экз.) пласцінчатыя, з добра ці ледзь прыкметным чаранком. Пяро двух з іх падпрацавана плоскай рэтушшу з брушка. Чаранок астатніх апрацаваны крутой рэтушшу са спінкі. Ёсць наканечнік з падпраўкай з двух бакоў і ў зоне пяра, і ў зоне чаранка (мал. 66).

Фрагменты пасудзін аналагічныя са знойдзенымі ва ўрочышчы Мішурова Грыва (мал. 67). Невялікая колькасць нязначных дамешак, дрэннае абпальванне прывялі да амаль поўнага распаду цеста, якоеператварылася ў мазь. Асноўная частка фрагментаў пасудзін не арнаментаваная. На астатніх ёсць сляды вялікага грабеньчатага штампа (10%), ямкавых уцісканняў (11,5%), іх спалучэнняў (2%), кропкавых наколаў і ў адным выпадку — адбіткі прачэрчанай сеткі. Наяўнасць у комплексе познанеалітычных формаў, прылад з двухбаковай апрацоўкай сведчыць лра магчымую дамешку гэтых матэрыялаў.

Аналагічныя спалучэнні артэфактаў (архаічная кераміка і мезалітычны выгляд крамянёвых вырабаў) знойдзены і на іншых паселішчах басейна р. Іпуці. Гэта ўрочышчы Стрэчава-1 і 2 каля в. Дзям'янкі Добрушскага раёна, Цітаў Бугор на захад ад Фядоткінай і Мішуровай грыў і інш. У раннім мезаліце і неаліце аднатыповыя разцы, скрабкі. Вар'іруе толькі форма іх нарыхтовак і змяняюцца суадносіны тыпаў (змяншаецца колькасць рэтушных і двухгранных) разцоў. Вырабы адрозніваюцца нядбайнасцю апрацоўкі, макралітычнасцю. У складзе комплексаў паступова з'яўляюцца прылады з двухбаковай апрацоўкай паверхні, клінападобныя сякеры і вырабы тыпу «пік», павялічваецца колькасць цёслаў.

На раннім этапе адносна вялікі працэнт вырабаў на пласцінах. Даволі шмат разцоў, але колькасна абавязкова пераважаюць скрабкі. Сярод апошніх больш акруглых, сярэдніх, рэтушаваных поўнасцю ці часткова па перыметры. На другім месцы прылады для сячэння, галоўным чынам невялікія (да 6—8 см у даўжыню) авальныя і клінападобныя сякеры. Сустракаюцца сякеры, лязо якіх аформлена папярочным сколам, зрэдку сякеркі з перахопам. Разцы вуглавыя (іх заўсёды больш), двухгранныя і рэтушныя. Прылад з пласцін заўсёды менш, чым з адшчэпаў. На раннім этапе неаліту для

вырабу прылад насельніцтва верхнедняпроўскай культуры аддавала перавагу выкарыстанню пласцін сярэдніх (3—5 см), а адшчэпаў дробных (1—3 см) памераў.

Для ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры найбольш характэрныя таўстасценныя (ад 1 да 1,5 см) пасудзіны з прамым венцам, тоўстымі (да 5 см) вострымі днішчамі. Дыяметр іх роўны ў сярэднім 30—40 см, вышыня, відаць, не перавышае 40 см. У цесце шмат раслінных дамешак, якія, выгараючы, пакідаюць выразныя сляды. Абпальванне слабае, цеста вельмі рыхлае. Некаторыя пасудзіны (урочышча Фядоткіна Грыва) амаль не ўтрымлівалі дамешак. Да гліны прымешвалі толькі крыху пяску. Захаванасць ранняга посуду вельмі дрэнная, ва ўмовах пераўвільгатнення слаба абпаленыя абломкі ператварыліся ў цестападобную масу. Арнаментацыя зводзілася да нанясення пад некаторым вуглом авальных, круглых ямкавых уцісканняў і адбіткаў грубага грэбеня. Гэтыя ўцісканні не пакідалі на адваротным баку негатываў (мал. 67, 80).

Адсутнасць серыі рэстаўрыраваных пасудзін дазваляе толькі з большай доляй верагоднасці ўстанавіць характар занальнасці, тыповы пры арнаментацыі. Прасочваюцца гарызантальныя паясы, што апаясваюць пасудзіны, і неарнаментаваныя зоны, зрэдку суцэльная арнаментацыя паверхні. Часцей упрыгожвалася верхняя частка гаршкоў, радзей — днішчы і прыдонная частка ў цэлым. Пры лепцы пасудзін паралельна з ручным загладжваннем унутраных паверхняў прымянялася загладжванне пучком травы, а пазней грабеньчатым штампам, абвязванне валакністай пасмай пад венцам.

Расчэсванні рознанакіраваныя і адрозніваюцца ад тых, што наносіліся з двух бакоў ці толькі звонку з мэтай упрыгожвання пасудзін. У такім выпадку яны наносіліся сіметрычна, пад пэўным вуглом, з пакіданнем пустых зон, што і фарміравала занальнасць. Пасудзіны ляпіліся стужкава-кальцавым спосабам. Некаторыя з іх мелі шэраг цыліндрычных ямак з негатывамі на адвароце, прыблізна каля 3 см ніжэй за абрэз венца. Безумоўная (але не абавязковая) прыкмета старажытнасці — вялікая колькасць таўстасценных пасудзін, адсутнасць прафілёўкі, разрэджаная, аднастайная арнаментацыя. У якасці дамешак у цесце можа сустракацца тоўчаны кварц.

На раннім этапе верхнедняпроўская кераміка практычна не мае аналогій. Адсутнасць касасеткавых кампазіцый, ромбаў як элементаў і як сістэм арнаменту, шахматных кампазіцый не дазваляе правесці прамыя аналогіі ні з днепра-данецкай, ні з дзяснінскай, ні з л'ялаўскай керамікай.

Найбольш істотным адрозненнем матэрыялаў Беларускага Пасожжа і Смаленшчыны можна лічыць форму донца (акругладонныя гаршкі Смаленшчыны і вастрадонныя Беларусі).

Другім істотным момантам з'яўляецца адрозненне дамешак (на Смаленшчыне жарства, у Беларусі пясок, кварц, расліннасць). Калі ўлічыць, што аналогіі раннім матэрыялам неаліту Пасожжа, як і Верхняга Падняпроўя, у цэлым невядомыя, то можна сцвярджаць, што верхнедняпроўская культура сфарміравалася на мясцовай мезалітычнай аснове пад уплывам суседніх культур лясной паласы, што прыкметна пры ідэнтыфікацыі арнаментацыі пасудзін. Уяўляецца праблематычнай вядучая роля палескага неаліту ў гэтым працэсе.

Паміж ранняй танкасценнай керамікай са шматлікімі раслінными дамешкамі ў цесце, беднымі арнаментамі (насечкі, адбіткі дробназубчатага штампа, невялікія ўцісканні, прачэрчаны касасеткавы ўзор, глыбокія ямкі пад

венцам) Заходняга Палесся і вывучаемым рэгіёнам — вялікая, слаба насычаная матэрыяламі тэрыторыя Усходняга Палесся. Згодна з даследаваннямі У. Ф. Ісаенкі (1976а. С. 56): «У раннім неаліце плямёнаў Заходняга і Усходняга Палесся, культуры якіх дастаткова выразна адрозніваліся крамянёвым інвентаром, з'явіліся ва ўжытку пасудзіны, падобныя па форме, тэхналогіі вырабу, арнаментацыі, якія адрозніваюцца нязначнымі дэталямі. Гэты факт можа тлумачыцца толькі культурным імпульсам, што зыходзіў з аднаго і таго ж цэнтра». Гэтым цэнтрам з'яўляўся рэгіён распаўсюджання буга-днястроўскай культуры. Істотны бар'ер у выглядзе балот быў і з поўдня. ён аддзяляў у нейкай ступені арэал верхнедняпроўскай культуры ад ранніх помнікаў днепра-данецкай культуры.

У. Ф. Ісаенка (1983. С. 73), характарызуючы заходнепалескі варыянт нёманскай і палескі днепра-данецкай культур, адзначаў, што, нягледзячы на падабенства тэрыторый, прамых кантактаў паміж носьбітамі гэтых культур з верхнедняпроўскай не існавала.

Наяўныя даныя дазваляюць акрэсліць вобласць распаўсюджання верхнедняпроўскай культуры на раннім этапе ў рамках Ніжняга і Сярэдняга Пасожжа. З улікам даных па Смаленшчыне яна значна шырэйшая, чым меркавалася раней.

Наяўнасць такіх адносна «чыстых» ранненеалітычных комплексаў, якія выяўлены на паселішчах Фядоткіна Грыва і Мішурова Грыва, дазваляе з мноства нестратыфікаваных матэрыялаў неалітычнага часу, знойдзеных на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя, вылучыць раннія. Яны, безумоўна, прысутнічаюць на вывучаных аўтарамі неалітычных паселішчах каля в. Струмень Кармянскага раёна, магчыма, ва ўрочышчы Курганне каля в. Гронаў Чэрыкаўскага раёна і на іншых помніках.

Разам з тым неабходна прызнаць такі падыход да члянення матэрыялаў дастаткова штучным. Па аналогіі з заходнепалескімі неалітычнымі старажытнасцямі нёманскай культуры традыцыі свідэрскай тэхнікі, на базе якой развіваўся неаліт Заходняга Палесся, захаваліся аж да бронзавага веку. Можна меркаваць, што прысутнасць архаічных пласцінчатых формаў на помніках Верхняга Падняпроўя таксама спадчына свідэрскай падасновы. Акрамя таго, такі дрэнна абпалены, амаль не арнаментаваны посуд мог быць састаўной часткай матэрыялу позняга неаліту і прызначаўся для нейкіх пэўных мэт.

**Позні этап (другая палова 4-га — канец 3-га — пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.).** Помнікі гэтага этапу верхнедняпроўскай культуры вывучаны лепш, паколькі распаўсюджаны значна шырэй і раскапаны на большых плошчах. Калі, як адзначалі аўтары, на раннім этапе арэал верхнедняпроўскай культуры абмежаваны Ніжнім і Сярэднім Пасожжам, то ў далейшым носьбіты гэтай культуры рассяляліся практычна па ўсім Верхнім Падняпроўі (Магілёўская і Гомельская, поўдзень Віцебскай, усход Мінскай, поўнач Чарнігаўскай, Бранская і Смаленская вобласці).

Значныя працы на помніках позняга неаліту знайшлі адлюстраванне ў літаратуры. Публікацыі прысвечаны як характарыстыцы асобных помнікаў (Палікарповіч, 1928, 1930а, 1932а; Поликарпович, 1957а; Ляўданскі, 1925; Артеменко, 1964 а — г; Тюрина, 1967б; Гаврилова, 1964; Третьяков, 1975—1990; Калечиц, 1987; Смирнов, 1986,1991 і інш.), так і агульным пытанням (Тюрина, 1967—1973; Телегин, 1971,1973; Формозов, 1959; Третьяков, 1975, 1990 і

інш.). У гэтых працах можна знайсці звесткі аб групах паселішчаў верхнедняпроўскай культуры не толькі на тэрыторыі Усходняй Беларусі, але і ў суседніх рэгіёнах, у прыватнасці Смаленскай вобласці.

Аўтар зрабіла спробу вывучэння помнікаў позняга этапу верхнедняпроўскай культуры ў розных частках арэала. Апорнымі сярод іх можна лічыць найбольш паўночныя з раскапаных А. Г. Калечыц паселішчаў каля в. Гронаў (урочышчы Строў, Курганне) Чэрыкаўскага раёна, в. Кліны (урочышчы Мсціж, Грыўкі і Туфлі Слаўгарадскага раёна), яшчэ ніжэй па Сажы каля в. Струмень (урочышчы Лоша-1, 2, Нараг, Біручыха) Кармянскага раёна, урочышча Летнік паблізу в. Падлужжа Чачэрскага раёна і нарэшце самыя паўднёвыя, сярод якіх паселішчы ва ўрочышчах Цітаў Бугор і Падлужжа каля в. Дубовы Лог Добрушскага раёна. Акрамя гэтага, ёсць шмат матэрыялаў паверхневых збораў з наваколля вёсак Прысна, Старое Аднаполле, Барталамееўка і інш.

Паміж вёскамі Гронаў і Вепрын Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці на пясчаных узвышанасцях левабярэжжа р. Сож ва ўрочышчах Востраў і Курганне ў 1974 г. В. П. Траццяковым знойдзены паселішчы з матэрыяламі мезаліту, неаліту і жалезнага веку. А. Г. Калечыц у 1975 г. ва ўрочышчы Курганне на плошчы 140 $м^2$ выяўлена звыш 2 тыс. фрагментаў пасудзін і каля 1,5 тыс. крамянёвых вырабаў, у тым ліку каля 200 закончаных прылад (мал. 68). Слядоў гаспадарчых пабудоў не знойдзена, магчыма, таму, што мела месца дэлювіяльнае перанясенне знаходак па схілу. Прылады з другаснай апрацоўкай склалі 13%. Тэхніка першаснага расшчаплення заснавана на утылізацыі ядрышчаў з аднабаковым зняццем нарыхтовак.

Нуклеусы аднапляцовачныя, канічнай формы з прамымі ці скошанымі пляцоўкамі. У калекцыі пераважаюць скрабкі. Яны разнастайныя па параметрах і тыпах, трэцяя частка іх на першасных і другасных адшчэпах, рэтушаваных па перыметры ці з трох бакоў. Астатнія на адшчэпах аморфных абрысаў, канцах пласцін.

Характэрныя скрабкі высокага профілю. Знойдзены таксама скоблі, выробленыя на адшчэпах, у тым ліку вельмі дробных. Грубыя масіўныя скрэблападобныя вырабы (21 экз.) апрацаваны па краі буйнымі сколамі. Выяўлены цёслы (мал. 68: 21, 22), сякеры (27 экз.), прылады з завастрэннем, прылады для вырабу іншых прылад. Знойдзена крамянёвая булава (?) (мал. 68: 20), наканечнікі стрэл і коп'яў ромбападобнай і трохкутнай формы (мал. 68: 1—7), у тым ліку трохкутныя з шырокім, ледзьве прыкметным чаранком. Сярод разцоў шэсць двухгранных і з непадпрацаванай пляцоўкай сколу. Адзінкавыя мікраліты (трапецыі) (мал. 68: 25—28). Прылады выраблены з тыповага «сожскага» крэменю, паклады якога ў крэйдзе ёсць прама каля падножжа тэраскі ўрочышча Курганне (мал. 68).

Посуд адрозніваецца добрым абпальваннем, разнастайнай і даволі складанай арнаментацыяй, у цесце пясок і крыху расліннай дамешкі. Пасудзіны вельмі разнастайныя па колеру, спосабе нанясення і тыпах грэбеня, сістэмах арнаменту, але аднастайныя па форме. Характэрна спалучэнне адбіткаў грэбеня з іншымі элементамі (наколамі пад вуглом, авальнымі ўцісканнямі і інш.). Пераважаюць гарызантальныя, што апярэзваюць пасудзіну, матывы. 7% фрагментаў упрыгожана толькі ямкамі. Гэтыя ўцісканні нанесены строга па нармалі і пакідаюць выразныя сляды на адвароце. Частку фрагментаў, відаць, можна датаваць ранннім этапам неаліту, паколькі яны паходзяць ад пасудзін вельмі таўстасценных са шматлікімі расліннымі дамешкамі ў цесце, расчэсваннямі знутры, дрэнна абпаленых. Значна больш (звыш 20%)

фрагментаў упрыгожана ямкавымі адбіткамі. У адрозненне ад ямкавых яны не пакідаюць негатываў на адвароце, разнастайныя па форме (трохкутныя, кроплепадобныя, авальныя, падпрамавугольныя і інш.), даволі дробныя, часта нанесены пад вуглом. Насельніцтва Гронаўскай стаянкі адчувала на сабе ўплыў культур грабеньчата-ямкавай керамікі пры наяўнасці культурных імпульсаў з поўдня. Больш за 6% фрагментаў упрыгожана ў традыцыях культур накольчата-грабеньчатай керамікі. Уплыў ромба-ямкавай керамікі Падзясення нязначны.

На змешаным (ёсць матэрыялы неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў) паселішчы ва ўрочышчы Строў, размешчаным побач з урочышчам Курганне, знойдзена каля 70 фрагментаў пасудзін верхнедняпроўскай культуры. Яны былі танкасценныя, з расчэсваннямі знутры, дамешкай пяску, жарствы, невялікай колькасці раслінасці ў цесце. Упрыгожаны разрэджанымі гарызантальнымі радамі здвоеных наколаў, наколамі, нанесенымі пад вуглом, адбіткамі грэбеня ў спалучэнні з гарызантальнымі радамі наколаў. Лапчасты арнамент у чыстым выглядзе і ў спалучэнні з грэбенем таксама фарміруе паясы, што апярэзваюць тулава.

Крыху на поўдзень на паселішчах неаліту каля в. Кліны Слаўгарадскага раёна ва ўрочышчах Мсціж, Грыўка і Туфлі выяўлена тая ж заканамернасць. Пасудзіны ўпрыгожаны адбіткамі грэбеня, ямкавымі і лапчастымі адбіткамі, радзей наколамі адступаючай лапаткі, што фарміруюць гарызантальную занальнасць. Значная частка фрагментаў не арнаментавана. Ромба-ямкавы арнамент, нанесены на паверхню некалькіх фрагментаў, сабраных ва ўрочышчы Грыўка, не дае негатываў на адвароце.

У цэнтры арэала верхнедняпроўскай культуры каля в. Струмень Кармянскага раёна Гомельскай вобласці ў 1976—1983 гг. А. Г. Калечыц раскапаны паселішчы Лоша-1 і 2, Біручыха і Нараг, знойдзеныя К. М. Палікарповічам у 1927 г.

На моцна разбураным эрозіяй паселішчы Біручыха, размешчаным на адлегласці 0,2 км на захад ад в. Струмень на беразе возера-старыцы Аўчыннікава Калюга, дзе дзюнныя ўзгорыстасці вышынёй да 0,4 м цягнуцца нешырокай (да 15 м) паласой паралельна рэчышчу р. Струменю і месцамі раздзьмутыя, ускрыта 183 $м^2$. Знаходкі залягалі пад дзірваном у слоі супеску і розназярністага пяску. Знойдзены тры плямы ад ачагоў, вялікая колькасць керамікі, развал пасудзіны (мал. 75). Атрымана больш за 1300 расшчэпленых крэменяў (у тым ліку 200 прылад) і 637 фрагментаў пасудзін. У калекцыі пераважаюць адшчэпы, пласціны сярэдніх (3—5 см) памераў, адыходы крамянёвай вытворчасці. Сярод прылад налічваецца больш за ўсё вырабаў для сячэння (мал. 69).

Разам з мініяцюрнымі цёсламі і сякерамі знойдзены грубыя вялікія. Вастрыі, праколкі зроблены ў асноўным на адшчэпах (мал. 69: 7—10). Скрабкі (канцавыя, бакавыя, камбінаваныя) і скрэблы, як правіла, выраблены з адшчэпаў акруглых абрысаў, у тым ліку першасных, зрэдку з пласцін (мал. 69: 20—23).

Сярод знаходак ёсць скоблі, вуглаавыя разцы, шэсць мікралітаў, рамбічныя і трохкутныя наканечнікі стрэл і дроцікаў. Нуклеусы аднапляцовачныя, канічныя, агранёныя па перыметры. Помнік змяшчае таксама матэрыялы сярэднедняпроўскай і сосніцкай культур бронзавага веку.

У цесце неалітычнай керамікі дамешкі пяску, радзей — зярнят кварцу і раслінных рэшткаў. Пасудзіны ўпрыгожаны адбіткамі грабеньчатага, ямкавага і накольчатага штампа. Унутры расчэсванні зубчатым штампам. У пра-

цэнтных адносінах аднолькавая колькасць фрагментаў з грэбенем і ямкавымі ўціскannямі, на трэцім месцы лапчастыя адбіткі.

Самымі яркімі сярод дasледаваных паселішчаў верхнедняпроўскай культуры з'яўляюцца стаянкі ва ўрочышчы Лоша (Ласіная Гара). Яны размешчаны на пясчаных узвышанасцях левага берага р. Сож на адлегласці 1,5 км ад асноўнага рэчышча і 0,7 км ад в. Струмень, у міжрэччы Сажа і Струменкі. Перавышэнне самай высокай кропкі ўрочышча над межавым узроўнем вады 3,9 м. Шырыня грывы ад 15 да 20 м. Лоша-1 размешчана на самым высокім участку яе (ускрыта 620 м²), Лоша-2 — на найбольш паніжанай частцы ўрочышча (ускрыта 2332 м²). Агульная плошча са знаходкамі дасягае 7000 м².

На паселішчы **Лоша-1** знойдзены чатыры жытлы, 19 гаспадарчых ям, 15 вогнішчаў, тры пахаванні, а таксама 9,7 тыс. расшчэпленых крэменяў і 7,4 тыс. абломкаў пасудзін (Калечыц, 1987).

Неалітычнае жытло № 1 захавалася ў выглядзе авальнай (4x2 м) плямы з цёмна-шэрым запаўненнем. Унутры яго, у верхняй частцы, сляды магутнага (0,3 м) позняга попельніку. У запаўненні загартаваны пясок, вуголле, вырабы з крэменю і гліны. Жытло заглыблена ў мацярык на 0,6 м, у профілі чашападобнае. Пры разборцы знойдзена шэсць аднапляцовачных нуклеусаў, цёслы, нажы, адыходы крамянёвай вытворчасці, фрагменты посуду, упрыгожаныя адбіткамі грэбеня, ямкавымі ўціскannямі. У цесце шмат раслінных дамешак. Магчыма, гэта ранненеалітычнае жытло.

Жытлы 2—4 няправільнай прамавугольнай формы паўзямлянкавага тыпу паселішча Лоша-1 датуюцца бронзавым векам. На плошчы раскопу знойдзены таксама тры грунтавыя пахаванні сярэднедняпроўскай культуры па абраду трупаспалення.

Прылады працы (каля 900 адзінак, 10%) выраблены з тыповага «сожскага» шэрага з белымі ўкрапваннямі крэменю, зрэдку са светла-шэрага, падобнага на сланец кварцыту. Апрацоўка крэменю праводзілася на паселішчы. Вывучаючы матэрыяльныя рэшткі, можна прасачыць увесь вытворчы цыкл ад першаснага расшчаплення да атрымання закончаных вырабаў. Зняцце нарыхтовак праводзілася пераважна з аднапляцовачных канічных нуклеусаў памерам 6—8 см. Тыповым з'яўляецца аднабаковае зняцце нарыхтовак. Ёсць таксама шматпляцовачныя чарапахападобныя нуклеусы. Рэзка пераважаюць адшчэпы і прылады з іх. Сярод прылад з другаснай апрацоўкай больш за ўсё прылад для сячэння, а сярод апошніх — цёслаў. Яны выраблены з вялікіх асколкаў крэменю, масіўных адшчэпаў, спрацаваных нуклеусаў. Шмат якія маюць аформленыя сколамі чаранкі для замацавання ў муфце.

Як сярод сякер, так і сярод цёслаў ёсць мініяцюрныя (да 5 см па доўгай восі). Знойдзены жалабаватыя цёслы. Сякеры, як правіла, 5—7 см даўжыні. Сляды заломаў, збітасці сведчаць пра другаснае выкарыстанне спрацаваных прылад у якасці адбойнікаў, рэтушораў. На другім месцы ў колькасных адносінах скрабкі (200 экз., 22%). Яны выраблены галоўным чынам з адшчэпаў акруглых абрысаў. Рэтушаваны па частцы перыметра. Ёсць мысавыя, бакавыя, двайныя. Адрозная іх асаблівасць — высокі профіль і наяўнасць на спінцы ўчастка крэйдавай скарынкі. Шмат у якіх скрабкоў для замацавання ў рукаяці таксама выдзелены чаранок. У калекцыі пераважаюць ножападобныя пласціны сярэдніх памераў (3—5 см). Шырокія і доўгія (да 10 см) паходзяць з закрытых комплексаў бронзавага веку. Частка пласцін

рэтушавана па адным краі, асобныя — па перыметры. Сустракаюцца нажы шырокія з закругленнем па краі, са слаба выдзеленым чаранком.

Цікавая серыя рыбных і мясных нажоў асіметрычных, добра апрацаваных па ўсёй паверхні з двух бакоў струменістай рэтушшу. Яны маглі таксама служыць сярпамі. У калекцыю ўваходзяць скоблі, праколкі, свердлы, фігурныя крэмені адзінкавыя. Сярод разцоў пераважаюць вуглавыя, двухгранныя сустракаюцца зрэдку. Выраблены на зломах адшчэпаў, нуклеусах. Серыя наканечнікаў пададзена трохкутнымі з прамой і ўвагнутай асновай, лазалістымі, ромбападобнымі, міндалепадобнымі формамі. Ёсць авальныя і ромбападобныя наканечнікі коп'яў і дроцікаў. З улікам вялікага працэнта знаходак бронзавага веку можна меркаваць, што частка наканечнікаў, асабліва апрацаваных струменістай рэтушшу па ўсёй паверхні з двух бакоў, і нажоў, відаць, пакінута насельніцтвам сярэднедняпроўскай культуры. Кераміка аналагічная знойдзенай ва ўрочышчы Лоша-2 і будзе ахарактарызавана ніжэй.

На адлегласці 200 м на паўднёвы ўсход ад раскопу ва ўрочышчы Лоша-1 праведзены шматгадовыя раскопкі паселішча Лоша-**2**. На плошчы 2332 $м^2$ атрымана 38670 расшчэпленых крэменяў, 34917 фрагментаў пасудзін, ускрыта пяць неалітычных жытлаў і 42 гаспадарчыя ямы А. Г. Калечыц (1987).

Жытло № 1 ускрыта часткова (частка знішчана траншэяй). Знешні контур у цэлым авальны (4x6 м), мае няроўныя краі, выцягнуты па схілу з усходу на захад (дэлювіяльны знос). Цэнтральная частка парушана і запоўнена светла-жоўтым пяском. Ачаг не знойдзены (магчыма, разбураны). Падлога на глыбіні 0,5 м ад старажытнай паверхні паніжаецца да ракі. Пры разборцы знойдзена 37 фрагментаў керамікі (неалітычнай) і 23 вырабы з крэменю, сярод якіх пераважаюць адшчэпы.

Жытло № 2 у выглядзе цёмна-шэрай плямы амаль правільнай акруглай формы, дыяметрам 3,80 м, выяўлена на глыбіні 0,25 м. Яно заглыблена ў мацярык на 0,4 м. Ва ўсходняй частцы ўскрыты доўгі (1,8x0,5 м) і магутны (да 0,5 м) заглыблены ў падлогу жытла ачаг, які складаецца з пясчана-попельнай масы. Побач, таксама ў падлозе, знаходзіцца круглая яма (след апорнага слупа, склеп, месца для ахвяравання?) глыбінёй да 1 м, дыяметрам 0,8 м. У межах жытла знойдзена 68 фрагментаў неалітычнай керамікі і 46 вырабаў з крэменю. Акрамя адшчэпаў выяўлены прылады для сячэння, скрабкі, пласціны (мал. 70).

Жытло № 3 амаль круглае ў плане (3,75x3,50 м) з дзвюма плямамі ад ачагоў (адно позняе) і ямай унутры. Яно добра прыкметна дзякуючы цёмнай афарбоўцы супясчанага запаўнення на глыбіні 0,40 м ад дзённай паверхні. Знаходкі канцэнтраваліся на ўзроўні 0,60 м, фіксуючы падлогу. Ачаг адкрытага тыпу (0,70x0,1 м), заглыблены ў падлогу, размяшчаўся каля сцяны жытла ў паўночнай частцы. Відаць, ён эксплуатаваўся працяглы час, паколькі інтэнсіўная афарбоўка супясчана-попельнага запаўнення прасочваецца да 0,85 м. Яма ў падлозе ўскрыта каля броўкі жытла ў заходняй частцы. Яна глыбокая (да 0,95 м) і вузкая (да 0,5 м). У межах жытла знойдзена 105 вырабаў з крэменю і 11 фрагментаў неалітычнай керамікі. Сярод знаходак 14 нуклеусаў, 53 адшчэпы, 17 пласцін, скрабок, 4 вастрыі, 4 прылады з разцовымі сколамі, рэтушор, 3 краявыя сколы і інш. Фрагменты посуду ўпрыгожаны лапчастым, грабеньчатым, наразным арнаментам, тры не арнаментаваны.

Жытло № 4 круглае ў плане (2,25x2,50 м). Глыбіня яго ад 0,5 да 0,8 м, падлога няроўная. Парушана познім перакопваннем. Выкіданне з перакоп-

вання стварыла перамычку з чыстага белага пяску паміж трэцім і чацвёртым жытламі. Пры разборцы перамычкі знойдзена 25 фрагментаў керамікі бронзавага веку і 15 вырабаў з крэменю. У запаўненні жытла выяўлена 11 фрагментаў неалітычнай керамікі і 10 крамянёвых вырабаў. Да сценкі жытла (заходняя частка) знутры прылягаў круглы ў плане ачаг 0,5 м у дыяметры, заглыблены ў падлогу жытла на 0,2 м, які складаўся з супясчана-попельнай масы. Невялікая гаспадарчая яма прылягала да жытла звонку, з поўдня. Круглая, да 1,0 м у дыяметры, яма мела глыбіню 0,2 м. У запаўненні знойдзена дзевяць фрагментаў неалітычнай керамікі, два адшчэпы, скрабок і крэмень са сколамі.

Жытло № 5 амаль круглае ў плане (3,5х3 м). Яго глыбіня 0,5 м. Пляма ад ачага ў цэнтры выяўлена слаба, у ёй светлая перапаленая супесь. У запаўненні паўсюдна сустракаюцца адзінкавыя вуглі. Каля паўночна-заходняга краю, як і ў папярэднім жытле, расчышчана вельмі глыбокая (да 1,40 м) яма невядомага прызначэння. Пры разборцы жытла знойдзена 239 вырабаў з крэменю, 18 фрагментаў неалітычнай керамікі і чатыры камяні. Большасць артэфактаў — адшчэпы. Сярод прылад фрагмент цясла, тры разцы, 24 ножападобныя пласціны, прылады з двухбаковай апрацоўкай. Знойдзена 8 нуклеусаў і 14 сколаў іх ажыўлення. Такім чынам, усе яны амаль круглыя ў плане (адпаведна 4х6; 3,8х3,8; 3,7х3,5; 2,2х2,5; 3,5х3 м), маюць унутры, у паглыбленні падлогі, адзін-тры лакалізаваныя ачагі адкрытага тыпу і круглыя глыбокія ямы (у сярэднім памерам 1х0,6 м). Яны могуць быць слядамі апорных слупоў, гаспадарчых ям-скляпоў, месцаў для ахвяраванняў. Улічваючы, што на дне кожнай знойдзена некалькі фрагментаў посуду, аўтар схільная да апошняга меркавання. Падлога няроўная, фіксуецца ніжнім узроўнем залягання знаходак. Унутры жытлаў знойдзены вырабы з крэменю і фрагменты посуду, упрыгожанага грабеньчатым, ямкавым, лапчастым, наразным арнаментам. Сярод знаходак не толькі адыходы вытворчасці, але і закончаныя прылады. Яны дазваляюць адносіць жытлы да развітага неаліту.

З вялікай калекцыі крамяневых знаходак (мал. 71; 72) палову складаюць жаўлакі, расколатыя крэмені, мноства асколкаў, зрэдку са слядамі працы ці рэтушы. Адзінкавыя прылады зроблены з кварцыту і сланцу. Нарыхтоўкі ў выглядзе адшчэпаў і пласцін здымаліся пераважна з аднапляцовачных нуклеусаў шляхам аднабаковага зняцця. Двух- і шматпляцовачныя формы адзінкавыя. Частка нуклеусаў паўторна выкарыстоўвалася ў якасці прылад для сячэння. Сярод адыходаў вытворчасці абсалютна пераважаюць (12080 экз., 31%) адшчэпы. Некаторыя частковa ці па перыметры рэтушаваны. Сярод пласцін (каля 2000 экз., 4%) вялікія і сярэдніх памераў (3—5 см). Шмат якія рэтушаваны па перыметры (мал. 71: 24—26). Сярод прылад пераважаюць сякеры і цёслы (530 экз. — 25%). Сярэдняя даўжыня іх не перавышае 6—8 см, але ёсць і вельмі дробныя (да 4 см) (мал. 72: 4, 5, 9, 10, 12, 13, 17).

Частка прылад для сячэння выкарыстоўвалася паўторна, краі іх моцна спрацаваны, маюць заломы, забітасць. На другім месцы, як і ва ўрочышчы Лоша-1, знаходзяцца скрабкі (мал. 71: 28—31). Большасць іх выраблена з адшчэпаў высокага профілю акруглых абрысаў. Шмат якія захавалі ўчасткі крэйдавай скарынкі на спінцы. Знойдзены канцавыя, бакавыя, мысавыя скрабкі на адшчэпах, канцавыя на пласцінах і двайныя адзінкавыя. Як правіла, процілеглы рабочаму краю канец прылады падоўжаны і завужаны для замацавання ў рукаяці. Знойдзены скрэблы на масіўных адшчэпах і сколах крэменю, з участкамі грубай, буйнафасетачнай рэтушы. Суадносіны на-

жоў, сярпоў, вуглавых (зрэдку двухгранных і нуклепадобных) разцоў, праколак, вастрый, фігурных крэменяў у колькасных адносінах і па тэхніцы апрацоўкі іх рабочага краю аналагічныя знойдзеным на паселішчы ва ўрочышчы Лоша-1. Як суадносяцца культурныя слаі гэтых помнікаў паміж сабой, дакладна высветліць не ўдалося, паколькі зона іх стыку не раскопвалася. Улічваючы вялікую ідэнтычнасць матэрыялаў і стратыграфіі, аўтар мяркуе, што яны адначасовыя.

Асноўная маса фрагментаў посуду ва ўрочышчах Лоша-1 і Лоша-2 упрыгожана адбіткамі грэбеня вузка- і шыраказубага, прамога і выгнутага. Пасудзіны вастрадонныя, выраблены спосабам стужкавага налеплівання, таўшчыня сценак вагаецца ад 6 да 15 мм. У цесце посуду, упрыгожанага грэбенем, шматлікія раслінныя дамешкі. Венцы прамыя, крыху адагнутыя вонкі. Па краі нарэзкі, уцісканні. Пад імі традыцыйны адзін (радзей два) рад цыліндрычных, часта скразных ямак. Пераважае гарызантальная сістэма арнаментацыі, што апярэзвае тулава. Зрэдку рады грэбеня нанесены ў шахматным парадку. Часта яны наносіліся разам з ямкавымі ўцісканнямі, наколамі, зробленымі пад вуглом. Гэта магло быць простае паслядоўнае чаргаванне гарызантальных радоў грэбеня і ямак рознай канфігурацыі ці падвоеных радоў у розных спалучэннях.

На паселішчы Лоша-2 знойдзены пасудзіны з негатывамі ямак на адвароце, у тым ліку ямак вялікага (да 12 мм) дыяметра, нанесеных па нармалі (мал. 73: 7). Раслінных дамешак у цесце такіх пасудзін значна менш. Шэраг фрагментаў і венцаў належаў слабапрафіляваным гаршкам са злёгку ўвагнутым краем, упрыгожаным па абрэзку венца адбіткамі грэбеня. Характэрныя і наколы па абрэзу, шэраг ямак пад ім, ніжэй падвойны рад гарызантальных наколаў і нарэшце трохкутныя зоны, якія звісаюць, утвораныя перакрыжаванымі пад вуглом радамі грэбеня і наколаў.

На посудзе з ямкавымі ўцісканнямі вялікая разнастайнасць канфігурацый ямак (трохкутныя, авальныя, кроплепадобныя), наколкі полым рабром, трубачкай, доўгія і вузкія, падковападобныя, серпападобныя, рамбічныя і інш. (мал. 73). Сценкі гэтага посуду, як правіла, тонкія. Таўшчыня іх не перавышае 10 мм. Унутраная паверхня звычайна носіць сляды расчэсванняў зубчатым штампам. Яшчэ танейшыя (7—8 мм) сценкі посуду, упрыгожанага лапчастымі адбіткамі. Яны нанесены канцом нахіленай палачкі, абкручанай ніткай ці даволі тоўстым шнурком, а таксама тканінай. У цесце значныя раслінныя дамешкі. Унутраная паверхня без расчэсванняў і з расчэсваннямі пучком травы ці зубчатага штампа.

Астатнія элементы арнаменту (насечкі, нарэзкі, пазногцевыя ўцісканні, адбіткі перавітага шнурка і інш.) ужываліся значна радзей. Вялікую цікавасць уяўляюць знаходкі посуду, відаць, рытуальнага прызначэння, днішчы якога арнаментаваны звонку і знутры. Элементы арнаменту пры гэтым як адны і тыя ж, так і розныя. Знойдзены посуд з арнаментам верхняй часткі, які заходзіць глыбока ўнутр тулава. Гэта прыкмета можа быць культуравызначальнай. Знойдзена шмат і неарнаментаваных фрагментаў.

•Наяўнасць сярод знаходак шэрагу прылад мезалітычнага выгляду і некаторая колькасць грубага, таўстасценнага, дрэнна абпаленага посуду з вялікай колькасцю раслінных дамешак у цесце, неарнаментаванага ці з адбіткамі грэбеня альбо ямкавымі ўцісканнямі, дазваляе думаць пра знаходжанне на паселішчах Лоша-1 і 2 культурных гарызонтаў як ранняга, так і позняга, а магчыма, і пазнейшага этапаў неаліту.

На адлегласці 0,5 км на поўдзень ад в. Струмень, на мысе, утвораным р. Струменкай і старыцай-затокай, ва ўрочышчы Нараг, на плошчы прыкладна 2500 м² пад паўметровай тоўшчай шчыльнай супесі залягае культурны слой эпохі неаліту. Перавышэнне ўрочышча над узроўнем вады да 2 м.

У 1978 г. А. Г. Калечыц (1987) тут закладзены раскоп плошчай 464 м². Магутнасць культурнага слоя дасягала 0,6 м. Ён меў інтэнсіўную, амаль чорную афарбоўку. У межах раскопаў знойдзена звыш 5 тыс. расшчэпленых крэменяў, столькі ж фрагментаў ляпных пасудзін, 127 камянёў, ускрыта 7 ям і 2 плямы ад ачагоў. Урочышча шматразова засялялася і змяшчае матэрыялы неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў. Аднак самы магутны культурны пласт пакінуты неалітычным насельніцтвам.

Як і ва ўрочышчах Лоша-1, 2, прылады з крэменю ўражваюць грубасцю, аморфнасцю, неахайнасцю апрацоўкі. Яна праводзілася на плошчы паселішча. Знойдзены ўсе вядомыя ў неаліце прылады, выраблeныя ў аналагічнай з урочышчаў Лоша-1 і 2 тэхніцы (мал. 74, 75). Сярод гатовых вырабаў больш за ўсё прылад для сячэння (мал. 75: 3—5, 7—11). Унутры гэтай катэгорыі пераважаюць цёслы, менш сякер, адзінкавыя долаты, прылады тыпу «пік». На другім месцы сярод прылад канцавыя, бакавыя, камбінаваныя скрабкі, ёсць праколкі, свердлы, выраблeныя, як правіла, на адшчэпах, скоблі на дробных пласцінaчных адшчэпах, разцы, скрэблы, рамбічныя і трохкутныя наканечнікі стрэл і дроцікаў (мал. 74: 1—8), нізкія трапецыі, серпападобныя нажы і іншыя прылады. Нуклеусы аднапляцовачныя, канічныя з монафрантальным зняццем нарыхтовак. Большая частка посуду выраблена ў неаліце.

Заканамернасці ў працэнтных суадносінах грабеньчатых, ямкавых і лапчастых адбіткаў, спосаб фармоўкі посуду, яго форма аналагічныя са знойдзеным ва ўрочышчы Лоша-1 (мал. 76). Сустракаюцца перакрыжаваныя спалучэнні гарызантальных, вертыкальных, нахіленых радоў. Ёсць фрагменты, упрыгожаныя метадам «грэбеня, які крочыць», пасудзіны, днішчы якіх арнаментаваны знутры. Часткова рэканструявана 21 пасудзіна, а венцы паходзяць яшчэ ад 60—80. Безумоўная прысутнасць матэрыялаў позняга этапу неаліту.

Групу паселішчаў, вывучаных каля в. Струмень, можна лічыць эталоннай для верхнедняпроўскай культуры. Ні больш на поўнач, ні на поўдзень у межах арэала гэтай культуры не адбываецца якіх-небудзь значных змяненняў у складзе інвентару, тыпах і арнаментацыі посуду. Павялічваецца толькі працэнт іншакультурных элементаў (грабеньчата-накольчатых на поўдні, грабеньчата-ямкавых на поўначы і ўсходзе), бо павялічваецца ўплыў пагранічных культур.

Гэты працэс можна прасачыць на матэрыялах раскапаных А. Г. Калечыц паселішчаў і збораў на стаянках каля в. Загор'е Чачэрскага раёна на беразе возера Жавынец (1978; 130 м²), на стаянцы ва ўрочышчы Летнік на адлегласці 0,3 км на поўдзень ад в. Падлужжа (1974; 154 м²), ва ўрочышчах Ліпаў Брод, Негацень Чачэрскага раёна, Папова, Смедзін, Курган каля пасёлка Пралетарскі, а таксама раскапаных І. І. Арцёменка і І. М. Цюрынай у 1965 г. Каштоўныя дапаўненні атрыманы ў выніку збораў у наваколлях вёсак Прысна, Старое Аднаполле, Юркавічы, Шарсцін Веткаўскага раёна (зборы А. Г. Калечыц, М. В. Бычкова, В. А. Ліцвінава), па раскопках ва ўрочышчы Стрэліца каля в. Рудня Шлягіна таго ж раёна (Я. Г. Галанава, К. М. Палікарповіч, І. І. Арцёменка), па спадарожных мезаліту неалітычных матэрыялах, атрыманых В. Ф. Капыцiным і У. П. Ксяндзовым у даліне Дняпра, па зборах з паверхні ва ўрочышчы Чурылава каля пасёлка Калініна паблізу Гомеля, каля

вёсак Рудня Спаніцкая, Малыя і Вялікія Нямкі, Глыбаўка, Раманавічы-Заляддзе, урочышча Асаўцы (А. Г. Калечыц, М. У. Бычкоў) і іншых месцах. Асноўная маса знаходак лёгка ўкладваецца ў пабудаваную схему, што пацвярджае выяўленыя на помніках верхнедняпроўскай культуры заканамернасці ў суадносінах тыпаў крамянёвых вырабаў, формаў і арнаментацыі посуду, у тым ліку колькасным размеркаванні пераважных арнаментальных матываў (Калечыц, 1987).

Самай паўднёвай на тэрыторыі рэспублікі групай неалітычных паселішчаў верхнедняпроўскай культуры з'яўляюцца стаянкі каля в. Дубовы Лог Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Акрамя адзначаных вышэй ранненеалітычных паселішчаў ва ўрочышчах Мішурова Грыва і Фядоткіна Грыва тут выяўлены і вывучаны паселішчы позняга этапу неаліту. Помнік, які змяшчае матэрыялы ранняга і позняга этапаў, а таксама бронзавага веку, знаходзіцца ва ўрочышчы Цітаў Бугор. Гэта невысокая (да 1 м) пясчаная ўзгорыстасць серпападобнай формы размешчана на адлегласці 0,7 км ад берага Іпуці ля возера-старыцы. Шырыня грывы да 10 м. Культурны слой выяўлены аўтарам на плошчы 2000 м². Стаянка раскопвалася ў 1979—1983 гг. на плошчы 612 м². Атрымана 7735 расшчэпленых крэменяў і 4144 фрагменты пасудзін. Знаходкі залягалі адразу пад дзірваном і сустракаліся да глыбіні 0,5 м у слоі цёмна-шэрага з вялікай колькасцю артштэйнаў і артзандаў супеску.

На значнай плошчы раскопу знойдзена толькі адна пляма ад ачага магутнасцю 0,2 м, які быў зроблены ў спецыяльна выкапанай круглай яме глыбінёй 0,6 м, дыяметрам каля 1 м. Да яго вяла прыступка. Прылады выраблены з «сожскага» крэменю і зрэдку кварцыту. Апрацоўка крэменю вялася непасрэдна на паселішчы. Знойдзена вялікая колькасць (369) нуклеусаў, больш за 3 тыс. адшчэпаў, лускавінкі, сколы ажыўлення, рабрыстыя пласціны і шмат іншых вырабаў нулявога цыкла. Сярод прылад больш за ўсё скрабкоў (37%) (мал. 77). Такім чынам, толькі ў інвентарах паселішчаў Лоша-1 і 2 і Нараг рэзка пераважаюць прылады для сячэння, на астатніх паселішчах, у тым ліку ў басейне Іпуці, сярод закончаных вырабаў больш за ўсё скрабкоў. У склад прылад для сячэння ўваходзяць цёслы, сякеры, долаты, прылады тыпу «пік». Іх тыпы, параметры аналагічныя са знойдзенымі на іншых паселішчах верхнедняпроўскай культуры (мал. 79).

Відаць, урочышча пераворвалася, бо кераміка моцна фрагментавана, што не дазваляе рэканструяваць формы пасудзін і арнаментальныя сістэмы. Асноўная маса не арнаментавана, астатнія фрагменты маюць адбіткі грэбеня (490—12%), розныя ямкавыя ўціскання, адбіткі лапчастага штампа (60—1,5%), спалучэнні ямак і грэбеня (40—1%), нарэзкі, насечкі, кропкавыя наколы і інш. (мал. 80). На арнаментацыю посуду істотны ўплыў аказала блізкасць да помнікаў днепра-данецкай культуры. 7% усіх знойдзеных фрагментаў упрыгожана наколамі «адступаючай лапатачкі». Пры гэтым колькасныя суадносіны ўнутры вядучых элементаў не змяняюцца (мал. 78).

Вельмі багатыя матэрыялы позняга і пазнейшага (сінхроннага энеаліту) перыядаў неаліту, а таксама бронзавага веку знойдзены на паселішчы ва ўрочышчы Падлужжа на адлегласці 1 км на захад ад варты Шабрынскай Добрушскага лясніцтва. Паселішча займае добра задзярнованую грыву (100x15 м), размешчаную ў правабярэжжы Іпуці ля яе старыцы (мал. 76). У 1979, 1981 гг. аўтарам ускрыта 192 м². Культурны слой амаль чорнай афарбоўкі, мае магутнасць 0,5 м. Насычанасць яго знаходкамі вельмі вялікая. На плошчы раскопу знойдзена 8086 крэменяў і 4 тыс. фрагментаў посуду. Зна-

ходкі захоўваліся пад дзірваном, у слоі шэрага, ніжэй атарфаванага пяску магутнасцю 0,4—0,7 м. У сувязі з інтэнсіўнай гумусаванасцю культурнага слоя гаспадарча-бытавыя аб'екты ў плане непрыкметныя, а фіксуюцца толькі ў вертикальных зачыстках. Акрамя вырабаў з каменю (мал. 79) і гліны знойдзена вялікая колькасць дробных валуноў, частка якіх абпалена. Відаць, яны ўваходзілі ў канструкцыю ачагоў. На плошчы 8 м² выяўлена месца абпальвання пасудзін. Тут знойдзены магутны попельны слой і вялікая колькасць фрагментаў пасудзін. Глыбіня ямы 0,5 м ад дзённай паверхні, шырыня крыху большая за 2 м, даўжыня больш за 8 м. Контуры яе невыразныя, бо ў выніку затарфавання не прасочваюцца.

Акрамя традыцыйнага «сожскага» крэменю ва ўрочышчы Падлужжа для вытворчасці прылад выкарыстоўваўся кварцыт, з якога зроблены не толькі нарыхтоўкі, але і закончаныя прылады. Прыкметна вылучаюцца некалькі вытворчых цэнтраў і індывідуальных месцаў майстра. На такіх участках сканцэнтравана вялікая колькасць крэменяў.

Сярод нуклеусаў (466 цэлых і 35 асколкаў) больш за ўсё аморфных і аднапляцовачных з аднабаковым зняццем нарыхтовак. Абсалютна пераважаюць адшчэпы (42%), а сярод іх дробныя (1—3 см), пласцін выяўлена 50, з іх толькі 12 маюць участкі рэтушы. Больш за ўсё скрабкоў (270 экз., 41%). Яны выраблены з адшчэпаў і ў адзінкавых выпадках з пласцін. Часта маюць на спінцы ўчасткі крэйдавай скарынкі. Адрозніваюцца значнай разнастайнасцю форм, параметрамі, спосабамі і тэхнікай апрацоўкі. Пераважаюць акруглыя, часткова рэтушаваныя.

Сярод прылад для сячэння (160 экз., 24%) шмат цёслаў, ёсць сякеры, долаты, пікападобныя прылады. Яны, як правіла, выраблены з масіўных асколкаў канкрэцый ці спрацаваных дашчэнту нуклеусаў. Разцы (70—10%) пераважна вуглавыя і нуклепадобнай формы. Своеасаблівыя вырабы міндалепадобнай формы ромбападобныя, трохкутныя, лістападобныя наканечнікі, пласцінаЧны чаранковы, па краі спінкі не рэтушаваны, адзінкавыя сярпы, сячэнні пласцін і трапецый, скоблі. У цэлым крамянёвыя прылады ва ўрочышчы Падлужжа адрозніваюцца нядбайнасцю апрацоўкі, характэрнай і для іншых паселішчаў верхнедняпроўскай культуры. Добра аграненыя і адрэтушаваныя толькі наканечнікі і асобныя прадметы (нажы, фігурныя крэмені, сярпы, трапецыі і інш.).

Арнаментальныя матывы і суадносіны элементаў, што ўжываліся для іх стварэння, ранейшыя (больш за 22% — грабеньчаты штамп, у спалучэнні з ямкавымі ўцісканнямі — 12%, ямкавыя ўцісканні рознай канфігурацыі — да 28%, лапчастыя адбіткі — 6%, іншыя — 7%, не арнаментавана каля 17% керамікі). Тут ужо няма сапраўдных ямкавых, нанесеных па нармалі ўцісканняў, а толькі ямкавыя — авальнай, акруглай, кроплепадобнай, рамбічнай і іншай формы. Пасудзіны вастрадонныя, прамасценныя, непрафіляваныя, злёгку раскрытыя зверху (мал. 80). У палове выпадкаў абрэз венца ўпрыгожаны нарэзкамі, адбіткамі грабеньчатага штампа, якія заходзяць на ўнутраную паверхню. Пад венцам захоўваецца рад ямак, якія маюць негатывы на адвароце. Па краі венца зрэдку сфарміраваны псеўдавалік. Знойдзена днішча, арнаментаванае з двух бакоў. Уплыў паўднёвых суседзяў (днепраданецкай культуры) прасочваецца ў наяўнасці пасудзін, упрыгожаных наколамі адступаючай лапаткі. Ёсць усяго два фрагменты з прачэрчанай сеткай, якая спалучаецца з ямкавымі ўцісканнямі і рамбічнымі наколамі. Адзінкавыя таксама насечкі, пазногцевыя ўцісканні. Аналагічныя матэрыялы выяўлены і

на іншых познанеалітычных помніках даліны Іпуці, у паўднёвай частцы арэала верхнедняпроўскай культуры.

Аналіз матэрыялаў вывучаных познанеалітычных стаянак дазваляе сцвярджаць, па-першае, што на познім этапе суадносіны прылад у комплексах змяняюцца. Колькасць скрабкоў і разцоў змяншаецца, затое колькасць вырабаў для сячэння ўзрастае, і зрэдку яны пераважаюць у комплексах. Каля 90% прылад выраблена з адшчэпаў. Прылады складаюць ад 6 да 13% агульнай колькасці крэменяў з апрацоўкай, што вышэй за даныя па мезаліту і ранняму неаліту.

Сярод знаходак, як правіла, пераважаюць адшчэпы (да 50%), мноства асколкаў крэменю, расколатых і выбракаваных канкрэцый, лускавінак, сколаў ажыўлення пляцовак і краёў нуклеусаў і іншых, што сведчыць пра апрацоўку крамянёвай сыравіны на паселішчах. Характэрна аднабаковае зняцце нарыхтовак з нуклеусаў. Вядучым тыпам нуклеуса з'яўляецца аднапляцовачны, пірамідальны, з крэйдавай скарынкай. Сярод прылад пераважаюць скрабкі. Яны выраблялiся з адшчэпаў і вельмі рэдка пласцін. Адрозніваюцца разнастайнасцю формаў, памераў і спосабаў апрацоўкі. Пераважаюць нізкія акруглыя (да 4 см у дыяметры) з адшчэпаў, з крэйдавай скарынкай на спінцы.

На другім месцы прылады для сячэння і дзяўбання. Нарыхтоўкай для іх традыцыйна служылі спрацаваныя плоскія нуклеусы і акруглыя крамянёвыя галькі невялікіх памераў. Абрысы і прапорцыі сякер змяняюцца. Шырока распаўсюджваюцца невялікія клінападобныя, з завужаным абушком, авальныя ў сячэнні і прамавугольныя падоўжаныя, пазней чатырохкутныя ў сячэнні сякеры. З'яўляюцца першыя вырабы з прышліфоўкай ляза. Захоўваюцца ўсе тыпы разцоў, але пераважаюць вуглавыя і грубыя нуклепадобныя. Разам з рэдкімі на познім этапе вярбалістымі наканечнікамі стрэл выкарыстоўваюцца ромбападобныя і трохкутныя з прамой асновай і двухбаковай апрацоўкай краёў ці ўсёй паверхні плоскай рэтушшу. Насельніцтва па-ранейшаму аддавала перавагу нажападобным пласцінам сярэдніх памераў (3—5 см). На паселішчах знойдзены ўсе асноўныя катэгорыі прылад з крэменю, неабходныя ў гаспадарцы (тыя, што сякуць, скрабуць, рэжуць, для ўдару і інш.).

Агульны выгляд інвентару застаецца макралітоідным, апрацоўка яго нядбайная. Трапецыі адзінкавыя, але сустракаюцца паўсюдна.

Па-другое, на познім этапе кераміка заўсёды пераважае. Дамешкамі паранейшаму засталіся пясок, жарства і раслінныя рэшткі, але ў меншай колькасці. Пасудзіны фармаваліся шляхам стужкава-кальцавога налепу палос шырынёй 6—8 см. Вогнішчавае абпальванне было лепшым, але заставалася нераўнамерным. У выпадку, калі пасудзіна ламалася, яе замацоўвалі шляхам свідравання адтулін і, відаць, звязвалі. Вялікім шыракагорлым гаршкам форму пры лепцы надавалі і захоўвалі шляхам падвязвання пад венцам тоўстых валакністых пасмаў. Захаваліся і звычайна прымяняліся расчэсванні грэбенем ці пучком травы абедзвюх паверхняў, што на познім этапе стала элементам упрыгожвання.

Ужываліся тры асноўныя формы гаршкоў: 1) шыракагорлыя, прамасценныя, якія звужаліся да вострага дна; 2) вастрадонныя, злёгку пукатыя па баках, з адагнутым вонкі венцам; 3) акругладонныя, нізкія, з крыху адагнутым вонкі венцам, ёсць таксама знаходкі моцна фрагментаваных кубкаў, місак. Характэрныя рытуальныя пасудзіны з двухбаковай арнаментацыяй днішчаў. Па частковых рэстаўрацыях удалося высветліць, што вышыня пасудзін пер-

шага тыпу дасягала 0,5 м пры шырыні гарлавіны 35—40 см, другога тыпу — адпаведна 40 см пры шырыні да 30 см, трэцяга тыпу — 10—15 і каля 25 см. Сценкі пасудзін першага тыпу плаўна звужаліся да вострага дна ці былі злёгку пукатымі. У пасудзін другога і трэцяга тыпаў былі вострыя і акруглыя днішчы, а пукатасць сценак знаходзілася ў прапарцыянальнай залежнасці ад вышыні.

Амаль заўсёды на 1—2 см ніжэй абрэзу венца наносіўся рад глыбокіх цыліндрычных ямак, якія ўтвараюць негатывы на адвароце. Зрэдку гэтыя ямкі скразныя. У пасудзін першага і другога тыпаў шыйка не выяўлена, у трэцяга тыпу верхняя частка адагнута вонкі рэзка ці злёгку. Край быў прамым, скошаным вонкі ці ва ўнутр, радзей патанчаўся. Абрэз упрочваўся зашчыпамі, зрэдку быў гафрыраваным, меў нарэзкі, насечкі, адбіткі грэбеня, ямак рознай формы, г. зн. апрацоўваўся тым арнаменцірам, якім і сценкі. Зрэдку арнаментацыя распаўсюджвалася і на ўнутраную частку венца.

На раннім этапе прымянялі ў асноўным шыраказубы грабеньчаты штамп і наносілі ямкавыя ўціскання. На познім этапе колькасць выкарыстаных элементаў узрасла да 100. З іх дапамогай створана больш за 130 матываў, што ўтвараюць арнаментальныя сістэмы. Ад аднатыпных і аднастайных элементаў перайшлі да складанага іх спалучэння.

На посудзе позняга этапу неаліту (мал. 81—82) пераважным элементам былі адбіткі грабеньчатага штампа (ад 30 да 60%), ямкавыя ўціскання (ад 20 да 30%), лапчастыя адбіткі (2—5%). Таўшчыня сценак, упрыгожаных грэбенем, 5—15 мм, ямкавымі ўцісканнямі — 6—9 мм, іх спалучэннямі — 7—15 мм, лапчастымі адбіткамі — 7—8 мм, неарнаментаваных — да 12 мм. На раннім этапе працэнт неарнаментаванай керамікі дасягаў 74, на познім — толькі 8—33%. Усяго на паселішчах Верхняга Падняпроўя для арнаментацыі неалітычнага посуду прымянялася каля 40 разнавіднасцей грабеньчатага (зубчатага) штампа, больш за 10 відаў ямкавых уцісканняў рознай формы, не менш за 6 варыянтаў ямкавых і лапчастых адбіткаў, а таксама наразныя лініі, пазногцевыя ўціскання, пальцавыя зашчыпы. Пераважалі гарызантальныя паясы, утвораныя, як правіла, камбінацыямі аднатыпных элементаў (грэбень, ямкавыя ўціскання). Лапчастыя элементы ўжываліся асобна або ў спалучэнні з грэбенем. Ямкавыя ўціскання, ямкі, нарэзкі, насечкі прымяняліся без суправаджэння іншых элементаў. Характэрна павелічэнне ямкавых (на поўначы арэала) і накольчатых (на поўдні) кампазіцый. Рэдкія ромба-ямкавыя наколы з негатывамі на адвароце.

Па-трэцяе, атрыманыя ў выніку археалагічных раскопак матэрыялы разам з апублікаванымі данымі дазваляюць лічыць ядром верхнедняпроўскай культуры на яе познім этапе тэрыторыю, абмежаваную Іпуццю на поўдні, міжрэччам Дзясны і Сажа на ўсходзе, левабярэжнымі раёнамі Дняпра ў межах Гомельскай і Магілёўскай абласцей на поўначы і захадзе. Арэал, акрэслены І. М. Цюрынай у 1967 г., быў крыху шырэйшы. Аднак яго перыферыя насычана элементамі сумежных культур. Помнікі дадзенай кантактнай зоны, па сутнасці, могуць быць аднесены ў роўнай меры да гэтых культур. Гутарка ідзе пра рагачоўскую групу паселішчаў, помнікі поўначы Чарнігаўшчыны, крайняга поўдня Гомельшчыны, тэрыторыі Бранскай вобласці. Па меры вывучэння і выяўлення спецыфічных асаблівасцей адзначаныя зоны паступова выпадаюць з арэала, вылучанага І. М. Цюрынай (Смирнов, 1986, 1991; Титова, 1985).

Назіраецца тэндэнцыя да вылучэння ў развіцці археалагічных культур трох этапаў, адэкватных зараджэнню, развіццю і згасанню любога жывога

арганізма. Спроба расчляніць падобным чынам матэрыялы верхнедняпроўскай культуры не завяршыліся поспехам. На гэтыя землі прыйшлі плямёны шнуравікоў, калі культура яшчэ не толькі не пачала загасаць, а дасягнула росквіту, з іх прыходам і звязаны адток насельніцтва ў басейны іншых рэк і паступовая і няўхільная асіміляцыя насельніцтва. Разам з тым прышэльцы прынеслі з сабой новыя прагрэсіўныя формы гаспадарання і на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя пачаўся пераход да іх.

Помнікі пазнейшага этапу ў існуючых публікацыях, у тым ліку аўтараў, не вылучаюцца, бо, па-першае, мы не ведаем ні аднаго «чыстага» помніка гэтай пары і ў выніку «статыстыка не працуе». Расчляніць крамянёвы інвентар практычна немагчыма, а выразна стратыфікаваных аб'ектаў няма. Культурныя слаі залягаюць у пясках, неаднаразова ўзворваліся і разбураліся па розных прычынах. Па-другое, асноўныя віды гаспадарчай дзейнасці, якія доўгі час былі традыцыйнымі, працягвалі сваё развіццё. Адсюль той жа асартымент прылад, такі ж посуд, тыя ж месцы пражывання, тыя ж заканамернасці ў дынаміцы прыладавых комплексаў.

Разам з тым з прыходам на землі Пасожжа плямёнаў шнуравой керамікі неалітычнае насельніцтва пачало адчуваць пэўны ўплыў і ўспрымаць новыя прагрэсіўныя ідэі як у каменеапрацоўцы, так і ў ганчарстве, а галоўнае няўхільна ісці па шляху развіцця вытворчых форм гаспадарання.

Такія навацыі заўважаны на шмат якіх з раскапаных паселішчаў, але асабліва ярка выступаюць на помніках ва ўрочышчах Нараг (в. Струмень) і Падлужжа (в. Дубовы Лог). Поўнасцю знікаюць пласціначныя наканечнікі стрэл. Разам з рамбічнымі шырока распаўсюджваюцца трохкутныя з прамой і ўвагнутай асновай, добра апрацаваныя па ўсёй паверхні ці па перыметры. Усё часцей лязо сякер і цёслаў прышліфавана. З'яўляюцца жалабаватыя формы, серпападобныя ўкладышы з запаліраваным лязом, каменныя і касцяныя матыкі.

Аднак найбольш выразны ўплыў прышэльцаў адчуваецца пры вырабе посуду. Гэта з'яўленне трохзанальнай арнаментацыі, адбіткі шнура і тканіны на пасудзінах з лапчастым арнаментам. Пасудзіны становяцца больш танкасценнымі, лепш абпалены. З прычыны гэтага больш выразна азначыць прыкметы пазнейшага этапу не ўдаецца.

Відавочна толькі, што ён меў месца і звязаны з натуральнай трансфармацыяй матэрыялаў верхнедняпроўскіх неалітычных паселішчаў, што падпалі пад уплыў прышэльцаў і сталі на шлях «неалітычнай рэвалюцыі».

Можна меркаваць, што гэта быў найбольш кароткі этап развіцця ў жыцці неалітычнага насельніцтва Усходняй Беларусі і працягваўся не больш за 300—500 гадоў (рубеж 3—2-га тысячагоддзя да н. э.). Арэал верхнеднядпроўскай культуры паступова звужаўся. Суіснуючы з плямёнамі сярэднеднядпроўскай культуры, неалітычнае насельніцтва паступова асімілявалася і адыграла пэўную ролю ў складанні культур бронзавага веку, асабліва прыкметную на этапе сярэдняй бронзы. Частка насельніцтва пад уціскам прышэльцаў вымушана была перасяліцца на Валдай, Аку (Г у р и н а, 1958).

Практычна ідэнтычныя ўмовы жыцця ў мезаліце і неаліце абумовілі адзіны гаспадарча-культурны тып. Гэта паляванне, збіральніцтва, рыбная лоўля. І ў неаліце, відаць, на першы план выйшлі заняткі рыбалоўствам, а таксама скласіся прымітыўныя формы жывёлагадоўлі і земляробства. Асноўным матэрыялам, на падставе вывучэння якога можна прыйсці да такіх высноў, з'яўляюцца прылады працы і нешматлікія рэшткі касцей.

Перадумовы для фарміравання ў неаліце новых грамадскіх адносін і пераходу да больш высокага ўзроўню эканамічных сувязяў (вытворчай гаспадаркі) узніклі яшчэ ў нетрах мезалітычнага грамадства. На іх аснове развіліся больш ускладненыя формы гаспадарчай дзейнасці. У неаліце існавалі практычна ўсе тыпы прылад, якія вядомы па мезалітычных паселішчах. Ужо ў мезаліце нават на помніках, пазбаўленых рэшткаў гаспадарча-бытавых збудаванняў, планаграфічна фіксуюцца месцы назапашванняў асобных катэгорый вырабаў, індывідуальныя месцы майстра. Змяненні ўзроўню тэхнічнай аснашчанасці, абумоўленыя пераменамі ў экалагічным асяроддзі, што намецілася яшчэ ў мезаліце, найбольш выразна выступаюць на неалітычным этапе развіцця. Нягледзячы на некаторую варыябельнасць розных катэгорый прылад, што натуральна пры ручной вытворчасці, набор іх дастаткова стабільны і дазваляе рэканструяваць асноўныя заняткі насельніцтва.

У цэлым прылады падзяляюцца на прылады палявання, апрацоўкі здабычы, апрацоўкі косці і дрэва, рыбалоўства і земляробства.

Асновай гаспадаркі плямёнаў ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры былі паляванне і рыбалоўства, роля апошняга бесперапынна ўзрастала. Пры гэтым захоўвалася збіральніцтва, зараджаліся і зацвярджаліся навыкі вытворчай гаспадаркі.

Паляванне праводзілася з дапамогай лука і стрэл, коп'яў, дроцікаў. Услед за зменлівым ландшафтам і складам дзічыны змяняліся і ўдасканальваліся зброя для палявання і спосабы лову. На помніках ранняга этапу неаліту наканечнікі стрэл застаюцца такімі ж, якімі былі ў мезаліце. Гэта галоўным чынам пласцінапачныя з чаранкамі і без яго, свідэроідныя наканечнікі, а таксама асіметрычныя «грэнскія». З'яўляюцца першыя міндалепадобныя наканечнікі дроцікаў, груба апрацаваныя рэтушшу па паверхні з двух бакоў, першыя ромбападобныя формы. На познім этапе ромбападобныя і трохкутныя наканечнікі пануюць, пласцінапачныя выраджаюцца. Разам з гэтым паляўнічым рыштункам сустракаюцца кінжалы, а таксама складаныя прылады.

Па меры драбнення дзічыны прылады для палявання змяніігзліся ў памерах, старанна апрацоўваліся з двух бакоў. Гэта павялічвала іх забойную сілу і рабіла паляванне больш прадукцыйным. Пастаяннымі аб'ектамі палявання былі алень, дзік, лось, казуля, заяц, мядзведзь, зубр, бабёр, птушка, у тым ліку і вадаплаўная.

Рэдкія вырабы з косці звычайна не датаваны і не спалучаны з іншымі артэфактамі. Гэта знаходкі гарпуна з Чачэрска, сякеры з рога аленя (Рагачоў), сякеры ці лашчыла з рога лася (Ветка), восці, вылаўленай у Сажы ў мяжы Гомеля і інш. Зрэдку касцявыя рэшткі сустракаюцца і на неалітычных паселішчах у пойме Іпуці. Па вызначэннях П. Ф. Каліноўскага і Н. П. Александровіч, яны належалі дзікім жывёлам, якія былі аб'ектамі палявання, але не выключана наяўнасць сярод іх рэшткаў хатніх жывёл.

Апрацоўка здабычы праводзілася з дапамогай мноства прылад. Гэта нажы, скрабкі, сякеры і інш. Відавочная утылізацыя ўсіх частак тушы: мяса, тлушч, касцявы мозг ішлі ў ежу, скуры пасля адпаведнай апрацоўкі — на пашыў адзення, абутку, для ацяплення сцен, падлогі і страхі жытлаў, а, магчыма, і абмену; косці выкарыстоўваліся для вырабу прылад працы, упрыгожванняў. З прамянёвых касцей дробных жывёлін і птушак выраблялiся іголкі, шылы. У комплексы крамянёвых вырабаў уваходзяць разцы (для працы па косці, дрэве), свердлы, праколкі, вастрыі і мноства іншых вырабаў. Нягле-

дзячы на нязначную колькасць рэчавых крыніц, што сведчаць пра рыбалоўства, ёсць ускосныя даныя, што, безумоўна, пацвярджаюць яго вялікую ролю. Сярод іх тапаграфія неалітычных паселішчаў, якія бесперапынным ланцугом цягнуцца ўздоўж нізкіх рачных далін, займаючы ўсе колькі-небудзь значныя ўзгорыстасці на пойме; вялікі працэнт цяслападобных вырабаў, які часта значна перавышае колькасць сякер; шырокае распаўсюджанне на паселішчах абкачаных галек аднаго памеру без слядоў забітасці, якія служылі, відаць, грузікамі; знаходкі касцяных восцяў, гарпуноў.

У неаліце шырока ўжываліся заколы для лоўлі рыбы, пасткі і іншыя прыстасаванні для лоўлі. Спачатку з дзікарастучых, а затым з валокнаў акультураных раслін навучыліся плесці сеткі. Ускоснае пацвярджэнне гэтага — адбіткі сеткі на сценках посуду, знойдзенага ў Верхнім Падняпроўі.

На неалітычных паселішчах Прыбалтыкі, Прыладажжа знойдзены рэшткі рыбалоўных сетак. Можна меркаваць, што верхнедняпроўскія плямёны таксама ўмелі іх плесці. У культурным слоі помнікаў днепра-данецкай культуры, размешчаных на поўдзень (Бузькі, Сабачкі, Сярэдні Стог-1 і інш), а таксама ў могільніках (Воўнічы) знойдзены шматлікія косці рыб, у тым ліку буйных вагою да 20 кг, лоўля якіх была магчыма сеткай, восцямі, гарпунамі.

Разам з паляваннем і рыбнай лоўляй па-ранейшаму значнае месца займала збіральніцтва. У працэсе збіральніцтва на мелі здабывалі, відаць, малюскаў, чарапах уніа і іншых, якія спажываліся ў ежу, іх вялікая колькасць знойдзена сярод кухонных рэшткаў. Старажытнаму насельніцтву была добра вядомая харчовая і лекавая каштоўнасць шэрагу раслін, траў. Шырока спажываліся лясны і вадзяны арэхі, жалуды, чарот, рагоз, кветкі, мёд дзікіх пчол, ягады, карэнні, лісці, а ў галодныя гады (мяркуючы па этнаграфічных паралелях) — кара,ігліца, шышкі, здробненыя ў парашок рогі і капыты жывёлы і інш. Відаць, у ежу ішлі і некаторыя віды земнаводных, паўзуноў, членістаногіх і інш.

Ускосныя прыкметы прымітыўнага па першым часе земляробства выяўлены на некаторых неалітычных паселішчах Пасожжа. Гэта серпападобныя нажы, каменныя і касцяныя матыкі, адбіткі злакаў і рамбічныя кампазіцыі на пасудзінах, што лічацца раннеземляробчымі культавымі сімваламі, наяўнасць ярка выяўленай трохзанальнай арнаментацыі на частцы пасудзін, адбіткі шнура, а затым тканіны на пасудзінах з лапчастым арнаментам.

Гаворачы аб гаспадарчай дзейнасці неалітычнага насельніцтва Верхняга Падняпроўя, нельга абмежавацца названымі вышэй формамі гаспадаркі. Яны забяспечылі чалавека харчаваннем. Разам з гэтым зусім неабходна было регулярна здабываць і апрацоўваць сыравіну для вырабу патрэбнай у гаспадарцы колькасці прылад працы, ляпіць і ўпрыгожваць посуд, ладзіць розныя прыстасаванні (пасткавыя ямы, лодкі-даўбёнкі), плесці сеткі для палявання і рыбнай лоўлі і нарэшце будаваць жытлы. Найбольш устойлівым тыпам жытла ў насельніцтва верхнедняпроўскай культуры была паўзямлянка, круглая ці авальная.

Жытлы (ці іх цэнтральныя часткі) паглыбляліся ў зямлю ад 0,2 да 0,8 м, у сярэднім да 0,5 м. Усе яны мелі ўнутры нелакалізаваныя ачагі адкрытага тыпу, зробленыя ў паглыбленні падлогі. Дыяметры жытлаў на раннім этапе — 2,2—3,0 м, на познім — 2,5—3,8 м, г. зн. плошча вагалася ад 4 да 12 м². Падлога няроўная, фіксуецца вялікай колькасцю культурных рэшткаў. На познім этапе адзначана з'яўленне ў падлозе такой канструктыўнай дэталі, як яма-склеп, глыбінёй да 1,0 м, дыяметрам да 0,6 м (месца для ахвя-

равання?). Жытлы размяшчаліся на плошчы паселішча на рознай адлегласці. Яны маглі размяшчацца адно каля аднаго ці быць аддаленымі адно ад аднаго на адлегласці да 50—60 м, канцэнтруючыся на найбольш узвышаных участках паселішчаў, і размяшчаліся ўздоўж ланцужком. На плошчы паселішчаў знойдзена вялікая колькасць гаспадарчых ям, адкрытых вогнішчаў, што спадарожнічалі жытлам.

Выяўлены выразна прыкметныя вытворчыя цэнтры па вырабу прылад і абпальвання посуду, а таксама індывідуальныя месцы майстра. Зафіксаваныя І. І. Арцёменкам сляды прамавугольнага жытла 3,4x2,4 $м^2$, заглыбленага ў мацярык да 0,3 м з ачагом у цэнтры і 6 апорнымі слупамі па перыметры на паселішчы ва ўрочышчы Сасонка каля в. Лучын Рагачоўскага раёна, характэрныя, відаць, для правабярэжжа Дняпра.

Відавочна, што з развіццём вытворчай гаспадаркі, удасканальваннем тэхналогіі вырабу прылад, посуду, спосабаў лоўлі, поўнай утылізацыі здабычы, эканомнага выдаткавання крэменю, пераходу да вытворчасці больш удасканаленых прылад палявання адпала неабходнасць ва ўдзеле ва ўсіх сферах жыццезабеспячэння племені вялікіх калектываў. Роля сям'і, магчыма, парнай, узрастала. Аб гэтым сведчыць наяўнасць на раскапаных паселішчах неаліту невялікіх жытлаў, сляды прыкметнай спецыялізацыі вытворчасці ў выглядзе вялікай колькасці індывідуальных рабочых месцаў майстра з наборам аднатыпных прылад, месцаў керамічнай вытворчасці і апрацоўкі крэменю і іншыя прыкметы. Пэўныя высновы можна зрабіць і на падставе аналізу крамянёвага інвентару — найбольш масавага матэрыялу на паселішчах ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры. У крамянёвых комплексах адлюстраваны дынаміка і спецыфіка вытворчасці. Колькасць вырабаў пастаянна павялічваецца, што можна звязаць з дэмаграфічнымі працэсамі, а вось для асобных катэгорый прылад можа і змяншацца, што звязана са зменамі ў гаспадарчай дзейнасці.

Калі на ранніх этапах сярод прылад заўсёды пераважаюць скрабкі, затым ідуць прылады для сячэння пры дастаткова вялікай колькасці разцоў, то на познім этапе колькасць скрабкоў і разцоў зніжаецца, затое прылад для сячэння і асабліва для дзяўбання рэзка ўзрастае, і часам яны пераважаюць у комплексах. Відавочнае змяншэнне ролі палявання, павелічэнне рыбалоўства і, магчыма, заняткаў земляробствам. Дынаміка складу комплексаў прылад прыкметная ў межах усяго арэала верхнедняпроўскай культуры. На паселішчах паўднёвай часткі арэала ў познім неаліце па-ранейшаму вядучую ролю сярод прылад адыгрывалі скрабкі, на помніках цэнтра арэала невымерна ўзрасла роля прылад для сячэння і дзяўбання.

## 4. НАРВЕНСКАЯ КУЛЬТУРА

Нарвенская культура займала Паўночную Беларусь, Паўднёва-Усходнюю Прыбалтыку, а таксама некаторыя іншыя прылеглыя тэрыторыі. Яе паўночна-ўсходняя мяжа праходзіла некалькі на поўнач ад Санкт-Пецярбурга і на ўсход ад р. Волхаў, усходняя — па паўночна-заходняй Смаленшчыне, паўднёва-ўсходняя і паўднёвая — праз Віцебск на вярхоўі Бярэзіны Дняпроўскай у раён Вілейкі, паўднёва-заходняя — праз Нарачанскія азёры, Сярэднюю Літву да нізоўяў Нёмана. На паўночным захадзе помнікі культуры распаўсюджваліся да ўзбярэжжа Балтыйскага мора.

Вывучаючы ў 1951—1953 гг. на паўночным усходзе Эстоніі групу стаянак каля г. Нарва, Н. М. Гурына звярнула ўвагу на прынцыпова новы тып керамікі (Гурина, 1955. С. 153—175). Такія ж матэрыялы некалькі пазней былі выяўлены і ў іншых мясцінах Эстоніі Л. Янітсам. Параўноўваючы іх з матэрыяламі з суседніх тэрыторый, даследчык палічыў неабходным выдзеліць ранненеалітычную кераміку нарвенскага тыпу (Я н и т с, 1959. С. 122—127). Ім жа была вылучана група вядомых на той час паселішчаў з такой керамікай, што займала, на яго думку, тэрыторыю ад паўднёвага берага Ладажскага возера і да Сярэдняй Латвіі (Я н и т с, 1959 (табл. 65)). У 1967 г. Н. М. Гурына палічыла неабходным помнікі з керамікай нарвенскага тыпу аб'яднаць у асобную нарвенскую культуру (Гурина, 1967. С. 6.) і ў яе арэал уключыць Эстонію, Сярэднюю і Заходнюю Латвію, Паўночна-Заходнюю Літву ажио да прывусця Віліі, поўнач былой Усходняй Прусіі, поўнач Беларусі і поўнач сучаснай Пскоўскай вобласці, а таксама паўднёвае ўзбярэжжа Ладажскага возера і з пэўнымі сумненнямі Прыільменне (Гурина, 1967 (мал. 105)).

Помнікі нарвенскай культуры на тэрыторыі Латвіі вывучалі Л. Ванкіна (1970), Ф. Загорскіс (1967), І. Лозе (1979), у Літве — Р. Рымантэне (R i m a n t i e n ē, 1979), А. Гірынінкас (Гирининкас, 1990), на поўдні Пскоўшчыны — А. М. Мікляеў (М и к л я е в, 1971, 1995), блізкія да нарвенскіх помнікі ў Калінінградскай вобласці У. І. Цімафееў (Тимофеев, 1980). Падобныя матэрыялы ў Беларусі былі выяўлены А. Д. Каваленям і К. М. Палікарповічам на крывінскіх стаянках у Сенненскім раёне (Белорусская археология, 1987. С. 44). Стаянкі ранненарвенскага часу на Крывінскім тарфяніку, Нарачанскіх азёрах, Віліі і на Бярэзіне Дняпроўскай у 60—80-я гады даследаваў М. М. Чарняўскі (Белорусская археология, 1987. С. 45, 46; Ч а р н я ў с к і, 1996. С. 132—147).

На сённяшні час ужо ўстаноўлена, што калі на раннім этапе нарвенская культура ўяўляла сабой адноснае цэлае, то пазней распалася на асобныя варыянты, якія некаторыя даследчыкі лічаць магчымым нават выдзяляць у самастойныя культуры.

Ранні этап нарвенскай культуры. Найбольш раннія нарвенскія матэрыялы Эстоніі складаюць па Л. Янітсу: 1. Катлападобныя гаршкі з вострым дном і авальныя кругладонныя місачкі з дамешкамі ў гліняным цесце сценак тоўчаных ракавін і выгараных арганічных рэчываў, з пераважна закругленымі краямі простых або злёгку адагнутых венцаў, з расчэсваннямі абедзвюх паверхняў сценак. Кераміка слаба арнаментавана ў цэлым няўстойлівымі ўзорамі з неглыбокіх ямкавых або накольчатых адбіткаў арнаменціра, насечак, грабеньчатых (зубчатых) адбіткаў. Часам сустракаюцца прасвідраваныя адтуліны; 2. Разнастайныя касцяныя наканечнікі стрэл, у асноўным блізкія да біканічных тыпаў, невялікая колькасць наканечнікаў коп'яў і кінжалаў, гарпуны з аднабаковымі буйнымі зубцамі, шматлікія долатападобныя прылады з расшчэпленых буйных трубчатых костак (прылады пад вуглом у 45°); бародкі ад састаўных рыбацкіх кручкоў; шылы; качадыкі і інш. (Я н и т с, 1959. С. 122, 123, 204, 205 (табл. 5); Я н и т с, 1973. С. 204, 205 (табл. 58, 59)); 3. Нешматлікія і дробныя крамянёвыя і кварцытавыя вырабы — наканечнікі стрэл з тонкіх пласцінак, рэтушаваныя толькі на вастрыі і чаранку; скрабкі і нажы; кварцытавыя вуглавыя разцы; сякеры і цёслы (Я н и т с, 1973. С. 203, 204 (табл. 57)).

Н. М. Гурына ў сваю чаргу вылучыла шэраг устойлівых адзнак для эстонскай нарвенскай керамікі — дамешкі тоўчаных ракавін або іншых

арганічных рэчываў, расчэсванні абедзвюх паверхняў, тэхніка тарцовага налепу пры фармаванні сценак, наяўнасць арнаменту на ўнутранай паверхні, прыкруглены, скошаны або слаба патоўшчаны брыж венцаў; адцягнутае або спрэс запоўненае глінай вострае дно; авальныя плыткія пасудзінкі; паверхневы арнамент з грабеньчатых, ямкавых адбіткаў, кароткіх нарэзаў; нераспрацаванасць арнаментаў; арнамент у выглядзе «пераступаючага грэбеня»; наяўнасць прасвідраваных адтулін; значная колькасць неарнаментаваных чарапкоў (Г у р и н а, 1967. С. 172, 173). Яна таксама лічыла характэрным для нарвенскіх помнікаў надзвычайную беднасць крамянёвых і кварцытавых вырабаў, прадстаўленых, бадай, толькі скрабкамі і праколкамі з нізкаякаснай сыравіны (Г у р и н а, 1967. С. 175), і адносную шматлікасць рагавых і касцяных вырабаў, сярод якіх матыкі з рагоў і долатападобныя прылады з расшчэпленых буйных трубчатых костак, абпілаваных пад вуглом у 45° (Г у р и н а, 1967. С. 176).

Як бачна, характарыстыкі Н. М. Гурынай і Л. Янітса матэрыялаў нарвенскай культуры не супярэчаць сабе, а істотна ўзаемадапаўняюцца.

На тэрыторыі Паўночнай Беларусі ранненарвенскія, хоць і вельмі malaлікія, матэрыялы ўпершыню былі выяўлены ў 1964 г. падчас раскопак стаянкі Скема-1 на возеры Мястра Мядзельскага раёна (Ч а р н я ў с к і, 1966). У 1966 г. адкрыта тарфянікавая стаянка Зацэнне Лагойскага раёна з тыповым ранненеалітычным матэрыялам — керамікай і касцяным інвентаром, якія блізкі да архаічных нарвенскіх знаходак Прыбалтыкі (Ч а р н я ў с к і, 1996). Пазней былі выяўлены і даследаваліся ранненарвенскія помнікі Асавец-4 на Крывінскім тарфяніку (Ч е р н я в с к и й, 1977) і Сосенка-3 на Віліі (Белорусская археология, 1987. С. 45—46).

Найбольш характэрныя ранненарвенскія матэрыялы з тэрыторыі Беларусі атрыманы на стаянцы **Асавец-4.** Помнік размешчаны праз 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Асавец Бешанковіцкага раёна ва ўрочышчы Бруска-вішча, на прытарфяным схіле жвіровага ўзгорка, на сённяшні час у большасці знішчанага кар'ерам. На вузкай паласе паміж кар'ерам і краем тарфяніку ў 1976, 1977, 1986, 1987 гг. і праводзіліся раскопкі (150 м²).

Культурны пласт на захаваным краі стаянкі, дзе сканцэнтраваліся даследчыя работы, дасягаў 0,5—0,7 м і быў складзены ўмерана гумусаваным жвірам. Такі ж жвіровы быў і мацярык. На самым падножжы ўзгорка культурны пласт пераходзіў у звычайную шэрую глебу, практычна без знаходак, якая ніжэй у балоце перакрывалася торфам.

Дзякуючы вапняковым галечным уключэнням у запаўненне культурнага пласта на стаянцы акрамя звыклых крамяневых і керамічных знаходак захаваліся і вырабы з арганічнага матэрыялу — з рогу і костак.

Крамянёвыя знаходкі Асаўца-4 нешматлікія, зробленыя з увогуле светлашэрага крэменю з рознымі адценнямі — да малочна-белага, злёгку ружаватага або рудаватага. Сустракаецца крэмень і нізкаякасны, нейкі пясчаністы. Увесь матэрыял адносна малых памераў.

Наканечнікі стрэл на помніку змайстраваны з правільных пласцінак, маюць шырокія і доўгія чаранкі і клінападобнае вастрыё на канцы пяра (мал. 83 : 1, 2). Чаранкі і вастрыё выдзелены пераважна стромкай і выразнай рэтушшу са спінкі. З брушка звычайна маецца толькі падрэтушоўка. Нетыповы наканечнік з вузкім, часткова адламаным чаранком і клінападобным вастрыём, сфармаваным двума разцовымі сколамі.

Вядомыя і лістападобныя наканечнікі коп'яў, апрацаваныя па ўсёй паверхні сколамі (мал. 83 : 9).

Большасць скрабкоў канцавыя на правільных пласцінках (мал. 83 : 4, 5). Некаторыя з іх маюць падрэтушоўку бакавінак. Некалькі канцавых скрабкоў сфармаваны на карацейшых пласцінках або адшчэпах.

Разцоў знойдзена мала. Гэта пераважна вуглавыя экземпляры на адшчэпах. Выяўлены і праколкі і пэўная колькасць пласцінак з плоскай рэтушшу і падрэтушоўкай, а таксама адзінкавыя скоблі, мысападобныя скрабкі.

Даволі выразную групу складаюць асіметрычныя рубячыя прылады цяслападобнай формы, сфармаваныя краявой абіўкай, на абушку адной з іх сфармаваны скошаны клінападобны разец (мал. 83 : 11).

Касцяныя вырабы захаваліся адносна блага, але яны даюць пэўнае ўяўленне пра іх характар.

Найбольш праколак і іх абломкаў са сценак трубчатых костак, а таксама кінжалаў, асабліва фрагментаў, з восцевых костак хрыбтоў, са сценак буйных трубчатых костак. Нярэдка сустракаюцца і цяслападобныя вырабы з рагоў. Характэрны таксама цёслы або долатападобныя вырабы з расшчэпленых буйных трубчатых костак.

Некаторыя круглыя або сплюшчаныя ў сячэнні абломкі невялікіх вастрый, магчыма, паходзяць ад касцяных наканечнікаў стрэл. Маюцца і фрагменты аднабаковых шырокіх (мал. 83 : 7) і вузкіх гарпуноў, а таксама нож з ікла дзіка.

Упрыгожаннямі з'яўляліся падвескі з зубоў жывёлін, у якіх на каранях зроблены кальцавыя нарэзкі для прывязвання (мал. 83 : 8).

Кераміка на помніку складае практычна адзін культурна-храналагічны комплекс.

Знойдзеныя чарапкі шэра-рудаватыя, з дамешкай тоўчаных ракавін і раслінных рэштак, абедзве паверхні (асабліва ўнутраная) маюць сляды расчэсвання зубчатым штампам.

Посуд уяўляў сабой вастрадонныя гаршкі з выпуклым корпусам і злёгку зведзеным верхам. Венцы былі простыя і толькі часам злёгку адагнутыя (мал. 83 : 12—16). Большасць брыжоў венцаў патончаныя з сярэдзіны або радзей з абодвух бакоў. Часам яны былі роўныя таўшчыні сценак. Толькі ў адзінкавых выпадках сустракаюцца плоскія зрэзы. Дыяметры гаршкоў да 40 см, таўшчыня сценак 8—9 мм.

У калекцыі маюцца два фрагменты місачак са сплюшчанымі днамі, якія плаўна пераходзяць у бакавыя сценкі.

Посуд фармаваўся з гліняных стужак спосабам тарцовага прылепу. Пры гэтым край стужкі патанчаўся размінаннем пальцамі. Змацаванне завяршалася накладаннем на стык дадатковай глінянай масы і загладжваннем зубчатай пласцінкай.

Толькі невялікая меншасць венцаў мае пад краем шэраг тыповых для неаліту глыбокіх круглых ямак (мал. 83 : 12). Зрэзы іх таксама ў большасці не аздоблены, толькі частка мае насечкі, адбіткі тонкага грэбеня і розныя накольчатыя паглыбленні. Некаторыя венцы маюць пасак грабеньчатых адбіткаў і з сярэдзіны.

Большасць фрагментаў керамікі на стаянцы пазбаўлены арнаментацыі (71,5 %), пры гэтым заўважана, што аздабленні ў асноўным групуюцца ў верхніх частках пасудзін (мал. 83 : 12—16). Сценкі керамікі арнаментаваліся пераважна гарызантальнымі паскамі розных элементаў: грабеньчатых частых крыху выгнутых адбіткаў даўгазубага арнаменціра (адбіткі пераважна

7 Зак. 1828

вертыкальныя, зрэдку нахілены ўправа або ўтвараюць ялінку); наколаў рознымі вастрыямі — акруглых, падчатырохкутных, выцягнутых, глыбокіх або дробных і плыткіх; аморфных наколаў кантам нахіленай палачкі; нахіленых управа крыху выгнутых насечак; рэдказубых адбіткаў грэбеня; шырокіх і даўгаватых простых насечак, вертыкальных або з нахіламі пераважна ўправа; кароткіх наколаў-насечак.

Сустракаюцца вертыкальныя зоны з гарызантальных кароткіх паскаў насечак, вертыкальныя падпаралельныя рысы. Ад аднаго гаршка паходзіць група чарапкоў з касасеткавым пракрэсленым узорам, размешчаным недалёка ад дна.

Паколькі арнаментацыя больш канцэнтравалася на венцах, тут яна мела некаторыя асаблівасці. Арыентацыя яе такая ж гарызантальная, а элементы складаюцца пераважна з розных наколаў і ямкавых адбіткаў — глыбокіх ямкавых, тычкавых, паўмесячных. На другім месцы грабеньчатыя адбіткі. Насечак менш, пракрэсленая сетка сустрэта на адзінкавых экземплярах.

На кераміцы маюцца і камбінаваныя ўзоры. Яны складзены спалучэннем гарызантальных паскаў з вертыкальных двухзубых адбіткаў і вельмі плыткіх ямачак; гарызантальных паскаў наколаў-насечак і вертыкальных зон падобных элементаў; спалучэннем зон з гарызантальных і вертыкальных рыс; грабеньчатых крыжыкаў і наколаў зламанай лапаткай; паскаў рознатыповых наколаў; глыбокіх тарцовых наколаў з гарызантальнымі або зігзагападобнымі пракрэсленымі рысамі.

Фрагмент адной з місак арнаментаваны падпаралельнымі рысамі, між якімі зоны з вертыкальных адбіткаў тонкага грэбеня.

Такім чынам, у арнаментацыі керамікі на стаянцы Асавец-4 пераважалі ўзоры з розных накольчатых і ямкавых элементаў. Прыблізна на 1/3 менш грабеньчатых адбіткаў і блізкіх да іх насечак. Некалькі пасудзін мелі аздабленне з пракрэсленых рыс. Мяркуючы па костнаму матэрыялу, вызначанаму В. В. Шчагловай, жыхары паселішча палявалі на лася, кабана, мядзведзя, выдру, бабра.

Найбольш паўднёвай стаянкай з прыкметнымі асаблівасцямі ранняй нарвенскай культуры з'яўляецца помнік **Зацэнне** (Ч а р н я ў с к і, 1996а).

Стаянка размешчана на левым беразе Цны каля маста дарогі Барысаў — Плешчаніцы. Праз 1,5 км на ўсход ад помніка знаходзіцца в. Зацэнне, за 0,7 км на паўночны захад — в. Ліпкі. Рака тут працякае праз шырокі тарфянік, які ў старажытнасці быў возерам. Каля маста даліна звужаецца, заціснутая ўзгоркамі. Пры вытоку старажытнай Цны з возера і знаходзілася паселішча.

Выяўленая даўжыня стаянкі з поўначы на поўдзень уздоўж канала больш 120 м, шырыня яе да 60 м. Даступная раскопкам левабярэжная (усходняя) частка. Культурны пласт на правабярэжжы апускаецца ніжняй часткай пад узровень вады ў канале.

Найбольш выразная стратыграфія была выяўлена ў зачыстцы заходняга адкосу канала. Яе сценка ўяўляла пласт 0—0,8 м — шчыльнага цёмнашэрага, злёгку рудаватага торфу; 0,8—1,85 м — дробназярністы светлашэры пясок з праппласткамі апясчаненага цёмна-шэрага, рудаватага торфу. З глыбінёй колькасць пяску ў пласце павялічваецца, тарфяныя праппласткі радзеюць і танеюць, у аснове зрэдку сустракаецца галька. У пласце залягалі і знаходкі — нешматлікія рэшткі дрэва, трэскі, кара, вуглі, расшчэпленая костка; 1,85—1,95 м — пласт моцна раскладзенага, глiністага на вобмацак,

цёмна-шэрага, з рудаватым адценнем торфу (сапрапель?) без знаходак; 1,95—2,25 м — дробназярністы светла-шэры пясок са слядамі гумусу, з нешматлікімі знаходкамі вугалёў, рэшткаў драўніны, фрагментаў ранненеалітычнай керамікі. Тут жа коса ляжаў завостраны кол. Пласт падсцілаўся мацерыком з розназярністага светла-шэрага пяску.

У двух раскопах, шурфах і зачыстках ускрыта каля 70 м². Археалагічны матэрыял на помніку складаецца з крамянёвых, рагавых, касцяных і керамічных вырабаў. Адзінкава трапляюцца каменныя і драўляныя знаходкі.

Большасць абломкаў посуду паходзіць ад вялікіх шырока адкрытых гаршкоў з плаўна выпуклым корпусам і вострым, са злёгку прыкругленай асновай дном, сфармаваных з гліняных стужак пераважна спосабам косага прылепу (мал. 84 : 18—28). Пасудзіны, мяркуючы па большых фрагментах, былі крыху звужаны ўверсе і мелі ў асноўным злёгку адагнутае венца з прыкругленым зрэзам. Часам венцы былі простыя, а зрэзы плаўна скошаны з сярэдзіны. Дыяметр горла 28—34 см. Большасць знойдзеных бакавінак шэрага, крыху рудаватага колеру і мае сярэднюю таўшчыню 6—8 мм, часам трапляюцца фрагменты і танейшыя. У цесце сценак прыкметны валакністыя раслінныя дамешкі, а таксама тоўчаныя ракавіны. Унутраныя паверхні, а шмат дзе і знешнія носяць сляды загладжвання зубчатым штампам.

Крыху больш паловы венцаў маюць пад краем гарызантальны пояс з пераважна круглых і глыбокіх ямак. У некаторых пасудзінах гэтым арнаментацыя і заканчваецца. Каля паловы ўсіх арнаментаваных фрагментаў маюць пераважна гарызантальныя паскі адбіткаў тонкага і пераважна выгнутага грэбеня (дробназубчатага арнаменціра). Вядомыя таксама насечкі, насечкі двухзубыя, семечкападобныя, кантам пласцінкі, наколы кантам палачкі, прамавугольныя, аморфныя, ямкавыя паглыбленні. Пры дамінацыі гарызантальнага размяшчэння паскаў арнаментацыі ў рэдкіх выпадках назіраецца косая або вертыкальная іх накіраванасць. Некаторыя зрэзы венчыкаў таксама маюць адбіткі арнаменціраў, якімі аздабляліся сценкі гэтых жа пасудзін. У некалькіх выпадках адзначаны паскі арнаменту на ўнутранай паверхні венчыка (мал. 84 : 18, 28).

Прыкметна, што арнаменты канцэнтраваліся пераважна ў верхніх частках пасудзін. Больш паловы фрагментаў керамікі апісанага вышэй тыпу не мела ўзораў. На некаторых адзначаны прасвідраваныя «па-сухому» адтуліны, з дапамогай якіх «сшываліся» трэснутыя гаршкі.

Гэты керамічны матэрыял пераважна канцэнтраваўся ў ніжняй, прымацерыковай частцы культурных напластаванняў стаянкі. Зрэдку падобныя чарапкі сустракаліся і ў іх сярэдняй частцы, дзе ім спадарожнічаў больш позні неалітычны матэрыял.

Кераміка з расчэсваннямі па паверхні і з ракушачнымі дамешкамі стаянкі Зацэнне мае бліжэйшыя аналогіі сярод ранненеалітычных матэрыялаў нарвенскай культуры Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі (Я н и т с, 1959. С. 122—127; Г у р и н а, 1967. С. 31—39; З а г о р с к и с, 1967. С. 12,13). З нарвенскай керамікай, асабліва са стаянак Нарва, Акалі, Кяапа ў Эстоніі, тыпу Оса ў Латвіі, нашы матэрыялы збліжае порыстасць гліняных сценак, дамешкі тоўчаных ракавін, грабеньчатыя расчэсванні паверхні, пераважная большасць элементаў арнаменту, прасвідраваныя адтуліны і нарэшце формы посуду і яго асобных частак. Маюцца і пэўныя адрозненні, абумоўленыя размяшчэннем Зацэння на крайняй паўднёвай перыферыі прыбалтыйскага неалітычнага свету, дзе адчуваліся моцныя ўплывы суседніх нёманска-

дняпроўскіх культур. У матэрыялах Зацэння часта сустракаюцца валакністыя раслінныя дамешкі, значна больш венцаў з шэрагам ямак пад краем і арнаментам на зрэзе, адносна шырэй прадстаўлены грабеньчатыя ўзоры.

Шмат у чым кераміка з Зацэння блізкая знаходкам дубічайскага (ранненеалітычнага) тыпу нёманскай культуры, да амаль поўнай ідэнтычнасці некаторых фрагментаў (Чарняўскі, 1979. С. 50—52 (мал. 10; 28 : 1, 5, 7, 9; 35 : 1, 2)). Аднак на Панямонні ў посудзе не выяўлены ракушачныя дамешкі, адзінкавыя прасвідраваныя адтуліны, у той жа час ямкі пад краем і арнамент на зрэзах выяўляюцца амаль на ўсіх венцах гаршкоў. Шмат тут і ўзораў у выглядзе пракрэсленай сеткі, не характерных, мяркуючы па наяўным матэрыяле, для Зацэння.

Па шэрагу адзнак посуд асновы культурнага пласта Зацэння падобны да керамікі струмельска-гасцяцінскага (Телегин, 1966. С. 63—67) або струмельскага тыпу (Даниленко, 1969. С. 31—35) Сярэдняга Падняпроўя.

Такім чынам, апісаная вышэй кераміка з Зацэння ўяўляецца як ранняя нарвенская, са спецыфічнымі як для паўднёвай ускраіны арэала асаблівасцямі. Яе найбольш блізкія аналогіі на тэрыторыі Беларусі вядомы на ранненарвенскіх стаянках Асавец-4 на Падзвінні і Сосенка-3 у басейне Віліі.

Крэмень у Зацэнні даволі рознакаляровы. Ён пераважна шэры. Аднак сустракаецца і цёмна-шэры да чорнага, які, верагодна, паходзіць з вярхоўяў Нёмана. Маюцца знаходкі светла-шэрыя, а часам і плямістыя. Матэрыял для апошніх трапляў з Пасожжа.

Усе стрэлы ў калекцыі лістападобныя на пласцінках, аднак яны пры гэтым рознатыповыя і некалькі розначасовыя. Найбольш раннія прадстаўлены абломкамі пёраў з вуглаватымі вастрыямі, рэтушаванымі з абедзвюх плашчынь (3 экз., мал. 84 : 1). Бакавіны іх не апрацаваны. Захаваўся цэлы наканечнік правільнай лазалістай формы, даволі ахайна апрацаваны падчэскай і рэтушшу з двух плоскасцей (мал. 84: 17). Яшчэ больш дасканала рэтушаваны, і таксама з двух плоскасцей, наканечнік рамбічны. Наканечнік дзіды пакуль знойдзены адзін. Гэта быў даволі масіўны лістападобны выраб з адламаным вастрыём, рэтушаваны па краях толькі са спінкі нарыхтоўкі.

У калекцыі маюцца 4 трапецыі, як вузкія, так і шырокія, у асноўным сіметрычныя (мал. 84 : 2—4). Аднак у цэлым яны не вельмі дасканалыя па форме і апрацоўцы. Вядомы таксама невялікія спічастыя пласцінкі з рэтушаваным краем. Адна такая знаходка мела апрацаваную з брушка аснову і ўяўляла даволі высокі трохкутнік (мал. 84 : 5). Два абломкі паходзяць ад ланцэтападобных вастрый са спрэс рэтушаваным скосам. Падобны цэлы экземпляр кароткі, мае рэтуш на простай аснове і з брушка (мал. 84 : 6). Ён мог быць і нетыповай асіметрычный трапецыяй.

Разцоў сярод крамянёвых вырабаў мала, яны невыразныя — вуглавыя і бакавыя экземпляры (мал. 84 : 8, 9). Адзін разец клінаватабакавы (мал. 84 : 10).

Найбольш шматлікa прадстаўлены скрабкі. Яны амаль усе фармаваліся на адшчэпах і маюць пераважна авальную або падобную да яе форму, хаця сустракаюцца падчатырохкутныя, дэльтаватыя і аморфныя (мал. 84 : 13, 14). Сярод скрабкоў маюцца высокія канцавыя, у якіх рэтушавана толькі скрабніца. У рэшты рэтуш апускаецца на адну або дзве бакавіны. Адзін мысаваты скрабок мае скоблевую выемку (мал. 84 : 11). Стромкую скрабковую рэтуш маюць і некаторыя адшчэпы і пласцінкі і таксама маглі выкарыстоўвацца як

скрабкі (мал. 84:15). Нажамі з'яўляліся плоска рэтушаваныя пласцінкі (мал. 84 :12) і адшчэпы. Праколкі былі пераважна на пласцінках (мал. 84 : 7).

Рубячыя прылады нешматлікія і невыразныя (мал. 84 : 16).

Маецца група крэменяў з рэтушшу і іх абломкаў нявызначанага прызначэння.

Нуклеусы аднапляцовачныя і пераважна невялікія. Найбольш тыповыя сярод іх стажкаватыя, злёгку сплюшчаныя, з шырокімі адшчэпнямі, а таксама сплюшчаныя з адшчэпняй на вузкім бакавым тарцы. Вядомы адзінкавыя алоўкападобныя формы. Даволі шмат розных зачаткавых і аморфных экземпляраў.

Крамянёвыя вырабы ў большасці маюць ранненеалітычныя рысы, а часткова нават і познамезалітычныя. Гэта асабліва датычыцца абломкаў стрэл з вуглаватым вастрыём, трапецый, ланцэтападобных вастрый, дробных пласцінак з рэтушаваным адным краем. Гэты матэрыял у цэлым блізкі знаходкам познамезалітычных (Кусеўшчына) і ранненарвенскіх (Асавец-4, Сосенка-3) стаянак Беларускага Паазер'я.

Заляганне рэштак паселішча пад торфам садзейнічала захаванасці вырабаў з рога і костак. Аднак пераважная большасць іх знойдзена на вьжідах з канала. У раскопах трапіліся толькі іх нешматлікія абломкі, пры гэтым пераважна каля асновы культурных напластаванняў. Гэта, а таксама тыпалагічны аналіз дазваляюць большасць вырабаў з арганікі адносіць да ранненеалітычнага часу.

Наканечнікаў стрэл знойдзена 5. З іх большасць біканічныя. Два такія экземпляры крыху сплюшчаныя, сіметрычныя, насад практычна не розніцца ад вастрыя (мал. 85 : 14). Найбольшае патаўшчэнне плаўна закруглена і размешчана па цэнтры корпуса. У трэцім наканечніку круглага сячэння найбольшае патаўшчэнне ў верхняй частцы, яно падкрэслена нарэзкай і паяском з пракрэсленых рысак (мал. 85 : 15). Чацвёрты біканічны наканечнік мае складаную будову і адносіцца да познанеалітычнага часу.

Акрамя гэтага ў калекцыі вядомы доўгі іголкападобны наканечнік сплюшчанага сячэння.

Наканечнікі змайстраваны са сценак тоўстых трубчатых костак, добра апрацаваныя па паверхні і нават запаліраваныя.

Біканічныя гладкія наканечнікі са сплюшчаным сячэннем найбольш характэрныя для позняга мезаліту Усходняй Прыбалтыкі (З а г о р с к а я, 1978 (мал. 4)). Сустракаюцца яны і на помніках ранняга неаліту (Л о з е, 1988 (табл. IX : 3, 5)). Ранненеалітычнымі, мяркуючы па прыбалтыйскіх аналогіях (З а г о р с к а я, 1978 (мал. 4); Л о з е, 1988 (табл. IX : 6)), могуць быць іголкападобныя і біканічныя з нарэзкай пад найбольшым пашырэннем корпуса, тым больш што на апошнім экземпляры маецца арнамент. Усе апісаныя вышэй знаходкі адначасовыя ранненарвенскай керамікі.

Са сценак масіўных трубчатых костак змайстраваны і дзве праколкі.

Выразную групу з пяці знаходак складаюць рагавыя матыкі з прасвідраванымі адтулінамі (мал. 85 : 8, 11—13). Адна з іх авальная, астатнія падчатырохкутныя выцягнутыя. Адтуліны вялікага дыяметра, лёзы моцна спрацаваныя. Адна з матык разламаная па адтуліне. Захавалася ніжняя частка з коса счэсаным лязом. На выпуклай частцы знаходкі каля адтуліны маецца арнамент у выглядзе гарызантальных падпаралельных нарэзак (мал. 85 :13).

З масіўнага рабра буйной жывёліны быў зроблены кінжал (мал. 85 : 1). На паверхні знаходкі добра прыкметны сляды зрэзвання крамянёвым нажом

і запаліроўка. У таўсцейшай частцы выразана рукаятка, якая завяршаецца выступам. Вастрыё апрацоўвалася шляхам загладжвання адной плашчыні на паліравальнай пліце. Канец вастрыя адламаны.

Знойдзены адзін гарпун (мал. 85 : 2). Ён зроблены з трубчатай косткі. Захаваліся тры аднабаковыя прытупленыя зубцы. Тонкі канец вырабу адламаны, увесь ён захаваны адносна блага.

Сярод пад'ёмнага матэрыялу таксама трапіліся прылада з расшчэпленай трубчатай косткі са скошаным лязом (мал. 85 : 3), цяслападобнае долата (мал. 85 : 4), даволі доўгія больш-менш выгнутыя сякеры з аленевых рагоў (мал. 85 . 9, 10), некалькі вузкалязовых матык і іх абломкаў, якія выкарыстоўваліся з дапамогай муфт (мал. 85 : 5, 6), дзве нарыхтоўкі муфт (мал. 85 : 7), а таксама каля 10 слаба вызначальных абломкаў рагавых і касцяных вырабаў, фрагменты рагоў з рознымі насечкамі і нарэзамі.

Амаль усе касцяныя і рагавыя вырабы са стаянкі Зацэнне не маюць блізкіх аналогій сярод сярэдне- і позненеалітычных матэрыялаў крывінскага тарфяніку. У той жа час яны, асабліва свідраваныя матыкі, матыкі і сякеры з нерасчлянёных фрагментаў рогу, прылады са скошаным канцом з трубчатых костак, а таксама большасць наканечнікаў стрэл, пра што ўжо адзначалася, блізкія да ранненарвенскіх знаходак Паўночнай Беларусі і Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі, а таксама да познамезалітычных з гэтага ж рэгіёна (Г у р и н а, 1967 (мал. 24, 83); Я н и т с, 1959 (мал. 31); Л о з е, 1988 (табл. II, IV, XII, XIII)). На дадзеным помніку яны ў большасці павінны быць адначасовымі кераміцы з асновы культурнага пласта — ранненарвенскай.

Значныя раннеиеалітычныя матэрыялы атрыманы пры раскопках стаянкі Сосенка-3 Помнік размешчаны праз 1,5 км на ўсход ад в. Сосенка Вілейскага раёна, на паўночным беразе Вілейскага вадасховішча. Раней, да затаплення, тут да высокага карэннага берага Віліі крута падыходзіла рака, ад чаго атрымалася прыкметнае агаленне.

У 1973, 1982, 1983 гг. на помніку праводзіліся раскопкі, падчас якіх ускрыта больш 300 м$^2$.

На ўсходнім краі стаянкі, на схіле да шырокай поплаўнай лукі выяўлена наступная стратыграфія: на глыбіню да 0,2 м залягала шэрая глеба, сфармаваная на дробназярністых пясках, ніжэй за яе меўся такі ж пясчаны пласт падглебы таўшчынёй 0,5 м шэра-жоўтага светлаватага колеру з невялікімі плямамі гумусу. Глеба і падглеба складалі культурны пласт помніка, але некаторыя знаходкі пранікалі і ніжэй (да 10 см) у мацярык, складзены дробназярністым жоўта-шэрым светлым пяском.

На плошчы раскопаў знаходзіліся рознапамерныя камяні, якія не ўтваралі спецыяльных скапленняў, відаць, у большасці натуральнага марэннага паходжання. Тут жа сустракаліся і вогнішчы ў выглядзе акруглых або авальных лінзаў памерамі каля 0,5—0,7 м у дыяметры і таўшчынёй да 0,4 м, запоўненых цёмна-шэрым моцна гумусаваным пяском з вуглістасцю. У аснове аднаго з такіх паглыбленняў меліся перапаленыя камяні.

Частка падобных гумусаваных паглыбленняў без вуглістасці мела, мабыць, нейкае гаспадарчае прызначэнне.

Большасць ляпной керамікі на помніку адносіцца да ранняга неаліту. Невялікая яе колькасць магла датавацца познім неалітам і бронзавым векам.

Фрагменты ранненеалітычнай керамікі, якія ў культурных напластаваннях залягаюць ў большасці ніжэй за іншыя тыпы керамікі, паходзяць ад

вастрадонных з выпуклымі сценкамі гаршкоў, крыху зведзеных уверсе. Венцы пасудзін простыя, зрэдку крыху адагнутыя. Брыжы іх ў большасці крыху патончаныя і закругленыя, хоць сустракаюцца і плоскія.

Колер керамікі ад светла-рудога да жоўта-шэрага, увогуле адносна светлы. У цесце шмат валакністых раслінных дамешак, хоць ёсць арганічныя дамешкі і больш раздробленыя. У некаторых фрагментах прыкметны і тоўчаныя ракавіны.

Паверхні пасудзін маюць расчэсванні зубчатым штампам розных накірункаў, нярэдка ўзаемаперасечаных. На знешніх паверхнях яны менш выразныя, тут менш прыкметны і сляды арганічных дамешак, таму што посуд нярэдка, як паказвае і свежы злом, ангабіраваўся.

Тыпова, што падобная кераміка арнаментавалася пераважна ў версе гаршкоў. На корпусе ўзор разрэджаны, а на прыдонцавай частцы практычна адсутнічае. Некаторыя гаршкі былі зусім не аздобленыя, хоць большасць пад краем мае шэраг глыбокіх круглых ямак, але на частцы падобных фрагментаў яны адсутнічаюць. У большасці зрэзы венцаў без арнаменту, аднак часам на іх прыкметны насечкі або наколы. Маецца некалькі фрагментаў з паскам арнаментаў пад краем венца і з сярэдзіны гаршка.

Элементамі арнаментаў з'яўляюцца розныя наколы (адносная большасць), грабеньчатыя адбіткі, насечкі, якія ўтвараюць пераважна гарызантальныя паскі. Адзінкава прадстаўлены нарэзкі. Маецца невялікая колькасць керамікі, на якой з'яўляюцца вусеневыя ўзоры.

Увогуле керамікі на стаянцы атрымана мала, асабліва ў параўнанні з крамянёвым інвентаром, які разнастайны, даволі шматлікі і ў частцы сваёй выяўляе архаічныя, яшчэ мезалітычныя рысы (мал. 86).

Тут знойдзены, як правіла, правільныя раўнабедраныя трапецыі (мал. 86: 1, 2) і такія ж сячэнні пласцінак (мал. 86: 4), аднак ёсць трапецыі і асіметрычныя (мал. 86 : 3), набліжаныя да ромбаў (мал. 83: 5). Звяртаюць увагу таксама розныя ланцэтападобныя вастрыі са спрэс рэтушаванымі скосамі (мал. 86: 10, 11), ёсць нават вузкія экземпляры і з прытупленай спінкай (мал. 86: 8). Такімі ж архаічнымі выглядаюць і пласцінaчныя наканечнікі стрэл з кароткімі чаранкамі, апрацаванымі толькі з брушка і з пёрамі, таксама падпраўленымі на гэтай жа паверхні (мал. 86: 9). Гэты комплекс дапаўняецца разцамі ў большасці на пласцінках — вуглавымі і бакавымі (мал. 86: 19, 22). Шмат на помніку скрабкоў (мал. 86: 17, 18). Пераважная большасць іх сфармавана на featured рознафігурных невялікіх адшчэпах. Аднак маецца і група канцавых скрабкоў на пласцінках без бакавой падрэтушоўкі, пераважна невысокіх. Адзначаны таксама скоблі, розныя стромка і плоска рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі (мал. 86: 20), звыклыя праколкі. Ёсць І пэўная колькасць рубячых, аднак невыразных прылад (мал. 86: 23). Нуклеусы пераважна аднапляцовачныя стажкаватыя, хоць трапляюцца пірамідальныя і прызматычныя формы (мал. 86: 21).

Крэмень даволі аднастайны — блакітна-шараваты, адносна добрай якасці. Радовішча такога матэрыялу вядома непадалёку, на крэйдавых адорвенях каля в. Крамянец Лагойскага раёна.

Крамянёвы матэрыял са стаянак Асавец-4, Зацэнне, Сосенка-3 у цэлым архаічны, ён мае выразныя ранненеалітычныя і нават пераежытачныя мезалітычныя рысы. Асабліва характэрныя лістападобныя чаранковыя наканечнікі стрэл з вуглаватымі вастрыямі, рэтушаваныя толькі на чаранку і вастрыі. На помніках Віліі і вярхоўяў Бярэзіны Дняпроўскай сустракаюцца трапецыі,

ланцэты са спрэс рэтушаваным скосам, дробныя пласцінкі з прытупленай рэтушшу спінкай. У Асаўцы-4 мікралітызацыя не назіраецца, што тыпова для больш паўночных раёнаў і ў цэлым для Падзвіння. Крамянёвая індустрыя ранненеалітычных (ранненарвенскіх) помнікаў Паўночнай Беларусі развілася на мясцовай познамезалітычнай аснове. Сярод навацый, што трапілі з цэнтральнай часткі арэала нарвенскай культуры, трэба адзначыць з'яўленне спрэс рэтушаваных лазалістых і рамбічных наканечнікаў стрэл.

Такія ж архаічныя і вырабы з костак і рога на ранненарвенскіх стаянках Паўночнай Беларусі. Асабліва гэта датычыць наканечнікаў стрэл, блізкіх нават да мезалітычных тыпаў Прыбалтыкі.

У цэлым характэрная для ранняга этапу нарвенскай культуры і наша кераміка — шырока адкрытыя з плаўна выгнутымі сценкамі гаршкі, у якіх краі венцаў простыя або крыху адагнутыя, вострыя дны бываюць прытуплены; ёсць сведчанні аб выкарыстанні мясцовым насельніцтвам авальных місачак (Асавец-4); дамешкі тоўчаных ракавін у гліняным цесце сценак; расчэсванні паверхняў зубчатым (грабеньчатым) штампам; разрэджаная арнаментацыя з ямкавых і накольчатых адбіткаў, насечак, адбіткаў грэбеня, наяўнасць аздаблення ўнутранага краю венцаў; прасвідраваныя па сухому чарапку адтуліны.

Аднак менавіта на кераміцы прыкметныя і асаблівасці, якія надаюць адметнасць беларускай ранненарвенскай культуры, якая складала перыферыйную паўднёвую зону. Акрамя тарцовага прылепу на посудзе Паўночнай Беларусі прыкметны і косы спосаб злучэння гліняных стужак (Зацэнне) пры фармаванні сценак. Часцей, чым звычайна для «нарвенцаў», на беларускай кераміцы Падзвіння, Віліі і вярхоўяў Бярэзіны Дняпроўскай можна прыкмеціць шэраг круглых ямак пад краем венца, больш у арнаментах грабеньчатых адбіткаў і пракрэсленых рыс. Ды і самі арнаменты ўтвараюць больш упарадкаваныя зоны пераважна ў версе посуду з гарызантальных паскаў. Усе гэтыя керамічныя адметнасці маюць аналогіі ў суседніх культурах Беларусі з грабеньчата-накольчатай керамікай — у ранняй днепра-данецкай, нёманскай, верхнедняпроўскай. І гэта натуральна — носьбіты ранненарвенскай культуры Беларусі адчувалі моцныя ўплывы з боку суседніх іншакультурных плямёнаў.

**Позні этап нарвенскай культуры (крывінскі варыянт).** Позні этап нарвенскай культуры на Беларусі прадстаўлены матэрыяламі пераважна са стаянкі Скема-1 і ніжніх пластоў стаянак крывінскага тарфяніку. У невялікай колькасці ён выяўляецца і на іншых помніках Паўночнай Беларусі.

Стаянка **Скема-1** размешчана праз 2 км на поўдзень ад в. Мікольцы Мядзельскага раёна, на малапрыкметным пясчаным узвышэнні каля паўднёвага берага р. Скема, што злучае азёры Мястра і Нарач, за 30 м на захад ад берагавой лініі Мястры (Ч а р н я ў с к і, 1966).

На помніку ўскрыта 260 м² культурных напластаванняў, чым было выяўлена, што тут жыццё працягвалася з рознай інтэнсіўнасцю ад ранняга неаліту да сярэднявечча. Але найбольш у пласце знойдзена матэрыялаў познанеалітычнага часу, прадстаўленых керамікай і крамянёвымі вырабамі.

Керамічныя фрагменты паходзяць ад шэра-рудых пасудзін, унутраныя паверхні якіх больш шэрыя. Гэта былі шырока адкрытыя гаршкі з плаўна выпуклымі бакавінамі і ўмерана вострым дном. Венцы вертыкальныя або крыху зведзеныя, у некаторых выпадках край злёгку адгінаўся. Зрэзы практычна заўсёды патоўшчаныя і скошаныя ў сярэдзіну. Гэта дасягалася падлепкай з сярэдзіны на краі венца дадатковага глінянага жгуціка. На

больш позніх матэрыялах прыкметна, як пад уплывам носьбітаў культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі форма гаршкоў некалькі змянілася. Яны сталі ніжэйшыя, а дно больш акруглілася (мал. 88: 1, 2).

У гліняную фармовачную масу дабаўляліся пясок і нейкія дробныя арганічныя рэшткі. У некаторых фрагментах прыкметны і тоўчаныя ракавіны. Паверхні сценак звычайна добра выраўнены, хоць часам і маюцца слаба выражаныя драпіны загладжвання. Магчыма, прымяняўся і ангоб, што прыкметна на некаторых свежых зломах. Таўшчыня сценак ў сярэднім 8—9 мм. Невялікая колькасць чарапкоў мае прасвідраваныя «рамонтныя» адтуліны.

Асноўнымі элементамі арнаментаў нарвенскай керамікі позняга (крывінскага) этапу на Скеме-1 з'яўляюцца насечкі, адбіткі лінейнага штампа, ямкавыя адбіткі, тычкавыя і семечкаподобныя наколы, грабеньчатыя і вусеневыя адбіткі, пракрэсленыя рысы.

Насечкі сустракаюцца найчасцей. Яны звычайна простыя і тонкія з патончанымі канцамі. Аднак сустракаюцца і злёгку выгнутыя або кароткія ці крыху нагадваюць тычкавыя наколы — з націскам на адзін канец. Часам насечкі падобны на семечкі.

Па распаўсюджанасці элементаў другімі пасля насечак з'яўляюцца адбіткі лінейнага штампа. Яны наносіліся чатырохкутным тарцом даволі тонкай пласцінкі і звычайна былі сярэдніх памераў, хоць ёсць і адхіленні. Часам асабліва вузкія адбіткі нагадваюць насечкі, сустракаюцца адзінкава і адбіткі зламанага штампа.

Розныя паглыбленні — акруглыя, авальныя, нерэгулярныя, падчатырохкутныя і іншыя з няроўным дном, звычайна неглыбокія, аб'ядноўваюцца ў ямкавыя адбіткі. Да іх жа трэба аднесці і правільна круглыя, але плыткія паглыбленні.

Частка фрагментаў арнаментавана адбіткамі моцна нахіленага вастрыя — тычкамі. Сустракаюцца таксама і «семечкавыя» элементы, што наносіліся канцом невялікай лінзападобнай лапаткі.

Групу элементаў складаюць і пераважна вертыкальныя наколы канцом завостранага тонкага арнаменціра — палачкі. Яны былі кропкавыя, падтрохкутныя, акруглыя, авальныя, паўмесячныя. Увогуле такія элементы падобныя на ямкавыя, але значна меншыя.

Грабеньчатыя адбіткі выразныя, наносіліся пласцінкамі з добра выяўленымі зубцамі. Увогуле яны нагадваюць насечкі — такія ж тонкія і простыя, хоць у выключных выпадках і злёгку выгнутыя.

Ад палачкі з накручаным шнурам атрымліваліся вусеневыя адбіткі. Амаль усе яны выцягнута авальныя. На адзінкавых экземплярах маюцца тонкія пракрэсленыя рысы і баразёнкі.

Зрэзы венцаў практычна заўсёды арнаментаваліся. Элементы на іх за рэдкімі выключэннямі наносіліся скошана і толькі часам тут адзначаюцца папярочкі, зігзагі або ромбы. Калі ж на зрэзе прысутнічаюць іншыя, чым на самім гаршку, элементы, то яны, мабыць, наносіліся часткамі таго ж арнаменціра, напрыклад: кут — для ўтварэння наколаў, тарэц — для «семечак» або лінейнага элемента, бакавое рабро — для насечак. Нават у тых выключных выпадках, калі сам гаршчок быў зусім пазбаўлены ўзору, зрэз венца арнаментаваўся.

Для познанарвенскай керамікі са Скемы-1 не характэрны рад глыбокіх круглых ямак пад краем венца. Калі ён часам і быў, то складаўся з неглыбокіх і невыразных элементаў.

Спалучэнні элементаў на кераміцы сустракаюцца рэдка. Адзін гаршчок аздабляўся звычайна адным арнаменцірам. Большасць элементаў выцяг-

нутай формы наносілася коса з нахіламі ўправа. Часам яны ж утваралі ялінку, зігзаг, абрысныя і запоўненыя ромбы і нават крыжападобныя фігуры.

Асноўнымі арнаментальнымі матывамі былі гарызантальныя частыя або даволі частыя гарызантальныя паясы, што апярэзвалі пасудзіны. Спалучэнне такіх матываў утваралі арнаментальныя кампазіцыі. Узор, хоць і не асабліва насычана, пакрываў усю паверхню. Праўда, уверсе ён быў звычайна гусцейшы, прыдонцавыя часткі часам не аздабляліся. У некаторых выпадках адмысловым паскам падкрэслівалася венца, найбольшы выгін брушка або дно.

Кампазіцыі значна ажыўляліся, калі арнаментальныя матывы ўскладняліся — пас насечак аблямоўваўся лініямі наколаў, рамбічныя паясы разлучаліся ямкавымі або накольчатымі ўзорамі, ялінкі чаргаваліся з паскамі нахіленых элементаў. Часам арнаментальныя матывы атрымлівалі скошаную арыентацыю, сыходзіліся да вострага дна. Сустракаюцца і спалучэнні розных арыентацый. У некаторых выпадках паясы перарываліся, заломваліся пад вуглом, загіналіся плаўнай лукой, нават перасякаліся.

На познанарвенскай кераміцы са Скемы-1 часам прысутнічалі і выяўленчыя матывы. На адным з чарапкоў быццам схематычная выява іглістага дрэва, на другім — рэшткі больш складанай выявы з наколаў.

Сярод крамянёвых вырабаў на стаянцы, як звычайна, дамінавалі рэжучыя прылады працы, змайстраваныя пераважна з пласцінак. Другую па колькасці групу складалі скрабкі, сфармаваныя пераважна на адшчэпах сярэдніх і дробных памераў. Імі ж маглі быць і розныя адшчэпы і нават часам пласцінкі, апрацаваныя краявой стромкай рэтушшу. Так жа з адшчэпаў рабіліся і нешматлікія скоблі.

Для вырабу наканечнікаў стрэл таксама пераважна ўжываліся адшчэпы. Нарвенскай кераміцы на помніку верагодней за ўсё спадарожнічалі ромбападобныя наканечнікі. Яны маюць злёгку выдзелены чаранок з пераважна абсечаным канцом і правільнае трохкутнае пяро, на бакавінах часам намячаліся невялікія шыпы. Вырабы рэтушаваліся пераважна са спінкі нарыхтоўкі, часам па ўсёй паверхні. З брушка рэтуш менш выразная, часам там толькі падрэтушоўка. Маецца і невялікая серыя трохкутных наканечнікаў са злёгку выступаючай падставай. Відаць, большасць іх можа адносіцца да часу, калі на берагах Нарачы з'явілася насельніцтва са шнуравой керамікай, але не выключаны і ўплыў з боку недалёкай адсюль нёманскай культуры.

Звяртае ўвагу нешматлікасць рубячых прылад, як і разцоў. У той жа час адносна шмат камбінаваных вырабаў, што, магчыма, абумоўлівалася беднасцю мясцовых крамянёвых запасаў.

Характэрная познанарвенская кераміка сустрэта ў ніжніх пластах некаторых стаянак крывінскага тарфяніку, на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў (**Крывіна-1,2; Асавец-2**).

Увесь гліняны посуд тут прадстаўлены ў большасці гаршкамі і вельмі рэдка місачкамі. Гаршкі былі сярэдніх памераў, дыяметрам па венцу каля 30 см, мелі вострыя, крыху прытупленыя дны, плаўна выпуклыя бакавіны і пераважна простыя венцы (мал. 87).

Вельмі тыповай з'яўляецца форма краю венца. У многіх выпадках ён злёгку патоўшчаны і скошаны ў сярэдзіну, прычым утвараецца невялікі наплыў пад унутранай паверхняй сценкі. Гэты наплыў звычайна фармаваўся прылепкай на край глінянага жгуціка. Сустракаюцца, аднак, венцы са скосам, але без характэрнага патаўшчэння, зрэдку нават акруглыя або патончаныя. Ёсць невялікая колькасць венцаў з гафрыраваным краем.

Посуд фармаваўся з тонкіх стужак шырынёй 3—5 см, якія злучаліся між сабою спосабам тарцовага прылепу, калі кожная вышэйшая стужка патончаным краем уваходзіла ў паз на краі ніжэйшай стужкі. Затым стык загладжваўся і мацаваўся дадатковым пластом гліны.

Абедзве паверхні пасудзін добра загладжаны, толькі часам прыкметныя асобныя драпіны. Відаць, гэта дасягалася выбіваннем керамікі спосабам «малаточка і кавадлачка». Малаточкамі маглі служыць дошчачкі, на якія часам накручваўся тонкі шнурок, ад якога атрымліваліся «тэкстыльныя» адбіткі.

Колер сценак пасудзін вагаецца ад светла-шэрага да шэрага, часам сустракаюцца ўчасткі слабага рудаватага адцення. Унутраныя паверхні некаторых чарапкоў пакрыты пластом нагару. Свежы злом чарапка даволі аднароднага шэрага колеру, толькі яго сярэдняя частка некалькі цямнейшая.

Выгляд знойдзеных чарапкоў порысты, яны лёгкія. Прыкметна, што ў фармовачную гліну дабаўлялі выгарэлыя або вымачаныя дробныя раслінныя рэшткі, а таксама дробна тоўчаныя ракавіны. Характэрна, што на сценках цалкам адсутнічаюць тонкавалакністыя адбіткі раслінных дамешак.

Элементамі арнаменту былі насечкі, зробленыя прыкругленым канцом пласцінкі, дробныя насечкі, насечкі канцом ракавіны-перлавіцы, адбіткі перавітага шнура — вусеневыя, розныя ямкавыя і накольчатыя паглыбленні. Радзей сустракаюцца тонкія пракрэсленыя рысы і грабеньчатыя тонкія адбіткі.

Для арнаментальных кампазіцый характэрна разрэджанаць, значныя ўчасткі сценак не аздобленыя. Найчасцей сустракаюцца аперазаныя гарызантальныя паясы адзначаных элементаў. Паясы звычайна рэдкія, між імі 6 см і больш. Аднак бываюць і часцейшыя, а таксама здвоеныя. Насечкі, грэбеневыя элементы і «вусені» часцей нахілены ўправа, часам утвараюць зігзагі або нават ромбападобныя фігуры.

Часам гарызантальны накірунак парушаецца і тады ўзнікаюць ускладненыя ўзоры. Паскі могуць быць касымі, паміж гарызантальнымі паясамі ўстаўляюцца вертыкальныя або дыяганальныя зоны з драбнейшых элементаў. Некаторыя зоны злучаюцца між сабой, а паскі перасякаюцца. Пракрэсленыя рысы ўтвараюць сетку або рамбічныя ўзоры ці выгнутыя паскі.

Унікальнымі матывамі былі схематычныя выявы ялінак, а на адным фрагменце заўважана падабенства салярнага знака. Маецца і фрагмент з фігуркай качкі, выкананай ямкавымі наколамі ( мал. 137: 4).

Частка фрагментаў мае прасвідраваныя «рамонтныя» адтуліны. Зрэзы патоўшчаных краёў венцаў таксама практычна заўседы аздабляліся. Нярэдка арнамент наносіўся пад краем венца і з сярэдзіны.

Шэраг глыбокіх круглых ямак пад краем венца, так характерны для неалітычнай керамікі Беларусі, нетыповы для нарвенскіх матэрыялаў. Сустрэта толькі некалькі фрагментаў з такімі ямкамі, але яны плыткія і невыразныя. І толькі адзін гаршчок меў пад краем шэраг глыбокіх, на ўсю сценку, чатырохкутных ямак.

Позназнарвенская кераміка на крывінскіх стаянках займае 1—2% ад усіх знаходак, пераважная большасць якіх належаць паўночнабеларускай культуры. Хоць яна і залягае ў большасці на мацерыку, але тут жа маюцца і пазнейшыя матэрыялы, па гэтай прычыне цяжка вылучыць уласна позназнарвенскі касцяны і крамянёвы комплексы.

На ўсходняй перыферыі арэала помнікаў крывінскага варыянта, на пскоўска-віцебскім узмежжы, на Усвяцкіх азёрах таксама маецца група стаянак позназнарвенскага часу (М и к л я е в, 1969, 1995. С. 19). Аднак усвяцкая кераміка, вельмі падобная матэрыялам з ніжняга пласта Крывіны, больш танкасценная,

асабліва ў параўнанні са скемаўскай, у арнаментацыі часцей сустракаюцца выяўленчыя матывы, некалькі іншы набор аздабленчых элементаў. На стаянцы Усвяты-4 знаходзіліся і даволі шматлікія касцяныя і рагавыя вырабы. Наканечнікі стрэл іголкападобныя, з кароткімі чаранкамі і верацёнападобныя з чаранкамі плоскімі. Тут маюцца таксама праколкі, касцяныя кінжалы, абломак гарпуна з прасвідраванай адтулінай у насадзе, лашчылы, інструменты для вырабу і арнаментацыі керамікі, магчымыя фрагменты састаўных рыбацкіх кручкоў і інш.

Такім чынам, на познанеалітычных помніках Паўночнай Беларусі сустракаюцца матэрыялы, якія генетычна выводзяцца з ранненеалітычных. Мясцовае насельніцтва па-ранейшаму карысталася шырока адкрытымі гаршкамі з прытуплена вострымі днамі, з дамешкамі ў сценках тоўчаных ракавін і дробных арганічных рэшткаў, арнаментаванымі разрэджанымі ўзорамі з насечак, розных ямкавых і накольчатых паглыбленняў, нешматлікіх адбіткаў грэбеня. Нярэдка арнамент пераходзіў і на ўнутраную паверхню венца. У той жа час познанарвенская кераміка набывае і новыя рысы. Яна робіцца гладкасценнай, атрымлівае шырокі, скошаны ўсярэдзіну зрэз венца. Прыкмячаюцца больш круглыя ямкавыя элементы, грабеньчатыя адбіткі часам утвараюць рамбічныя паясы, тыповымі робяцца вусеневыя ўзоры і адбіткі лінейнага штампа.

Несумненна, што новыя асаблівасці ўзніклі дзякуючы ўплыву носьбітаў культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі, якія ў познім неаліце праніклі з паўночнага ўсходу ў Прыбалтыку і на поўнач Беларусі. Менавіта гладкасценнасць і скошанасць венцаў — тыпічныя для керамікі находнікаў. Асабліва моцна гэтыя рысы праяўляюцца на познанарвенскіх матэрыялах верхняй Віліі і Нарачанскіх азёраў, дзе абарыгены непасрэдна кантактавалі з групамі носьбітаў культуры «тыповай» керамікі. На стаянцы Скема-1 нават выяўлена кераміка з пераходнымі «гібрыднымі» адзнакамі. У той жа час далей на ўсход уплыў находнікаў з-над Фінскай затокі слабее.

Рагавы і крамянёвы інвентар больш кансерватыўны. Аднак і ў ім прыкметныя пэўныя змены. Так, верагодней за ўсё находнікам абавязана асабліва шырокае распаўсюджанне ў познім неаліце рамбічных наканечнікаў стрэл.

У свой час знаходкі познанарвенскага характару з беларускіх стаянак былі вызначаны як матэрыялы тыпу ніжняга пласта Крывіны (Чернявский, 1969а. С. 71—79). А. М. Мікляеў нават палічыў неабходным вылучыць іх у асобную культуру, якую назваў усвяцкай (Микляев, 1971. С. 21). Аднак выяўленне іх моцных сувязей з мясцовым раннім неалітам і з пазнейшымі старажытнасцямі Усходняй Літвы і Паўднёва-Усходняй Латвіі дазваляе сёння гаварыць аб існаванні на поўначы Беларусі крывінскага варыянта позняга этапу нарвенскай культуры (Чернявский, 1971. С. 13).

У познім неаліце арэал помнікаў нарвенскай культуры скараціўся, ды і сама яна распалася на некалькі варыянтаў і груп. Паўночныя абшары, прылеглыя да Фінскай затокі, былі цалкам здамінаваныя прышлым насельніцтвам з тыповай грабеньчата-ямкавай керамікай. Моцна змешаныя групы ўтварыліся на тэрыторыі Латвіі. Вынікае, што «нарвенская» традыцыя яшчэ трымалася на паўднёвай перыферыі — на Беларускім Паазер'і, у Літве, былой Прусіі. Аднак і тут адчуваліся ўплывы як з поўначы, так і, асабліва далей на захад, з боку носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў. У сувязі з апошнім асаблівую цікавасць могуць мець знаходкі фрагментаў лейкаватага посуду на Лубанскай нізіне ў Латвіі (Лозе, 1988. С. 67).

Як сведчаць тапаграфічныя назіранні ў Прыбалтыцы і на Беларускім Паазер'і, нарвенцы імкнуліся сяліцца бліжэй да стаячай вады на нізкіх азёр-

ных берагах, асабліва пры вытоках рэчак. Пазнейшыя кліматычныя змены прывялі да паступовага затаплення паселішчаў і перакрыцця іх рэшткаў торфам. Высокія рачныя ўзбярэжжы, як правіла, не прываблівалі мясцовае неалітычнае насельніцтва — мабыць, іх спосабы рыбнай лоўлі не былі прыстасаваныя да хуткаплыннай вады.

Пры раскопках стаянак на нашай тэрыторыі не выяўлена выразных слядоў жытла. Адсутнасць нейкіх паглыбленняў указвае, што гэта былі наземныя збудаванні слупа-жэрдкавых канструкцый, у якіх і побач якіх знаходзіліся адкрытыя агнішчы. Даследаванні прыбалтыйскіх помнікаў дазваляюць зрабіць больш дакладныя рэканструкцыі. На стаянцы Швянтоі-23 (Заходняя Літва) гэта былі чатырохкутныя жытлы з чатырохсхільнай страхой і нізкімі сценамі з жэрдак і галля (R i m a n t i e n e, 1979. P. 80—85). На ўсходзе Літвы акрамя чатырохкутных як быццам былі вядомыя і паглыбленыя ў зямлю збудаванні авальнага плана (G i r i n i n k a s, 1994). Наземныя пабудовы выяўлены і на нарвенскіх паселішчах Латвіі (В а н к и н а, 1970. С 125—131; Л о з е, 1979. С. 8—12).

Займаючыся традыцыйнымі для лясного неаліту формамі прысвойваючай гаспадаркі — паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам, нарвенцы, калі меркаваць па размяшчэнню іх паселішчаў, асаблівую ўвагу ўдзялялі эксплуатацыі біялагічных запасаў азёр, асабліва рыбных. На тарфянікавых стаянках Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі акрамя костак і лускі рыбы знаходзяць і прылады рыбалоўства — састаўныя і простыя касцяныя кручкі, гарпуны, фрагменты сетак, лавушак з прутоў і лучынак, чоўны-даўбёнкі (R i m a n t i e n e, 1994. P. 92—95). На познім этапе свайго развіцця мясцовае насельніцтва было ўжо знаёма і з вытворчай гаспадаркай, пра што сведчаць знаходкі матык, драўляных і рагавых ручных рал, зерня, костак свойскіх жывёлін (R i m a n t i e n ė, 1994. P. 95—97).

Вытокі нарвенскай культуры знаходзяцца ў культуры кундскай (Г у р и н а, 1967. С 175, 176; З а г о р с к и с, 1967. С. 15), якая ў мезалітычны час і была распаўсюджана ў Паўднёва-Усходняй Прыбалтыцы. Апошнім часам выяўлена, што кундскае насельніцтва папярэднічала нарвенскаму і на Беларускім Паазер'і (К с е н з о в, 1992).

Радыевугляродны аналіз матэрыялу з асновы культурнага пласта Зацэння паказаў дату 3580 ± 60 да н. э. (Д о л у х а н о в і інш., 1976). Значыць, нават на верхнім цячэнні Бярэзіны Дняпроўскай у сярэдзіне 4-га тысячагоддзя да н. э. ужо існавала нарвенская культура. Даследаванні ж у Прыбалтыцы дазваляюць пачаткі яе фарміравання адносіць да больш ранняга часу — да першай паловы гэтага ж тысячагоддзя (Z a g o r s k i s, 1973) або з улікам калібравання датавання нават да канца 5-га тысячагоддзя да н. э. (R i m a n t i e n ė, 1994. P. 81). З асновы стаянкі Крывіна-1, дзе знаходзілася познанарвенская кераміка, атрымана дата 2320 ± 40 да н. э. (Ч е р н я в с к и й, 1969а). Аднак матэрыял тут ужо мае прыкметныя сляды ўплыву культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі, якая пачала распаўсюджвацца на поўнач ад нашых тэрыторый не пазней канца—першай чвэрці 3-га тысячагоддзя да н. э. (Л о з е, 1988. С. 107). Такім чынам, існаванне крывінскага варыянта позняй нарвенскай культуры можна змясціць у межы ад сярэдзіны да канца гэтага ж тысячагоддзя.

Познанарвенскае насельніцтва на Нарачанскіх азёрах існавала і ў час з'яўлення тут носьбітаў культуры шнуравой керамікі, пра што сведчыць наяўнасць тыповых для шнуравікоў арнаментаў на частцы порыстай керамікі са Скемы-1. Не выключана, што тут яго нашчадкі маглі пратрымацца нават

да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э., да фарміравання сярэднябронзавай культуры. На крывінскім тарфяніку нарвенскія паселішчы спыняюць сваё існаванне прыкладна на мяжы 2-га і 3-га тысячагоддзяў да н. э. Аднак і тут культура іх жыхарства не знікае бясследна, а робіцца адным з зыходных кампанентаў фарміравання паўночнабеларускай культуры.

## 5. КУЛЬТУРА ТЫПОВАЙ ГРАБЕНЬЧАТА-ЯМКАВАЙ КЕРАМІКІ

Культура тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі на Беларусі — з'ява своеасаблівая, нетыповая для мясцовага неаліту. Яе знаходкі, хоць і нешматлікія, надзвычай выдзяляюцца сярод нашых старажытнасцей з грабеньчата-накольчатай керамікай.

У 1964 г. пры даследаванні стаянак Скема-1 і Скема-2 на пратоцы Скема паміж азёрамі Нарач і Мястра ў Мядзельскім раёне былі ўпершыню на тэрыторыі Беларусі выяўлены фрагменты посуду і крамянёвыя вырабы культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі (Чарняўскі, 1966. С. 70—74). У тым жа годзе каля в. Качаргі пры возеры Мястра, непадалёку ад азярка Скрыбава знойдзена стаянка з чыстым комплексам знаходак гэтай культуры. Два гады пазней, у час разведкі на Віліі, абломкі посуду з характэрнымі жарсцвянымі дамешкамі, арнаментаваныя глыбокімі ямкамі і адбіткамі шыраказубага грэбеня, трапіліся каля в. Малмыгі Вілейскага раёна. Усе гэтыя месцазнаходжанні звязаны з басейнам Віліі, правабярэжнага найбольшага прытоку Нёмана.

Адкрыццё стаянак культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі ў басейне Дзвіны звязана з даследаваннямі І. М. Ціханенкава. У 1966 г. ім выяўлены паселішчы Млын на р. Свольна Верхнядзвінскага раёна, Кранштат на возеры Бярэшча Лепельскага раёна і сляды паселішча на р. Ула ў Чашніцкім раёне (Тихоненков, 1967. С. 147—151).

У 1980 г. Э. М. Зайкоўскім пры раскопках рознакультурнага неалітычнага помніка на возеры Задзеўскім пад Паставамі была таксама знойдзена грабеньчата-ямкавая кераміка (Зайкоўскі, 1983. С. 46, 47). Знаходкі з-пад Пастаў звязваюць стаянкі Паўночнай Беларусі і Усходняй Літвы.

Такім чынам, на сённяшні час вядома, што носьбіты культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі ў невялікай адносна колькасці прасочваліся на ўсю заходнюю частку Беларускага Паазер'я. Нязначныя сляды іх бытавання выяўляюцца і далей на ўсход і поўдзень — на крывінскім тарфяніку Бешанковіцкага раёна і на тарфянікавай стаянцы Зацэнне Лагойскага раёна.

На змешаных помніках матэрыялы культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі ў Беларусі заўсёды складаюць меншасць. Залягаюць яны ў пласце звычайна кампактна. Чыстыя комплексы пакуль што выяўлены толькі на возеры Бярэшча (Кранштат) і каля в. Качаргі (Скрыбава).

Стаянка Скрыбава размешчана праз 0,5 хм на паўднёвы ўсход ад Качарог. Усходняе ўзбярэжжа возера Мястра, дзе і знаходзіцца помнік, вылучаецца звілістасцю берагавой лініі, у якую ўразаюцца вузкія затокі, у значнай частцы ўжо затарфаваныя. Адна такая затока мелася на поўдзень ад вёскі. Ад яе засталося толькі невялікае азярко Скрыбава з балоціста-тарфянымі берагамі. У бытнасць тут неалітычнага чалавека затока бачна яшчэ не зарасла і была даступная для прыбярэжнага рыбалоўства. Сам

помнік размешчаны на поўдзень ад возера праз 0,25 км, на выступе пясчанай азёрнай тэрасы вышынёй над поплавам у 1 м, якая плаўна павышаецца ў паўднёва-ўсходнім кірунку і пераходзіць у даволі высокія марэнныя ўзгоркі. На захад ад выступу тэрасы заходзіць тая ж затарфаваная затока. Далей на захад праз 0,8 км знаходзіцца сучасны бераг Мястры. Стаянка выцягнута з поўначы на поўдзень на 150 м, шырыня яе каля 50 м. Пясчаны культурны пласт на сённяшні час разараны.

Стаянка Кранштат знаходзіцца на невысокім пясчаным беразе возера Бярэшча, каля вусця пратокі возера Окана, размешчанага недалёка. Тут захаваўся культурны пласт цёмна-рудога колеру таўшчынёй да 0,2 м (Т и х о н е н к о в, 1967. С. 150, 151).

Пераважная большасць іншых мясцін, дзе сустрэты матэрыялы культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі, хоць іх там і меншасць у параўнанні з нарвенскімі знаходкамі, таксама размешчаны на нізкіх узроўнях пясчаных азёрных берагоў, пры вытоках або ўпадзеннях невялікіх рэчак.

Уся тыповая грабеньчата-ямкавая кераміка на беларускіх стаянках аднастайная па характару цеста, форме посуду, арнаментацыі. Поўнасцю не ўдалося рэстаўрыраваць ні адной пасудзіны, але наяўныя фрагменты, аналогіі з суседніх тэрыторый паказваюць, што асноўнай керамічнай формай быў яйкападобны шырока адкрыты гаршчок з закругленым дном, дыяметрам па венцу каля 3О см і больш. Часам вярхі пасудзін былі злёгку зведзеныя. Краі венцаў патоўшчаныя, з наплывамі, плоска скошаныя ў сярэдзіну (мал. 89 : 14, 17). Таўшчыня сценак посуду 9—11 мм, колер, які залежаў пэўным чынам ад умоў захоўвання ў культурным пласце, шэры, шэра-руды і шэра-жоўты, унутраныя паверхні святлейшыя. У цесце ўсіх чарапкоў маецца шмат жарствы і буйнога пяску. Увогуле добра загладжаныя паверхні сценак шурпатыя на вобмацак. Адносна светлы колер керамікі, шчыльныя і моцныя сценкі, раўнамернасць зломаў чарапкоў сведчаць пра добры абпал і ўвогуле пра высокі ўзровень керамічнай тэхналогіі.

Элементы арнаментаў на посудзе складаюцца з глыбокіх круглых і значна радзей авальных ямак з закругленым дном, хоць часам сустракаюцца і канічныя, і менш глыбокіх, а то і зусім плыткіх адбіткаў простага шырака-зубага грэбеня (мал. 89 : 11—17). Радзей сустракаюцца шырокія вусеневыя адбіткі, якія часам цяжка адрозніць ад грабеньчатых, авальныя і паўмесячныя паглыбленні, глыбокія наколы вуглом грабеньчатай або вусеневай арнаментыкі (мал. 89 : 17). Сярод усіх элементаў прыкметна дамінуюць грабеньчатыя адбіткі. Менавіта гэта і паслужыла прычынай таго, што ў свой час, разглядаючы аналагічныя матэрыялы Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі, Л. Ю. Янітс і назваў гэтую кераміку тыповай грабеньчата-ямкавай (Я н и т с, 1959. С. 141; Я н и т с, 1973. С. 205) услед за М. Я. Фос (Ф о с с, 1952. С. 65), адасабляючы яе ад грабеньчата-ямкавай керамікі Волга-Окскага міжрэчча. Ямкі і амаль усе іншыя элементы практычна заўсёды наносіліся арнаменцірам, які трымаўся перпендыкулярна паверхні сценкі і толькі ў рэдкіх выпадках крыху нахінаўся ўправа або ўніз. Адбіткі грэбеня і абкручанага шнура (вусеня) былі размешчаны ў паясах вертыкальна або крыху нагіналіся ўправа.

Посуд на помніках упрыгожваўся па ўсёй паверхні рытмічнымі пачарговымі паясамі з розных элементаў. Найчасцей чаргаваліся паясы ямак з паясамі грабеньчатых адбіткаў. Але хоць ямкі былі размешчаны ў два і больш радоў, грабеньчатыя ўзоры на паверхні гаршкоў пераважалі. Надзвычай характэрнымі былі ўзоры з гарызантальных паясоў спалучаных бакавымі вяршынямі ромбаў з

грабеньчатых або вусеневых элементаў. Звяртае ўвагу шчыльнасць узору на кераміцы. Неарнаментаваных фрагментаў амаль не знойдзена.

Для стаянак з грабеньчата-ямкавай керамікай Беларусі характэрны даволі разнастайны крамянёвы інвентар (мал. 89 : 1—10). Ва ўжытку былі канцавыя скрабкі на розных формах адшчэпаў. У большасці іх рэтуш спускалася і на бакавіны. Часам сустракаюцца канцавыя скрабкі на пласцінках або пласцінаных адшчэпах. Адзінкавымі знаходкамі прадстаўлены двайныя канцавыя скрабкі на кароткіх абломках пласцінак.

Рэжучымі прыладамі з'яўляліся розныя пласцінкі, апрацаваныя пераважна па аднаму лязу плоскай рэтушшу, або толькі дробна падрэтушаваныя. Некаторыя зусім нерэтушаваныя экземпляры маюць на краях заломы спрацаванасці. Знойдзена некалькі пласцінак з рэтушаванымі скошанымі тарцамі. Сляды завостранага рэтушавання маюць і некаторыя адшчэпы.

Разцоў на стаянках сустракаецца мала. З пласцінак выраблялiся пераважна вуглавыя, з адшчэпаў — бакавыя формы. Вядомы былі і праколкі на адшчэпах і пласцінках.

Рубячымі прыладамі з'яўляліся блізкія да авальных лінзападобныя ў папярочным сячэнні сякеры.

Усе знойдзеныя нуклеусы кароткія, аднапляцовачныя, з негатывамі адшчэпаў і пласцінак.

Верагодна, што частка авальназавостраных рэтушаваных па ўсёй паверхні наканечнікаў стрэл са Скемы-1 можа быць звязана таксама з культурай тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі.

Матэрыяльная культура стаянак з грабеньчата-ямкавай керамікай вельмі адрозніваецца ад знаходак на помніках нарвенскай культуры, у арэал якіх уваходзіць усё Беларускае Паазер'е, сярод якіх — порыстая разрэджана арнаментаваная кераміка з багатым наборам каменных і рагавых вырабаў.

Бліжэйшыя аналогіі помнікаў з грабеньчата-ямкавай керамікай знаходзім у Паўднёва-Усходняй Прыбалтыцы. Так, падобныя матэрыялы выяўлены ва Усходняй Літве на возеры Кратуонас, размешчаным непадалёку ад беларускай мяжы (Гирининкас, 1982. С. 14; 1990).

Непасрэдна на поўнач ад Беларускага Паазер'я шэраг помнікаў гэтай культуры размешчаны ва Усходняй Латвіі, з іх каля самай мяжы з БССР — стаянка Адамава (Загорскис, 1967. С. 16, 17; Лозе, 1972. С. 8—10; 1974. С. 37).

У грабеньчата-ямкавай кераміцы Латвіі пры ўсёй яе ідэнтычнасці з беларускім матэрыялам назіраецца некалькі больш разнастайная арнаментацыя. Тут узоры дапаўняюцца адбіткамі лінейнага штампа і здвоенага грэбеня (рамачны ўзор). Акрамя вядомых элементаў арнаментацыі тут сустракаюцца трохкутнікі і зігзагападобныя паясы.

Калі на некаторых стаянках Усходняй Латвіі матэрыялы культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі складаюць у сярэднім каля 50% сярод усіх неалітычных знаходак, то ўдзельная вага іх на захадзе Латвіі, таксама як у Літве, былой Прусіі і на Беларусі, значна змяншаецца. І наадварот, апісваемая культура найбольш шырока выступае на поўнач ад Латвіі, у Эстоніі, дзе яна дамінавала ў эпоху развітага і позняга неаліту. У Эстоніі яна выражана шматлікімі помнікамі і багатымі калекцыямі каменных і рагавых вырабаў, керамікі, бурштынавых упрыгожанняў (Я н и т с, 1959. С. 127—143, 179—288).

Пры ўсёй адноснай маналікасці насельніцтва культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі зрабіла прыкметны ўплыў на далейшае развіццё

нарвенскай культуры Беларускага Паазер'я, Менавіта пад гэтым уплывам фарміруецца тут яе крывінскі варыянт. Нарвенская кераміка гэтага тыпу пры захаванні традыцыйных формаў і арнаментыкі тэхналогіі ганчарства робіцца гладкасценнай, венцы патаўшчаюцца і набываюць характэрны скос усярэдзіну, які пакрываецца арнаментам. У арнаментацыі даволі шмат з'яўляецца вусеневых адбіткаў, донцы пасудзін робяцца больш закругленымі.

Усе гэтыя новыя рысы маглі ўзнікнуць толькі пад уплывам тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі. Цяжэй вызначыць, што новага набыў крамянёвы інвентар. Магчыма, вынікам уплыву прышэльцаў былі рамбічныя наканечнікі стрэл, асабліва з бакавымі шыпамі. На перыферыі свайго арэала, а часам і за яго межамі, уплыў культуры быў невялікі. Такая кантактная зона працягнулася з большага ў шыротным кірунку ад заходняй Смаленшчыны да цяперашняй Калінінградскай вобласці. Пад такім уплывам тут сфарміраваліся крывінскі варыянт нарвенскай культуры (поўнач Беларусі, поўдзень Пскоўшчыны, паўночна-заходняя Смаленшчына, паўднёвы ўсход Літвы) і некаторыя помнікі цэдмарскага тыпу (Калінінградская вобласць і крайні паўночны ўсход Польшчы).

У Латвіі находны элемент адчуваўся значна мацней, што выяўляецца ў шматлікасці грабеньчата-ямкавай керамікі на стаянках, у наяўнасці чыстых грабеньчата-ямкавых комплексаў. Складзеныя тут пад адчувальным уплывам находнікаў варыянты познанарвенскай культуры з керамікамі тыпу піестыня і сарнатэ маюць значна больш запазычаных рысаў, чым на Беларусі. У Эстоніі ж, дзе пранікненне носьбітаў тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі было асабліва шматлікім і энергічным, яна ў хуткім часе здамінавала мясцовую неалітычную культуру і перарвала тутэйшую старажытную традыцыю (Я н и т с, 1959. С. 333—339).

Такім чынам, калі ў Эстоніі прышэльцы асімілявалі абарыгенаў, то на поўдзень, у тым ліку і на поўначы Беларусі, яны самі падпалі пад асіміляцыйныя ўплывы мясцовага насельніцтва і растварыліся сярод апошняга, аднак паўплывалі пэўным чынам на далейшае развіццё яго культуры.

Непасрэдным вынікам суіснавання і ўзаемаўплыву носьбітаў культур тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі і нарвенскай стала ўзнікненне ў Паўднёва-Усходняй Прыбалтыцы гібрыднага культурнага тыпу. Гэта найбольш праявілася ў кераміцы, якая пры захаванні мясцовых нарвенскіх формаў посуду і тэхналогіі яе вырабу набывае арнаментацыю, характэрную для находнікаў. Такая «гібрыдная» кераміка найбольш вядома сярод матэрыялаў стаянак Скема-1 і 2, г. зн. там, дзе адбываўся непасрэдны **I,** відаць, адносна працяглы кантакт абедзвюх груп насельніцтва.

«Гібрыдную» кераміку складаюць даволі розныя па памерах пасудзіны, пры гэтым вышыня іх з большага адпавядала шырыні. Гэта былі шырока адкрытыя вырабы са злёгку выпуклымі сценкамі і прыкругленымі донцамі. Колер іх шэры, злёгку рудаваты. Сценкі тонкія, з гладкімі паверхнямі. Месцамі на паверхнях прыкметная порыстасць, што засталася ад выгарэлых тоўчаных ракавін, якія ў значнай колькасці дабаўляліся ў гліНянае цеста. Венцы гаршкоў простыя, зрэдку крыху адагнутыя, краі іх, як правіла, патоўшчаныя і плоска зрэзаныя ў сярэдзіну. Усе адзначаныя рысы керамікі захаваліся ад нарвенскай культуры. Патоўшчаныя краі венцаў з плоскім зрэзам усярэдзіну — ад тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі, як і арнаментацыя. Пасудзіны па ўсёй паверхні аздабляліся рытмічна чаргаванымі гарызантальнымі паскамі адбіткаў шыраказубага грэбеня, лінейнага штампа або перавітага шнура (вусеня) і вялікіх круглых ямак. Пры гэтым ямкі не

асабліва глыбокія, што абумоўлена, мусіць, тонкасцю сценак. Адбіткі грэбеня або вусеня часам утвараюць паясы спалучаных ромбаў. Сярод элементаў арнаментацыі зрэдку сустракаюцца плыткія авальныя ямкі, наколы кантам грабеньчатага або вусеневага штампа.

«Пбрыдная» кераміка складае нязначны працэнт сярод знаходак Заходняга Паазер'я. Відаць, яна бытавала нядоўга як вынік першых этнакультурных кантактаў. Пасля заканчэння працэсу асіміляцыі прышлага «грабеньчата-ямкавага» элементу і ўсталявання познанарвенскага стылю тыпу Крывіны яе вырабляць перасталі.

Культура тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі не мае ніякіх генетычных сувязей з мясцовай ранненарвенскай культурай ні ў Беларусі, ні ў Паўднёва-Заходняй Прыбалтыцы, што адзначаецца практычна ўсімі даследчыкамі (Я н и т с, 1959. С. 333; З а г о р с к и с, 1967. С. 14; Л о з е, 1972. С. 29; Г у р и н а, 1967. С. 191). Зараз ужо вядома, што яе носьбіты распаўсюдзіліся на тэрыторыю Эстоніі і Латвіі з паўночнага ўсходу, дзе ў Прыладажжы вядомы іх найбольш раннія помнікі. Культура апошніх у сваю чаргу мае выразныя рысы агульнасці з грабеньчата-ямкавымі культурамі Волга-Окскага міжрэчча (Я н и т с, 1959. С. 337; Г у р и н а, 1970. С. 149—153).

На Беларускае Паазер'е і на Усходнюю Літву насельніцтва з тыповай керамікай трапіла непасрэдна з Усходняй Латвіі.

На сённяшні дзень археолагі маюць шэраг радыевугляродных датаванняў, якія дазваляюць памясціць старажытнасці з тыповай грабеньчата-ямкавай керамікай у другой лапове 3-га тысячагоддзя да н. э. (Д о л у х а н о в і інш., 1970).

Даследаваннямі ў Прыбалтыцы выяўлена, што там грабеньчата-ямкавая кераміка залягае на стаянках непасрэдна над ранненарвенскімі матэрыяламі (Я н и т с, 1959. С. 290; 291; З а г о р с к и с, 1967. С. 22). Важнае значэнне мае той факт, што самы ніжні, перадмацерыковы пласт стаянкі Крывіна-1, дзе на нарвенскай кераміцы ўжо адчуваецца істотны ўплыў грабеньчата-ямкавага матэрыялу, мае дату па $C^{14}$ 2320 ± 40 гадоў да н. э. (Ч е р н я в с к и й, 1969а. С. 83). Улічваючы датаванні з Прыбалтыкі, можна сцвярджаць, што тут прышэльцы з'явіліся да сярэдзіны 3-га тысячагоддзя да н. э. На Беларускае Паазер'е яны трапілі на стагоддзе пазней. Верагоднымі з'яўляюцца і высновы даследчыкаў аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў культуры тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі. З улікам культурнай непарыўнасці між помнікамі з гэтай керамікай і гарадзішчамі Эстоніі, а апошніх — з пісьмова засведчанымі мясцовымі плямёнамі сцвярджаецца, што плямёны беларускай культуры з'яўляюцца этнічнымі папярэднікамі прыбалтыйска-фінскага насельніцтва, г. зн. былі прапрыбалтафінамі. На гэта ж указвае і тое, што тэрыторыя рассялення будучых прыбалтыйскіх фінаў упісвалася ў арэал помнікаў тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі (Я н и т с, 1959. С. 339; З а г о р с к и с, 1967. С. 24; Л о з е, 1972. С. 29).

На поўдзень ад Эстоніі, аднак, прыбалтыйска-фінскі этнас не здолеў замацавацца з-за адзначаных вышэй асіміляцыйных працэсаў. Аднак нават у Паўночнай Беларусі можна заўважыць, хоць і нязначныя, рудыменты яго культуры, што выяўляецца ў мясцовай культуры жалезнага веку (рысы тэкстыльнай керамікі, асобныя ўпрыгожанні і інш.) і ў некаторых фіна-угорскіх гідронімах, што захаваліся да нашага часу (Ж у ч к е в и ч, 1968. С. 39; К а т о н а в а, 1970. С. 155, 157).

## 6. КУЛЬТУРА ШАРАПАДОБНЫХ АМФАР

У познім неаліце на захад Беларусі пранікаюць групы носьбітаў цэнтральнаеўрапейскай культуры шарападобных амфар. Іх з'яўленне на нашых землях істотна паўплывала на тутэйшую этнакультурную і сацыяльную сітуацыю. Калі мясцовае насельніцтва нёманскай культуры пры знаёмстве з вытворнымі формамі гаспадаркі сваё існаванне ўсё ж грунтавала на паляванні, рыбалоўстве і збіральніцтве, то находнікі ўжо інтэнсіўна займаліся земляробствам і асабліва жывёлагадоўляй. Гэта павінна было ажывіць міжкультурныя сувязі, вяло да развіцця абмену, фарміравала складаныя формы адносін паміж абарыгенамі і асаднікамі.

Культура шарападобных амфар была вылучана ў самым канцы XIX ст. Вядома, што яна займала вялізныя прасторы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе — ад Эльбы на захадзе і Балтыйскага мора на поўначы, да Верхняга Падняпроўя, Чэхіі і Румыніі на ўсходзе і поўдні, асобныя трупы шарападобнікаў пранікалі нават за межы гэтага арэала (W i ś l a ń s k i, 1966, 1979; С в е ш н и к о в, 1983; Ч а р н я ў с к і, 1992; Ш м і д т, 1992). Існує шмат поглядаў на першавытокі культуры шарападобных амфар і яе «прарадзіму». На сёння найбольш абгрунтаваным лічыцца меркаванне, што культура першапачаткова склалася на раўнінных тэрыторыях Паўднёвай Прыбалтыкі паміж Віслай і міжрэччам Эльбы і Одэра, а ў яе фарміраванні непасрэдны ўдзел прыняло насельніцтва пазнейшага этапу культуры лейкападобных кубкаў, а таксама нашчадкі мясцовага познамезалітычнага насельніцтва (культуры «ляснога неаліту»), пры пэўных уплывах з раёнаў, прылеглых да Судэтаў і Карпат (W i ś l a ń s k i, 1979. С 262—263). Гэта адбывалася ў пачатку 3-га тысячагоддзя да н. э., а ў цэлым культура шарападобных амфар праіснавала каля тысячагоддзя (W i ś l a ń s k i, 1979. С. 264, 265, 267, 277).

Помнікі культуры шарападобных амфар — паселішчы і асабліва могільнікі вядомыя даўно і вывучаныя даволі добра, аднак да нядаўняга часу на тэрыторыі Беларусі не траплялся. Але на некаторых археалагічных картах у арэал культуры ўключаецца крайні паўднёва-заходні кут Брэстчыны і анклаў каля Мінска (W i ś l a ń s k i, 1966 (карта 6)). Аднак у першым выпадку, відаць, маюць месца некаторыя «тэрытарыяльныя абагульненні», у другім — да помнікаў «шарападобнікаў», відавочна, залічана культурна не вызначанае пахаванне ў каменнай скрыні з Лагойшчыны (Живописная Россия, 1882). У апошні час з'явіліся несумненныя археалагічныя сведчанні аб пранікненні носьбітаў культуры шарападобных амфар і на тэрыторыю Беларусі, дакладней — на яе захад (Ч а р н я ў с к і, 1972а, 1992; C h a r n i a u s k i, 1996).

У 1971 г. у наваколлі пасёлка **Краснасельскі** Ваўкавыскага раёна быў выяўлены М. Верацілам і даследаваны М. Чарняўскім могільнік з невядомымі раней у рэспубліцы матэрыяламі. Могільнік размяшчаўся праз 2 км на захад ад паўднёвай ускраіны пасёлка, на краі крэйдавай лінзы і быў выяўлены ў час земляных работ. Тут на месцы знаходак дробных фрагментаў керамікі і патрушчаных костак бульдозер разбурыў большасць пахаванняў — была спрэс зачышчана паверхня крэйды на плошчы 152 м$^2$. Выбарачна зачышчаліся і прылеглыя ўчасткі агульнай плошчай каля 500 м$^2$, аднак там знаходкі не выяўлены.

У выніку гэтай работы былі знойдзены рэшткі трох пахаванняў і сляды чацвёртага (мал. 90).

Пахаванне № 1 (паўднёвае) знаходзілася ў чатырохкутнай яме, арыентаванай з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, даўжынёй 3,1 м, шырынёй 1,3 м,

глыбінёй у крэйдавым мацерыку 0,2 м. Дакладную глыбіню ямы, як і астатніх, ад дзённай паверхні вызначыць цяжка, бо засталася невядомай таўшчыня покрыва на гэтым участку лінзы. Па словах мясцовых жыхароў, яна складала тут менш 0,5 м. Нож бульдозера ссунуў большасць змесціва пахавання ў адвал. Знаходкі, што засталіся, моцна пашкоджаныя. Прыкладна ў цэнтры ямы, некалькі бліжэй да яе паўночна-заходняга краю, знаходзіліся рэшткі раструшчанай амфары, у паўднёвым куце ляжалі невялікія валуны, а на ўсёй плошчы — рэшткі шкілетаў вялікага і малога свойскага быка, свінні. Удалося ўзнавіць практычна ўвесь профіль амфары. Гэта была шаравата-рудая гладкасценная пасудзіна з умеранымі дамешкамі розназярністай жарствы ў цесце адносна добра абпаленых сценак. Унутраная паверхня іх цямнейшая. Амфара пласкадонная, мела выразна выпуклы корпус, кароткае вертыкальнае венца, якое плаўна пераходзіла ў брушка. У месцы гэтага пераходу было прымацавана, калі меркаваць па фрагментах, не менш пяці невялікіх вушак са шчылінападобнымі адтулінамі. Арнамент складаецца са здвоеных, а месцамі і строеных хвалістых адбіткаў шнура, што апярэзвае выраб на ўзроўні вушак і некалькі вышэй іх (мал. 93 : 1).

Праз 4 м на паўночны ўсход ад апісанага пахавання знаходзілася пахаванне № 2 (усходняе), разбуранае амаль поўнасцю. Яно размяшчалася ў прамавугольнай яме, арыентаванай з захаду на ўсход з невялікім адхіленнем доўгай восі на поўдзень, даўжынёй 4,3 м, шырынёй да 2 м і глыбінёй у крэйдавай пародзе каля паўночнага краю ямы 0,1 м. Паўднёвы край яе амаль не захаваўся, таму прасочваецца з цяжкасцю, толькі само дно з большага непашкоджана. Зразумела, што пры такіх умовах знойдзены нязначныя рэшткі пахавання: каля 10 зусім дробных гліняных чарапкоў, крамянёвы адшчэп, высвідравіна каменнай сякеры, абпаленыя абломкі костак чалавечага шкілета. У паўночна-заходнім куце пахавання сустрэты рэшткі вымасткі з невялікіх абломкаў валуноў і каменных плітак.

Фрагменты керамікі з гэтага пахавання маюць шэра-руды колер. Абпал іх сярэдняй якасці, у цесце сценак прасочваюцца дамешкі розназярністай жарствы. На паверхні амаль усіх чарапкоў прыкметна пераважна падгарызантальная слаба выражаная штрыхоўка, некаторыя арнаментаваны гарызантальнымі паскамі з вертыкальна пастаўленых адбіткаў лінейнага штампа. Адбіткі двух відаў даволі шырокія і доўгія, з закругленымі канцамі і дном і значна больш тонкія і кароткія прамавугольнай формы. Здаецца, што знойдзеныя тут абломкі керамікі належалі дзвюм розным пасудзінам, арнаментаваным, калі меркаваць па фрагментах, у верхняй частцы.

Праз 3 м на поўнач ад папярэдняга пахавання знаходзілася пахаванне № 3 (паўночнае). Яно размяшчалася ў прамавугольнай яме даўжынёй 4,0 м, шырынёй 1,9 м, глыбінёй у крэйдзе 0,4 м і арыентаванай, як і яма № 2. Пахаванне № 3 захавалася амаль поўнасцю. Была знішчана толькі верхняя частка аб'екта, якая, верагодна, не мела знаходак, і некалькі раструшчаныя ланцугамі машын найбольш выступаючыя чарапы жывёлы.

У яме знойдзены шкілеты дзевяці быкоў, двух дробных рагатых жывёл (авечкі, казы), косткі свінні і каня, чатыры пасудзіны, два касцяныя наканечнікі, кавалачак бурштыну, некалькі расшчэпленых крэменяў і дробныя кавалачкі вохры (мал. 91).

Запаўненне гэтай магільнай ямы, як і папярэдніх, складалася з крэйдавай крошкі і невялікай колькасці пяску, але ва ўсходняй яе частцы знаходзілася вялікая пляма папялістага пяску, у якім было даволі шмат дробных ракавінак. Ракавінак свідраваных, якія можна было б лічыць падвескамі, не знойдзена.

У паўночна-ўсходнім куце ямы сустрэты развалы дзвюх пасудзін. У час пахавання яны, несумненна, ставіліся цэлымі, але пры раскладанні трупаў жывёл гаршкі раструшчваліся аб косткі, калі прыцыскаліся зверху зямлёй. На поўдзень ад пасудзін над косткамі ляжаў невялікі валун.

Развал першай пасудзіны знаходзіўся ў самым куце, каля чэрапа быка. Па меры разбурэння ён нахіляўся горлам на ўсход.

Пасудзіна мела плоскае дно з невялікімі закраінамі, выпуклае брушка (найбольшая выпукліна знаходзілася ў верхняй палове гаршка). Выразна акрэсленыя плечыкі даволі крутым выгінам пераходзілі ў кароткую вертыкальную, а па некаторых профілях нават злёгку зведзеную шыйку (мал. 93: 3). Брыж венца меў просты зрэз. Паверхні сценак нядоўна афарбаваныя — шэрыя, шэра-рудыя, нават месцамі рудыя. У цесце сценак прыкметныя дамешкі рознаазярністай жарствы. Пасудзіна ад сярэдзіны і да самага краю венца мела лёгкую падгарызантальную заштрыхоўку. Ніжняя палова вырабу такім жа чынам заштрыхавана падвертыкальна. Прыблізна на сярэдзіне корпуса, некалькі ніжэй найбольшай выпукласці брушка, штрыхоўка на сутыку гэтых зон узаемаперасякалася, а на сценках каля самага дна зноў маецца падгарызантальная заштрыхоўка. Падобным чынам, толькі ў розных кірунках, загладжвалася і дно. Таксама апрацавана і ўнутраная паверхня гаршка. Загладжванне паверхні пасудзіны праводзілася, верагодна, пучком травы з лёгкім націскам на сырую гліну. У верхняй палове гаршчок месцамі заглянцаваны, відаць, рукамі падчас яго выкарыстання для гаспадарчых патрэб. Магчыма, гэта сведчыць, што пасудзіна не выраблялася спецыяльна для пахавальнага абраду, а была ўзята з хатняга начыння.

Па палавіне перыметру плечыкаў гаршчок быў арнаментаваны гарызантальным радам вертыкальных адбіткаў пазногця.

Побач з развалам першай пасудзіны, на захад ад яе, знаходзіўся развал іншай. Гаршчок меў плоскае дно з закраінамі, шырокае горла і выпуклы корпус (найбольшая выпукласць вышэй сярэдзіны пасудзіны). Венца мела закруглены зрэз, было вертыкальнае і вельмі кароткае, плаўна пераходзіла ў брушка (мал. 93: 4). Дамешкі ў цесце сценак, а таксама характар апрацоўкі паверхні гэтага вырабу аналагічныя, як і ў папярэдняга гаршка.

На месцы пераходу венца ў брушка маецца гарызантальны апярэзаны рад умяцін канцом пальца з каротка абрэзаным пазногцем. На некаторых умяцінах прыкметныя адбіткі ліній скуры.

У заходняй частцы пахавальнай ямы знаходзіўся моцна патрэсканы неарнаментаваны гаршчок, які ў агульным захаваў форму, ён меў плоскае, без закраін дно, шырокае горла і выпуклы корпус з найбольшым дыяметрам у верхняй частцы. Брушка пераходзіла ў кароткую і вертыкальную шыйку са злёгку патончаным краем венца (мал. 93: 5). Дрэнна загладжаныя і бугрыстыя сценкі гаршка былі шэрыя, месцамі нават шэра-рудыя. Яны мелі дамешкі жарствы і заштрыхоўку, як і ў вышэй апісаных экземплярах.

Каля паўднёвай сценкі ямы сустрэты развал чацвёртай пасудзіны. Яна захавалася блага, але ўсё ж удалося рэканструяваць яе поўны профіль. Гэта быў гаршчок з плоскім дном, які меў выразныя закраіны і невялікі паддон, з плаўна выпуклымі сценкамі на брушку, найбольшы дыяметр якога быў крыху вышэй за сярэдзіну. Краі венца былі злёгку патончаныя і адагнутыя вонкі (мал. 93: 2). Пасудзіна мела шэра-руды колер, паверхня яго была загладжана не зусім ахайна, месцамі захавала звычайную для керамікі з гэтага пахавання лёгкую штрыхоўку. У цесце сценак — жарства.

Уся знойдзеная на могільніку кераміка не адрозніваецца высокай якасцю, але дзве апошнія пасудзіны асабліва крохкія.

У пахаванні знойдзены таксама два кавалачкі чырванаватай вохры, кавалачак бурштыну з моцна каразіраванай паверхняй. У паўночна-ўсходнім куце ямы ляжала крамянёвая невыразная сякера з лінзападобным папярочным сячэннем, апрацаваная з краёў даволі неахайнымі сколамі. У, яме сустрэлася яшчэ некалькі дробных расшчэпленых крэменяў. Аднак з упэўненасцю нельга сказаць, што крэмені ў гэта пахаванне былі пакладзены наўмысна.

Звяртаюць на сябе ўвагу два даволі масіўныя верацёнападобныя касцяныя наканечнікі з адмыслова запаліраванай паверхняй. На ніжніх частках знаходак прасочваюцца злёгку патончаныя насады (мал. 92). Наканечнікі ляжалі ў вобласці грудной клеткі аднаго з быкоў. Калі меркаваць па памерах, яны з'яўляліся, верагодна, буйнымі наканечнікамі стрэл, якімі і была забіта жывёліна.

Каля в. Малыя Едкавічы Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці ў тым жа 1971 г. падчас землякопных работ быў сустрэты і знішчаны яшчэ адзін падобны могільнік. Ён размяшчаўся на пясчана-жвіровым узгорку. Удалося даследаваць толькі рэшткі аднаго пахавання, а таксама сабраць у кар'еры дробныя абломкі гаршкоў, што, верагодна, засталіся ад іншых пахаванняў (Ч а р н я ў с к і, К а в а л ь с к а я, 1988).

У сценцы кар'єра захавалася паўночная частка пахавання. Яно заглыблялася на 1 м ад дзённай паверхні і першапачаткова, мабыць, знаходзілася ў каменнай скрыні, асновай якой быў гарызантальны плоскі камень, а бакавінамі — вертыкальна пастаўленыя камяні. Падчас раскопак, якія праводзілі супрацоўнікі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, знойдзены чэрап нябожчыка, пад ім — ніжняя сківіца (іклы?) дзіка або свінні, збоку крамянёвае долата. Былі тут таксама фрагменты керамікі і долата касцяное. У восыпе пад сценкай кар'єра знойдзена некалькі камянёў ад скрыні, абломкі посуду і цэлая амфара.

Амфара мае шарападобны корпус, кароткае вертыкальнае венца і плоскае дно. На плечыках прымацаваны чатыры вушкі з круглымі гарызантальнымі адтулінамі (мал. 93: 7). Сценкі, у якіх шмат кварцавай жарствы, шчыльныя, добра абпаленыя і загладжаныя, толькі месцамі захаваліся слаба прыкметныя пальцавыя ўмяціны. Колер пасудзіны шэра-рудаваты, арнамент адсутнічае.

Больш 50 фрагментаў паходзяць ад іншай амфары (мал. 93: 6). Яна мела такі ж акруглы корпус, даволі высокае прамое венца і плоскае дно з крыху выяўленымі закраінамі. На плечыках выступалі два шырокіх вушкі з гарызантальнымі круглымі адтулінамі. Колер пасудзіны шэра-руды, з сярэдзіны шэры, злом чарапка шэра-сіваваты. У цесце сценак шмат буйнога і сярэднезярністага кварцу. Паверхні ў большасці гладкія, на брушку ледзь прасочваецца падвертыкальная заштрыхоўка, каля самага дна — падгарызантальная. Дно крыху ўвагнутае і злёгку бугрыстае ад адбіткаў пальцаў.

Частка фрагментаў паходзіць ад трэцяй неарнаментаванай амфары з яйкападобным тулавам (мал. 93: 8). Яна такога ж колеру, як і папярэдняя, добра абпаленая, у цесце сценак шмат кварцавага пяску. У вушках здвоеныя шчылінападобныя адтуліны. Плоскае дно даволі плаўна пераходзіць у сценкі корпуса. Паверхні пасудзіны раўняліся пальцамі, ад якіх прыкметныя ўмяціны, затым загладжваліся тымі ж пальцамі і прыкругленай лапаткай. Апрацоўка завяршалася падгарызантальнай лёгкай заштрыхоўкай, якой не было толькі на венца.

Два фрагменты венца хутчэй за ўсё належалі невялікай амфары са значна менш акруглым і выступаючым корпусам. Вушкі былі невялікія і крыху

шыпаватыя (мал. 94: 4). Руда-шэрыя плямістыя сценкі з дамешкамі ў гліняным цесце кварцу гладкія і добра абпаленыя. Толькі месцамі захаваліся сляды падгарызантальнага лёгкага загладжвання. Амфара паміж вушкамі і брыжам венца мела пояс даволі складанага арнаменту са звісаючых трайных дуг авальных ямкавых наколаў, акаймаваных з двух бакоў такімі ж наколамі і тонкімі адбіткамі лінейнага штампа.

Вузкае крамянёвае долата падчатырохкутнага бакавога сячэння мела паралельныя бакавіны (мал. 94 : 3). Яно зашліфавана па ўсёй паверхні, толькі месцамі захаваліся невялікія негатывы сколаў. З расшчэпленай буйной трубчатай косткі змайстравана другое долата (мал. 94 : 2).

Бліжэйшыя аналогіі нашым матэрыялам культуры шарападобных амфар можна знайсці на суседніх тэрыторыях Польшчы і часткова на паўночным захадзе Украіны. Так, на Падляшшы і ў Мазовіі маюцца пахаванні ў каменных скрынях або абстаўленыя невялікімі камянямі (K e m p i s t y, 1971). Прамавугольная форма магіл Гродзеншчыны, іх арыентацыя ў кірунку прыкладна ўсход—захад, няпоўнае спаленне памерлага, сумесныя пахаванні людзей і жывёлы, пахаванні толькі жывёлы таксама шырока вядомыя ў арэале гэтай культуры (W i ś l a ń s k i, 1979. S. 294—299). На яе помніках даволі часта сустракаюцца касцяныя наканечнікі верацёнападобнай формы (W i ś l a ń s k i, 1966. S. 42). Бурштын найбольш распаўсюджаны на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, шмат яго знойдзена на могільніках шарападобнікаў Паўночна-Усходняй Польшчы, менш — у пахаваннях Валыні і Падоліі Украіны (С в е ш н и к о в, 1983. С. 10; W i ś l a ń s k i, 1966. S. 44). Знойдзеная на захадзе Гродзеншчыны кераміка блізкая аналагічным матэрыялам Польшчы і Украіны як па формах і тэхніцы вырабу, так і па арнаментацыі (С в е ш н и к о в, 1983; Kesnpisty, 1971; Wiślański, 1966. S. 25—35).

Такім чынам, знаходкі з могільнікаў каля пасёлка Краснасельскі і в. Малыя Едкавічы сведчаць, што гэтыя помнікі, несумненна, адносяцца да культуры шарападобных амфар і найбольш блізкія старажытнасцям яе мазавецка-падляшскай групы (Wiślański, 1966. S. 88; K e m p i s t y, 1971).

На захадзе Беларусі вядомыя і іншыя месцазнаходжанні матэрыялаў гэтай культуры. З ваколіц в. Ліхачы Гродзенскага раёна ў Гродзенскі музей яшчэ ў даваенны час паступіла некалькі фрагментаў керамікі. Большы з іх належаў верхняй частцы амфары з вузкім горлам і высокім венцам. Два фрагменты іншай пасудзіны ўпрыгожаны радамі вертыкальных адбіткаў лінейнага штампа. Кераміка мае ўмераныя дамешкі жарствы, гладкая, з сярэдзіны прыкметныя сляды загладжвання. Да старажытнасцей шарападобнікаў, верагодна, можна залічыць і тры сякеры, знойдзеныя каля в. Падгорыны Баранавіцкага раёна пры глыбокім ворыве павышэння на тарфяніку. Яны зроблены з якаснага светла-шэрага крэменю, маюць чатырохкутнае папярочнае сячэнне і па ўсёй паверхні апрацаваны акуратнымі сколамі. Сляды шліфоўкі адсутнічаюць. З імі ж знаходзілася і вузкае чатырохграннае цапкам зашліфаванае долата.

Паселішчы культуры шарападобных амфар нават на асноўнай тэрыторыі яе распаўсюджання даследаваны слаба (Wiślański, 1979). Вядома, што яны размяшчаліся найчасцей на пясчаных узбярэжжах рэк. Жытлы былі пераважна наземныя, слупавой канструкцыі, часам мелі некалькі камер з каменнымі або глінянымі агнішчамі. Месцамі жытламі служылі злёгку заглыбленыя паўзямлянкі. Падобных паселішчаў на тэрыторыі Беларусі пакуль не выяўлена. Аднак на познанеалітычных стаянках на Росі Ваўкавыскага раёна, у прыватнасці ў наваколлі пасёлка Краснасельскі, зрэдку сустракаецца кераміка шарападобнікаў.

На Гродзеншчыну, калі меркаваць па наяўнасці шнуравых арнаментаў, носьбіты культуры шарападобных амфар трапілі на злёце сваёй экспансіі — у другой палове 3-га тысячагоддзя да н. э. Касцяны матэрыял з Красна-сельскага могільніку паказаў дату 4080-140 да нашых дзён (Gd-9249). (Kadrow, Szmyt, 1996).

Цяжка сказаць, як далёка на ўсход Беларусі пранікалі элементы культуры шарападобных амфар або яе ўплывы. У вярхоўях Нёмана яны часам прыкметныя на мясцовых неалітычных матэрыялах. Можна ўбачыць іх і на поўначы Міншчыны каля пасёлка Куранец Вілейскага раёна сярод рэшткаў разбуранага кар'єрам пахавання, прадстаўленых абломкам чалавечага чэрапа і наборам касцяных долатаў і стамесак (Чернявский, 1969б). М. А. Мікляеў познанеалітычную ўсвяцкую культуру на Віцебшчыне і паўднёвай Пскоўшчыне нават разглядаў як «своеасаблівы ўсходні варыянт культур лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар» (Микляев, 1995). У гэтай сувязі выключнае значэнне маюць пахаванні шарападобнікаў, выяўленыя пад Смаленскам (Шмідт, 1992), якія Я. А. Шмідт звязвае з пранікненнем іх на вярхоўі Дняпра з Паўночнай Украіны.

Культура шарападобных амфар на Беларусі не мае генетычных сувязей з мясцовай неалітычнай традыцыяй. Яе носьбіты прыйшлі на нашу тэрыторыю з Цэнтральнай Еўропы, пасяляючыся адносна невялікімі групамі сярод абарыгеннага пераважна паляўніча-рыбалоўнага насельніцтва. Мабыць, наднікаў асабліва прыцягвалі ў Панямонні багатыя крэменем мясцовасці з крэйдавымі пакладамі. Тут яны, здаўна валодаючы навыкамі горназдабыўной справы, пачалі распрацоўку крэменю ў Краснасельскіх шахтах. Наўрад ці ўзаемаадносіны паміж тубыльцамі і находнікамі характарызаваліся асаблівай цярпімасцю і разумением, прынамсі, у першы час. Аднак маючы розны характар дамінуючых форм гаспадаркі, гэтыя этнакультурныя групы маглі суіснаваць і ўзаемна ўплываць на сябе. Носьбіты мясцовай неалітычнай культуры маглі запазычыць ад шарападобнікаў больш высокаразвітую жывёлагадоўлю, а магчыма, і земляробства з шырокай расчысткай лясных масіваў, а таксама і ўмельства здабываць крэмень шахтавым спосабам. Значным уплывам шарападобнікаў тлумачыцца і трансфармацыя нёманскай неалітычнай культуры ў свой пазнейшы, дабраборскі, этап.

Крэмнездабыўныя шахты. Развіццё земляробства ў неаліце, асабліва познім, вымагала ва ўмовах суцэльнай залесенасці Беларусі высечкі лесу і хмызняку. Гэта прыкметна павысіла попыт на сякеры. Калі для вырабу дробных прылад працы надаваўся і марэнны крэмень, што сустракаецца ў паверхневых россыпах на большасці нашай тэрыторыі, то для вялікай колькасці такіх буйных рэчаў, як сякеры, была неабходна высакаякасная сыравіна. Такой з'яўляліся залежы «сырога» крэменю ў тоўшчы крэйдавых адорвеняў, якія найчасцей сустракаюцца ў Пасожжы і на захадзе Панямоння. Менавіта на захадзе Панямоння тутэйшае познанеалітычнае насельніцтва перайшло ад збору паверхневага крэменю да яго здабычы паглыбленымі выпрацоўкамі ў крэйдавай тоўшчы. Такія выпрацоўкі-шахты вядомы ў наваколлі пасёлка Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.

Краснасельскія шахты ўпершыню выяўлены ў 20-я гады (Szmit, 1926). Аднак іх шырокае вывучэнне адбывалася толькі ў пасляваенны час (Гурина, 1976; Чарняўскі, Кудрашоў, Ліпніцкая, 1996).

У сярэднім цячэнні Росі, на Ваўкавысчыне, у ваколіцах населеных пунктаў Рось, Краснасельскі, Карпаўцы, у тоўшчах марэнных ледавіковых адкладаў

залягае шмат крэйдавых адорвеняў. Многія участю крэйды маюць прапласткі, ланцужкі або скапленні россыпам крамянёвых канкрэцый. Шмат дзе адорвені перакрыты невялікім пясчана-жвіровым покрывам у некалькі дзесяткаў сантыметраў. Таму такія ўчасткі былі лёгкадаступныя першабытнаму чалавеку.

Шахтавыя выпрацоўкі пераважна размяшчаліся ў месцах канцэнтрацыі крамянёвых запасаў, дзе яны залягалі на невялікіх глыбінях. Так, на адной крэйдавай лінзе каля Краснасельскага яны згрувашчваліся вялікімі групамі не менш як па 100 выпрацовак у кожнай.

У месцах гарызантальнага залягання крэменю шахты маюць выгляд калодзежаў дыяметрам каля 1,5 м і глыбінёй у сярэднім 2—3 м (мал. 95 : 1, 2; 96 : 2). Часам шахтавыя калодзежы былі шчылінападобныя, выцягнутыя, размяшчаліся падпаралельнымі ланцужкамі, спалучаліся штрэкамі. Такая форма дапасоўвала выпрацоўкі да моцна скошаных або ўвогуле вертыкальна залягаючых пакладаў сыравіны.

Крэмнездабытчыкі паглыблялі шахтавы калодзеж да крэменяноснага пласта. Затым пачынаўся выбар канкрэцый па ходзе пласта шляхам распрацоўкі пароды ў бакі падбоямі даўжынёй каля 1 м. Рэдка калі падбоі былі даўжэйшыя. Паміж падбоямі скляпеністай формы заставаліся выступы-цалікі, якія ахоўвалі выпрацоўкі ад абвалаў. Ведаючы размяшчэнне крамянёвых праслояў, старажытны здабытчык нярэдка паглыбляўся і да наступнага гарызонту сыравіны, дзе выпрацоўваўся ніжэйшы ярус падбояў-ніш. Толькі ў выключным выпадку сустракаліся трох'ярусныя падбоі. Відаць, такія глыбокія шахты былі непрадуктыўнымі, бо пароду трэба было выцягваць з вялікай глыбіні. Таму больш мэтазгодным было выкопваць побач новыя выпрацоўкі. Пра пошукі ніжэйшых пластоў крэменю сведчаць вузкія калодзежы пошукавага характеру на дне выпрацовак.

Побач са скапленнямі шахтаў, на іх перыферыі, калі запасы сыравіны выкліньваліся або змяншаліся, рабіліся пошукавыя шахты. Яны ўяўляюць сабой вузкія вертыкальныя калодзежы. І калі па ходзе калодзежа трапляўся крэмень, пошукавая выпрацоўка ператваралася ў звыклую шахту.

Размешчаныя побач шахты часам злучаліся штрэкамі. Відавочна, наўмысна штрэкі пракладвалі рэдка. Яны звычайна ўзнікалі выпадкова, калі падбоі шахтаў сустракаліся, выходзілі на падбоі суседняй шахты. Так жа выпадкова ўзнікалі і «вентыляцыйныя вокны» — адтуліны ў суседнія выпрацоўкі. Вентыляваць увогуле невялікія і неглыбокія шахты не было, відаць, неабходнасці.

Сценкі выпрацовак, асабліва ў нізе ствалоў, у падбоях і штрэках, іх скляпенні маюць мноства драпін і баразёнак, якія засталіся ад востраканечных капальных прылад, з дапамогай якіх старажытныя шахцёры здабывалі сыравіну (мал. 95 : 3). Нізы шахтавых калодзежаў, асабліва калі выпрацоўкі эксплуатаваліся працяглы час, прыкметна затаптаныя нагамі. Таксама і вузкія месцы шахтаў, вусці падбояў і штрэкаў загладжаныя вопраткай капальнікаў. Часам на сценках маюцца сляды закуранасці або вуглістыя пісягі. Гэта сведчыць аб тым, што цямнейшыя мясціны выпрацовак асвятляліся. Не выключана, што халаднейшым часам у глыбіні шахтаў раскладвалі і нейкія вогнішчы.

У шахтавых запаўненнях часам можна заўважыць пустоты з арганічнай трухой на сценках, што засталася ад згнілага дрэва. Некаторыя пустоты засталіся ад сукаватых ствалоў дрэў. Верагодна, гэта былі прыстасаванні, па якіх пранікалі ў выпрацоўкі.

У шахтах, часам побач з імі, знойдзена даволі шмат капальных шахцёрскіх інструментаў (мал. 96: 3—6). Найбольш распаўсюджанымі былі кіркападобныя прылады, якія атрымліваліся пры расчляненні аленевых

Да трэцяй групы аднесены фрагменты 4—5 пасудзін. Яны танкасценныя (да 0,5 см), маюць добра загладжаную паверхню, высокую, адагнутую вонкі шыйку, шарападобнае тулава і акруглае ці ўплошчанае дно. Арнаментыка блізкая да тыпу пасудзін першай групы. Часта сустракаюцца ў пахаваннях позняга этапу сярэднедняпроўскай культуры.

Раскопкі ва ўрочышчы Ксяндзова Гара з улікам аднаслойнасці помніка дазваляюць выкарыстоўваць яго матэрыялы ў якасці рэпера для раздзялення матэрыялаў змешаных паселішчаў (неаліт і бронза), што абсалютна пераважаюць у Верхнім Падняпроўі. Акрамя таго, разам з матэрыяламі з раскопак ва ўрочышчы Завалле каля в. Лучын Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці яны дазваляюць вызначыць характэрны для насельніцтва сярэднедняпроўскі тып наземных жытлаў слупавой канструкцыі з выкладзенымі з камянёў ачагамі і ачаговымі ямамі. Такі ж тып жытлаў выяўлены І. І. Арцёменкам ва ўрочышчы Завалле.

Ва ўрочышчы Лоша каля в. Струмень Кармянскага раёна Гомельскай вобласці А. Г. Калечыц (1987) знайшла другі тып жытлаў. Гэта прамавугольныя паўзямлянкі, заглыбленыя ў мацярык да 0,6 м, з адным-двума ачагамі ўнутры, уладкаванымі ў паглыбленнях падлогі. Плошча жытлаў слупавой канструкцыі вагалася ад 12 да 20 $м^2$. На ўзроўні падлогі знойдзены пасудзіны, якія дазваляюць датаваць іх, шліфаваная сякера, скрабкі, сярпы, нажы і іншыя вырабы. Магчыма, у адрозненне ад лёгкіх наземных пабудоў гэта былі «зімовыя» ўцепленыя будынкі. У адпаведнасці з адзначанымі прыкметамі менавіта да сярэдняга этапу сярэднедняпроўскай культуры адносіцца большасць новых матэрыялаў, назапашаных у Пасожжы ў апошнія дзесяцігоддзі (Струмень Кармянскага, Дубовы Лог, Дзям'янкі Добрушскага раёнаў).

У адрозненне ад ранняга этапу сярэдні вылучаецца разнастайнасцю пахавальнага абраду. Гэта падкурганныя і грунтавыя могільнікі з трупаспальваннем і трупапакладаннем. Курганныя пахаванні вывучаны ў 20 пунктах (70 курганоў, 112 пахаванняў), у тым ліку ля Ходасавічаў Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Помнік знойдзены Ю. В. Кухарэнкам у 1951 г., у 1959—1966 гг. І. І. Арцёменкам раскапана 29 курганоў з 64 пахаваннямі, з іх 41 пахаванне — бронзавага веку, а 23 — XI—XII стст.

Курганныя могільнікі знаходзяцца тут уздоўж краю берагавой тэрасы левага берага Дняпра на працягу 4 км і каля азёраў, што ланцужком цягнуцца ўздоўж тэрасы.

Першая група ва ўрочышчы Мошка налічвала 35 насыпаў, раскапана 17 (15 — бронзавы век, 2 — славянскія), другая група, размешчаная на адлегласці 100 м на поўнач, — 12 насыпаў, раскапана 3; трэцяя група — на адлегласці 300 м на поўнач ад другой групы каля возера Хоршава — 52 насыпы, раскапана 3 (усе славянскія пахаванні). На адлегласці 1 км на поўдзень ад першай групы каля возера Каменнае захавалася яшчэ 6 курганоў (не раскопваліся). На адлегласці 1,5 км на поўдзень каля возера Дзеднае ў 1961 г. раскапаны два насыпы.

Курганы ва ўрочышчах Мошка, Палік каля возера Дзеднае насыпаны на плошчы неалітычных стаянак. Вышыня іх ад 0,4 да 2,2 м, дыяметр 10—20 м. Пераважае вышыня 1—1,6 м. З 41 пахавання бронзавага веку 27 асноўныя, 12 — уводныя і зроблены ў рове, які акружаў першапачатковы насып, што сведчыць пра наяўнасць дасыпання, якое праводзілася неаднаразова. Магілы авальнай і прамавугольнай формы з акруглымі вугламі, даўжынёй да

2,3 м, шырынёй да 1,2 м, у шэрагу выпадкаў (курганы № 10, 11) сустракаліся сляды драўляных перакрыццяў на слупіках.

Месца пахавання абпальвалася агнём, пасыпалася попелам ці вохрай, верх насцілу таксама пасыпаўся попелам. Каля магільных ям знойдзены сляды трызны (вогнішча і рэшткі касцей дзікіх і хатніх жывёл). Пахаванні зроблены па абрадах трупапакладання, трупаспалення. Позы пахаваных розныя (на баку, спіне, у скурчаным становішчы). Арыентаванасць у 17 выпадках з поўдня на поўнач, у 14 — з усходу на захад. І. І. Арцёменка адзначае, што жанчын хавалі галавой на поўдзень, мужчын — на поўнач, дзяцей — на ўсход ці захад.

Спадарожны інвентар сведчыць пра дыферэнцыяцыю насельніцтва. Разам з безінвентарнымі пахаваннямі ёсць пахаванні вельмі багатыя. Так, у кургане № 1 ва ўрочышчы Мошка знойдзены гліняная пасудзіна, медная сякера, медны наканечнік кап'я, дзве медныя акулярападобныя падвескі, падвеска з бурштыну, паліравальная пліта, каменная баявая сякера, абломак абушковай сякеры, 27 наканечнікаў стрэл, 4 нажы, клінападобная сякера, 53 адшчэпы. У цэлым інвентар прадстаўлены посудам, упрыгожаннямі з металу, бурштыну, зброяй і прадметамі хатняга ўжытку.

Грунтавыя могільнікі гэтага перыяду знойдзены і вывучаны ў 28 пунктах Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя, у тым ліку ў Стрэліцы Веткаўскага, Сябровічы Чачэрскага, Прорва Рагачоўскага раёнаў Гомельскай вобласці. Як правіла, у іх адбываліся пахаванні па абраду трупаспалення, радзей — трупапакладання. Пахаванні з трупапакладаннем знаходзіліся ў магільных ямах, перакрытых драўляным насцілам (мал. 102: 1—16).

Арыентаванне пахаваных living рознае, пераважае з поўначы на поўдзень. Грунтавыя пахаванні па абраду трупапакладання былі распаўсюджаны значна менш (вядома 10), чым з трупаспаленнем, і амаль усе звесткі аб іх недастаткова дакладныя. На тэрыторыі Беларусі выяўлены каля в. Ставішча Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, каля в. Гарожа той жа вобласці; на адлегласці 8 км на паўднёвы ўсход ад Магілёва (Вейна) пры распрацоўцы кар'єра; на левым беразе р. Нача паблізу в. Вяляцічы Барысаўскага раёна Мінскай вобласці; каля в. Вялікая Зімніца Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці; каля в. Буда Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці, у адным (з 94) пахаванні ва ўрочышчы Стрэліца каля в. Рудня Шлягіна і ва ўрочышчы Папова каля пасёлка Пралетарскі Веткаўскага раёна. Усе пахаваныя знаходзіліся ў магільных ямах, перакрытых драўляным насцілам. Арыентаванне і позы пахаваных розныя (на баку, на спіне, у скурчаным становішчы). Ровікі са слядамі слупоў па перыметры пахаванняў, што сустрэліся ў шэрагу выпадкаў, гавораць пра наяўнасць агароджы. Спадарожны інвентар і пры трупапакладанні і пры трупаспаленні ўключае ў сябе крамянёвыя і каменныя сякеры, нажы, наканечнікі стрэл, посуд, упрыгожанні з бронзы, медзі, бурштыну, косці і інш.

Выяўленыя А. Г. Калечыц (К а л є ч и ц, 1987. С. 84) касцякі з могільнікаў ва ўрочышчы Папова каля пасёлка Пралетарскі былі цалкам пакрытыя вохрай. У сувязі з разбурэннем схілу яны знойдзены ў парушаным анатамічным парадку, што не дазволіла пакуль прасачыць ні арыентаванне пахаваных, ні ўпарадкаванне іх магіл. Абрад трупаспалення вывучаны ў такім буйным некропалі Пасожжа, як урочышча Стрэліца (93 пахаванні), урочышча Ліпаў Брод (115 пахаванняў), урочышча Сасонка каля возера Хоршава, каля пасёлка Пралетарскі і ў іншых месцах.

Урочышча Стрэліца знаходзіцца насупраць в. Юркавічы, паблізу ад в. Рудня Шлягіна Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, на пясчаным узвышшы — астанцы першай надпоймавай тэрасы левага берагу р. Сож, вышынёй да 2,5 м. Помнік знойдзены К. М. Палікарповіч у 1926 г.

Яшчэ 86 пахаванняў сярэднедняпроўскай культуры і вялікі неалітычны матэрыял былі вывучаны ў раскопах 1963—1965 гг., ускрытых на плошчы 1716 $м^2$ І. І. Арцёменкам. Магільныя ямы авальнай ці чатырохкутнай формы з закругленымі вугламі, як правіла, унізе былі звужаны. Памер іх вагаўся ад 1,5х0,9 м (пахаванне № 55) да 3,3х1,63 м (пахаванне № 45). Размяшчэнне іх групамі І. І. Арцёменка (Артеменко, 1976. С. 88) растлумачыў як сведчанне пахаванняў на радавым могільніку асобных сем'яў. Пры гэтым трупаспаленне праводзілася ўбаку, а рэшткі крэмацыі ссыпалі ў магільныя ямы, аналагічныя па формах і памерах ямам для трупапакладання.

Арыентаванне ям рознае, пераважна з поўдня на поўнач (33 з 85 пахаванняў). У магілах знойдзены спадарожны пахавальны інвентар, які дазволіў даследчыку зрабіць вельмі важную выснову «о дифференциации внутри родовой общины по общественному положению, о существовании имущественного неравенства у племен среднеднепровской культуры» (Артеменко, 1976. С. 89.).

Магільныя ямы, відаць, агароджваліся, пра што сведчаць сляды слупоў па перыметры і сляды равоў (пахаванні № 56—59). У могільніках Страліца і Сябровічы вакол некаторых магіл захаваліся рэшткі слупавых ям ад агароджы (Артеменко, 1977. С. 33). Адзінае пахаванне (№ 43) па абраду трупапакладання, мяркуючы па ўсім, мужчынскае, размяшчалася прама пад магілай № 53 са слядамі крэмацыі жанчыны. І. І. Арцёменка лічыць, што па іншым абрадзе быў пахаваны прадстаўнік другога роду, магчыма, галава роду і яго жонка. Інвентар, які быў у магіле, рэзка адрозніваўся наборам і колькасцю прадметаў. Яго склад дазволіў даследчыку ўдакладніць перыядызацыю культуры, а па ўзаемаразмяшчэнні магільных ям вылучыць дзве рознačасовыя групы пахаванняў.

У першую, аднесеную І. І. Арцёменкам да найбольш позніх пахаванняў сярэднедняпроўскай культуры і датаваную другой чвэрцю 2-га тысячагоддзя да н. э. (датаванне праведзена па наяўнасці ў пахаванні № 40 чатырохсегментнай егіпецкай фаянсавай пацеркі), увайшлі пахаванні з глінянымі пляскатадоннымі чашамі і пасудзінамі эсападобнага профілю, кругладоннымі пасудзінамі звонападобнай формы, арнаментаванымі па ўсёй паверхні і днішчу адбіткамі шнура, лінейнага штампа, наразнымі лініямі і неарнаментаваныя пасудзіны.

Да інвентару гэтай групы належалі і вырабы з медзі (15 экз.: дыядэмы, грыўні, бранзалеты, наканечнік кап'я, шылы, трубчатыя пацеркі); крэменю (нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл і дроцікаў, клінападобныя сякеры); каменю (свідраваная сякера, адбойнік, тачыльны брусок); упрыгожанні з бурштыну (каралі) з 21 падвескі; фаянсу (пацерка); шкла (мал. 102—105).

Для другой групы пахаванняў (18 магільных ям) характэрны пасудзіны з акруглым ці злёгку ўплошчаным дном, акруглым тулавам і высокай, адагнутай вонкі шыйкай. Для арнаментавання па-ранейшаму шырока выкарыстоўваліся адбіткі шнура, лінейнага штампа, нарэзкі, насечкі, вусені і іншыя элементы. Характерна гарызантальная арнаментацыя пасудзін, паясы з прылеглых адзін да аднаго трохкутнікаў. Склад інвентару прыкладна адзін і той жа. Гэта медны нож, бурштынавая падвеска, вырабы з каменю і крэ-

меню. На падставе стратыграфічнага размяшчэння магільных ям гэта група пахаванняў датавана І.І. Арцёменкам першай чвэрцю 2-га тысячагоддзя да н. э.

Даследаванні ў Стрэліцы далі вельмі багаты і каштоўны матэрыял для вывучэння храналогіі пахавальнага абраду сярэднедняпроўскай культуры.

На познім этапе (XVIII—XV стст. да н. э.) тэрыторыя, занятая насельніцтвам сярэднедняпроўскай культуры, яшчэ больш павялічылася, як лічыць І. І. Арцёменка (Артеменко, 1987. С. 40). Але шэраг з адзначаных пунктаў (Скема ў Мінскай вобласці, помнікі ў басейнах Нёмана, Заходняй Дзвіны) аднесены да іншых культур. І. І. Арцёменка ўключае ў лік помнікаў гэтай пары 160 паселішчаў, 21 з якіх раскапана. Сярод іх на Беларусі Завалле, Барок Сямёнаўскі і інш. Паселішчы займаюць вялікія плошчы (да 3 тыс. м$^2$) на пясчаных пагорках рачных далін і тэрасах. Знойдзены рэшткі наземных і злёгку паглыбленых жытлаў слупавой канструкцыі плошчай да 44 м$^2$ (Завалле), рэшткі глінянай абмазкі сцен, якія былі сплецены з лазы. Ёсць таксама мноства прылад з крэменю (наканечнікі стрэл і дзідаў, нажы, скрабкі, сякеры), каменя (зерняцёркі, свідраваныя сякеры і інш.), косці (шылы, праколкі і інш.), гліняныя праселкі (мал. 102: 20—39).

Пахавальны абрад застаўся падобны на ранейшы. Звыш 50 пахаванняў знойдзена ў 40 раскапаных курганах, вядомых у 27 пунктах. Сярод іх курганы ля Ходасавічаў і Вылева (Добрушскі раён). І. І. Арцёменка (Артеменко, 1987. С. 40) адзначае, што памерлых хавалі на баку ў скурчаным стане з рознай арыентацыяй.

Амаль не вывучаны падкурганныя пахаванні з трупаспаленнем гэтага часу.

Менавіта ў Верхнім Падняпроўі вядомы грунтавыя пахаванні з трупаспаленнем (Сасонка, Пралетарскі, Хоршава, Стрэліца, Сябровічы, Янава-2). Тут сканцэнтраваны і грунтавыя могільнікі з трупапакладаннем. Сярод іх Страліца, Рудня Споніцкая, Гарадоўка і інш. Рытуал пахавання застаўся ранейшым. Стратыграфія помнікаў шмат у чым абапіраецца на тыпалогію посуду. Кухонны посуд сустракаецца толькі на паселішчах. Ён складаецца з пляскатадонных, даволі таўстасценных пасудзін з выпуклым тулавам, высокай ці кароткай адагнутай вонкі шыйкай эсавіднай і біканічнай форм. Пад краем часта маецца каўнерчык. У цесце дамешкі пяску, жарствы, кварцавыя зрняты. Вышыня пасудзін 30—40 см, дыяметр — 25—30 см. Арнаментавалася галоўным чынам іх верхняя частка. З дапамогай адбіткаў лінейнага штампа, адбіткаў шнура, грэбеня, пракрэсленых ліній, нарэзак, пазногцевых уціскнняў фармаваліся гарызантальныя і вертыкальныя рады, што апярэзваюць пасудзіну, сістэмы датыкальных адзін да аднаго заштрыхаваных трохкутнікаў і інш. (мал. 102, 107, 108).

Сталовы посуд сустракаецца і на паселішчах, і ў пахаваннях і падзелены І. І. Арцёменкам (Артеменко, 1977. С. 37; 1987. С. 40) на дзве групы. Посуд, як правіла, танкасценны. У цесце сасудаў першай групы — дамешкі пяску і радзей шамоту, другой — нязначная дамешка пяску. Да першай групы адносяцца пляскатадонныя, зрэдку кругладонныя сасуды, якія па тэхналогіі вырабу з'яўляюцца працягам развіцця посуду другога этапу. Сярод іх гаршкі, амфары, кубкі ці бакалы. Посуд другой групы ўвесь пляскатадонны, добра абпалены. Вылучаны гаршкі эсавіднай формы з загнутым унутр і адагнутым вонкі краем венца, высока размешчанымі плечыкамі. У гэтую групу ўваходзяць таксама банкі і чашы. Сасуды баначнай формы пляскатадонныя, са злёгку пукатымі і пашыранымі кверху сценкамі. Чашы пляската-

і кругладонныя, з пашыранымі ўверсе прамымі ці злёгку пукатымі сценкамі. І. І. Арцёменка адзначае блізкасць асобных пасудзін другой групы да познанеалітычных і сосніцкіх. Гэта тычыцца як формы, так і некаторых рыс арнаментацыі. Адбіткі шнура, лінейнага штампа, кароткія насечкі ўтваралі гарызантальныя паясы, зігзагі, ёлачныя кампазіцыі, што пакрывалі ўсё тулава пасудзіны ці толькі яе верхнюю частку.

Тыповыя фрагменты такога посуду знойдзены А. Г. Калечыц ля в. Струмень (урочышчы Біручыха, Лоша, Нараг) Кармянскага раёна і ў іншых месцах (мал. 108).

Акрамя глінянага посуду ў інвентарах шырока пададзены вырабы з металу (мал. 102—105): шылы і нажы (Ходасавічы, Стрэліца), віслаабуховыя і ўтулкавыя сякеры (Ходасавічы), скроневыя колцы (Ходасавічы, Пралетарскі), дыядэмы, грыўні, бранзалеты, трубчатыя колцы (Стрэліца). Як лічаць спецыялісты, яны ці прывазныя, ці зроблены з мыш'яковістай бронзы каўказскага і медзі балкана-карпацкага паходжання на месцы.

Вырабы з крэменю ўключаюць асноўныя катэгорыі прылад: наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, коп'і, дроцікі і клінавідныя сякеры 5 тыпаў. Больш за ўсё сякер тонкаабушковых трапецавіднай падтрохкутнай, падпрамавугольнай формы. Яны прамавугольныя, авальныя ці лінзавідныя ў сячэнні. Знікаюць тоўстаабушковыя прамавугольныя ў сячэнні сякеры другога этапу (мал. 106).

Вырабы з каменю пададзены свідраванымі сякерамі, зерняцёркамі, матыкамі, кавалдамі, булавой, грузіламі і інш. Ёсць таксама ўпрыгожанні-падвескі з бурштыну, з зубоў ваўка, аленя і іншыя вырабы.

Гаспадарчыя заняткі насельніцтва звязаны з жывёлагадоўляй і земляробствам. Гэтаму спрыялі прыдатныя ўмовы для выпасу хатніх жывёл, шмат кармоў, зручныя ўчасткі для земляробчай працы. Доказам гэтых заняткаў з'яўляюцца, напрыклад, находкі костак хатніх жывёл у курганах ва ўрочышчы Палік, ля возера Дзеднае каля Ходасавічаў і ў пахаванні № 82 Стрэліцы. Знойдзены рэшткі буйной і дробнай рагатай жывёлы, каня і свінні. Суадносіны з косткамі дзікіх жывёл сведчаць на карысць жывёлагадоўлі. Паляванне адышло на другі план. Ва ўрочышчы Палік і пахаванні № 1 кургана № 1 каля возера Дзеднае знойдзены косткі такіх дзікіх жывёл, як алень, лось, кабан. У пахаванні каля Ходасавічаў захаваліся касцёвыя рэшткі і пушных жывёл — бабра і ваўка. Ускоснымі доказамі земляробства з'яўляюцца знаходкі матык, зерняцёрак з буйназярністых парод каменя (Ксяндзова Гара, курган № 10 ва ўрочышчы Мошка каля Ходасавічаў і інш.) і адбіткаў злакаў культурных раслін на пасудзінах.

Насельніцтва займалася таксама будаўніцтвам жытлаў, металургіяй на прывезенай сыравіне, вырабам прылад працы для палявання, земляробства, умела добра шліфаваць і паліраваць рэчы, асабліва сякеры і наканечнікі стрэл і дзідаў, па-ранейшаму рабіла скрабкі, скрэблы, нажы, свердлы, неабходныя для апрацоўкі скур, магчыма, займалася ткацтвам (адбіткі шнура на посудзе, рэшткі скручаных шарсцяных нітак, на якія быў нанізаны бісер у пахаваннях № 43 і 53 могільніка Стрэліца). У пахаванні № 2 кургана № 10 урочышча Мошка знойдзены рэшткі скуранога футарала ад сякеры. Адным з асноўных заняткаў пры гэтым заставаўся выраб глінянага посуду і яго аздабленне, якое вылучалася складанасцю кампазіцый і якасным выкананнем.

Аналіз металічных вырабаў і ўпрыгожанняў з металу, бурштыну і косці дазволілі І. І. Арцёменку (Артеменко, 1967. С. 122—123) разглядаць

пытанне аб абмене з суседзямі. Ён лічыць, што асноўнымі эквівалентамі абмену ў насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры былі свойскія жывёлы, прадукты жывёлагадоўлі, скуры, мех дзікіх жывёл. Такім чынам, ён заўважае сувязі плямёнаў сярэднедняпроўскай культуры з насельніцтвам Жытомірскага Палесся, Валыні, з кругам культур шнуравой керамікі Прыкарпацця, Польшчы, насельніцтвам Прыбалтыкі.

Дадатковыя матэрыялы сярэднедняпроўскай культуры ў значнай колькасці атрыманы ў 80-я гады. На ўсіх 18 паселішчах каменнага веку, якія раскопвала на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя А. Г. Калечыц (1987), і амаль на ўсіх помніках, што вывучаны шляхам павярховых збораў, ёсць ад 5 да 10% керамікі сярэднедняпроўскай культуры. Трэба адзначыць, што, нягледзячы на вялікую колькасць гэтых матэрыялаў, прынцыпова новых, якія б адрозніваліся ад апісаных І. І. Арцёменкам, няма: тыя самыя формы пасудзін, тыя самыя вырабы з металу, тыя самыя пахаванні (урочышча Лоша). З улікам складанасці пытання і шырокай палемікі вакол яго праблема генезісу і храналогіі сярэднедняпроўскай культуры застаецца спрэчнай, а пытанне адкрытым.

Нельга лічыць, што прапанаваная І. І. Арцёменкам схема развіцця старажытных плямёнаў, якія насялялі Сярэдняе і Верхняе Падняпроўе ў пачатку бронзавага веку, знайшла аднадушную падтрымку навукоўцаў. Ужо пасля публікацыі абагульняльных работ па гэтай тэме (Артеменко, 1963; 1967) з'явіўся шэраг рэцэнзій, дзе разам з высокай ацэнкай яго працы ўтрымлівалася шмат крытычных заўваг. Галоўнымі апанентамі І. !. Арцёменкі доўгі час заставаліся С. С. Березанская (Березанская, 1970. С. 278—281; 1971. С. 36—49; 1975. С. 81—82), М. М. Бондар (Березанская, Бондарь, 1967. С. 12—25; Бондарь, 1971. С. 54—62; 1974, 1975. С. 82—84 і інш.). Яны не пагаджаюцца з храналогіяй сярэднедняпроўскай культуры. Асабліва праблематычным выглядае вылучэнне ранняга этапу. С. С. Березанская падкрэсліла значную ролю мясцовага неалітычнага кампанента (а не ад ямкавай керамікі) у паходжанні сярэднедняпроўскай культуры і прапанавала падзяліць яе на сярэдне- і верхнедняпроўскую культуры ў межах 3—2-га тысячагоддзяў — сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. (Березанская, 1976. С. 81—82). М. М. Бондар (1975) таксама падкрэсліваў ролю мясцовых культур пры фарміраванні сярэднедняпроўскай культуры, якая ўзнікла ў атачэнні познатрыпольскага, ямкавага, позьанеалітычнага насельніцтва.

Свае меркаванні па пытаннях перыядызацыі сярэднедняпроўскай культуры і нязгоду з некаторымі высновамі І. І. Арцёменкі выказалі З. Кжак (Kżak, 1969), А. М. Румянцаў (1972) і некаторыя іншыя даследчыкі. Таму неабходнасць перагляду ўсёй назапашанай па сярэднедняпроўскай культуры інфармацыі ў кантэксце з праблемамі фарміравання культур шнуравой керамікі відавочная. Апошнім часам на Беларусі гэтым пачаў займацца М. М. Крывальцэвіч (1991).

**Прыпяцкі варыянт сярэднедняпроўскай культуры.** Падкрэсліваючы адмысловы характар старажытнасцей ранняй бронзы ў басейне Прыпяці, У. Ф. Ісаенка прапанаваў вылучыць палескую культуру шнуравой керамікі (Исаенко, 1976б. С. 16—17; Белорусская археология, 1987. С. 25—26). Адметнасць шнуравой керамікі Прыпяцкага Палесся адзначала таксама С. С. Беразанская (Березанская, 1971. С. 40). Ю. У. Кухарэнка ў 60-я гады заўважыў, што маецца пэўнае падабенства ўсходнепалескай шнуравой керамікі з падняпроўскай (Кухаренко, 1968. С. 38). І. І. Арцёменка

атаясамліваў помнікі, адкрытыя на ўсходзе Прыпяцкага Палесся, з сярэднедняпроўскай культурай (Артеменко, 1967; 1972. С 22 (карта 1); 1977. С. 35). Засяроджваючы ўвагу найперш на пэўнай тоеснасці керамічнага матэрыялу, з аднаго боку, паселішчаў ніжняй і сярэдняй Прыпяці і, з другога — паселішчаў Падняпроўя, М. М. Крывальцэвіч прапанаваў вылучыць прыпяцкі варыянт сярэднедняпроўскай культуры (Кривальцевич, 1989. С. 111; 1991; 1994а. С. 122—129). Матэрыялы прыпяцкага варыянта сустракаюцца на тэрыторыі ўсходніх раёнаў Прыпяцкага Палесся, дзе налічваецца больш за 40 помнікаў ранняга перыяду бронзы.

Сляды паселішча і бескурганнага могільніка са шнуравой керамікай адзначаліся У. Ф. Ісаенкам пры раскопках Загорын-1 (Мазырскі раён Гомельскай вобласці). Комплексы старажытнасцей ранняй бронзы, блізкіх да сярэднедняпроўскай культуры, вылучаліся М. М. Крывальцэвічам на раскапаных ім у 1985—1988 гг. паселішчах Старыя Юрковічы (Крывальцэвіч, 1988. С. 75—83), Азярное-1 (Любанскі раён Мінскай вобласці) у нізоўях Убарці (Крывальцэвіч, 1994а. С. 71—78), уздоўж Прыпяці (мал. 109).

Рэшткі палескіх паселішчаў сярэднедняпроўскай культуры знойдзены на тых участках рачной даліны, дзе пойма добра развіта, часта трапляюцца азёры-старыцы, пратокі, шмат пясчаных пагоркаў, рэшткаў тэрас і г. д. Значна радзей, асабліва ва ўмовах нізінных моцна забалочаных цэнтральнапалескіх раўнін, людзі сяліліся на ўзвышаных мысападобных участках тэрас. Звычайна вышыня размяшчэння культурных пластоў над узроўнем поймы не перавышала 1,5—4 м (радзей — 6—8 м і вышэй). У міжрэччы Случы—Пцічы адшуканы сляды паселішчаў, заснаваных на пойменных ці тэрасных узвышшах невялікіх азёр сярод тарфянікавых раўнін. На месцы паселішча Азярное-2Б асобныя абломкі посуду сярэднедняпроўскай культуры знойдзены ніжэй узроўню вады ў возеры Вячэра (Крывальцэвіч, 1996. С. 147—168). Гэта дазваляе меркаваць, што ва ўмовах суббарэальнага клімату ў Прыпяцкім Палессі маглі існаваць пасёлкі на палях, насцілах. Заўважаецца «гнездавы» спосаб размяшчэння параўнальна адначасовых помнікаў. Рэшткі паселішчаў сярэднедняпроўскай культуры амаль заўсёды сустракаюцца разам з адкладаннямі неалітычнага часу.

Сляды пасёлка сярэднедняпроўскай культуры ў Старых Юрковічах-1 знойдзены на плошчы каля 1 тыс. $м^2$ па краю абрывістага астанца рачной тэрасы вышынёю 4—8,6 м над узроўнем поймы р. Арэсы.

Керамічны посуд рэпрэзентаваны трыма групамі (мал. 109): з высокімі прамымі, крыху адхіленымі вонкі, крута пераходзячымі ў тулава гарлавінамі; з выгнутымі шыйкамі, якія плаўна пераходзяць у тулава (эсападобнага профілю); з «каўнерыкамі», шыйкамі, што крута пераходзяць у тулава. У гліну звычайна дамешваўся шамот, значна радзей пясок, дробная жарства. Заўважаюцца лёгкія рэльефныя сляды штрыхавання знешняй і ўнутранай паверхні пасудзін. Кераміка аздаблялася лінейнымі прамавугольнымі штампамі, вусеневымі, шнуравымі арнаментамі. Лінейныя штампы звычайна наносіліся на тулава і донную частку ў выглядзе гарызантальных пасаў «елачак». Вусеневыя арнаменты сустракаліся на верхніх частках сасудаў, радзей на тулавах у выглядзе «ёлачных» кароткіх нахіленых адбіткаў, зігзагаў, трохкутнікаў. Шнуравымі арнаментамі аздабляліся венцы, шыйкі, плечукі пасудзін у матывах тыпу адзінарных, двайных радоў кароткіх адбіткаў, хвалістых узораў, спалучэння «тоўстых» і «тонкіх» шнуроў і г. д. Шнуравыя адбіткі спалучаліся найчасцей з лінейнымі штампамі (Крывальцэвіч,

1988. С. 75—79). Вялікае значэнне надавалася вусеневаму арнаменту, з якога ўтвараліся часам матывы, блізкія да тыпова падняпроўскіх «заштрыхаваных трохкутнікаў, бакі якіх сутыкаліся».

На паселішчы Азярное-1, магчыма, плошча якога ў ранні перыяд бронзы дасягала 5 тыс. м², знойдзены сляды наземнай пабудовы слупавой канструкцыі (жытла?). У дзвюх ямах яе трапіліся рэшткі посуду сярэднедняпроўскай культуры і крамянёвы трохкутны наканечнік стралы. Магчыма, што збудаванне мела прамавугольную форму пры даўжыні паўднёвай сцяны каля 8 м. Па матэрыялах Азярнога-1 вылучана пяць груп керамікі ранняга перыяду бронзы (мал. 109).

Першую групу складалі невысокія гаршкі з маленькімі днамі, прамымі крыху адхіленымі вонкі гарлавінамі, якія крута пераходзяць у пукатае тулава. Арнаментаваны ў верхняй частцы лінейнымі штампамі, пракрэсленымі лініямі, «вусенькамі». Другая група — гаршкі з плаўна выгнутымі шыйкамі, выпуклымі бакамі, невялікімі днамі. Посуд другой групы колькасна пераважае сярод керамікі ранняга перыяду бронзавага веку. Раздзяляецца на дзве падгрупы: 1) гаршкі з пальцавымі ўцісканнямі па краю венца, арнаментаваныя галоўным чынам лінейнымі штампамі; 2) гаршкі з закругленымі ці прыплюснутымі зрэзамі венцаў без пальцавых уцісканняў, са шнуравымі вусеневымі адбіткамі, лінейнымі штампамі. Сярод гаршкоў другой падгрупы сустракаецца рабрысты посуд. Гліна замешвалася з шамотам, радзей пяском. Характэрна гарызантальнае загладжванне травой унутранай і менш рэльефна знешняй паверхні пасудзіны. Арнаментавалася звычайна ўся вонкавая паверхня гаршкоў, у тым ліку і донная частка. У аздабленні часта спалучаліся матывы са шнуравых і лінейных, шнуравых і вусеневых арнаментаў. Трэцяя група — пасудзіны з «каўнерыкамі». У гліну найчасцей дамешваўся пясок. Посуд упрыгожваўся шнуравымі арнаментамі, лінейнымі штампамі. Чацвёртую групу складаюць пасудзіны з моцна раздутым тулавам і вузкаю гарлавінаю. Пры іх лепцы выкарыстоўваліся пясчаныя і шамотныя дамешкі. Знешняя паверхня загладжвалася травою. Да пятай групы аднесены чашы, арнаментаваныя лінейнымі штампамі і шнуравымі адбіткамі.

У адрозненне ад Старых Юрковіч-1 у Азярным-1 назіраецца большая разнастайнасць форм посуду, значная перавага другой групы і меншае значэнне першай групы керамікі вусеневага арнаменту, узрастае роля накольчатых арнаментаў, насечак, арнаментаванасці ўсёй паверхні сасудаў. Не выключана, што гэтыя адрозненні з'яўляюцца паказчыкам большай архаічнасці некаторых груп керамікі са Старых Юрковіч-1 у параўнанні з Азярным-1 (Кривальцевич, 1994. С. 126—127).

Асноўныя прыкметы посуду паселішч прыпяцкага варыянта супадаюць галоўным чынам з традыцыямі керамічнай вытворчасці Падняпроўя (Кривальцевич, 1994. С. 127—129). Разам з тым назіраецца цэлы шэраг асаблівасцей керамікі, што праяўляецца ў рэдкім выкарыстанні пракрэсленых ліній і арнаментацыйных зон з заштрыхаваных трохкутнікаў, якія сутыкаюцца бакамі, большай разнастайнасці арнаментацыйных матываў з выкарыстаннем адбіткаў шнура, большым значэннем лінейных штампаў у арнаментацыі і апрацоўцы паверхні многіх пасудзін пучком травы, перавагаю посуду з шамотнымі дамешкамі ў гліняным цесце.

Асноўныя катэгорыі крамянёвых вырабаў ідэнтыфікуюцца перш за ўсё з такімі ж знаходкамі Падняпроўя, Валыні, Заходняга Палесся. Вылучаюцца шліфаваныя сякеры-кліны, чаранковыя і лістападобныя наканечнікі дроцікаў,

серпападобныя, камбінаваныя пласціначныя нажы з шырокіх адшчэпаў, пласцін з вуглавым, сярэдзінным завастрэннем, апрацаваных струменістай, пільчатай рэтушшу, шліфаваныя долаты прамавугольнага, авальнага сячэння, трохкутныя наканечнікі стрэл і г. д. Верагодна, недахоп крамянёвай сыравіны, асабліва крэменю высокай якасці вымушаў насельнікаў цэнтральнапалескіх тэрыторый шукаць шляхі атрымання яго ад суседзяў, хутчэй за ўсё ■ Заходняга Палесся, Валыні. Найбольш актыўна такія сувязі здзяйсняліся насельніцтвам ніжняга Пагарыння, сярэдняй Прыпяці. Накіраванасці такіх сувязей садзейнічалі спецыялізацыя многіх валынскіх паселішчаў на вытворчасць вырабаў для абмену (С в е ш н і к о в, 1974; Б е р е з а н с ь к а, Л я ш к о, 1989), арыентаванасць рачных шляхоў, традыцыйнасць накірунку абмену.

Згодна ■ аналізам найперш выпадковых знаходак, вылучаны клінападобныя, рамбічныя ўсечаныя, молатападобныя, доўга-, сярэдне-, кароткаабушковыя, утулкавыя, рамбічныя двухбаковавострыя молатападобныя каменныя свідраваныя сякеры. Вырабы трох першых тыпаў самыя распаўсюджаныя. Магчыма, пад уплывам заходніх і паўднёвых суседзяў на ўсходзе Прыпяцкага Палесся шырока выкарыстоўваліся каменныя клінападобныя свідраваныя сякеры, бо на падняпроўскіх помніках яны сустракаюцца значна радзей.

Знойдзены патоўшчаныя пасярэдзіне, патоўшчаны бліжэй да ляза (па класіфікацыі Р. К. Рымантэне) (Lietuvos TSR Archeologijos Atlasas, 1974) і патоўшчаныя бліжэй да абуха каменныя сякеры-кліны Магчыма, выраблялiся таксама авальныя, рабрыстыя каменныя свідраваныя матыкі, якія звужаліся ў верхняй частцы. Акрамя таго, пры раскопках траплялiся рэшткі шырокіх ці падпрамавугольных каменных шліфавальных плітак, каменных адбойнікаў, шліфаваных цёслаў.

Дапускаецца, што познанеалітычныя помнікі маглі суіснаваць нейкі час з помнікамі сярэднедняпроўскай культуры Перад узнікненнем пасёлка ранняй бронзы на месцы Азярнога-1 жылі прадстаўнікі мясцовага неалітычнага насельніцтва, сярод рэшткаў посуду якога вылучаюцца абломкі сасудаў з адбіткамі грубага шнура, вузельчыкаў, штампаў, якія нагадваюць «вусенькі». У Азярным-1 адзначаецца перакрыццё адной з ям, у запаўненні якой знойдзены рэшткі неалітычнага гаршка ■ грубымі шнуравымі адбіткамі, пластом са шнуравой керамікай ранняй бронзы. Шнуравыя арнаменты маглі з'явіцца ў мясцовага неалітычнага насельніцтва пад уплывам шнуравікоў сярэднедняпроўскай культуры (К р и в а л ь ц е в и ч, 1991).

Разам з тым такое ўздзеянне не было аднабаковым. Кераміка сярэднедняпроўскай культуры з Азярнога-1 мае шэраг прыкмет (рабрыстасць некаторых гаршкоў, завужанасць дна, раздутасць тулава, вялікія памеры некаторых тыпаў посуду, асаблівасці арнаментацыі, зашчыпы па венцу, аздабленне арнаментам усёй паверхні пасудзін і г. д.), якія маглі з'явіцца на познім этапе ў выніку ўспрыняцця мясцовых неалітычных традыцый.

У сярэднедняпроўскай культуры заўважаюцца пэўныя адрозненні паміж пахавальнай і пасяленцкай керамікай. На паселішчах пераважае кухонны (паводле І. І. Арцёменкі) ці пляскатадонны (паводле М. М. Бондара) посуд. Напрыклад, калі ў пахаваннях амаль няма посуду з «каўнерыкамі», то такая кераміка знойдзена на верхнедняпроўскіх паселішчах Ксяндзова Гара, Завалле (А р т е м е н к о, 1962. С. 64—73), Лоша. У адрозненне ад прыдняпроўскай керамікі на помніках прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры рабіўся посуд, які вылучаўся параўнальна рэдкім выкарыстаннем

пракрэсленых ліній і арнаментацыйных зон з заштрыхаваных трохкутнікаў. Часам трохкутныя кампазіцыі выконваліся адбіткамі вусеневых і шнуравых арнаментаў. Палеская кераміка мае вялікую разнастайнасць матываў з выкарыстаннем адбіткаў шнура. У аздабленні дамінуе лінейны штамп. Посуд найчасцей рабіўся з дамешкамі шамоту, штрыхаваўся звонку і знутры.

Узніклыя асаблівасці помнікаў прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры — вынік цеснай сувязі з заходнімі і паўднёва-заходнімі суседзямі, найперш насельніцтвам, якое пакінула помнікі тыпу Здоўбіца, стжыжоўскай культуры (эпішнуравы прыкарпацкі культурны круг) паводле Я. Махніка (Machnik, 1978. S. 47, 48), паселішчы заходнепалескай шнуравой керамікі. Меркаванне пацвярджаецца тым, што на захадзе Валыні, а таксама ў Заходнім Палессі ў ранні перыяд бронзавага веку рабілася кераміка, якая атаясамліваецца па некаторых прыкметах з усходнепалескай: шамотныя дамешкі ў гліне, штрыхаванне паверхні пасудзін пучком травы, разнастайнасць шнуравых арнаментаў, у тым ліку нанясенне іх пад унутраным краем венца, наданне вялікага значэння лінейным штампам і інш. Заўважаецца даволі моцнае ўздзеянне мясцовай неалітычнай культуры.

Варта адзначыць некаторыя лакальныя асаблівасці ўсходнепалескіх помнікаў ранняй бронзы. У нізоўях Гарыні, у прыватнасці на матэрыяле Бухліцкага Хутара-1, аналогій са стжыжоўскай культурай заўважаецца значна больш (Крывальцэвіч, 1994б. С. 116—123). Вынікі вывучэння керамікі Азярнога-1 дазваляюць прасачыць пэўныя элементы тоеснасці з адначасовымі культурнымі традыцыямі Заходняга Палесся, Панямоння і ў нейкай ступені нават Паўночнай Беларусі.

Апошнім часам звяртаецца ўвага на прысутнасць у матэрыяле сярэднедняпроўскіх помнікаў некаторых рыс культуры шарападобных амфар (Kryvaltsevich, 1996. S. 98—102; Serdykowa, 1996. S. 133—155). Не выключана таксама далучанасць насельніцтва культуры шарападобных амфар да працэсу развіцця помнікаў прыпяцкага варыянта. У прыватнасці, у некаторых керамічных комплексах Усходняга Палесся заўважаюцца арнаментальныя матывы накшталт радоў вертыкальных адбіткаў лінейнага штампа ў спалучэнні з зігзагамі.

Такім чынам, помнікі ўсходніх раёнаў Прыпяцкага Палесся, якія ўваходзілі ў арэал сярэднедняпроўскай культуры, верагодна, фарміраваліся ў абставінах устойлівых сувязяў з насельніцтвам Валыні, Заходняга Палесся. Вялікае значэнне ў іх лесе належыць мясцовым неалітычным традыцыям. Заўважаюцца прыкметы культуры шарападобных амфар.

Некаторыя марфалагічныя тыпы і арнаменты керамікі помнікаў прыпяцкага варыянта сінхранізуюцца з адпаведнымі старажытнасцямі стжыжоўскай культуры, якая, паводле І. К. Свешнікава, датуецца 1800—1600 гг. да н. э. (Свешников, 1990а. С. 72). На этапе III Б(2100/2000—1800/1700 гг. да н. э.) усходнепалескага позняга неаліту адбывалася, на думку У. Ф. Ісаенкі, пранікненне шнуравікоў у Прыпяцкае Палессе Беларусі, што адзначаецца па змяненню форм і арнаментацыі неалітычнага посуду (Исаенко, 1976а. С. 115; 1978. С. 42). Паводле І. І. Арцёменкі, з'яўленне на Прыпяці насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры адбывалася на сярэднім этапе развіцця культуры (2300—1700 гг. да н. э.) (Артеменко, 1987. С. 38, 41). Такім чынам, папярэдне старажытнасці прыпяцкага варыянта могуць датавацца ў межах канца 3 — першай паловы 2-га тысячагоддзя да н. э.

## 2. КУЛЬТУРА ПАЛЕСКАЙ ШНУРАВОЙ КЕРАМІКІ

Ужо на пачатку 60-х гадоў Ю. У. Кухарэнка адзначаў, што палескія помнікі са шнуравой керамікай спалучаюць у сабе элементы вісла-нёманскай групы культур шнуравой керамікі і сярэднедняпроўскай, звяртаючы ўвагу пры гэтым на тое, што яны маюць пэўныя асаблівасці і, магчыма, складаюць асобную групу сярод помнікаў культур шнуравой керамікі (Кухаренко, 1962 С. 13). Пазней, пасля вылучэння І. К. Свешнікавым гарадоцка-здолбіцкай і помнікаў стжыжоўскай культур на Валыні, Ю. У. Кухарэнка, параўноўваючы матэрыял, знаходзіў пэўную тоеснасць паміж старажытнасцямі басейна Верхняй Прыпяці, уключаючы Ясельду, і стжыжоўскай культурай (Кухаренко, 1968. С. 38).

С. С. Беразанская, аналізуючы матэрыялы культур шнуравой керамікі Украіны і Беларусі, таксама дапускала магчымасць існавання археалагічнай культуры шнуравой керамікі, якая лакалізавалася ў басейне Прыпяці, маючы на ўвазе пры гэтым своеасаблівасці ў параўнанні як з сярэднедняпроўскай, так і з гарадоцка-здолбіцкай, стжыжоўскай культурамі (Березанская, 1971. С. 40).

У адрозненне ад усходнепалескіх старажытнасцей ранняй бронзы, дзе, як устанаўліваецца, распаўсюджвалася сярэднедняпроўская культура (Артеменко, 1967), на захадзе Беларускага Палесся знойдзены адмысловыя помнікі са шнуравой керамікай. Для вызначэння іх У. Ф. Ісаенкам ужываўся тэрмін «палеская група» (Очерки по археологии Белоруссии, 1970. С. 123; Исаенко, 1976. С. 16), а пазней «палеская культура шнуравой керамікі» (Белорусская археология, 1987. С. 25—26). Апошняя, на яго думку, адрозніваецца ад сярэднедняпроўскай і зблiжаецца са стжыжоўскай культурай (Белорусская археология, 1987. С. 25—26).

У Ф Ісаенкам былі зроблены першыя захады па апісанню і абагульненню старажытнасцей палескай культуры шнуравой керамікі (Очерки по археологии Белоруссии, 1970 С 123—125. Исаенко, 1976б. С. 16—17).

Культура характарызуецца галоўным чынам на матэрыялах павярховых збораў і раскопак шматслойных розначасовых паселішчаў (Уладычыца, Заказанка, Горбаў, Церабень, Востраў, Перасудавічы, Камень-2, 6, 8 (раскопкі У. Ф. Ісаенкі), Курадава, Лемяшэвічы (раскопкі В. С. Вяргей), Грыўковічы-1, 2 (раскопкі А. В. Іова, М. М. Крывальцэвіча), групы стаянак каля Моталя—Тышкавіч (раскопкі А. Г. Калечыц).

Паселішчы размяшчаліся на пойменных пясчаных узвышшах, на ўчастках першай надпоймавай тэрасы, звычайна на месцах былых неалітычных пасёлкаў. У Ф. Ісаенкам адзначаецца, што каля в. Перасудавічы (Бярозаўскі раён Брэсцкай вобласці) на паўднёвым беразе возера Белага адшуканы разбураныя паўзямлянкавыя жытлы, якія мелі хутчэй за ўсё авальную форму памерамі каля 2,5 x 5 м і паглыбляліся на 0,3—0,4 м у мацярык. Унутры аднаго з жытлаў знойдзены рэшткі адкрытых агнішчаў (Очерки по археологии Белоруссии, 1970. 124). Не выключаецца існаванне палевых паселішчаў. Культурныя рэшткі нёманскай неалітычнай культуры і ранняга перыяду бронзы адшуканы У. Ф. Ісаенкам на паселішчы Камень-8 (Пінскі раён Брэсцкай вобласці) значна ніжэй сучаснага ўзроўню вады ў возеры Пагосцкае і р. Бобрык. Магчыма, да гэтай культуры належыць пахаванне хлопчыка, знойдзенае падчас раскопак паселішча Камень-2 (Пінскі раён Брэсцкай

вобласці). Пахаваны быў пакладзены ў яму на баку ў скурчаным стане і засыпаны вохраю (Белорусская археология, 1987. С. 26).

Сярод вызначанага керамічнага посуду (мал. 110) вылучаецца некалькі найбольш характэрных форм: пасудзіны з параўнальна высокімі ці кароткімі прамымі, крыху адагнутымі вонкі гарлавінамі; гаршкі з эсападобным профілем верхняй часткі; кераміка з «каўнерыкамі» на шыйках; амфары з невысокай шыйкай і вушкамі на найбольш пашыранай частцы корпуса ці на плечуках (мал. 109). Тулавы сасудаў выпуклыя, сходзяцца на пляскатае нешырокае дно (дыяметр каля 8—11 см). Але сустракаецца даволі шмат посуду з шырокімі днамі і слаба прафіляванымі сценкамі. Акрамя «вушак» заўважаюцца налепы ў выглядзе «шышачак» (Очерки по археологии Белоруссии, 1970. С. 124), а таксама валікападобных выступаў, якія аздабляліся прамавугольнымі ўціскannямі.

Асноўны арнаментальны элемент — адбіткі шнура. Шнуравы арнамент наносіўся пераважна на верхнюю частку пасудзін у выглядзе гарызантальных адзінарных, падвоеных радоў, шматрадоўя, нахіленымі, хвалістымі, трохкутнымі, дугападобнымі ўзорамі, кароткімі вертыкальнымі, нахіленымі адбіткамі. Сустракаецца мноства варыянтаў шнуравога арнаменту, а таксама адбіткаў шнура з наколамі, лінейнымі прамакутнымі штампамі. Даволі часта посуд аздабляўся лінейнымі прамавугольнымі адбіткамі, якія наносіліся на паверхню вертыкальна, нахілена, «елачкаю»», зігзагамі і г. д. Гэтым арнаментам упрыгожваліся звычайна тулавы пасудзін, зрэдку іх верхняя частка і дны. Радзей заўважаюцца «вусеневыя» адбіткі, наколы, насечкі. Часам імі аздабляліся дны На некаторых венцах прасочваюцца пальцавыя зашчыпы, наколы па тарцу, пальцавыя ўціскanні пад унутраным краем. Паверхня пасудзін загладжвалася травою. Часам такая штрыхоўка наносілася ніжэй шыйкі і арнаментаванай зоны. Сляды штрыхоўкі прасочваюцца знутры гаршкоў. У керамічную масу замешваліся дробная жарства, шамот, пясок.

Як мяркуе У. Ф Ісаенка, палескія насельнікі гэтага часу карысталіся амаль усімі тымі ж тыпамі крамянёвых прылад, якія былі выпрацаваны яшчэ ў неаліце. Шырокае прымяненне знаходзяць шліфаваныя крамянёвыя сякеры-кліны. Актыўна ўжываюцца серпападобныя нажы на шырокіх доўгіх пласцінах, якія апрацоўваліся струменістай рэтушшу, чаранковыя і трохкутныя наканечнікі стрэл з двухбаковай рэтушшу. Вядомы паасобныя выпадковыя знаходкі чаранковых лістападобных наканечнікаў дроцікаў з двухбаковай апрацоўкаю (Лемяшэвічы, Маларыта), чатырохгранныя шліфаваныя долаты (Мяфёдавічы), крамянёвыя сярпы. У ліку апошніх — вырабы валынскага тыпу з шырокімі пяткамі (Вотчын, Лемяшэвічы).

Сярод выпадкова знойдзеных каменных прылад колькасна пераважаюць свідраваныя сякеры, сякеры-кліны (мал. 110). Ю. У Кухарэнка адзначаў, што ў палескіх раёнах найбольшага распаўсюджання дасягнулі клінападобныя і ромбападобныя каменныя свідраваныя сякеры (Кухаренко, 1962 С. 13). Некаторым з іх на заходнепалескіх паселішчах спадарожнічае шнуравая кераміка (Камень-2, Церабень-1). Сустракаюцца каменныя сякеры-кліны двух тыпаў: патоўшчаныя пасярэдзіне, патоўшчаныя бліжэй да ляза з авальным і чатырохкутным сячэннем (паводле класіфікацыі Р. К. Рымантэне). Да мясцовых тыпаў каменных прылад, на думку У. Ф. Ісаенкі, належаць свідраваныя матыкі.

Акрамя паасобных выпадковых знаходак касцяных вырабаў цэлая серыя іх вядома з раскопак Каменя-2, 8, Грыўковіч-1. Магчыма, у ранні перыяд

бронзы выкарыстоўваліся некаторыя тыпы касцяных сякер, цёслаў, наканечнікаў дроцікаў, стрэл і інш. Касцяная грушападобная падвеска з прасвідраванай адтулінай (1,5x1 см, таўшчыня 0,5 см) знойдзена ў культурных слаях Грыўковіч-1.

Не выключана, што частка інвентару, у прыватнасці крамянёвага, трапляла ў Беларускае Палессе ў выніку абмену з суседнімі тэрыторыямі, перш за ўсё з Валынню, дзе ў гэты час існавалі паселішчы (майстэрні) са спецыялізацыяй на вытворчасць некаторых тыпаў крамянёвых вырабаў (С в е ш н і к о в, 1974; Б е р е з а н с ь к а, Л я ш к о, 1989). Гэта ў нейкай ступені пацвярджаецца тыпалагічнымі характарыстыкамі некаторых катэгорый інвентару і разнавіднасцю крэменю, з якога яны зроблены.

Забеспячэнне металам насельніцтва Прыпяцкага Палесся магло адбывацца ў ранні перыяд бронзы з паўднёва-заходніх металургічных цэнтраў. Менавіта, карпата-трансільванскаму металургічнаму цэнтру належыць вядучая роля ў металаапрацоўцы правабярэжных плямён Украіны (Р ы н д и н а, 1980. С. 37—41).

Эканоміка насельніцтва культуры палескай шнуравой керамікі, паводле У. Ф. Ісаенкі, грунтавалася на вытворчай гаспадарцы. На астэалагічных матэрыялах Каменя-2, 8 устанаўліваецца, што жыхары паселішчаў культуры палескай шнуравой керамікі разводзілі быкоў, свіней, коней, сабак (И с а е н к о, 1969. С. 27—36, 1978. С. 5—16; Щ е г л о в а, 1972). Жыхары заходнепалескіх паселішчаў маглі з поспехам засяваць пойменныя алювіяльныя і балотныя глебы, зручныя для апрацоўкі прасцейшымі земляробчымі прыладамі, а таксама сеяць на вызваленых ад лесу дзялянках з выкарыстаннем падсечна-агнявой сістэмы (И с а е н к о, 1969. С. 27—36; 1978. С. 6—16).

Назіраецца блізкасць заходнепалескіх помнікаў Беларусі са старажытнасцямі стжыжоўскай культуры (Ю. У. Кухарэнка, У. Ф. Ісаенка). Яна адлюстроўваецца перш за ўсё ў керамічнай вытворчасці (багатая шнуравая арнаментацыя, штрыхоўка посуду, шамотныя дамешкі ў гліняным цесце, некаторае марфалагічнае падабенства і г. д.), а таксама ў вытворчасці крамянёвых і каменных вырабаў. Найбольшая канцэнтрацыя стжыжоўскіх старажытнасцей украінскімі і польскімі даследчыкамі выяўлена ў вярхоўях Стыры, Гарыні, на Пабужжы. М. М. Крывальцэвічам адзначаецца вялікае падабенства са стжыжоўскай культурай помнікаў міжрэчча верхняй Прыпяці і нізоўяў Гарыні (Востраў, Церабень, Бухліцкі Хутар-1) (К р ы в а л ь ц э в і ч, 1994б. С. 121). Варта таксама заўважыць прысутнасць некаторых стжыжоўскіх рыс на ўсходзе Прыпяцкага Палесся (К р и в а л ь ц е в и ч, 1991).

Ёсць сэнс акрэсліць даволі абшырную зону Прыпяцкага Палесся, у якой мелі месца прыкметы як сярэднедняпроўскай, так і культуры палескай шнуравой керамікі. Напрыклад, тыповы для сярэднедняпроўскай культуры танкасценны посуд з пракрэсленымі трохкутнікамі, якія сутыкаюцца бакамі, знойдзены на паселішчах Моталь-11 (басейн Ясельды), Грыўковічы-1 (р. Стыр). У сваю чаргу У. Ф. Ісаенкам заўважаюцца некаторыя рысы культуры палескай шнуравой керамікі на матэрыяле Загорын пад Мазыром (И с а е н к о, 1976б С. 17).

З улікам найбольш відавочных тоесных прыкмет заходнепалескіх помнікаў Беларусі і стжыжоўскай культуры культура палескай шнуравой керамікі можа папярэдне датавацца ў межах другой чвэрці 2-га тысячагоддзя да н. э. Магчыма, што храналагічныя рамкі культуры будуць пашыраны ў бок яе большай старажытнасці.

Паходжанне помнікаў з палескай шнуравой керамікай застаецца пакуль не высветленым. Адзначаецца, што нёманская неалітычная культура яшчэ пэўны час пасля з'яўлення на захадзе Беларусі шнуравікоў захоўвала самабытнасць (Исаенко, 1983. С. 73; Чернявский, 1978. С. 42—46). Магчымае суіснаванне на нейкім этапе неалітычнага насельніцтва і шнуравікоў, папярэдні ўплыў на гэтых тэрыторыях помнікаў лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар, а таксама актыўныя сувязі з паўднёвымі і ўсходнімі суседзямі хутчэй за ўсё прывялі да фарміравання адмысловай культуры са шнуравой керамікай на захадзе Палесся.

## 3. ПОМНІКІ СА ШНУРАВОЙ КЕРАМІКАЙ ПАНЯМОННЯ

Да нядаўняга часу бронзавы век Панямоння, уключаючы і басейн Віліі, мэтанакіравана даследаваўся мала. У XIX ст., ды і ў першай палове XX ст., асноўная ўвага ўдзялялася збору каменных шліфаваных прылад працы, што знаходзіла адлюстраванне ў археалагічных картах і ў некаторых іншых публікацыях (Покровский, 1893, 1895; Szukiewicz, 1904; Antoniewicz, 1930; Побол ь, 1979. С. 16—55). Сярод пад'ёмнага матэрыялу сустракаліся і нешматлікія фрагменты керамікі бронзавага веку, што дало магчымасць У. Антаневічу (Antoniewicz, 1930) гаварыць аб моцнай этнічнай хвалі з захаду са шнуравой керамікай і баявымі сякерамі. Неабходна адзначыць і распачатыя ў 20-х гадах З. Шмітам даследаванні, хоць і абмежаваныя па маштабах, Краснасельскіх шахтаў, частка якіх датуецца раннебронзавым часам.

Калі з 1960 г. на Панямонні пачалі праводзіцца даволі рэгулярныя раскопкі неалітычных паселішчаў, выявілася, што амаль на кожным з іх сустракаюцца матэрыялы бронзавага веку — асабліва кераміка са шнуравым арнаментам. Траплялася і пахаванні. Працягвалася і фіксацыя выпадковых знаходак каменных шліфаваных вырабаў. Пэўным вынікам сталі артыкул У. Ф. Ісаенкі і М. М. Чарняўскага (1967а) і археалагічная карта У. Ф. Ісаенкі (1976б), публікацыя М. М. Чарняўскага і В. Л. Лакізы (1996г) па каменных свідраваных сякерах са школьных музеяў.

Насельніцтва заключнага, дабраборскага, этапу нёманскай неалітычнай культуры стала сведкам важнай у этнакультурнай гісторыі рэгіёна з'явы — пранікнення на Панямонне, як і на ўсю тэрыторыю Беларусі, плямёнаў культуры шнуравой керамікі. У час эпагею сваёй экспансіі шнуравікі, якія распаўсюджваліся па шырокіх прасторах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і змешваліся з аўтахтонамі, утваралі шэраг роднасных культур. Аднак іх першапачатковае з'яўленне на паўночным захадзе Беларусі адбылося ў даволі ранні час развіцця культуры, калі яна яшчэ была адносна цэласнай і ўтварала, на думку некаторых даследчыкаў, «агульнаеўрапейскі гарызонт».

Для найбольш ранніх матэрыялаў культуры шнуравой керамікі ў Цэнтральнай Еўропе найбольш характэрныя свідраваныя лодкападобныя сякеры і два тыпы глінянага посуду — пласкадонныя гаршкі з плаўна выдзеленай шыйкай і адагнутым венцам, арнаментаваным гарызантальнымі паскамі шнуравых адбіткаў або ялінак з кароткіх нарэзак, а таксама амфары з акруглым корпусам і вушкамі на яго найбольшай выпукліне (Machnik, 1979. S. 339—342). Тыповыя для ранніх шнуравікоў сякеры, хоць і ў невялікай колькасці, сустракаюцца на паўночным захадзе Беларусі (мал. 111: 1, 2). Амфары ж, якія б звязваліся са шнуравікамі, амаль невядомыя. Магчыма,

фрагментамі іх з'яўляюцца абломкі венцаў з валікамі, аздобленымі пальцавымі зашчыпамі са стаянак Скема-1 на Нарачы (мал. 111 : 7) і з-пад Шылавіч на Шчары. Пласкадонная ж кераміка са шнуравымі і наразнымі ўзорамі вядомая на шэрагу раннебронзавых помнікаў як уласна Нёмана, так і Віліі. Аднак раннебронзавы посуд тут ужо выяўляе шэраг рэгіянальных асаблівасцей, што дазваляе весці гаворку пра існаванне на Панямонні асобнай культурнай з'явы ў межах, зразумела, шырокай зоны культур са шнуравой керамікай.

Найбольш тыповы для раннебронзавай культуры Панямоння посуд — невялікія пласкадонныя гаршкі з плаўна выяўленай шыйкай і высокім разгорнутым венцам, край якога злёгку прыгнуты ў сярэдзіну. Адначасова сустракаюцца і венцы плаўна адагнутыя без прыгнутасці краю. Некаторыя чарапкі, магчыма, паходзяць ад місак. Як паказвае матэрыял, мясцоваму насельніцтву былі вядомы і гаршкі вялікіх памераў з дыяметрам брушка каля 50 см і адпаведна тоўстымі сценкамі. Сценкі посуду шчыльныя і добра абпаленыя, у іх прыкметныя дамешкі пяску, шамоту і ўмерана звычайна даволі дробнай жарствы. У рэдкіх выпадках дамешкай быў тоўчаны вапняк. Паверхні найчасцей маюць заштрыхоўку, асабліва выразную з сярэдзіны. Сустракаецца, аднак, кераміка і гладкая, асабліва на знешніх паверхнях.

Кераміка ранняга этапу бронзавага веку Панямоння арнаментавалася пераважна адбіткамі шнура, лінейным штампам, насечкамі, нарэзкамі. Пры гэтым узор канцэнтраваўся пераважна ў верхняй частцы пасудзін. Часам аздабляўся і зрэз венца.

Шнуравыя адбіткі гарызантальна апярэзвалі венца і шыйку, зрэдку апускаючыся на плечыкі. Найчасцей было некалькі адбіткаў, разрэджаных або частых, у некаторых выпадках здвоеных. Назіралася тэндэнцыя арнаментальную зону знізу падкрэсліваць зігзагам або хвалістай аблямоўкай са шнура, паскам вертыкальных элементаў перавітага шнура, насечкамі. На матэрыялах са Скемы шнур на венцу дапаўняўся знізу шырокімі насечкавымі зонамі. Часам самі гарызантальныя адбіткі шнура перарываліся іншымі кампазіцыямі, найчасцей зігзагам або хваляй У адзінкавых выпадках шнур на пасудзіне размяшчаўся коса або у іншых напрамках.

Другія арнаментальныя элементы таксама на посудзе размяшчаліся пераважна гарызантальнымі паясамі.

Пэўныя матэрыялы культуры шнуравой керамікі атрыманы і з закрытых комплексаў — з пахаванняў.

У 1962 г. у час кар'ернай распрацоўкі крэйды каля пасёлка Краснасельскі ў засыпанай крамянёвай шахце быў знойдзены касцяк чалавека з пахавальным інвентаром (Ч а р н я ў с к і, 1963). Шахта была разбурана экскаватарам, таму размяшчэнне касцяку і рэчаў можна ўявіць толькі са слоў рабочых — сведкаў.

Пахаванне было зроблена ў мехападобным пашырэнні дна шахтавага калодзежа на глыбіні прыкладна 3—5 м. Касцяк ляжаў паўсагнуты на правым баку, галавой на поўдзень. Каля нябожчыка знаходзілася касцяная іголка, каля ног з заходняга боку стаяў гаршчок.

Гаршчок шэрага колеру, унізе крыху закураны, мае плоскае дно, закруглены корпус, які пераходзіць у плаўна звужаную шыйку, вышэй якой адагнута венца (мал. 111 : 6; 113 : 1). Пад краем венца пасудзіна аздоблена гарызантальным поясам наразной ялінкі. Вышыня гаршка 11 см, дыяметр дна 6 см. Паверхні ўвогуле гладкія, толькі месцамі прыкметная лёгкая

падштрыхоўка загладжвання. У цесце сценак невялікія дамешкі буйназярністага пяску. Іголка была тоўстая, выробленая са сценкі трубчатай косткі, мела даўжыню 13,2 см. Вушка знаходзілася на вастрыі, што, магчыма, сведчыць аб яе выкарыстанні для сшывання тоўстых скур (мал. 113:2).

Бліжэйшыя аналогіі пасудзіны з Краснасельскага пахавання сустракаюцца на помніках са шнуравой керамікай Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі (М о о р а, 1952. С. 7; Я н и т с, 1952. С. 55; Л о з е, 1979. С. 96).

У культурным пласце стаянкі Русакова-2 Слонімскага раёна выяўлены рэшткі яшчэ аднаго пахавання. Яма слаба прасочваецца ў гумусаваных напластаваннях, да таго ж здаецца, што яно магло быць зроблена па абраду крэмацыі. Пасудзіна з пахавання таксама была невялікая, вышынёй 14 см і дыяметрам па венцу 13,5 см. Шчыльныя шэра-карычневыя сценкі без жарсцвянай дамешкі маюць на паверхні некалькі размытыя сляды загладжвання. Ад краю венца і да плечыкаў гаршчок быў арнаментаваны поясам спалучаных наразных трохкутнікаў, абмежаваных пад самым краем і знізу гарызантальнымі адбіткамі шнура (мал. 111:5).

Памерамі і выразным эсападобным профілем гаршчок з Русакова падобны на знаходку з шахтавага пахавання пад Краснасельскім, але арнамент іншы, значна ускладнены. Гэтым ён набліжаецца да некаторых керамічных формаў з Паўночна-Усходняй Польшчы і Заходняй Літвы (M a c h n i k, 1979. S. 365, 370, R i m a n t i e n ė, 1980. P. 53—56). Пры гэтым узоры са спалучаных наразных трохкутнікаў больш характэрныя для старажытнасцей сярэднедняпроўскай культуры (А р т е м е н к о, 1967а. С. 13—28).

Разам з гаршком у пахаванні знаходзілася акруглаабушная каменная сякера з прасвідраванай адтулінай.

У 1995 г. у нізоўях той жа Шчары, на шматслойнай стаянцы каля в. Пархуты Дзятлаўскага раёна таксама знойдзена пахаванне, якое ўдалося дакладна зафіксаваць (Л а к і з а, 1997). Комплекс знаходзіўся ў акруглай яме глыбінёй 1,62 м, якая каля дна набывала падпрамавугольную форму памерам каля 0,5 х 1,3 м. Як мяркуе даследчык В. Лакіза, нябожчык знаходзіўся ў скурчаным стане. Магільным інвентаром былі гаршчок, сякера і крамянёвая пласціна. Гаршчок эсападобнага профілю, пласкадонны, шэра-карычневага светлага колеру, з амаль гладкімі знешнімі паверхнямі сценак, у якія дамешваліся пясок і дробныя вуглістыя элементы. Арнамент адсутнічае. Вышыня вырабу да 13 см, дыяметр па венцу да 14 см (мал. 111 : 3). Як бачна, пасудзіна з Пархутоў знаходзіцца прыкладна ў параметрах падобных знаходак з Панямоння. У адрозненне ад русакоўскага экземпляра яна мае толькі крыху вышэйшае і больш разгорнутае венца.

Сякера з пахавання мае падрамбічную форму з абсечаным абушком, вялікая свідравіна змешчана па цэнтру вырабу (мал. 111 : 4). Пласціна, якая ляжала паміж гаршком і сякерай, была зроблена са светла-шэрага крэменю.

Пахаванне з Пархутоў датуецца канцом 3 — пачаткам 2-га тысячагоддзя да н. э. і звязваецца з культурай шнуравой керамікі (Л а к і з а, 1997. С. 59).

Цікавы комплекс касцяных вырабаў атрыманы з разбуранага пахавання каля Куранца Вілейскага раёна ў правабярэжжы Віліі (Ч е р н я в с к и й, 1969б). Пахаванне было зроблена ў жвіровых адкладах па абраду інгумацыі, але пры сценцы кар'ера ўдалося падабраць толькі фрагмент чарапной крышкі і шэсць касцяных прылад. Сярод усіх вырабаў пяць уяўляюць сабой долаты (мал. 112 : 1—3, 5, 6). Усе яны зроблены са сценак расшчэпленых уздоўж трубчатых костак, маюць светла-шэры колер і добра захавалюя. Паверхні

добра загладжаны, а часам нават запаліраваныя сячэнні іх у большасці акруглыя або авальныя. Найбольш дасканалае долата чатырохкутнага сячэння з паралельнымі гранямі (мал. 112 : 2). Долаты выкарыстоўваліся без дапамогі муфты, удары наносіліся непасрэдна па пятцы. Але сляды спрацаванасці пятак сведчаць, што малаткі не былі каменнымі. Не зусім зразумелы характар выкарыстання шостай вузкалязовай знаходкі з выгнутай косткі (мал. 112:4).

Некалькі падобныя касцяныя долаты сустракаюцца на помніках культуры шарападобных амфар, аднак яны больш вядомыя сярод матэрыялаў са шнуравой керамікай (Крайнов, 1972 (мал. 32); Machnik, 1966 (табл. XXXVIII)).

Большасць жа сваіх прылад працы і зброі носьбіты культуры шнуравой керамікі выраблялі з каменя і крэменю. Калі меркаваць па матэрыялах са стаянак, дзе адносна шмат шнуравой керамікі, а таксама з больш даследаваных помнікаў Прыбалтыкі, панямонскае насельніцтва ў ранняю эпоху бронзавага веку шырока ўжывала каменныя шліфаваныя сякеры з прасвідраванымі адтулінамі. Сярод іх розных формаў, дзе былі і лодкападобныя, аднак пераважалі ромбападобныя экземпляры са сплюшчанымі абушкамі. Яшчэ больш распаўсюджанымі былі крамянёвыя сякеры лінзападобнага сячэння з прывужанымі абушкамі, з зашліфаванымі плаўна выступаючымі лёзамі і невялікай прышліфоўкай бакавін. З драбнейшых крамянёвых вырабаў таксама характэрны трохкутныя з выемістымі асновамі наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі коп'яў, рэтушаваныя толькі са спінкі, серпападобныя нажы, пласціны з пераважна стромкай рэтушшу па перыметры.

На большасці помнікаў пазнейшых этапаў нёманскай неалітычнай культуры, дзе праводзіліся раскопкі, сустракаюцца матэрыялы культуры шнуравой керамікі — стаянкі каля Кутца, Русаковіч, Кругліцы Стаўбцоўскага, Ярэміч Карэліцкага, Старых Войкавіч, Добрага Бора, Падгорнай Баранавіцкага, Русакова Слонімскага, Пархуты Дзятлаўскага раёнаў і інш. Матэрыялы гэтыя нешматлікія. Выглядае, што ў час свайго знаходжання на Панямонні шнуравікі не былі колькасна дамінуючым элементам. Аднак іх узаемадзеянні з познанеалітычнымі мясцовымі абарыгенамі, відаць, уяўлялі складаную палітыка-культурную сістэму. Адным з вынікаў гэтага стала з'яўленне гібрыдных комплексаў. На частцы позняй добраборскай неалітычнай керамікі заўважаецца тонкая выразная штрыхоўка, распаўсюджваецца танкасценны моцна абпалены посуд, звычайныя для панямонцаў узоры на посудзе зрэдку дапаўняюцца шнуравымі адбіткамі. І наадварот, некаторыя гаршкі тыпова шнуравога аздаблення і тэхналогіі атрымліваюць характэрны для мясцовага позняга неаліту выгін венца і шэраг глыбокіх круглых ямак пад яго краем.

Находныя шнуравікі на Панямонні пасяляліся на ўжо здаўна абжытых мясцовым насельніцтвам мясцінах пры ўзбярэжжы багатых рыбай і чыстай пітной вадой вадаёмаў. Пры раскопках стаянкі Добры Бор-1 выяўлены паўзямлянкі прамавугольнай формы памерамі каля 3—3,5 х 2,5—3 м. Магчыма, гэта і былі іх жытлы. Вядома, што носьбіты культур шнуравой керамікі практыкавалі ўсе формы тагачаснай вытворчай гаспадаркі, займаліся яны таксама паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам. Жыхары ўзбярэжжа Росі на Ваўкавышчыне, акрамя ўсяго, здабывалі і крэмень шахтавым спосабам (мал. 114). Пра гэта сведчаць як знаходка краснасельскага пахавання, так і шнуравая кераміка і характэрныя крамянёвыя сякеры лінзападобнага сячэння, што сустракаюцца на тэрыторыі шахт і на бліжэйшых стаянках.

Аднязначна сёння вызначыць культурную прыналежнасць помнікаў са шнуравой керамікай Паўночна-Заходняй Беларусі цяжка. Тут адчуваюцца ўплывы з боку шнуравых культур Падняпроўя, Палесся, а на Віліі — з боку паўночнабеларускай культуры. Аднак мясцовыя помнікі ўсё ж бліжэй да старажытнасцей культуры шнуравой керамікі Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі, якая археолагамі вызначаецца пад рознымі назвамі, сярод якіх апошнім часам найбольш ужывальныя — жуцаўская або прыбалтыйская, і якая існавала ў межах канца 3-га — першай паловы 2-га тысячагоддзяў да н. э. (Machnik, 1979. S. 378; Rimantienė, 1994. P. 104). Асноўны даследчык гэтай культуры ў Літве Р. Рымантэне (Rimantienė, 1994. P. 47) вызначае беларускі паўночны захад як зону ўплыву гэтай культуры.

Вывучэнне касцяка з краснасельскага пахавання паказвае, што ён належаў мужчыне, які займаў прамежкавае становішча паміж антрапалагічным тыпам прыбалтыйскага рэгіёна з буйнымі памерамі чэрапа, што было характэрна для культуры шнуравой керамікі, і больш дробнагаловым тыпам Паўночнай Украіны (Чаквін і інш., 1988. С. 20—21). Магчыма, гэта быў тыповы прадстаўнік мясцовага раннябронзавага насельніцтва (мал. 113:3).

Пакуль што слаба высветленым з'яўляецца гістарычны лес шнуравікоў Панямоння. Суіснуючы пэўны час з нашчадкамі нёманскай неалітычнай культуры, яны разам з апошнімі пратрымаліся, відавочна, да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э., калі сюды пачалі пранікаць групы сярэднябронзавага насельніцтва тшцінецкай культуры.

## 4. ПАЎНОЧНАБЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

У пачатку 30-х гадоў XX ст. К. М. Палікарповіч пачаў даследаваць першабытныя стаянкі на крывінскім тарфяніку паміж вёскамі Асавец Бешанковіцкага і Галоўск Сенненскага раёнаў Віцебскай вобласці. Аразу ж тут была выяўлена шчыльна арнаментаваная ляпная кераміка, якая суправаджалася пераважна касцяным і рагавым інвентаром. Даследчык датаваў мясцовыя помнікі бронзавым векам. аднак устрымаўся ад вызначэння іх культурнай прыналежнасці (Поликарпович, 1940а). У пасляваенны час з канца 50-х гадоў раскопкі на тарфяніку былі прадоўжаны (П. А. Прыбыткін, А. Г. Краскоўская, М. М. Чарняўскі, Э. М. Зайкоўскі), але спачатку праводзілася ў асноўным толькі назапашванне матэрыялу без асаблівай яго інтэрпрэтацыі. У 1969 г. М. М. Чарняўскі кераміку з Крывіны і Асаўца падзяліў на два тыпы — кераміка ніжняга (познанарвенская культура) і кераміка верхняга пластоў, пры гэтым тып верхняга пласта параўноўваўся з падобнымі знаходкамі Усвяцкіх помнікаў Віцебска-Пскоўскага памежжа (Чернявский, 1969а). Крыху пазней матэрыялы тыпу верхняга пласта Крывіны або блізкія ім з Беларускага Паазер'я былі аб'яднаны А М. Мікляевым у паўночнабеларускую культуру (Микляев, 1971.С.21).

Да цяперашняга часу помнікі паўночнабеларускай культуры выяўлены практычна на ўсім Беларускім Паазер'і, на поўдні Пскоўшчыны і на Друці ў дняпроўскім басейне (Микляев, 1995; Чарняўскі, 1979 (мал. 2); Зайковский, 1985. С. 14). Параўнаўчы аналіз атрыманых матэрыялаў і радыевугляроднае датаванне дазваляюць змясціць яе старажытнасці ў асноўным у межах першай паловы 2-га тысячагоддзя да н. э. (Белорусская археология, 1987. С. 46; Микляев, 1995. С. 21). У гэтым храналагічным

дыяпазоне на поўначы Беларусі адбываўся пераход ад неаліту да бронзавага веку Паўночнабеларуская культура менавіта і адлюстроўвае такі працэс, які выявіўся ў дапаўненні рыс тыповага «ляснога неаліту», найбольш у крамянёвым і касцяным інвентары, асаблівасцямі, характэрнымі для новай эпохі, — пласкадоннай керамікай, шнуравымі арнаментамі, свідраванымі сякерамі, металічнымі вырабамі. З улікам усіх навацый, што з'явіліся ў паўночнабеларускай культуры, яе апісанне змешчана ў раздзеле «Бронзавы век».

Паўночнабеларуская культура прадстаўлена пераважна стаянкамі, часткова асобнымі выпадковымі знаходкамі. Верагодных яе могільнікаў на тэрыторыі Беларусі пакуль не выяўлена. Мясцовае насельніцтва найбольш ахвотна сялілася на невысокіх пясчаных узбярэжжах азёр пры вытоках з іх невялікіх рэк. Вядомы таксама стаянкі ў прывусцевых частках, на астравах і пясчаных павышэннях паплавоў. Заўважана, што людзей прыцягвала памежжа розных глеб, лясоў з адменным відавым складам. У такіх месцах быў значна багацейшы выбар паляўнічай фауны (Долуханов, Микляев, 1972). У той жа час высокія берагі самой Дзвіны, гліністыя землі каля азёр заставаліся амаль незаселенымі. Нізкае, каля самай вады размяшчэнне стаянак пры наступных кліматычных зменах вяло да іх затаплення і ў большасці выпадкаў затарфоўвання. Гэта ўскладняе справу іх пошукаў, аднак пад торфам захоўваецца самы разнастайны арганічны матэрыял, што дазваляе асабліва поўна рэканструяваць характар матэрыяльнай і духоўнай культуры жыхароў такіх паселішчаў.

На сённяшні час пераважна на Беларускім Паазер'і вядома некалькі груп стаянак паўночнабеларускай культуры.

На поўдні Пскоўшчыны і паўночным захадзе Смаленшчыны А. М. Мікляевым у 60—80-я гады даследаваліся пераважна шматслойныя і рознакультурныя тарфянікавыя стаянкі на Усвяцкіх і Жыжыцкім азёрах, на рэчцы Сяртэя на левабярэжжы Дзвіны, а таксама затопленыя рэшткі паселішча на Сенніцы (Микляев, 1995).

Найбольш прадстаўнічыя і даследаваныя помнікі паўночнабеларускай культуры размешчаны на крывінскім тарфяніку — стаянкі Крывіна-1, 2, 3, Асавец-2 і інш. Сярод іх багаццем і разнастайнасцю знаходак асабліва вылучаецца Асавец-2 (Чернявский, 1969а).

Стаянка Асавец-2 размешчана праз 1,8 км на паўднёвы ўсход ад в. Асавец ва ўрочышчы Дражня, на паўночным краі разлеглага тарфяніку. Сёння тэрыторыя помніка перарэзана магістральным каналам, што, дарэчы, не толькі знішчыла значную частку аб'екта, але і спрыяла яго выяўленню (мал. 115). У часы функцыяніравання паселішча замест тарфяніку яшчэ знаходзілася вялікае, але даволі плыткаводнае возера ў стадыі зарастания, з якога на ўсход ад месцапасялення чалавека выцякала пратока, якая сёння называецца Крывінкай. Асавец-2 выяўлены ў 1966 г. М. М. Чарняўскім, даследаваўся шляхам раскопак і шурфоўкі ім жа ў 1966, 1968, 1969, 1972, 1979 1980, 1983, 1986, 1991, 1995 гг., у выніку чаго ўскрыта амаль 300 м (Белорусская археология, 1987. С. 45—47).

Пачатак існавання паселішча, калі меркаваць па знаходках у перадмацерыковым пласце, прыпадае на з'яўленне тут носьбітаў познанарвенскай культуры (крывінскага варыянта — матэрыялы тыпу ніжняга пласта Крывіны), а росквіт звязаны з насельніцтвам паўночнабеларускай культуры.

Прыкладна ў сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. у сувязі са звільгатненнем клімату ўзровень вады ў возеры павысіўся і паселішча спыніла існаванне.

Культурны пласт на стаянцы складаецца з апясчаненых раслінных рэшткаў Зверху ён перакрыты пластом торфу магутнасцю да 1 м. На кантакце торфу і культурнага пласта прасочваецца праплaстак рознaзярністага пяску таўшчыней ад 1 да 5—10 см, які ўтрымлівае абкатаныя вугалі і фрагменты керамікі. Гэты праплaстак адлюстроўвае працэс затаплення помніка і размыву берага, які адступіў на поўнач. У самім культурным пласце таксама сустракаюцца пясчаныя лінзы. Магчыма, яны ўзніклі падчас нейкіх ранейшых падтапленняў, а ў некаторых выпадках з'яўляюцца рэшткамі падсыпак пад агнішчы. Ніжняя частка культурнага пласта ўтрымлівае значна больш драўнінных рэшткаў, чым верхняя, і сфарміравалася, відавочна, у час найбольш інтэнсіўнага будаўніцтва.

Мацярык на месцы помніка складзены глеістай светла-шараватай масай, ніжэй якой залягае азёрны пясок. На некаторых ніжэйшых участках паміж мацерыком і рэшткамі паселішча прасочваецца праплaстак сапрапелю. Таўшчыня самога культурнага пласта розная — да 1,2 м у цэнтральнай частцы.

Пры раскопках выяўлена шмат драўнінных рэшткаў, што засталіся ад жыллёвых і гаспадарчых збудаванняў і ўвогуле ад гаспадарчай чалавечай дзейнасці, вырабы з каменя, костак, рагоў, дрэва, шматлікая кераміка, упрыгожанні, творы першабытнага мастацтва, адыходы штодзённасці — косткі, луска рыб, шалупінне дзікарослых пладоў, ракавіны малюскаў, рознае смецце.

Жыхары крывінскіх стаянак будавалі наземныя жытлы выцягнутапрамавугольнай планіроўкі (Крывіна-1) з двухсхільным дахам. Ад іх захаваліся ніжнія завостраныя часткі жэрдак, абкораных і з карой, якія былі пераважна нахільна ўвагнаныя ў мацярык або торф. У цэнтры жытлаў па падоўжнай восі размяшчаліся глыбока ўвагнаныя ў мацярык вертыкальныя завостраныя слупы з развілкамі-расохамі наверсе Відавочна, што на расохі змяшчалася гарызантальная кладзь, якая і трымала каркас нахіленага даху. Жытло магло накрывацца трыснягом, рэшткаў якога шмат у раскопах. У інтэр'еры жытлаў уваходзілі і нейкія элементы са шчапаных хваёвых дошак. Часам дошкі былі акуратна абчасаныя з двух бакоў.

У збудаваннях знаходзіліся адкрытыя агнішчы, аснову якіх складалі пласты пяску на вымастках з яловай кары. Так было найбольш пажарабяспечна ва ўмовах тарфяніку. У агнішчах захаваліся скапленні попелу і вугалля, аднак каменных выкладак не знойдзена. Падобныя аб'екты з камянямі сустрэты ў самым версе напластаванняў, калі жыццё на асавецкай стаянцы блізілася к канцу.

Лічыцца, што насельніцтва тарфянікавых стаянак паўночнабеларускай культуры на поўдні Пскоўшчыны ладзіла свае жытлы на палях (М и к л я е в, 1995). Аднак на Крывінскіх паселішчах пры наяўнасці шматлікіх драўнінных рэшткаў усё ж дастатковых сведчанняў існавання палевых канструкцый не выяўлена.

Стаянка **Асавец-5** размешчана праз 0,9 км на паўднёвы ўсход ад в. Асавец на невялікім узвышэнні сярод вузкай паласы правабярэжнага тарфяніку Крывінкі. Помнік выяўлены ў 70-х гадах М. М. Чарняўскім, раскопваўся ім жа ў 1990—1991 гг. (32 м$^2$). Культурны пласт ля падножжа ўзвышэння даволі моцна затарфаваны, у цэлым тонкі, на вяршыні каля 0,2 м. Пры раскопках атрымана адносна невялікая археалагічная калекцыя, якая адносіцца пераважна да паўночнабеларускай культуры.

**Крывіна-1** размешчана праз 0,8 км на паўночны захад ад в. Галоўск, на паўднёва-ўсходнім краі вялікага па плошчы ўзвышэння Ворлева пасярод крывінскага тарфяніку. Помнік выяўлены пры меліярацыйных работах у самым пачатку 30-х гадоў. Першым звярнуў увагу на знаходкі старажытных матэрыялаў У. С. Дактуроўскі. У 1934 г. месцазнаходжанне абследавалі А. Д. Каваленя і К. М Палікарповіч. Затым раскопкі тут праводзілі К. М. Палікарповіч (1934, 1939), П. А. Прыбыткін (1959—1962), Я. Г. Краскоўская (1963). Усяго ўскрыта больш за 510 $м^2$.

Культурны пласт на помніку, таўшчыня якога месцамі больш 0,5 м, моцна насычаны арганікай і перакрываўся тарфянымі адкладамі магутнасцю да 1,5 м на паніжэннях. Як і на Асаўцы-2, так і ў Крывіне-1 паміж торфам і рэшткамі паселішча прасочваўся праппластак розназярністага азернага пяску. У надмацерыковай частцы помніка сустракаліся матэрыялы познанарвенскай культуры, аднак асноўная частка знаходак, атрыманых пры раскопках, адносіцца да паўночна-беларускага комплексу. У пласце захавалася шмат драўніны, асабліва розных калоў і жэрдак. Іх размяшчэнне, а таксама канцэнтрацыя іншых знаходак месцамі акантоўваюць выцягнутыя прамавугольнікі, што, магчыма, сведчыць пра наяўнасць тут жытлаў.

**Крывіна-2** выяўлена праз 0,1 км на поўнач ад папярэдняй стаянкі на ўсходнім краі Ворлева. Помнік адкрыў і ўпершыню даследаваў у 1960 г. П. А. Прыбыткін (25 $м^2$). У 1980—1981 гг. раскопкі (55 $м^2$) тут праводзіў Э. М. Зайкоўскі (1982). Культурны пласт таўшчынёй да 0,4 м меў стратыграфію і характар знаходак, як і на Крывіне-1 (З а й к о ў с к і, 1985).

**Крывіна-3** знаходзіцца праз 0,4 км на ўсход ад Ворлева. Помнік выяўлены і даследаваўся Э. М. Зайкоўскім у 1978—1979 гг. (81 $м^2$). Культурны пласт таўшчыней да 0,6 м перакрываўся торфам і сам знаходзіўся на тарфяных адкладах таўшчынёй да 2 м. У пласце таксама выяўляліся прапласткі пяску. Пры раскопках тут атрыманы матэрыял амаль выключна паўночнабеларускай культуры (З а й к о ў с к і, 1982).

**Каменны інвентар.** Крамянёвых вырабаў на стаянках паўночнабеларускай культуры нямнога. Гэта тлумачыцца беднасцю мясцовых запасаў крамянёвай сыравіны, якія папаўняліся з іншых тэрыторый — з Панямоння, Віліі, Пасожжа і нават з Валдайскага ўзвышша. Пры гэтым натуральна, што чым далей ад крэменяносных радовішчаў размешчаны паселішчы, тым на іх менш крэменю.

На крывінскім тарфяніку большасць прылад рабілася з нізкагатунковай шэрай або светла-шэрай крамянёвай сыравіны, а таксама з крапчастага сожскага матэрыялу. Зрэдку тут сустракаецца крэмень шэра-блакітны, яшчэ радзей — чырванавата-руды валдайскага паходжання. Не адрозніваецца асабліва высокай якасцю і крэмень на стаянках Нарачанскіх азёр. Тут ён звыкла шэры і светла-шэры. Больш крэменю на помніках Віліі, дзе маецца і крэменяноснае радовішча (Крамянец Вілейскага раёна).

Сярод артэфактаў без другаснай апрацоўкі на помніках Крывінскага рэгіёна большасць складаюць адшчэпы, розныя абломкі і сколы. Гэта зноў жа тлумачыцца няхваткай высакаякаснай сыравіны, што не дазваляла атрымліваць дастатковую колькасць пласцінак. Крэмень берэглі і выкарыстоўвалі максімальна. Пра гэта сведчыць найперш колькасць рэтушаваных вырабаў — больш 40% ад усяго расшчэпленага матэрыялу, іх пераважна дробныя памеры і нярэдка выпадковасць формаў. Нават пашкоджаныя крамянёвыя шліфаваныя сякеры ператвараліся ў нейкае падабенства нуклеусаў.

Сярод крамянёвых вырабаў крывінскіх стаянак найбольшую групу складаюць наканечнікі стрэл, коп'яў і дроцікаў. Разам яны складаюць да чвэрці ад усіх крамянёвых знаходак.

Наканечнікі стрэл утвараюць некалькі тыпаў і ў пераважнай большасці яны характэрныя для «ляснога неаліту» (мал. 116: 1—16, 20—22). Былі шырока вядомыя лазалістыя даволі кароткія формы. У некаторых з іх пашырэнне перасунута да вастрыя. Асобную групу складаюць лазалістыя наканечнікі з усечанай асновай. Прыкладна так жа часта, як і лазалістыя, сустракаюцца рамбічныя наканечнікі. З іх частка мае ўсечаную аснову і нават злёгку выдзелены шырокі чаранок. Невялікую групу складаюць кроплепадобныя вастрыі, адзінкава прадстаўлены лазалістыя з чаранком. Паміж рознымі тыпамі, асабліва паміж лазалістымі і рамбічнымі, існуюць пераходныя формы, што нават стварае цяжкасці пры дакладнай класіфікацыі. Асобны тып складаюць трохкутныя экземпляры з роўнай або ўвагнутай асновай, рэтушаваныя з абедзвюх плоскасцей. Наканечнікі стрэл звычайна маюць рэтуш па ўсёй паверхні, толькі некаторая іх частка апрацаваная з краёў.

Лазалістыя і рамбічныя наканечнікі і пераходныя між імі формы характэрны для шырокіх тэрыторый лясной зоны, якія прымыкаюць да Беларусі з поўначы і ўсходу. Ужываліся яны там працяглы час, у тым ліку і ў бронзавым веку (Янитс, 1959. С. 186—191; Гаврилова, 1965. С. 212; Лозе, 1979. С. 61—63). Трохкутныя ж формы для Паазер'я з'яўляюцца «находнымі» з поўдня і паўднёвага захаду, дзе яны выкарыстоўваліся насельніцтвам верхнедняпроўскай і нёманскай культур практычна з пачатку неаліту (Чарняўскі, 1979. С. 52, 57—62; Калечиц, 1987. С. 97). Трохкутныя з выразнай выемкай у аснове формы асабліва шырока распаўсюдзіліся толькі са з'яўленнем на Беларусі носьбітаў культур шнуравой керамікі.

Наканечнікі коп'яў і дроцікаў на паўночнабеларускіх помніках таксама ў цэлым тыповыя для лясной зоны Усходняй Еўропы, асабліва яе паўночнага захаду (мал. 116: 17—19). Яны вырабляліся пераважна са спічастых масіўных адшчэпаў або абломкаў крэменю, маюць правільную лістападобную форму, а нярэдка і злёгку выяўлены чаранок (мал. 111). Такія наканечнікі апрацоўваліся падчэскай і буйной рэтушшу звычайна па ўсёй паверхні. Некаторыя крамянёвыя наканечнікі з выяўленымі чаранкамі маглі быць кінжаламі і ўстаўляцца ў касцяныя тронкі. Такія тронкі знойдзены, напрыклад, у Асаўцы-2 (мал. 120 : 10).

Некалькі меншую групу, чым ударна-колючая зброя, складаюць рэжучыя прылады (мал. 117: 12, 13). Нарыхтоўкамі для іх былі як пласцінкі, так і адшчэпы. Пры гэтым апошнія на некаторых помніках нават пераважаюць. Зрэдку сустракаюцца вырабы, на якіх акрамя плоскай рэтушы на супрацьлеглых краях маецца рэтуш прытупленая.

Трэцюю па колькасці групу крамянёвых вырабаў на крывінскіх стаянках ўтвараюць скрабкі. У большасці яны фармаваліся на адшчэпах, уяўляюць розныя тыпы, нярэдка бываюць аморфныя па форме (мал. 117: 5—10, 14, 15). Скрабкі на пласцінках больш рэгулярныя (мал. 117 : 1—4), сярод іх сустракаюцца і канцавыя з доўгай рэтушшу.

Даволі выразныя праколкі і пракруткі (мал. 117 : 18, 19) і гэта пры тым, што яны шырока замяняліся касцянымі прыладамі падобнага ж прызначэння. Такіх характэрных для суседніх паўднёвых і заходніх тэрыторый разцоў сярод матэрыялаў паўночнабеларускай культуры выяўлена зусім мала (мал. 117 . 16, 20, 21), і гэта дзіўна, калі ўлічваць распаўсюджанне

кастарэзнага ўмельства. Мабыць, разцамі для мясцовага насельніцтва служылі розныя крамянёвыя востраканечнікі. Сярод іншых крамянёвых вырабаў на стаянках Паазер'я вядомы рэзчыкі (мал. 117 : 17), скоблі, рэтушоры і адбойнікі (мал. 117 : 22). Нешматлікія і нуклеусы. Гэта пераважна аднапляцовачныя і аморфныя формы, Іх больш на паўднёвай і паўднёва-заходняй перыферыі паўночнабеларускай культуры.

Даволі рэдкія сярод старажытнасцей паўночнабеларускай культуры рубячыя крамянёвыя прылады, мабыць, з-за той жа беднасці мясцовай сыравіны. Знойдзеныя экземпляры маюць злёгку звужаную абушковую частку і выступаючае лязо (мал. 118 : 1—4), іх папярочныя сячэнні блізкія да плоскага авала, маюцца і лінзападобныя. Мясцовыя ўмовы вымагалі майстраваць і мініяцюрныя сякеркі, а таксама «рамантаваць» дадатковай падчэскай сапсаваныя прылады. Больш паловы крамянёвых сякер маюць прышліфоўку, асабліва на лязе Адзінкавыя экземпляры зашліфаваны па ўсёй паверхні. Сярод апошніх сустракаюцца вырабы чатырохграннага сячэння (мал. 118:3).

Акрамя крэменю жыхары крывінскіх паселішчаў умелі апрацоўваць і звычайны камень. Для гэтага ўжываліся абіўка, шліфоўка і свідраванне Выраблялiся каменныя сякеры-кліны (мал. 118 : 8), шліфаваныя сякеры з прасвідраванымі адтулінамі (мал. 118 : 5), цёслы з выразным жалабаватым лязом, свідраваныя матыкі (мал. 118 : 6), грузілы для сетак з адтулінамі (мал. 122 : 17). Пры раскопках стаянак сустракаюцца і розныя паліравальныя пліткі і пліты.

На паўночнабеларускіх стаянках паўднёвай Пскоўшчыны пры захаванні ў каменным інвентары неалітычных традыцый таксама назіраецца шэраг навацый — трохкутныя крамянёвыя наканечнікі, свідраваныя каменныя прылады, плоскія каменныя сякеры (М и к л я е в, 1995 (мал. 6 :2)).

Касцяны інвентар складае пасля керамікі найбольш характэрную групу знаходак на помніках паўночнабеларускай культуры. Недахоп крэменю мясцовае жыхарства паспяхова кампенсавала косткай і рогам, дасягнуўшы ў іх апрацоўцы высокага майстэрства, што дазваляла вырабляць зброю, прылады працы, побытавыя рэчы, упрыгожанні і г. д.

Адметнейшае месца сярод касцяных вырабаў займаюць наканечнікі стрэл. Яны выраблялiся пераважна са сценак тоўстых трубчатых костак. Сярод больш як 50 наканечнікаў і іх абломкаў з Асаўца-2 каля паловы належаць да крывінскага тыпу (мал. 119 : 1—5). Крывінскі тып уяўляе вастрыі са сплюшчаным чаранком і больш-менш цыліндрычным корпусам, які плаўна пераходзіў у конусападобнае вастрыё. Пры гэтым пераход ад чаранка да корпуса меў выразны ўступ. Часам корпус злёгку выпуклы, аднак найбольш дасканалыя ўзоры крывінскага тыпу наканечнікаў маюць на корпусе над чаранком плаўнае звужэнне (мал. 119 : 3). У некаторых выпадках элементы наканечніка выразна падкрэслены, а корпус набывае форму конуса або шматгранніка. У такім разе атрымлівалася складаная форма (мал. 119 : 4, 5). Найбольш адмысловыя ўзоры часам арнаментаваліся насечкамі.

Менш прадстаўнічыя іголкападобныя формы (мал. 119 : 11, 12), Яны таксама плоскачаранковыя, але маюць тонкі і доўгі корпус акруглага сячэння, які плаўна пераходзіць у вастрыё. У некаторых экземплярах корпус пачынаў патанчацца ад самай асновы. Унікальная знаходка — доўгі іголкападобны наканечнік з галоўкай на вастрыі (мал. 119 : 9). Другі, таксама адзінкавы, блізкі да іголкападобнага выраб мае сплюшчанае вастрыё (мал. 119 : 8). У

іншага такога ж доўгага наканечніка галоўка на канцы рамбічнага сячэння, а насад конусападобны (мал. 119 . 8). Падобныя насады не тыповыя для наканечнікаў паўночнабеларускай культуры.

Наканечнікі крывінскага тыпу, найбольш шырока прадстаўленыя ў Асаўцы-2, вядомыя на іншых помніках крывінскага тарфяніку, а таксама на стаянцы Зацэнне Лагойскага раёна (Ч а р н я ў с к і, 1996а (мал. 5 . 5)) і на Усвяцкіх азерах (М и к л я е в, 1971. С. 21) — адна з самых вызначальных адзнак касцянога інвентару паўночнабеларускай культуры. Па-за яе арэалам сустракаюцца ў асноўным, ды і тое ў невялікай колькосці, экземпляры без звужэння на корпусе. Большасць плоскачаранковых знаходак у Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі мае плаўны пераход ад корпуса да чаранка і ўжывалася з неалітычнага часу (З а г о р с к а я, 1978. С. 125). Іголкападобныя плоскачаранковыя наканечнікі ў Прыбалтыцы сустракаюцца часцей, дзе вядомыя ўжо сярод старажытнасцей позняй нарвенскай культуры, але найбольш выкарыстоўваліся носьбітамі культуры са шнуравой керамікай (Л о з е, 1979. С. 72—73 (табл. XXVII); 1988 (табл. XXVIII : 16)).

Як у Асаўцы-2, так і на Крывіне-1 сустракаюцца, хоць і ў малой колькасці, біканічныя наканечнікі (мал. 119 : 6, 7, 13). Гэтыя вырабы таксама плоскачаранковыя, кантакт конусаў у іх рэзка падкрэслены рабром або нарэзкай. На экземпляры з Асаўца-2 жолудзепадобны корпус падобнай знаходкі мае кальцавы валік (мал. 119 : 6). Біканічныя плоскачаранковыя наканечнікі стрэл маюць бліжэйшыя аналогіі на познанеалітычных помніках, у тым ліку і са шнуравой керамікай, Усходняй Латвіі (Л о з е, 1979. С. 72 (табл. XXVI)).

Невялікую групу на крывінскім тарфяніку складаюць сплюшчаныя лістападобныя ў плане наканечнікі (мал. 119 : 15). Гэта як незакончаныя вырабы, так і экземпляры тыпу, пашыранага на захадзе Паазер'я ў раннім жалезным веку (З в е р у г о, 1992 (мал. 3 :6—12)). Аднак знаходкі на гарадзішчах больш сплюшчаныя, але менавіта яны маглі быць вынікам далейшага развіцця плоскіх крывінскіх наканечнікаў.

У Асаўцы-2 знойдзены адзінкавы наканечнік з цыліндрычным корпусам і плоскім двухлопасным пяром (мал. 119 : 14). Гэта рэдкі тып вастрый, які меў, напрыклад, некаторае распаўсюджанне на помніках шарападобных амфар Цэнтральнай Еўропы (Typentafeln, 1972. T. № 9 : 22).

Некаторыя крывінскія касцяныя наканечнікі маюць на чаранках сляды чорнай клеевай масы, якой яны замацоўваліся ў расколіне драўлянай стралы.

Як адзначалася вышэй, наканечнікі коп'яў жыхары паўночнабеларускіх стаянак выраблялі з крэменю. Аднак у Асаўцы-2 знойдзена і касцяное ўтульчатае вастрыё дроціка з коса зрэзаным верхам. Яно ўяўляе вельмі позні тып наканечнікаў, пашыраны на гарадзішчах жалезнага веку Віліі (З в е р у г о, 1992 (мал. 4 : 27—30)).

Эфектыўнай зброяй з'яўляліся кінжалы. Яны выраблязіся пераважна з асцявых костак хрыбетак буйных жывёлін і дасягалі ў даўжыню да 20 см (мал. 120 : 11, 13). Зрэдку сустракаюцца і вузкалязовыя экземпляры са злёгку выдзеленай рукаяткай, змайстраваныя з адшчапаных рагавых пласцін (мал. 120 : 12), а таксама кінжалы з тонкіх костак канечнасцей.

Найбольш распаўсюджаны касцяны матэрыял на тарфянікавых стаянках — праколкі (мал. 120  1, 5). У Асаўцы-2 такіх знаходак каля 100. Большасць іх выраблялася з грыфельных костачак парнакапытных, часам з іншых тонкіх завостраных костачак, са спічастых асколкаў трубчатых костак. Некаторыя

праколкі вельмі спрацаваныя, часам на вастрыі маюцца кальцавыя сляды ўжывання. Не выключана, што экземпляры са звужэннем перад галоўкай маглі выкарыстоўвацца і як інструмент для пляцення рыбалоўных сетак. Мясцоваму насельніцтву былі вядомыя і іголкі — даволі масіўныя вастрыі з адтулінай у шырэйшай частцы (мал. 120 : 7). Касцяныя праколкі ў старажытнасці былі вядомы паўсюдна, а іх выкарыстанне спынілася толькі ў нядаўні час.

Мабыць, разнастайнае прымяненне мелі вырабы з расшчэпленых іклаў дзіка. Яны мелі даволі розную форму і апрацоўваліся нажамі так, што атрымліваліся колючыя востраканечнікі альбо сярпастыя прылады, аднак найчасцей гэтыя формы спалучаліся. Многія з падобных вырабаў служылі для трыбушэння і ачысткі ад лускі рыбы — былі рыбнымі нажамі. Некаторыя ж, калі меркаваць па спрацаванасці вастрый, служылі звычайнымі праколкамі (мал. 120 : 9). Вырабы з іклавых пласцін таксама маюць вельмі шырокі часавы і культурны дыяпазон, вядомы яны і сярод старажытнасцей новакаменнага і бронзавага вякоў Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі (Лозе. 1979 (табл. XXXV)).

Важнымі гаспадарчымі інструментамі былі рагавыя сякеры, а таксама цяслападобныя прылады і долаты. Танейшыя экземпляры. як і ў папярэднія часы, выраблялiся з адросткаў рагоў шляхам косага счэсвання. ад чаго атрымлівалася асіметрычнае лязо (мал. 121 : 1, 2). Аднак самымі тыповымі для паўночнабеларускай культуры былі сякеры са шчапаных рагоў (мал. 121 : 5, 6). Нарыхтоўкі для іх рабіліся шляхам надсякання па перыметры рога да порыстай сарцавіны і наступнага ламання, у выніку атрымліваўся кавалак патрэбнай даўжыні, затым на яго супрацьлеглых паверхнях праразаліся глыбокія пазы, па якіх нарыхтоўка расшчэплівалася на дзве палавінкі — плоскія блокі вельмі цвёрдага абалонкавага матэрыялу (мал. 121 : 3). Счэсваннем і дапрацоўкай разцом і нажом з завяршальнай шліфоўкай на паліравальнай пліце атрымлівалі дасканалыя рубячыя інструменты. Сякеры са шчапанага рогу сустракаюцца на позніх тарфянікавых стаянках і на суседніх тэрыторыях (Girininkas, 1994. P. 198, 215).

Некаторыя рубячыя прылады з асіметрычным лязом маглі выкарыстоўвацца як цёслы, вузкалязовыя былі стамескамі (мал. 121 : 8, 9). Частка стамесак выраблялася са сценак трубчатых костак.

Некаторыя рубячыя прылады мелі патончаны абушок, што сведчыць пра іх выкарыстанне з дапамогай муфты. Драўляныя муфты знойдзены ў Асаўцы-2 (мал. 123 : 1), на Усвяцкіх азёрах (Микляев, 1971), у Літве (Rimantienė, 1979. P. 38, 39), Латвіі (Ванкина, 1970 (табл. XXIII)). Часам муфты былі рагавыя.

Пакуль што не зусім высветлены характар прымянення касцяных рубячых інструментаў. Запаліраванасць вастрый быццам сведчыць аб іх выкарыстанні для работы з мяккім матэрыялам — мясам, скурай. Аднак яны маглі ўжывацца і пры рабоце па дрэву, асабліва стамескі.

Выкарыстанне рагавых сякер з прасвідраванай адтулінай не было асабліва характэрным для жыхароў паўночнабеларускіх стаянак. У Асаўцы-2 знойдзена выгнутая вузкалязовая прылада з прасвідраванай адтулінай у абушку, якая магла служыць зброяй тыпу тамагаўка (мал. 121 : 10). Другая сякера са сплюшчаным шыракаватым лязом мела ў абушку авальную адтуліну. Свідраваныя рагавыя сякеры — рэдкая знаходка і ў іншых суседніх культурах канца неаліту — ранняга бронзавага веку.

Касцяныя гарпуны былі эфектыўнай рыбацкай зброяй. У Асаўцы-2 іх разам з абломкамі знойдзена каля 15 (мал. 122 : 1—4). Яны вырабляліся пераважна са сценак тоўстых трубчатых костак і адшчапаных рагавых пласцін, памеры іх 10—13 см. Адзінкі дасягалі 15—17 см. Тыповыя гарпуны крывінскага тарфяніку марфалагічна выразныя. Яны маюць акруглы або прыплюшчаны стрыжань, ад якога ў адзін бок выступаюць два даволі доўгія зубцы. Трохзубых не знойдзена, аднaзубыя прадстаўлены адзінкава (мал. 122 : 1). Характэрны насад лапаткападобны і крыху шырэйшы за стрыжань. У адзінкавых выпадках насад ад стрыжня аддзелены кальцавой баразёнкай (мал. 122 : 1). У аднаго пашкоджанага экземпляра насад меў два бакавыя выступы. Гарпуны добра апрацаваны па паверхні з дапамогай нажа, асаблівая ўвага ўдзялялася зубцам і вастрыю

З Асаўца-2 паходзіць абломак драбназубага гарпуна, а таксама фрагмент масіўнага вырабу з адным зубцом. Апошнія знаходкі не тыповыя для паўночнабеларускіх матэрыялаў, яны, асабліва драбназубы, хутчэй за ўсё звязваюцца з познанарвенскай культурай.

Гарпуны служылі для паколу рыбы, аднак не зусім зразумела, як яны мацаваліся. Сляды клею на некаторых чаранках быццам сведчаць, што вастрыі не выпадалі з паза дрэўка пры паражэнні здабычы. У той жа час пашыраныя чаранкі або кальцавыя паглыбленні над імі паказваюць, што некаторыя экземпляры былі здымнымі і мацаваліся шнурам. Вельмі верагодна, што некаторыя меншыя зубчатыя вастрыі маглі з'яўляцца наканечнікамі стрэл для біцця рыбы з луку.

Тыповымі для рыбалоўных прыстасаванняў насельніцтва Паўночнай Беларусі былі далікатныя касцяныя кручкі да вудаў. У Асаўцы-2, напрыклад, іх знойдзена 7 — цэлых і пашкоджаных (Чернявский, 1991. С. 50). Пры гэтым у пашкоджаных адламаны паддзевы або іх канцы з бародкамі, што зусім натуральна, калі ўлічваць характар выкарыстання. Большасць касцяных кручкоў з'яўляюцца тонкімі адмысловымі вырабамі з грыбаста пашыранымі галоўкамі і бародкамі на вастрыях паддзеваў (мал. 122 : 7, 8, 11—13). На гэтым жа помніку знойдзены нарыхтоўкі двух кручкоў. З іх самая цікавая на тонкай касцяной пласцінцы, у якой выразана выемка і пазначана бародка, а таксама намечана нарэзкай лінія адлому нарыхтоўкі (мал. 122 : 14). Тонкія кручкі з бародкай вельмі нагадваюць пазнейшыя металічныя і справядліва даследчыкамі адносяцца да найбольш позняга часу (Загорска, 1991, Гурина, 1991; Исаенко, 1991). На тэрыторыі Беларусі аналогіі ім выяўлены на стаянцы Камень-8 у Пінскім раёне на Брэстчыне, дзе значная частка матэрыялу адносіцца да бронзавага веку (Исаенко, 1991). Да іншага тыпу належыць кручок з Асаўца з папярэчна пашыраным цаўём і з адцягнутым выступам унізе, паддзеў адламаны (мал. 122).

Акрамя цэльных рыбалоўных кручкоў жыхары стаянак паўночнабеларускай культуры маглі выкарыстоўваць і кручкі састаўныя, распаўсюджаныя пераважна ў ранейшы час (Загорска, 1991). Асобныя элементы іх знойдзены на крывінскіх помніках. У калекцыі з Асаўца-2 маецца група масіўных кручкоў са сківічных костак, у якіх на вяршыні цаўя-стрыжня прасвідравана адтуліна. Пры гэтым ва ўсіх знаходак пры выкарыстанні былі адламаныя паддзевы (мал. 122: 6). Некаторыя экземпляры арнаментаваныя. Магчыма, тут маюць месца ўзоры масіўных рыбацкіх кручкоў для лоўлі буйной рыбы на жыўца.

Асаблівымі прыладамі з'яўляліся рэтушоры — на востраканечных фрагментах рагоў, выцягнутаавальных пласцінах сценак рагоў і г. д. (мал. 120: 6).

Для апрацоўкі паверхні керамічных вырабаў служылі авальныя або лыжкападобныя рагавыя пласціны, яны ж былі і арнаменцірамі, асабліва калі мелі на канцах зубчатасць (мал. 120 : 8, 15). Трапляюцца і самі лыжкі (мал. 120: 14). Не зусім зразумелага прызначэння масіўныя рагавыя вастраканечнікі. Магчыма, яны маглі быць кінжаламі. Сустракаюцца на стаянках і некаторыя іншыя касцяныя вырабы і іх фрагменты, прызначэнне якіх вызначыць цяжка.

За межамі крывінскага тарфяніку касцяныя вырабы вядомыя ў Зацэнні (Чарняўскі, 1996 (мал 5; 6)), аднак там яны пераважна пад'ёмныя і да старажытнасцей паўночнабеларускай культуры, без сумнення, можна аднесці толькі ўзгаданы вышэй наканечнік складанай формы крывінскага тыпу. Некаторыя выпадковыя знаходкі з Паазер'я таксама можна залічыць да гэтай культуры. Што тычыцца паўночнабеларускіх тарфянікавых стаянак паўднёвай Пскоўшчыны, тут даследчыкі адзначаюць прыкметнае змяншэнне колькасці касцяных вырабаў пры няўстойлівасці тыпаў. Гэта суправаджалася большым распаўсюджаннем крамянёвых прылад (Микляев, 1995. С. 21). Выглядае, што мясцовае насельніцтва атрымала доступ да крамянёвай сыравіны, а гэта прывяло да заняпаду касцяной індустрыі.

Драўляныя вырабы складаюць асобную групу знаходак, якія шмат у чым характарызуюць побытавую культуру жыхароў тарфянікавых стаянак. У напластаваннях паселішчаў, акрамя рэштак канструкцый у выглядзе розных зачасаных калоў і слупоў, сустракаюцца абломкі чэсаных дошак, днушак з выступаючым рантам, місак, дошак з ручкай для разбівання арэхаў, розных рукаятак, муфты для мацавання сякер, а таксама невызначальныя абломкі іншых вырабаў. У Асаўцы-2 знойдзены абломак драўлянага лука і нават драўлянае кап'ё.

Металічныя вырабы. А. М. Мікляеў, не знайшоўшы слядоў выкарыстання медзі і бронзы на паўночным захадзе арэала паўночнабеларускай культуры, лічыў, што ў міжрэччы Ловаці і Дзвіны ўвогуле адсутнічаў бронзавы век. Аднак пры вывучэнні стаянак Беларускага Паазер'я атрыманы сведчанні, што мясцовае насельніцтва было знаёма з архаічнымі металічнымі вырабамі. Пры раскопках стаянкі каля в. Кастыкі Вілейскага раёна знойдзена плоская медная сякера з крыху пашыраным выпуклым лязом (мал. 123 : 4). Даўжыня вырабу 12,4 см, таўшчыня 1,0 см, шырыня ляза 4,6 см. Аналіз, зроблены лабараторыяй аналітычнай хіміі Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў, паказаў, што сякера прыкладна на 90% складалася з медзі і на 8—10% — з волава. Серабро ў сплаве займала дзесятыя долі працэнта. Такім чынам. суадносіны металаў тут былі аптымальнымі.

Металічныя сякеры, падобныя формай на знаходку з Кастык, былі вядомыя яшчэ ў 3-м тысячагоддзі да н. э. сярод старажытнасцей культуры лейкападобных кубкаў Польшчы (Wiślański, 1979 (мал. 136)) і ямкавай культуры Украіны (Археологія Української РСР (мал. 77)). Аднак там яны яшчэ медныя. да таго ж культура лейкападобнікаў заняпала за пару стагоддзяў да пачатку фарміравання паўночнабеларускай супольнасці. Храналагічна бліжэй нашай знаходцы старажытнасці ямнікаў. Падобныя бронзавыя сякеры, хоць і некалькі іншых прапорцый, былі вядомыя носьбітам зрубнай культуры з тэрыторыі Украіны, якая пачала складвацца каля сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. (Археологія Української РСР (мал. 115, 117)), але найбольш блізкія формы выкарыстоўваліся насельніцтвам абашаўскай познабронзавай культуры, якая з сярэдзіны таго ж тысячагоддзя існавала ў лесастэпавай зоне Усходняй Еўропы (Пряхин, Халиков, 1987 (мал. 60б)).

У Асаўцы-2 знойдзены яшчэ адзін металічны выраб — меднае шыла з лапаткападобным чаранком (мал. 123 : 3).

Кераміка з'яўляецца самым шматлікім і найбольш вызначальным матэрыялам на помніках паўночнабеларускай культуры.

У карыстанні жыхароў Паазер'я канца неаліту і ў раннім бронзавым веку знаходзіўся посуд, які быў значна больш разнастайным па формах і памерах, чым у папярэднія часы, калі тут дамінавала познанарвенская культура. Найбольш распаўсюджанымі былі вялікія гаршкі прапорцыямі прыкладна 1 (па шырыні брушка) да 1,5 (па вышыні). Іх дыяметр па венцу дасягаў 40—50 см. Аднак сустракаліся і значна меншыя пасудзіны. Тыповым быў гаршчок з выступаючым корпусам, на якім часам прысутнічаў даволі акрэслены пераход да прыдоннай часткі, з крыху зведзеным верхам і вострапрытупленым дном, выступ якога быў часам нават прыкруглены (мал. 125:1—7, 9). Некаторыя пасудзіны мелі лёгка выяўленую шыйку. Другой характэрнай формай былі шлемападобныя гаршкі, у якіх сценкі ад простага венца плаўна закругляліся да вострага дна. Кубкі і міскі, з якіх пэўныя экземпляры былі зусім мініяцюрныя (6—8 см у дыяметры), мелі больш простыя формы, хоць таксама выказвалі тэндэнцыю да капіравання гаршкоў (мал. 124) Таксама быў распаўсюджаны і пласкадонны посуд. Ён у цэлым паўтараў формы вастрадоннай керамікі (мал 127 : 1). Дны фармаваліся пераважна без выступаючых закраін, хоць апошнія, як і паддоны, часам сустракаліся (мал. 125 : 8—13).

Сярод паўночнабеларускай керамікі сустракаюцца асабліва вялікія мехападобныя вырабы з вастраватым дном, цалкам або амаль пазбаўленыя арнаментаў. Гэта маглі быць пасудзіны для захоўвання харчовых запасаў.

Таўшчыня сценак посуду складае пераважна 7—8 см, аднак у цэлым яна вагаецца ад 6 да 10 см.

У пераважнай большасці краі венцаў злёгку адагнутыя, часам яны простыя або лейкападобна разгорнутыя, у рэдкіх выпадках зведзены ў сярэдзіну (мал. 127). Зрэзы найчасцей закругленыя, у рэдкіх выпадках плоска зрэзаныя і ў той жа час практычна няма патоўшчаных краёў са скосам у сярэдзіну, што было так характэрна для папярэдняй познанарвенскай керамікі.

Посуд тарфянікавых стаянак паўночнабеларускай культуры ў цэлым шэры з лёгкім рудаватым адценнем. Аднак такая афарбоўка набыта ў тарфяным асяроддзі. На дзюнных помніках ён святлейшы На знешніх паверхнях сценак месцамі прыкметны цёмна-шэрыя плямы закуранасці, якія часам нават падглянцаваны. Сустракаюцца гаршкі ўвогуле ад цёмна-шэрага да чорнага колеру. На ўнутраных паверхнях часам захоўваецца пласт нагару. Свежы злом чарапка мае шэра-рудаваты колер без цямнейшага праппластка ўсярэдзіне, што сведчыць аб даволі добрым абпале. У глінянае цеста сценак дамешваліся арганічныя валакністыя рэчывы, ад якіх засталіся характэрныя адбіткі, а таксама шамот. У дамешках прыкметнае месца займалі тоўчаныя ракавіны, а часам, асабліва ў пазнейшы перыяд існавання культуры, — жарства.

Посуд ляпіўся са стужак спосабам косага прылепу. Тарцовы прылеп, тыповы для нарвенскіх матэрыялаў, не выяўлены. Керамічная вытворчасць была працаёмкай і вымагала ад «гаршкалепа» шмат часу і стараннасці. Таму пашкоджаныя гаршкі не перараблялíся адразу ў шамот, а рамантаваліся шляхам накладвання бяросты на трэшчыны і сшывання. На краях некаторых чарапкоў захаваліся прасвідраваныя па-сухому адтуліны. Раман-

таваныя пасудзіны не прызначаліся для гатавання ежы, але ў іх можна было трымаць некаторыя харчовыя запасы.

Пасля фармавання пасудзіны яго абедзве паверхні раўняліся пучком нейкай расліннасці або трэскападобнай лапаткай, ад чаго засталася прыкметная падгарызантальная заштрыхоўка. У сярэдзіне гаршка яна магла быць больш хаатычная.

Арнаментацыя паўночнабеларускай керамікі вызначаецца шчыльнасцю і насычанасцю па ўсёй паверхні (мал. 124—127). Дамінуючым элементам ў аздабленні з'яўляюцца насечкі (у Асаўцы-2 каля 50%). Яны былі тонкія і крыху выгнутыя, быццам наносіліся ракавінай перлавіцы, аднак найчасцей сустракаліся насечкі шырэйшыя, зробленыя пласцінкай са сплюшчаным або крыху прыкругленым канцом Насечкі ў пераважнай большасці наносіліся з націскам у верхняй частцы нахіленым управа арнаменцірам — у адступальнай манеры (мал. 126 : 1—4, 13).

Прыкметнае месца займаюць так званыя тычкавыя элементы (мал. 126 : 9, 15). Яны маюць форму кроплепадобных або авальных паглыбленняў і наносіліся канцом злёгку прытупленага вастрыя ў нахіленай пазіцыі або кантам прыкругленай лапаткі з націскам на верхні край. Паміж насечкамі і тычкамі не існує выразнай мяжы, што стварае некаторыя цяжкасці ў іх падзеле.

Трэцюю групу складаюць адбіткі тонкага зубчатага штампа (мал 126 5—8). Яны, як правіла, таксама наносіліся з націскам уверсе.

Частка посуду на Крывінскіх стаянках арнаментавана рознымі ямкавымі і накольчатымі элементамі (мал. 126 : 10, 17, 20). Пры гэтым паміж імі і тычкамі таксама маюцца пераходныя варыянты. Сустракаюцца і адбіткі лінейнага штампа. Але ён звычайна быў вузкаваты і часам набліжаўся да насечак (мал. 126 : 11).

Асобную групу складаюць шнуравыя адбіткі, якія ў кераміцы Асаўца-2 складаюць каля 2% (мал. 126 : 12).

Сярод арнаментальных экзотаў трэба адзначыць пракрэсленыя рысы, ігольчатыя наколы, баразёнкі, вусеневыя адбіткі перавітага шнура, наляпныя гузачкі (мал. 127).

Насечкі і грабеньчатыя (зубчатыя) адбіткі ўтваралі на гаршках прыкладна аднолькавыя кампазіцыі. Найчасцей яны пакрывалі пасудзіны ад краю да самага дна частымі гарызантальнымі паясамі У паясах адбіткі размяшчаліся нахільна ўправа або ўлева, пры гэтым кожны пояс меў свой нахіл, у выніку чаго арнамент набываў выгляд адмысловай пляцёнкі. Калі ж ва ўсіх паясах нахіл быў у адзін бок, пераважна ў правы, то насечкі і грэбень размяшчаліся найчасцей у шахматным парадку. Часам паясы нахіленых элементаў перарываліся зонамі адзінарных або двайных зігзагаў. Падобным жа чынам утваралі арнаменты і тычкі, калі яны былі адносна доўгія. Кароткія тычкі, розныя ямкавыя адбіткі і наколы складваліся ў частыя гарызантальныя паясы.

Другім па распаўсюджанасці быў матыў частых гарызантальных ялінак з насечак, адбіткаў грэбеня, даўжэйшых тычак, а часам і лінейнага штампа

Нярэдка на адным і тым жа гаршку суіснавалі зоны з элементамі, пастаўленымі ў рознай арыентацыі. Часам гарызантальныя паясы дапаўняліся касымі. У некаторых выпадках сустракаліся і іншыя кампазіцыі. Назіраецца і суіснаванне розных элементаў — рады насечак чаргуюцца з ямкавымі адбіткамі, тычкамі, наколамі.

Хоць вусеневыя адбіткі ў цэлым утвараюць звычайныя для паўночнабеларускай керамікі кампазіцыі, але яны прыкметна больш разрэджаныя. Выглядае, што гэтым як бы захоўваецца папярэдняя познанарвенская традыцыя

Шнурам найчасцей упрыгожваліся венцы — пераважна гарызантальнымі адбіткамі. Часам назіраецца іх косае або зігзагападобнае размяшчэнне. Пад шыйкай шнуравы арнамент звычайна дапаўняўся іншымі элементамі'.

Венцы аздабляліся прыкладна так жа, як і сценкі, аднак тут узор некалькі ўскладняецца. Часам сам край падкрэсліваўся неглыбокімі ямкамі. Рады глыбокіх ямак, так распаўсюджаныя ў познім неаліце на кераміцы іншых культур Беларусі, сустракаюцца ў адзінкавых выпадках. У большасці ўпрыгожваліся і зрэзы венца, а часам пасак узору знаходзіўся і пад унутраным яго краем.

Арнаментаваліся ў шэрагу выпадкаў і плоскія дны. На іх сустракаюцца акружнасці, крыжападобныя фігуры і некаторыя іншыя кампазіцыі (мал. 125 : 8—12).

Маюцца фрагменты посуду, асабліва венцы, узор на якіх вылучаецца адмысловасцю. На іх бачныя ромбы, трохкутнікі, шматрадныя дугі, элементы шахматнай дошкі, загадкавыя ўзоры з наколаў і інш.

Невялікая колькасць фрагментаў керамікі з рысамі паўночнабеларускай культуры сустрэта ў Зацэнні, на крайняй паўднёвай перыферыі яе арэала (Ч а р н я ў с к і, 1996 (мал. 3 : 24)). Тут яна арнаментавана пераважна насечкамі, вядомы і адбіткі лінейнага штампа.

У паўночна-ўсходнім рэгіёне распаўсюджання культуры (Усвяцкае і Жыжыцкае азёры на поўдні Пскоўшчыны) кераміка, прадстаўленая вялікімі калекцыямі з шэрагу стаянак, мае свае асаблівасці (М и к л я е в, 1995. С. 21). У ёй не адзначана візуальна ракавінных дамешак. Арнамент у цэлым наследуе папярэднія культуры, вызначаныя А. М. Мікляевым (М и к л я е в, 1995. С. 18—21) як усвяцкая (у значнай ступені аналаг крывінскага варыянта нарвенскай культуры Паўночнай Беларусі) і жыжыцкая (пераходная да паўночнабеларускай) Пры гэтым у пазнейшых керамічных матэрыялах адзначаецца павелічэнне колькасці посуду са шнуравымі адбіткамі і плоскім дном.

Упрыгожанні выраблялiся з рогу, костак, бурштыну. Адносна частымі знаходкамі на тарфянікавых стаянках з'яўляюцца падвескі з зубоў розных жывёлін з прасвідраванымі ў корані адтулінамі (мал. 129 : 2, 3). Некаторыя падвескі замест адтулін маюць на каранях кальцавыя нарэзкі (мал. 129 : 1). Падобныя з нарэзкай аздобы вядомы на мясцовых ранненарвенскіх помніках. У каралях, што адзначана ў Асаўцы-2, падвескі набіраліся па парнай адзнацы — у цэнтры буйныя зубы, а да краёў — зусім дробныя. Хоць і ў невялікай колькасці, але некаторыя падвескі майстраваліся з касцяных пласцінак розных абрысаў, пераважна авальных або кроплепадобных (мал. 129 : 4, 6, 7). Часам па краі яны аздабляліся дробнымі насечкамі. Некаторыя касцяныя падвескі мелі ўскладненую форму, у тым ліку і ў выглядзе месяца з зубчатым краем (мал. 129 8). З Асаўца-2 паходзяць характэрныя аздобы з плоскага колца, спалучанага з фігурным стрыжнем, на канцы якога прасвідравана адтуліна для шнурка. Часам стрыжні аздабляліся наразным арнаментам. Касцянымі былі таксама плоскія дыскі-накладкі з вялікай адтулінай у цэнтры, арнаментаваныя па краях насечкамі.

Сярод упрыгожанняў вылучаюцца вырабы з бурштыну — матэрыялу, да гэтага мала вядомага на Беларусі. Яны знойдзены амаль выключна на помніках крывінскага тарфяніку (Чарняўскі, 1985) і складаюцца з падвесак, гузікаў, трубачак, колцаў і іншых тыпаў (мал. 128).

Падвескі займаюць прыкладна палову бурштынавых знаходак (мал. 128 : 1—12, 16, 23). Найбольш раннія маюць франтальна прасвідраваныя адтуліны і вырабляліся з кавалачкаў бурштыну, якія дадаткова асабліва не апрацоўваліся. Таму формы падвесак часта былі нерэгулярныя (мал. 128 : 1—4). Аднак большасць такіх аздоб паліравалася, ад чаго атрымліваліся больш дасканалыя формы — пераважна кропельныя або трапецападобныя, радзей пальчыкавыя, каленчатыя (мал. 128 : 5—10).

Асобную групу складалі сякерападобныя падвескі (мал. 128 : 11, 12). У іх меўся кантаваты «абушок» з бакавой адтулінай і прыкругленае або скошанае «лязо». Адмысловае размяшчэнне адтуліны дазваляла з дадатковым нанізваннем паміж падвесак бурштынавых або касцяных трубачак састаўляць каралі са схаваным шнурком. Падвескі з франтальнымі адтулінамі былі вядомы ў Прыбалтыцы з сярэдняга неаліту і выкарыстоўваліся таксама ў пазнейшы час, уключаючы бронзавы век (Loze, 1975. S. 53, 55, 59). Сякерападобныя ж формы як у Прыбалтыцы, так і на поўначы Беларусі вырабляліся пераважна ў бронзавым веку, гэта былі найбольш познія і дасканалыя аздобы (Чарняўскі, 1985. С. 159; Loze, 1975. S. 53, 55, 56).

Адзінкава прадстаўлены пальчыкавыя падвескі з косай адтулінай у верхняй частцы (мал. 128 : 9).

Нетыповымі з'яўляюцца падвескі з пашкоджаных упрыгожанняў, у тым ліку і з расколатых гузікаў (мал. 128 : 26). Маецца падвеска ў форме месяца з адтулінамі ў рожках (мал. 128 : 16). Магчыма, для яе вырабу было выкарыстана зламанае колца.

На другім месцы па распаўсюджанасці былі гузікі з v-падобнымі адтулінамі (мал. 128 : 13—15, 17—19). Яны пераважна круглыя, але сустракаюцца авальныя і чатырохкутныя. Папярочныя сячэнні лінзападобныя, часам адзін бок плоскі. Некаторыя экземпляры аздоблены па краях насечкамі.

Гузікі з бурштыну не служылі для зашпільвання вопраткі, а былі ўпрыгожваннямі, якія нашываліся. Амаль усе яны пашкоджаны па вушках.

На крывінскім тарфяніку знойдзены дзве бурштынавыя трубачкі-пранізкі, аднак яны таксама пашкоджаны (мал. 128 : 24). Таксама дзвюма знаходкамі прадстаўлены здвоеныя шайбы з раўчуком для прывязвання па ранту (мал. 128 : 25, 27). Адзін абломак паходзіць ад колца (мал. 128 : 21). Унікальным з'яўляецца і чатырохгранны стрыжань з косымі адтулінамі на канцах (мал. 128 : 20). У Асаўцы-2 знойдзена адламанае вушка складанага ўпрыгожання з кальцом, край яго аздоблены насечкамі (мал. 128 : 22). Хутчэй за ўсё гэта быў бурштынавы аналаг касцяных складаных упрыгожанняў з кальцом, сустрэтых на тым жа помніку. На тэрыторыі Беларусі падобныя бурштынавыя аздобы вядомы таксама сярод старажытнасцей сярэднедняпроўскай культуры (Артеменко, 1967а. С. 53—56).

Натуральны бурштын на Беларусі сустракаецца пераважна на заходнім Палессі, аднак там ён залягае на вялікай глыбіні і быў недасяжны першабытнаму чалавеку. Таму ўпрыгожанні паступалі на нашы землі з Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі і амаль выключна ў гатовым выглядзе. Бліжэйшы буйны цэнтр апрацоўкі бурштыну размяшчаўся на Лубанскай нізіне ва Усходняй Латвіі (Loze, 1975).

Большасць знойдзеных бурштынавых упрыгожанняў пашкоджаныя. Найчасцей адломваліся вушкі па свідраванай адтуліне. Гузікі расколваліся папалам таксама па адтулінах або пашкоджваліся самі адтуліны. Сапсаваныя аздобы, калі толькі яны адразу ж не губляліся, рамантаваліся шляхам свідравання новых адтулін. Такім чынам ператвараліся ў падвескі нават палавінкі гузікаў. На зусім дробных абломках рабіліся кальцавыя нарэзкі для прывязвання. Гэта паказвае, наколькі цанілі сонечную смалу, якая няпростымі шляхамі трапляла з Балтыйскага ўзбярэжжа на Беларускае Падзвінне.

Бліжэйшыя аналогіі бурштынавым упрыгожанням з Беларускага Паазер'я знаходзяцца на паселішчах сярэдняга і позняга неаліту Прыбалтыкі, а таксама на мясцовых помніках бронзавага веку (Loze, 1975). Вызначана, што самымі раннімі з'яўляюцца падвескі з франтальнымі адтулінамі, круглыя гузікі, колцы, пранізкі. Яны ў Прыбалтыцы былі вядомыя і насельніцтву культуры шнуравой керамікі. Аднак мясцовыя шнуравікі ведалі і новыя тылы бурштынавых аздабленняў — сякерападобныя падвескі, чатырохкутныя гузікі, колцы з вушкам (Loze, 1975. S. 55—59, 71, 72; 1993). Здвоеныя шайбы сустракаліся ў курганах канца бронзавага або пачатку жалезнага вякоў у Паўднёвай Латвіі (Граудонис, 1967. С 86, 87).

Такім чынам, знойдзеныя на крывінскім тарфяніку бурштынавыя ўпрыгожанні з'яўляюцца характэрнымі для старажытнасцей і паўночнабеларускай культуры. Аднак некаторыя формы з франтальнымі адтулінамі маглі належаць і мясцовым нарвенцам

Прикладное і выяўленчае мастацтва. Духоўная культура. Пластычная гліна была шырокім полем для арнаментальнай дзейнасці першабытнага чалавека. Посуд, ад краю венца да самага дна пакрыты арнаментам, выглядаў як вышываны. Назіраецца распрацаваная кампазіцыя аздаблення. Асабліва адмысловы ўзор гаршкі мелі, як правіла, на венцы, выпукліне корпуса і на дне. Гэтым падкрэслівалася форма вырабу, яго галоўнейшыя часткі. Некаторыя складаныя кампазіцыі хутчэй за ўсё ўяўляюць сабой стылізаваныя выяўленчыя матывы. З Асаўца-2 паходзяць абломкі верхняй часткі прафіляванага гаршка з гравіраванымі фігурамі людзей, пададзенымі ў моцна стылізаванай манеры (мал. 137: 2).

Арнаментамі ў выглядзе розных насечак, нарэзак пакрываліся і некаторыя касцяныя вырабы, асабліва ўпрыгожанні.

Помнікі паўночнабеларускай культуры вылучаюцца знаходкамі выяўленчага мастацтва. Найперш гэта дробная пластыка (Чернявский, 1987. С. 22—23). Некаторыя фігурна выразаныя пласцінкі з іклаў дзіка нагадваюць выявы птушак, пераважна вадаплаўных. У Асаўцы-2 была знойдзена адламаная галоўка птушкі, надзвычай рэалістычна і па-майстэрску выраблена з рогу (мал. 129 : 14). Іншая падобная галоўка менш дасканалая. З ласінага ж рогу выразана фігурка самога лася. Яна даволі схематычная, галава перададзена невялікім выступам, як дазволіў матэрыял. З таго ж Асаўца-2 паходзіць дасканалая статуэтка змяі, нават з імітацыяй узору на скуры (мал. 129 : 12). Калі меркаваць па выступе з адтулінай, статуэтка насілася як талісман або з'яўлялася элементам магічных караляў святара. Іншая дробная выява змяі вельмі прыблізная.

Найбольш цікавыя з твораў першабытнага мастацтва, якія адносяцца да паўночнабеларускай культуры, — скульптурныя выявы людзей малых формаў, на нашай тэрыторыі знойдзеныя ў Асаўцы-2 (Чарняўскі, 1973). Адна статуэтка была выразаная з цвёрдага ліснёвага дрэва і мае цёмна-

11* Зак. 1828

шэры колер, што выклікана, магчыма, націраннем адпаведным фарбавальнікам Выява ўяўляе галаву барадатага мужчыны з выразнымі і рэзка акрэсленымі рысамі твару (мал. 129 : 11). Ніжняя частка знаходкі адламаная. Выглядае, што галоўка пераходзіла ў стрыжань-жазло. Даўжыня захаванай на сёння часткі 9,5 см. Шэдэўрам першабытнага мастацтва з'яўляецца адламаная галоўка статуэткі з рогу даўжынёй 4,2 см (мал. 129 : 10). Гэта зноў жа вобраз мужчыны з вострай барадой, прамым носам, высокім ілбом і глыбокімі высвідраванымі вачніцамі. Вусны тонкія, сфармаваныя папярэчнай нарэзкай. На шыі каля самой асновы галавы прасвідравана адтуліна, выява таксама да нечага падвешвалася. Параўнанне статуэтак паказвае іх індывідуальнасць. Выконваючы пэўнае рытуальнае прызначэнне, яны ў той жа час падаюць, несумненна, еўрапеоідныя вобразы жыхароў наваколля колішняга Крывінскага возера.

Аднак статуэткі людзей пашкоджаныя. Акрамя двух галовак маецца толькі адламаная рагавая ножка (мал. 129 : 9). Цэлая выява знойдзена на паўночна-ўсходняй ускраіне паўночнабеларускай культуры на Усвяцкіх азёрах (М и к л я е в, 1967), аднак яна па майстэрству значна ўступае асавецкім аналагам.

Носьбіты паўночнабеларускай культуры былі знаёмыя і з музыкальным мастацтвам. Як сведчанне гэтага сустракаюцца жалейкі з костак канечнасцей буйных птушак (мал. 129 : 13).

У 70-я гады пры кар'ерных работах на пясчаным узгорку непадалёку Асаўца-2 быў знішчаны могільнік з трупапакладаннямі. На краі кар'єра захаваліся толькі часткі ям з закругленымі вугламі і з выразнымі слядамі вохры пры дне. Вельмі верагодна, што на могільніку хавалі памерлых з суседніх паселішчаў паўночнабеларускай культуры. Аднак і на саміх стаянках сустрэта даволі шмат матэрыялаў, якія сведчаць пра складаную сістэму светапогляду мясцовых жыхароў. Апісаныя вышэй скульптурныя выявы звяроў, птушак і змей не толькі выяўлялі пэўныя эстэтычныя запатрабаванні, але найперш былі рэчамі культавымі, з дапамогай якіх чалавек хацеў уздзейнічаць на азёрна-лясное асяроддзе, з якім быў непарыўна зніταваны. Выразаныя з дрэва і рогу статуэткі мужчын гавораць аб традыцыйна значнай ролі паляўнічага-здабытчыка ў познанеалітычных і раннебронзавых грамадствах лясной зоны. Аднак пранікненне цэнтральнаеўрапейскіх груп насельніцтва, распаўсюджанне жывёлагадоўлі і асабліва земляробства дапаўнялі светапогляд паляўнічага і рыбака ўяўленнямі аб пладнасці зямлі, моцы нябесных свяцілаў і агню, што выяўлялася ў адпаведных рэлігійных вераваннях. З гэтым звязваецца з'яўленне на кераміцы кампазіцый з ромбаў, паўсфер, упісаных у акружнасці крыжоў, спалучаных трохкутнікаў, радыяльных узораў на плоскіх днах пасудзін. Сведчаннямі нейкіх магічных дзеянняў з'яўляюцца дробныя фрагменты чалавечых чарапоў, што сустракаюцца на шэрагу крывінскіх стаянак

**Гаспадарчыя заняткі насельніцтва паўночнабеларускай культуры.** Асноўную ўвагу ў паўсядзённым жыцці жыхары крывінскіх тарфянікавых стаянак надавалі традыцыйным неалітычным заняткам — паляванню, рыбалоўству і збіральніцтву. Гэтаму самым спрыяльным чынам садзейнічала акаляючае асяроддзе — лясы, вадаёмы, неабсяжныя балоты.

На існаванне інтэнсіўнага палявання ўказвае не толькі наяўнасць зброі — наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і кінжалы, але найбольш астэалагічны матэрыял (Б і б і к а в а, 1972; S c e g l o v a, 1975). Сярод яго каля 75%

складаюць косткі дзікіх жывёлін. Найбольш распаўсюджаным аб'ектам палявання быў лось. На яго прыпадала трэцяя частка ад усіх упаляваных млекакормячых, а сярод мясных гэтыя суадносіны яшчэ больш узрастаюць. Другое месца ў мясным рацыёне крывінскага насельніцтва займаў дзік. На трэцім месцы знаходзіўся мядзведзь. Значна менш спажывы давала паляванне на высакароднага аленя. На апошніх месцах знаходзіліся тур, казуля, зубр. Зразумела, што гэтыя паказчыкі былі ў прамой залежнасці ад колькасці канкрэтнага віду ў наваколлі. Мясцовыя ўмовы найбольш спрыялі для размнажэння менавіта ласёў і дзікіх свіней.

Для здабычы пушніны вялося паляванне на куніц, барсука, лісіцу, выдру. Аднак костак гэтых жывёлін на паселішчах сустракаецца мала, таму што здабытчыкаў цікавіла найперш шкура. Шмат у культурных напластаваннях костак бабра. Ён даваў не толькі футра, але і спажыву, што пацвярджаецца патрушчанымі косткамі яго канечнасцей.

Калі меркаваць па памерах костак, забіваліся дарослыя асобіны — фауна выкарыстоўвалася рацыянальна.

Натуральна, што ў балотна-азёрным краі важным аб'ектам палявання з'яўляліся птушкі, пераважна вадаплаўныя (Б и б и к о в а, 1972). З улікам матэрыялаў Крывіны-1 і 2 здабывалі найбольш кракву, сярод костак трапляюцца рэшткі гусі звычайнай і гуменніка, шыраканоскі, шэрай качкі, шылахвоста, чырка-траскунка, гогаля, паганкі вялікай, гагары. Жыхары Асаўца-2 таксама палявалі пераважна на вадаплаўных птушак, асабліва на розныя віды качак.

Крывінскія паселішчы размяшчаліся на ўзбярэжжы вялікага возера з рознай глыбінёй, у тым ліку і больш за 10 м, аднак яно вызначалася пераважна плыткаводдзем, што вяло да даволі інтэнсіўнага зарастания. Берагавая лінія была звілістая, над водным люстэркам узвышаўся шэраг выспаў, у возера ўпадала некалькі ручаёў і рэчак, найбольшая была Крывінка, праз якую адбываўся і сток з вадаёма ў недалёкую Дзвіну. Такія ўмовы спрыялі багаццю воднай фауны, што было адной з прычын густой заселенасці рэгіёна першабытным чалавекам, які знаходзіў тут сабе дастаткова спажывы, у тым ліку і шляхам рыбалоўства.

Сведчанняў рыбалоўства шмат. Гэта гарпуны і кручкі, грузілы і паплаўкі да сетак, рэшткі пастак з прутоў і лучынак, пешні для падлёднай лоўлі з масіўных трубчатых костак, выкарыстанне чоўнаў. Найбольш яскравыя доказы рыбалоўства — косткі рыбы і луска. Скапленні апошняй у Асаўцы-2 утвараюць лінзы таўшчынёй да 10 і больш см З усіх вызначаных Я. Слока костак рыб з Асаўца-2 34% належалі акуню (даўжыня асобін 10—27 см). Сярод азёрнай здабычы яму толькі крыху ўступаў шчупак — 25,4% (20—106 см), 20.3% складалі косткі ляшча (10—38 см), 11,9% — плоткі (6—20 см), 7,6% — ліня (10—32 см). Толькі долі працэнта прыпадалі на косткі сома (60—100 см), карася (33 см), ярша (13 см). Звяртае на сябе ўвагу і тое, што ў ежу ішла і зусім дробная рыба. Хутчэй за ўсё яе спажывалі ў сушаным выглядзе.

Збіральніцтва — трэцяя з вядучых формаў гаспадарчай дзейнасці чалавека ў лясной зоне нават у раннім бронзавым веку. Яно было асноўнай крыніцай раслітннай ежы. У наваколлі маглі збіраць у вялікай колькасці грыбы, ягады, розныя травы і плады. У напластаваннях крывінскіх стаянак даволі шмат рэшткаў лясных і вадзяных арэхаў, жалудоў, насення жоўтай лілеі, карнявішчы якой таксама ішлі ў ежу. Шмат на помніках і ракавін перлавіцы. Зразумела, што яны ў здробненым выглядзе ішлі на дамешку пры лепцы

посуду, аднак запасы малюскаў у развалах некаторых гаршкоў даюць магчымасць дапусціць, што іх мяса спажывалася чалавекам.

Пры раскопках на тарфяніках сустракаецца шмат сведчанняў і штодзённых побытавых заняткаў мясцовых жыхароў — ганчарства, апрацоўкі каменя, рагоў і костак, дрэваапрацоўкі, пляцення і г. д.

Калі існаванне вытворных формаў гаспадарання ў ранейшы час на беларускай поўначы даволі няпэўнае, то пры даследаваннях старажытнасцей паўночнабеларускай культуры атрыманы несумненныя сведчанні заняткаў земляробствам і асабліва жывёлагадоўляй.

Паўночнабеларуская культура фарміравалася адначасова з пранікненнем на Падзвінне носьбітаў культуры шнуравой керамікі, якія былі знаёмы з новымі формамі гаспадарання, у тым ліку і з земляробствам. Калі нават дапусціць, што позняя нарвенцы яшчэ практыкавалі толькі прысвойвальныя заняткі, то на сумежжы 2-га і 3-га тысячагоддзяў да н. э. паазерцы маглі запазычыць земляробства ад находнікаў. Маюцца і рэчавыя доказы земляробства — каменныя матыкі, у тым ліку і з прасвідраванай для рукаяткі адтулінай. Такія ж сведчанні ў выглядзе прылад для расцірання зерня, капачоў і ручных рал з дрэва і костак знойдзены і ў Прыбалтыцы. Там яны нават больш старажытныя і звязваюцца з нарвенскай культурай (Л о з е, 1988. С 116; R i m a n t i e n ė, 1992. P. 120—126).

Сярод астэалагічнага матэрыялу на крывінскіх паселішчах косткі свойскіх жывёлін займаюць каля 25%. Гэта высокі паказчык, калі ўлічваць інтэнсіўнае паляванне. Значыць, каля чвэрці мяснога харчавання мясцовае насельніцтва ўжо мэтанакіравана атрымлівала само гадоўляй хатняй жывёлы (Б и б и к о в а, 1972; S c e g l o v a, 1975; Щ е г л о в а, 1976б). Прыкладна трэцюю частку статка на Асаўцы-2 складалі каровы і свінні, коней было каля 17%, значна менш разводзілі коз і авечак. Апошнія, больш прыстасаваныя да горнай або стэпавай мясцовасці, яшчэ не паспелі адаптавацца як належыць у лясной зоне. А вось свінні, як і іх дзікія сародзічы, знаходзілі сабе харч у навакольных лясах. Памочнікам чалавека ў выпасе жывёлы ўжо быў сабака.

**Паходжанне паўночнабеларускай культуры. Гістарычны лёс яе носьбітаў.** На стаянках Паазер'я заўважаецца пэўнае падабенства паміж керамікай паўночнабеларускай і папярэдняй — нарвенскай. Посуд захаваў дамешкі ў цесце тоўчаных ракавін, прыкругленасць вострых днoў, вялікую колькасць насечак у арнаментах параўнальна з іншымі элементамі, наяўнасць тонкіх грабеньчатых адбіткаў і розных ямак-наколаў. У той жа час прыкметны і шэраг навацый. Посуд з верхніх пластоў крывінскіх паселішчаў пачаў па паверхнях заштрыхоўвацца. тэхніка тарцовага прылепу гліняных стужак пры лепцы гаршкоў замяняецца косым прылепам. Больш разнастайнымі робяцца керамічныя формы. Практычна цалкам знікаюць скосы на краі венцаў, вусеневых адбіткаў у арнаментацыі становіцца значна менш і яны набываюць некалькі іншую форму. Істотным пры аздабленні керамікі робіцца звычай шчыльна пакрываць узорам усю паверхню вырабу. Рысы падабенства сведчаць, што паміж паўночнабеларускай і нарвенскай керамікамі можна прасачыць пэўныя генетычныя сувязі, аднак істотныя змены ў тэхналогіі, формах і арнаментаванні посуду вымагаюць шукаць знешнія культурныя імпульсы.

На паўночных тэрыторыях, што мяжуюць з Беларуссю, помнікі з позняй нарвенскай керамікай змяніліся стаянкамі з керамікай, на якой сустракаюцца тэкстыльныя адбіткі, і пры гэтым адчуваецца ўплыў шнуравікоў. У той жа час

тут адсутнічаюць выразныя шчыльна арнаментаваныя матэрыялы, як на Паазер'і. Аднак кераміка тыпу верхняга пласта Крывіны амаль не мае слядоў тэкстылю. З гэтага вынікае, што поўнач не была пабуджальнікам істотных культурных змен у арэале паўночнабеларускай культуры. Не прасочваюцца на Паазер'і ўплывы і з захаду Беларусі, які займалі плямёны нёманскай культуры (Чарняўскі, 1979). Характэрна пры гэтым, што на Нарачанскіх азёрах (Схема-1 і 2) вельмі слаба праяўляецца паўночнабеларуская культура. Тут уплыў шнуравой керамікі накладваўся непасрэдна на нарвенскую.

Больш плённымі выглядаюць пошукі імпульсу фарміравання паўночнабеларускай супольнасці на землях на поўдзень ад Падзвіння, якія праз увесь неаліт, у тым ліку і на яго завяршальнай фазе, засялялі плямёны верхнедняпроўскай культуры (Калечыц, 1987). Менавіта на мясцовых помніках сустрэта вастрадонная кераміка, аздобленая па ўсёй паверхні шчыльнымі паясамі грабеньчатых адбіткаў, насечак і своеасаблівых наколаў. Пры гэтым насечкі і грэбень нярэдка размяшчаліся ў шахматным парадку (Калечыц, 1987 (мал. 52, 53)). Напрыклад, вельмі падобная да паўночнабеларускіх матэрыялаў пасудзіна са стаянкі Мошка на Гомельшчыне (Артеменко, 1964 (мал. 3)).

У крамянёвым інвентары шмат пераемнасці з традыцыямі нарвенскай культуры, асабліва гэта прыкметна ў формах наканечнікаў стрэл і коп'яў. Тое ж заўважаецца пры параўнанні матэрыялаў Паазер'я з аналагічнымі знаходкамі Падняпроўя.

Пераход ад нарвенскай да паўночнабеларускай культурнай традыцыі адбыўся, відаць, імкліва. Пра гэта сведчыць малая колькасць элементаў пераходнага характару. А вось у больш аддаленым ад Падняпроўя Усвяцкім рэгіёне пераходных матэрыялаў значна больш (Микляев, 1995. С. 21) — туды імпульс даходзіў аслаблены прасторай і часам.

У пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э., а можа, нават і некалькі раней, у Беларускім Падняпроўі з'яўляецца актыўнае насельніцтва аднрй з культур шнуравой керамікі — сярэднедняпроўскай (Артеменко, 1967а). У выніку гэтага частка мясцовага познанеалітычнага насельніцтва верхнедняпроўскай культуры, мабыць, была вымушана адступіць на поўнач да водападзелу Дняпра з Дзвіной, а часткова перасяліцца ў Падзвінне. Вынікам такой міграцыі і стала змена этнакультурнай сітуацыі на поўначы Беларусі. Але неўзабаве на тое ж Падзвінне пранікаюць і групы шнуравікоў. Пры гэтым такое пранікненне магло ісці як з Падняпроўя, так і з захаду ад Прыбалтыкі, дзе знаходзіліся пляМёны іншай культуры шнуравой керамікі — жуцаўскай (прыбалтыйскай, паморскай). У гэты час у кераміцы на паселішчах беларускага Паазер'я з'яўляецца пласкадонны посуд, круглдонныя місачкі з эсападобным профілем і амфарападобнае начынне. Пад уплывам шнуравікоў з'яўляюцца і новыя элементы і матывы ў арнаментацыі — адбіткі шнура, лінейнага штампа, з'яўленне трохкутнікаў, канцэнтрацыя ўзору пад верхам некаторых пасудзін Новую адметнасць паляўнічай зброі і прыладам працы паазерскага насельніцтва надаюць з'яўленне сэрцападобных наканечнікаў стрэл, шліфаваных крамянёвых сякер і сякер каменных са свідраванай адтулінай. Відавочна, што ўплывы шнуравікоў у арэале паўночнабеларускіх плямёнаў праяўляліся па-рознаму — больш адчувальна на поўдні і захадзе.

Такім чынам, на думку аўтара, паўночнабеларуская культура стала вельмі самабытнай з'явай на мяжы познакаменнага і бронзавага вякоў, як вынік сінтэзу мясцовай нарвенскай традыцыі з падняпроўскімі познанеалітычнымі

ўплывамі, пры ўдзеле носьбітаў культур шнуравой керамікі. А. М. Мікляеў далучае яе да кола апошніх (Микляев, 1995. С. 21). Аднак для гэтага пакуль што недастаткова даных.

Паўночнабеларуская культура на Віцебшчыне працягвала існаваць не толькі ў сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э., але і ў яго трэцяй чвэрці. На гэта ўказваюць датаванні з Асаўца-2 — 3500±50 (ЛЕ—753) і 3350±60 гадоў назад (Долуханов, Лийва, Микляев, 1978. С. 29). Ва ўжытку жыхароў крывінскіх стаянак у гэты час з'яўляецца посуд з ружанцавымі арнаментамі, што можа сведчыць пра ўплывы з поўдня з рэгіёна тшцінецка-сосніцкай супольнасці. Вядомы быў і адносна гладкасценны посуд з плоскім дном, які стаў прататыпам гаршкоў днепра-дзвінскай культуры жалезнага веку. Магчыма, да гэтага заключнага этапу існавання крывінскіх помнікаў адносіцца і меднае шыла, знойдзенае ў самым верхнім пласце Асаўца-2.

Найбольш позні матэрыялы паўночнабеларускай культуры былі атрыманы і на стаянцы каля в. Кастыкі Вілейскага раёна на правабярэжжы Віліі. Знаходак тут мала, але сярод іх пласкадонны гаршчок з тычкавым арнаментам, падобная ж пасудзіна з ружанцам і плоская бронзавая сякера архаічнага выгляду.

Пакуль што пытанне гістарычнага лёсу носьбітаў паўночнабеларускай культуры застаецца адкрытым з-за недастатковай даследаванасці позняга бронзавага веку Паазер'я. Аднак вынікае, што іх нашчадкі прымалі пэўны ўдзел у фарміраванні мясцовай культуры жалезнага веку.

## 5. ТШЦІНЕЦКАЯ КУЛЬТУРА

Помнікі тшцінецка-камароўска-сосніцкай супольнасці адзначаюцца даследчыкамі на прасторах лясной зоны Сярэдне-Усходняй Еўропы ад Вісла-Одэрскага міжрэчча да Падзясення, уключаючы паўднёвую, паўднёва-ўсходнюю тэрыторыі Беларусі, частку Беларускага Панямоння. Паводле самых розных меркаванняў, у межах Беларусі вылучаюцца помнікі тшцінецкай ці ўсходнетшцінецкай культур, сосніцкай культуры ці сосніцкага варыянта ўсходнетшцінецкай культуры

У свой час А. Гардаўскі, абагульняючы матэрыялы тшцінецкай культуры ў Польшчы, акрэсліў магчымыя арэалы распаўсюджвання помнікаў тыпу Тшцінца на ўсходзе да нізоўяў Дзясны, уключаючы часткова і Прыпяцкае Палессе (Gardawski, 1959). С. С. Беразанская пасля вывучэння помнікаў сярэдняга перыяду бронзы на поўначы Украіны і знаёмства з матэрыяламі Паўднёвай Беларусі прапанавала раздзяліць вялікі тшцінецкі масіў помнікаў на заходні і ўсходні, вылучаючы апошні ва ўсходнетшцінецкую культуру, якая, на думку даследчыцы, займала тэрыторыю ад Заходняга Буга на захадзе і да Падзясення на ўсходзе, ад Львоўшчыны, Паўднёвага Буга на поўдні і да Прыпяцкага Палесся на поўначы. Усходнетшцінецкая культура разглядаецца ёю як частка камароўска-тшцінецкай культурнай вобласці (камароўская, заходне- і ўсходнетшцінецкая культуры). Непасрэдна ва ўсходнетшцінецкай культуры С. С. Беразанскай вылучаюцца чатыры варыянты, адзін з якіх, прыпяцкі, лакалізуецца ёю на ўсходзе ад упадзення Цецерава ў Днепр да Заходняга Буга на захадзе, уключаючы нізоўі правабярэжных і левабярэжных прытокаў Прыпяці (Березанская, 1972). Да помнікаў прыпяцкага варыянта былі аднесены адкрытыя да таго часу

Н. Ф. Беляшэўскім, А. З. Каваленяю, С. С. Шутавым, К. М. Ляўданскім, А. Я. Рынейскім, П. Харашкевічам, Ю. У. Кухарэнкам, Л. Д. Побалем, У. Ф. Ісаенкам і іншымі месцазнаходжанні слядоў паселішчаў і пахаванняў сярэдняга перыяду бронзавага веку і Прыпяцкім Палессі Беларусі. Як меркаваў І. І. Арцёменка, з сярэднедняпроўскай культуры і прыблізна ў яе арэале, г. зн. і на ўсходзе Прыпяцкага Палесся, а таксама ў вярхоўях Нёмана. Падняпроўі, развіваліся помнікі вылучанай ім сосніцкай культуры. Помнікі сосніцкага тыпу былі апісаны С. С. Беразанскай яшчэ ў 50-х гадах (Березанская, 1957. С. 87—94). Пазней яны сталі разглядацца ёю як адзін з варыянтаў усходнетшцінецкай культуры (Березанская, 1972. С. 137—139). Сосніцкая група помнікаў, паводле С. С. Беразанскай, лакалізавалася ў левабярэжным Палессі па Сейму, Дзясне і на поўдні па лініі Кіеў—Ромны—Сумы межавалася з бандарыхінскай, зрубнай, а на ўсходзе — абашаўскай культурамі (Березанская, 1972. С. 130—131; 1974. С. 137—138).

Я. Дамброўскі. разглядаючы тшцінецка-камароўска-сосніцкую агульнасць і адзначаючы адмысловасць помнікаў сосніцкага тыпу, пашырыў арэал апошніх на тэрыторыі, што ляжаць на ўсход ад ніжняй Ясельды, верхняга Нёмана да вярхоўяў Іпуці і Сажа, Сейма і Дзясны. Паўночныя ўскраіны ўсходнетшцінецкай культуры, па яго меркаванню, даходзілі да Прыпяці (Dąbrowski, 1972). І. К. Свешнікаў перакана125ны, што тых лакальных асаблівасцей, на якія абапіраецца большасць даследчыкаў пры вылучэнні заходне-, усходнетшцінецкай, камароўскай, сосніцкай культур, зусім недастаткова, а таму прапануе пакуль адносіць іх да адной тшцінецка-камароўскай культуры (з яе лакальнымі групамі (варыянтамі), у ліку якіх валынская, прыпяцкая, сосніцкая трупы) (Свешников, 1990б. С. 78—88).

Супярэчлівае вызначэнне археолага-культурнага характеру тшцінецка-камароўска-сосніцкай супольнасці ва ўсходніх арэалах яе распаўсюджвання дае падставы ў пэўнай ступені пагадзіцца з меркаваннем І. К. Свешнікава пра недастатковую распрацаванасць крытэрыяў вылучэння тых ці іншых культур супольнасці. Верагодна, гэта ў найбольшей ступені тычыцца сосніцкай і ўсходнетшцінецкай культур. Мабыць, пакуль, ва ўсялякім разе ў адносінах да заходне- і ўсходнетшцінецкай культур, не адмаўляючы самога факта іх існавання, варта карыстацца тэрмінам «тшцінецкая культура», вылучаючы ў ёй адпаведныя групы помнікаў Да таго ж, у такім значэнні тэрмін традыцыйна ўжываецца ў беларускай археалагічнай літаратуры (У. Ф. Ісаенка, М. М. Чарняўскі). Што тычыцца сосніцкай культуры ці сосніцкай групы, то на сённяшнім этапе вывучэння мае сэнс з улікам тых асаблівасцей, якія вылучалі для сосніцкіх помнікаў найперш С. С. Беразанская і І. І. Арцеменка, абазначыць іх як помнікі сосніцкага тыпу.

Помнікі тшцінецкай культуры на поўдні Беларусі маюць сваю спецыфіку і пэўныя лакальныя адметнасці. Папярэдняе абагульненае вызначэнне лакальных груп магчыма пакуль на абмежаваным керамічным матэрыяле, які, да таго ж, найчасцей трапляў у калекцыі шляхам павярховых збораў. Логіка вылучэння тых ці іншых тэрытарыяльных адметнасцей паўднёвабеларускага «тшцінца» абумоўлена таксама накірункам традыцыйных сувязяў, ступенню інтэграванасці ў агульны масіў супольнасці і адмысловымі шляхамі яго ўзнікнення і развіцця. Варта дадаць, што ў спецыяльнай літаратуры ўжо як быццам акрэсліўся падыход да падзелу тшцінецкіх палескіх помнікаў на заходнія і ўсходнія (Ю. У. Кухарэнка, Я. Дамброўскі, І. І. Арцеменка) з аднаго боку і размежаванне апошніх на паўночныя і паўднёвыя

(Я. Дамброўскі, часткова С. С. Беразанская) з другога боку (К р ы в а л ь- ц э в і ч, 1995. С. 3—32).

**Турава-мазырская (прыпяцкая) група** (мал. 130). Асаблівасці помнікаў тшцінецкага часу ўздоўж Прыпяці адзначаліся ў свой час С. С. Беразанскай, якая адасобіла іх у прыпяцкі варыянт усходнетшцінецкай культуры (Б е р е з а н- с к а я, 1972. С. 130). У прыпяцкую, ці турава-мазырскую, групу помнікаў тшцінецкай культуры М. М. Крывальцэвічам папярэдне ўключаюцца ўсходнепалескія помнікі, размешчаныя на берагах сярэдняй-ніжняй Прыпяці, у нізоўях Гарыні, Сцвігі і некаторых іншых лева- і правабярэжных прытоках (К р ы в а л ь ц э в і ч, 1995. С 7—16).

Асноўныя іх скапленні вядомы ў нізоўях Убарці (Ліпляны-1, 2, 3, 5, 6, Майсеевічы-1, Шастовічы-3 і інш.) (К р ы в а л ь ц э в і ч, 1994а. С. 71—78), у міжрэччы ніжніх Гарыні і Сцвігі (Бухліцкі Хутар-1, Вікаровічы-1, 2, 3, Буразь і інш.) (К р ы в а л ь ц э в і ч, 1994б. С. 113—130), а таксама ўздоўж Прыпяці. Помнікі зафіксаваны галоўным чынам у выніку павярховых збораў. Амаль усе яны знаходзіліся на пясчаных узвышшах сярод пойменных балот абшырных далін палескіх рэк ці зрэдку на аканечнасцях мысападобных выступаў рачных тэрас, што вельмі рэдка, на тых высокіх берагах Прыпяці, да якіх падыходзіць русла ракі. Звычайна вышыня размяшчэння такіх паселішчаў над узроўнем поймы ў сярэднім вагалася ад 1,5 да 4 м, зрэдку — да 6—8 м. Адзначаецца «гнездавы» спосаб іх размяшчэння ці канцэнтрацыя ў колькасці да 5—6 паселішчаў на пэўных участках і адрэзках даліны ракі. Напрыклад, паселішчы Ліпляны-1, 2, 3, 5, 6 знойдзены ў непасрэднай блізкасці адно каля другога, на ўзвышшах сярод пашыранай тут балоцістай даліны Убарці, уздоўж старычных ці праточных утварэнняў.

На паверхні выдмаў удаецца звычайна сабраць абломкі посуду і крамянёвыя вырабы. Матэрыялы тшцінецкай культуры звычайна складаюць невялікі працэнт ад агульнай колькасці знаходак Здараецца, што гэты працэнт значны. Калі на адных узвышшах адшуканы рэшткі толькі ад некалькіх пасудзін, то на іншых колькасць іх можа складаць да 15—60 (Бухліцкі Хутар-1, Ліпляны-5, Майсеевічы-1). Не выключана, што ў некаторых выпадках гэта маглі быць рэшткі разбураных пахаванняў.

Сярод абследаваных помнікаў да аднаслойных паселішчаў тшцінецкай культуры, папярэдне, калі аналізаваць пад'ёмны матэрыял і вынікі шурфоўкі, можна аднесці Ліпляны-5. Сляды яго адкрыты за 2,5 км на ўсход — паўночны ўсход ад в. Ліпляны (Лельчыцкі раён Гомельскай вобласці) уздоўж абшырнага, вышынёю больш 1 м, роўнага ўзвышша. Магутнасць культурнага пласта складае 0,2—0,3 м. Паверхня разбурана ворывам і ветравой эрозіяй. Абломкі посуду і крамянёвыя вырабы знойдзены на плошчы 200 х 70 м.

У Бухліцкім Хутары-1 кераміка тшцінецкай культуры канцэнтравалася на адной з аканечнасцей абшырнай дзюны сярод пойменных балот і лугоў Гарыні на плошчы каля 40 х 45 м Даследавалася яма памерамі 1,10 х 0,6 м (глыбіня 0,35 м), запаўненне якой складалася з цёмна-шэрага пяску, паасобных вугельчыкаў, развала вялікай пасудзіны і абломкаў іншых 2—3 пасудзін тшцінецкага тыпу, 5 адшчэпаў крэменю, адшчэпа са слядамі рэтушы, нажа крамянёвага на пласціне са скошанай спінкай. Магчыма, гэта рэшткі ямы гаспадарчага прызначэння.

Асноўнай катэгорыяй знаходак, як і для большасці помнікаў тшцінецкай культуры, з'яўляецца керамічны посуд. Папярэдне ён можа размяркоўвацца на наступныя тыпы: 1) гаршкі сярэдніх памераў (дыяметр па венцу 11—18 см)

з патоўшчаным, скошаным вонкі, звычайна плаўна адагнутым венцам, умерана выпуклым тулавам і нешырокім дном; 2) гаршкі буйных памераў з шырокай гарлавінай (дыяметр па венцу да 26 см і больш) і параўнальна вузкім дном; 3) баначныя пасудзіны з не патоўшчанымі ці наадварот патоўшчанымі венцамі, край якіх скошваўся звычайна вонкі ці закругляўся; 4) буйныя баначныя пасудзіны з параўнальна прамымі венцамі і рэльефна выступаючымі валікамі на шыйцы. Акрамя таго, мусіць, на паселішчах турава-мазырскай групы рабіліся міскі, невялікія танкасценныя пасудзіны з завужаным дном, посуд накшталт друшлякоў.

Арнаментацыя на кераміцы складалася з пракрэсленых ліній, насечак, рысачак, ружанцавых, зубчатых адбіткаў, наколаў, ямак, «вусеняў», лінейнага штампа, шнуравых арнаментаў, адбіткаў трубчатай сцяблінай, кропкавых наколаў, валікападобных патаўшчэнняў. Пераважаюць упрыгожванні з пракрэсленых ліній, насечак, рысачак, ружанцавых адбіткаў, розных наколаў. Самае вялікае месца займаюць арнаментальныя матывы, утвораныя з пракрэсленых ліній пад краем венца і на шыйцы ў спалучэнні з заштрыхаванымі трохкутнікамі, участкамі наколаў, ямак, рысак. Зрэдку замест пракрэсленых ліній наносіліся ружанцавыя арнаменты. Часта сустракаюцца наколы пад краем венцаў, і, наадварот, рэдка можна сустрэць посуд, які аздабляўся вусеневымі, зубчатымі адбіткамі, лінейнымі штампамі. Пакрывалася арнаментам звычайна верхняя частка пасудзін (прыблізна 1/3 ці 1/4 частка вышыні). Аднак не выключана, што на некаторых пасудзінах арнамент размяшчаўся па ўсёй знешняй паверхні ад венца да дна.

Паверхня керамічнага посуду звычайна гладкая, часта ангабаваная вадкай глінай У якасці дамешак, як правіла, выкарыстоўвалася жарства сярэдніх, радзей буйных і дробных памераў.

Калі меркаваць па калекцыях даследаваных помнікаў, у сярэдні і позні перыяды бронзавага веку працягвалі выкарыстоўвацца чаранковыя наканечнікі стрэл з двухбаковай апрацоўкай. Вылучаюцца дзве іх разнавіднасці: чаранковыя з вылучанымі шыпамі і без шыпоў. Выкарыстоўваюцца некаторыя тыпы ножападобных прылад. Да катэгорыі грубых пласцінчатых нажоў варта аднесці выраб, знойдзены ў яме Бухліцкага Хутара-1. Мусіць, працягвалі выкарыстоўвацца нажы з шырокіх адшчэпаў і серпападобныя нажы, чаранковыя наканечнікі дроцікаў (Бухліцкі Хутар-1), шліфаваныя крамянёвыя сякеры (Загацце-2). Аднак большасць знойдзеных крамяневых вырабаў — абломкі крэменю з участкамі рэтушы, адшчэпы, сколы.

Да ўсходнетшцінецкай культуры С. С. Беразанская адносіць некаторыя тыпы цэльных, апрацаваных з двух бакоў крамянёвых сярпоў (Б е р е з а н с к а я, 1972. С. 98—100). На Палессі сярпы з'явіліся ў канцы неаліту, а іх масавая вытворчасць, як сцвярджае У. Ф. Ісаенка, прыходзіцца на сярэдні і позні перыяды бронзы (И с а е н к о, 1994. С. 9—23). Мабыць, тшцінецкім насельніцтвам рабілася большасць крамянёвых сярпоў, якія вядомы з павярховых збораў ва ўсходняй частцы Прыпяцкага Палесся. Магчыма, некаторыя з іх ці высакаякасная сыравіна для іх вырабу маглі трапляць з Заходняга Палесся, Валыні. На Валыні майстэрні, якія спецыялізаваліся на вытворчасці пэўных тыпаў вырабаў з крэменю, працягвалі яшчэ нейкі час дзейнічаць і ў сярэдні перыяд эпохі бронзы (Б е р е з а н с к а я, 1972. С. 94—97; С в е ш н и к о в, 1990. С. 82).

У 1927 г. А. Д Каваленя, С. С. Шутаў на месцы, як мяркуецца, разбураных (грунтавых?) пахаванняў каля в. Буразь (Жыткавіцкі раён Гомельскай

вобласці) ва ўрочышчы Казаргаць ці Горліца (Гарадзішча) сабралі рэшткі пасудзін цюльпанападобнай формы з патоўшчанымі касазрэзанымі вонкі венчыкамі. У 1989 г. сляды пахавання (з крэмацыяй?) знойдзены на паўночнай ускраіне в. Загацце (Загацце-2) (Жыткавіцкі раён) на разбураным ямай узвышшы сярод балоцістых прыпоймавых нізін Случы і Прыпяці. Такім чынам, у сярэднім цячэнні Прыпяці маглі мець месца грунтавыя (?) пахаванні з трупаспаленнем. Найбольш верагодна, яны размяшчаліся ў тых жа тапаграфічных умовах, што і паселішчы.

На фоне помнікаў турава-мазырскай групы, мусіць, мае сэнс вылучыць паселішча Бухліцкі Хутар-1 (Столінскі раён Брэсцкай вобласці) і іншыя блізкія па характару помнікі ў міжрэччы ніжніх Гарыні і Сцвігі (К р ы в а л ь ц э в і ч, 1994. С. 113—135). У арнаментацыі керамікі заўважаюцца некаторыя наступныя асаблівасці: актыўна выкарыстоўваецца чаргаванне вертыкальных і гарызантальных узораў, нанесеных рыскамі, кропкамі, кружкамі, радзей — ружанцамі. Акрамя таго, форма і арнаментацыя рэканструяванага гаршка з Бухліцкага Хутара-1 і нагадвае такія ж параўнальна шырока раскрытыя гаршкі з валікам і вузкім дном у мазавецкай групе тшцінецкай культуры і на Валыні (G a r d a w s k i, 1959 (табл. 42; 17)). Такім чынам, зусім магчыма, што развіццё помнікаў тыпу Бухліцкага Хутара-1 адбывалася пад вялікім уплывам суседзяў з паўднёвага захаду — захаду, найперш вылучанай І. К Свешнікавым валынскай групы. Дарэчы, у свой час С. С. Березанская адзначала той факт, што ў керамічнай вытворчасці ўсходнетшцінецкіх помнікаў уздоўж Прыпяці заўважаюцца некаторыя прыкметы, уласцівыя помнікам заходнетшцінецкіх тэрыторый ( Б е р е з а н с к а я , 1972. С. 130). На магчымасць моцнага ўздзеяння з захаду — паўднёвага захаду, г. зн. з (заходне)тшцінецкага арэала на помнікі міжрэчча нізоўяў Стыры і Гарыні, у тым ліку і на ўчастку Прыпяці ад Турава да вусця Стыры, пісаў Я. Дамброўскі, а затым і І. І. Арцёменка (Dąbrowski, 1972; А р т е м е н к о , 1977).

**Паўночнапалеская група** (мал. 131). Да апошняга часу характар старажытнасцей як ранняга, так і сярэдняга перыядаў бронзавага веку на поўначы Прыпяцкага Палесся заставаўся амаль невядомым. Раскопкі і разведкі ў левабярэжжы Прыпяці дазваляюць папярэдне вылучыць помнікі тыпу Азярнога-1 ці паўночнапалескую групу помнікаў сярэдняга перыяду бронзы. Пакуль яны фіксуюцца на поўначы Цэнтральнага Палесся. Выходны матэрыял для іх вылучэння і характарыстыкі атрыманы пры раскопках Азярнога-1, Старых Юрковіч-1 (Любанскі раён Мінскай вобласці), павярховых зборах пад Глускам (Магілёўская вобласць), каля Новых Юрковіч (Любанскі раён) і некаторых іншых помнікаў, размешчаных на левых прытоках Сярэдняй Прыпяці (К р и в а л ь ц е в и ч , 1991; К р ы в а л ь ц э в і ч , 1995. С. 16—26).

Паселішча Азярное-1 адкрыта і раскопвалася М. М. Крывальцэвічам на плошчы 776 м$^2$ у 1985—1988 гг. Культурныя рэшткі сярэдняга перыяду эпохі бронзы, як і старажытнасці неалітычнага часу, сярэднедняпроўскай культуры, фіксаваліся на плошчы 145х95 м, галоўным чынам на паўднёвай — паўднёва-заходняй аканечнасці ўзвышша (вышыня да 4,8 м).

На паселішчы знойдзены абломкі каля 45 пасудзін тшцінецка-сосніцкага тыпу. Прасочваюцца наступныя асноўныя тыпы посуду: гаршкі, баначныя пасудзіны вялікіх памераў, міскі. Пераважае посуд з патоўшчанымі венцамі. Некаторыя пасудзіны такога патаўшчэння не маюць. Заўважаецца, што венца зрэдку патоўшчвалася ў выніку налепу дадатковага жгута па знешняму краю. Венцы скошваліся вонкі, зрэзваліся гарызантальна, закругляліся. У

гаршкоў дыяметры гарлавін вагаліся ў межах 11—21 см, у баначных пасудзін — 26—35 см

У арнаментацыі, як заўважана, дамінуюць ружанцавыя аздабленні. Адзначаюцца таксама ўпрыгожванні ў выглядзе шнуравых адбіткаў, ямкавыя наколы, лінейныя штампы, а ў адзінкавых выпадках — прадаўгаватыя падавальныя адбіткі, зубчаты арнамент, бакавыя наколы, пракрэсленыя лініі, вусеневыя арнаменты. Арнаментальныя элементы згрупаваны галоўным чынам у гарызантальныя рады нахіленых адбіткаў, у гарызантальныя «ёлачныя» ўзоры, зігзагі, вертыкальныя «ёлачныя» матывы. Самы распаўсюджаны матыў — гарызантальны ці вертыкальны ёлачны ўзор у спалучэнні з выцягнутымі ў адну ці некалькі ліній адбіткамі.

Найчасцей арнаментавалася ўся паверхня пасудзін, у тым ліку зрэзы венчыкаў, дны. Аднак частка посуду аздоблена толькі на венчыках, шыйках, плечуках, і толькі некаторыя пасудзіны зусім не ўпрыгожваліся арнаментам. Характэрна многазанальнасць арнаментацыі посуду. На некаторых пасудзінах налепліваўся валік.

Большасць абломкаў карычневага, шэрага, шэра-карычневага колеру. У якасці мінеральнай дамешкі выкарыстоўваліся пясок, буйная і дробная жарства. Посуд з дамешкамі жарствы звычайна ангабаваўся ці проста добра загладжваўся, захоўваючы пры гэтым часам сляды заціранне паверхні травою (?). На посудзе з жарствою і ангобам пераважае ружанцавы арнамент. На астатніх часцей заўважаюцца зубчатыя і вусеневыя адбіткі. Як і ў Пустынцы (Березанская, 1974), дно выраблялася з суцэльнага кавалка гліны, а венца магло патаўшчацца метадам прымацавання дадатковага глінянага жгута звонку.

На раннім этапе, верагодна, выраблялася кераміка, галоўным чынам арнаментаваная зубчатымі, вусеневымі, лінейнымі штампамі, шнуравымі адбіткамі. Пераважаў посуд са шматзанальнай арнаментацыяй па ўсёй паверхні. Храналагічна ранняй керамікі папярэднічаў посуд, які меў такое ж па спосабу нанясення аздабленне, патоўшчаныя (з «каўнерыкамі»), часам скошаныя вонкі венцы, але зроблены з гліны, у якую дамешваўся шамот. Тут, як у комплексе знаходак паселішча Ісакоўка на Жытоміршчыне (Березанська, Охріменко, Пясецкий, 1987. С. 50—58), адзначаецца кераміка, якая, верагодна, адлюстроўвае пачатковы этап фарміравання традыцый тшцінецкага часу з добра захаваным, калі мець на ўвазе форму і арнаментацыю посуду, кампанентам сярэднедняпроўскай культуры. На познім этапе ў глінянае цеста часцей дабаўлялася жарства, паверхня ангабавалася. Выкарыстоўваліся звычайна ружанцавыя арнаменты. Распаўсюджвалася кераміка з валікамі, адна-, двухзанальная арнаментацыя верхніх частак пасудзін.

У керамічным комплексе сярэдняга перыяду бронзы Старых Юрковіч-1 налічваецца ўсяго каля 40 абломкаў ад 5—7 пасудзін. Ён параўнальна аднастайны. Пасудзіны буйныя, аднатыпныя, з ружанцавым арнаментам і патоўшчаным, адагнутым вонкі венцам. На шыйцы аднаго з іх валік. Посуд зроблены з добра адмучанай светлай гліны з дамешкамі буйна і дробна пакрышанага каменя. Паверхня ангабавалася, у адным выпадку нават да бляску. Пасудзіны шыракагорлыя (дыяметр аднаго з іх каля 30 см), з выгнутаю шыйкай, на якую наносіліся глыбокія ямкі. Гэты комплекс, магчыма, адлюстроўвае позні этап развіцця тшцінецкай керамічнай вытворчасці.

Як і на паўднёвых помніках Прыпяцкага Палесся, на поўначы найбольш распаўсюджаным тыпам посуду трэба, мусіць, лічыць гаршкі з патоўшчаным, плаўна адагнутым венцам. Мяркуецца, што найчасцей такія гаршкі рабіліся з выпуклым тулавам і вузкім дном. Выяўляюцца баначныя пасудзіны з высокімі, крыху выпуклымі сценкамі. Знойдзены таксама шлемападобныя міскі.

Магчыма, да неалітычных традыцый адносіцца звычай упрыгожваць посуд зубчатым, накольчатым, вусеневым арнаментамі. Такія элементы аздаблення посуду ў найбольшай ступені характэрны для паўночнапалескіх помнікаў. «Вусенькі» выконваліся кароткім штампам, г. зн. набліжаліся па форме да вусеневых, лапчатых неалітычных арнаментаў. Акрамя таго, як ужо заўважалася С. С. Беразанскай, вытокі ружанцавай арнаментацыі («калючы дрот») трэба шукаць у неалітычных культурах (Березанская, 1972. С. 121).

На паўночных помніках назіраецца вялікая разнастайнасць матываў арнаментацыі посуду. Разам з тым заўважаецца, што тут асноўны ўзор звычайна складаўся з гарызантальна арыентаваных адбіткаў у спалучэнні з «елачкай». Даволі часта сустракаецца ёлачны ўзор у выглядзе пасоў нахіленых адбіткаў, трохкутнікі, вертыкальныя «елкі», ламаныя зігзагі.

Верагодна, для ранняй паўночнапалескай керамікі характэрна шматзанальная арнаментацыя ўсёй паверхні пасудзіны. Гэта традыцыя на паўночных тэрыторыях, магчыма, захавалася і пазней. На поўдні арнаментацыя, як правіла, абмяжоўвалася зонаю верхніх частак пасудзін ад венцаў да плечукоў.

Вылучэнне крамянёвых, каменных вырабаў, якія маглі б характарызаваць паўночнапалескія помнікі, пакуль не ўяўляецца магчымым. Не выключана, што ў гэты час у паўночных раёнах Палесся выкарыстоўвалі некаторыя тыпы каменных і крамянёвых сякер, каменныя свідраваныя матыкі. Знойдзена некалькі крамянёвых сярпоў, якія нагадваюць вырабы валынскага тыпу.

Пакуль застаецца праблематычным канчатковае археолага-культурнае вызначэнне помнікаў паўночнапалескай групы. Несумненна, помнікі тыпу Азярнога-1 звязаны з тшцінецка-камароўска-сосніцкай агульнасцю. Разам з тым пакуль няпроста канстатаваць ступень іх інтэграванасці ў гэтую агульнасць. Варта для пачатку прызнаць тое, што ў рамках супольнасці, калі меркаваць галоўным чынам па даследаваннях керамікі, што яны, верагодна, знаходзіліся ў цеснай сувязі з помнікамі сосніцкага тыпу турава-мазырскай групы. Што аб'ядноўвае іх з помнікамі тыпу Сосніца? Як і на Падняпроўі, тут ляпіўся посуд з больш-менш акрэсленым перагінам на корпусе, завужанаю гарлавінаю і выпуклым тулавам. Распаўсюджваецца кераміка, арнаментаваная па ўсёй паверхні, з выкарыстаннем вялікай колькасці ружанцавага, радзей зубчатага арнаменту, штампаў у выглядзе «перавітага шнура» (вусеневы арнамент). Назіраецца падабенства ў некаторых матывах арнаментацыі. Разам з тым на паўночнапалескіх паселішчах у адрозненне ад тыпова сосніцкіх Падняпроўя рэдка сустракаецца кераміка, упрыгожаная пракрэсленымі лініямі, звіслымі трохкутнікамі. Дарэчы, іх амаль няма і на папярэдніх мясцовых помніках прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры. Аднак, з другога боку, вялікая ўвага на поўначы Палесся надаецца матывам у выглядзе зігзагаў, арнаментальным элементам тыпу «вусенек», лінейнага штампа, насечак.

Помнікі турава-мазырскай групы, несумненна, бліжэй у параўнанні з паўночнапалескай групай па сваіх прыкметах да старажытнасцей Украінскага Правабярэжжа і Валыні. Магчыма, гэта вынікала з таго, што жыхары тшцінецкіх паселішчаў турава-мазырскай групы прымалі больш актыўны

ўдзел у параўнанні з паўночнапалескім насельніцтвам у традыцыйных сувязях, перш за ўсё з тшцінецкімі плямёнамі, якія насялялі Правабярэжную Украіну.

**Помнікі Заходняга Палесся і Панямоння** (мал. 132). Паведамленні пра помнікі тшцінецкага часу на захадзе Беларускага Палесся застаюцца надзвычай скупымі. Матэрыялы раскопак паселішчаў з адкладаннямі гэтага часу пакуль не публікаваліся. Некаторыя звесткі пра іх можна атрымаць галоўным чынам з абзорных артыкулаў У. Ф. Ісаенкі (Исаенко, 1976—1987), публікацый Ю. У. Кухарэнкі (Кухаренко, 1962; 1965), аналізу пад'ёмнага матэрыялу.

Помнікі размешчаны пераважна па краях узвышшаў і мысападобных аканечнасцей у поймах рэк і азёр, сярод нізін і балот. У басейне Заходняга Буга на адным з пясчаных узвышшаў, што на поўдзень ад в. Прылукі, Н. Ф. Беляшэўскім у 1888 г. адшуканы сляды пахаванняў з рэшткамі крэмацыі, дзвюма пасудзінамі тшцінецкага тыпу і крамянёвымі чаранковымі наканечнікамі стрэл (Беляшевский, 1901).

Заўважаюцца наступныя асноўныя формы посуду: гаршкі, міскі — канічныя, шлемападобныя і, верагодна, сферычныя; кубкі, пасудзіны са зведзенымі ўнутр краямі. Пры аздабленні керамікі наносіліся пракрэсленыя гарызантальныя лініі ў верхняй частцы пасудзін, паўкругавыя пракрэсленыя лініі, паралельныя зігзагападобныя пасы, дробныя наколы разнастайных форм, ружанцавыя, вусеневыя, шнуравыя арнаменты, косыя пракрэсленыя лініі, насечкі, валікі на шыйцы і некаторыя іншыя элементы і матывы арнаментацыі. Упрыгожванні ў выглядзе паралельных пракрэсленых ліній маглі рабіцца, верагодна, грэбенем, так як гэта шырока распаўсюджана на помніках мазавецкай групы тшцінецкай культуры (Miśkiewicz, 1978. S. 180). Паверхня пасудзін найчасцей ангабавалася, гладка загладжвалася. У якасці дамешак звычайна выкарыстоўвалася жарства.

Распаўсюджваліся чаранковыя, трохкутныя з глыбокай выемкай на аснове, апрацаваныя з двух бакоў наканечнікі стрэл, магчыма, чаранковыя наканечнікі коп'яў, крамянёвыя сярпы, у іх ліку валынскага тыпу з шырокай пяткай, выгнутыя з вузкай пяткай.

Параўнанне керамікі заходнепалескіх помнікаў Беларусі, з аднаго боку, з тшцінецкім посудам Усходняй Польшчы і Заходняй Валыні, з другога боку, дазваляюць адзначаць іх падабенства ў форме місак (канічных і шлемападобных), пасудзін са зведзенымі ўнутр краямі, невялікіх кубкаў з прамымі ці крыху выпуклымі тулавамі. У арнаментацыі посуду Заходняга Палесся сустракаюцца арнаменты, якія складаюцца з чаргавання вертыкальных і гарызантальных узораў, выкананых рыскамі, наколамі, кружочкамі, насечкамі, пракрэсленымі лініямі. Такія ж матывы можна прасачыць на кераміцы суседніх паўднёвых і паўднёва-заходніх тэрыторый. Збліжаюць іх і такія арнаменты, як пракрэсленыя зігзагі, паўкругі, пракрэсліванні грэбенем (?) і інш.

У паўночна-ўсходніх раёнах Заходняга Палесся Беларусі, а гэта галоўным чынам у басейне ракі Ясельды, сустракаецца кераміка з ружанцавым, вусеневым арнаментамі, наколамі розных формаў, г. зн. прыкметамі, характэрнымі ў большай ступені для помнікаў паўночнапалескай групы. Аднак пакуль цяжка прасачыць характар сувязі помнікаў з берагоў Ясельды і паўночнапалескай групы тыпу Азярнога-1, як і няпроста прыйсці да высновы, наколькі далека на поўнач маглі распаўсюджвацца помнікі тшцінецкага тыпу. Параўнальна вялікая іх колькасць адзначаецца апошнім часам у басейне верхняга Нёмана (Лакіза, 1996. С 77—93).

Пра тшцінецкую прыналежнасць некаторых знаходак з Паўднёвага Панямоння яшчэ ў 60-я гады пісаў М. М. Чарняўскі (Исаенко, Чернявский, 1967а. С. 158—159). Пазней С. С. Беразанская ўключыла частку Панямоння ў арэал распаўсюджвання тшцінецкай культуры (Березанская. 1972: 1974). Вылучаючы сосніцкую культуру, І. І. Арцёменка лічыў некаторыя з помнікаў Панямоння сосніцкімі (Артеменко, 1987. С. 106—116). На думку Я. Дамброўскага, Панямонне — рэгіён памежнага суіснавання тшцінецкіх і сосніцкіх старажытнасцей (Dąbrowski, 1972).

Паводле меркаванняў В. Л. Лакізы, на тэрыторыі Беларускага Панямоння выяўлена 23 помнікі са знаходкамі тшцінецка-сосніцкага тыпу (Лакіза. 1996. С. 77—94). Пераважная большасць іх фіксавалася на надпоймавых дзюнах, на ўчастках рачных тэрас. Назіраецца групавая канцэнтрацыя месцазнаходжанняў. Знаходкі складаюцца з паасобных керамічнЫх і крамянёвых вырабаў.

Звычайна сярод выяўленага матэрыялу вылучаюцца абломкі цюльпанападобных гаршкоў з дыяметрам па венцу да 11—14,5 см. Глінянае цеста замешвалася з дробнай ці сярэдніх памераў жарствой. Паверхня гладкая, часта ангабаваная. Венцы патоўшчаныя, зрэзаныя вонкі ці закругленыя. Дны параўнальна тоўстыя. Аздабленне посуду складалася з пракрэсленых ліній, ружанцавых адбіткаў, лінейнага штампа, шнуравых арнаментаў, насечак, валікападобных патаўшчэнняў. Арнаменты згрупаваны ў гарызантальныя рады, зігзагі. Звычайна ўпрыгожвалася верхняя частка пасудзін, а ў некаторых выпадках арнамент займаў спрэс усю знешнюю паверхню, у тым ліку і дно. Асноўная роля ў арнаментацыі належала пракрэсленым лініям і ружанцам.

На Шчары каля в. Чарлёнка выяўлены керамічныя так званыя «рагатыя» праселкі, якія з'яўляюцца адным з распаўсюджаных тшцінецкіх прыкмет тшцінецка-камароўска-сосніцкай супольнасці (Лакіза, 1996. С. 80).

Частка знойдзеных крамянёвых сэрцападобных, трохкутных без чаранкоў і чаранковых наканечнікаў стрэл з двухбаковай апрацоўкай таксама магла выкарыстоўвацца тшцінецкім насельніцтвам.

Па спосабу арнаментацыі посуду, тэхналогіі керамікі тшцінецка-сосніцкі матэрыял Панямоння мае даволі шмат аналогій найперш з адначасовымі помнікамі паўночнапалескай групы і Заходняга Палесся.

Папярэдне тшцінецкія старажытнасці турава-мазырскай, паўночна-палескай груп, Панямоння і Заходняга Палесся, паводле меркаванняў І. І. Арцёменкі, С. С. Беразанскай, І. К. Свешнікава, могуць датавацца ў межах XV—XI стст. да н. э. Узнікаюць яны на поўдні Беларусі ў постшнуравы час, менавіта з затуханием сярэднедняпроўскай культуры на ўсходзе і помнікаў са шнуравой керамікам на Панямонні і на захадзе Палесся, дзе больш-менш пэўна заўважаецца стжыжоўскі кампанент. Сляды адкладанняў у выглядзе позняй шнуравой керамікі, якая папярэднічала старажытнасцям тшцінецкага часу, выяўлены на многіх помніках, у тым ліку на Бухліцкім Хутары-1, Азярным-1, Камені-2. На матэрыяле Азярнога-1, калі меркаваць па развіццю форм керамікі, удаецца прасачыць этап трансфармацыі ці паступовага пераходу ад традыцый прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры да характэрных рыс тшцінецка-сосніцкага часу.

Храналогія знікнення помнікаў апісаных груп застаецца нявызначанай па той прычыне, што пакуль невядома, якім быў у Прыпяцкім Палессі Беларусі позні перыяд бронзавага веку. На Ніжняй Прыпяці, на Верхнім Падняпроўі

фіксуецца кераміка лебядоўскага тыпу ці познаэтапная сосніцкая, якая датуецца XI—IX (магчыма, пачаткам VIII) стст. да н. э. (Б е р е з а н с к а я, 1976. С. 214; А р т е м е н к о , 1987. С. 111—112). Абломкі посуду тыпу Лебядоўкі і вядомы з раскопак Азярнога-1, павярховых збораў на Тураўшчыне (К р и в а л ь ц е в и ч , 1991), што дае некаторыя падставы для папярэдняга вызначэння XI ст. да н. э у якасці верхняй даты помнікаў найперш паўночнапалескай, турава-мазырскай груп. Аднак не выключана, што кераміка лебядоўскага тыпу з'яўляецца познаэтапнай тшцінецкай і ўсходні «тшцінец» у Палессі, такім чынам, дажывае да пачатку жалезнага веку. У Заходнім Палессі У Ф. Ісаенка адзначае прысутнасць у познім перыядзе бронзавага веку некаторых артэфактаў, у тым ліку керамікі, якая суадносіцца са старажытнасцямі лужыцкай культуры (И с а е н к о, 1987. С. 15—26).

Увогуле для керамічнай вытворчасці поўдня Беларусі ў тшцінецкі час, як паказваюць даследаванні, характэрна захаванне і далейшае развіццё многіх мясцовых традыцый папярэдняга часу; маецца на ўвазе найперш наследаванне пэўных рыс помнікаў прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры, шнуравой керамікі Заходняга Палесся і Панямоння, і, верагодна, тых, якія дажываюць да позняга этапу сярэднедняпроўскай культуры, помнікаў паражытачных неалітычных.

Найбольш выразна гэта прасочваецца на матэрыяле Азярнога-1, дзе, як мяркуецца, мела месца адносна бесперапыннае развіццё старажытнасцей ад ранняга да сярэдняга перыядаў эпохі бронзы. Прамая пераймальнасць у выніку бесперапыннага развіцця, якое адлюстроўвае пачатковы этап фарміравання ўсходнетшцінецкай культуры, заўважаецца таксама на матэрыяле паселішча Ісакоўка (Жытомірская вобласць Украіны). Яшчэ А. Гардаўскі ў свой час прасочваў генетычную сувязь позняга грабеньчатага неаліту з тшцінецкай культурай (G a r d a w s k i, 1959. S. 306). М. М. Чарняўскі ўслед за А. Гардаўскім, Э. Кэмпісты лічыць, што нашчадкі носьбітаў нёманскай неалітычнай культуры і блізкіх ім культурных груп Польшчы з грабеньчатанакольчатай керамікай дажываюць да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. і ўдзельнічаюць у фарміраванні тшцінецкай культуры (Ч е р н я в с к и й , 1978). На думку У. Ф. Ісаенкі, плямёны палескага варыянта днепра-данецкай культуры прынялі «ўдзел у складванні культуры перыяду сярэдняй бронзы» (И са е н ко, 1983. С. 73).

Даволі моцнае ўзаемадзеянне прыпяцкай групы сярэднедняпроўскай культуры, з паўднёвымі, паўднёва-ўсходнімі, асабліва валынскімі сінхроннымі помнікамі, працягвала адыгрываць сваю пэўную ролю і ў сярэдні перыяд эпохі бронзы. Тут нельга не ўспомніць тое, што вытворчасць старажытнейшай грабеньчатай керамікі ў Палессі развівалася пад уплывам буга-дняcтроўскай вобласці (И с а е н к о, 1976а. С. 109—115, 127). Магчыма, адбываецца далейшае развіццё таго накірунку сувязяў, якія намеціліся ўжо ў эпоху каменя.

Калі фарміраванне тшцінецкіх помнікаў Заходняга Палесся магло адбывацца галоўным чынам у непасрэднай сувязі з тшцінецкімі помнікамі Паўночна-Усходняй Польшчы і Заходняй Валыні, то ва ўсходняй частцы Прыпяцкага Палесся найбольш актыўнае ўваходжанне ва ўзаемаадносіны з насельніцтвам Валынскага і Жытомірскага Палесся здзяйснялася, верагодна, жыхарамі паселішчаў турава-мазырскай групы. Значэнне гэтых сувязяў далей на поўнач заўважна слабее. Адмысловаю перашкодаю для больш цесных інтэграцыйных працэсаў маглі служыць моцна забалочаныя нізіны,

якія цягнуліся ад нізоўяў Пцічы да Ясельды і такім чынам аддзялялі паўночныя раёны Палесся ад Прыпяці. Паўночна-палескія раёны з-за сваіх прыродных асаблівасцей мелі больш рэдкае насельніцтва. Тут захаванне і развіццё неалітычных традыцый, ва ўсялякім выпадку ў керамічнай вытворчасці, мела, мабыць, большае значэнне, чым на помніках турава-мазырскай групы. Дарэчы, істотныя адрозненні паўночных помнікаў ад паўднёвых у цэнтры і на ўсходзе Прыпяцкага Палесся адзначаў Я. Дамброўскі, звязваючы паўночныя з сосніцкай, а паўднёвыя з усходнетшцінецкай культурамі (Dąbrowski, 1972. S. 85).

Мяркуецца, што некаторыя асаблівасці паўночнапалескай групы помнікаў тшцінецкага часу маглі ўзнікнуць таксама па прычыне іх арыентаванасці ў сваіх сувязях не толькі ў паўднёвым, паўднёва-ўсходнім, але і ў паўночным, паўночна-заходнім і паўночна-ўсходнім накірунках. Магчыма, апошняя акалічнасць была істотнай і для сінхронных верхнедняпроўскіх помнікаў сосніцкага тыпу.

Як на паўночнапалескіх, так і на верхнедняпроўскіх помніках прасочваецца вельмі вялікая ступень генетычнай залежнасці ад мясцовых неалітычных традыцый. У адрозненне ад паўночных раёнаў Прыпяцкага Палесся ў верхняе Падняпроўе актыўна пранікаюць элементы лесастэпава-стэпавых культур. Заўважаецца, напрыклад, прысутнасць шматвалікавага культурнага кампанента.

У цэлым развіцце тшцінецка-сосніцкіх груп помнікаў, верагодна, вызначалася ў многім тым фактарам, што яны ўзніклі на мясцовай шматкампанентнай аснове (неалітычныя перажытачныя традыцыі, эпішнуравыя групы помнікаў, стэпавыя культурныя элементы і інш.), яшчэ дастаткова дэзінтэграванай у ранні перыяд бронзы. Сувязі, якія пачалі ўзмацняцца і актывізоўвацца паміж рознымі групамі, што ўзнікалі, магчыма, і былі асноўнымі паказчыкамі працэсаў кансалідацыі тшцінецкіх помнікаў на тэрыторыі Палесся і суседніх рэгіёнаў. Аднак у такім выпадку застаецца пакуль загадкавай прычына пачатку інтэграцыі на тшцінецка-сосніцка-камароўскіх прасторах ад Падняпроўя да Вісла-Одэрскага міжрэчча.

Калі меркаваць па некаторых папярэдніх выніках даследаванняў на Украіне, у суседніх раёнах Польшчы, асноўнымі заняткамі тшцінецкага насельніцтва магло быць земляробства і жывёлагадоўля (Taras, 1995. S. 34; Свешников, 1990б. С. 86—87). Значэнне кожнага з накірункаў гаспадарання залежала, мусіць, ад культурных традыцый і тых прыродных асаблівасцей, у якіх жыло тшцінецкае насельніцтва. Можна дапусціць, што асноўным заняткам тшцінецкага насельніцтва міжрэчча нізоўяў Сцвігі і Гарыні было земляробства. Ускосна пра гэта сведчыць існаванне сталага з вялікай колькасцю посуду паселішча Бухліцкі Хутар-1, а таксама ўрадлівасць мясцовай перагнойна-карбанатнай глебы. Аднак на іншых тэрыторыях Палесся найчасцей дамінуюць часовыя з невялікімі культурнымі адкладамі тшцінецка-сосніцкія паселішчы, што дае падставы меркаваць пра выключнае значэнне жывёлагадоўлі.

## 6. ПОМНІКІ СОСНІЦКАГА ТЫПУ

У выніку шматгадовых доследаў і эвалюцыі навуковай думкі адносна кола старажытнасцей сярэдняга перыяду бронзавага веку сфарміравалася некалькі пануючых канцэпцый. Сярод іх — існаванне ў гэты час (другая па-

лова 2-га — першая палова 1-га тысячагоддзя да н. э.) паміж Одэрам і Дняпром чатырох асобных ці адной культуры, якая ўтрымлівала шэраг лакальных груп.

На ўсходзе адзначанага арэала ў выніку прац шэрагу аўтараў, найбольш абгрунтаванымі з якіх, безумоўна, застаюцца публікацыі С. С. Беразанскай (1974, 1982) і І. І. Арцёменкі (1977, 1987), было вылучана кола помнікаў, якія мелі адпаведныя асаблівасці як у характары паселішчаў, пабудове жытлаў, так і ў пахавальным рытуале, а таксама ў інвентары. Гэта дазволіла С. С. Беразанскай аднесці такія помнікі да сосніцкай групы (варыянта) усходнетшцінецкай культуры, а І. І. Арцёменку дало падставу для выдзялення асобнай сосніцкай культуры. Матэрыялы для такіх высноў паходзілі галоўным чынам з тэрыторыі Паўночна-Усходняй Украіны і Паўднёва-Усходняй Беларусі. Трэба адзначыць, што мэтанакіраваныя раскопкі і вывучэнне помнікаў сярэдняй бронзы на нашай тэрыторыі абмежаваны невялікімі па маштабах працамі М. У. Бычкова (Бычков, 1985; Крывальцэвіч, Бычкоў, 1996а). Вядомы таксама выпадковыя знаходкі і падчас раскопак помнікаў іншых перыядаў (В. М. Мельнікоўская, І. І. Арцёменка, А. А. Макушнікаў, А. Г. Калечыц) ці павярхоўных збораў (У. Ф. Ісаенка, М. М. Крывальцэвіч і інш.).

Большая частка арэала гэтага тыпу помнікаў размешчана па-за межамі рэспублікі. Найбольшая канцэнтрацыя іх, згодна з названай працай С. С. Беразанскай (1974), выяўлена ў наваколлі г. Сосніца пры ўпадзенні Сейма ў Дзясну і ў раёне г. Пуціўля яшчэ ў 1952—1954 гг. На поўдзень гэтыя помнікі распаўсюджаны да лініі Кіеў — Ромны — Сумы, на поўначы сустракаюцца ўкрапванні аж да Сярэдняга Пасожжа. На тэрыторыі Беларусі яны былі знойдзены І.І. Арцёменкам ў 60-я гады.

Помнікі сосніцкага тыпу пададзены рэшткамі паселішчаў, грунтавымі, курганнымі могільнікамі і адзінкавымі рэчамі. Да цяперашняга часу яны вядомы больш чым у 200 пунктах, прыкладна 50 з якіх знойдзены на тэрыторыі Беларусі. Больш за 20 помнікаў былі раскапаны. На тэрыторыі рэспублікі такія матэрыялы атрыманы падчас вывучэння паселішчаў каля в. Мохаў Лоеўскага раёна, Струмень Кармянскага, Гарошкаў і Заспа Рэчыцкага, Любны (г. Гомель), Прыбар Гомельскага, Гадзілавічы, Лучын і Ходасавічы Рагачоўскага раёнаў. Каля вёсак Гарошкаў, Ходасавічы, Сябровічы, Кліны, Прысна вядомы могільнікі. У раёне в. Прысна Веткаўскага, Вылева Добрушскага, Раманавічы Гомельскага, Копань Рэчыцкага раёнаў і ў некаторых іншых пунктах знаходкі былі сабраны з паверхні.

Помнікі сосніцкага тыпу размешчаны на пясчаных узвышшах поймаў, па краях тэрас і на мысах, што ўразаюцца ў рачныя даліны. Плошча іх вагаецца ад 10 да 30 тыс. м². На паселішчах знойдзены вялікія жытлы плошчай ад 24 да 98 м² слупавой канструкцыі з жылымі і гаспадарчымі памяшканнямі, печамі і агнішчамі адкрытага тыпу, а таксама рэшткі гаспадарчых наземных ці палевых пабудоў слупавой канструкцыі і гаспадарчых ям. Адно з такіх жытлаў даследавана ля в. Мохаў Лоеўскага раёна. Яно было прамакутным, наземным. С. С. Беразанская вылучыла ў развіцці помнікаў сосніцкага тыпу два этапы (ранні і позні), а І. І. Арцёменка тры (ранні сярэдні, позні). Перыядызацыя С. С. Беразанскай заснавана на аналізе вырабу, формаў і арнаментацыі гліняных пасудзін.

Паводле даследаванняў І. І. Арцёменкі (1987), перыядызацыя сосніцкай культуры заснавана на тыпалогіі керамічнага посуду і стратыграфіі могіль-

нікаў. Асноўная адметнасць помнікаў ранняга этапу ў наяўнасці мноства рыс папярэдняй па часе сярэднедняпроўскай культуры. На помніках ранняга этапу сосніцкай культуры сабраны вырабы з гліны, крэменю, каменю і бронзы. Сярод глінянага посуду прысутнічаюць гаршкі (паводле І. І. Арцёменкі) сямі тыпаў, слоікі, міскі, чашы, кубкі, курыльні, ці друшлякі; тры з іх (гаршкі, слоікі і чашы) сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі. Знойдзены таксама адзінкавыя фрагменты друшлякоў.

Важнай адрознай прыкметай гэтага посуду з'яўляецца ўжыванне ў якасці дамешак тоўчанага граніту, кварцу ці буйнога пяску. Асноўныя формы гаршкоў — высокія (у сярэднім 30—40 см), слабапрафіляваныя пласкадонныя пасудзіны цюльпанападобнай і эсападобнай формы з прамым ці слабаадагнутым вонкі патоўшчатым венцам. Край яго закруглены ці коса зрэзаны вонкі.

Адрознай прыкметай ранняй сосніцкай керамікі з'яўляецца таксама даволі багатая арнаментацыя верхняй часткі тулава, а зрэдку і ўсёй паверхні пасудзіны. Асноўнымі элементамі арнаменту былі адбіткі перавітага шнура, ружанцавага штампа, пракрэсленыя лініі, дробныя насечкі, ямачкі. З іх дапамогай стваралі пераважна гарызантальныя кампазіцыі, фарміруючы заштрыхаваныя трохкутнікі, ёлачныя і іншыя ўзоры. Знойдзены таксама неарнаментаваныя пасудзіны і некалькі бронзавых вырабаў (шылы, кінжал, наканечнік кап'я), на падставе якіх І. І. Арцёменка (1987) датуе гэты этап XV—XIII стст. да н. э., а таксама вырабы з крэменю і каменя.

Гэтым этапам датуюцца пасудзіны, знойдзеныя В. М. Мельнікоўскай у грунтавым могільніку каля в. Гарошкаў Рэчыцкага раёна і І. І. Арцёменкам у курганным могільніку ва ўрочышчы Мошка каля в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна.

Раскопваліся таксама грунтавыя могільнікі каля вёсак Сябровічы, Кліны з аналагічнымі матэрыяламі, але публікацый па іх выніках няма. На разбураным амаль поўнасцю могільніку каля вёсак Прысна, Старое Аднаполле Веткаўскага раёна А. Г. Калечыц у 1975—1989 гг. сабрана кераміка, падобная апісанай вышэй, і некалькі дзесяткаў аднатыпных трохкутных з круглым у сячэнні чаранком наканечнікаў, якія знаходзіліся, як правіла, каля разбураных попельных плям (пахавальных ям з трупаспаленнем). Спаленне памерлых праводзілі па-за межамі могільніка, а пахаванне спаленых адбывалася ў грунтавых магільных ямах, перакрытых драўляным насцілам (Арцёменка, 1987). У ямы, арыентаваныя з усходу на захад, ссыпаліся рэшткі крэмацыі з попелам і вуголлем (Ходасавічы, Гарошкаў, Сябровічы).

Курганныя грунтавыя могільнікі насельніцтва сосніцкай культуры, пахаванні ў якіх праводзіліся па абраду трупапакладання ці трупаспалення, на тэрыторыі рэспублікі пакуль не выяўлены. Вынікі іх даследавання на суседніх рэгіёнах абагульнены і дэталёва апісаны І.І. Арцёменкам (1977, 1987).

У кераміцы помнікаў сярэдняга этапу яшчэ захоўваюцца рысы ранняй, але з'яўляюцца новыя формы пасудзін, якія ў пазнейшыя часы тыповыя для позняга этапу.

На другім этапе ў якасці дамешак у цесце пасудзін адзначаюцца пясок, жарства, шамот і гной жывёлы. Акрамя існуючых з'яўляюцца пласкадонныя гаршкі са злёгку звужанай кароткай шыйкай, адагнутым венцам, выпуклым тулавам. Яны зрэдку ўпрыгожаны, а часцей неарнаментаваныя і толькі некаторыя маюць пад венцам рад ямак ці жамчужын. Пасудзіны слоікавай

формы не арнаментаваныя ці ўпрыгожаны пад венчыкам радам цыліндрычных наколаў, насечак і пракрэсленых ліній.

Вырабы з металу на помніках другога этапу і ліцейныя формы для іх адліўкі знойдзены за межамі Беларусі Шпількі са скручаным у пятлю верхнім канцом, бранзалеты са спіралепадобнымі шчыткамі, круглыя бляхі з вушкамі, наканечнік кап'я з пяром ромбападобнай формы і іншыя рэчы дазволілі І. І. Арцёменку датаваць сярэдні этап сосніцкай культуры XIII—XI стст. да н. э Для паселішча Пустынка, шырока вядомага і лепш за іншыя вывучанага помніка сярэдняга этапу сосніцкай культуры, С. С. Беразанская (1974. С. 143) атрымала дату метадам $^{14}C$ — 1190±100 г. да н. э.

Менавіта гэта паселішча, размешчанае на пясчаным узвышшы поплаву правага берага Дняпра ля в. Мнева Чарнігаўскай вобласці на плошчы 120 тыс. $м^2$ дало найбольш цікавую і разнастайную інфармацыю аб жытлах, планіграфіі паселішчаў і гаспадарчых занятках насельніцтва сярэдняга этапу сосніцкай культуры Былі знойдзены рэшткі 20 вялікіх паўзямлянак слупавой канструкцыі, прамавугольнай формы, паглыбленых у зямлю да 1—1,5 м. Плошча іх вагалася ад 50 да 70 $м^2$. Хаты складаліся з двух памяшканняў. Знойдзены таксама рэшткі глінянай абмазкі сцен, вогнішчы адкрытага тыпу ці печы, выкладзеныя з гліны, гаспадарчыя пабудовы наземныя ці палевыя, слупавой канструкцыі.

Могільнікі другога этапу курганныя і грунтовыя з трупапакладаннем і трупаспаленнем. Пахаванне пад курганамі шляхам трупапакладання адбывалася ў грунтавых ямах, перакрытых драўляным накатам. Памерлых клалі ў скурчаным стане галавой на ўсход ці захад. Пахаванні трупаспаленнем, знойдзеныя пад курганамі, адбываліся шляхам спалення па-за межамі магілы, у якую потым ссыпалі попел разам з вуголлем. Магільныя ямкі прамавугольнай ці авальнай формы таксама перакрывалі дрэвам, зверху якога былі попел і вуголле. Адзін з такіх курганоў раскапаны М. У. Бычковым у 1983 г. ва ўрочышчы Міліцкае (могільнік № 1) ля в. Прыбар Гомельскага раёна (Крывальцэвіч, Бычкоў, 1996), які знайшоў А. А. Макушнікаў у 1980 г. Менавіта на гэтым могільніку знойдзены матэрыялы позняга этапу (курганы 1, 4, 6, 10).

Кераміка гэтага этапу супастаўляецца І. І. Арцёменкам са старажытнасцямі лебядоўскага тыпу. Тут ужо няма рыс, характэрных для ранняга этапу, але з'яўляецца посуд, форма і арнаментацыя якога маюць падабенства з керамікай мясцовых культур жалезнага веку (найперш мілаградскай, юхнаўскай, днепра-дзвінскай і інш.). На гэтым этапе развіцця сосніцкай керамікі формы посуду аналагічныя папярэднім. Разам з тым з'яўляюцца і некаторыя новыя, сярод якіх пасудзіны з яйкападобным тулавам і маленькім дном. Большая іх частка арнаментавана толькі пад венчыкам радам ямак ці пярлінак. Ямкі маюць розную форму і памеры. Край венчыка ўпрыгожаны касымі насечкамі, пазногцевымі ўцісканнямі, зрэдку адбіткамі грэбеня. З'яўляюцца танкасценныя пасудзіны, а памеры традыцыйных вар'іруюцца ў шырокіх межах.

Захоўваецца слоікавы пласкадонны слабапрафіляваны посуд са злёгку адагнутым ці слаба загнутым унутр венчыкам. Арнаментыка яго абмежавана радам ямак ці наколаў і пракрэсленых ліній.

Працягваюць існаваць маленькія пасудзіны — чашы, якія з'явіліся на сярэднім этапе. Яны ёсць і на паселішчах, і на могільніках. Маленькія чашы кругла- і пласкадонныя, арнаментаваныя насечкамі і нарэзкамі па ўсёй

паверхні Існавалі і неарнаментаваныя вырабы і пасудзіны з наколамі пад венцам.

Керамічныя матэрыялы сосніцкага тыпу, знойдзеныя пры павярховых зборах на тэрыторыі Усходняй Беларусі, у цэлым не выпадаюць з прапанаваных класіфікацый, аднак яны яўна недастатковыя для падзелу сярэдняй бронзы на этапы. Трэба адзначыць вельмі нязначны працэнт рабрыстага посуду, што не дазваляе лічыць гэтую прыкмету галоўнай. На тэрыторыі Беларусі не выяўлена пакуль місак і бакалаў сосніцкага тыпу (іх адсутнасць адзначала і С. С. Беразанская), няма гліняных лыжак. Пераважаюць ружанцавыя элементы арнаменту. Характэрна арнаментаванне ўсёй яе паверхні і толькі зрэдку верхняй часткі тулава пасудзін. Многія пасудзіны ангабаваны.

Датаванне позняга этапу (XI—IX стст. да н. э.) таксама заснавана галоўным чынам на аналізе бронзавых вырабаў, у прыватнасці шпілек з кольцападобнай галоўкай, колцаў, акулярападобных фібул з зашпількамі, бляшак з адтулінай у цэнтры, спіралек, плоскага наканечніка стралы трохкутнай формы з чаранком і інш

Асобныя тыпы вырабаў усіх перыядаў, у тым ліку праселка, блокі рознай формы, тыглі, льячкі і іншыя вырабы насельніцтва сосніцкай культуры, вылучаныя І І. Арцёменкам, сустракаюцца ў выглядзе выпадковых знаходак і на сінхронных помніках Беларусі. Але гэта, як і адзінкавыя кавалкі посуду, не дае дастатковых падстаў для дакладнага датавання тых ці іншых паселішчаў або могільнікаў. Больш таго, усе прыкметы, абазначаныя даследчыкам як галоўныя для датавання трэцяга этапу, хутчэй асацыіруюцца са слаба вывучанымі старажытнасцямі лебядоўскага тыпу.

Адным з найбольш складаных пытанняў з'яўляецца праблема паходжання помнікаў сосніцкага тыпу. Разглядаючы доказы даследчыкаў гэтай праблемы ці асоб, што займаліся ёю (І. І. Арцёменка, С. С. Беразанская, І. С. Завярняеў, П. М. Траццякоў), І. І. Арцёменка (1977, 1987), як і некаторыя іншыя, лічыць, што развіццё сосніцкай культуры адбылося на аснове сярэднедняпроўскай культуры за кошт бесперапыннага развіцця культуры мясцовых плямёнаў.

Канчаткова не вырашана і пытанне пра гістарычны лёс насельніцтва сосніцкай культуры. На думку І. І. Арцёменкі, (1987. С. 112), «она явилась основой сложения юхновской и днепро-двинской культур, а также памятников подгорцевского типа раннего железного века». С. С. Беразанская (1972. С. 153) выказвае меркаванне пра нешматлікасць насельніцтва сосніцкіх плямёнаў і што яны альбо растварыліся ў мясцовым асяроддзі, не пакінуўшы слядоў, альбо былі выціснуты на правы бераг Дняпра. Гэты тэзіс яна выстаўляе ў сувязі з тым, што не бачыць культурнай пераемнасці паміж сосніцкім і больш познім насельніцтвам.

## 7. КУЛЬТУРА СЯРЭДНЯЙ І ПОЗНЯЙ БРОНЗЫ ПААЗЕР'Я

Аддаленасць Беларускага Паазер'я ад паўднёвых ачагоў цывілізацыі і ад радовішчаў каляровых металаў была прычынай таго, што бронзавы век тут пачаўся пазней. Ранні яго перыяд супадае з познім этапам паўночнабеларускай культуры. Па $C^{14}$ самыя позні ўзоры арганікі з верхняга пласта паселішча Асавец-2 датуюцца 1400 ± 60 гадоў да н. э. (Д о л у х а н о в, Л и й в а, М и к л я е в, 1978. С. 29).

Доўгі час самымі паўночнымі пунктамі ў Беларусі, дзе была знойдзена кераміка з ружанцавым арнаментам перыяду сярэдняй бронзы, з'яўляліся Выдрыца ў Крупскім, Зацэнне ў Лагойскім і Скема-1 у Мядзельскім раёнах (Исаенко, Чернявский, 1967. С. 172 (мал. 55); С. 173 (мал. 67); Чернявский, 1978. С. 42). Аднак некаторая колькасць керамікі сярэдняй бронзы была выяўлена і значна на поўнач пры раскопках Э. М. Зайкоўскім у 1981—1982 гг. паселішча Пліса-1 у Глыбоцкім раёне. Усяго яе знойдзена тут 25 фрагментаў, у тым ліку 5 венцаў. Кераміка чырванавата-жоўтага колеру, з дамешкамі ў цесце буйной жарствы, на ўнутранай паверхні часта маюцца сляды загладжвання, таўшчыня сценак ад 0,5 да 1,0 см. Дыяметр пасудзін каля 24—30 см. Самы край венцаў патоўшчаны і коса зрэзаны вонкі, на зрэзе нярэдка наносіўся арнамент, пад краем венца ў некаторых выпадках маюцца глыбокія ямкі. Арнаментаваўся посуд адбіткамі накручанай на палачку ніткі (ружанцавы арнамент), у камбінацыі з імі часта былі здвоеныя ямкі. Арнамент у адных выпадках шырокі і павярхоўны, утварае розныя камбінацыі (паскі, ялінкі), у іншых — вузкі і глыбокі, размяшчаецца вузкімі падгарызантальнымі радамі, якія заходзяць і на зрэз венца, ніжэй былі паскі з дробных наколаў.

Трэба адзначыць, што ружанцавы арнамент трапляецца на кераміцы як тшцінецкай, так і сосніцкай (або сосніцкага варыянта ўсходнетшцінецкай) культуры (Артеменко, 1967. С. 101 (мал. 69, 1); Березанская. 1982. С. 121). С. С. Беразанская ўказвае, што гэты арнамент, ці інакш арнамент у выглядзе адбіткаў «калючага дроту», найбольш характэрны для прыпяцкай і сосніцкай груп помнікаў.

Не зусім вырашана пытанне пра культурную прыналежнасць помнікаў з ружанцавым арнаментам, размешчаных у паўночнай частцы Беларусі. Найбольш паўночныя помнікі тшцінецкай культуры ў Панямонні — Лысая Гара (Стаўбцоўскі раён) і Мацеўчукі (Шчучынскі раён) — надта аддалены ад басейна Заходняй Дзвіны. Паўночную мяжу сосніцкай групы помнікаў С. С. Беразанская праводзіць па Прыпяці і Дзясне, лічачы пры гэтым, што асобныя помнікі, выяўленыя далёка на Верхнім Дняпры, магчыма, указваюць на пранікненне невялікіх груп помнікаў і наўрад ці фіксуюць паўночную мяжу распаўсюджвання сосніцкага варыянта ў цэлым (Березанская, 1982. С. 131). Зрэшты, можна дапусціць, што ў Верхнім Падняпроўі і паўднёвай частцы Беларускага Падзвіння існавала і нейкая асаблівая культура тшцінецка-сосніцкага кола.

Датаваныя матэрыялы для керамікі з ружанцавым арнаментам на паселішчы Паўночнай Беларусі адсутнічаюць. Па аналогіі з усходнетшцінецкай культурай яе хутчэй за ўсё можна змяшчаць у рамках канца XV — пачатку XI стст. да н. э. (Березанская, 1982. С 53). Зрэшты, у суседняй Літве, на паселішчы Швянтой-9 (каля заколу) гаршчок, увесь пакрыты ружанцавым арнаментам, быў выяўлены ў пласце пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. (Rimantienė, 1980. P. 63 (pav. 56). S. 76). Што датычыць невялікай колькасці ружанцавай керамікі на паселішчах, то не выключана, што гэта тлумачыцца трансгрэсіяй прыродных вадаёмаў у апошняй трэці 2-га тысячагоддзя да н. э. і перасяленнем людзей на больш высокія месцы. Напрыклад, у Літве паселішчы позняй бронзы размешчаны высока над поплавам (Римантене, 1962. С. 14).

Трэба меркаваць, да сярэдняга перыяду эпохі бронзы адносіцца частка знаходак з паселішча Крывіна-1 у Сенненскім раёне. Пласкадонныя пасудзіны з прафіляванымі сценкамі рабіліся з цеста з дамешкай буйназярністага пяску, паверхня іх пакрыта не вельмі глыбокай штрыхоўкай. Ар-

намент канцэнтраваўся ў верхняй частцы 1 складаўся з розных насечак ямак, умяцін. Пад венцам нярэдка праходзілі шэраг глыбокіх ямак, гарызантальна размешчаныя групы з трайных ямак, прачэрчаныя лініі, што разыходзяцца (Исаенко, Чернявский, 1967а. С. 164).

У канцы 2-га тысячагоддзя да н. э. узнікае культура тэкстыльнай, ці сеткавай, керамікі, якая ахоплівала абшары ад нізоўя Камы і Акі да Літвы і Эстоніі. Кераміка з тэкстыльнымі адбіткамі трапляецца не толькі на поўнач ад Заходняй Дзвіны але і на поўдзень ад яе, у прыватнасці на паселішчах Крывіна-1 і Крывіна-2. Нешматлікія абломкі штрыхаванай і тэкстыльнай керамікі з жарствой у цесце, а таксама крэмені са слядамі апрацоўкі былі выяўлены на тарфяніку каля в. Сцюдзяніца Мядзельскага раёна.

Змешаным комплексам, значную частку ў якім займаюць знаходкі перыяду позняй бронзы, з'яўляецца паселішча Дубавое на паўночна-ўсходнім беразе возера Мядзел у Мядзельскім раёне Размешчана яно на краі першай надпоймавай тэрасы возера, на вышыні каля 1 м над вадой. Магутнасць культурнага пласта да 0,79 м, усяго раскапана Э. М. Зайкоўскім у 1979,1986,1987 гг. 220 м² Большасць крамянёвых прылад зроблена на адшчэпах і пласцінчатых адшчэпах. Найбольш шматлікая група прылад — скрабкі, якіх налічваецца 19. Форма іх самая разнастайная — ад канцовых да паўзакругленых. Адна прылада камбінаваная — скрабок-скобля (мал. 136: 24). Маюцца таксама два скрэблы (мал. 136: 22). Скобляў знойдзена тры, усе яны зроблены на адшчэпах і маюць невялікія памеры.

Трапіўся адзін укладыш на адшчэпе, апрацаваны крутой рэтушшу (мал. 136: 4). З рэжучых прылад прадстаўлены нажы (мал. 136: 27, 29). На некаторых пласцінчатых адшчэпах па краі нанесена рэтуш, якая сустракаецца і на пласцінках. Сярод вырабаў з пласцін звяртае на сябе ўвагу вастрыё са скошаным рабочым краем, апрацаваным вельмі дробнай рэтушшу. Налічваецца тры сячэнні пласцін- Нуклеусы невялікіх памераў, няправільнай формы, аморфныя моцна зношаныя. Адзіная сярод знаходак сланцавая сякерка невялікая па памерах, паверхня яе мае злёгку выдзеленыя грані і старанна зашліхтавана (мал. 136:33). Па тыпу яна блізкая некаторым анапалчным прыладам 1-га тысячагоддзя да н. э. з Латвіі (Граудонис, 1957 (табл II, 6 7,10)). Ад двух наканечнікаў стрэл захаваліся чаранкі (мал. 136: 8), адзін з якіх на пласціне, і яшчэ вастрыё наканечніка, апрацаванае піпьчатай рэтушшу, што дазваляе аднесці яго да бронзавага веку. Чаранкі ж наканечнікаў маюць некаторыя аналогіі у наканечніках з паселішчаў пачатпку 1-га тысячагоддзя да н. э. у Прыбалтыцы (Граудонис, 1967 (табл. V, 14)). Усё гэта дазваляе датаваць помнік перыядам позняй бронзы. Размяшчэнне паселішча на нізкай першай надпоймавай тэрасе дае падставы аднесці яго да чарговай рэгрэсіі вадаёмаў,, якая пачалася ў VIII—VI стст. да н. э. Помнікі гэтага перыяду ў Літве (Шыляліс-1, Паштува, Клангяй і інш.) таксама размешчаны вельмі нізка адносна ўзроўню вады. Але сярод пераважнай на паселішчы штрыхаванай керамікі (больш 400 абломкаў) сустракаюцца фрагменты рабрыстых пасудзін,, якія датуюцца пачаткам нашай эры. Аднак верагодна, што штрыхаваная кераміка позняй бронзы або не вычляняецца з агульнай масы фрагментаў са штрыхоўкай, або не захавалася. Фрагменты слабаштрыхаванай керамікі з пяском у цесце разам з паўзакругленым і падчатырохкутным скрабкамі, абломкамі нажападобных пласцін трапляюцца ў вельмі разбураным культурным пласце паселішча каля в. Рыбкі Мядзельскага раёна.

Кераміка перыяду позняй бронзы (акрамя матэрыялаў неаліту) траплялася і на паселішчы Лаўкі (Чашніцкі раён). У цесце прысутнічае да-

мешка жарствы і буйназярністага пяску. Абпал моцны, колер керамікі рудавата-жоўты З абодвух бакоў нанесена падгарызантальная штрыхоўка, венчыкі слабапрафіляваныя, таўшчыня сценак у сярэднім 0,5—0,7 см. Усяго знойдзена 65 фрагментаў такой керамікі.

Ранняя штрыхаваная кераміка, якая адносіцца да бронзавага веку, выяўлена на паселішчы каля в. Гатавічы Мядзельскага раёна, на перашыйку паміж азёрамі Мястра і Нарач. Былі прасочаны сляды жытла слупавой канструкцыі. Ляпная кераміка з дамешкай жарствы ў цесце дзеліцца на гладкасценную і штрыхаваную Форма штрыхаваных пасудзін не ўстаноўлена. Гладкасценны ж посуд, акрамя позняга банцараўскага, прадстаўлены гаршкападобнымі формамі з рэзка адагнутым венцам, выдзеленым плечыкам і выпуклым тулавам. Закругленае дно пляскатае. Арнамент складаецца з ямак, размешчаных у адзін рад. А. Г. Мітрафанаў аналогіі гэтаму тыпу керамікі знаходзіў сярод ранняй групы посуду мілаградскай культуры VI—IV стст. да н. э. (М и т р о ф а н о в, 1978. С. 9). Кераміка мілаградскіх формаў знойдзена М. М. Чарняўскім і ва ўрочышчы Сцюдзянец каля в, Занарач на паўднёвым беразе возера Нарач. У шурфе 1,5х1 м сустрэты абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін, трапіліся два. таксама блізкія па форме мілаградскім. Раней тут У. Д. Будзько і Л. М. Вазнечуком былі сабраны даволі шматлікія прылады з крэменю (М и т р о ф а н о в, 1978. С. 10; Ч е р н я в с к и й, 1976. С. 428—429). Кераміка, падобная на мілаградскую, выяўлена і на іншых помніках паўднёва-заходняй часткі Беларускага Паазер'я: у ніжнім пласце гарадзішчаў Рацюнкі Браслаўскага, Аўгустова Лепельскага і Гарані Смаргоньскага раёнаў. А. А. Егарэйчанка схільны лічыць, што насельніцтва гэтых помнікаў у сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н. э. і нават трохі пазней было бліжэй да носьбітаў мілаградскай культуры, чым культуры штрыхаванай керамікі, і выдзяляе сярэднебеларускі варыянт мілаградскай культуры (Е г о р е й ч е н к о, 1982. С. 58).

У познім бронзавым веку ўзнікае новы тып помнікаў — гарадзішчы, які ў далейшым пачынае пераважаць. Самыя раннія з даследаваных гарадзішчаў з'явіліся яшчэ ў канцы 2-га — пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. (Наркунай, Няверышкес і Союшкяй у паўднёва-ўсходнім куце Літвы, недалёка ад мяжы з Беларуссю). Гарадзішчы гэтыя належалі да культуры штрыхаванай керамікі, першапачаткова не мелі штучных умацаванняў, пазней з'явіліся ірвы і валы (V o l k a i t ė - K u l i l k a w k i e n ė, 1986. P. 47; G r i g a l a v i ć i e n ė, 1986. P. 86, 136), Для ранняга этапу жыцця на гарадзішчах былі характэрныя прылады з крэменю і косці, каменныя свідраваныя сякеры і сякеры-кліны. На гарадзішчы Наркунай знойдзены сляды бронзаліцейнай вытворчасці перыяду позняй бронзы.

У VIII—VII стст, да н. э. на поўначы Беларусі, поўдні Пскоўскай вобласці і ў Смаленскім Падняпроўі складваецца днепра-дзвінская культура, якую В. В. Сядоў адносіць да асобнай групы старажытных балтаў — дняпроўскіх (С е д о в, 1981. С. 43). У тэрыторыю распаўсюджання гэтай культуры В. І. Шадыра ўключае амаль што ўсю Віцебскую вобласць на ўсход ад лініі Краслава — Браслаў — Варапаева і на поўнач ад Варапаева — Докшыц — Лепеля — Чашнікаў (Ш а д ы р о, 1985. С. 116). Час узнікнення культуры вызначаецца па знаходках на гарадзішчах касцяных упрыгожанняў, якія маюць бронзавыя адпаведнікі VIII—VII стст. да н. э. В. І. Шадыра падзяляе час існавання днепра-дзвінскай культуры на тры перыяды. Першы, ранні, перыяд цягнуўся з VIII—VII стст. да н. э. і да V ст. да н. э. і характарызаваўся: а) слабымі ўмацаваннямі на пляцоўках гарадзішчаў ці ўвогуле адсутнасцю штучных умацаванняў; б) жытламі ў выглядзе падоўжаных дамоў; в) шырокім выкарыстаннем вырабаў з каменя і косці; г) гладкасценным посудам

слоікападобных у асноўным формаў з грубай бугрыстай паверхняй і слабапрафіляванай з ямкавымі ўмяцінамі ў верхняй частцы; д) дамінаваннем жывёлагадоўлі, палявання, рыбалоўства над падсечным земляробствам. Жалезныя вырабы з'яўляюцца з IV ст. да н. э. (Шадыро, 1985. С. 61). Значыць, пачаткам жалезнага веку ў Беларускім Падзвінні, на думку аўтараў, трэба лічыць IV ст. да н. э. У такім выпадку верхняй мяжой эпохі бронзы ўмоўна з'яўляецца мяжа V—IV стст. да н. э.

Раскопкі днепра-дзвінскіх гарадзішчаў паказалі, што на раннім этапе іх жыхары яшчэ не будавалі земляных умацаванняў. Ніжнія гарызонты такіх помнікаў, як Германы, Кастрыца, Барсукі, Бароўка, знаходзяцца пад насыпам першапачатковага ўнутранага вала. Абарончыя ўмацаванні складаліся з загародак вакол пляцоўкі і падсыпкі па яе краі (Загаваліна, Кастрыца). Гэтыя загародкі хутчэй за ўсё складаліся з раду стаячых бярвенняў або тоўстых жэрдак, да якіх мацаваліся гарызантальна пакладзеныя бярвенні ці плахі (Шадыро, 1981. С. 6—7).

Вялікі і разнастайны матэрыял перыяду позняй бронзы атрыманы В. І. Шадырам пры раскопках гарадзішча каля в. Замошша Полацкага раёна. У ніжніх пластах цалкам адсутнічаюць вырабы з металу. Сярод каменных прылад — плоскія сякеры-кліны, долаты, цёслы, свідраваныя сякеры. З каменя рабіліся і зерняцёркі, таўкачы, цёрачнікі. Прадметаў з косці больш за 100 — гэта долаты, праселкі, наканечнікі дзідаў, дроцікаў і стрэл, ручка кінжала, шпількі прамой і выгнутай формы (Шадыро, 1980. С 27—29).

У ніжнім пласце гарадзішча Рацюнкі ў Браслаўскім раёне акрамя раннефеадальнай выяўлены таксама кераміка днепра-дзвінскай культуры, 2 грузілы або булавы з вапняку, 4 каменныя сякеры-кліны, лінзападобныя ці ўсечана-лінзападобныя ў профіль. Шмат касцяных вырабаў позняй бронзы — наканечнікаў стрэл, арнаментаваных шпілек, шылаў і г. д. (Дучиц, 1979).

Кераміку днепра-дзвінскай культуры, касцяныя і каменныя прылады неаднаразова знаходзілі ў датаваных VI—V стст. да н. э. ніжніх пластах гарадзішчаў Урагава, Кастрыца, Паддубнікі і інш.

Пры разглядзе пытання пра паходжанне днепра-дзвінскай культуры можна згадаць выказванне У Ф. Ісаенкі і М. М. Чарняўскага, што «кераміка помнікаў ранняга жалезнага веку Паўночнай Беларусі... можа ўзыходзіць да позняй крывінскай керамікі і паміж імі магчымыя генетычныя сувязі» (Исаенко, Чернявский, 1967а. С. 164). К. П. Шут згадваў знаходку на гарадзішчы днепра-дзвінскай культуры Чамярычына «своеасаблівай штрыхаванай керамікі, вельмі характэрнай і для тарфянікавых стаянак Крывіна і Асавец» (Шут, 1969. С. 270) Аднак варта адзначыць, што вялікі храналагічны разрыў паміж паўночнабеларускай і днепра-дзвінскай культурамі не дазваляе пакуль прасачыць прамую генетычную сувязь паміж імі. Некаторыя агульныя рысы можна заўважыць толькі ў арнаментыцы керамікі. Не выяўлены рысы падабенства паміж керамікай з ружанцавым арнаментам і днепра-дзвінскай.

Да позняга перыяду эпохі бронзы адносіцца частка выпадковых знаходак, асабліва металічныя (мал. 135) і некаторыя каменныя вырабы Самая ранняя бронзавая прылада з паўночнай часткі Беларусі — клінападобная сякера з алавяністай бронзы — выяўлена М. М. Чарняўскім пры раскопках датаванага сярэдзінай 2-га тысячагоддзя да н. э. паселішча паўночнабеларускай культуры каля в. Кастыкі Вілейскага раёна (Чернявский, 1974. С. 383). Трохі больш познімі з'яўляюцца 2 сякеры ўсходняга тыпу з закраінамі з в. Кальвішкі Браслаўскага раёна, выяўленыя яшчэ ў канцы міну-

лага стагоддзя (Šturms, 1928). Як лічыць Э. А. Грыгалавічэне, сякеры ■ Кальвішак варта лічыць найбольш позняй формай сякер з закраінамі ўсходняга тыпу, распаўсюджаных у Скандынавіі, Польскім Памор'і, Літве і на востраве Саарэмаа, і датаваць трэцім перыядам эпохі бронзы (1300—1100 гг. да н. э.) (Григалавичене, Мяркявичюс, 1980. С. 17—18). Па даных спектральнага аналізу вырабаў ■ Кальвішак, у якасці асноўнай дамешкі да медзі ўжывалася волава, сотымі і тысячнымі долямі працэнта вызначаюцца дамешкі свінцу, серабра, жалеза, нікелю і іншых металаў

Да больш позняга часу адносіцца ўтулкавая сякера, выяўленая ў Лепельскім раёне (мал. 135: 5). Падобныя сякеры знаходзілі ў Літве і былой Усходняй Прусіі, дзе-нідзе ў Латвіі. Датуюцца яны прыблізна VIII ст. да н. э. Да гэтага ж тыпу прылад К. М. Палікарповіч адносіў сякеру з в. Афяроўшчына Ушацкага раёна (Палікарповіч, 1947. С. 65).

Дзесьці недалёка ад р. Чарніца (хутчэй за ўсё ў Лёзненскім раёне) выяўлены кельт меларскага ці акозінска-меларскага тыпу, у верхняй частцы ўпрыгожаны зігзагападобным арнаментам (мал. 135: 4). Кельты з такім арнаментам сустракаюцца ў Фінляндыі, на Барнхольме, у Эстоніі, Беларусі, у раннеананьінскіх могільніках Паволжа. У Літве і Латвіі кельты акозінска-меларскага тыпу выраблялiся ў асноўным у VIII—VII стст. да н. э. (ЛуХтан, 1982. С 51). Як было ўстаноўлена спектральным аналізам, кельт быў зроблены ■ алавяністай бронзы (каля 8—10% волава), маюцца дзесятыя долі працэнта серабра. Такім чынам, як самыя раннія (сякеры з Кальвішак), так і познія (кельт з р. Чарніца) металічныя вырабы бронзавага веку ■ тэрыторыі Беларускага Падзвіння зроблены ■ алавяністай бронзы. Прынята лічыць, што крыніцай сыравіны для алавяністай бронзы з'яўляліся радовішчы Цэнтральнай Еўропы (Григалавичене, Мяркявичюс, 1980. С. 11; Szukiewicz, 1911—1914. S. 28). Яшчэ адзін бронзавы кельт быў выяўлены пры раскопках Г. Х. Татурам у 1876 г. курганоў каля в. Палялееўка (Палялюм) пад Барысавам (Інвентарная кніга музея імя Ів. Луцкевіча. С. 73).

Толькі для Паўночнай Беларусі характэрны тып сякер-кліноў з жалабаватым абухом. Такія прылады (мал. 135: 1—3) знойдзены ў чатырох месцах: на паўночны ўсход ад Віцебска, у самім Віцебску, каля в. Бачэйкава Бешанковіцкага і в. Пліса Глыбоцкага раёнаў (Очерки, 1970. Ч. 1. С. 111 (мал. 41, 11); Спицын, 1928. С. 482). На адну ■ прылад такога тыпу звярнуў увагу яшчэ А. А. Спіцын, які лічыў яе запазычаннем з формаў бронзавых вырабаў (Спицын, 1928. С. 482). Па форме яны сапраўды нагадваюць пальштабы, ці так званыя ўступчатыя сякеры з Літвы, якія датуюцца ў асноўным перыядам каля 1300—1100 гг. да н. э. (Григалавичене, Мяркявичюс, 1980. С. 24). Цікава, што у в. Пліса Глыбоцкага раёна жалабаватая сякера-клін выяўлена недалёка ад паселішча, на якім залягае кераміка тшцінецка-сосніцкага тыпу, што датуецца таксама канцом 2-га тысячагоддзя да н. э. Адсутнасць уласных залежаў сыравіны каляровых металаў на Беларусі падштурхоўвала яе жыхароў у эпоху бронзы рабіць каменныя прылады, падобныя да бронзавых.




*Мал. 99. Карта асноўных помнікаў ранняга перыяду*

*Помнікі сярэднедняпроўскай культуры (Верхняе Падняпроўе); 1 — Асарэвічы 2 — Бывалькі, 3 — Мохаў; 4 — Чаплін, Асаўцы; 12 — Уза, 13 — Гомель; 14 — Раманавічы: 15 — Заляддзе: 16 — Кленкі; 17 — Бяседкі; 18 — Плесы: 19 — Калініна Барталамееўка, 28 — Новыя Грамыкі, 29 — Малыя Нямкі; 30 — Рудня Шлягіна; 31 — Юркавічы; 32 — Пралетарскі 41 — Нясімкавічы, 42 — Валосавічы; 43 — Ворнаўка; 44 — Сапожкі, 45 — Студзянец; 46 — Струмень; 47 — Касцюкоўка Слаўгарад; 56 — Аляксандраўка; 57 — Чавусы; 58 — Сушчы, 59 — Ушакі; 60 — Журавель, 61 — Чэрыкаў; 62 —Гронаў Копань; 72 — Рэчыца; 73 — Унорыца; 74 — Асавок; 75 — Таўстыкі; 76 — Праскурні; 77 — Малый Розі; 78 — Салонае, Збароў; 88 — Гадзілавічы; 89 — Шчыбрын, 90 — Азярышчы; 91 — Шапчыцы; 92 — Звонец; 93 — Вець; 94 — Абідавічы Зарэчча; 103— Бялынічы; 104 — Лубяны; 105— Малая Арава, 106 — Гарожа; 107 — Будзішча. Помнікі прыпяцкага варыянта Майсеевічы-1; 7 — Кольна-2; 8 — Знаменка (Сляпцы); 9 — Хільчыцы-1, 10 — Буразь. Помнікі культуры палескай шнура*

*Помнікі змешанага тыпу з моцным паўднёвым* уплывам:



бронзавага веку ў басейнах Дняпра, Прыпяці і Буга
Студзёная Гута; ▪ — Пясочная Буда; 7 — Новыя Цярэшкавічы; 8 — Старыя Цярэшкавічы; 9 — Новая Буда;, 10 — Прыбар; 11 —
Урыцкае; 21 — Дубовы Лог; 22 — Дзям'янкі; 23 — Рудня Споніцкая, 24 — Радуга; 25 — Шарсцін; 26 — Прысна; 27 —
Ухова, 34 — Петраполле; 35 — Сябровічы; 36 — Падлужжа; 37 — Бердыж; 38 — Гарадоўка; 39 — Залессе, 40 — Загор'е;
-Старая Каменка, 49 — Дубна; 50 — Кліны; 51 — Крэмянка; 52 — Гайшын; 53 — Вялікая Зімніца; 54 — Рудня, 55 —
Каменка; 64 — Пабковічы; 65 — Мсціслаў; 66 — Папараткі; 67 — Вітунь; 6д — Левашы; 69 — Заспа; 70 — Сеназавод; 71 —
Жлобін; 60 — Ходасавічы; 81 — Юдзічы; 82 — Лучын; 83 — Касцяшоў; 84 — Каласы; 85 — Рагачоў; 86 — Прорва, 87 —
Быхаў, 96 — Сялец; 97 — с/г «Вейна»: 98 — Перамога: 99 — Заполле: 100 — Вугальшчына; 101 — Чырвоная Слабада; 102 —
сярэднедняпроўскай культуры: 1 — Старыя Юрковічы-1; 2 — Азярное-1; 3 — Загорыны-1; 4 — Снядзін; 5 — Мардзвін; 6 —
керамікі: 1 — Перасудавічы; 2 — Уладычыца (?); 3 — Заказанка (?); 4 — Горбаў, 5 — Камень; 6 — Моталь; 7 — Грыўковічы
Бухліцкі Хутар-1; 2 — Востраў; 3 — Пемяшэвічы; 4 — Церабень




*Мал. 100. Карта асноўных помнікаў ранняга перыяда Помнікі са шнуравой керамікай Панямоння: 1 — Ліхачы; 2 — Азёры; 3 — Кавальцы; 4 — Коматава; 5 — Пескаўцы; [illegible] — Бел 15 — Канкаловічы; 16 — Русаковічы; 17 — Куцец; 18 — Сверынава; 19 — Магільна; 20 — Пясочнае; 21 — Краснасельскі; 22 Гарадкі; 31 — Прырэчча; 32—Нiз; 33 —Русакова; 34—Добры Бор; 35 — Падгорная; 36 — Колбавічы; 37 — Дабрынёва; 38 Кастыкі; 2 — Зацэнне; 3 — Зарэчча; 4 — Кугоні; 5 — Калодніца; [illegible] — Асавец (3); 7 — Га*




*бронзавага веку на поўначы і паўночным захадзе Беларусі*
*- Беневічы; 8 — Бакшты; 9 — Нясілавічы; 10 — Васілевічы; 11 — Любча; 12 — Панямонь; 13 — Ярэмічы; 14 — Кругліца; ыцы; 23 — Пескі; 24 — Ганарата; 25 — Выгода; 26 — Навасёлкі; 27 — Барукі; 28 — Чарлёнка; 29 — Пархуты; 30 — ька; 39 — Старыя Войкавічы; 40 — Мікольцы; 41 — Куранец; 42 — Вязынь. Помнікі паўночнабеларускай культуры: 1 — ывіна-1, 2, 3); 8 — Дарахі, 9 — Двухполле; 10 — Скрыдлева; 11 — Шашалаўка; 12 — Зарэчча*




*Мал. 101. Карта асноўных помнікаў сярэдняга і поз*

*Помнікі тшцінецкай культуры: 1 — Лахаўка; 2 — Пахва, 3 — Кажан-Гарадок; 4 — Мецяевічы; 5 — Старыя Юркавічы-1; Падлужжа-1, 2, 15 — Парэчча; 16—17 — Навасёлкі-1, 2; 18 — Вострaў; 19—20 — Слабада Чалюшчавіцкая-1,2: 32 — Кольна-1. 2. 33 — Доўгая Дубрава; 34 - Князьбор; 35 — Загацце-2; 36 — Хваенск-1; 37— Сямурадцы-1; 38 — Зна Бухліцкі Хутар-1; 49 — Бухлічы-1; 50 — Хотамель; 51 — Рубель; 52 — Рубель-2; 53 — Харомск; 54 — Велямічы-1 64 — Калінкавічы, 65 — Баравікі; 66 — Нароўля; 67—68 — Камень-2, 6; 69 — Грыўковічы-1; 70 — Сошна; 71 — Плотніца Ваўкавыск; 81 — Бершты-2; 82 — Выгада-2; 83 — Выгада-4; 84 — Мацеўчукі, 85 — Чарлёнка; 86 — Пархуты-1; Ярэмічы: 95 — Лысая Гэра (Апечкі); 96 — Канкаловічы-3; 97 — Канкаловічы-2; 98 — Русаковічы-9. 99 — Русаковічы-1; 5 — Рэчыца, [illegible] — Сеназавод; 7 — Копань; 8 — Унорыца; 9 — Борхаў; 10 — Асавок; 11 — Праскурні; 12 — Салонае; Раманавічы; 21 — Дубовы Лог; 22 — Дзям'янкі; 23 — Юркавічы, 24 — Прысна; 25 — Пралетарскі; 26 — Сябровічы; Гарадоўка, 36 — Прыбар, 37 — Шарсцін; 38 — Барталамееўка; 39 — Ухова; 40 — Ветка; 41 — Вылева; 42 —Сла*

*(Скема); 3 — Рыбкі; 4 — Расохі (Дубавое), 5— Сцюдзяніца, 6-*



*перыядаў бронзавага веку на тэрыторыі Беларусі*
*-Азярное-1, 7 — Азярное-2А, ■ — Куценка; 9 — Кузьмічы; 10 — Прыклінец; 11 — Новыя Юрковічы; 12 — Глуск, 13—14 —*
*Убарцкая Рудня; 22 — Шастовічы-3; 23 — Майсеевічы-1, 24 — Мілашэвічы; 25—29 — Ліпляны-1, 2, 3, 5, 6, 30 — Лутоўе; 31 —*
*(Слягцы); 39 — Хільчыцы-1; 40 — Буразь; 41 — Снядзін; 42—44 — Вікаровічы-1, 2, 3; 45—46 — Струга-1, 2, 47 — Варані 1; 48 —*
*— Мочуль; 56 — Альшаны; 57—58 — Атвержычы-1, 2; 59 — Загорыны, 60 — Надаткі; 61 — Мазыр; 62 — Ломыш, 63 — Пенніца;*
*Гараднoе; 73 — Гарнавое; 74 — Востраў; 75 — Гнеўчыцы; 76 — Моталь-1, 77 — Прылукі; 78 — Арыжня; 79 — Лічыцы-2; 80 —*
*-Русакова-2; 88 — Добры Бор, 89 — Шылавічы; 90 — Селівонкі-2; 91 — Наваельня-4; 92 — Панямонь; 93 — Гнесічы; 94 —*
*Русаковічы-7: 101 — Купец (Сверынава) Помнікі сосніцкага тыпу; 1 — Дзяражычы, 2 — Мохаў; 3 — Заспа; 4 — Гарошкаў;*
*- Жлобін, 14 — Ходасавічы; 15 — Лучын; 16 — Гадзілавічы; 17 — Вець; 18, 19 — Гомель (2 — Любны, Новабеліца); 20 —*
*- Падлужжа; 28 — Бердыж; 29 — Ворнаўка; 30 — Дубна, 31 — Кліны; 32 — Лабковічы; 33 — Струмень; 34 — Залессе; 35 —*
*Каменка. Помнікі сярэдняга і позняга этапаў бронзавага веку Паўночнай Беларусі: 1 — Занарач (Сцюдзянец): 2 — Мікольцы*
*7 - Бароўка; 8 — Лаўкі; 9 — Выдрыца; 10 — Асавец; 11 — Галоўск (Крывіна)*




*Мал. 102. Сярэднедняпроўская культура. Інвентар сярэдняга (1—16) і позняга (17—39) этапаў (паводле І. І. Арцёменкі, 1987)*




*Мал. 103. Сярэднедняпроўская культура. Вырабы з бронзы і медзі: 1 — наканечнік кап'я (медзь; Страліца, пахаванне № 53; паводле І. І. Арцёменкі, 1976); 2—3— сякеры (бронза; Ходасавічы, ур. Мошка; паводле І.І. Арцёменкі, 1967)*




*Мал. 104. Сярэднедняпроўская культура. Інвентар пахавання № 43 з могільніку Страліца (паводле І. І. Арцёменкі, 1967): 1—3,6—8—крэмень; 4—5 — кераміка; 9 — бісер; 10— грыўня з медзі; 11 — дыядэма з медзі, бурштыну*




*Мал. 105. Сярэднедняпроўская культура. Упрыгожанні з бурштыну: 1 — Ходасавічы (Мошка); 2, 3— Страліца*




*Мал. 106. Крамянёвыя прылады са стаянкі сярэднедняпроўскай культуры Лоша-1*



*Мал. 107. Посуд сярэднедняпроўскай культуры. Ходасавічы (Мошка)*




*Мал. 108. Кераміка сярэднедняпроўскай культуры са стаянкі Нараг*




*Мал. 109. Кераміка (1—16), каменныя (17—19, 26) і крамянёвыя (20—25, 27) вырабы прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры*




*Мал. 110. Кераміка (1—9), каменныя (10, 13) і крамянёвыя (11, 12) вырабы культуры шнуравой керамікі Палесся*




*Мал. 111. Сякеры і кераміка культуры шнуравой керамікі Панямоння: 1 — Пескі Мастоўскага раёна; 2 — ваколіцы Гродна (Мелавыя Горы); 3, 4 – Пархуты-1; 5 — Русакова-2; 6 — Красна-сельскія шахты; 7— Скема-1 Мядзельскага раёна*




*Мал. 112 Касцяныя прылады працы з пахавання з-пад Куранца*




*Мал. 113. Пахаванне культуры шнуравой керамікі ў крэмнездабыўнай шахце каля пас. Краснасельскі: 1 — гаршчок і фрагмент арнаменту; 2 — касцяная іголка; 3 — рэканструкцыя па чэрапе*



*Мал. 114.* Рэканструкцыя працы на крэмнездабыўных шахтах (паводле Н. М. Гурынай)



*Мал. 115. Выгляд на тарфянікавую стаянку Асавец-2 (на павароце канала)*




*Мал. 116. Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—16, 20—22) і коп'яў (17—19) паўночнабеларускай культуры. Стаянкі крывінскага тарфяніку*




*Мал. 117. Крамянёвыя прылады паўночнабеларускай культуры. Стаянкі крывінскага тарфяніку*




*Мал. 118. Крамянёвыя і каменныя вырабы паўночнабеларускай культуры. Стаянкі крывінскага тарфяніку*




*Мал.119. Касцяныя наканечнікі стрэл паўночнабеларускай культуры: 1—6, 8—15 — Асавец-2; 7 — Крывіна-1*




*Мал. 120. Касцяны і рагавы інвентар паўночнабеларускай культуры са стаянкі Асавец-2: 1—5, 9 — праколкі; 6 — рэтушор; 7 — іголка; 8 — арнаменцір; 10 — рукаятка кінжала; 11—13 — кінжалы; 14 — лыжка; 15 — лапатка для апрацоўкі керамікі*




*Мал. 121. Касцяны і рагавы інвентар паўночнабеларускай культуры са стаянкі Асавец-2: 1, 2, 4—7 — сякеры; 3 — распачатая нарыхтоўка двух сякер; 8, [redacted] — стамескі; 10 — сякера з прасвідраванай адтулінай*




*Мал. 122. Прылады рыбалоўства са стаянкі Асавец-2: 1—4 — гарпуны; 5—8, 11—13 — рыбалоўныя кручкі; 9 — нож для рыбы; 10 — берасцяны паплавок; 14 — нарыхтоўка кручка; 15—17 — грузілы; 1—9, 11—14 — косць; 10 — бяроста; 15 — камень і бяроста; 16 — гліна; 17 — камень*




*Мал. 123. Вырабы паўночнабеларускай культуры з дрэва (1), каменя (2), медзі (3) і бронзы (4): 1—3 — Асавец-2; 4 — Кастыкі*




*Мал. 124. Малы і мініяцюрны посуд паўночнабеларускай культуры: 1—4, 6 — Крывіна-1; 5 — Асавец-2*




*Мал. 125. Дны посуду паўночнабеларускай культуры. Крывіна-1*




*Мал. 126. Арнаменты керамікі паўночнабеларускай культуры. Крывінскі тарфянік*




*Мал. 127. Кераміка паўночнабеларускай культуры. Асавец-2*




*Мал. 128. Бурштынавыя ўпрыгожанні са стаянак крывінскага тарфяніку: 1—3, 6, 15, 24 Крывіна-1;4, 5, 7—14, 16—23, 25—28 — Асавец-2*




*Мал. 129. Упрыгожанні і творы мастацтва са стаянкі Асавец-2: 1 — 10, 12—14 — косць і рог; 11 — дрэва; 1—8 — падвескі; 9—11 — антрапаморфныя скульптуркі і іх фрагменты; 12 — статуэтка змяі; 13 — фрагмент жалейкі; 14 — фрагмент статуэткі птушкі*




*Мал. 130. Кераміка (1—11) і крамянёвыя вырабы (12, 13) турава-мазырскай групы тшцінецкай культуры: 1—4— Бухліцкі Хутар-1; 5, 6— Майсеевічы-1; 7— Шастовічы-3; 8 — Востраў (Петрыкаўскі раён); 9— Ліпляны-2; 10, 11 — Тураўшчына (Буразь?); 12 — Рычоў; 13 — Альшаны*




*Мал. 131. Кераміка (1—9, 11—15) і крамянёвы серп (10) паўночнапалескай групы тшцінецкай культуры: 1—7, 12—13 — Азярное-1; 8 — Глуск; 9 — Слабада Чалюшчавіцкая; 10 — Любань; 11 — Новыя Юрковічы-3*

